ББК 84Бел7
А90

Друкуецца па выданні:
Асіпенка А. Святыя грэшнікі. Рэха даўніх надзей.—
Мн.: Маст. літ., 1988.— 494 с.

В центре романа драматическая судьба поэта, драматурга и кинорежиссера Лазара Богши. Произведение написано в двух аспектах: современном и историческом.

Героиня повести Кристина Малинец едет из деревни в город к детям, надеясь найти у них пристанище. Обостренным взглядом она увидела то, чего не замечают в себе дети.

А $\frac{4702120201-068}{М\ 302(03)-90}$ 106—90

ISBN 5-340-00511-9 (т. 3)
ISBN 5-340-00302-7

ББК 84Бел7
А90

Друкуецца па выданні:
Асіпенка А. Святыя грэшнікі. Рэха даўніх надзей.—
Мн.: Маст. літ., 1988.— 494 с.

В центре романа драматическая судьба поэта, драматурга и кинорежиссера Лазара Богши. Произведение написано в двух аспектах: современном и историческом.

Героиня повести Кристина Малинец едет из деревни в город к детям, надеясь найти у них пристанище. Обостренным взглядом она увидела то, чего не замечают в себе дети.

А $\frac{4702120201-068}{М\ 302(03)-90}$ 106—90

ISBN 5-340-00511-9 (т. 3)
ISBN 5-340-00302-7

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ:
## блуканне па страчаных сцежках

*Эпізод першы:*

### пралог эпілога. Суя

Трывалі самыя кароткія дні, і ружаватае сонца, як бы лянуючыся падняцца ў зеніт, так і цацілася небакраем, кідаючы на зямлю касыя промні, якія толькі коўзаліся па паверхні, нібы каменьчык, пушчаны па вадзе.

І зямля, і людзі даўно чакалі снегу: надакучыла ім чарната звонкіх, скутых марозам палёў, жабрачая няўтульнасць лясоў, пыльная стынь неба — усё чакала абнаўлення. Але ніхто і ніколі не чакаў снегу з такой нецярплівасцю, як Лазар Богша і ягоная здымачная група, што атабарылася на возеры Суя, заарандаваўшы заводскі прафілакторый. Іншага прыдатнага жылля тут не было.

Тэрмін арэнды неўзабаве канчаўся, а за дваццаць дзён было адзнята ўсяго шаснаццаць метраў плёнкі, і то эпізоду, ніяк не звязанага з суйскай натурай.

Лазар Богша шалеў.

Бязлітасна лаяў балбатуноў-сіноптыкаў, якія наабяцалі раннюю зіму, завірухі, заносы, а на перавале ліпіпаўкі — сонечныя дні з невялікімі маразамі — тыя ідэальныя ўмовы, якія так патрэбны кіношніку.

Але найбольш Лазар Богша лаяў сябе. Трэба было настаяць, каб экспедыцыя паехала на Поўнач, на Урал, на Каму, да чорта, д'ябла, але туды, дзе хапае снегу. Дык не, пацягнула ў родныя мясціны па ружовы туман юнацтва...

Абармот!.. Дурань!.. Зглуміў дваццаць дзён (тры тыдні) на пустое, нікчэмнае існаванне ў прафілакторыі, няхай сабе і дужа мадэрновым.

Кожную раніцу, прачнуўшыся ад цяжкага сну, Богшу найперш прыгадваліся вочы старога дворніка Мікодыма, якія з дакорам глядзелі яму ў душу. «Ну і работка ў цябе,

Лазар!.. Не бі ляжачага работка!.. Курорт!.. А яшчэ грошы плоцяць. І добрыя, мабыць, грошы... А я во за паўстаўкі гарбею. Увесь дзень махаю мятлой...» Паспрабуй дакажы вясковаму дзядзьку, што бяздзейнасць гэтая вымушаная, што шукаць цяпер снег будзе даражэй, чым чакаць яго тут.

У сталоўцы, аздобленай разьбой па дрэве і шкляным ліццём, Богшу сустракалі яшчэ адны вочы, насмешлівыя, як ка́ра. Зялёныя вочы адміністратаркі Стасі. Аж душыла тое снеданне ў горле даўкім комам.

А каму прыемна карміць гультаёў?..

Сюды, у прафілакторый, людзі прыязджалі адпачыць пасля цяжкай працы на заводзе, каб потым зноў улегчы ў яе на ўвесь тыдзень. Яны ж прыехалі працаваць і... гультайнічаюць, нібы для іх няма найпершага закону існавання чалавека на зямлі: працуеш для таго, каб жыць — жывеш для таго, каб працаваць...

Лазар Богша разумеў, што не проста марнуюцца дні здымачнага перыяду — гэта было не самае горшае,— губляецца той творчы напал, тое, адным творцам зразумелае натхненне, якое здольна рабіць цуд — непаўторнае мастацтва, калі і сам дзівішся, а як, якімі сродкамі здолеў дамагчыся такой узрушанасці, што нават нежывая камера шкляным вокам убачыла свет у яго пачуццёвым стане.

Хто здольны растлумачыць, як усё гэта адбываецца на самай справе? Ніхто! Нават самыя спрактыкаваныя гаваруны: вучоныя, крытыкі, рэцэнзенты і проста аматары памеркаваць...

Што праўда, яны даўно і з упартасцю алхімікаў шукаюць гэты сакрэт, развінчваючы, разбіраючы мастацкі твор на часткі, раскладаючы тыя часткі па паліцах. Шукаюць і знаходзяць нейкія ўзорчатыя і фігурныя цаглінкі, якія нібы і надаюць непаўторнасць пачуццёвага ўздзеяння мастацкага твора на чалавека.

Суцэльны прагматызм!..

Хіба жывое можна разглядаць па частках? Жывое застаецца жывым толькі цалкам, бо кожная часцінка жывога, адарваная ад яго, перастае захоўваць адзнакі жывога. А хіба мастацкі твор не жывая істота? Хіба ён непадуладны законам жывой прыроды? Хіба яму не прадвызначана кароткае або доўгае жыццё? Хіба ён не ўздзейнічае на навакольны свет? Не перадае свой вопыт наступным пакаленням, як гэта робяць гены? Было б не-

дарэчна лічыць мастацкі твор нежывым, як камень, як пясок, як жалезную логіку законаў. На што ўсе яны здольны без уліку нечага, што называецца натхненнем? І што яно такое, натхненне? Настрой? Пачуццё? Захапленне? Любоў? Нянавісць? Стан душы? А можа, стан чалавечага мозгу, якому абрыдла рашаць задужа практычныя задачы? Ці, можа, усё гэта разам, спрасаванае ў адзін згустак, кандэнсат, як плазма, у якой заключана незвычайная энергія? А тут энергія душы, здольная ў вобразах і праз стагоддзі хваляваць людзей?

Чорт яго ведае, што такое натхненне!..

Толькі без яго любы твор нават самага найвялікшага віртуоза будзе хоць і прывабнай, але ж халоднай дрындушкай. Такое бывае і з чалавекам. Вытачыць прырода дзіва: і постаць, і твар, і нос, і бровы — кожная частачка дасканалая, ды холадам павявае ад яе дасканаласці. А ў іншага — ні постаці, ні прыгожых абрысаў твару, а так і цягне пагрэцца ля ягонай душэўнасці...

Лазар Богша не першы дзень думаў над гэтым, заўважаючы, як знікае натхненне ў ягоных сяброў-паплечнікаў — асістэнтаў, памочнікаў, акцёраў, адміністратараў. Ён і сам знямогся чакаць снег, зіму. Павінна ж яна, халера, некалі прыйсці, намесці гурбы снегу, каб можна было пачаць здымкі з тым натхненнем, якое дало б плён, а не прадукцыю для плана студыі...

Лазар Богша пазіраў з акна другога паверха, як дзядзька Мікодым падмятае двор перад прафілакторыем. Нібы не мяце — косіць. Пра што ён думае? Вось бы падслухаць ягоныя думкі... Навошта, калі ад сваіх нельга пазбавіцца... Уцячы куды-небудзь. Куды? Хіба ў вёску? А па якое шчасце?..

У Лазара Богшы ўжо нікога з родных там не засталося. Маці памерла, дваюрадныя, траюрадныя раз'ехаліся па свеце. Нішто ўжо не яднала яго з вёскай. У ёй жыло новае, невядомае племя. Часам праз смугу гадоў Богша бачыў знаёмае аблічча ў абліччы зусім незнаёмай старой жанчыны. Потым аказвалася, што незнаёмы быў твар, а жанчыну ён ведаў даўно, яшчэ маладой. Такой і запомніў на ўсё жыццё. Гэты ж старэчы твар як бы належаў ужо другому чалавеку, якога ён, Лазар Богша, не мог ведаць. Яго жахала маршчыністасць твараў, згорбленасць плячэй — пачварная старасць, якая адабрала ў яго мінулае. Яно жыло толькі ў памяці. Ён назаўсёды запомніў сваіх аднавяскоўцаў маладымі, прыгожымі і не хацеў, не мог

бачыць іх другімі. Яму хацелася прыпыніць час, застацца ў тым, даўнім, бо аднаго разу ён і сам адчуў імклівы яго бег, спалохаўся: дык і ён ужо на зыходзе лета, а можа, нават і ў сваёй восені, калі вецер няўмольна атрасае лісце. Яшчэ крыху дажджу і ветру, і ён, Лазар Богша, прадстане перад судом вечнасці...

Каго яна скідвае ў бездань забыцця, а каму даруе вечнае жыццё? Багам?.. Ну, дык і ён — бог і адразу ў трох асобах: бог-кінарэжысёр, які стварыў два дзесяткі фільмаў; бог-літаратар, пісьменнік, які напісаў за сваё жыццё некалькі кніжак вершаў, апавяданняў і сцэнарыяў, са святой наіўнасцю думаючы, што нешта адкрывае, а яго білі за гэтую наіўнасць самазванага прарока; яшчэ бог-акцёр, які сыграў з паўсотні роляў, калі не было іншага занятку.

А што засталося ад усяго гэтага?..

Вось табе і бог у трох асобах!.. Смяротны адзінокі бог, у якога нават у роднай вёсцы нікога няма!

Ну, гэта, дапусцім, няпраўда, мана. У вёсцы жыве Домна — ягоны боль і ганьба, нітачка, якая звязвае яго з вёскай, і прадонне, якое разлучае яго з ёю.

Домна — ягонае мінулае, ад якога нікуды не ўцячэш. Некалі яму хацелася забыць гэтае мінулае. Ды хутка ён зразумеў, што нябачныя повязі вяжуць кожнага чалавека з мінулым і разарваць іх немагчыма. Мінулае прыходзіць да яго, як толькі чалавек нараджаецца на свет, і падарожнічае з ім праз усё жыццё. Чым далей жыве чалавек, тым мацней звязвае сябе з мінулым. Ды і само мінулае набліжаецца да чалавека, бачыцца не за гарамі, а побач.

Яго, Лазара Богшы, дзед, таксама Лазар, некалі займаўся бортніцтвам. Занятак гэты ўжо на Богшавай памяці ператварыўся ў дзівацтва, дзіцячую забаву, якой даросламу чалавеку хоць і не забараняецца займацца, але гонару яму не прыносіць. Дзед, аднак, быў упарты — бортнічаў, ды яшчэ і Лазара хацеў прывучыць. Таму заўсёды браў яго з сабой у лес, каб шукаць пчаліныя раі ў старых дуплах.

Аднаго разу дзед павёў Лазара за нябліскі свет, каб паказаць унуку нейкае дзіва. То і сапраўды было дзіва.

На акруглай паляне сярод векавечнага бору, каля невялічкага возера, больш падобнага на сажалку, на зялёным пагорку, расло тры дубы, ды так блізка адзін ля аднаго, што паміж імі нельга было стаць чалавеку.

Задраўшы галаву, Лазар Богша спрабаваў угледзець вяршаліны тых дубоў, але так і не змог. Тады ён лёг на спіну і ў недасяжнай вышыні ўбачыў абрысы зялёнай шапкі, адной на тры дубы, з якой тырчаў чорны, высушаны сонцам і ветрам сук, падобны на аленеў рог. Над шапкай плылі ў небе белыя аблокі, а вышэй сінела неба, вельмі празрыстае і бяздоннае.

Лазар загледзеўся на гэты цуд і раптам пачуў, як гамоняць, перагаворваюцца між сабой дубы. Яму здалося, што яны гавораць чалавечай мовай, і ён адключыўся ад усяго на свеце, абы разабраць гэтую таямнічую гамонку. Ён моцна заплюшчыў вочы; толькі слых быў абвостраны і чуйны. Кожны шолах пранікаў Лазару ў душу. Раптам ён выразна пачуў голас ці то з неба, ці то з-пад зямлі:

— А ты, Лазарка, дужа падобны на майго дзеда, царства яму нябеснае. Але не з твару... У дзеда твар быў доўгі, а нос прамы, як, бывала, пісалі на іконах у стараверскіх цэрквах. І бровы былі, як на тых іконах, зрошчаныя на пераноссі. А вочы з-пад іх глядзелі як з прорвы. Дужа дапытліва. Ды і расточка ён быў невысокага. А ўсё адно вы падобныя... Вось гэтым, як лёг ты на зямлю, як стаў слухаць... Унучак, ды ты не чуеш мяне?.. Ачніся, Лазарка, бо так можна і розуму крануцца...

Лазар Богша з неахвотаю вярнуўся да явы. Дзед сядзеў пад дубам, абапершыся аб парэпаны камель спіной. Лазар Богша аж пакрыўдзіўся: навошта дзед перашкодзіў яму паслухаць, пра што гамоняць дубы.

— Дзіўны чалавек быў мой дзед,— успамінаў між тым Богшаў дзед.— Во ўжо хто разумеў гамонкі дубоў. Ды ці толькі іх. Звяроў, птушак, нават самай малой камарэчы. Я сам чуў, як ён аднаго разу гаварыў з лісой. А тая стаіць, слухае і галавой ківае. Згаджаецца, значыць... Няйначай, ён быў чараўніком... Але з нячыстай сілай не знаўся. Прысягнуць магу, што не знаўся. У яго быў свой бог... Дубы вось гэтыя... Ты, Лазарка, не здзіўляйся. Цяпер-то можна прызнацца, а раней дык думаць пра тое было боязна. Дык от слухай, Лазарка, што было таго разу, як мы хадзілі з ім да гэтых самых дубоў. Падышлі, значыцца. Дзед стаў на калені і пачаў маліцца ім. А малітвы, унучак, былі страшныя, як праклёны. Мяне аж ліхаманка затрэсла, а ногі, як тыя анучы, калі аборы развяжаш, самі на зямлю абсунуліся. Паваліўся я тварам уніз, галаву рукамі абхапіў. Ні жывы ні мёртвы ляжу. Раптам як лясне пярун і голас: «Благаслаўлён будзь адзіны,

хто не выракся веры дзядоўскай». Пасля таго я з паўгода адлежаў, думаў, не паднімуся. Але выжыў...

Лазар Богша не дужа верыў дзеду — той любіў расказаць пра такое, чаго і ў казках не бывае.

— Дзеду, а колькі гэтым дубам гадоў? — спытаў ён.

— Гадоў у іх не спытаеш,— адказаў дзед.— Многа. Бо мой дзед расказваў, што ягонага дзеда дзед бачыў іх ужо вялікімі. Во і лічы, колькі ім гадоў... І яшчэ расказваў мой дзед, што ягонага дзеда дзед баяў, нібы дубы гэтыя не самасеянкі, а пасаджаны людзьмі на месцы старога дуба, да якога некалі з'язджаліся за сто і болей вёрст, каб пакланіцца яму. Вогнішчы ля яго палілі, песні спявалі... Цёмныя былі людзі...

У маленстве Лазару Богшу здавалася, што ягоны дзед жыве на свеце дужа даўно. А той дзед, які вадзіў ягонага дзеда да дубоў, жыў у такую недасяжную розуму далячынь, што і падумаць страшна. Тады Лазару Богшу было гадоў дзесяць. У такія гады кожны дзень здаецца бясконцы, асабліва калі пасеш карову або робіш нейкую іншую абрыдлую справу. Пазней ужо, калі над ім, Лазарам Богшам, закружыла смерць у далёкай Германіі за калючым дротам, ён прыгадаў той паход з дзедам да дубоў і здзівіўся, як спрасаваўся час. Ягонае жыццё здалося адным імгненнем, а ўсе тыя дзяды-прадзеды ягонымі сучаснікамі, якія павінны загінуць у печы крэматорыя на задворках лагера смерці. Дык якая ж яна, даўніна, калі жывая памяць аб ёй? Можа, таму ён і застаўся жыць, каб не знікла тая повязь часоў?..

Лазару Богшу думалася маркотна па тым настроі, што апанаваў яго з самай раніцы, калі ён прачнуўся і пабачыў ля другой сцяны засланы жончын ложак. Кожны яе ад'езд на здымкі ў другі горад, на другую кінастудыю выклікаў у ім тупое, балючае раздражненне. Гэты ад'езд быў асабліва балючы.

(Люба сядзела на канапе, паклаўшы рукі на шырокую спінку, з пакутніцкім выразам на твары, як у распятага на крыжы Хрыста.

Ён чамусьці падумаў: а ці распіналі на крыжы жанчын? Ці, можа, гэта была прывілея мужчын?..

Думка была блазенская, дурнаватая, але адцягвала ягоную ўвагу ад крыўдных Любіных слоў. Яна не дала ўзлавацца.

— Не прыкідвайся, Богша, быццам ты сам не адчуваеш, што змарыўся, вычарпаў сябе дарэшты... Ты — як той калодзеж у засуху — толькі жвір ды цвіль на дне. Таму і кінуўся ў авантуру. Каму патрэбны твой фільм? Двум дзесяткам снобаў і дурняў?.. Божа мой! Нейкая недарэчная бітва на Нямізе дзевяць стагоддзяў назад!.. Ці мала было іх?.. Чаму і каго яна навучыць?.. І ты яшчэ спрабуеш запэўніць, быццам тая даўніна хвалюе цябе? Мана, Богша! Ты пачуў сябе банкрутам і спадзяешся на далёкім мінулым вярнуць сабе імя?.. Дарэмна! Усё мана і дурасць!.. Трэба жыць і працаваць, як усе, а не выпінацца з рознымі адкрыццямі, якія не прынясуць табе ні славы, ні грошай...

Ён, Лазар Богша, і сам быў на раздарожжы. Дваццаць дзён вымушанага чакання зімы ў зацішным суйскім кутку далі магчымасць улегчыся тым захапленням і гарачым парыванням, якія былі напачатку. Ім авалодалі сумненні. Задума стала здавацца лішне банальнай і гладкай, як стол, калі не сказаць больш — драбнаватай. Але сцэнарый па-ранейшаму нечым прыцягваў...

— Перастань,— папрасіў ён жонку.— Мяне хвалявала дабро і зло.

— А можа, гульня ў дабро і зло? — спытала Люба.— Гульня, і нічога болей?..

— Не забывайся,— нагадаў ён,— людзі гінулі тады са святой упэўненасцю, што робяць дабро, адстойваюць справядлівасць. Жахлівая трагедыя самаашуканства! Дык я і шукаю адказу на праклятыя пытанні: чаму? навошта? як?..

Люба дастала з сумачкі цыгарэты, закурыла.

— Няўжо ты не бачыш, што свет стаў дужа рацыянальны, як апошні гандляр?.. Каму ты задасі гэтыя твае пытанні?..

— Сабе...

Люба сілком засмяялася.

— Толькі жабракі задаюць сабе пытанні...

— І ты ўважыла жабрака?

— Мяне прасіў пагаварыць з табой Кірыла Лыкавязаў... Пакуль не позна, задумайся, Богша. Горай будзе потым, калі твой фільм пакладуць на паліцу...)

Праз акно Лазар Богша бачыў, як дзядзька Мікодым ускінуў на плячо мятлу, нібы то была каса, памалу пайшоў дамоў.

Лазару Богшу таксама захацелася пайсці. Куды? Абы-куды, хоць бы да тых дубоў?.. Шкада, што яму няма каго павесці да іх. У яго няма ўнукаў... дзяцей таксама... На ім абрываецца іхні, Богшаў, род. Як гэта бяздарна і пакутліва!.. Праца, служэнне мастацтву, а дзяцей няма!..

Было гадзіны дзве пасля полудня. З акна Лазар бачыў, як блішчыць на возеры лёд пад нізкім сонцам. Нібы вымасціў хто серабром дарожку ад берага і да самага сонца.

Лазар Богша абуў чаравікі на футры з доўгімі халяўкамі, апрануў цёплую куртку з мноствам кішэняў і замкоў-маланак, насунуў заечую вушанку. Можна і ў дарогу.

Ён адчыніў дзверы на калідор. З нейкага пакоя данасілася гамонка. Няйначай, кіношная брація збіралася адзначыць яшчэ адзін без сэнсу пражыты дзень. Лазар хацеў зайсці, каб папярэдзіць, што пойдзе прагуляцца, але стрымаў сябе. Зойдзеш і прыклеішся да крэсла, як барадаўка да цела. Ды хіба ён павінен дакладваць, куды і чаму ідзе?..

На лесвіцы яму сустрэўся асістэнт аператара ў вельветавым камбінезоне, кішэні якога былі напакаваны бутэлькамі. Асістэнт нагадваў крэйсер, які натапырыўся рыламі гармат. Бутэлькі тырчалі з кішэняў на каленях, з бакавых, задніх, грудных, унутраных, а дзве яшчэ былі засунуты за лейкі камбінезона.

Убачыўшы Богшу, асістэнт збянтэжыўся. Азірнуўся па баках — уцякаць не было куды. Тады ён зрабіў незалежны і, па меры нахабства, зухаваты выгляд. Лазар Богша таксама зрабіў выгляд, што нічога не заўважыў.

— Я пайду прагуляюся,— сказаў ён.

Асістэнт саступіў з дарогі, прыціснуўшыся спіной да сцяны. Лазар Богша прайшоў каля яго, азірнуўся — той усё яшчэ стаяў на лесвіцы...

* * *

Тая сцяжынка, па якой некалі дзед вадзіў Лазара да трох дубоў, даўно загубілася сярод мноства другіх сцяжынак, пратаптаных апошнім часам шматлікім людам, які круглы год прыязджаў адпачываць у заводскі прафілакторый.

Надсуйскія мясціны здавён славіліся грыбамі, і гэтая даўняя слава цягнула людзей у лес. Грыбоў, аднак, з кожным годам усё меншала. Яны адступілі ў глыб лесу, на

зарослыя беразняком і асіннікам пагоркі, што залеглі між быстрацечнай Дзвіной і павольнай, у балоцістых берагах Бярэзінай. Да іх, гэтых пагоркаў, і кіравалі сцежкі. Недзе там, мроілася Богшу, раслі і славутыя дубы.

Лазару Богшу патрэбна была сцежка, што вывела б яго да рачулкі, ад якой, калі не падводзіла памяць, было зусім недалёка да тых дубоў.

Лазар выбраў самую ўтаптаную сцежку і, не спяшаючыся, аднак, і не ўразвалку, пайшоў па ёй.

Магутныя, ці не ў два абхваты, сосны раслі тут рэдка, нібы іх рассялілі па хутарах. Між імі траляліся бярозы, глог, а ледзь ніжэй купна раслі ляшчыны. Нізкае сонца, не чапляючыся за высокія парасоны соснаў, прабівалася аж да самай зямлі, высцілаючы на падмёрзлым шорсткім моху расплылыя адбіткі — цені аголеных восенню дрэў.

Папраўдзе, Лазар Богша не любіў асенняга лесу, прыціхлага, прарэджанага ветрам і марозам, няўтульнага і голага, з выстаўленымі напаказ пакарожанымі галінамі. Асенні лес нагадваў Богшу калеку, які скінуў багатую вопратку і прадстаў перад светам у бездапаможнай сваёй непагляднасці.

У гэтую надвячоркавую пару дня не было чуваць і птушак, тых нешматлікіх птушак, якія нізашто не хочуць мяняць зімовую няўтульнасць родных мясцін на квяцістую раскошу чужыны. Нават дзятлы, нагрукаўшыся насамі аб падгнілыя ствалы дрэў, пахаваліся недзе нанач.

Лес стаяў у абрыдлай самоце. Сцяжынка капрызліва пятляла па ім, то крута забіраючы ўлева, то яшчэ больш крута — управа. Здавалася, яе пратаптаў без аніякай развагі чалавек.

Развага ў чалавека ўсё ж была. Сцяжынка старанна абягала гнілыя мачажыны, парослыя мохам, дзеразой, асакой-разухай і ніцай лазой, і чыстыя балацявіны, на якіх страчаўся дзікі часнок.

Некалі, ранняй вясною, калі ад аднастайнай, прэснай, безвітамiннай стравы пачыналі гнісці дзясны і слініцца рэдзенькай саленаватай крывёю, Лазараў дзед прыносіў з балацявін кошык дзікага часнаку. Тады ў хаце надоўга ўсталёўваўся часночны дух. Лазар не хацеў есці той часнок, яго ж прымушалі, і ён еў, праклінаючы ўсё на свеце. Але дзясны неўзабаве пераставалі гнісці.

Прыгадаўшы дзікі часнок, які цяпер стаў такой рэдкай травой, што яго аж занеслі ў Чырвоную кнігу, Богша раптам успомніў, што сёння яшчэ нічога не еў. Выпіў ка-

вы, і на тым амінь. Нагадак пра часнок выклікаў пякучы голад. Трэба было перабіць яго хоць цыгарэтай.

У лесе яму курылася з асаблівай насалодай. Хацелася расцягнуць яе надаўжэй. А цыгарэта, як на злосць, дагарэла хутка. І ў час — Богша раптам зрабіў адкрыццё, што сцежка, па якой ён ішоў, недзе і невядома калі згубілася сярод папаратніку, ужо высахлым і ржавым ад марозу. Цяпер Богшу заставалася або вярнуцца назад, або пайсці нацянькі. Вяртацца назад не хацелася. Была надзея, што недзе наперадзе натрапіцца патрэбная сцежка. І ён пашыбаваў напрасцяк, балазе мароз добра падсушыў імшары.

Надзіва, ён даволі хутка выйшаў да рэчкі (яна выглядала незайздросным ручаём, які і цяпер, у мароз, весела булькаў на абледзянелых каменнях), перабраўся на той бераг і ўзрадаваўся, што ідзе верным шляхам. Неўзабаве ён напаткаў і сцежку, якая невядома адкуль паявілася і гэтак жа нечакана нырнула ў гушчар маладога ельніку.

Лазар спадзяваўся, што ельнік гэты хутка кончыцца, аж ён непрыкметна перайшоў у малады і вельмі густы, з мноствам сухога павалу лес. Было не зразумець, як тут маглі ўпасці дрэвы, але на зямлі іх ляжала шмат. Яшчэ больш сухадрэвін завісла на сваіх таварышках. Лазар адны яліны пералазіў, пад другія падлазіў, баючыся выкалаць вочы.

Малады лес цягнуўся бясконца. Богшу разбірала злосць: якога чорта ён палез у гэтую гушчэчу? Мог проста абысці яе. Во ўжо нехта сказаў праўду: напрасткі варона лятае, ды ніколі дома не бывае. Але тут жа ён і супакоіў сябе: яшчэ невядома колькі спатрэбілася б часу, каб абысці гэты густы лес. Можна было і згубіць арыенцір. З лесам не жартуюць...

Як узнагарода за такую разважлівую думку, гушчэча нарэшце кончылася. Лазар Богша выйшаў да велікаватай балацявіны з рэдзенькімі сасонкамі сярод пажоўклай балотнай травы. Па краі балацявіны рос высокі густы чарот.

Балацявіну гэтую (Богша вызначыў з першага позірку) напрасткі не пяройдзеш. Сярод купін то там, то тут пабліскваў здрадлівы балотны лядок. Паспрабуй ступі чалавек або звер — не вытрымае, праломіцца, а ўжо багна даробіць сваю каварную справу.

На балоце яшчэ ляжалі жоўтыя сонечныя блікі, але сонца Богша не бачыў. Яно хавалася недзе за лесам. Балота было жоўтае, як твар нябожчыка.

Толькі дурань мог прадаўжаць падарожжа, але не меншы дурань мог вярнуцца назад праз завалы і гушчэчу. Зрэшты, самым большым вар'яцтвам было кранацца з утульнай цеплыні прафілакторыя, шукаць нейкія язычаскія дубы, каб толькі на хвіліну вярнуцца ў дзяцінства.

«Можа, тады вар'яцтва і фільм, які я раблю? Можа, Люба недалёка ад гэтай простай ісціны? Навошта вяртацца назад праз буралом стагоддзяў? Хто ацэніць твае пакуты, шалёны боль пошукаў і расчараванняў?..

Ах ты, слабак!.. Шукай, шукай сабе прычыны, каб не было сорамна, што адступіўся!.. Як жа мы любім шукаць гэтыя прычыны, што хоць неяк могуць апраўдаць слабасць, баязлівасць, здраду, злачынства і чорт яе ведае яшчэ якую подласць!..»

Лазар Богша пачуў, як гарачая хвалька ўдарыла ў скроні, нібы ён зрабіў ужо нейкі прыкры ўчынак. Ён загадаў сабе і павярнуў направа, дзе, яму здалося, шлях навокал балота будзе карацейшы.

Так яно і было. Балацявіна хутка кончылася вузенькай затокай, якая каровіным языком глыбока залізалася ў сухадол. Затоку агінала і дарога — дзве глыбокія каляіны ці не ваенных яшчэ часоў. У каляінах стаяла вада, прамёрзлая да самай зямлі. Лёд быў цалюткі, некрануты — значыць, ніхто па дарозе не ездзіў.

Дарога, на жаль, кіравала не ў той бок, куды было патрэбна Богшу. Ён падумаў, можа, яна выводзіць на Сую? Сам жа стаў забірацца па схіле ўгору, дзе цямнеў лес.

Перад лесам, па схіле, густа рос глухі алешнік, нібы ўцёк сюды з балота. Між ім рудым лямцам аблегла на зямлю някошаная высахлая трава.

Богша пайшоў краем алешніку, мякка ступаючы па гэтай сухой траве, нібы па тоўстым дыване. Ён закурыў яшчэ раз, але цяпер чамусьці без той насалоды, якую адчуў, калі апынуўся ў лесе. Дым здаўся кіслым, ён драпаў у горле, і Богша, зрабіўшы некалькі зацяжак, патушыў цыгарэту.

Раптам ён зрабіў адкрыццё, што згубіў сябе. Гэта было дзіўнае, пачварнае адчуванне ўласнай адсутнасці. Ты ёсць, існуеш на свеце, і цябе няма, бо твая прысутнасць на зямлі нічым не праяўляецца.

Богша найперш здзівіўся, што не чуе сваіх крокаў. Так бывае ў сне — бачыш, як нехта з усяе сілы б'е ў звон, а гуку няма. Цяпер такое адбывалася наяве. Богша зрабіў некалькі крокаў і не пачуў іх. Тады ён з усяе сілы тупнуў

нагой. Ніякіх гукаў, быццам ён апынуўся ў беспаветранай прасторы.

Такога не магло быць, але такое было. Богша не мог зразумець, чым растлумачыць гэтую дзіўную з'яву.

Толькі цяпер ён азірнуўся наўкола і адчуў, як па ягонай спіне забегалі халодныя мурашкі, хоць, здавалася, падстаў для страху не было. Больш таго, убачанае ім нейкім чынам тлумачыла лясную немату.

Зямля, на колькі хапала зроку, была выслана дужа мяккім, чамусьці не прамерзлым, нейкім шэрым мохам. Ён заглушаў усе гукі. Нават не было чуваць і лёгкага шолаху.

Прыгледзеўшыся лепей, Богша пабачыў, што мох не толькі пакрывае зямлю тоўстым пластом, але ахутвае камлі дрэў. Забраўшыся па іх да самых вершалін, мох абвіў галіны, высушыў іх і звісае з гэтых стойма памерлых дрэў доўгімі пасмамі. Некаторыя з гэтых пасмаў дасягалі зямлі. Богшу здалося, што мох пачынае аблытваць і яго, узбірацца па нагах, па спіне на галаву.

Толькі не стаяць на месцы!

Богша пайшоў туды, дзе святлела стужачка неба на фоне мёртвай шэрасці. Неба было надзіва яркае — апошняе дагаранне перад заходам сонца. Але промні не дасягалі сюды. Яны заставаліся недзе там, за гэтым мёртвым лесам. Тут жа панавала плоская без канца і краю шэрасць. І мёртвая цішыня.

— Ну і чартаўшчына,— сказаў Богша і здрыгануўся ад таго, што ягоны голас засеў у горле даўкім комам. Яго Богша не пачуў, як да гэтага не чуў тупату ног.

Нейкая жудасць пранізала яго, нібы токам. Яму захацелася бегчы, уцякаць адсюль, і толькі намаганнем волі ён прадаўжаў ісці павольна, нават больш павольна, чым раней.

Яму раптам падумалася, а ці гарыць гэты сухі, не крануты марозам мох? Ён падышоў да яліны, з якой жабрачым рыззём звешваліся да самай зямлі лахманы моху, нечага баючыся, працягнуў руку, дакрануўся пальцамі да лахманоў, і — нічога. Мох быў мяккі, халодны, але сапраўды сухі.

Адарваўшы шматок, Богша паспрабаваў падпаліць яго запалкай. Мох, аднак, не ўспыхнуў полымем, хоць і выглядаў сухім, а толькі абвугліўся, добра прыпёкшы руку.

Тым часам сутоньвалася. Неяк увачавідкі вячэрнія змрокі пагусцелі. Там, адкуль Богша прыйшоў, раптам за-

хісталіся мёрзлымі вершалінамі дрэвы, мусіць, вецер прайшоўся па іх. Тут жа прадаўжала панаваць жахлівая стоенасць. Здавалася, вецер абмінае гэтае царства жуды і смерці.

Той страх, што быў пакінуў Богшу, зноў наявіўся, як няпрошаны госць. Цяпер ён забіраў яго мацней, нібы ўдаўка, накінутая на шыю.

Плюнуўшы на ўсе маральна-этычныя ваганні, Богша павярнуўся і не азіраючыся пашыбаваў назад, да балацявіны, да той дарогі, якая, думалася яму, выведзе на Сую.

Яму адразу стала лёгка і бесклапотна, нібы ён прыняў бог ведае якое гераічнае рашэнне. Яно ж, наадварот, было ганебнае. Але часам і ганьба прыносіць заспакаенне. На хвіліну, на час, пакуль спіць сумленне. Страху таксама не было. Ён знік, халера, стары правакатар, рэвізор чалавечай мужнасці.

Выбегшы з мёртвага лесу, Богша раптам стаў як укопаны, бо тое, што ён пабачыў, заняло дыханне.

Па альховым рэдкалессі, але не заглыбляючыся ў яго, бегла двое ваўкоў. Між імі неяк бачком трухала двое сабак, адзін здаровы і гладкі, другі — звычайны дварняжка, калматы і прысадзісты.

Сабакі часам спрабавалі спыніцца, можа, па сваёй, сабачай патрэбе, тады ваўкі падганялі іх — пасцёбвалі сваімі хвастамі па сабачых азадках.

Вось гэтае падганянне сабак хвастамі да жудасці і ўразіла Богшу. Каб ваўкі гыркалі на сабак, кусалі іх ці хоць бы грозна ляскалі зубамі, Богша не быў бы так уражаны, як пабачыўшы гэтае «мірнае» суіснаванне.

Ваўкі і сабакі ішлі галава да галавы, нібы ў добрай згодзе. І толькі жаласлівае павіскванне сабак, як чалавечы плач перад смерцю, сведчыла аб найвялікшай трагедыі, што разыгрываецца на вачах чалавека.

Ваўкі яўна вялі сабак на смерць, хоць на іхніх ваўчыных мордах застыла гэткая лагоднасць. Так уявілася Богшу.

Збоку стваралася ўражанне, што сабакі самі па сваёй ахвоце ідуць у ваўчынай кампаніі, як іхнія сябры, паплечнікі, а можа, і саўдзельнікі нейкага разбою. Але сабакі ішлі на смерць, разумелі гэта і не спрабавалі ўцячы ці кінуцца на ваўкоў, пакусаць іх, хоць гэтым адпомсціўшы за свой палон.

Ваўкі, занятыя аховай сабак, не чулі Богшу, затое сабакі, прынамсі, адзін з іх, дварняка, пачулі чалавека. Ён

раптам заскуголіў так жаласліва, з такой надзеяй на чалавечую дапамогу, што Богша азірнууся, шукаючы які дрын. Нічога зручнага не было. Богша, мабыць, і з голымі рукамі кінуўся б на ваўкоў, ды тут убачыў, што тыя селі. Селі між імі і сабакі. Як роўныя. Толькі ваўкі трымалі незалежную, ганарлівую паставу, а сабакі аж скурчыліся. Лазару здалося, што яны абодва дрыжаць.

І тут аднекуль, адтуль, з густых ужо прыцемак, невыразным ценем вынікла ваўчыная зграя. Яна абступіла кальцом ваўкоў і сабак, села на худыя зады. Два ваўкі, што прывялі сабак, таксама далучыліся да іх. Цяпер у крузе засталіся толькі сабакі.

Ваўкі сядзелі ўрачыста і маўкліва, нібы на нейкай страшнай малітве. Але ў іхняй гэтай нерухомасці адчувалася грозная небяспека. Пэўна, сабакі зразумелі, што настаў іхні канец, яны абодва спачатку ціха, а потым усё мацней заскуголілі, завылі, нібы маліліся ў апошні раз свайму сабачаму богу, каб дараваў ім зямныя грахі. Хоць якія там маглі быць грахі ў двух вясковых сабак?

Ваўкі нерухома сядзелі, пазіраючы перад сабой. Чаго яны чакалі? Калі сабакі перастануць выць? Можа, і так. Хіба нельга даць ахвяры магчымасць аблегчыць душу перад смерцю плачам? Хіба не так водзіцца і ў людзей?..

Нарэшце сабакі перасталі выць. Тады двое маладых ваўкоў падняліся на моцныя ногі, падышлі ўпрытык да сабак. Богша не бачыў, што адбываецца там. Але ён раптам пачуў роспачлівае яўканне — гэткі амаль чалавечы перадсмяротны крык,— і тады зразумеў, што ваўкі загрызлі сабак.

Лазар Богша кінуўся наўцёкі. Ён бег, не разбіраючы куды, абы падалей ад той жуды, што ўсё яшчэ стаяла перад ягонымі вачамі.

Спыніўся ён ад таго, што пачуў, як гулка, са свістам вырываецца з грудзей паветра. Колькі ён прабег, у які бок, дзе зараз знаходзіцца? Ён, мала таго што не ведаў,— нічога не памятаў. Яго гнаў страх, і толькі інстынкт кіраваў ім у гэты час.

Цяпер страху не было. Богша растрос яго па лесе. Яго аж распірала ад радасці, што ён застаўся жывы, што ваўкі не зачапілі яго. Ён задраў галаву ў неба і закрычаў штомоцы: «А-а-а-а!»

Ягоны голас прагучаў выразна і зусім рэальна, як бывае пасля кашмарнага сну — чамусьці крычыш, ужо прачнуўшыся. Лазар Богша спалохаўся свайго, гэтага звя-

рынага крыку. Ён паспешліва закрыў далоняй рот, хоць і без таго перастаў ужо крычаць, і раптам зарагатаў, як блазнюк. Рагатаў доўга, пакуль не паявілася разважлівая думка: чаго я радуюся?.. Ноч. Цемра. Лес. Ніякай надзеі выбрацца да жытла. Нічога сабе перспектыўка! А я радуюся...

Наперадзе нешта блішчала. Цьмяна, невыразна, але блішчала, як вада. Няўжо ён выбіўся на тое возера, ля якога раслі дубы? Во дзіва!.. Хоць, можа, і не дзіва. Інстынкт, звярынае чуццё прывялі яго да мэты.

Крокаў праз сто ён выйшаў да стромы. Унізе сапраўды цьмяна блішчаў лёд, а над галавой нізка вісеў чорны калматы полаг неба. Між небам і зямлёй уладарыў сыры, пранозлівы і злы вецер, аж наскрозь прабіваў сінтэтычную Богшаву апранаху.

«І ніводнай зоркі на небе»,— падумаў Богша і тут жа ўбачыў кволенькую зорачку на самым даляглядзе, якая нібы падміргвала яму.

(Неяк у фашысцкім канцэнтрацыйным лагеры іх выгналі на пляц гадзіны праз дзве пасля адбою. Святла чамусьці не было. Яны стаялі, цесна прыціснуўшыся адзін да аднаго. Чакалі: пад прыкрыццём цемры іх стануць расстрэльваць. Чакаць было жахліва. Чужына. Ноч. Цемра. На небе ні зоркі. Хоць бы адна, як сведка іхняй смерці. І раптам нехта ўгледзеў у вышыні зорку. Адну-аднюсенькую.

— Забыты вартавы,— сказаў Лазараў сусед злева.

У лагерным бараку, куды іх загналі перад самым світаннем, калі на вышках запаліліся ліхтары і пражэктары, Лазар спытаўся ў яго:

— А пра якога вартавога ты казаў, калі на небе выбліснула зорка?..

— Пра таго, якога забыліся на пасту,— адказаў той. Абодва яны не маглі ўжо заснуць.— Бачыш, хлопча, якая здарылася некалі аказія. Можа, быль, а можа, і байка, запэўніваць не стану. Тое, што чуў, табе раскажу. А ты яшчэ каму. Дык вось... Даўно гэта было ці нядаўна, а толькі паставілі салдата на варту. Стаіць сабе салдат на пасту — служба, нідзе не дзенешся. Чакае, калі змена прыйдзе. А пра яго забыліся. Забыліся, і ўсё. Не было каму пра яго ўспомніць. Камандуючаму фронтам не да салдата. Камандзіру дывізіі таксама. Камандзір палка адводзіў

полк на новыя пазіцыі. А гэта, сам ведаеш, клопатна. Маглі б, вядома, батальённыя ці там ротныя ўспомніць пра салдата на варце. Але ў іх свая задача, як найхутчэй тыя новыя пазіцыі абсталяваць. Як зброю ў адступленні зберагчы. Чалавека згубіш — не бяда. Чалавека спісаць можна, а згубі кулямёт або гармату! Ого, навек запомніш, чым яно пахне. Канечне, аддзялённы, які ставіў салдата на варту, павінен быў не забыць яго. Ды аддзялённага ўжо і на свеце не было. Ён ужо святому Пятру дакладваў, што прыбыў на вечнае служэнне...

Во так і здарылася, што забылі вартавога. А ён стаіць сабе на пасту. Не можа яго пакінуць. Загаду няма.

Праціўнік наперад прасунуўся, а салдат стаіць... Потым праціўніка назад пагналі, а пра салдата зноў не ўспомнілі.

Вайна закончылася. А салдат стаіць на пасту. Галодны, халодны, а стаіць. Неяк ноччу глянуў ён на неба, хоць вартавым і забараняецца глядзець на неба, а там зорка зіхаціць, падміргвае яму. Маўляў, чаго ты стаіш, дзівачына?.. Ты ж ужо і не жывы зусім. Пра цябе ніхто і не памятае. Хадзі да мяне. І забрала забытага вартавога на неба. Мы тую зорку бачылі. Яна людзям пра забытых салдат нагадвае.)

Згаданая легенда скіравала думкі ў нечаканае рэчышча. Богшу падумалася, што, можа, варта было б паставіць помнік усім людзям, забытым чалавецтвам: салдатам, паэтам, вынаходцам, рамеснікам і проста майстрам сваёй справы. Усім!.. Адзін на ўсіх!..

Філасофія філасофіяй, а трэба было шукаць нейкі ратунак. Найперш дровы, каб развесці агонь.

(Кім ён быў, той першы вынаходнік агню?.. Слава яму, невядомаму чалавеку!.. Нехта з вучоных лічыў, што, апрача сямі цудаў свету, яшчэ існавала сем цудаў вынаходніцтва: кола, рычаг, клін, вінт, плаўка металу, пісьменнасць, ткацтва... А хто яны, вынаходнікі гэтых сямі цудаў? Як мала мы ведаем пра тых, хто даў чалавецтву рух наперад!..

Ну, і не стой!.. Знайшоў месца і час для філасофіі!.. А можа, вось такія экстрэмальныя ўмовы і абвастрылі чалавечую думку?..)

На гатовыя дровы спадзявання ў Богшы не было. Толькі на рукі, вызваленыя яго продкамі ад бегу на карачках. Але яму пашанцавала. Крокаў за сто на беразе возера ляжалі штабялі бярвення. Яно, праўда, было і таўставатае і даўгаватае для кастра, але нішто — паклаўшы крыж-накрыж, можна раскласці хвацкі касцёр.

Назбіраць сухіх галінак было не цяжка. Хвілін праз дваццаць зыркае полымя асвяціла цемру. Пакуль агонь набіраў сілу, Богша наламаў і ванасіў да вогнішча ялавага лапніку, каб было пасядзець на чым, а потым паспаць, калі вогнішча дагарыць, разаслаўшы на ім лапнік.

Цяпер добра было і закурыць, сеўшы пры кастры.

Лазар Богша любіў агонь язычніцкай, ці, як казаў ягоны сцэнарыст, паганскай любоўю. Заключалася яна ў тым, што Богша сядзеў ля вогнішча не дзеля таго, каб сагрэць цела, а каб адагрэць схаладнелую душу. Агонь выклікаў у яго дзіўную супакоенасць і нетаропкія, без прывычнай мітуслівасці думкі.

Богша даўно заўважыў, што пры агні дужа выразна прыгадваецца мінулае — даўняе паляванне, смерць далёкіх і блізкіх продкаў, перамогі і паражэнні — усё былое паўставала пры агні так ярка і ўражліва, аж здавалася, што мінулае наблізілася ўпрытык да сённяшняга дня.

(Чалавек стаў чалавекам тады, калі пры вогнішчы пачаў згадваць мінулае, каб у цемрыве ночы ўгледзець заўтрашні дзень. Хіба я не магу так падумаць? Магу! Маю права! Я шчаслівы, што думаю, разважаю, прымаю рашэнні, вымяраючы іх вопытам чалавецтва.

Чакай, чакай, а хто гэта сказаў пра нас, белых?.. Вы ўсе вар'яты. Вы кажаце, што думаеце галавой... Трэба думаць сэрцам, як мы... Хто ж гэта сказаў? Ага, успомніў: амерыканскі індзеец еўрапейскаму вучонаму... А мне расказаў пра гэта Доля... Рафаіл Міхайлавіч Доля...

Ах, дзядзька Фаля, дзядзька Фаля! Як вы патрэбны мне зараз. Я ўсё намацваю цесныя сувязі далёкай даўніны з сённяшнім днём, але намацваю так, як сляпы незнаёмую дарогу. Ісці старой, добра вядомай да кожнай калдобіны дарогай было куды прасцей.)

Ягоныя думкі раптам скочылі ў далёкае мінулае. Яму дужа добра ўявілася тая нікчэмная бітва на рацэ Нямізе, якая чамусьці пакінула глыбокі след у нашчадкаў.

Ранак. Нізкія рваныя хмары пасля ўчарашняй завірухі. Бляклае сонца, што часам выглядае з разрываў хмар.

Па правы бок Нямігі палкі Яраславічаў. Дружыннікі спрабуюць храбрыцца, матаюць цяжкімі ад хмелю галовамі.

Па левы бок, не злазячы пакуль з коней, дружыннікі Усяслава. Наперадзе сам Усяслаў. Каржакаваты, шырокі ў плячах, з цяжкім позіркам шэрых вачэй, з радзімай плямай, падобнай на жабу, што вылазіць з-пад шлема па лоб, закрываючы бурай агіднай лапай правую шчаку.

Не, усё не тое.

Дзядзька Фаля, як вы мне патрэбны зараз!..

### *Эпізод другі (рэтраспекцыя):*

## рэквіем па Долю

Быў адзін з тых майскіх цёплых вечароў, што наступаюць услед за чаромхавымі халадамі і якія асабліва цешаць і радуюць сэрца. Лазар Богша, да смерці зmoraны здымкамі эпізоду, які здаваўся дужа простым, але, як выявілася, надзвычай складаным, забраўся ў кутoк старога парку, прысеў на лаўку пад шатамі агромністай ліпы. Яму хацелася забыцца на ўсе клопаты і трывогі пражытага дня, але, як толькі ён сеў, як толькі глянуў на заход сонца, як толькі пабачыў у паветры чорныя крыжыкі ластавак, што імкліва луналі над царкоўным купалам, яго ахапілі тыя ж самыя клопаты і трывогі, ад якіх ён і збег у парк.

Лазар Богша ніяк не мог зразумець (і ўсё вяртаўся ў думках назад), чаму эпізод, на які па сцэнарыі было адпушчана ўсяго сем метраў плёнкі, здымаўся ўвесь дзень, але так і не быў зняты. Ва ўсякім разе, не быў зняты так, як хацелася, як належала яго зняць. Затое ўся здымачная група чамусьці перасварылася, і пасля абеду ўжо ніхто не мог гаварыць спакойна, ад чаго справа не паляпшалася, а пагаршалася. Лазар Богша зразумеў, што ніякай карысці ад такіх здымак не будзе, а таму загадаў спыніць іх. Яму здавалася, што здымачная група ўзрадуецца, а здарылася наадварот. Першы запярэчыў аператар. За ім узбунтаваліся асвятляльнікі. Яны, маўляў, цягалі і расстаўлялі дзігі не дзеля таго, каб, нічога не зрабіўшы, зноў заносіць іх у машыну, а назаўтра выносіць і расстаўляць.

Адным словам, складвалася такое ўражанне, нібы ўсім хочацца прадаўжаць сварку, зводзіць адно аднаго прыдзіркамі і папрокамі, нібы ў гэтым і заключаўся іхні сэнс жыцця, нібы без гэтай варожасці яны не варты добрага слова.

«Чакай, чакай,— спыніў ён сябе,— а як закончылася сённяшняя сварка?»

Яму стала смешна, бо і сварка закончылася смешна, нечакана, а галоўнае, не па тэорыі, якую толькі што адкрыў ён сам, а зусім наадварот, насуперак тэорыі, бо розум пры гэтым не меў ніякага значэння.

...Асістэнтам рэжысёра ў групе працавала маладзенькая дзяўчына, якая толькі сёлета прыйшла ў кіно. Звалі яе Верачка, а прозвішча ніхто не запомніў ды і не збіраўся запамінаць. Верачка і Верачка...

Знешне яна выглядала дзіцем ды і была дзіця па сваёй наіўнасці, шчырасці і бездапаможнасці, гэта заўсёды і выклікала ўсмешку ў кіношных зуброў.

Лютая сварка прывяла Верачку ў роспач. Спачатку яна глядзела на раз'юшаных кіношнікаў са здзіўленнем. Верачцы здавалася, што кіношнікі іграюць перад камерай. Потым, калі яна зразумела, што сварацца не па сцэнарыі, а ўсур'ёз, Верачка са слязамі на вачах падбегла да раз'юшанага натоўпу, закрычала тоненькім, дзіцячым галаском:

— Дзядзечкі, перастаньце!.. Мне страшна!..

Дзядзечкі нават не зірнулі ў яе бок, прадаўжаючы сварыцца. Толькі адзін з асвятляльнікаў, здаравіла Валоўскі, злосна тупнуў нагой:

— Брысь, шмакадзяўка, а то растапчу!..

Але Верачка не спалохалася, а, можа, была так перапалохана, што не адчула страху. Яна раптам сказала з нечуванай шчырасцю ў голасе:

— Дзядзечка, хочаш, я цябе пацалую, толькі не сварыся, дзядзечка...

Нечакана для кіношнікаў і самога Валоўскага Верачка прыўзнялася на дыбачкі, цмокнула асвятляльніка ў няголеную шчаку.

На здымачнай пляцоўцы спачатку ўсталявалася пругкая цішыня, якая затым выбухнула вясёлым смехам. Кіношнікі сталі пацвельвацца, прасіць Верачку, каб яна і кожнага з іх ашчаслівіла такой жа ласкай. Жарты хоць былі вясёлыя, але не заўсёды бяскрыўдныя, так што Верачка расплакалася і збегла. Ніхто не пайшоў супакоіць

яе. Але і тая лютая варожасць, што дасюль панавала на пляцоўцы, ужо не аднавілася, а патухла.

«А я — вахлак,— падумаў Лазар Богша.— І ўсе мы — вахлакі!»

Яму стала сорамна, што ён, як і ўсе, забыўся пра Верачку, а яна, можа, і дасюль плача недзе ў адзіноце.

«Мы не проста вахлакі — мы бяздушныя, чэрствыя эгаісты, нікчэмныя жабракі, якія дбаюць толькі пра скарынку хлеба».

Ён тут жа зразумеў, што ў другі раз аказаўся несправядлівым, на гэты раз у дачыненні да жабракоў. Яму прыгадалася кімсьці расказаная прытча.

Донна Анна, донна Клара і донна Інэса гулялі па Мадрыду. Бачаць, пад аркай, у цені сядзіць жабрак. Перад ім — алавяная талерка. А ў ёй — ні санціма.

Донна Анна лічылася набожнай і спагадлівай. Яна дастала дзесяць санцімаў і паклала на талерачку. Жабрак уславіў яе чулае сэрца ў словах, вартых дзесяці санцімаў.

Донна Клара славілася ганарлівасцю. Яна дастала залатую песету, кінула на алавяную талерку жабрака. Ён услівіў яе царскую шчодрасць і анёльскую прыгажосць якраз на залатую песету.

Донна Інэса была бедная. У яе не было і аднаго санціма. Але яна была гордая, ды і не хацела адстаць ад сваіх сяброўак. Яна схілілася да жабрака і пацалавала яго.

Уражаны яе ласкай, жабрак падабраў з талеркі манеты, купіў на іх кветкі і аддаў донне Інэсе.

Цяпер ён зразумеў, чаму не выходзіў той тройчы кляты эпізод. У ім не было вось гэтай непасрэднасці донны Інэсы і Верачкі.

Яму захацелася пабегчы ў горад, падняць, як па трывозе, групу, каб неадкладна адзняць той эпізод, ды заўважыў, што сонца скацілася ўжо за возера, пакінуўшы на вадзе чырванаваты след.

«Позна»,— падумаў Лазар Богша.

— Але, позна,— пацвердзіў чыйсьці голас, нібы то было рэха ягоных думак.

Ля лаўкі стаяў незнаёмы і, папраўдзе, дзівакаваты чалавек у саламяным капелюшы, вышыванай кашулі, падперазанай вітым поясам з кутасамі, у штанах, закасаных да каленяў, і кедах на босую нагу.

— Гэта вы сказалі позна? — спытаў Лазар Богша.

— Не, гэта сказалі вы,— запярэчыў чалавек.— Але дазвольце заўважыць, што самі па сабе тэрміны «позна»

і «рана» не з'яўляюцца супрацьлегласцямі, як гэта нам часам здаецца. Яны нашмат бліжэй і вельмі проста пераходзяць з адной катэгорыі ў другую... Дазвольце адрэкамендавацца: Рафаіл Міхайлавіч Доля, мясцовы краявед і гісторык, загадчык філіяла краязнаўчага музея. А вас я добра ведаю: Лазар Васільевіч Богша...

— Вельмі прыемна,— буркнуў Лазар Богша, адчуваючы прыкрасць.

Доля апусціўся на лаўку, на самы краёчак.

— Пасмею прасіць вас, Лазар Васільевіч,— нясмела загаварыў ён,— удзяліць мне вашага дарагога часу на прадмет шчырай з вамі гаворкі...

У Рафаіла Долі чулася тая манернасць, якую Лазар Богша не раз заўважаў у мове правінцыйных літаратараў і наогул людзей, якія чамусьці думалі, што без іх ніяк не можа абысціся мастацтва, а таму насцярожыўся. Няйначай, гэты Доля хоча прачытаць яму сцэнарый або расказаць пра нейкую задуму для фільма. А можа, і горай: пачне скардзіцца на свой нешчаслівы лёс.

— Далібог, я вельмі заняты,— сказаў Лазар Богша.

— Не хочаце апусціцца з вышыні сваёй славы да простага чалавека? — пакрыўдзіўся Доля.

— Мне трэба вяртацца ў гасцініцу,— збянтэжыўся Богша.— Прыходзьце заўтра.

— Тады, калі можна, я праводжу вас,— папрасіў Доля.

«Ад яго не адчэпішся,— падумаў Богша.— Хай ідзе. Да гасцініцы хвілін пятнаццаць хады — выцерплю».

Адсюль, са старога парку, яшчэ закладзенага пры Екацярыне, можна было ісці ў горад па шашы — былым шляху, некалі абсаджанаму бярозамі, а можна і па завулках, што складалі старажытны цэнтр горада.

З усходу да гэтай старой часткі горада падыходзіла рака, шырокая тут, з пясчанымі пляжамі і далёкім за ёй лесам. Ад новага горада, дзе стаяла гарадская гасцініца, стары цэнтр аддзяляла рачулка Сноўдзіца, якая цякла ў глыбокім рове. Праз Сноўдзіцу вісеў пешаходны мост на стальных тросах.

Карацейшая дарога ў горад ляжала па шашы. Але Богша чамусьці пайшоў праз стары горад.

Яны ішлі моўчкі. Лазар нават пахваліў Долю за ягоную тактоўнасць: зразумеў чалавек, што не да яго. Ды, відаць, пахваліў не ў час.

— Лазар Васільевіч,— звярнуўся да яго Доля,— не праходзьце міма, калі вы ўжо, лічыце, на парозе нашага музея. Паверце, што не пашкадуеце. У музеі ёсць унікальныя экспанаты...

Лазар Богша спачатку рашуча запратэставаў — яму зараз не да экспанатаў,— але нечакана перамяніў рашэнне, падумаўшы, што і сапраўды не шкодзіла б зайсці ў музей.

— У мяне знойдзецца хвілін пятнаццаць,— на ўсякі выпадак папярэдзіў ён Долю.

Той вельмі ўзрадаваўся, і яны павярнулі да царквы, якая і была музеем.

Там, дзе стаяла царква, дзве ракі ўтваралі даволі ладны тупаносы мыс з кручамі, парослымі дрэвамі. На гэтым мысе ў даўнія часы пачатку пісанай славянскай гісторыі паставілі каменную царкву, якая прастаяла год трыста. Калі край гэты падпаў пад уладу Рэчы Паспалітай, а каталіцызм рабіў усё, каб вынішчаць праваслаўе, царква была перабудавана ў касцёл, яшчэ год праз трыста, калі праваслаўе перайшло ў наступленне, касцёлу спрабавалі надаць першапачатковы выгляд, ды так і не змаглі. У васемсот дванаццатым годзе адзін з атрадаў напалеонаўскай арміі спаліў яе разам са старым горадам. Царкву адбудавалі гадоў праз дзесяць. На аднаўленне горада спатрэбілася амаль сто год.

Пазней, ужо ў нашы часы вялікай рэканструкцыі, царкву закрылі, але так і не знайшлі ёй прымянення. Такой — запусцелай і недагледжанай — яна перажыла нямецкую акупацыю і цяжкія баі пад сценамі горада ў сорак чацвёртым. Затое астатнія каменныя будынкі старога горада выгаралі дарэшты.

Пасля вызвалення, каб было дзе жыць, кожны гараджанін, па сваім уменні і здольнасцях, аднавіў будынкі, панарабіў прыбудоў і надбудовак, хлеўчукоў і дрывяннікаў. Усё гэта выглядала не сказаць каб дужа завершана, але даволі самабытна і непаўторна. Да царквы таксама прыбудавалі з паўтузіна прыбудоў, нават двухпавярховых, якія злучала галерэя на тоўстых слупах.

— Заходзьце, калі ласка,— перапыніў Богшава любаванне архітэктурай Рафаіл Доля.— Ды асцярожненька, Лазар Васільевіч, бо за парогам вышчэрбіна, а засыпаць яе ўсё не стае часу...

Вышчарбіна, бадай, нагадвала добрую выбоіну.

— Даўно яна тут? — спытаў Богша.

— Гэта ж снарад выкапаў,— адказаў Доля.— Якраз у прытвор папаў. Дзе мы стаім, гэта і ёсць прытвор.

Сапраўды, перад імі відаць была фортка ў драўляных дзвярах, якая вяла ў падкупальную частку царквы.

— А вышчэрбіну вы не засыпайце,— параіў Богша.— Яна будзе нагадваць людзям пра вайну, фашызм.

— Во, дзякуй,— адказаў Доля.— Праўда ваша...

Доля адкрыў фортку, і яны ўвайшлі ў царкву. Богша чакаў, што вачам адкрыецца прастора падкупальнай часткі, аж у цьмяным святле ліхтароў аказаўся калідор, абапал якога размяшчаліся катушкі з музейным скарбам, якія нагадвалі адсекі ў мэблевых магазінах-салонах.

У пакойчыках на паліцах і тумбачках стаялі нейкія рэчы, на сценах віселі схемы, дыяграмы, малюнкі,— усё, як у такіх жа філіялах. Лазар Богша адным позіркам ахопліваў такі пакойчык і, не дачакаўшыся, пакуль Доля растлумачыць, што тут выстаўлена, ішоў далей. Толькі ля апошняга пакойчыка ён затрымаўся. Яго ўвагу прыкаваў іканастас з арнаментальнай разьбой, з пачарнелай пазалотай. Іканастас здаўся Богшу вартым увагі.

Першы рад — дэісусны, або чын,— здаўся Богшу самабытным і старажытным: сіні фон, а на ім залацістыя ружаватыя постаці Хрыста, божай маці і Іаана Хрысціцеля. Збоч іх — постаці двух святых, між якімі стаяла жанчына з дужа самотнымі вачамі.

Другі рад — святочны чын — прыцягваў увагу тым, што ў ім змяшчалася не дванаццаць іконак на тэмы дванадзесятых святаў, а на адну больш.

Трэці рад — прарочы — выглядаў, бадай, традыцыйна, каб не адна акалічнасць: старажытны мастак замест прарокаў намаляваў добра знаёмых яму вясковых дзядзькоў, якія трымалі ў руках самыя розныя прылады: косы, сярпы, цеслі, малаткі...

— Ага!.. Захапіла,— узрадавана выгукнуў Доля.

— Захапіла... Я, праўда, не спецыяліст, але некалі цікавіўся іканастасамі, а таму сапраўды ўражаны,— прызнаўся Богша.— Дзе вы яго адкапалі?

— Дзе і як знайшоў, гаворка доўгая,— адказаў Доля.— Звярніце лепей увагу на жанчыну з дэісуса. Ці не праўда, у яе адно аблічча вось з гэтай святой, што ў святочным чыне.

— Ну, так... А я і не заўважыў,— прызнаўся Богша.

— А цяпер прыгадайце, на каго яны абедзве падобныя? — з хітраватай усмешкай спытаў Доля.

— Не магу ўспомніць...

— А ці былі вы ў Спас-Ефрасіннеўскай царкве ў Полацку?..

— Чакайце, чакайце,— пачаў здагадвацца Богша.— Вы маеце на ўвазе фрэску?..

— Хіба яны ўсе трое не падобныя між сабой?

— Дык што, і там, і тут Ефрасіння Полацкая? — здзівіўся Богша.— Гэта ўжо і зусім неверагодна... А потым... хто гэтыя два мужчыны?

Рафаіл Доля загадкава ўсміхнуўся.

— Хочаце, каб сказаў? Але ж не паверыце... Нізашто не паверыце. Так што лепей не скажу...

Тут, у музеі, Рафаіл Доля не выглядаў тым дзіваком, якім ён здаўся Лазару Богшу ў парку. Ён трымаўся незалежна, упэўнена, а таму гаварыў з Богшам на роўных, без свайго манернічання.

— Чаму ж не павеpу? — здзівіўся Богша.

— А так, што не паверыце, бо маю здагадку нельга даказаць хоць бы адным радком дакумента, хоць бы адным з яго словам,— горача сказаў Доля.— А ў навуцы так, калі хочаш нешта даказаць, дык абгрунтуй гэта спачатку дзесяткам дакументаў. Іначай цябе выставяць з навукі, стануць смяяцца з тваіх домыслаў.

— Але ж я не маю ніякага дачынення да навуковых колаў, а таму мне можна давяраць любыя гіпотэзы.

Гэты довад, здаецца, падзейнічаў на Долю. Ён задумаўся.

— Можа, ваша і праўда,— пагадзіўся ён.— І ўсё ж, давайце дамовімся, што вы ніколі не станеце спасылацца на мяне, а значыць, і на гэты рэчавы доказ — іканастас.

Лазар Богша ўрачыста пакляўся. Яны паціснулі на згоду рукі.

— Бачыце, Лазар Васільевіч,— пачаў Доля, як бы ўсё яшчэ сумняваючыся, ці варта яму адкрываць тайну,— старажытны мастак, калі і змяшчаў каго ў дэісусным радзе, дык меў на гэта вельмі важкую прычыну. Наогул дэісусны рад некалі складаўся толькі з трох асоб: Хрыста, божай маці і Іаана Хрысціцеля. Пазней ужо да іх сталі дадаваць анёлаў, архангелаў, апосталаў і бацькоў царквы, якіх найбольш шанавалі. Так што іканастас гэты як бы пазнейшай работы. Але звярніце ўвагу на фон. Ён сіні, а святыя напісаны ў ружавата-светлых танах. Так што можна меркаваць, што ён напісаны ў больш раннім часе.

Гэтая правінцыяльная стараннасць растлумачваць усё аж да самых дробных дэталей зноў узлавала Богшу, і ён перапыніў Долю без аніякай ветлівасці:

— Вы абяцалі сказаць мне, хто гэтыя святыя, а чытаеце лекцыю...

Рафаіл Доля аж уздрыгнуў ад ягоных слоў і адразу прыгорбіўся, быццам баяўся, што яго адхвошчуць па твары. Лазару Богшу стала няёмка. Ён хацеў папрасіць прабачэння, але Доля ступіў наперад і вельмі ціха, нават баязліва, сказаў:

— Вось гэты, што справа ад святой, няйначай Лазар Богша, майстар, што зрабіў крыж па заказу Ефрасінні... Гляньце на ягоныя рукі. То рукі рамесніка... А другі, што стаіць злева,— аўтар «Слова аб палку Ігаравым».

На твары Долі адбіліся сарамлівасць, вінаватасць, збянтэжанасць, раскаянне. Лазару Богшу падумалася: такія твары бываюць у людзей, якія, не вытрымаўшы катаванняў, выдалі тайну. Яму стала шкада гэтага дзівакаватага чалавека, які з дзіцячай наіўнасцю верыць у сваё адкрыццё.

— Як вы здагадаліся? — спытаўся ён, зрабіўшы выгляд, што паверыў Долю.

— А як жа інакш,— адказаў Доля з упэўненасцю чалавека, які сапраўды зрабіў вялікае адкрыццё.— Давайце зазірнём на хвілінку ў Полацк дванаццатага стагоддзя...

Аднак у той вечар заглянуць у Полацк, ды яшчэ ў дванаццатае стагоддзе, ім не давялося. У музей, аднекуль з-за алтара, імкліва выбегла чорнавалосая дзяўчына ў белай кофтачцы і вузенькіх штоніках, якія тады толькі ўваходзілі ў моду, перамагаючы супраціўленне афіцыйнай і неафіцыйнай грамадскасці.

Іншая на яе месцы, пабачыўшы чужога чалавека, напэўна, збянтэжылася б, а гэтая гарэзліва зыркнула на Лазара Богшу і раптам весела зарагатала. У яе быў такі звонкі смех, што Лазар Богша не стрымаўся і сам невядома чаму засмяяўся.

— Ой, і насмяшылі вы мяне,— пераборваючы смех і не маючы сіл стрымаць яго, сказала дзяўчына.— У вас такія твары, як у Чапліна і Фернандэля. І шкада вас і смешна...

Яна перастала смяяцца і ўжо зусім сур'ёзна сказала, звяртаючыся толькі да Лазара Богшы:

— А я ўяўляла вас зусім-зусім не такім...

— То наша Любачка,— паспяшаўся пазнаёміць іх Доля.— Наша радасць і наша шчасце...

— Кіньце, дзядзька Фаля, якое там шчасце, якая радасць?..

Дзяўчына засаромелася і пачырванела, а Лазар Богша чамусьці з радасцю адзначыў, што яна не дачка гэтага дзівака Долі.

— А ўжо і радасць,— стаяў на сваім Доля.

— Ну, калі радасць, дык я напаю вас чаем. Няма чаго вам стаяць у гэтым мёртвым царстве рэчаў. І не спрабуйце адмаўляцца. Жанчын трэба слухаць.

Дзяўчына гэтая, што так нечакана ўварвалася ў іхнюю не зусім прыемную гамонку, чымсьці інтрыгавала Богшу. Ён і без вялікіх угавораў гатоў быў застацца, забыўшыся на тое, што спяшаўся ў гасцініцу, а яна яшчэ ўзяла яго пад руку і павяла ў глыб царквы.

За абабітымі лямцам дзвярыма аказаўся даволі вялікі пакой з круглым абедзенным сталом пасярэдзіне, са старой плюшавай кушэткай і мноствам старых рэчаў, можа, музейных экспанатаў, як падумалася Лазару Богшу. Рэчы гэтыя стаялі на падстаўачках, тумбачках, сталках самых розных формаў. За гэтым пакоем знаходзіўся яшчэ адзін, з якога і даляцеў кволы і трохі капрызлівы голас:

— Фаля, а хто з табой прыйшоў?

— А гэта Лазар Васільевіч прыйшлі,— падбегшы да дзвярэй, сказаў Фаля.— Лазар Васільевіч, які здымае ў нашым горадзе фільм...

— Ах, так, так,— азвалася жанчына.— Пазнаём мяне, Фаля, з Лазарам Васільевічам...

Доля павярнуўся тварам да Богшы.

— Лазар Васільевіч,— звярнуўся ён да Богшы,— пазнаёмцеся з маёй сваячкай Соф'яй Ігнатаўнай...

Лазар Богша перасек пакой па дыяганалі і, чакаючы ўбачыць нешта непрыемнае, рашуча ўвайшоў у той, другі пакой.

Ён быў асветлены мяккім святлом люстры. На высокім нікеліраваным ложку напаўляжала жанчына, зусім сівая, але вельмі прыгожая.

— Ах, як я хацела вас бачыць,— захоплена сказала Соф'я Ігнатаўна і працягнула Богшу руку з залатым пярсцёнкам на пальцы.— Соф'я Ігнатаўна Вярбінская...

Лазар Богша троху разгублена ўзяў яе руку, не дужа ўяўляючы, ці ён павінен пацалаваць руку, ці проста па-

ціснуць на знаёмства. На ўсякі выпадак пацалаваў і, здаецца, зрабіў правільна. Соф'я Ігнатаўна запунсавелася.

— Навошта вы хацелі мяне бачыць? — спытаў Богша.

— Ды ўжо і не ведаю,— з сарамлівай усмешкай адказала Соф'я Ігнатаўна.— Калі доўга ляжыш, дык якія фантазіі не прыходзяць у галаву...

— Соф'я Ігнатаўна паходзіць з акцёрскай сям'і і сама да вайны танцавала ў балеце,— падказаў Доля.

— Ах, Фаля, не трэба напамінаць пра даўняе... Усё прайшло, усё мінулася...

Яна сказала з такім непадробным сумам, што Богша і Доля адчулі сябе вінаватымі і замоўклі.

— Сябры мае,— гукнула іх Люба,— чай гатовы. Давайце будзем піць тут. Ты, мама, не станеш пярэчыць?..

— Я — не,— адказала Соф'я Ігнатаўна.— Хіба Лазару Васільевічу будзе нязручна...

— Што вы, што вы! — запярэчыў Богша.

— Дзядзька Фаля, памажыце мне прынесці сталок,— загадала Люба, і яны абое пайшлі ў першы пакой.

Як толькі яны выйшлі, Соф'я Ігнатаўна ўхапіла Богшу за руку.

— Дзеля ўсяго святога не адмоўце мне ў просьбе... Я таму і хацела вас бачыць...

Цяпер Лазар Богша здагадаўся, што трапіў сюды зусім невыпадкова, і яго ахапіла прыкрасць.

— Слухаю вас,— сказаў ён, думаючы над тым, як адмовіць гэтай жанчыне, якая збіраецца нешта прасіць.

— Памажыце Любачцы... Вазьміце яе на якую ролю ў вашым фільме... Яна здольная... Абяцайце...

Богша быў настолькі разгублены, што маўчаў як вады ў рот набраўшы.

— Лазар Васільевіч!.. Каб магла, я стала б на калені... Але я ляжу, а такіх не б'юць... Не забівайце мяне... Абяцайце...

— Абяцаю,— нібы выносячы сабе прысуд, сказаў Богша.

І якраз у час. З-за посцілкі, якая вісела на дзвярах, паявілася спіна Долі.

* * *

— Ну, дзеці мае,— весела сказала Люба,— будзем чаёўнічаць. Не асуджайце строга, бо чай я не ўмею заварваць. Ён вечна пахне венікам і металам, але ўсё роўна смачны...

Чай сапраўды смярдзеў венікам. Але Богша піў яго з нечуванай прагай, не перастаючы сачыць за трыма жыхарамі гэтай дзіўнай кватэры ў царкве. Папраўдзе, дык нічога асаблівага ён не заўважаў.

— Лазар Васільевіч, ці не праўда, у Рафаіла Міхайлавіча цудоўная калекцыя старых рэчаў,— звярнулася да Богшы Соф'я Ігнатаўна, няйначай, дзеля таго каб пазабавіць яго размовай.

— Зосечка,— нецярпліва перапыніў яе Доля,— я неаднойчы прасіў цябе не называць музей маім... Я толькі загадваю ім...

— Усё роўна калекцыя твая,— упарта сказала Соф'я Ігнатаўна.— Проста ты бескарыслівы чалавек. Іншы на тваім месцы ўзяў бы за такія рэліквіі грошы. А ты аддаў іх бясплатна...

— Зосечка, ты робіш мне балюча,— запрасіў літасці Доля.— Я не нейкі там калекцыянер-хапуга, які абірае народ...

— Таму я кажу...

— Зосечка, не трэба...

Лазар Богша пастараўся прымірыць Долю з ягонай сваячкай.

— Мне здаецца,— сказаў ён,— сутнасць састаіць у тым, што калекцыя сапраўды выдатная...

Доля і Соф'я Ігнатаўна аж заззялі ад такой ухвалы. Адна Люба нечага іранічна ўсміхнулася.

— А ці заўважылі вы, Лазар Васільевіч, кросны? — спыталася Соф'я Ігнатаўна.

Лазар Богша, апрача іканастаса, нічога не заўважыў, але, каб не пакрыўдзіць Соф'ю Ігнатаўну, сказаў:

— Мне здалося, яны вельмі старадаўнія...

— Фаля,— звярнулася да Долі Соф'я Ігнатаўна,— скажы Лазару Васільевічу, каму належалі гэтыя кросны...

— Кацярыне Лук'янаўне Азарэвічавай,— важка сказаў Доля.

Яны абое — Соф'я Ігнатаўна і Доля — пільна паглядзелі на Богшу: якое ўражанне гэта зрабіла на яго?

Лазар Богша ніколі не чуў пра Кацярыну Лук'янаўну Азарэвічаву, адно што здагадаўся: няйначай, яна славутая і мае нейкае дачыненне да Долі і Соф'і Ігнатаўны, а таму прытворна здзівіўся:

— Што вы кажаце?!. Проста неверагодна...

— Больш таго,— горача сказаў Доля,— кросны, ба-

дай, належалі Варвары Сямёнаўне, якая паходзіла з роду Старынкевічаў і пайшла замуж за прыгоннага...

У другі раз здзіўляцца Лазар Богша не адважыўся. Перабярэш лішак, як той акцёр на сцэне, і замест апладысментаў пачуеш абураны свіст.

— Рафаіл Міхайлавіч, я, далібог, не ведаю, хто такія Старынкевічы і Азарэвічавы,— нечакана для сябе прызнаўся ён.

— Як, вы не ведаеце, хто такія Азарэвічавы? — гнеўна спытала Соф'я Ігнатаўна.

— Мама,— рашуча ўмяшалася Люба.— Чаму Лазар Васільевіч павінен ведаць, хто такія Азарэвічавы?

— А таму,— не перастала гневацца Соф'я Ігнатаўна,— што яны наша слава і гонар... Таму, што нельга жыць без гісторыі...

Яна адвярнулася тварам да сцяны, як бы назаўсёды страціўшы цікавасць да Богшы.

Лазару Богшу стала няёмка, але яго ахапіла і злосць. Зацягнулі сілком, ды яшчэ і абражаюць, выстаўляючы недалёкім чалавекам.

— Мы вывучалі гісторыю не па кнігах і архіўных фаліянтах,— сказаў ён з перавагаю над гэтымі царкоўнымі жыхарамі глухога гарадка.— І не проста вывучалі, а здабывалі яе зброяй на дарогах вайны...

— Ну, так, так,— пагадзіўся Доля, бо Соф'я Ігнатаўна прадаўжала пакрыўджана маўчаць.— Аднак хачу нагадаць вам, Лазар Васільевіч, што гісторыя, пра якую вы мелі гонар сказаць, на доўгім сваім шляху імкнулася пазбавіцца ад сумніцельных каштоўнасцей, каб знайсці для чалавека ў свеце жорсткасці і грубай сілы высокі сэнс існавання яго на зямлі. І гэта, паверце, не абстракцыя, а гістарычная неабходнасць.

Рафаіл Доля, як падумалася Богшу, зноў загаварыў манерна, па-вучонаму, чым рашуча ўзлаваў Богшу.

— Што вы разумееце пад «сумніцельнымі каштоўнасцямі»? — гатовы на спрэчку, спытаўся ён.

— А вось гэтае выхвалянне зброяй,— спакойна адказаў Доля, як бы не жадаючы спрачацца.

— А вы маеце ўяўленне пра лагеры смерці? — непрымірыма спытаўся Богша і пачуў, як нехта наступіў яму на нагу, але не звярнуў на гэта ўвагі.— Ці, можа, вам нечага шкада стала фашызм, які можна было знішчыць толькі сілай зброі, каб уратаваць ад смерці мільёны людзей... Нічога сабе сумніцельныя каштоўнасці...

Яму здавалася, што Доля будзе прысаромлены, а то проста знішчаны ягонымі словамі.

— Навошта ж так катэгарычна,— пасля кароткага маўчання зноў загаварыў Доля і яшчэ больш спакойна, як раней.— Я лагеры смерці таксама ведаю не па чутках... Ды і Соф'я Ігнатаўна ведае іх... Так што вашы папрокі нас не закранулі... З вашага дазволу, Лазар Васільевіч, я паспрабую абгрунтаваць сваё разуменне сумнiцельных каштоўнасцей, калі ўжо гаворка зайшла пра іх...

— Мне трэба ісці,— рашуча сказаў Богша.— А сваё разуменне гісторыі вы лепей надрукуйце ў якім выданні, каб пра яго ведалі спецыялісты...

Лазар Богша ўстаў з крэсла з рашучасцю чалавека, якому непрыемна далейшая гаворка. Доля з Любай нібы і не заўважылі ягонага намеру пайсці, затое Соф'я Ігнатаўна ўсхвалявалася.

— Фаля!.. Любачка!.. Што ж вы?.. Лазар Васільевіч пакрыўдзіліся... Што ён пра нас падумае?.. Лазар Васільевіч, міленькі, даруйце нам! Мы ў сваёй бярлозе зусім развучыліся гаварыць з культурнымі людзьмі... А ўсё я, я, я! — яна прыціснула да вачэй вышываную насоўку.

Богша разгубіўся, сеў.

«Ліха з ім,— падумаў ён пра Долю,— хай гаворыць!.. Выседжу, выцерплю і назаўсёды развітаюся, каб, барані божа, у другі раз не трапіць у такое недарэчнае становішча».

— Мне і сапраўды трэба ісці,— сказаў ён.— Позна ўжо... Але мне вельмі цікава паслухаць вас, Рафаіл Міхайлавіч.

Богша скрывадушнічаў знарок, спадзеючыся, што Доля і сам не стане прадаўжаць размову. І... памыліўся.

— Бачыце, Лазар Васільевіч,— нібы нічога не здарылася, загаварыў Доля,— некалі, у дагістарычныя часы, чалавек вымушаны быў захапляцца грубай сілай. Прырода ніколі не песціла чалавека, і ён павінен быў змагацца з ёю. Уявіце сабе: голы, з выгляду бездапаможны чалавек, без аніякіх там кіпцюроў або вострых іклаў і адзін на адзін са зверам. Гэта, калі хочаце, прыгожа. Барацьба на роўных... Таму грубая сіла на той час была эстэтычнай катэгорыяй. Чалавек захапляўся спрытнасцю паляўнічага, яго вынослівасцю, дужасцю, адвагай. І нават тады, калі яму даводзілася адстойваць свае паляўнічыя ўгоддзі ад такіх жа, як ён, паляўнічых, грубая сіла выступала ў той

жа эстэтычнай катэгорыі, бо яна была сіла правая, справядлівая.

І яшчэ прашу заўважыць, Лазар Васільевіч, што чалавек тады хоць і змагаўся з прыродай, але не гвалціў яе. Ён найбольш спадзяваўся на літасць прыроды. Гэта потым ён не стаў чакаць яе літасці, ну і... не заўсёды выходзіў пераможцам. Прырода — кабета помслівая. З ёй трэба абыходзіцца далікатна...

Вы скажаце, што тады чалавек не думаў пра матэрыяльныя выгоды. Ды ўся ягоная дзейнасць была скіравана, каб паесці, адзецца, абуцца, нешта назапасіць на чорны дзень.

Верна, Лазар Васільевіч, і тады чалавек не цураўся матэрыяльных выгод. Але не яны ўплывалі на яго. Задаволенасць зробленым — во што было галоўным.

Можа, вы і не цікавіліся, а я дык шмат часу патраціў на адну ўражлівую дэталь. Далажу я вам, Лазар Васільевіч, што ўсе народы свету, без аніякага выключэння, пасля калектыўнай работы — палявання, рыбнай лоўлі, збору ўраджаю, пабудаванай хаты ці любой другой талакі — збіраліся разам, і спявалі, і скакалі, і славілі тых, хто вызначыўся ў працы. Ішло гэта ад задаволенасці зробленым, ад вялікага шчасця, што здолена нейкая праца. Бачыце, які вялікі сэнс!.. Грубая сіла тады найбольш і выступала як сіла, што нешта стварае, а не разбурае. Гэта потым пачалі славіць сілу, якая разбурае, знішчае жывое і нежывое. А тады да такога яшчэ не дадумаліся.

Тады чалавек разумеў, што ў ягоным існаванні ёсць нешта большае і важнейшае за звычайны набытак. Чалавек набывае, чалавек — спажывае. Грубая сіла і тая памірае разам з чалавекам. Але ж ёсць каштоўнасці, якія перажываюць чалавека — песні, малюнкі, прыгожа аздобленыя рэчы. Яны ўвасабляюць вечнасць. Яны ўзвышаюць чалавека над прозай жыцця, як птушку над зямлёй.

Дадумаўшыся да гэтага, чалавек стаў паважаць сябе. Паважаць, Лазар Васільевіч! Не за сілу, за дух свой!.. Во што важна, Лазар Васільевіч! Дык чаго ж мы, людзі цывілізаваныя, услаўляем грубую сілу, ледзь не молімся ёй? Дзетак нашых ці не з калыскі прывучаем да таго, каб шанавалі грубую сілу... А пра дух калі і прыгадваем, дык сарамліва. Найбольш прыкідваючыся прыгадваем.

Вось вы ўсміхаецеся, Лазар Васільевіч, глядзіце на мяне як на дзівака, гэткага смешнага правінцыяла, які нешта сабе ўявіў і займаецца нікому непатрэбнай справай.

На жаль, вы не адзін, хто вось так пагардліва глядзіць на нас, перыферыйных. Гэтым я ніяк не хачу абразіць вас, Лазар Васільевіч. Ёсць нейкая заканамернасць у стаўленні людзей адно да аднаго па меры іх аддалення ад першаасновы агульнага нашага паходжання. Жыхар мястэчка з ironiяй ставіцца да вясковага чалавека, а да таго местачкоўца з такой жа іранічнай паблажлівасцю ставіцца гарадскі жыхар. Да гарадскога — сталічны... Яно, можа, і праўда, мы, хто жыве на перыферыі, неяк інакш выказваемся. Але ж гэта, Лазар Васільевіч, ад нашай сціпласці, ад няўпэўненасці, а не ад таго, што мы неяк інакш думаем. Хоць, можа, і інакш, без выкрунтасаў. Нахабнасці ў нас няма. Паслухаеш каторага з недасяжных сталічных вышынь — божа мой! Колькі ўпэўненасці, нахрапістасці, а што ў ягоных словах сваё, што запазычанае?.. Адна пыха свая!.. Але ж паспрабуй запярэчыць!.. Дзе там!..

Лазар Богша даўно ўжо згубіў логіку Долевай гаворкі. Яму было бясконца сумна. Але апошнія выказванні закранулі Лазара за жывое.

— Дзіўная ў вас звычка,— сказаў ён,— запрасіць да сябе і адчытваць без аніякай на тое падставы...

Мабыць, Доля і сам зразумеў, што лішне захапіўся ў сваіх выкрываннях.

— Божа крый, Лазар Васільевіч, я кажу, так сказаць, абстрактна, не канкрэтна... Як жа вы маглі пакрыўдзіцца?.. Да вас гэта не мае ніякага дачынення. Больш таго, вы, спадзяюся, і самі адчувалі на сабе іранічную паблажлівасць... Але дазвольце ўжо, я давяду сваю думку пра сумніцельныя каштоўнасці, пра якія пачаў гаварыць. Вы ўжо даруйце, што я, як той верабей, пераскокваю з галінкі на галінку. Дрэва ў іх адно. Гэта, так сказаць, наш, усіх правінцыяльных філосафаў недахоп. Хоць якія мы філосафы?.. Проста любім сам-насам падумаць у вольныя хвілінкі. Нам жа часам і пагаварыць не бывае з кім...

Дык я спыніўся на тым, што чалавек некалі пачаў паважаць сябе, адкрыўшы сапраўдныя каштоўнасці.

Ну, так, стаў паважаць, а мы пра яго думаем іранічна, паблажліва. Не толькі, так сказаць, па гарызанталі, як я ўжо меў магчымасць даказаць вам у адносінах паміж чалавекам гарадскім і вясковым, правінцыялам, але і па вертыкалі. Што гэта азначае?.. А тое, дарагі Лазар Васільевіч, што ў адносінах да сваіх продкаў мы ўсе, без выключэння, маем лішне катэгарычнае і няправільнае ўяўленне як аб людзях наіўных, можа, нават недаразвітых, якія ні-

чога не ведалі, нічога не ўмелі. І ніяк не можам зразумець той простай ісціны, што яны ў чымсьці пераўзыходзілі нас. Мы пераважаем тэхнікай, а яны разуменнем, адчуваннем таго, што рабілі. Яны, Лазар Васільевіч, умелі «на вока» вызначыць, ці гатова плаўка, ці яшчэ трэба трохі пачакаць. Во як!.. Але самае галоўнае не ў гэтым. Тыя далёкія нашы продкі ўмелі слухаць душой, сэрцам, а не галавой. Таму ім не патрэбны былі мана і крывадушнасць. Сэрцам не збрэшаш...

Во, Лазар Васільевіч, у чым іхняя самая вялікая перавага. Мана і крывадушнасць паявіліся пазней, калі культ грубай сілай завалодаў людзьмі, але ўжо ў іншай субстанцыі — матэрыяльнай.

Тут у мяне, Лазар Васільевіч, свой пункт гледжання на ход чалавечай гісторыі. Магу ж я, урэшце, мець свой пункт гледжання. Няўжо ж я ўсё сваё жыццё павінен паўтараць услед за кімсьці яго няправільныя погляды на гісторыю.

— Даруйце, але я павінен ісці,— перапыніў яго Богша.

Доля, нібы спаткнуўшыся і балюча параніўшы нагу, аж перасмыкнуўся.

— Чакайце, чакайце, я не сказаў галоўнага... Гісторыя, Лазар Васільевіч, блукае па забытых сцежках,— гаварыў ён спяшаючыся, бо Богша рашуча падняўся з-за стала.— Затое калі яна збіваецца на новыя, дык пракладае іх, мосцячы чалавечымі касцямі, паліваючы чалавечай крывёю... Прыгадайце хоць бы Калумба. Ды я пакланіўся б яму ў ногі, але як падумаю, што спачатку іспанцы, а потым і амерыканцы-каланізатары знішчалі індзейцаў, тут ужо ў мяне ніякай радасці ад таго, што Калумб адкрыў Амерыку... Лазар Васільевіч, уявіце толькі, возьме чалавек чалавечае дзіця за ножкі і галоўкай аб дрэва... Жах, жуда, а амерыканцы яшчэ хваліліся, колькі і хто забіў нявінных душ... Дык навошта ж мне такое адкрыццё, калі яно прывяло да гібелі людзей, можа, найвялікшых геніяў чалавецтва. Геніяў, Лазар Васільевіч! Бо ад тых, хто забіваў, ды і цяпер забівае, чакаць геніяльнасці не даводзіцца. Уся іхняя «геніяльнасць» — забойствы. Азірніцеся наўкола, Лазар Васільевіч, людзі ж па чалавечых касцях ходзяць, па калена ў крыві. Спыніцеся, людзі, хачу я крыкнуць. А каму, Лазар Васільевіч? Адны сваімі клопатамі занятыя, як тыя мурашкі — бягуць сабе цераз дарогу і не здагадваюцца, што ўжо коцяцца калёсы і мно-

гія з іх трапяць пад капыты каня і жалезныя колы павозкі. Бачу, вы хочаце мне запярэчыць.

Лазар Богша і не думаў пярэчыць, але яму надакучыла Долева балбатня і ён не мог не выкарыстаць нагоды, каб пазбавіцца ад яе.

— І навошта вы мне пра ўсё гэта гаворыце? — спытаўся ён голасам, які назусім адхіліў Долеву спробу прадоўжыць дыялог.

— Бо вы, Лазар Васільевіч, мастак,— адказаў Доля.— Мастак!..

На ягоным твары прамільгнула загадкавая ўсмешка, ці, можа, гэта толькі здалося Богшу. Ён таропка сунуў руку Долю на развітанне з няпісанай на твары радасцю, што развітваецца на векі вечныя. Так ён жадаў.

Ды ўсё перайначыла Люба.

— Мама, я правяду Лазара Васільевіча,— нечакана сказала яна.

* * *

У чорным небе квола свяціўся тоненькі сярпок маладзіка, такі тоненькі, аж было боязна, каб яго не здзьмуў адтуль свавольны ветрык, які ўсё яшчэ не хацеў залегчы на сон.

Лазар Богша ўбачыў маладзічок адразу, як толькі яны з Любай выйшлі на двор, і яму нечага стала самотна, можа, якраз таму, што прыгадалася ваеннай пары засада і вось такі ж сярпок маладзіка, які вісеў над палатном чыгункі. Маладзічок той падганяў іх: пакуль я маленькі ды слабенькі, рабіце сваю справу, мініруйце чыгунку, бо праз два дні я асвятлю яе яркім блакітам і тады вам будзе не падысці да насыпу. Яны паслухалі, паспяшаліся, а ў спешцы нешта зрабілі не так... Страшэннай сілы выбух страсянуў ноч, аж схаваўся за хмарку маладзічок. Тыя, хто застаўся жывы, уцякалі з чыгункі пад раз'юшаную аўтаматна-кулямётную траскатню...

Цяпер, недзе каля ракі, ашалела цёхкалі салаўі, быццам спаборнічалі між сабой на конкурсе за першае месца. Адтуль жа, з ракі, дзьмуў нямоцны, але жвавы вецер, які пахнуў вільгаццю, чаромхай і свежай ускапанай зямлёй. Лазар Богша дыхнуў на поўныя грудзі і адчуў, як пачало праясняцца ў галаве, нібы прачнуўся пасля кашмарнага сну і зразумеў, што то быў усяго сон. Чорт падбіў яго пайсці глядзець гэты музей, піць чай, слухаць вар'яцкія раз-

мовы, ад якіх за вярсту несла правінцыяльнай заглыбленасцю і шматзначнасцю.

Але самота не праходзіла, а як бы разгаралася на свежым паветры, апякаючы грудзі. Ён падумаў, што было б дарэчы пасядзець у адзіноце на беразе ракі, паслухаць салаўёў ды памарыць у стоенай начной цішы. Даўно ён не марыў!.. Ачарсцвеў душой, як зямля без цёплага дажджу.

— Вам не хочацца ісці ў гасцініцу? — угадала ягоны настрой Люба.

— Папраўдзе?.. Не хочацца,— адказаў ён, як бы запрашаючы яе гэтым прызнаннем пабыць з ім. Але яму зусім не хацелася, каб яна была побач.— А вы вяртайцеся дамоў, бо позна ўжо і дома стануць хвалявацца...

Лазар Богша ўмеў быць бесцырымонным, калі гэтага вымагалі абставіны. Люба пакрыўджана фыркнула, нібы тая кошка, якую гоняць з печы.

— Можа, вы яшчэ пачнеце чытаць мне мараль? — са з'едлівай іроніяй спытала яна.

— Не, не стану,— адказаў Богша.

— Тады пойдзем на раку... Я ведаю там цудоўны куток. Зацішны і прыгожы...

Пад кручай, над чарнатой густых зараснікаў, што апускаліся ці не да самай вады, расла таполя. Пад ёй стаяла цяжкая і дужа шырокая лаўка. З яе ўдзень, напэўна, адкрывалася вачам чарадзейнае хараство прасторы. Цяпер усё хавалася ў смузе рэдзенькага туману. У тумане чырванела вогнішча, і лёгкі пах смольнага дыму, здавалася, далятаў сюды. Адтуль жа, з поплаву, чулася конскае фырканне і тупат спутаных ног, як двайны ўдар пранікам на таку, калі малоцяць лён.

Лазар Богша з нечуваным захапленнем любаваўся майскай ноччу: водбліскамі вогнішча, туманам, таямнічым фырканнем коней, сцішаным шолахам хрушчоў, усплёскамі рыбы на рацэ і звонкім перазвонам ручая, які па камяністым ложы падбіраўся тут да ракі.

Люба ўжо не перашкаджала адзіноце. Яму было хораша пад аксамітавым полагам неба, сярод начных гукаў і пахаў вясны. Так бы сядзець і слухаць...

— Толькі па шчырасці,— парушыла першабытную стоенасць Люба,— ці гаварыла з вамі аба мне маці?..

— Гаварыла,— нездаволены, што яму перашкодзілі, адгукнуўся ён.

— Я яе не прасіла,— пачала апраўдвацца Люба.

— І тым не менш я паабяцаў даць вам ролю ў наступным фільме і наогул...

— Роля ў вашым наступным фільме мяне можа задаволіць толькі напалову,— насмешліва перапыніла яго Люба.

— А што можа задаволіць цалкам? — таксама насмешліва спытаўся Богша.

— Цалкам?.. Стаць вашай жонкай...

Можна было падумаць, што Люба жартуе, няйпачай, хоча разыграць яго, Лазара Богшу. Во ўжо марная спроба!.. «Знайшла б ты сабе для розыгрышаў каго маладзейшага. Мяне, мілая дзяўчынка, як таго старога вераб'я, на мякіне не правядзеш»,— падумаў Богша.

— Спакусліва,— каб не выглядаць чалавекам, якому незнаёмы гумар, крыху памаўчаўшы, сказаў ён.— Аднак безнадзейна...

— Чаму, Богша?.. Ці, можа, вы думаеце, што я жартую? — спытала Люба, і Лазар Богша раптам зразумеў, што яна і сапраўды не жартуе.

— Ну, і дзяпёчак выпаў! Звар'яцець можна!

— Паслухай, дзетка,— загаварыў ён тым паблажлівым тонам, які памагаў трымаць на адлегласці маладых экзальтаваных паклонніц,— я, здаецца, зусім не падобны на выхавацельку дзіцячага сада...

Люба засмяялася звонкім, вясёлым смехам, як і тады, калі яны спаткаліся ў музеі.

— Мне васемнаццаць гадоў, і я заканчваю сёлета першы курс тэатральнага інстытута. Я — дарослая, Богша,— сказала яна з непрадбачанай су'ёзнасцю.

— Ага, зразумела, табе, няйпачай, прапанавалі на дом эцюд: сварлівая жонка ў сучасным інтэр'еры, а партнёр — па абставінах,— прадаўжаў ён насмешнічаць, хоць, папраўдзе, размова пачынала яго непакоіць.

— Не трэба практыкавацца ў красамоўстве, Богша,— паўшчувала яго Люба.— І не трэба прыкідвацца, нібы ты насур'ёзна паставіўся да маіх слоў. Ты разгубіўся, а можа, і спалохаўся. Але мяне не трэба баяцца. Я буду добрай жонкай і таварышам...

Люба незаўважна для Богшы перайшла на даверлівы тон, нібы яны даўно знаёмыя. Богша і сапраўды быў разгублены.

— У мяне была жонка, і другой такой не будзе,— сказаў ён з цяжкаватай і нязграбнай сур'ёзнасцю, жадаючы захінуцца ад нечаканай прапановы.

— Я ведаю, што была,— адказала Люба.— Але ты, Богша, лішне безабаронны, і табе патрэбна такая жонка, як я. Так што дарэмна ты не хочаш маёй падтрымкі. Ды я і не дазволю, каб ты застаўся адзін у коле варожых табе людзей. Камусьці трэба абараняць цябе ад розных нечаканасцей, каб ты мог спакойна займацца мастацтвам...

Лазар Богша быў уражаны. Але яго і забаўляла гэтае сватанне. Як у нейкай буф-камедыі. Каб пабачыў такое на сцэне, папракнуў бы аўтара ў празмерным захапленні выдумкай.

— А што, можа, рызыкнуць? — весела сказаў ён і абняў Любу.

Яна надзіва лёгка вызвалілася з ягоных абдымкаў.

— Пакінь гэтыя абдымкі для дурніц,— павучальным тонам сказала яна.— Я не абыдзеная ўвагай сексуалка, якая кідаецца хоць пад мужчыну, хоць пад аўтобус... Мне патрэбны разумны муж...

— Ідзі ты да д'ябла,— напаўжартам сказаў Богша.— Знайшлася мястэчковая амазонка, якая яшчэ нешта выбірае... А калі я не хачу быць тваім мужам? Ты хоць пра гэта падумала?

— Найперш за ўсё,— адказала Люба.— А цяпер добранька паслухай, чаму мы павінны быць разам...

Яна так і не зняла асады, пакуль Богша не здаўся...

* * *

Тэлефонны званок — доўгі і пранізлівы ў начной цішы — разбудзіў Лазара Богшу.

— Гаварыце,— загадаў сонны голас, і адразу пачуліся чыесьці няўцешныя рыданні, аж у Богшы забегалі па спіне халодныя мурашкі.

Ён моўчкі, са страхам слухаў, як нехта плача, і ніяк не мог даўмецца, хто плача і чаму? Яму здалося, што і пачуты званок, і сонны голас, які загадаў гаварыць, і гэтыя рыданні па тэлефоне — звычайная галюцынацыя, працяг кашмарнага сну, які дасюль сніцца.

Богша раптам заўважыў у люстэрку чыйсьці адбітак з напалоханымі вачамі і аж уздрыгнуў. Было такое ўражанне, нібы ён вар'яцее і ўжо, можа, страціў розум. Яму зрабілася так жудасна, што закалола ў патыліцу. Боль тым часам быў жывы, а таму рэальны. Ён і не даў Богшу страціць раўнавагу.

Няйначай, падсвядома ўзнікла думка, што памёр Доля

і Соф'я Ігнатаўна звоніць, каб паведаміць аб смерці. Здагадка была зусім недарэчная — Соф'я Ігнатаўна, прыкутая да ложка цяжкай хваробай, не магла пайсці на пошту, а тэлефона ў іх не было,— але яна хоць нешта праясняла. Напрыклад, тое, што ён, Богша, не трызніць.

— Не трэба плакаць,— прачулым ад перапуду галасам сказаў ён,— парушаць вечны спачын чалавека, які не меў спакою на зямлі.

На ягонае здзіўленне, рыданні абарваліся.

— Праўда ваша, Лазар Васільевіч, не трэба плакаць... Але ж і цярпець не стае сіл...

Голас быў Долеў. Лазар Богша адчуў, як зноў яго ахапіў страх. Голас Долі як бы даносіўся з таго свету. А можа, гэта ён, Богша, знаходзіцца на тым свеце, у царстве ценяў і вечнага сутоння?

Лазара Богшу ахіналі прывідныя прыцемкі. Аднекуль, праўда, прабівалася чырванаватае святло, як з пякельных печаў, у якіх падсмажваюць грэшныя душы. Але яно здавалася нерэальным.

Богша інстынктыўна працягнуў руку, з усяе сілы пацягнуў за шнурок свяцільніка. Яркае святло ўспыхнула на сцяне, аж разанула па вачах.

Не, чорт пабяры, ён не трызніў. Усё адбываецца наяве. Долеў голас таксама.

— Што здарылася, Рафаіл Міхайлавіч? — спытаўся ён ахрыплым ад хвалявання голасам.

— Лазар Васільевіч, родненькі... Згубілі мы Зосечку... Соф'ю Ігнатаўну...

Доля ўсхліпнуў. Лазар Богша не ведаў, што трэба гаварыць у такіх выпадках. Спачуваць?.. Якімі словамі?.. І ўжо зусім развважліва падумаў, што Любы няма дома і яму давядзецца ехаць на пахаванне. Ехаць не хацелася.

— А Люба за мяжой,— сказаў ён, даючы зразумець, што сам ён не можа прыехаць.

— Лазар Васільевіч,— узмаліўся Доля,— прыязджайце, бо я разгублены да памутнення розуму...

Богшу стала няёмка. Ён раптам пачуў сваю і Любіну віну перад Долем і Соф'яй Ігнатаўнай. Яны з Любай зусім забыліся на старых, што засталіся ў глухім мястэчку, у былой царкве, якая стала музеем, быццам і Доля і Соф'я Ігнатаўна таксама музейныя экспанаты, на якія, адзін раз глянуўшы, можна забыцца.

— Ну, канечне, канечне, я прыеду,— паспешліва пагадзіўся ён.

Гадзіны праз чатыры Богша прыехаў у мястэчка на таксі. Ужо бралася на золак, і ў хатах свяціліся агні. Кволенька асвятлялася і акно ў пакоі Соф'і Ігнатаўны. Богша заглянуў у яго. Перад партрэтам у багетавай рамцы гарэла свечка. На крэсле сядзеў Доля, абхапіўшы галаву рукамі. Богша ціхенька пабарабаніў у шкло.

— Я так чакаў вас,— абдымаючы Лазара Богшу, сказаў Доля.— Яна сканала ў бальніцы. Я пайшоў дамоў павячэраць, прыходжу, а яе ўжо няма.

Лазар Богша як умеў супакоіў Долю...

Хавалі Соф'ю Ігнатаўну назаўтра. Лазара Богшу засмуціў да бязлікасці спрошчаны абрад пахавання. Ні прамоў, ні аркестра, ні вянкоў, ні кветак. Белую, збітую з габляваных дошак труну паставілі на грудок зямлі. Нейкая бабуля папырскала магілу вадой з бутэлечкі. Двое дужых мужчын узяліся за канцы вяровак, паціху апусцілі труну ў ашчэраную зяпу магілы.

І зноў Богша адчуў сваю віну перад нябожчыцай. У мітусні будняў, у вечным чалавечым эгаізме ён так ніколі і не пагаварыў з Соф'яй Ігнатаўнай. Яны з Любай жылі самі па сабе, Соф'я Ігнатаўна з Долем самі па сабе. Як чужыя.

На памінках ён выпіў заведзеных па абрадзе тры чаркі, непрыкметна падняўся і выйшаў у музей. Яму хацелася пазбавіцца ад гнятлівай атмасферы памінак. То зноў было праяўленне эгаізму, але Богша і сапраўды не мог бачыць памінальнага стала.

У музеі ён пайшоў ад закутка да закутка, думаючы пра здзіўляючую жывучасць рэчаў і імгненнасць чалавечага жыцця.

— А гэта ўсё яе, Зосьчына,— вывеў яго з задуменнасці Долеў голас.

Рафаіл Міхайлавіч стаяў на праходзе перад тым закуткам, дзе вісеў іканастас. Богшу ўразіла супярэчлівая гэтай горкай часіне дзіўная прасветленасць Долевага твару. А яшчэ больш уразіла, што музейныя рэчы належалі Соф'і Ігнатаўне. Тады, у першае знаёмства, Соф'я Ігнатаўна, наадварот, падкрэслівала, што рэчы збіраў Доля.

Сям'я гэтая ўсё яшчэ заставалася для Богшы таямніцай. Усе — Соф'я Ігнатаўна, Доля, Люба — былі такія непадобныя, нібы выпадкова сабраныя пад адным дахам. Богшу здалося, што яго знарок не дапускалі ў гэтую сям'ю, нібы ён быў з іншага свету. Зрэшты, падумалася Богшу, ён і сам не дужа імкнуўся нешта высветліць, нешта

вызнаць пра жыццё Долі і Соф'і Ігнатаўны. Ды ў каго ёсць цікавасць да чужых жыццяў? Людзі затаіліся па кватэрах, раздзеленых калідорамі, пад'ездамі, жалезабетоннымі камяніцамі. На працу ходзяць, каб працаваць, сварыцца з-за дробязей; на сходы, каб слухаць старанна напісаныя, да косачкі вывераныя прамовы; на юбілеі, каб гаварыць кампліменты, а назаўтра пасміхацца і з сябе, і з юбіляра...

Лазару Богшу захацелася спытацца ў Долі пра Соф'ю Ігнатаўну. Хто яна? Як трапіла ў гэтую глухамань?.. Што звязвала яе і Долю? Але нешта замінала. Ці не тая самая боязь парушыць замкнутае кола чужой тайны, не даць падстаў для цікаўнасці, для спробы зазірнуць і ў ягоны свет думак і адчуванняў.

Богшу падумалася яшчэ, што людзі старанна захоўваюць свае думкі, нібы баяцца выказаць іх уголас.

Чаму баяцца?.. А можа, і не баяцца, а гэта толькі так здаецца?.. «Не, чорта з два, сам я не вельмі люблю дзяліцца думкамі. І не таму, што яны ганебныя. Яны не лезуць у пракрустава ложа звычнага, прынятага...»

— Іканастас таксама належаў Соф'і Ігнатаўне? — спытаўся ён.

Доля нечага збянтэжыўся, быццам Богшава пытанне зачапіла ў ім непрыемныя згадкі. Ён зайшоў у закутак, выцягнуў насоўку, абмёў пыл з разной аздобы іканастаса, хоць Богша таго пылу і не заўважыў.

— Іканастас, як і многія іншыя рэчы, належаў некалі Аркадзю Аркадзевічу,— сказаў ён і, нібы раскаяўшыся, зацкавана глянуў на Богшу.

Лазар Богша зразумеў, што далейшыя пытанні, па крайняй меры, пра тое, хто такі Аркадзь Аркадзевіч, будуць нетактоўныя. Ды і што яму да таго, каму належаў іканастас, хто такі Аркадзь Аркадзевіч?

— Аркадзь Аркадзевіч быў мужам Соф'і Ігнатаўны... Да вайны...

Во, гэта сапраўды было нечакана!

Дасюль Лазар Богша з усёй жончынай біяграфіі ведаў толькі дзве акалічнасці: што яна па маці паходзіць з роду прыгонных актрыс Азарэвічавых, якія пачыналі сваю тэатральную кар'еру яшчэ ў прыгонным тэатры графа Зорыча ў Шклове, і што Любін бацька загінуў у вайну.

Зразумела, Соф'я Ігнатаўна магла выйсці замуж другі раз. Але Люба пра айчыма ніколі не гаварыла. Тады што хаваецца за Долевымі словамі?

У пакоі, дзе пaмiнaлi нябожчыцу, дзве местачковыя жанчыны моўчкі і без мітусні заканчвалі прыбіраць са стала. Зрабіўшы сваю справу, яны ўсё гэтак жа моўчкі пакланіліся Долю, а той паднёс кожнай па кашаміравай хустцы. І сам пакланіўся жанчынам.

Тыя пайшлі. Богша з Долем засталіся адны ў апусцелым і няўтульным пакоі.

— Бачу і разумею, Лазар Васільевіч,— пасля доўгага і надакучлівага маўчання сказаў Доля,— што вам не церпіцца як найхутчэй уцячы з гэтай юдолі жальбы і смутку. Але не адкажыце, пабудзьце яшчэ хоць дзянькі тры.

* * *

Назаўтра, як і належала па абрадзе, яны пайшлі на могілкі. Моўчкі ў журбе пастаялі над курганом свежай зямлі. Сярод занесеных снегам магіл курганок гэты выглядаў чорнай воспінай на белым твары зямлі. Закутыя ў жалезныя агароджы, нібы катаржане ў кайданы, чарнелі драўляныя і металічныя крыжы. Над імі гаманілі хвоі — шапталі малітвы на спачын чалавечых душ.

Лазар Богша аж здрыгануўся і азірнуўся наўкруг. Рафаіл Міхайлавіч стаяў ля магілы, апусціўшы галаву. У сваім няўцешным горы ён здаўся Богшу неад'емнай часцінай могілак — гэткая самотная статуя над прахам Соф'і Ігнатаўны. Лазару Богшу падумалася, што ён ужо ніколі не вернецца сюды. Нават на пахаванне Долі, калі той памрэ.

Думка была жорсткая, бязлітасная, як праўда. Ад яе хацелася збегчы на край свету.

— Я прайдуся па горадзе,— сказаў ён Долю, знарок называючы мястэчка горадам, бо Рафаіл Міхайлавіч не любіў, калі іхні гарадок называлі мястэчкам.

Богшу здавалася, варта яму заглыбіцца ў местачковыя вуліцы, як непрыемныя думкі адступяцца, а ім завалодае памяць пра даўнія, але такія прывабныя дні кахання.

Аж не!

Панылы местачковы пейзаж нагнаў на яго такую маркоту, а гарадскія вуліцы, нечым падобныя адна на другую, такое гнятлівае, тупое раздражненне, што ён гатовы быў вярнуцца на могілкі і да самага вечара падзяляць з Долем няўцешны смутак. Ды раптам, як на ратунак, Богша прыгадаў зарачанскае раздолле і тут жа пайшоў да ракі.

Тады, у вясну іхняга дзіўнага кахання, якое больш

нагадвала непрымірымае проціборства дзвюх варожых сіл, яны з Любай кожны вечар садзіліся ў лодку, плылі да таго берага і ледзь не да раніцы хадзілі па зарачанскіх паплавах і лукавінах, высвятляючы свае ўзаемаадносіны.

Цяпер тыя вандроўкі ўяўляліся ці не ў ружовым тумане згадак — суцэльнае хараство і суладнасць закаханых душ. Таму, мусіць, думалася, што зарачанскае раздолле пад покрывам снегу выглядае зараз не проста прыгожа, а велічна. Але тое, што ён убачыў з крутога берага ракі, засмуціла яго.

Пасля нядоўгай адлігі, але з дажджамі і туманамі, снег прыпаў да зямлі, пабурэў і ўжо выглядаў не прывабным бялюткім пухавіком, а затаптанай, у дзірках, дзяругай, праз якую клоччам тырчэла леташняя трава.

Яму расхацелася хадзіць па поплаве, але і вяртацца назад не было як. Ён спусціўся па кручы на лёд ракі, пайшоў разбітым зімнікам да лесу, што зелянеў на даляглядзе — кіламетраў за чатыры.

Здаля лес выглядаў дасканалай акварэллю ў белай аздобе. Хацелася любавацца ім не на адлегласці, а зблізку. Але, калі Богша падышоў бліжэй, лес аказаўся няўтульным і брудным.

Богша, расчараваны ім, пайшоў дамоў з прыкрым адчуваннем, што згубіў навекі нешта дарагое.

Пакуль ён ішоў да мястэчка, кароткі зімовы дзень незаўважна растварыўся ў вечаровых прыцемках, дужа ціхіх, шэрых і няўтульных.

Рафаіл Міхайлавіч паліў пакаёвую печ, седзячы на ўслончыку перад топкай. Ён быў задумлівы больш як звычайна — нават не азірнуўся, калі Богша, заходзячы ў кватэру, грукнуў дзвярыма.

Лазар Богша прысеў на крэсла побач з Долем, каб палюбавацца полымем у грубцы. Было прыемна адчуваць, як агонь лашчыць твар і па ўсім целе разыходзіцца пяшчотная цеплыня. За адзін дзень такога хараства можна было б ахвяраваць двума днямі ўсяленскага суму.

Яны сядзелі моўчкі, цярпліва і доўга. Стары гадзіннік, што нячутна пагойдваў маятнікам, сіпата прабіў два разы, адлічыўшы палову і поўную гадзіну.

— Я паеду дамоў заўтра раніцай,— сказаў Богша, нібы разважаючы ўголас.— Было б найлепш, каб і вы паехалі са мной. Можа, не зараз, крыху пазней... Тут вас чакае адзінота...

— Я не адзінокі,— азваўся Доля.— У мяне музей...

Лазар Богша ўсміхнуўся.

— Я кажу пра людзей...

— Людзьмі я таксама не абдзелены,— запярэчыў Доля.

— Вам было б добра ў нас... А на гэтыя музейныя рэчы знойдзецца гаспадар.

— Будзем вячэраць,— прапанаваў Доля.

Яны сядзелі за сталом у суровай маўклівасці. Лазар Богша незаўважна назіраў за Долем. Пры электрычным асвятленні той выглядаў блага: некалі крамяныя, са здаровай пунсовасцю шчокі адрузлі, пабляклі, і цяпер на іх выразна выступалі склератычныя капіляры — барвовасіняватая сетачка жылак пад жаўтлявай маршчыністай скурай; згаслі і Долевы вочы, прыкрыліся падпухлымі павекамі пад рэдзенькімі вейкамі; ды і ўся Долева пастава, калісьці стройная, згорбілася, сціснулася, як высушаны грыб.

«Сапраўды, куды яму ехаць,— падумаў Богша, і ад спачувальнай думкі кальнула ў сэрца.— Няхай дажывае астатнія дні тут, а мы з Любай паможам, не забудзем...»

Пад уладай моцнага пачуцця, што нахлынула знянацку, Богша шчыра верыў, што так яно і будзе, што яны з Любай абавязкова паклапоцяцца пра адзінокага старога, хоць, папраўдзе, не ўяўляў, як яны будуць клапаціцца.

— Калі вам спатрэбяцца грошы, дык вы не саромецеся... Я зараз багаты,— пахваліўся Богша.

— Мне многа не трэба,— адказаў Доля.— Спажывайце самі. Вы — маладыя...

Лазар Богша ўсім нутром адчуваў, што гаворка гэтая вымушаная, з брыдкім душком няшчырасці, якая хаваецца за словамі спачування. Мабыць, тое ж адчуваў і Доля. Але абодва яны не маглі пераступіць бар'ер, узведзены імі яшчэ ў часе першага спаткання. Потым, кожны раз, калі яны сустракаліся, бар'ер гэты толькі вырастаў, як нарастае наледзь ля калодзежа, з якога часта бяруць ваду.

— Я, бадай, лягу спаць,— сказаў Богша.

Доля падхапіўся, каб паслаць ложак. Той самы, на якім ляжала Соф'я Ігнатаўна. Лазара Богшу аж страсянула, што павінен спаць на гэтым ложку, але ён не адважыўся папрасіць, каб Рафаіл Міхайлавіч паслаў яму дзенебудзь яшчэ.

— Дык вы ўсё ж заўтра едзеце? — спытаўся Доля, нібы толькі цяпер зразумеўшы сэнс сказаных Богшам слоў.

— Праца, нічога не паробіш,— адказаў Богша.

— Я хацеў што-кольвечы паказаць вам... Можа, прачыталі б...

Перспектыва гэтая — чытаць нейкую Долеву пісаніну — прыйшлася Богшу не даспадобы. Але сёння яму не хацелася адмаўляць Долю ні ў чым. І ўсё ж ён не стрымаўся, каб не пакпіць:

— Ці не раман напісалі, Рафаіл Міхайлавіч?.. А можа, сцэнарый у стылі італьянскага неарэалізму?..

— Ні тое, ні другое,— адказаў Доля, не заўважаючы кплівага тону.— Дык я, з вашага дазволу...

Нібы баючыся, што Богша можа перадумаць, Доля дастаў з камода стос тоўстых самаробных сшыткаў.

— Што гэта? — жахнуўся Богша.

— Маё жыццё,— адказаў Доля.

* * *

То, уласна кажучы, быў не мастацкі твор — раман ці аповесць,— а даследаванне, скрупулёзна праведзенае, багата аргументаванае,— навуковая праца па гісторыі, якой яшчэ не было, якую пакуль не напісалі дыпламаваныя навукоўцы, у якой Доля ўважліва разглядаў погляды іншых на гістарычныя падзеі, на гісторыю, а потым рабіў нечаканыя, часта зусім супрацьлеглыя традыцыйным, вывады, якія ашаламлялі Богшу. Магчыма, таму, што сам ён гісторыяй не захапляўся, хоць і ведаў яе няблага.

Зрэшты, назваць працу навуковай у тым сэнсе, у якім мы прызвычаіліся яе бачыць, дзе з зайздроснай упартасцю вытраўляецца кожнае жывое слова, таксама было рызыкоўна — могуць наклеіць ярлык дылетанта, аматара, а проста кажучы, далёкага ад навукі чалавека. Па цяперашнім разуменні, навуковай працай лічыцца ўсё, што недаступна зразумець простаму чытачу, што напісана строгім, гэта значыць казённым стылем, накшталт стылю інструкцый па пажарнай ахове, дзе ўсё старанна раскладзена па палічках, а кожны вывад недатыкальны, як малітва, які і запамінаць трэба, як малітву, калі хочаш атрымаць прыстойную адзнаку на экзаменах.

Долева праца нічога агульнага з навуковымі працамі дыпламаваных мужоў не мела і напаміне. Яна была напісана мовай, якая, па словах паэта, з кавалка шэрага жыц-

ця робіць салодкую легенду. У ёй былі не толькі факты, вывады — навуковая тканіна,— але займальнасць і пачуццё, якое дзеля аб'ектыўнасці вучоныя мужы таксама старанна вытраўляюць са сваіх навуковых прац.

Але якраз тое, што ў Долевай працы прысутнічала вось гэтае пачуццё, што яна была напісана не абыякавай рукой, а сэрцам зацікаўленага чалавека, і падабалася Богшу: гісторыя, сіла слова і пачуцця, ператвораная ў рэальнае жыццё, а не мёртвая схема, якой зрабілі (і ці толькі гісторыю) цяперашнія спаборнікі на атрыманне вучоных ступеняў.

Лазар Богша так і не заплюшчыў вачэй, чытаючы Долевы сшыткі, але так і не паспеў адолець іх.

— Я ўражаны вашай працай і вашай мужнасцю,— сказаў Богша за чаем, які было прынята піць тут раніцай.— Але, прызнаюся, не бачу, дзе вы надрукуеце яе. У выдавецтвах, дзе друкуюць мастацкую літаратуру, яе забракуюць як лішне навуковую, а ў навуковых — як лішне мастацкую...

— Вы паспелі прачытаць усе сшыткі? — спытаўся Доля.

— Не,— прызнаўся Богша.— Але я некалі дачытаю іх...

— Калі я памру, забярыце сшыткі,— папрасіў Доля.— Хочацца верыць, што некалі іх надрукуюць і будуць чытаць з удзячнасцю. Я хацеў адкрыць невядомы мацярык — нашу гісторыю ў яе рэальнасці, а не прыдуманасці на нейкія патрэбы...

* * *

У экспедыцыі, за тысячы кіламетраў ад Беларусі, куды па волі сцэнарыста быў закінуты герой новага Богшавага фільма, Лазар Богша атрымаў тэлеграму,

«Памёр Рафаіл Міхайлавіч».

Ні подпісу, ні даты, ні дня пахавання на сінім казённым бланку не было. Усяго тры словы: «Памёр Рафаіл Міхайлавіч».

Лазара Богшу ўразіла гэтая паштовая лапідарнасць, за якой хавалася жыццё, так і не разгаданае Богшам. Трагедыя, якая ўмясцілася ў трох словах! Во, дзе захаваны талент — у паштовым ведамстве!.. А мы захапляемся Хемінгуэем!..

Думкі, адпаведна падзеям, былі маркотныя.

А навокал уладарыў ліпень. Самы яго пачатак. І там,

дзе Богша здымаў фільм, праз усе суткі не заходзіла сонца. Яно абягала неба па крузе, нібы пляло вялізны прамяністы вянок.

Лазар паглядзеў на гадзіннік. Было васемнаццаць хвілін на другую гадзіну дня, а не ночы, бо па прывычцы яны захоўвалі распарадак сярэдніх шырот.

— Што будзем рабіць, Люба? — спытаўся ён у жонкі.

— Не захочаш жа ты зрываць графік здымак,— сказала яна, грыміруючыся перад кругленькім люстэркам.— Ды і ўсё адно спознімся на пахаванне, нават калі і дастанем білеты на самалёт. Але білетаў ты ні за якія грошы не дастанеш, бо зараз адпускная кампанія...

Не, Лазар Богша не хацеў зрываць графік здымак і тым самым пазбаўляць здымачную групу прагрэсіўкі. Ды, сапраўды, яны маглі спазніцца на пахаванне. Вядома, і білеты на самалёт не чакалі іх у аэрапорце горада, якога яшчэ не было на геаграфічных картах. І ўсё роўна ён не мог спакойна ўспрымаць разважлівую да ачмурэння жончыну правільнасць. Захацеўшы, можна даляцець на ўласных крылах, а яна сядзіць, старанна грыміруецца, быццам памёр не Рафаіл Міхайлавіч, а забыты людзьмі і богам жабрак у трушчобах Нью-Йорка.

Бязлітасна асуджаючы жонку, Богша злавіў сябе на думцы, што ён у душы задаволены яе катэгарычнасцю. Як гэта добра, калі нехта бярэ на сябе адказнасць! Яму зусім не хацелася перапыняць здымкі. Спыніся на дзеньдва і ўжо не вернеш былую прывабнасць сцэнарнага матэрыялу, а страціць натхненне, з якім зараз працуюць акцёры, можна і за лічаныя гадзіны.

Заведзеная машына здымак рушыла далей. Толькі праз два месяцы пасля тэлеграмы Лазар Богша завітаў у мястэчка, дзе жыў Доля. Мястэчка сустрэла яго бязлюднымі, прыціхлымі ў асенняй знямозе вулачкамі. Над парудзелымі і парадзелымі местачковымі агародамі чорнай хмаркай праносіліся шпакі перад тым, як паляцець у вырай. У садах спела садавіна, на градах чырванелі памідоры, а сярод жорсткага ўжо агурэчніку даспявалі вялізныя, бурыя ад загару насенныя агуркі.

Ды і ўсё навакол пачарсцвела: лісце, трава, кветкі, людзі...

Лазар Богша дайшоў да царквы-музея, спыніўся ў нерашучасці перад цяжкімі акаванымі дзвярыма: на іх вісеў вялізны замок, апячатаны яшчэ сургучнай пячаткай. Зачынены былі і тыя дзверы, што вялі ў пакойчыкі Долі.

На іх ляпіліся дзве сургучныя пломбы, што сведчыла пра тое, што апячатана і жыллё Долі.

Цяпер мястэчка зноў вярнула сабе сельсавецкі статут, які гадоў пятнаццаць замяняўся статутам раённым. Богша адправіўся ў пасялковы Савет, што разам з канторай саўгаса размяшчаўся ў былым «Доме ўрада», як местачкоўцы называлі будынак райвыканкома — двухпавярховы дом з калонамі і невялічкім кветнікам перад ім.

У пассавеце сядзела справаводка — касавокая рудая дзяўчына, якая нічога не ведала пра музейныя справы. Але яна падмелася паклікаць сакратара пассавета, і тая неўзабаве паявілася ў сівым, па модзе, парыку, які нагадваў буслінае гняздо. Звалі яе Еўдакія Еўдакімаўна.

— Рэчы можаце забраць,— сказала яна Богшу,— бо на іх ёсць распараджэнне завяшчальніка, як і на грошы ў ашчаднай касе на імя Любові Аляксандраўны Азарэвічавай, у замужжы Богшы...

Сакратар выпаліла ўсё гэта на адным дыханні, не прызнаючы ні паўзы між словамі, ні знакаў прыпынку — залпам.

У Богшы было Любіна даручэнне, аформленае па ўсіх патрабаваннях закону.

Еўдакія Еўдакімаўна ў прысутнасці панятых — мажнай жанчыны, бухгалтара саўгаса, і, падобнага на высахлы гарохавы стручок, мужчыны, які працаваў вартаўніком грамадскіх будынкаў пасялковага Савета,— адчыніла дзверы Долевай кватэры.

Лазару Богшу здалося, што па кватэры прайшоўся Мамай — пасля разгрому засталіся толькі два ложкі, засланыя старэнькімі коўдрамі, стол, за якім яны некалі пілі чай, дзве падстаўкі ды розны хлам — астатняе знікла. Не было і таго старэнькага камода, у якім ляжалі Долевы сшыткі — усё ягонае жыццё.

Пачынаць гаворку пра рэчы, якія былі непатрэбны ім з Любай, Богша палічыў лішнім. Але пра камод і сшыткі запытаўся. Еўдакія Еўдакімаўна пацiснула плячамі.

— Згодна вопісу, праведзеным у прысутнасці панятых, такіх за пассаветам не лічыцца,— сказала яна зноў жа залпам і звярнулася за падтрымкай да бухгалтара: — Можа, вы, Зінаіда Максімаўна, што-небудзь ведаеце пра камод і сшыткі?

— Рафаіл Міхайлавіч, пухам яму зямля, апошнім часам многія рэчы раздаваў людзям, якія памагалі яму,— сказала Зінаіда Максімаўна, і Богша адчуў у яе словах

дакор: маўляў, як даглядаць Долю, дык вас не было, а па рэчы прыехалі...

— Мяне, уласна кажучы, цікавяць толькі сшыткі,— пачаў тлумачыць Богша.— Рэчы я забіраць не стану. Распарадзіцеся імі па сваім разуменні.

— Аддайце іх грамадзяніну Буйкевічу,— параіла сакратар пассавета,— які рабіў труну.

— Дзякуй за падказку,— адказаў Богша.— У мяне ёсць яшчэ адна просьба: дазвольце заглянуць у музей...

— Наогул не паложана,— сумелася Еўдакія Еўдакімаўна.— Хоць, папраўдзе, нам гэты музей без патрэбы. Ды ён дасюль існаваў толькі таму, што нябожчык працаваў у ім на грамадскіх пачатках. А цяпер каму патрэбны такі клопат? Так што мы яго, лічыце, зліквідавалі. Чакаем паперу на поўнае яго закрыццё. З вобласці прыязджалі і нічым вартым не зацікавіліся.

— І кроснамі? — здзівіўся Богша.

— У іхнім музеі кросны ёсць,— адказала Еўдакія Еўдакімаўна.

— Але ж гэта кросны Кацярыны Лук'янаўны Азарэвічавай,— аж горача сказаў Богша.

— Гэта ж хто такая? — спытала сакратар пассавета.— Ці не супружніцы вашай бабуля?..

— Яна — актрыса імператарскіх тэатраў,— адказаў Богша, пакрыўдзіўшыся, што Еўдакія Еўдакімаўна не ведае, хто такая Кацярына Лук'янаўна Азарэвічава.— Дык я так і не пабачу музея?..

Еўдакія Еўдакімаўна вымушана была адчыніць дзверы. Лазар Богша прабегся паўз закуткі з экспанатамі.

— А дзе ж кросны?.. Іканастас? Кажаце, нікога не зацікавілі, а зніклі? — спытаўся Богша.

Еўдакія Еўдакімаўна абразілася.

— У нас усё па закону. Можаце пазнаёміцца з дакументамі, якія маюцца на гэты конт, каб не было якога непаразумення, бо мы людзі маленькія, нас кожны можа пакрыўдзіць,— зноў на адным дыханні адпарыравала яна.

Дакументы знаходзіліся ў пассавеце і аказаліся актамі і распіскай нейкага Ільі Сямёнавіча Качары, які «згодна прадастаўленай адносіны абласнога ўпраўлення культуры атрымаў перадапыя яму на захаванне рэчы, як іканастас, кросны, чатыры іконы, прадметы побыту, агульным лікам — чатырнаццаць адзінак».

Адносіны ўпраўлення, аднак, сярод дакументаў не было...

### *Эпізод трэці (працяг першага):*

### прадмова да няспетай песні

Музейныя рэчы, перагародкі, паліцы, вітрыны, стэнды і стэлажы — усё было вынесена з царквы, і яна, папрастарнелая, з недасягальнай шкляной столлю-купалам, праз якую былі відаць зоркі і сонца на фіялетавым небе, сустрэла Лазара Богшу гулкай цішынёй. Ён спыніўся, аглушаны гэтай урачыстай цішынёй, і тады заўважыў на сценах выслоўі ці, можа, афарызмы, напісаныя без ладу, ва ўсе бакі. Почырк быў вельмі знаёмы. Долеў. Напэўна, і выслоўі належалі Долю. Каму ж яшчэ маглі належаць гэтыя сентэнцыі!..

Задраўшы галаву, Богша пайшоў паўз сцены, чытаючы выслоўі:

«Лепей быць святым грэшнікам, чым грэшным святым».

Афарызм гэты быў напісаны над царскімі варотамі размашыста і ўпэўнена, можа, самы любімы Долеў афарызм.

«А хто святыя грэшнікі? — падумаў Богша.— Можа, тыя, хто піша, малюе, стварае музыку і кіно?.. У іхніх працах памяць часу. Вобраз часу. Сімвал часу. Партрэт часу. Яны пакідаюць будучым пакаленням свой боль і боль эпохі, сваю радасць і радасць людскога быцця...»

Падумаўшы так, Богша знайшоў на калоне выслоўе, якое нібы сцвярджала правільнасць яго думкі:

«Толькі злачынца перад тварам вечнасці можа апаганіць сваё тварэнне няпраўдай, няхай сабе і салодзенькай».

Далей Богша чытаў выслоўі, падоўгу не затрымліваючыся перад імі.

«Нават варона разумее другую варону. Хіба чалавечы розум такі бездапаможны, што чалавек не можа зразумець чалавека і падымае на яго бязлітасную руку?»

«Не дай, божа, сытасці, ад якой глухне сэрца, і пасады, якая слепіць вочы».

«Забойца не церпіць, каб прыгадвалі мінулае. «Каму гэта патрэбна?» — дзівіцца ён, не разумеючы, што праўда неабходна людзям, як паветра».

«Толькі вар'яты здольны ўслаўляць зло, у імя чаго б яно ні было зроблена».

«Яшчэ невядома, хто каго прыручыў: чалавек сабаку ці сабака чалавека. Сцеражыцеся трапляць у палон да прыручаных намі!..»

«Праца зрабіла чалавека рабом набытку — мастацтва дае яму магчымасць адпачыць ад пут рабства».

«Забярыце ўсё золата свету, але пакіньце мне песню — я буду шчаслівы».

«Безразважнасці храбрых пяём мы песню, але і асуджаем гэтую безразважнасць смелых».

Богша налічыў дзесяць выслоўяў і зарагатаў, нібы яго добра паказыталі. Вунь яно што!.. Доля — у ролі бога, які дае дзесяць запаведзяў чалавецтву!.. Ну, і Рафаіл Міхайлавіч, насмяшылі!.. Але дзе вы?.. Выходзьце, не хавайцеся за царскімі варотамі ў захрыстай...

Доля не азваўся. Тады Богша падышоў да царскіх варот і рашуча расчыніў іх. За імі не было ні прывычнага для царквы алтара, ні нават звычайных сцен. Як кінуць вокам прасціралася бялюткая, усланая снегам роўнядзь. У канцы яе, на самым даляглядзе, стаяў маленькі, з пазногцік, Доля ў чорным адзенні манаха, а можа, суддзі ці магістра акультных навук. Маленькі бог у вобразе чалавека.

Богша пайшоў па снезе, з цяжкасцю валочачы па ім ногі. Яму хацелася сказаць Долю нешта дужа важнае, і ён ішоў, наперакор свайму бяссіллю, задыхаючыся ад нейкага цяжару, што ціснуў на грудзі.

Ён быў ужо зусім блізка ад Долі, калі той раптам пачаў падымацца над полем, а ў яго за спіной вырас прапелер, які страшэнна загуў, затрашчаў, аж закалола ўвушшу. Рафаіл Міхайлавіч праляцеў над Богшам, насмешліва памахаўшы рукой. Гул яго прапелера памалу стаў заціхаць.

Богша хацеў скрануцца з месца, але ні ногі, ні рукі не слухаліся яго. Ён ірвануўся з усіх сіл і прачнуўся.

З неба ўсё яшчэ далятаў, прыглушаны адлегласцю, Долеў прапелер, а навокал яго, Лазара Богшы, прасціралася белая роўнядзь, і сам ён патанаў у бялюткім і мяккім снезе. Ён бачыў толькі свае плечы і адну руку, якая была засунута пад куртку. Другой рукі і ног у яго не было.

«Дзе я згубіў іх?.. На вайне?.. А калі яна пачалася і закончылася? І ці закончылася?.. Ці заканчваюцца наогул калі войны?» — з жахам падумаў ён і прачнуўся другі раз.

Аднекуль, як з глыбіняў акіяна, да яго неахвоча вярталася азяблая, хворая, нібы чужая, памяць. Яна памалу расстаўляла падзеі па іх звычных месцах.

Ён, Лазар Богша, сядзеў на ўчарашнім кастрышчы, засыпаны па самыя плечы снегам, які, няйначай, выпаў, пакуль ён спаў, а з-за лесу, што чарнеў па той бок возера, гулка стракочучы, ляцеў, падобны на вялізную страказу, верталёт.

Лазар Богша ўскочыў на здранцвелыя ногі, радасна замахаў рукамі, закрычаў па-дзікунску, што было сілы, не дзеля таго, каб яго заўважылі і пачулі — вельмі трэба верталётчыку звяртаць увагу на нейкага ідыёта, што заначаваў у лесе,— а дзеля таго, каб адчуць рэальнасць свайго існавання. Богшу ўсё яшчэ здавалася, што ён спіць і сніць дзесяць запаведзяў Долі, напісаных на сценах і калонах. Прытрызніцца ж такое! Захацеў бы прыдумаць, ніколі не дадумаўся б...

На ягонае здзіўленне, верталёт, праляцеўшы над ім, раптам павярнуў назад, рэзка крутнуўшы кароткім хвастом, завіснуў над палянай, дзе стаяў Богша, памалу стаў апускацца, раздзімаючы мяккі, неўляжалы снег.

Над палянай разгулялася завіруха. Халодныя хвалі паветра, што пагнаў з-пад сябе верталёт, ахапілі Богшу, працялі наскрозь ягоную сінтэтычную апранаху.

«Знайшлі дзе прызямляцца,— падумаў Богша.— Нідзе ад сучаснай тэхнікі не знайсці спакою... А што будзе далей?.. Можа, і ратунку ад яе не знойдзеш...»

Верталёт спружыніста прызямліўся на тры крывыя нагі, залапатаў, завуркатаў, зачыхаў, нібы той гуляка кот, які нарэшце дабраўся да цёплай печы. Ён яшчэ размахваў доўгімі лопасцямі вінта, як вятрак, паваленьі бурай на бок, а з яго чэрава ўжо нехта выскачыў на снег, бег да Богшы, размахваючы рукамі.

«Гэта ж Карней Карнеевіч Кладачка,— здзівіўся Богша, ніяк не здагадваючыся, чаму тут, ды яшчэ на верталёце, паявіўся дырэктар ягонага фільма.— Нешта, мабыць, здарылася: Карней Карнеевіч плача...»

У Карнея Карнеевіча сапраўды па шчоках каціліся слёзы. Ён падбег да Богшы, чамусьці стаў абмацваць яго, нібы хацеў пераканацца, што ўсё Богшава засталося пры Богшы.

— Лазар Васільевіч!.. Ах, Лазар Васільевіч!.. Жывы!.. Глядзіце, жывы! Радасць якая, Лазар Васільевіч!..

Ён абхапіў Богшу за плечы і тройчы пацалаваў, а потым прыпаў да Богшавага пляча.

— Карней Карнеевіч, ну, што вы сапраўды разнюніліся, як баба? Можа, нешта здарылася ў групе?.. Чаму вы тут і як дазналіся, што я пайшоў да трох дубоў?..

Богша бесцырымонна, як умеў рабіць толькі ён, адхіліў Кладачку. Той адразу ўзяў сябе ў рукі.

— Спачатку глыніце вось гэтага бальзаму,— сказаў Карней Карнеевіч, выцягваючы з кішэні славутую на ўсю кінастудыю сярэбраную пляшку з каўпачком-чаркай.— Не хапала нам, каб вы яшчэ прастудзіліся...

Богша глынуў проста з пляшкі гарачай пахучай вадкасці. Яна пракацілася вогненнай хвалькай па азяблым нутры. Лазару Богшу сапраўды стала цёпла і хораша.

— Дык вы што, па мяне? — спытаўся ён з наіўнасцю дзіцяці, якое не можа паверыць, што пачастунак прынеслі яму.

— Дайце рады,— пакрыўдзіўся Карней Карнеевіч,— мы ўсю ноч не спалі. Увесь лес аблазілі. Думалі, можа, вас ваўкі разарвалі... Яны ўчора пад вечар двух апошніх сабак звялі.

— Дык я іх бачыў,— захоплена сказаў Богша.— Ваўкі іх з'елі... Непадалёк ад мёртвага лесу... Жудасць!.. Я кажу пра лес... Ваўкі таксама...

Карней Карнеевіч, няйначай, не паверыў ніводнаму Богшаваму слову.

— Пойдзем, пойдзем, Лазар Васільевіч,— падагнаў ён Богшу.— Верталёт чакае... І так нам гэтая экскурсія ўляціць у капеечку... А пра ваўкоў і мёртвы лес можна пагаварыць і ў верталёце... Ды і госці чакаюць...

— Значыць, усё-такі нешта здарылася? — спытаў Богша.

— Дык жа начальства прыехала...

* * *

У холе прафілакторыя, патануўшы ў мяккім крэсле так, што каленкі, абцягнутыя ажурным капронам, тырчалі на ўзроўні падбародка, сядзела Тамара Змітраўна Накіпелава ў світэры тонкай вязкі, які павінен быў надаваць сухарлявай постаці спартыўны выгляд.

Тамара Змітраўна Накіпелава — галоўны рэдактар кінастудыі — і была тым начальствам, пра якое гаварыў Карней Карнеевіч Кладачка. Каля яе стаяў на каленях аўтар сцэнарыя Цімох Баравік-Залеўскі і нешта горача

гаварыў Накіпелавай — можа, чытаў маналог Усяслава Полацкага, а можа, прызнаваўся Тамары Змітраўне ў каханні.

Сцэнка іspралася яўна з гумарам, на які быў здатны Баравік-Залеўскі.

Лазар Богша не хацеў перашкаджаць Цімохавай гульні — хай бядак нацешыцца роллю закаханага рыцара. А Тамара Змітраўна, здаецца, успрымала ягонае скамарохства як прыемную прыгоду. Ну, і няхай!..

Пры ўсім тым, што між Богшам і Баравіком-Залеўскім узнікалі даволі частыя спрэчкі, калі яны абодва крычалі, як рэзаныя вепрукі, кляліся навек разысціся і сустрэцца хіба на тым свеце, яны не пераставалі сябраваць, паважаючы адзін у адным як дабрачыннасць, так і недахопы. То была не тая, цяперашняя дружба людзей, якія дасягнулі поспехаў і дружаць, пакуль маюць адзін у другім патрэбу, а калі такая патрэба мінае, тут жа забываюць адзін другога; дружба Богшы і Баравіка-Залеўскага трымалася на ўзаемных сімпатыях і антыпатыях, на тых прынцыпах, якія выпрацавала ваеннае ліхалецце, калі хадзіць у разведку можна было толькі з верным чалавекам, які не кіне ў бядзе.

Баравік-Залеўскі кончыў свой доўгі маналог, ярасна схапіў руку Тамары Змітраўны і гэтак жа ярасна цмокнуў у пярсцёнак — залаты, з дарагім каменем. Лазар Богша адразу ж выйшаў са свайго сховішча, каб Цімох часам лішне не захапіўся. Тамарай Змітраўнай захапляцца было небяспечна.

За час існавання кінастудыі галоўнымі рэдактарамі перабывала ці мала рознага народу. Былі сярод яго людзі здатныя, таленавітыя і нават геніяльныя, але ўсе яны надзіва аднолькава заканчвалі кіношную кар'еру — іх, як жартавалі студыйныя насмешнікі, «з'ядалі» разам з чаравікамі і гузікамі. Некалі і Баравік-Залеўскі быў «з'едзены» такім жа чынам, пакінуўшы студыі ў спадчыну Тамару Змітраўну Накіпелаву, якую ён невядома дзе знайшоў.

Тамара Змітраўна адплаціла свайму дабрадзею самым банальным спосабам — яна памагла яго «з'есці».

Пра Тамару Змітраўну па кінастудыі хадзіла ці мала анекдотаў і чутак, якім можна было верыць, але не варта было верыць. Што праўда, Тамара Змітраўна была жанчынай неўтаймаванай энергіі і даволі няўжыўчывага характару, але яна ўмела стварыць вобраз гэткай дзелавой, раскаванай, пазбаўленай забабонаў жанчыны другой пало-

вы дваццатага стагоддзя, так што «з'есці» яе было справай не простай.

Яна нешта пісала, нават выдавала напісанае, а выдаўшы, умела знайсці рэцэнзента на свае творы. Такім чынам стваралася ўражанне, што Тамара Накіпелава не толькі дзелавая жанчына, а яшчэ і творчая асоба. Між тым яе сапраўднае прызванне заключалася ў тым, каб кіраваць. Не ў тым сэнсе, каб нешта самой рабіць, а ў тым, каб раздаваць распараджэнні, ад якіх пры неабходнасці можна адмовіцца з неймавернай лёгкасцю; гаварыць заключныя прамовы, спажываючы чужыя думкі і выдаючы іх за свае; правіць гатовыя мастацкія творы і чым больш таленавітага аўтара, тым з большым імпэтам. Усё гэта сведчыла пра схільнасць Тамары Накіпелавай да графаманства. Але які графаман лічыць сябе графаманам? Наадварот, графаманы самыя ваяўнічыя людзі, бо перакананы, што толькі яны спасціглі вяршыні і глыбіні творчасці.

Убачыўшы Лазара Богшу, Тамара Змітраўна ссунула рэдзенькія рудаватыя броўкі, спытала тым сухім, казённым голасам, які яна лічыла за афіцыйны:

— З якой радасці вы дазваляеце сабе хваляваць здымачную групу і марнаваць дзяржаўныя грошы?..

Ёй хацелася з першых крокаў паставіць Богшу ў становішча падпарадкаванага чалавека, які можа апраўдвацца, але апраўданні якога не пойдуць у залік. Богшу, аднак, было нялёгка збіць з тропу.

— Я хадзіў маліцца тром дубам, каб бог Пярун падараваў нам снег,— аджартаваўся ён, не прыняўшы накіпелаўскіх правіл гульні.

— Слухай, стары,— расцягваючы кожны склад, каб надаць свайму слову значнасць, звярнуўся да Богшы Баравік-Залеўскі,— ці не да тых трох дубоў ты збіраўся пайсці, што ўпамінаюцца ў адным старым летапісе і ў легендах яшчэ паганскіх часоў?.. Мне абавязкова трэба пабываць каля гэтых дубоў. Мне хочацца ўставіць іх у сцэнарый перад эпізодам ад'езду Усяслава за Ршу. Хай ён прыйдзе да дубоў памаліцца і папрасіць благаслаўлення. Ну што?.. Ацэніш?..

— Ніякіх дубоў,— катэгарычна сказала Накіпелава, тым самым пазбавіўшы Богшу неабходнасці адказваць Баравіку-Залеўскаму.— Нам трэба спакойна пагаварыць. Дзе мы зможам зрабіць гэта?..

— Бадай, у маім пакоі,— адказаў Богша.— Жонкі якраз няма...

* * *

— Я не згодны,— рашуча заявіў Богша, выслухаўшы Тамару Змітраўну.— Банальна і пошла ўсё тое, што вы прапануеце. Вам хочацца зрабіць з трагедыі аперэту?.. Ну, і рабіце без мяне...

Накіпелава сядзела ў крэсле, адкінуўшыся на яго нізкую спінку. На катэгарычныя словы Богшы яна нават не зварухнулася. Для сябе яна ўсё вырашыла яшчэ да таго, як прыехала сюды. Можаш гарачыцца, таварыш Богша, усё адно будзе так, як сказала я!..

Вось гэтая ўпэўненасць асабліва разлютавала Богшу.

— Не трэба так катэгарычна,— улез у іхнюю гаворку Баравік-Залеўскі.— Абставіны не толькі дыктуюць — яны вымагаюць...

— Што вымагаюць? — закрычаў Богша, узлаваны згодніцтвам аўтара, якога Накіпелава паспела апрацаваць па дарозе на Сую.— Рабіць глупства?.. Я не магу зразумець аўтараў, якія гатовы ісці на любыя кампрамісы, абы толькі паставіць сцэнарый...

Баравік-Залеўскі пакрыўдзіўся.

— Дарэмна абражаеш,— сказаў ён, стрымліваючы сябе, каб не ўзарвацца.— Вы ўсе прыпіраеце нас, аўтараў, да сцяны, а потым патрабуеце, каб мы яшчэ заставаліся прынцыповымі. Мне, можа, кожнае слова даражэй, чым табе, бо яно выпакутавана. А вы, рэдактары, члены калегіі, рэжысёры, гвалтуеце нас, сцэнарыстаў, быццам мы нічога не ўмеем. Потым знаходзіце дапрацоўшчыкаў, такіх жа графаманаў, як самі...

Баравік-Залеўскі меў гэтую схільнасць пачынаць гаворку памяркоўна, а потым распаляцца да белага напалу.

— Зноў цябе панесла, як грэшную душу ў пекла,— апыніў яго Богша.— Ды зразумей ты, Цімох Макаравіч, што я адстойваю нашы з табой прынцыпы: твор не забаўка для публікі, а сябар па роздуме над часам і жыццём. Ці ты, можа, памяняў прынцыпы?..

— Тамара Змітраўна,— узмаліўся Баравік-Залеўскі,— скажыце вы, урэшце, гэтаму старому ўпартаму чорту, што і вас і мяне вымусілі на папраўкі, інача на карціне паставяць крыж,— Баравік-Залеўскі рашуча перахрысціў перад сабой паветра.

— Хто вымусіў?.. Лыкавязаў?..

— Лыкавязаў раіўся з Віктарам Самсонавічам,— адказаў Богшу Баравік-Залеўскі.

— І ты сам чуў, што Віктар Самсонавіч раіў Лыкавязаву? — спытаўся Богша.— Нарэшце, чаму Віктар Самсонавіч не мог пагаварыць са мной?

— Вас, рэжысёраў, многа, а Віктар Самсонавіч адзін,— замест Баравіка-Залеўскага адказала Накіпелава.

— Ну, добра, добра,— Богша схапіў са стала рэжысёрскі сцэнарый, папраўлены чыёйсьці няўмольнай рукой.— А што гэта такое?.. Які разумнік дадумаўся, каб князь Усяслаў гаварыў мовай, якую выдумваюць, каб было пад народ: «ась», «брысь», «дзевахі», «марухі», «Мань», «Тань», «Каць», «Вась»...— і яшчэ чорт ведае якая бязглуздзіца...

Лазар Богша мог гаварыць з'едліва, колькі яму захочацца. Накіпелава на такія маналогі не звяртала ніякай увагі, бо праўкі належалі ёй, яна лічыла іх выдатнымі знаходкамі, а таму стаяла вышэй Богшавай з'едлівасці.

— Ты, стары, крыўдзіш Тамару Змітраўну,— засцярог Богшу Баравік-Залеўскі...— Мы рабілі ўсё, каб неяк адстаяць фільм, бо Лыкавязаў быў настроены ваяўніча, і толькі слова гонару, якое яму дала Тамара Змітраўна, што ў сцэнарый будуць унесены папраўкі, дало магчымасць працягваць працу над фільмам.

Богша зразумеў, што Кірыла Лыкавязаў такі не на жарт усхадзіўся.

— Ліха з вамі, я згодзен,— раптам сказаў ён, выклікаўшы немалое здзіўленне ў Накіпелавай.— Але ў такім разе і я ўнясу папраўкі, і даволі рашучыя.

— Не, не! — запярэчыла Накіпелава.

— Тады закрывайце карціну,— сакануў Богша і не спяшаючыся закурыў цыгарэту.

У Лазара Богшы склалася ўражанне, што на кінастудыі адносна ягонага фільма няма адзінай думкі. Значыць, можна яшчэ засцерагчы яго ад таго нахрапістага, валявога рэдагавання, якое з зялёнага дрэва робіць тэлеграфны слуп. Ды і закрываць фільм, калі на яго выдаткавана столькі грошай, бадай, ніхто не стане. Тая ж Накіпелава згубіць прэміяльныя. Але папсаваць нервы Лыкавязаў пастараецца.

Накіпелава насцярожана паглядзела на Богшу: жартуе ці кажа сур'ёзна?

— Лазар Васільевіч,— сказала яна,— я не ўпаўнаважана рашаць усе пытанні. Хай гэта робіць дырэктар. Але мушу сказаць, што праўкі, якія зроблены, не могуць быць

адвергнуты. Інакш... Інакш мы спынім здымкі і паедзем на студыю, каб вырашыць усё на мастацкім савеце.

Гэта было сур'ёзна.

— Перанясём гаворку на заўтра,— здыпламатнічаў Богша.

— Дарэмна ты не згаджаешся,— паспачуваў Баравік-Залеўскі.— Я таксама маю права голасу.

— На заўтра дык на заўтра,— пагадзілася Накіпелава, няйначай, спадзеючыся да заўтрашняга дня перагаварыць з Лыкавязавым.

Развітаўшыся з гасцямі, Богша паклікаў да сябе Кладачку.

— Неадкладна выклікай тэлеграмай Любу,— загадаў ён дырэктару карціны.— Хай вылятае заўтра ж. Пачынаем здымкі...

* * *

Увечары, калі Накіпелава адправілася спаць, Лазар Богша паклікаў да сябе ў пакой Баравіка-Залеўскага.

Цімох Макаравіч аўсяным снапом паваліўся ў крэсла, спытаўся голасам, у якім не чулася вялікай надзеі:

— Можа, знойдзеш чым прамачыць горла?

— Кавай?

— Пайшоў да д'ябла,— агрызнуўся Баравік-Залеўскі.

— Каву п'юць усе інтэлігенты дваццатага стагоддзя,— пажартаваў Богша.

— Я не дасяг гэтага крывавага стагоддзя з яго войнамі, фашысцкімі дыктатарамі, дэмагогіяй, электроннай тэхнікай, атамнай энергіяй, вынайдзенай з мэтай забіваць жывое. Я застаюся ў дзевятнаццатым стагоддзі...

— Якое таксама не было абдзелена войнамі, шыбеніцамі для рамантыкаў, знішчэннем цэлых народаў, рабствам і прыгонным правам...

— Дазволю запярэчыць, рабства і прыгоннае права канала на прыканцы майго стагоддзя,— вяла запярэчыў Баравік-Залеўскі.— Але мы забраліся ў нетры схаластыкі, а я ставіў перад табой дужа канкрэтнае пытанне: ці ёсць у цябе чым прамачыць горла? Нават пасля гадзіны суіснавання з мадамай Накіпелавай мяне ахоплівае пякельная смага. А я, да твайго ведама, суісную з ёю аж цэлыя суткі, і маё нутро падобна на пустыню Каракум у летнюю спёку. Будзь жа велікадушны, адчыні шлюзы дабрыні сваёй, дабы блаславенная вільгаць грузінскіх вінаграднікаў абрасіла мае ссохлыя вусны....

Не, Баравік-Залеўскі заставаўся непаўторным: сумесь скамарохства, таленту і дабрадушнага прытворства.

Баравік-Залеўскі сапраўды быў таленавіты пісьменнік нейкай дзіўнай, аднаму яму ўласцівай раскіданай таленавітасцю. Ягоная першая кніга вершаў, у якой сярэдневяковая баладнасць, расквечаная сучаснай інструментоўкай верша і эпічнай выразнасцю лепшых паэм савецкага часу, нарабіла некалі нямала шуму. Думалася, Баравік-Залеўскі будзе і надалей працаваць на адкрытай ім урадлівай дзялянцы паэтычнай нівы, а ён раптам сігануў у эпічную прозу, здзівіўшы і тут сваіх прыхільнікаў не толькі багатай моўнай палітрай, але і багаццем думак, і захапляючымі сюжэтамі, і не ардынарнымі, у класічным стылі вобразамі. Потым ён захапіўся крытыкай, напісаўшы некалькі артыкулаў-эсэ, у якіх адкрыў здзіўленаму чытачу трох пісьменнікаў, якія не тое што былі забытыя, але творчасці якіх дасюль не надавалася належнай увагі. Некалі вось так прыгажосць лонданскіх туманаў адкрыў англічанам мастак Манэ. Адначасова Баравік-Залеўскі напісаў пяць ці шэсць п'ес, якія, праўда, надоўга не заваявалі сцэну, але гэта анічуць не сведчыла, што яны слабыя або наогул не вартыя ўвагі. Чэхаўская «Чайка» ў першай пастаноўцы, як вядома, правалілася на сцэне, але ж гэта зусім не азначае, што вінаваты Чэхаў. Наадварот... Што датычыць кіно, дык Баравік-Залеўскі працаваў у ім неахвотна, ды і кіно не вельмі ахвотна кідалася на ягоныя сцэнарыі. Можа, нават хацела б зусім не мець іх, бо гэта заўсёды заканчвалася нейкімі канфліктамі.

— Пасля такой дасціпнай і ёмістай прадмовы да працэдуры, якая на простай мове называецца цяпнуць, я здаюся,— аджартаваўся Богша і дастаў прыхаваную бутэльку сухога марачнага віна.

— Ого! — узрадаваўся Баравік-Залеўскі.

— У мяне ёсць прапанова,— сказаў Богша пасля нядоўгага маўчання, якое яму спатрэбілася, каб сабрацца з думкамі.— Як аўтар ты можаш яе не прыняць, але не спяшайся адвергнуць.

— Спадзяюся, ты не прапануеш мне жаніцца з Накіпелавай?.. Астатняе я прыму з належнай увагай...

Баравік-Залеўскі зрабіў глыток віна і смачна прыцмокнуў.

У гэтым быў увесь Баравік-Залеўскі з ягоным познявapварскім гурманствам, непамерна рамантычным захапленнем і сучасным нігілістычным адмаўленнем таго, што не

ўпісвалася зараз у ягоныя намеры або было непатрэбна яму — шляхетнасць, добра разбаўленая беларускай паблажліва-іранічнай сялянскасцю. Лазар Богша мог бы даўно прывыкнуць да дзівосаў пісьменніцкага характару, але прывыкнуць ніяк не мог. Сам ён любіў выразнасць у адносінах, хоць таксама нічога не меў супраць іроніі.

Сціплая іронія — адзнака беларуса, якому вечна даводзілася некаму падпарадкоўвацца: польскаму пану або рускаму чыноўніку, якія не цярпелі незалежнасці.

Але іроніі ніхто не мог адняць у беларуса, і ён карыстаўся ёю і ў будзень і ў свята, пакепліваў з сябе, з пана і чыноўніка, але не так, каб іх раздражніць, а найбольш каб сябе задаволіць.

Лазар Богша не стрымаўся, каб не пакпіць з Баравіка-Залеўскага:

— Яшчэ не далей сённяшняй раніцы адзін славуты паэт, стоячы на каленях у гэтым утульным холе, цалаваў ручкі і, як мне здалося, не маткі боскай, а грэшнай Магдаліны, што некалі прыкладала іх да паэтавай шыі, каб у пяшчотных абдымках задушыць яго.

— Не трэба, стары,— узмаліўся Баравік-Залеўскі.— Усе мы робім некалі глупства. Жахлівая слабасць чалавечага роду! Справа, аднак, у тым, што адны гэтае глупства заўважаюць і потым ім бывае страшэнна моташна, аж хочацца выць па-сабачы; другія яго не заўважаюць, і ім ніколі не бывае сорамна; трэція ж упэўнены, што іхняе глупства ёсць найвялікшае дасягненне розуму, і таму яны гавораць глупства з зайздроснай пастаяннасцю. Асцерагайся, Богша, гаварыць такім людзям праўду... У мяне быў сябар...

— Ён памёр? — пацікавіўся Богша.

— Смерць — з'ява адносная. Яна існуе кожнае імгненне, і яе няма ў бясконцасці Сусвету. Тое, што памірае, на самай справе жыве, але ў другім стане існавання. Таму смерць — гэта яшчэ і нараджэнне. Толькі глупства застаецца вечным і нязменным. На яго хварэюць жабракі і багацеі, бунтары і дыктатары, ідыёты і вучоныя. Толькі глупства багацеяў, дыктатараў і вучоных чамусьці некаторыя называюць мудрасцю, але тыя, хто называе дурасць мудрасцю, не вызначаюцца высокай маральнасцю... Дык я пра колішняга сябра. Аднаго разу ён стаў гаварыць прамовы і пісаць артыкулы, вучыць разумнейшых за сябе. Гэта было відавочнае кожнаму глупства, несусветная дурасць, але ён з кожнай прамовай або артыкулам усё больш

упэўніваўся ў сваёй геніяльнасці. І ведаеш, чаму ўпэўніваўся, бо разумныя не хацелі гаварыць яму праўды. Сляпому не адкрыеш вочы, глухому не пазычыш слыху. Чалавеку, які робіць глупства і абсалютна перакананы, што выпраменьвае геніяльнасць, бескарысна гаварыць праўду, як і папугаю, што вывучыў некалькі слоў. Што датычыць мяне, дык я сапраўды адчуваю моташнасць, бо разумею, што рабіў і раблю глупства. На жаль, не заўсёды ведаю, як рабіць нешта разумнае. Розум належыць толькі чалавеку, і таму ён абмежаваны. Каб побач з намі жылі яшчэ нейкія разумныя істоты — хоць бы дэльфіны або сабакі,— мы, бадай, не рабілі б столькі глупства... Даруй, я загаварыўся, як той цацярук на такавішчы, а ты, здаецца, хацеў сказаць нешта важнае, што больш адпавядае нашаму практычнаму часу.

— Мне хацелася паразважаць з табой над сцэнарыем,— сказаў Богша, уявіўшы, як падскочыць Баравік-Залеўскі ад ягонай прапановы: во ўжо чаго не любіў той, дык гэта нешта змяняць у сцэнарыі.

— Разважанні — перавага чалавека, якая часам прыводзіла яго да кастра, вяроўкі або кулі,— хмура сказаў Баравік-Залеўскі.

— І тым не менш рызыкнём,— зарагатаў Богша.— Мяне захапіла ў тваім сцэнарыі буйнасць жыцця, якое аднойчы абарвалася пад мячом...

— Я бясконца табе ўдзячны,— жартаўліва раскланяўся Баравік-Залеўскі.— Войны заўсёды абрывалі красаванне жыцця — бясконцая і страшная трагедыя, якой, здаецца, няма канца.

— Кожная вайна была апошняй, на гэта, прынамсі, заўсёды спадзявалася чалавецтва,— нагадаў Богша.— Чалавецтва заўсёды жыло спадзяваннямі. Новыя войны найперш за ўсё і забівалі людскія спадзяванні! Таму набатны звон не можа замаўкаць ні на хвіліну. Пакуль б'е набат, людзі не могуць заснуць.

— Ты меціш у званары?..

— Гусі некалі ўратавалі Рым. Я — Чалавек...

— І ты ўратуеш свет?

— Чалавек слабы, але ён, а не магутны леў, стаў уладаром зямлі...

— Уладаром, які можа знішчыць і самога сябе,— з горыччу сказаў Баравік-Залеўскі.— Я таксама не супраць быць званаром. Сцэнарый і напісаны з думкай пра чалавека-ўладара зямлі, які прагне стаць самазабойцам.

— Бітва на Нямізе адна з нікчэмных бітваў у мностве тагачасных бязглуздзіц...

— Каб зазняць горад, які згарае ў агні вайны, неабавязкова падпальваць яго. Дзеля гэтага робяць макет, які згарае за секунды, але зазняты на плёнку, ён уражвае гледача жахлівым малюнкам варварства. Я выбраў бітву на Нямізе — маленькі макет грандыёзных забойстваў на агромністай прасторы сусветнай гісторыі,— каб паказаць дзікую пачварнасць любога забойства, якіх бы памераў яно ні было. Смерць страшная і тады, калі гвалтоўна забіваюць аднаго і калі забіваюць мільёны. Мне аднолькава баліць Хірасіма і нікчэмная вайна нейкіх карлікавых дзяржаў дзе-небудзь у Афрыцы. Слёзы японскага дзіцяці, асірацелага ў Хірасіме, і афрыканскага, бацькоў якога забілі ў засценках юараўскай турмы, аднолькава салёныя, горкія і няўцешныя. На якое ліха мне патрэбна такая цывілізацыя, якая гучна крычыць пра гуманізм і забівае людзей. За што? У імя чаго? Што чалавек мае іншую веру? Другія погляды? Не той колер скуры? Імкнецца жыць інакш, як гэтага хоча нехта другі? Калі кучка людзей спрабуе навязаць сілай свае ўяўленні і свой спосаб жыцця, ды яшчэ выдае гэта за волю самога народа, мне хочацца крыкнуць: якая мана! Якое зладзейства! Якая крывадушнасць! Усіх, хто забівае, хто развязвае забойствы, якімі б прыгожымі словамі яны ні прыкрываліся, варта знішчаць, як шалёных сабак.

— Смерцямі расплачвацца за смерці? — спытаўся Богша.

— Хай! — аж бліснуў вачамі Баравік-Залеўскі.— Хай! А што рабіць, калі ў мільярдаў людзей зямлі хіба нейкія вартыя жалю тысячы вар'яцеюць ад прагі забіваць сабе падобных. З многіх тысячагоддзяў існавання цывілізацыі, дай божа, каб набралася паўтысячы дзён, у якія людзі жылі без вайны. Кроў, бруд, смурод — во што такое цывілізацыя, якой мы ганарымся, хай яна будзе праклятая! А ўсё таму, што нехта адзін — правадыр племя, цар, фараон, князь або яшчэ нейкі правіцель, што прысвоіў сабе права распараджацца лёсамі людзей, хлуснёй і манаю штурхаў народ на смерць у вайне. Яны паклалі на чалавека след самай злой істоты на зямлі. Якая несправядлівасць!

Баравік-Залеўскі меў яшчэ вось гэтую, уласцівую пачуццёвым натурам, звычку даводзіць свае выказванні да крайнасцей, якіх сам жа баяўся і якіх не дараваў іншым. Мусіць, такая ўжо натура паэтаў — перабольшваць і ў

гэтым перабольшанні выкрышталізоўваць ісціну. Богша ўмеў дараваць Цімоху ягоныя крайнасці не толькі ў выказваннях.

— Цывілізацыя — не толькі смурод і кроў,— усё ж запярэчыў ён, каб абараніць тую ж ісціну.— І войны — не толькі смерць і разбурэнні, але — гераізм і мужнасць, на якіх выхоўвалі мужчын, вернасць і міласэрнасць, на якіх вучылі жанчын. Яшчэ невядома, што сталася б з чалавецтвам, каб гэтыя якасці не выхоўваліся ў людзей.

Баравік-Залеўскі ўскочыў з крэсла. Ён любіў вось такія эфектныя парыванні.

— Ты, Богша — рэтраград і махровы кансерватар...

— Ну, так, так, я — кансерватар, а ты бунтар і нава-тар. Дык, можа, не ты, а я пагадзіўся з Лыкавязавым і Накіпелавай рабіць замест высокай трагедыі забаўку, пад модную музыку ў стылі рок?

— Ты супраць камедый? — апалым голасам, які выдаваў ягоную збянтэжанасць, спытаўся Баравік-Залеўскі.

— Я не супраць камедый, але не яны, а трагедыі і драмы ўслаўлялі народы. Трагедыя — высокі жанр, і дарэмна ім пагарджаюць — а можа, проста баяцца — лыкавязавы і накіпелавы. Так, так. Іхні ідэал — камедыя са зладзеюватымі, дурнаватымі, а зрэшты, проста нікчэмнымі персанажамі... Якая неабачлівасць! Якая мізэрнасць думкі! Якая зашоранасць погляду!.. Трагедыя зжыла сябе ў літаратуры!.. Ну, так, можа, і зжыла, але як пышна расквітнела трагедыя жыцця! Як жа можна такое не бачыць? — завёўся Богша, быццам выступаў на дыспуце перад вялізным натоўпам абыякавых слухачоў, а не перад адным, хоць і непаўторным Цімохам Баравіком-Залеўскім.— Што можа быць больш трагедыйным: кучка нейкіх авантурыстаў на чале з параноікам паварочвае вялікі народ сусветных геніяў на шлях забойстваў і войнаў, і той гіне, аддае на лютую смерць сваіх бацькоў, мацярок, сыноў і дачок, ды яшчэ крычыць пры гэтым славу свайму фюрэру. А ён хіба адзіны ў наш час, вось такі богам кляты фюрэр, які распінаў свой народ на крыжы ды яшчэ патрабаваў, каб яму крычалі «хайль» ці яшчэ якія словы ўдзячнасці за смерць.

— Што ты хочаш, Богша? — спытаўся Баравік-Залеўскі, зноў плюхнуўшыся ў крэсла.

— Найперш чаго я не хачу. Тваіх кампрамісаў. Лыкавязавы і накіпелавы прыходзяць і знікаюць, а творы мастацтва застаюцца на суд блізкіх і далёкіх нашчадкаў. Кам-

прамісы забіваюць мастацтва, якое належыць не нам з табой, а ўсяму народу. Цяпер чаго я хачу? Каб бітва на Нямізе, якую ты напісаў так ярка, што мне здаецца, нібы я загінуў яшчэ на крывавым нямігскім снезе больш як дзевяць соцень гадоў назад, была б толькі пралогам вялікага эпілога, які называецца старажытнай літаратурай. Я хачу зрабіць фільм па літаратурных творах старажытнасці і аб аўтарах гэтых твораў — цэлую эпоху адлегласцю ў два стагоддзі...

Баравік-Залеўскі весела заржаў, як той малады жарэбчык, якому ўдалося выпрагчыся з калёс і ўцячы ў поле. Можа, ён падумаў, што Богша разыгрываў яго, а можа, задума Богшы паказалася яму фальшывай нотай, якую пусціў дужа самаўпэўнены спявак.

— Ты ўяўляеш, пра што гаворыш? — усё яшчэ смеючыся, спытаўся ён.— На гэта спатрэбілася б стужка даўжынёй у «Семнаццаць імгненняў вясны». Хто ж дазволіць табе здымаць фільм без Шцірліца, але з манахам Ніканам, епіскапам Кірылам Тураўскім, князем Уладзімірам Манамахам, легендарным паэтам Баянам і невядомым нікому нават па імені аўтарам «Слова аб палку Ігаравым». Гэта неверагодна, Богша!..

— Чаму? — абурыўся той.— Да д'ябла займальныя сюжэты, якія ўзвінчваюць псіхіку і адвучаюць думаць над жыццём. Мастацтва — не забава для нядбайнікаў, а адбітак рэчаіснасці. Было б злачынствам перад будучыняй прыўзнімаць толькі краёчак жыцця, а не ўсё жыццё. Я хачу даць слова вялікім сведкам далёкіх часоў, што пакінулі след не толькі аб сабе, але і аб сваёй эпосе. Мне патрэбна ўсяго дзве часткі: адна — кандэнсат жыцця і смерці, другая — згустак чалавечага мыслення і чалавечай велічы.

Лазар Богша раптам пачуў, што ён страшэнна змарыўся за гэтыя дні жыцця на Суі. Мабыць, вось такую змораннасць адчувае няшчасны Сізіф, ускочваючы на гару камень, які, дасягнуўшы вяршыні, скочваецца назад.

— І ўсё ж гэта неверагодна,— памаўчаўшы, сказаў Баравік-Залеўскі.— Ты хочаш пераскочыць цераз сваю эпоху...

— Ну і што?

— Гэтага пакуль нікому не ўдавалася ні ў літаратуры, ні тым больш у кіно.

— Няпраўда!.. Удавалася! — горача запярэчыў Богша.— «Слова аб палку Ігаравым» таму прыклад. Ты дрэнна чытаў яго. У «Слове» ўжо восем стагоддзяў назад былі

аб'яднаны вялікія і малыя падзеі ўсёй пісанай гісторыі Русі. І як па-майстэрску!..

— А хто ж аб'ядпае іх у тваім фільме? — пацікавіўся Баравік-Залеўскі.

— Ефрасіння Полацкая,— адказаў Богша і ўбачыў, як вырачыліся і без таго лупатыя вочы паэта, які, здаецца, прывык да любых нечаканасцей кіношнай брацін.— Ты здзіўлены?.. Але ж ты сам падаў мне гэтую думку. Падаў і чагосьці спалохаўся. Чаго? Што Ефрасіння — князёўна? Дык я чытаў пра гэта ў аднаго барадача гісторыка са штучным, нянаскім прозвішчам і штучнымі поглядамі на нашу гісторыю. «Ефрасіння Полацкая не магла мець перадавыя погляды, бо была прадстаўніцай класа эксплуататараў». Не больш і не менш!.. Зручная пазіцыя, каб даказаць, што мы за сваімі плячамі нічога не маем, бо народ наш быў непісьменны і цёмны, а тыя, хто меў асвету, належалі да эксплуататараў, і таму іхнія погляды варта адрынуць. Вось мы і Іваны, якія не маюць ні традыцый, ні культуры, ні сваёй гісторыі. А можа, ты спалохаўся, што цябе западозрацъ у мясцовым патрыятызме?.. Лыкавязавы і накіпелавы і па гэтае здольны. Што ім з таго, што ў тыя далёкія часы не было такіх паняццяў, як Расія, Украіна, Беларусь, а была адзіная Русь, якую дзялілі на ўдзелы па сваіх прыхамацях князі? Ды і не ў тым справа. А ці задумаўся ты, чаму Кіеў, які вечна варагаваў з Полацкам, прылучыў Ефрасінню Полацкую да ліку святых усёй Русі?.. Ага, дайшло!.. Так, так, дружа, святых рабілі не за прыгожыя вочы. А пасля Барыса і Глеба, якія ўвасаблялі пакутнікаў за адзінства славянскіх народаў, гэта асабліва наводзіць на думкі...

— У цябе ёсць накіды? — спытаўся Баравік-Залеўскі.— Дай пачытаць.

Гадзіны праз тры, калі над Суяй стаяла глыбокая марозная ноч, Баравік-Залеўскі зняў акуляры, узняўся з крэсла і моўчкі, з пачуццём пацалаваў Богшу...

* * *

Мабыць, ён прадчуваў нешта, гэты таленавіты на нюх Кірыла Лыкавязаў. Ці адзін ужо раз Лазар Богша дзівіўся лыкавязаўскаму нюху — учуць у тваіх творах тое, чаго ты яшчэ і сам не пачуў.

Яны якраз паставілі апошнюю кропку ў цяжкім сачыненні, якое называецца кінастужкай, калі ранічкай да ганка прафілакторыя падкаціла чорная «Волга» з чатырма

літарамі на борце: «Кіно». Нібы слова гэтае было пропускам усюды і на ўсе выпадкі жыцця. «Волга» апісала крутую дугу вакол клумбы, на якой дзядзька Мікодым цяпер зрабіў нешта накшталт снежнай крэпасці.

Кірыла вылазіў з машыны не спяшаючыся, нешта гаварыў шафёру, нібы чытаў акадэмічную лекцыю, і ўсё рабіў, няйначай, дзеля таго, каб Карней Карнеевіч Кладачка, адміністратар Юрка Місюк, а найперш за ўсё сам Лазар Богша паспелі збегчы ўніз, у вестыбюль.

З акна другога паверха Лазар Богша з цікавасцю назіраў за артыстычнай непаспешлівасцю Лыкавязава, якую той разыгрываў з зайздросным талентам.

Богша ведаў, ні Карней Карнеевіч, ні Юрка Місюк не выбегуць сустракаць Кірылу Лыкавязава — яны паехалі ў калгас «Чырвоны партызан», кіламетраў за дванаццаць ад Суі, каб падрыхтаваць там прагляд знятай плёнкі. Калі і выбег бы хто, дык мастак-пастаноўшчык Тарас Жылех, але ён любіў раніцай паспаць, пакуль яму добра не грукнуць у дзверы. Выходзіла, сустрэць Кірылу Лыкавязава мог адзін Богша. Але ён не збіраўся ступіць хоць бы адзін крок насустрач.

«А трасцу табе,— цікуючы за Лыкавязавым, падумаў Богша.— Шмат будзе гонару, калі я пабягу цябе сустракаць. Знойдзеш дарогу і без мяне».

Кірыла нарэшце пайшоў да аздобленага керамікай ганка. Едучы сюды ён, па ўсім бачна, старанна прадумаў і што абуць, і што апрануць. Вядома ж, не дзеля яго, Лазара Богшы, а дзеля ягонай жонкі Любы. То быў даўні метад — праз жонку дзейнічаць на яго, Богшу. Аднойчы гэты метад прывёў да трагедыі. За Любу Лазар Богша, аднак, быў спакойны — яе халоднай разважлівасці можна было пазайздросціць. Але ў Богшавай душы варушылася паганае жаданне калі-небудзь размаляваць лыкавязаўскі твар сінякамі — зусім неінтэлігентнае і непахвальнае памкненне выраšаць спрэчку кулакамі. А што паробіш, калі апошняя дуэль адбылася гадоў, можа, сотню назад. Шкада! Яно і не блага часам было б правучыць якога хлюста, хоць здаралася і так, што якраз хлюсты забівалі абражаных імі людзей. А ўсё адно хлюст не паспіць у апошнюю перад дуэллю ноч. Хай адчуе пакуты сумлення, калі яно яшчэ дзе-небудзь затаілася ў закутках ягонай душы.

— Каго ты там выглядаеш? — спыталася Люба і падышла да акна.— Божа, Кірыла Мацвеевіч!.. Што ж ты стаіш?.. Трэба сустрэць...

Богша ўтрымаў яе за руку.

— Абыдзецца,— дужа спакойна сказаў ён.— Сустракаць начальства, якое глядзіць на гэтую сустрэчу як на даніну ягонай над табой перавагі, ёсць не што іншае, як узаемнае разбэшчванне. На парозе дома сустракаюць сяброў і гасцей, а ён не сябар і не госць. Прыехаў па справе як рэвізор ці правяральшчык, дык хай і адчувае сябе рэвізорам...

— Я прашу цябе,— тэатральна заламала рукі Люба.— Не трэба канфрантацыі...

Лазару Богшу стала смешна: жонка спрадвеку любіць вось такія славечкі: «канфрантацыя», «дэгустацыя», «сітуацыя»...

— Не, я адразу аб'яўлю яму вайну,— паабяцаў ён.

— Табе заўсёды патрэбна драматызацыя,— пакрыўдзілася Люба.— А мне надакучыла...

На калідоры ўжо чуліся галасы. Знарок гучны голас Лыкавязава і чыесьці жаночыя і мужчынскія — нехта ўсё ж сустрэў, хоць на калідоры, дарагога Кірылу Мацвеевіча.

«Можа, і праўда, не варта драматызаваць падзеі,— падумаў Богша і, скінуўшы світэр, другі раз за раніцу стаў чысціць зубы.— Усё не так балюча будзе для лыкавязаўскага самалюбства».

Люба ацаніла ягоную маленькую хітрасць, як на Богшаў погляд, дык дробязную подласць. Ну і хай!.. Што паробіш? Лепей бы сустрэць Кірылу ў штыкі. Але каму і што дакажаш? Сабе ж абыдзецца даражэй...

У дзверы пастукалі. Люба паспяшалася сказаць традыцыйнае «заходзьце». Кірыла Лыкавязаў зайшоў надзьмуты: яму хацелася схаваць незадаволенасць за маскай засяроджанасці і заклапочанасці, але гэта ніяк не ўдавалася. Затое на ягоным твары заблукала зларадная ўсмешка, калі ён пабачыў Богшу ля мыцельніка. А як жа! Ён, Кірыла Лыкавязаў, божай міласцю адзін з кіраўнікоў студыі, праехаў каля двухсот кіламетраў і застаў рэжысёра ледзь не ў ложку. Ну і работнічак!..

— Позна спіцё, таварыш рэжысёр,— па-свойску, з адценнем гэткага бацькоўскага ўшчування, загаварыў ён, прыкладаючыся губамі да Любінай рукі.— Так некалі можна праспаць і сваё шчасце...

Намёк быў дужа празрысты і абразлівы. Маўляў, глядзі, Богша, не згубі Любу. Ды Лыкавязаў забыўся пра Кацярыну Ляўдак — даўнюю трагедыю, якой магло і не быць.

Богша ледзьве стрымаўся, каб не нагадаць пра Кацю.

— Мы сёння адбіраем дублі,— сказаў ён, старанна паломчучы рот.

— Ну?.. Уцэліў! — роблена здзівіўся Кірыла Лыкавязаў.

Ад Богшы не схавалася гэтае прытворства. Нехта ўсё ж з ягонай групы паведаміў Кірылу Мацвеевічу пра сённяшні прагляд. Во ўжо недаравальнае зладзейства: з любоўю пазіраць табе ў вочы і даносіць пра кожны твой крок. Хто б гэта мог?.. Чаму я падумаў, што даносчык глядзіць мне ў вочы з любоўю?

Здагадка кальнула ў самае сэрца. Няўжо яна? Люба? Не можа быць!.. Лыкавязаў якраз гаварыў Любе кампліменты, і яна аж млела ад ягоных слоў — банальная гісторыя, якая абаім ім здаецца непаўторна шчырай.

— Гэтага ад цябе не адымеш — навучыўся цаляць у дзесятку,— сказаў Богша.

— Я зусім не збіраўся ехаць, але ўчора, на прыканцы рабочага дня, пазваніў Асташонак. Ён вельмі занепакоены тваёй карцінай. Вось я і тут,— крыху запознена растлумачыў Лыкавязаў свой нечаканы візіт.

Можа, і так. Кірыла Лыкавязаў і сам найчасцей не ведаў, дзе кажа праўду, а дзе хлусіць. Ягоная хлусня была працягам праўды, а праўда працягам прытворства і хлусні.

— Галоўнае, ты тут,— сказаў Богша.— Прычыны толькі дапамагаюць нашым задумам...

— Калі і дзе будзеце праглядаць дублі? — спытаў Лыкавязаў, не пачуўшы тое, чаго не хацелася чуць.

— Паснедаем і паедзем,— адказаў Богша. Ён надзеў світэр і папрасіў жонку: — Паклапаціся, каб сняданне падалі ў нумар...

Яму хацелася колькі хвілін пабыць сам-насам з Лыкавязавым, каб пагаварыць без сведак. Люба пастараецца не дапусціць шчырай гаворкі.

— Я таксама прайдуся,— адразу ўнюхаўшы небяспеку для сябе, сказаў Лыкавязаў.

— Ты — госць, і нікуды я цябе не пушчу,— як бы жартуючы, запярэчыў Богша.— У мяне на тое ёсць важкія прычыны...

— Ну, што ж, здаюся,— сказаў Кірыла.

— Паслухай, Кірыла,— пачаў Богша, як толькі за Любай зачыніліся дзверы, і пабачыў, як пабялеў Лыкавязаў. Значыць, здагадаўся. Тым лепей.— Аднаго разу я стаў па тваёй міласці ўдаўцом. Пад старасць мне не хочацца апы-

пуцца ў той жа ролі. Таму прашу — пакінь Любу ў спакоі.

— Ты звар'яцеў, няшчасны раўнівец,— спрабуючы ператварыць усё ў жарт, весела выгукнуў Лыкавязаў.— Глянь на мяне, калі не бачыш сябе: мы перакрочылі ўзрост заляцанняў да чужых жонак, якімі б прыгажунямі тыя ні былі...

— Не хлусі... Ты добра разумееш, пра што я кажу. Я не хачу, каб ты разбэшчваў яе мілымі бяскрыўднымі даносамі. Чаму табе не хочацца спытаць у мяне? Я не схлушу, нават тады, калі схлусіць было б выгадна. Я разумею, ты не паверыш мне, хоць бы я рассцяліўся ля тваіх ног. Той, хто прывык да крывадушнасці, не можа верыць у шчырасць і праўдзівасць другіх. Старая ісціна!.. Але ўсё ж лепей спытайся ў мяне, і я адкажу табе шчыра. Ты можаш выкрыць мяне, калі я схлушу, тады нашай дамоўленасці канец. А цяпер я не хачу, каб мая жонка служыла табе даносчыцай.

— Ты абражаеш жонку,— сказаў Лыкавязаў.— Ты ашалеў пад старасць. І яна і я хочам табе дабра...

Кірыла ўсё ж не вызначаўся абачлівасцю. Не стрымаўся і выдаў Любу. Яна ўсё ж дала знак Лыкавязаву, каб прыехаў. Навошта? Чаму? Паспрабуй адкажы на такое няпростае пытанне.

— Дабра?! І гэта называецца дабром?.. Ты хочаш хоць пад старасць скіраваць мяне на выпуск шырпатрэба дзеля справаздачы па валу і асартыменту. Дык я не рамеснік, а мастак. Ім нарадзіўся і ім памру. Я ўсё сваё жыццё імкнуся зрабіць такі твор, які быў бы варты майго часу. Хоць бы адзін твор, Кірыла! Не на забаву ці патрэбу сённяшняга дня, а на стагоддзі, дзеля тых, хто прыйдзе за намі праз сто, трыста гадоў і для якіх маё прозвішча не будзе шмат чаго гаварыць. Затое фільм скажа ім пра нашы думы і справы, пра наш час і пра нас...

Кірыла Лыкавязаў з несхаванай ірoніяй пазіраў на Богшу.

— Я мог бы пагадзіцца з табой: ну, так, так, вядома, трэба найперш дбаць пра гэтую даўгавечнасць твора. Але я не скажу...

— Таму што мы з табой удвух і ніякіх сведак? — здагадаўся Богша.

— Можа, і так... Дык вось, мой славалюбівы сябар, я прыехаў зусім не за тым, каб дыскутаваць з табою аб вечнасці і надзённасці мастацкіх твораў. Хоць не стану пазбягаць і адказу. Я не веру ў вечнасць любога нават сама-

га геніяльнага фільма. Глянь на стужкі Чапліна: класіка, якая не хвалюе. І нечага нам з табой лавіць жураўлёў у небе, калі навокал мноства сініц і толькі бяры іх рукамі. Я прыехаў...

— Я ведаю, чаго ты прыехаў,— перапыніў яго Богша.— Ну, так, я зняў не тое, за што сам некалі ўхапіўся. Была зачараванасць літаратурай. Але потым я зразумеў, што думка, закладзеная ў ёй, хоць і залатая, ды маленькая. Таму і зняў фільм пра грэшнікаў, якіх трэба называць святымі, пра тых, хто адкрыў людзям святло і свет, аддаючы сябе мастацтву, а не набытку, пра тых, хто насуперак твайму няверству, дбаў пра будучыню, пра вечнае жыццё сваіх тварэнняў, дзеля гонару нашчадкаў сваімі продкамі. Мала?..

— А хто дазволіў табе самавольнічаць?..

— Хто можа дазволіць ці не дазволіць мастаку напісаць, намаляваць, зняць твор занава? Хто? Ягонае сумленне. Болей ніхто. Калі ты лічыш, што ў мяне ёсць сумленне, дык чаго пытаеш, хто даў права адступаць ад майго ж рэжысёрскага сцэнарыя. Калі лічыш, што ў мяне няма сумлення, дык чаго мы тады дарэмна губляем час. Сапраўдны твор мастацтва, Кірыла, меней за ўсё належыць мастаку. Ён набытак народа, яго слава і гонар, бясцэнная каштоўнасць, якая праслаўляе народ.

— Мы з табой аратыя, якія павінны сеяць хлеб сёння,— сказаў Кірыла,— ганарыся гэтым.

— Праца аратага не цяжэйшая за маю,— не пагадзіўся Богша.— Хоць я не супраць таго, каб быць аратым.

Іхняя спрэчка магла не кончыцца і да вечара. Але ў пакой якраз уваходзіла Люба з афіцыянткай Мілай, ружовашчокім стварэннем, якое ўпрыгожваў старамодны какошнік.

Люба адразу здагадалася, што тут без яе адбылася лютая схватка. Яна з дакорам паглядзела на Богшу, але прамаўчала.

* * *

Чалавеку, незнаёмаму з тайнамі нараджэння фільма, прагляд адзнятай плёнкі здаўся б нясцерпнай катаргай — глядзі адны і тыя ж паўторы-дублі, якія нявопытнаму воку бачацца блізнятамі. Кіношнік глядзіць паўторы з увагай і задаволенасцю, заўважае ў іх найтанчэйшыя адценні акцёрскай ігры, аператарскай работы, рэжысёрскага

дырыжыравання, мастацкага афармлення, грыму, касцюмаў і яшчэ ўсяго таго, што стварае потым на экране ілюзію, блізкую да жыцця.

Калгасны клуб, у адрозненне ад цяперашніх каменных палацаў, быў стары, драўляны, падобны на вялізную стадолу, якую Карней Карнеевіч Кладачка яшчэ ўчора двойчы прапаліў, а сёння абсталяваў на патрэбу здымачнай групы, якой трэба не забаўляцца, а працаваць. У праходзе стаялі два столікі з лямпамі пад абажурамі, якія адбівалі святло строга ўніз, на белыя аркушы паперы, пакладзеныя для заўваг.

Лазару Богшу папера не была патрэбна. Ён яшчэ на здымачнай пляцоўцы вызначыў для сябе, які дубль удаўся, а які не ўдаўся. Але так ужо было заведзена ў групе — нехта з асістэнтаў ці мантажніца, калі яе прыдавалі групе, запісваў, які паўтор эпізоду трэба адабраць для далейшага мантажу.

Яшчэ на століках стаялі бутэлькі з вадой, не нарзанам, як бывала часцей, а нейкай без назвы і этыкеткі, што прадавалася ў буфеце прафілакторыя. Кіношнікі жартавалі, што яе рабілі па рэцэпце: два ржавыя цвікі на двухсотлітровую бочку вады, якую вытрымліваюць пры нармальнай тэмпературы аж тры дні. Піць яе, аднак, можна было, асабліва калі засядзеш на пяць гадзін без перапынкаў, якія Богша не хацеў аб'яўляць, каб не парушыць адзінства ўражання.

Эпізод за эпізодам, паўтор за паўторам цягнуліся бясконца доўга. Кіношная брація бязлітасна дыміла цыгарэтамі, і ўжо гадзіны праз дзве Карней Карнеевіч Кладачка загадаў на паўгадзінкі адчыніць дзверы ў вестыбюль. Нехта ж адразу пажартаваў, каб пазванілі куды трэба, што ў клубе нічога не гарыць, апрача тэрмінаў здачы фільма на дзвюх стужках, бо інакш можа прыехаць пажарная дружына.

Больш за ўсіх курыў Кірыла Лыкавязаў. Пасля першых дзесяці — пятнаццаці хвілін ён, як кіношнік, а не збоку прыпёку прышлы чалавек, пабачыў, што на гэты раз Лазар Богша пераўзышоў самога сябе — так без сучка і задзірынкі быў зняты кожны эпізод, кожны дубль. Але менавіта гэта і разгубіла Лыкавязава. Ён быў падобны на чалавека, які зайшоў на кухню, пабачыў смачную здобу, але ведае, што не можа, не мае права яе пакаштаваць, вымушаны шукаць адгаворку, чаму адмаўляецца адкусіць хоць бы кавалачак печыва. Нават пры ўсёй ге-

ніяльнасці Богшавай карціны Лыкавязаў не мог дазволіць, каб яна паявілася на экранах ужо толькі таму, што была знята насуперак яму, Кірылу Лыкавязаву, насуперак зацверджанага ім рэжысёрскага сцэнарыя. Дрэнныя прыклады прыліпчывыя.

Нарэшце апошнія метры дубляў прамільгнулі на экране, і адразу пад столлю загарэлася люстра, старая, на медных ланцугах, перыяду празмернасцей у архітэктуры. Звычайна, калі запальваецца святло, кіношнікі ўскокваюць з месц, весела гамоняць, віншуюць адзін аднаго з перамогай. Бывае, і разыходзяцца ціхенька, саромеючыся паглядзець адзін аднаму ў вочы. Цяпер усе сядзелі на месцы і маўчалі, быццам не насядзеліся за пяць гадзін сорак восем хвілін.

Фільм, якога яшчэ не было, які існаваў у разабраным выглядзе, як славуты інданезійскі храм у часе рэстаўрацыі, усё адно рабіў моцнае ўражанне. У кожным эпізодзе буйна красавала складанае, поўнае чалавечых страсцей жыццё, якое то трагічна абрывалася, то зноў набірала яшчэ большую сілу і прыгажосць.

Лазар Богша першы парушыў маўчанне. Ён павярнуўся тварам да кінабудкі.

— Вялікі дзякуй, Аксіння Раманаўна,— падзякаваў ён кінамеханіку.— Замарылі мы вас...

— Яна ў нас прывыклая, бо не менш за мяне любіць кіно,— адказаў з задніх радоў старшыня калгаса Ляўковіч.— А цяпер, дарагія таварышы, прашу да мяне. Жонка, мабыць, зачакалася, ды і вам час замарыць чарвячка.

Толькі цяпер да Лазара Богшы дайшло, чаму яны праглядаюць матэрыял не ў іншым клубе, а ў «Чырвоным партызане». Мацей Ульянавіч Ляўковіч быў страсным прыхільнікам кіно. І не проста прыхільнікам, які толькі любіць глядзець фільмы. Ён стварыў у калгасе сваю калгасную аматарскую кінастудыю, і, можа, таму, што такая студыя была, у калгасе не ведалі гора з рабочай сілай. І Лазару Богшу двойчы давялося бываць у калгаснай кінастудыі. Цяпер ён нарэшце ўгледзеў і калгасных кіношнікаў, якія ціхенька сядзелі на апошнім радзе.

Лазар Богша пажартаваў, што іх, бадай, многавата, каб умясціцца за сталом. Мацей Ульянавіч нават пакрыўдзіўся: што ён жабрак які ці скнарыга! Дзякуй богу, заробкі ў яго нядрэнныя і жыве ён багата, так што мог бы накарміць усю кінастудыю...

Кіношная брацыя, якая аднолькава вольна паводзіць

сябе ў павільёне кінастудыі і за банкетным сталом адказнага прыёму, на гэты раз адчувала сябе крыху скавана: Мацей Ульянавіч, салідна старшынствуючы за сталом, вёў не проста свецкую гаворку аб сучасным кіно, а такую, што прымушае таго ж кіношніка прыўзнімацца над прывычнымі дробязямі будняў. Нават Кірыла Лыкавязаў, які напачатку трохі паблажліва слухаў Мацея Ульянавіча, непрыкметна для сябе запаважаў яго за неардынарныя думкі і погляды.

Кароткі зімовы дзень непрыкметна сканаў за сценамі старшынёвай хаты. Трэба было вяртацца на Сую. Студыйны аўтобус ужо чакаў пасажыраў, якія няспешна развітваліся з гасціннымі гаспадарамі. Заставаліся якія хвіліны да ад'езду, калі Любе прыйшла ў галаву дзівацкая прыхамаць: паехаць на Сую тройкай калгасных коней.

Акрамя таго, што Мацей Ульянавіч быў прыхільнікам кіно, ён яшчэ апантана любіў коней, і, можа, на ўсю вобласць у ягоным калгасе мелася стайня пародзістых скакуноў. Лазар Богша разумеў, што Мацею Ульянавічу прасцей самому запрэгчыся ў сані, каб адвезці на Сую вядомую кінаактрысу, чым гнаць па снезе аж дванаццаць кіламетраў тройку коней, але ён ведаў і другое: старшыня не здолее адмовіць актрысе, ды яшчэ з патомства Азарэвічавых, праехаць на тройцы калгасных рысакоў. Лазар паспрабаваў угаварыць Любу адмовіцца ад свайго намеру, што было справай, бадай, безнадзейнай, як нечакана і не без намеру на яе бок стаў і Кірыла Лыкавязаў, няйначай, каб насаліць Лазару Богшу.

— А што? Яна таго заслужыла сваёй выдатнай ігрой.

Мацей Ульянавіч памуляўся, але здаўся, загадаў запрэгчы тройку ў вазок.

— Я сам пракачу вас,— паабяцаў ён, чамусьці пазіраючы толькі на Лазара Богшу.

— Без мяне,— сказаў Лазар і, каб не чуць упрошванняў, пабег да аўтобуса.

Яму саступілі месца побач з шафёрам. Той асцярожна вывеў машыну на дарогу, паціху паехаў па ёй, не запальваючы фар. Яны абсалютна не былі патрэбны: навокал усё ззяла пад месячным святлом. І толькі далёкі лес здаваўся чорным і вельмі таямнічым. Адтуль, з лесу, раптам паявілася хмара варання. У яркім святле поўні яны здаваліся чорнай хмаркай, што імкліва бяжыць з захаду на ўсход.

Яна гэтак жа як нечакана паявілася, так нечакана і

знікла. Лазар Богша зноў залюбаваўся наваколлем. Яму прыгадаліся даўнія, яшчэ даваенныя ночы, калі, бывала, з хлопцамі і дзяўчатамі вось так, толькі пеша, вярталіся дзе-небудзь у мясаед з вечарынкі. Божа, якое гэта было непаўторнае хараство і як даўно яно было!..

Дарога метраў за сто зварочвала налева ў аб'езд возера Суі. Лазару раптам прыйшло ў галаву, што было б добра не проста прыгадаць тыя колішнія вандроўкі з вечарынак дадому, а прайсці па возеры зараз, у такую непаўторную месячную ноч. Ён папрасіў шафёра спыніцца.

— І я з вамі,— сказаў Юрка Місюк, каб на ўсякі выпадак падстрахаваць свайго рэжысёра.

— Не,— запярэчыў Богша.— Мне трэба пабыць аднаму. Я прыйду ў прафілакторый раней за вас.

Сапраўды, дарога па возеры была разоў у дзесяць карацейшая за тую, па якой пайшла машына.

Лазар Богша спыніўся на горцы. Адсюль ужо былі бачны агні прафілакторыя. Яны ззялі, як светлякі, якіх, бывала, збіралі ў лесе, садзілі на лацканы пінжакоў. У цёмную ноч светлякі ззялі вось такім жа яркім месячным святлом. Бывала, на жнівеньскіх вечарынках усе танцуюць са светлякамі на грудзях — здаецца, мільгае бясконцае мноства маленькіх месяцаў...

«Усяму, аднак, ёсць канец»,— падумаў Богша.

Ён пайшоў па суйскім лёдзе, слухаючы, як пранозліва-звонка рыпіць пад нагамі снег. Было вельмі хораша, і ён пашкадаваў, што не дазволіў Юрку Місюку пайсці з ім. Хай бы пабачыў сапраўдную зімовую прыгажосць. Што яны бачаць, гэтыя цяперашнія гарадскія вундэркінды? Зорак і тых не бачаць...

За ягонай спіной, здалося, зусім побач, весела і звонка зарыпеў снег і пачуўся тупат конскіх капытоў. Богша здагадаўся, што тройка наганяе яго. Цікава, яны таксама паедуць кругом возера ці па лёдзе?

Богша азірнуўся.

Белая тройка, запрэжаная ў вазок, ляцела па заснежаным лёдзе проста на яго, Лазара Богшу...

# ЧАСТКА ДРУГАЯ:
## жывыя здані

### 1

Белая тройка, запрэжаная ў вазок, ляцела па заснежаным лёдзе проста на яго, Лазара Богшу.

Краем вока ён бачыў бліскучы дыск месяца, што каціўся па чорным небе, зграю варон, што кружыла над лесам, ды чуў, як коні б'юць капытамі аб выглянцаваную палазамі, бліскучую ў месячным ззянні дарогу.

Богша разумеў: гэта — канец, ягоная смерць. Ён памкнуўся закрычаць — можа, хто пачуе ці хоць апыніць коней,— але адчуў, што язык амярцвеў, не хоча слухаць. Ды і крычаць не было сэнсу. У белай заснежанай прасторы ён быў адзін. І нішто не магло ўратаваць яго. Нават цуд. Гэта ён таксама ведаў, як асуджаны на немінучую смерць. Ён стаяў на зімовай дарозе цераз возера Сую і чакаў, калі тройка белых коней саб'е яго з ног; было жахліва стаяць і чакаць уласную смерць, такую заўчасную і недарэчную.

Коні несліся вельмі доўга. Нарэшце ён убачыў перад сабой — буйным аператарскім планам — раздутыя храпы коней, з якіх шугала густая белая пара. Ён яшчэ падумаў, як бы прыгожа выглядала гэта на шырока-фарматным экране, але тут нешта выцяла яго ў левае плячо, адарвала ад зямлі, кінула ў працяг ночы. Болю, якога ён так баяўся, не было. Богша нават здзівіўся: смерць аказалася простай і бяскрыўднай, як пераезд на другую кватэру. Пераезд нават быў больш клопатны. А тут нішто. Кароткі ўдар у грудзі, лёгкі, нячутны палёт у нябыт, у другое і ўжо незямное існаванне.

«Калі да канца быць аптымістам,— падумаў Богша,— дык трэба прызнаць, што чалавечае існаванне не канчаецца пасля смерці. Яно толькі мяняе сваю форму. Сут-

насць — матэрыя, з якой створаны чалавек,— застаецца вечна. Замест мяне, кінарэжысёра Лазара Богшы, паявіцца мноства атамаў, малекул, хімічных злучэнняў, цвёрдых, вадкіх, газавых рэчываў, з якіх некалі зноў будзе ўтворана нешта жывое, нейкі новы Лазар Богша».

Ад гэтай думкі яму зрабілася весела і лёгка.

«А што, калі я толькі цяпер спазнаю тое, што схавана ад чалавецтва на зямлі, што з'яўляецца для яго адвечнай тайнай? — падумаў ён.— Першы і адзіны сярод людзей! Як гэта будзе здорава!»

Аднак жа радасць пратрымалася нядоўга.

«Дапусцім, я спазнаю тайну пазазямнога існавання, але ж усё адно пра яе не будзе каму і як расказаць. На зямлі так ніхто і не даведаецца, што мне аднаму была адкрыта гэтая тайна. Дык ці варта за яе расплочвацца жыццём? Валодаць тайнай і маўчаць — якая гэта несправядлівасць і бязглуздзіца! Але ж нямала людзей паміраюць так і не раскрыўшы людзям сваёй тайны. Бадай, кожны. Толькі ў адных тайна большая, а ў другіх меншая, але тайна абавязкова ёсць у кожнага чалавека, якую ён так і не раскрыў людзям. А хіба мала людзей расплацілася жыццём, заглянуўшы ў куфэрак з чужой тайнай? Ці не таму тайны пераажываюць людзей, эпохі, эры? Зрэшты, няма чаго пра гэта думаць, калі пакінуў ужо зямное існаванне. Лепей добра папрыглядацца да ўсяго, пазапамінаць, нават калі не давядзецца расказаць пра ўбачанае і пачутае жывым людзям».

Вырашыўшы, як належыць трымаць сябе, Богша азірнуўся па баках з надзеяй, што, можа, ён і не пакідаў зямное існаванне. Магло ж быць такое: коні падбілі яго, але не насмерць і ён ляжыць недзе на лёдзе суйскага возера і трызніць. Каб ён памёр, дык хіба мог бы думаць?..

Не, ён не ляжаў на лёдзе, а дзіўным чынам сядзеў у тым самым вазку, у які была запрэжана белая тройка. Ды існавала і сама тройка. Богша бачыў тры шырокія конскія крыжы, доўгія белыя хвасты, чорную са званочкамі дугу над карэннікам. Званочкі, аднак, не звінелі. І гэта вельмі падзівіла Лазара Богшу.

Здзівіла яго і другое, хоць і не павінна было, бо на тым свеце, вядома ж, усё новае, нязнанае. Побач з ім (Богша так і не паспеў разгледзець, адкуль і калі яны паявіліся) сядзелі дзве здані. Яны былі зусім зямныя, рэальныя і ўсё ж здані: адна ў белым, другая — у чорным адзенні. Рэальна выглядаў і фантастычны вазок — човен ці, можа, лод-

ка, на якой не толькі плавалі, але і ездзілі пад ветразямі нашы далёкія продкі.

Лазар Богша зноў падумаў, што, напэўна, уся гэтая чартаўшчына яму прыснілася, а можа, і цяпер сніцца. Каб пераканацца, ці так гэта, Богша пакратаў сябе за нос.

Не, ліха на яго, нос, хоць і халаднаваты, як у нябожчыка, усё ж быў ягоны, ды і рука была ягонай і не халоднай, як ёй належыць быць у нябожчыка, а цёплай, бо інакш як бы ён мог адчуць, што нос халодны?

Цяпер Богшу захапіла другая думка, нават не думка, гэта была ўпэўненасць, перакананасць. Нікуды ён не ляціць, ніхто яго не падбіваў, а едзе ён на «газіку» са здымак на начлег у гасцініцу, па дарозе заснуў, нешта прытрызнілася, і ён ніяк не можа пазбавіцца ад гэтага сонпага трызнення. А трызніцца таму, што ён ужо трэція суткі на здымках з тэмпературай, што за апошнія месяцы вельмі знямогся: недасыпаў, жыў на дэпрэсіне і нітрагліцэрыне, спаў толькі прыняўшы розную наркатычную дрэнь. Ён думаў надзіва лагічна, бадай, больш лагічна, як заўсёды. Ну, вядома, так яно і ёсць! Выдумаў вазок, коней, здані!.. А гэта ўсяго Люба, ягоная жонка, партнёрка, выканаўца галоўнай ролі, ягоная дрэсіроўшчыца і бог...

Богша абняў Любу за плечы, але рука прайшла праз яе, як праз туман. Гэта было вельмі непрыемнае адчуванне. Богша бачыў зусім рэальную жанчыну і больш чым абстрактную, нейкі міраж пустыні.

Тое ж самае здарылася, калі Богша штурхануў пад бок другога седака — мужчыну. Локаць свабодна праткнуў здань пад чорнаю апранахай.

Цяпер не даводзілася сумнявацца, што ён, Лазар Богша, усё ж памёр і знаходзіцца ў царстве ценяў, як казалі некалі старажытныя рымляне.

«Выходзіць, што нехта са старажытных людзей пабываў на тым свеце, што і яго везлі, можа, вось гэтыя самыя цені, якія сядзяць поруч з ім. Выходзіць, што чалавек калісьці здолеў вярнуцца ў зямное існаванне і расказаў пра той замагільны, незямны свет. Выдумаць цені было б проста немагчыма».

Цяпер заставалася высветліць, куды яго вязуць? Богша азірнуўся па баках. Іх вазок плыў высока-высока над зямлёй. У цемры ночы Богша добра бачыў заснежаныя, у лёгкай смузе палі, яркія агні сонных гарадоў. Ён задраў галаву ўгору, куды, па ўсім відаць, несліся коні. Над ім, у чорным небе, там, дзе яшчэ нядаўна свяціўся месяц, зеў-

рала даволі вялікая круглая адтуліна. Коні якраз і ляцелі ў гэтую жахлівую адтуліну-бездань.

«Дык вось куды вывозяць душы памерлых,— падумаў Богша.— Яшчэ імгненне, і коні вымчаць мяне не толькі за межы зямлі, але і за межы неба, на другі яго бок, у антысвет, у антыжыццё, антыіснаванне. Гэта, ліха на яго, даволі забаўна, хоць і дужа недарэчна, бо, відаць, з таго антысвету сапраўды ўжо няма звароту на зямлю».

Вазок тым часам крута завярнуўся, аж Богша ўхапіўся абедзвюма рукамі за барты, каб не вываліцца з яго на такой вышыні. На яго здзіўленне, пальцы адчулі цвёрдую аснову, а не туман, як было тады, калі ён кранаў здані. І добра, што ўхапіўся, што было за што ўхапіцца. Коні так імкліва нырнулі ў бездань — а можа, наадварот, вылецелі ўгору,— што ў Богшы аж дух захапіла. Так было, праўда, зусім не доўга. Неўзабаве пачалося даволі плаўнае апусканне, падобнае палёту на планёры.

Богша глянуў уніз. Яны ляцелі над лесам, асветленым халодным сінім святлом. Лазара Богшу ахапіла расчараванне. Тайны, аказваецца, няма. Ёсць люстэркавы адбітак зямной рэчаіснасці. Цікава, а ці ёсць тут смерць? Калі ёсць, ды куды адсюль адпраўляюць душы памерлых? Можа, зноў на зямлю? Во ўжо незайздросная перспектыва — боўтацца між двух існаванняў, якія вельмі падобны адно да аднаго.

Богша адчуў сябе бясконца ашуканым. У такія хвіліны ён звычайна станавіўся насмешлівы і нават іранічны.

— Наліха вы мяне сюды прывезлі? — спытаў ён у здані з той падкрэсленай іроніяй у голасе, якой звычайна карыстаўся на мастацкіх саветах, калі яму хацелі навязаць нешта супрацьлеглае ягонаму густу, ягонаму разуменню мастацтва.— Не маглі прыдумаць нешта больш арыгінальнае? У вас не мастацкая інтэрпрэтацыя найвялікшага акта, якім з'яўляецца смерць, а бяздарная інструкцыя пахавальнага бюро. Хто складаў, хто зацвярджаў гэты бездапаможны сцэнарый? Суцэльныя штампы! Ніякай выдумкі! Чарговы опус нікчэмнага графамана. Заезджаныя ў кіно тройкі коней. Дзірка ў небе. На каго вы разлічваеце? Хто рабіў вам эскізы да вось гэтага раннефеадальнага горада? Божа мой, якая безгустоўшчына! Ці, можа, у вас шануюць бездараў? Ну, што ж, з імі спакойна, асабліва ў вашым замагільным царстве. Ніякіх праблем. Бездары тым і добрыя, што не маюць сваіх думак. Наліха яны ім? Без думак жыць лёгка і проста.

Богша мог практыкавацца такім чынам вельмі доўга, бо яму ніхто не пярэчыў, і ён неўзабаве змоўк, крыху здзіўлены, што ягоныя словы не закранаюць за жывое зданяў.

Во дзіва! Абое пасажыры, як і коні, як і вазок, незаўважна зніклі. А можа, так і належыць на тым ці хутчэй ужо на гэтым свеце, пасмяротным для Богшы.

Ён стаяў адзін на скрыжаванні дзвюх вельмі вузкіх вуліц, сярод ночы, у незнаёмым і, папраўдзе, дужа дзіўным горадзе, здорава падобным на няўдалую кіношную дэкарацыю да гістарычнага фільма: ніякіх адвольнасцей — суцэльны натуралізм.

Было, мабыць, надта позна ці, наадварот, вельмі рана. У горадзе ніякіх адзнак жыцця. Нават сабак не чутно.

«Зрэшты,— падумалася Лазару Богшу,— у гэтым, па той бок зямнога існавання, горадзе жывыя істоты, што падыхаюць, а не паміраюць, напэўна, адсутнічаюць».

Не паспеў ён так падумаць, як недзе зусім побач азваўся певень. Голас у яго быў гарласты і, папраўдзе, вельмі прыгожы, як у ротнага запявалы, з якім Лазару Богшу калісьці давялося адбываць трохмесячныя зборы. Зрэшты, каб у пеўня быў і зусім паганы голас, Лазару Богшу ён падаўся б нашмат прыгажэйшы за славутага Каруза.

Дзякуй богу, што ў горадзе аказаўся певень! Калі ёсць певень, дык ёсць і чалавек. І ён, Лазар Богша, тады непадобны на героя крамераўскага фільма, які высадзіўся на бераг пасля атамнай бамбардзіроўкі...

Было даволі холадна. Калючы марозны вецер працінаў лёгкую Богшаву сінтэтычную апрануху наскрозь, да самых касцей.

«Вельмі зайздросная перспектыва памерці на лёдзе суйскага возера пад Полацкам і апынуцца ў невядомым сонным горадзе, на марозе, дзе толькі певень палічыў патрэбным вітаць маё паяўленне. Ну і парадкі! Як на кінастудыі. Прывезлі і кінулі! Падыхай, Богша, у другі раз на марозе. Але ж і не стаяць на месцы. Іначай, чаго добрага, і сапраўды можна замерзнуць... Чорт мяне ўхапі, мярцвяк жа не павінен адчуваць холад. А я яго чую. Што ж з гэтага вынікае? Што я жывы!.. Дапусцім, што жывы. Тады паўстае законнае пытанне: дзе я і што са мной адбываецца? Калі я жывы, значыць, не пакідаў зямлю, а на зямлі я працаваў на студыі і апошнім часам здымаў фільм у экспедыцыі пад Полацкам. Выходзіць, я і цяпер недзе пад Полацкам, а можа, нават у Полацку. Дык

што са мной адбываецца? На гэта адказаць значна цяжэй. Але адно бясспрэчна: у мяне мерзнуць ногі. Яны аж зайшліся ад холаду. Але ці бясспрэчна гэта? Суб'ектыўна — так. Але аб'ектыўна магчыма, што і не так. Мае суб'ектыўныя разуменні мастацкага вобраза, напрыклад, вельмі часта разыходзіліся з аб'ектыўнай ацэнкай мастацкага савета. Магчыма, маё адчуванне холаду таксама не ёсць аб'ектыўная ісціна, а нейкі перажытак зямнога суб'ектыўнага існавання?.. Ну і што, ногі ж мерзнуць, чорт пабяры, і вельмі натуральна! Дык і што, калі мерзнуць?.. А тое, што я найперш за ўсё павінен прааналізаваць свае паводзіны і дзеянні на працягу ўчарашняга дня. Па-першае, гэта патрэбна, каб пераканацца, ці помню я ўсё, што адбывалася ў мінулы дзень. Гэта надзвычай важна, бо памяць сведчыць, ці можа чалавек карыстацца назапашанай інфармацыяй, а значыць, і ці здольны ён свядома дзейнічаць. Па-другое, узнаўляючы падзеі мінулага дня, я буду мець магчымасць пераканацца, што нармальна мыслю, а значыць, яшчэ не страціў розум, што я не вар'ят. Чакай, чакай,— спыніў сябе Лазар Богша,— а хіба вар'ят сумняваецца, што мысліць ненармальна? І што наогул азначае мысліць нармальна? Так, як усе? Але ж мысліць, як усе, азначае мысліць стандартна, штампавана. Геніі таму і былі геніямі, што мыслілі не як усе. Дык што, яны мыслілі ненармальна?»

Падумаўшы так, Богша адчуў, што ў галаве нечага не стае, каб прыгадаць з усімі падрабязнасцямі падзеі прайшоўшага дня. Гэта падалося яму дзіўным. Ён яшчэ раз напружыў памяць, але толькі і ўспомніў, як напярэдадні пасварыўся з Любай. Яму стала шкада яе: бедная, прыедзе з Адэсы, а яго ўжо няма ў жывых.

«Цікава, а дзе паставяць труну з целам: на студыі ці ў Доме кіно? Глянуць бы хоць адным вокам на ўласныя хаўтуры. Дзівак, хіба не ведаеш, як усё будзе? Слёзы, посныя твары, прамовы па паперцы... Глупства! Што ж было пасля? Чакай, а ці не выклікалі мяне на мастацкі савет? Ага, выклікалі. Чаго выклікалі? Ну, вядома ж, не дзеля таго, каб папляскаць у далоні, а дзеля таго, каб пляснуць даланёй».

Яму самому спадабаўся прыдуманы афарызм. Варта запомніць і калі-небудзь выкарыстаць.

«Але ж і мароз, чорт яго пабяры! Трэба недзе прасіцца на начлег. На тым ці на гэтым свеце, а мерзнуць не варта».

Богша раптам засумняваўся, а ці можа ён хадзіць? Калі памёр, дык, натуральна, хадзіць не можа. Мерцвякі ходзяць толькі ў паданнях. Во калі можна абсалютна беспамылкова вырашыць, мёртвы ён ці жывы?

Не давяраючы свайму адчуванню, Богша зрабіў адзін, другі крок. Жывы! Ну, вядома, жывы! Ідзе і нават чуе, як снег рыпіць пад нагамі...

І ўсё адразу стала на сваё месца.

«Божа добры, як я раней не здагадаўся, што трапіў на натурпляцоўку кінастудыі, дзе здымаецца фільм канца дванаццатага стагоддзя. Хто яго здымае? Як хто? Фільм гэты здымаю я сам...» — падумаў Богша.

У галаве зноў нешта зрушылася з месца. Богша азірнуўся. Тое, што ён убачыў, не задаволіла яго. Хіба ён бачыў на макеце вось гэтую будыніну, што загарадзіла сабой завулак? Чорт ведае што! Мусіць, цесляры прадалі каму-небудзь бярвенне, якое дырэктар карціны Карней Карнеевіч Кладачка выбіў у леспрамгасе, а будынак склалі з трухляціны і гнілля.

«Раніцай трэба будзе сказаць Карнею Карнеевічу, каб прасачыў, як і што яму будуюць,— падумаў Богша і тут жа спахапіўся, што Карней Карнеевіч памёр.— А можа, не памёр? — спытаў у сябе Лазар Богша.— І наогул, што са мной адбываецца? Як жа я магу быць на натурпляцоўцы, калі таго горада, што мы будавалі, ужо няма? Яго спаліла польская кінагрупа сямісерыйнага фільма, якая арандавала натурпляцоўку. Дык дзе ж я нарэшце? На зямлі ці на небе?..»

Богша спыніўся ў роспачы. У яго кружылася галава, і крыху блажыла. Ён азірнуўся.

У канцы тупіка, у цемрачы, адзінока гарэў агеньчык...

## 2

У канцы тупіка, у цемрачы, адзінока гарэў агеньчык. Забыўшыся на ўсё, Богша пайшоў на той агеньчык. Ісці было зусім недалёка, можа, якіх крокаў сто па заснежаным завулку, між нейкіх будынкаў, што выходзілі сюды глухімі сценамі. Тая будыніна, у якой свяціўся агеньчык, стаяла высокім ганкам на завулак. Па замеценых снегам прыступках Богша падняўся на ганак, лёгка, нібы бываў тут неаднойчы, намацаў у цемры металічнае кальцо, пацягнуў яго на сябе і апынуўся ў хаце.

Папраўдзе, дык то была і не хата ў цяперашнім ра-

зуменні, а, бадай, нейкая майстэрня ці, можа, нават кузня, бо злева ад дзвярэй, там, дзе трэба быць печы, чарнеў ад вечнай сажы горан. У ім белым агнём свяцілася вуголле, і чырвоныя жвавыя іскры выскоквалі праз адтуліну ў страсе. Гадоў шаснаццаці дзяцюк стаяў збоч горна, цягаў за сырамятны рэмень-дзяржак кавальскага меха з бычынай скуры. Можа, вядома, і не з бычынай, але Богшу здалося, што мех быў менавіта з бычынай скуры.

Дзецюку, відаць, было ў ахвоту раздзімаць вуголле ў горне, бо ён ад задавальнення спяваў, і голас у яго быў вельмі прыемны.

Справа ад горна, па другі бок дзвярэй, стаяў стол — дзве шырокія дубовыя дошкі на круглых точаных ножках. На стале, на разасланым ручніку, ляжаў крыж. Той самы крыж, які Лазар Богша добра ведаў па здымку, што захаваўся з даваенных часоў. Гэта быў крыж, зроблены для Спаскага манастыра па заказу самой Ефрасінні Полацкай.

На самой справе крыж быў нашмат прыгажэйшы, чым уяўляў раней Лазар Богша. Нават ад няяркага святла лампады ён зіхацеў і ззяў сакавітымі, не рэзкімі фарбамі. Лазар Богша ледзь адарваў ад яго позірк.

Па той жа правы бок у далёкім кутку стаяў яшчэ адзін стол. Над ім віселі тры абразы — пасярэдзіне, на чорнай дошцы без аніякай аправы, быў намаляваны Хрыстос, які ўваскрашае Лазара. Той, біблейскі Лазар, быў вельмі падобны на яго, Лазара Богшу. Ну, проста дзве кроплі вады — копія з партрэта, які намаляваў калісьці пад п'яную руку мастак, што афармляў ягоны фільм. Праўда, у гэтай, іконнай, копіі Лазару былі нададзены візантыйскія рысы, але ўсё роўна не заўважыць падабенства было проста немагчыма.

«Дзіва, дый годзе,— падумаў Лазар Богша.— Хоць якое там дзіва: туташні свет — адэкват тамашняму, а можа, наадварот. Во дзе відаць пацвярджэнне тэорыі сіметрыі ў прыродзе: плюс — мінус, адмоўны — станоўчы зарад, правае — левае, верх — ніз...»

Ён ужо хацеў спытаць у гаспадара, як здарылася, што з яго, Лазара Богшы, які ніколі не быў у зазямным царстве, напісана ікона, але гаспадар сам запытаўся ў яго:

— Ну, як даехаў? Мы ўжо хваляваліся — ці не здарылася што ў дарозе. Я разы два пасылаў паглядзець, ці едзеш? Не, кажуць, не відно. Мы яшчэ ўчора пасля абеду былі папярэджаны, што ты сабраўся да нас. Сядай, бра-

це, за стол. Мусіць, прагаладаўся? Ды і пагрэцца не пашкодзіць.

Здзіўлены прывітальнымі словамі, Лазар Богша моўчкі сеў на шырокую дубовую лаўку пад абразы, на кут. Гаспадар хаты паставіў на стол кадоўбчык літры на тры і драўляны кубак, падобную на лодку пасудзіну. Дзяцюк, што раздзімаў горан, паставіў перад Богшам гаршчок з параным бобам, паклаў кавалак мяса, спечанага, відаць, на вуголлі, бо да яго прыліплі вугольчыкі. Адышоўшы да горна, дзяцюк ва ўсе вочы пачаў глядзець на сінтэтычную Богшаву апранаху з мноствам кішэняў і засцежак. Сам ён быў у кашулі з нябеленага палатна, даволі доўгай, ледзь не па пяты, абуты ў лазовыя лапці і суконныя анучы.

Гаспадар зняў з кадоўбчыка вечка, наліў у кубак густой зеленаватай вадкасці. У хаце запахла мёдам, рутай, валяр'янкай і яшчэ нечым вельмі прыемным.

— Выпі на здароўе,— сказаў гаспадар.

Богша ўсміхнуўся: а гаспадар, відаць, гумарыст, калі прапануе на тым свеце піць за здароўе. Але кубак узяў. Ён піў і не наталяў смагу. Пітво праходзіла праз яго, як вада праз пясок.

— Многа не пі,— папярэдзіў гаспадар.— Яно моцнае, бадай, мацнейшае за віскі...

«Што за чартаўшчына! — падзівіўся Богша.— Альбо я страціў розум і па-вар'яцку трызню, або адбываецца нешта несусветнае, тое, што не паддаецца нармальнай логіцы. Нібы чытаеш Кафку ці глядзіш п'есу Іанеску. Суцэльны абсурд. Адкуль на гэтым свеце ведаюць віскі?»

Пітво, аднак, добра ўдарыла ў галаву. Мабыць, у самым абсурдным свеце спіртное дзейнічае аднолькава рэальна — ад яго шуміць у галаве. У Богшы было такое адчуванне, што яму цяпер і мора па калена: абсалютна ўсё роўна, дзе ён знаходзіцца — на тым, зямным, свеце ці на гэтым, замагільным, або яшчэ на якім, на трэцім, пра які ніхто ніколі дасюль не здагадваўся. Яму было ўсё роўна.

— Слухай,— па-кіношнаму развязна звярнуўся ён да гаспадара,— слухай, чорт мяне пабяры, а чаму ты сам не п'еш? Ты мне кінь гэтыя хітрыкі. Я не люблю піць адзін. Думаеш, я нейкі прапашчы чалавек?..

Ён наліў у кубак пітва, падаў гаспадару. Той, аднак, піць не стаў. Паставіў кубак на стол.

— Мне нельга,— сказаў гаспадар і падаў знак дзецюку, каб прыбраў стол.

— А ты зусім нявеглівы,— ускіпеў Богша.— Ты зусім нявеглівы. Во што! А галоўнае — я не магу прыгадаць, дзе цябе бачыў? Мы недзе з табой сустракаліся, ці не праўда? Што ж ты маўчыш? Мы з табой, мусіць, некалі добра пацапаліся, калі ты не хочаш прызнавацца, дзе мы сустракаліся? Як цябе завуць?..

Гаспадар перастуніў з нагі на нагу.

— Лазар Богша,— як бы нават засаромеўшыся, назваўся ён.

— Чакай, чакай, гэта я — Лазар Богша...

— І ты Лазар Богша,— пагадзіўся гаспадар.

— Можа, і ён Лазар Богша? — Лазар Богша паказаў рукой на дзецюка, які ўважліва прыслухоўваўся да іхняй размовы.

— Не, ён не Лазар Богша,— сказаў гаспадар.— Ён — Паэт. Ён напіша «Слова аб палку Ігаравым».

Лазар Богша скоса паглядзеў на дзецюка.

— Такі малады і Паэт,— кпліва загаварыў Богша.— Можа, ён ужо і член Саюза пісьменнікаў? Дык во што, даражэнькія, кіньце свой прымітыўны розыгрыш. Ён са сваім «Словам» ніколі не праскочыў бы прыёмную камісію.

— Ён яшчэ вырасце і стане славутым,— як бы просячы прабачэння, сказаў гаспадар.— А пакуль ён наш госць і вучань Ефрасінні...

— Якой Ефрасінні? — спытаўся Богша.

— Князёўны полацкай, вядома,— адказаў гаспадар.

— Ну, хопіць жартаваць,— сказаў Лазар Богша цвёрда, але і з нецярплівасцю.— Мы таксама нешта чыталі і нешта вывучалі. Аўтар «Слова» ніколі не быў палачанінам, і нечага прыпісваць Полацку таго, чаго ён не меў.

Гаспадар кпліва ўсміхнуўся.

— Вы там цяпер усё дужа добра ведаеце. Аж смех. Вось жа ён, Паэт, перад табою, дык няўжо ты і зараз пачнеш сумнявацца?

— Мне гэта надакучыла,— крыкнуў Богша.— Я хачу ведаць, хто ты на самай справе і дзе я знаходжуся?.. Хопіць разыгрываць чалавека, які не памятае некаторыя неістотныя дэталі...

Гаспадар паклаў руку на Богшава плячо. Рука была цяжкая, аж забалела плячо.

— Ты стаміўся, Лазар Богша,— спачувальна сказаў гаспадар.— Табе хочацца адпачыць. Але мастак не мае права на адпачынак. Ён мусіць працаваць нават і ў сне.

Працай і пакутамі творчасці мастак плаціць за славу і даўгавечнасць.

— Мне не патрэбна слава,— зазлаваў Лазар Богша.— Слава — чырвоная ануча, якой тарэадор дражніць быка за хвіліну да таго, як праткне яго рапірай.

— Дарэмна ты так ставішся да славы,— памяркоўна сказаў гаспадар.— Слава натхняе мастака на працу. Без славы няма мастака.

— Адчапіся,— папрасіў Лазар Богша.— Я пачынаю балдзець ад гэтай гаворкі. Як у нас на кінастудыі: ты — геній, я — геній. Глупства! Хто ты і што ад мяне хочаш?

— Я — Лазар Богша,— сказаў гаспадар.— Няўжо ты не пазнаеш мой крыж, які я зрабіў і які праславіў мяне праз вякі?..

— Стой! — крыкнуў Богша.

Нешта хоць і вельмі трудна, балюча скранулася ў ягонай галаве, цяжка, аж са скрыгатам павярнулася, нібы жорны, і спынілася; тады Лазар Богша пачаў здагадвацца, куды яго занесла. Але здагадка гэтая роўным чынам ні пра што не сведчыла. Наадварот, яна заблытвала ўсё дашчэнту. Лазар Богша глянуў на крыж, потым на гаспадара. Ну, так, крыж быў знаёмы — рэквізітны крыж. Ну-ну!

— Ты хочаш сказаць, што з'яўляешся тым, старажытным, Лазарам Богшам, які зрабіў крыж для Ефрасінні Полацкай?

— Так яно і ёсць,— адказаў гаспадар.

Лазар Богша зарагатаў. Яго разбіраў смех. Ён рагатаў доўга, а гаспадар цярпліва чакаў, пакуль ён перастане смяяцца. Нарэшце Лазар Богша высмеяўся дарэшты.

— Я чаго рагатаў? — пачаў апраўдвацца ён, як вінаваты.— Я быў падумаў, што памёр, што мяне падбілі коні на возеры Суя пад Полацкам. А выходзіць, што я жывы, хоць нейкім цудам трапіў у дванаццатае стагоддзе, у старажытны Полацк.

Лазар Богша тонка іранізаваў. Ён хацеў, каб гэты самазваны Лазар Богша зразумеў, што яго выкрылі і далей няма сэнсу прадаўжаць гульню. Але гаспадар іроніі, відаць, не разумеў.

— Так яно і ёсць: ты трапіў у шэсць тысяч шэсцьсот шэсцьдзесят дзевяты год ад стварэння свету, або ў адна тысяча сто шэсцьдзесят першы год ад нараджэння Хрыста... Як табе больш зручна, так і лічы.

— А можа, гэта ты, мой шаноўны цёзка, трапіў у дваццатае стагоддзе на кінастудыю?

Лазар Богша знарок зрабіў такі празрысты намёк, каб гаспадару прыкідвацца далей было немагчыма. Але той зноў не зразумеў намёку.

— Не, Лазар Богша, іменна ты трапіў у дванаццатае стагоддзе...

— Я дык я,— сказаў Богша,— хоць ніяк не магу ўявіць, як без фантастычнай машыны часу можна было апынуцца ў дванаццатым стагоддзі?

— Што такое восем стагоддзяў у бясконцай чарадзе гадоў існавання чалавецтва? — па-філасофску зазначыў гаспадар.

Цяпер Лазару Богшу і зусім стала весела.

«Ну і жукі! Задумалі разыграць. Хацелі пасмяяцца. Цяпер я добра разгадаў іхнюю містыфікацыю».

Ад простай здагадкі ў ягонай галаве неяк праяснела, і ўсе фантастычныя прыгоды цяпер уяўляліся хоць і дасціпным, але, што ні кажы, розыгрышам. А так разыграць мог толькі Юрка Місюк, ягоны, Богшаў, адміністратар.

«Калі ж ён вярнуўся з камандзіроўкі? — падумаў Лазар Богша.— Ці не ўсё роўна калі? Факт застаецца фактам: Юрка прывёз нейкага акцёра і разам з Алегам Дутавым склалі сцэнарый розыгрышу. Потым яны загрыміравалі акцёра пад Лазара Богшу...»

— А ты зусім не Лазар Богша. Я здагадаўся, хто ты,— сказаў Лазар Богша.— Ты — Інакенці Смактуноўскі. Я запрасіў цябе на ролю Усяслава Полацкага. Хто цябе так добра загрыміраваў?.. У нас на студыі так не ўмеюць.

Гаспадар пахітаў галавою.

— Аднак жа здорава цябе падсекла рашэнне мастацкага савета. Прыглядзься лепей і ты ўбачыш, што на маім твары няма і мазка грыму. Мне таксама шкада, што мастацкі савет закрыў тваю карціну, якая была б сапраўды геніяльным творам. Закрыў, нягледзячы на тое, што на яе было выдаткавана восемсот дваццаць тысяч восемдзесят шэсць рублёў сорак тры капейкі.

Гаспадар загаварыў голасам студыйнага бухгалтара, калі той, бывала, закрываў фінансаванне фільма да асобага распараджэння.

— Не дуры галавы, Кеша,— рагатнуў Лазар Богша.— Ніякага мастацкага савета не было. Не трэба браць мяне на мушку.

Але тут жа Лазар Богша прыгадаў, што сапраўды яго выклікалі на мастацкі савет. Ён яшчэ пажартаваў тады («Тады? Калі тады? Можа, не тады, а цяпер?»): «На мастацкі савет выклікаюць не дзеля таго, каб пляскаць у далоні, а дзеля таго, каб пляснуць далоняй...»

Было падобна на тое, што ён, Лазар Богша, чалавек дваццатага стагоддзя, сапраўды трапіў у недасягальную чалавечаму разуменню даўніну. Заставалася нявысветленым толькі адно: калі гэта сапраўды гістарычны Лазар Богша, які зрабіў крыж Ефрасінні Полацкай, дык адкуль ён ведае пра мастацкі савет і наогул пра справы ягонага, Богшавага, зямнога існавання?

— Не здзіўляйся, Лазар Богша,— нібы падслухаўшы ягоныя думкі, сказаў гаспадар.— Я ведаю пра цябе ўсё ці, бадай, усё. Няўжо ты думаў, што мы маем права прыводзіць сюды абы-каго.

«Фантастыка,— падумаў Лазар Богша.— Але ж і рэальная фантастыка, чорт мяне пабяры, рэальная машына часу ў дзеянні. А можа, гэта такі фантастычны сон? Зрэшты, самы фантастычны сон таксама рэальнасць. Калі ж да ўсяго падыходзіць з пункту гледжання кіношнага рэжысёра, дык усё, што са мной адбываецца, вельмі падобна на кінамантаж. А што, калі існуе нейкі іншы мантаж чалавечага існавання? Варта навучыцца валодаць ім, як адкрыецца зайздросная перспектыва жыцця ў чатырох вымярэннях. Можа, я, не падазраючы таго, авалодаў гэтым мантажом свайго існавання ў чатырох вымярэннях? Іначай трэба прызнаць, што містыка паявілася не на голым месцы».

Падумаўшы так, Богшу захацелася праверыць на справе, як можна карыстацца мантажом чалавечага існавання. У кіношным мантажы ён, напрыклад, адразу ж пасля сустрэчы з Богшам паставіў бы эпізод з Ефрасінняй. Лагічна! Дык чаму ў мантажы чалавечага існавання ён не мае права сустрэцца з Ефрасінняй Полацкай? Абсалютна лагічна, асабліва калі ўлічыць, што пра Ефрасінню амаль нічога невядома.

— Ці маю я цяпер права карыстацца свабодай перамяшчэння? — спытаў Лазар Богша.

— Маеш,— адказаў гаспадар.

— Тады я хацеў бы зараз жа сустрэцца з Ефрасінняй Полацкай,— сказаў Богша.— Не заўтра і не праз тыдзень, пакуль вы, мае дарагія жэўжыкі, падрыхтуеце якую актрысу на ролю Ефрасінні... А зараз...

Гаспадар з дзецюком пераглянуліся.

«Ага, папаліся, жэўжыкі,— узрадаваўся Лазар Богша.— Мяне за рубель дваццаць не купіш».

Зусім нечакана адчыніліся дзверы, і на парозе ўзнікла жаночая постаць у жоўтым кажусе. Лазар Богша ўбачыў, як абодва яго гаспадары — майстар крыжа і аўтар «Слова» — нізка схілілі галовы перад госцяй.

Яна была не зусім прыгожая, а калі казаць праўду, дык і зусім непрыгожая. І не таму, што твар яе быў пасечаны маршчынамі. Яна была непрыгожая ад самай маладосці. У яе быў акруглы твар, на якім ляпіўся тонкі, з гарбінкай нос, дужа расплюснуты ўнізе, з мясістымі закрылкамі. Можа, таму верхняя губа выглядала надта кароткай і тонкай. Ніжняя, наадварот, была адкапылена ўніз, надаючы падбародку яшчэ больш масіўны выгляд. На гэтым груба выцесаным твары, бадай, толькі вочы прыцягвалі ўвагу: сінія вялікія вочы, якія, праўда, ужо досыць пабляклі, сталі падобны на неба ў познюю восень. Да ўсяго жанчына нават пад кажухом выглядала нязграбна: было ў яе постаці нешта мужчынскае — ніякіх адзнак мяккай жаноцкасці.

— Будзь здарова, маці ігумення,— першы азваўся майстар крыжа, яшчэ раз згінаючыся ў паклоне.

— І ты будзь здароў, Лазар. Мне пільна трэба пагаварыць з табой. Выйдзі,— загадала таму Паэту, што напіша «Слова».

— Хто гэта? — спытаў Лазар Богша ў Паэта, калі той праходзіў каля яго.

— Ефрасіння, ігумення,— шапнуў Паэт.

«Дык вось яна якая!» — падумаў Богша.

— Выйдзі і ты,— раптам сказала Ефрасіння Лазару Богшу.— Твой час яшчэ не настаў! І тое, што я павінна сказаць, ніхто і ніколі не павінен ведаць.

— Гэта так небяспечна?

— Гэта можа каштаваць жыцця...

Лазару Богшу аж стала смешна: празарліўцы! Яму ўжо не пагражае смерць.

— Хачу нагадаць,— кпліва сказаў ён,— што я нейкім чынам ужо не жывы, а мёртвы...

Ён паглядзеў на Ефрасінню. Ці заўважыла тая іронію?

— З табой можа быць горш,— вельмі сур'ёзна сказала Ефрасіння.— Цябе могуць вярнуць назад, у зямное існаванне.

— Тады я застаюся,— весела выгукнуў Богша.— Зноў

вярнуцца на зямлю, адсюль, адкуль ніхто ніколі не вяртаўся! Гэта ж здорава!

— Што здорава?

— Расказаць людзям пра тое, што бачыў.

— І ты спадзяешся, што табе нехта паверыць? Цябе палічаць за вар'ята...

Ад яе слоў у Богшы па спіне прапаўзла халодная вужака. Сапраўды, хто яму паверыць, што ён пабываў у дванаццатым стагоддзі, размаўляў з Ефрасінняй, з Лазарам Богшам, аўтарам «Слова». Добра яшчэ, калі падумаюць, што ён брэша... А калі вырашаць, што з'ехаў з глузду? Тады адправяць у вар'яцкі дом, і будзь здароў, не кашляй. І ўсё ж перспектыва зноў вярнуцца ў зямное існаванне была вельмі зайздросная і прываблівая.

— Можна і не расказваць пра тое, што бачыў,— сказаў ён, але без належнага энтузіязму.— Мне вельмі важна акунуцца ў рэальныя падзеі вашага часу. Вы, мусіць, не ведаеце, што я — кінарэжысёр Лазар Богша. Я хачу зняць фільм пра бітву на Нямізе. Мяне захапіў вобраз вашага дзеда Усяслава. Вам не здаецца, што ягоныя дзеянні, як і, зрэшты, падзеі таго часу, у нашай гісторыі асветлены, просталінейна, без належнай псіхалагічнай матывіроўкі? Усё было больш складана і больш лагічна. Вось чаму я хацеў бы не проста зняць гістарычны фільм, дзе ўсё прыблізна, а зняць такі фільм, які перадаў бы нашаму сучаснаму гледачу ўсю сукупнасць жыццёвых фактаў...

Яго раптам панесла, нібы ён гаварыў на мастацкім савеце. Што-што, а тлуміць мазгі Богша ўмеў, асабліва калі гэтага вымагалі абставіны. І цяпер ён пачаў развінаць свае намеры і планы з апантанасцю заўзятага манюкі, які і сам верыць у тое, пра што гаворыць. Ён практыкаваўся ў красамоўстве, можа, хвілін пятнаццаць, а Ефрасіння моўчкі і даволі засяроджана слухала яго. У яе вачах адбіваўся смутак.

«Мусіць, я зарваўся,— падумаў Лазар Богша.— Я кажу ёй пра тое, што яна і сама добра ведае. І наогул, у гэтым пазазямным свеце, бадай, не вельмі цэняць красамоўства».

— Даруйце, што я адымаю ў вас час,— сказаў ён шчыра.— Кіношны рэжысёр павінен умець добра гаварыць. Калі ён не ўмее гаварыць, дык яму могуць даказаць, што ён здымае не фільм, а служыць па сабе паніхіду...

— На жаль, я не магу цябе выслухаць да канца,— сказала Ефрасіння,— пагаворым пасля. У нас будзе час...

Цяпер ужо не было як заставацца ў хаце. Богша выйшаў на ганак у развіднелую марозную раніцу. З высокага ганка хаты быў відаць увесь горад. У пунсовым ад нябачанага сонца небе зіхацелі золатам крыжы на Сафійскім саборы, а над пасадам, па той бок крапасной сцяны і па гэты, у рамесніцкай слабадзе, падымаліся ўгору ранішнія дымы. Яны выбіваліся з-пад стрэх падслепаватых і чорных закурадымленых хат.

«Куды я пайду? — раптам падумаў Лазар Богша.— Мне няма куды ісці. Вось табе і чацвёртае вымярэнне. Боўтайся ў ім, як непрыкаяны грэшнік у чысцілішчы... А ўсё ж якую тайну хоча сказаць Ефрасіння свайму майстру?..»

Апантаная думка гэтая неўзабаве цалкам завалодала Лазарам Богшам. І хоць сумленне падказвала яму, што падслухоўваць ды падглядваць непрыстойна, нешта так і падбухторвала яго пайсці насуперак сумленню. Яшчэ добра не ўсведамляючы, што ён робіць, Богша прайшоўся па ганку да самага вугла хаты, рубленага на заморскі манер — замком,— і там убачыў лесвічку, што вяла на падстрэшша. Нядоўга думаючы, Лазар Богша ўзабраўся па ёй да лаза, прасунуў галаву ў яго і ўбачыў унізе яшчэ адны сенцы. Пры сцяне ў іх і якраз насупраць лаза стаяў куфар. Богша даволі лёгка саскочыў на куфар і адразу пачуў голас Ефрасінні.

— Мы абое састарыліся, Лазар, і цяпер, на схіле жыцця, напярэдадні найвялікшых выпрабаванняў, нам не варта прыгадваць мінулыя крыўды. Смерць прымірае. Прымiраныя ёю, мы сыдзем у нябыт, але імёны нашы застануцца. Чалавек жыве на зямлі, каб пакінуць пасля сябе след. Мы шмат выцерпелі, і мы займелі права на памяць...

— Дзіўна ты загаварыла,— пачуўся голас Богшы.— Быццам ты і не ігуменння, а жрыца суйскага язычніцкага храма.

— З табою я магу гаварыць шчыра,— сказала Ефрасіння.— З другімі я навучылася хаваць свае думкі і свае пачуцці.

Лазару Богшу захацелася пабачыць майстра і ігуменню. Ён, нядоўга думаючы, забраўся на лаўку, вельмі шырокую для таго, каб толькі сядзець на ёй,— мабыць, яна была і ложкам,— адхінуў мядзведжую шкуру і ўбачыў перад сабой пакой, з якога яго толькі што выставілі.

Майстар сядзеў пры стале на лаўцы, абапёршыся лок-

цямі на калені, а Ефрасіння стаяла перад ім, скрыжаваўшы на грудзях рукі.

— Ты не баішся граху? — спытала яна ў Лазара-майстра.

— Я ніколі яго не баяўся. Баялася ты...

— Не трэба, Лазар,— умольна папрасіла Ефрасіння.— Тое, пра што я табе скажу, сапраўды лічыцца смертным грахом...

— Кажы, не мучай душу. Ты ўмееш віць з людзей вяроўкі...

Размова была вельмі туманная.

Богша перастуніў з нагі на нагу і тут жа пачуў на сваім плячы чыюсьці руку. Ён спалохана азірнуўся: за плячамі ў яго стаяў даволі нямоглы манах з вострымі, як бураўчыкі, вачамі.

— Дзе ты дастаў такую хвацкую апранаху? — напаўшэпт спытаў манах.— Далібог, ніколі такой не бачыў. Мусіць, заморская?..

У наступнае імгненне ў манаха вырачыліся вочы, як у печанага рака. Ды і твар у яго стаў падобны на рачыны — увесь пабарвавеў. Манах часта-часта заморгаў вачамі, паматаў галавою.

— Свят-свят-свят,— перахрысціўся ён.— Я думаў, што гэта ты, Лазар Богша, аж... Хто ты?..

— Я і ёсць Лазар Богша. Кінарэжысёр, Лазар Богша... Прыляцеў сюды ў творчую камандзіроўку,— на ўсякі выпадак зманіў Богша.

Манах схапіў Лазара Богшу за каўнер курткі і пацягнуў з сенцаў на двор.

## 3

Манах схапіў Лазара Богшу за каўнер курткі і пацягнуў з сенцаў на двор.

Лазар Богша не супраціўляўся, ды і супраціўляцца было немагчыма. Манах меў зайздросную сілу. З выгляду дык зусім нямоглы, а на самой справе — волат.

— Як ты трапіў у Богшаву хату і хто ты? — грозна спытаў манах, спыніўшыся ў цесным глухім завулку.

Ягоны голас не абяцаў нічога добрага, аж у Лазара Богшы балюча заныла сэрца.

— Я ўжо казаў вам,— стараючыся не раздражняць манаха, з невядомай яму самому мяккасцю, загаварыў Лазар Богша,— што мяне прывезлі сюды сёння ноччу з

таго свету, дзе я працаваў на кінастудыі рэжысёрам-пастаноўшчыкам. Больш даходліва кажучы, я здымаў мастацкія фільмы.

— Што ты здымаў? — перапытаў манах.

— Фільмы,— крыху раздражнёны ад нездагадлівасці манаха, сказаў Богша і тут жа ў душы ўсміхнуўся: адкуль манаху ведаць, што такое фільм.— Разумееце, фільм — гэта жывыя малюнкі. Вось, напрыклад, на іконе намалявана тайная вячэра. Ісус Хрыстос сядзіць з вучнямі за сталом, сядзіць нерухома. У кожнага з вучняў таксама свая поза. У кінафільме гэтая самая ікона ажыла б. Вы маглі б бачыць, як апосталы ядуць, маглі б чуць, як яны размаўляюць.

Было такое ўражанне, што манаха выцялі доўбняй па галаве. У яго жахліва перакасіўся твар, ён нешта хацеў сказаць ці, можа, прачытаць малітву, але ў яго толькі кляцалі зубы. Цяпер Лазар Богша адчуў сябе гаспадаром становішча.

— Слухай, друг, не калаціся ты, як авечы хвост. Я цябе не з'ем, але і ты паводзь сябе разумна. Калі б я табе пачаў расказваць пра тое, чаго дамагліся людзі за восемсот гадоў, дык ты не толькі стаў бы заікацца, а, бадай, і зусім страціў бы мову.

Мабыць, на манаха найбольш падзейнічала ўсмешка, што чулася ў Богшавым голасе. Ён глянуў спадылба на Богшу.

— Не вельмі выхваляйся. Глядзі, каб цябе не ўтапілі ў Дзвіне, як чараўніка. Мы і не такіх ведзьмакоў бачылі...

Нахабныя манахавы пагрозы толькі раззлавалі Лазара Богшу. Ён, дарэчы, успомніў, што нейкім чынам нежывы і самае страшнае, што можа чакаць яго — вяртанне ў тое, зямное, рэальнае жыццё. Ну, дык і што?..

— Слухай ты, як са мной размаўляеш? Ты чаго да мяне прыстаў, як распараны бярозавы ліст да цела? Хто табе даў права хапаць мяне за каўнер і цягнуць сюды? Я пытаю ў цябе, чаму ты паявіўся ў чужой хаце, ды яшчэ распараджаешся тут як дома?..

Гнеўныя Богшавы словы зрабілі на манаха ўражанне.

— Ты толькі не выдавай мяне,— папрасіў ён.— Я прыстаўлены сачыць за кожным крокам і словам Ефрасінні.

— Ну і ну,— сказаў Богша.— Ніколі не падумаў бы, што манах сочыць за ігуменняй, дачкой князя, якая прызнана святой.

— Хто святая? — з'едліва ўсміхнуўся манах.— Прад-

слава — святая? Ты ўсур'ёз ці смяешся з мяне? Ефрасіння — святая! Ды каб яна не была князевай дачкой, яе даўно ўтапілі б у Дзвіне. І гэта такая праўда, як тое, што я называюся Феадораю.

— Ты — жанчына? — здзівіўся Богша.

— Ну, вядома, жанчына. А ты хіба палічыў, што я мужчына?

— Я і цяпер не вельмі ўпэўнены, што ты жанчына.

— Гэта твая справа,— весела выгукнула Феадора і падміргнула Лазару Богшу.— А цяпер прызнавайся, адкуль ты да нас прыехаў? З Канстанцінопаля, ці Рыма, ці, можа, з Іерусаліма ад самаго халіфа арабскага?..

— От, дзівачка, я ж табе праўду сказаў, што прыляцеў з дваццатага стагоддзя.

— Не хочаш гаварыць. і не трэба,— сказала манашка,— яна какетліва сцепанула плечуком, усміхнулася: — Не ведаю чаму, але ты мне падабаешся... Слухай, пайшлі да мяне. Клянуся — не раскаешся.

— Куды да цябе? У манастыр?

— Не задавай непатрэбных пытанняў,— рашуча перапыніла яго манашка.— Пойдзеш за мной крокаў на дваццаць. Зразумеў?..

— Зразумеў,— адказаў Богша.

На двары было зусім светла. Але на фіялетавым небе Богша так і не пабачыў сонца. Машынальна ён глянуў на гадзіннік: за пяць хвілін дзесяць. Там, у рэальным зямным свеце, людзі даўно працуюць. Ды і тут, у старажытным горадзе, яны таксама не спалі. Лазар Богша перакапаўся ў гэтым, як толькі выйшаў з тупічка на больш шырокую вуліцу. Тут, няйначай, жыў адзін рамесны люд, бо адусюль чулася то лёгкае пазвоньванне малаткоў-кляпал, то рэзкія, да калоцця ў вушах удары кувадлы. Насустрач ім, згінаючыся пад цяжарам, нейкі чалавек нёс некалькі цэбраў і цабэркаў, ад якіх моцна пахла свежаструганым дрэвам.

За паваротам Богша ўбачыў Дзвіну. Ад яе, памалу падымаючыся па крутым схіле, ішлі рыбакі, несучы на плячах па лазовым кашы з рыбай. На скрыжаванні дзвюх вуліц, там, дзе пачыналіся ўжо княжацкія харомы, двое барадатых мужчын трымалі на моцна прасмоленай вяроўцы мядзведзя. Ля іх сабраўся ладны натоўп разявак, якіх хлебам не кармі, але дай чым пазабаўляцца. Людзі прытупвалі на марозе і весела смяяліся.

Лазар Богша вострым рэжысёрскім вокам, па прафе-

сійнай звычцы, запамінаў усе дэталі побыту гараджан, што трaплялі яму ў поле зроку. Папраўдзе, дык ён нават падзівіўся, што дэталі гэтыя, бадай, не вельмі і ўражвалі, бо яны нечым нагадвалі побыт мястэчка даваенных часоў.

Тым часам манашка пачала падымацца па сходках, выкапаных у схіле гары. Богша ішоў за ёй, не вельмі задумваючыся, куды яго вядзе Мата Хара дванаццатага стагоддзя. Вядзе, хай вядзе! Яму, Лазару Богшу, губляць не было чаго.

Тут, за гарою, знаходзіўся дзіўны пасёлак. Нават з першага позірку можна была беспамылкова вызначыць, што ў ім няма гаспадарчых пабудоў — адны жылыя. Хаты стаялі цесна, адна пры адной, ствараючы даволі заблытаны лабірынт з вузенькімі, як прайсці чалавеку, вулачкамі і тупічкамі-завулкамі. Перш чым нырнуць у гэты лабірынт, манашка пачакала Богшу, узяла за руку. Яму аж стала смешна: манашка вядзе яго, як малое. Але неўзабаве ён зразумеў, што такая перасцярога зусім не лішняя. У завулках было і цёмна і непрыступна хадзіць.

Павярнуўшы, можа, разоў дзесяць то налева, то направа, манашка нарэшце спынілася перад невысокім ганачкам, дастала з-за палы медны ключ, адамкнула дзверы. За імі аказалася вельмі цесная хата-келля — можа, якіх шэсць квадратных метраў — без акон, з нізкай, чорнай ад сажы столлю, з печчу-каменкаю, ад якой ішоў сухі гарачы дух. Злева ад печы, на палацях, засланых аўчынамі, ляжалі дзве падушкі. Справа стаяў стол. Над ім вісела лампадка перад іконай Георгія-пераможцы. Яна і асвятляла гэты пакой, падобны на вясковую лазню.

— Распранайся, у мяне душна,— сказала манашка і пачала здымаць свой чорны ўбор.

Пад ім аказалася белая доўгая кашуля з даволі глыбокім выразам і пышнымі зборкамі на рукавах.

— Хочаш, я здыму і кашулю? — спытала манашка.

— Не трэба,— азваўся Богша. Яго нешта непакоіла.

— Цяпер ты, мабыць, не сумняваешся, што я жанчына? — засмяялася манашка.

Сумнявацца і праўда не даводзілася. У выразу кашулі відаць была смуглая баразёнка, што тулілася між двух белых пагоркаў грудзей. Ды і ўся постаць манашкі — жаноцкая, прывабная. Нават твар, які пад хусткай выглядаў драбнаватым, цяпер у абрамленні светлых мяккіх валасоў здаваўся прыгожы і мілы.

— Ты хіба заўсёды тут жывеш? — спытаў Богша.

— Не, я жыву ў Спаскім манастыры.

— А тут?..

— Будзеш многа ведаць — рана састарышся.— Манашка абняла Богшу, і вельмі нават парыўна. Ён таксама абхапіў яе, моцна прытуліў, адчуў, як манашчыны вусны прыпалі да ягоных. У Богшы закружылася галава, і ён упаў бы, але яна падхапіла яго на рукі.

— Выпі маё дыханне,— ужо лежачы на палацях, папрасіў ён манашку, бо ніколі яшчэ не адчуваў такой насалоды ў зямным існаванні, як цяпер, калі манашка цалавала яго. У яго аж млела, аж заходзілася ад любасці сэрца, а цела набывала бязважкасць.

— Праўда, я харошая,— прылашчыўшыся, спытала манашка, хоць пытаць было і не трэба, бо Богша знемагаў ад пачуцця.— Не заплюшчвай вачэй, мілы, паглядзі, якая я ладная, якія прыгожыя мае грудзі, мае ногі. Хіба ты бачыў калі такія грудзі? А якія яны крэпенькія, як грушы лясоўкі! Пацалуй мяне ў шыю, вось тут, дзе трапеча жылка....

— Памаўчы, не гавары,— папрасіў Лазар Богша, цалуючы манашку ў белую шыю.— Божа мой, дзеля гэтага варта было памерці на лёдзе суйскага возера! Ах, якое ж гэта шчасце любіць цябе!..

Час, жыццё, існаванне, той і гэты свет — усё, што некалі мела сваё значэнне, цяпер не існавала для Богшы. Ім запанавала каханне, дзеля якога ён гатоў быў тысячу разоў паміраць у пакутах і тысячу разоў уваскрасаць, каб зноў пакутаваць і кахаць.

Усяму, зрэшты, прыходзіць канец. Лазар Богша расплюшчыў вочы: у цішыні было выразна чуваць, як нехта спрабуе адчыніць дзверы. Манашка ў адно імгненне саскочыла з палацяў і яшчэ больш спрытна накінула на сябе чорнае адзенне.

— Прытаіся і маўчы,— шапнула яна Лазару Богшу і закідала яго аўчынамі.

Лазар Богша ўсё ж ухітрыўся пакінуць невялікую шчылінку, праз якую можна было хоць адным вокам назіраць за тым, што робіцца ў келлі.

Феадора адкінула драўляны завал. На парозе ў клубе густой пары паявілася даволі высокая мужчынская постаць у аблавухай шапцы і мядзведжай дублёнцы, калі так можна было назваць шырокую хламіду, больш падобную на каўказскую бурку, чым на дублёнку са славутага мястэчка Моталь.

— Здароў будзь, княжа,— схіліўшыся ў паклоне, нараспеў павіталася манашка.— Я ўжо думала, што ты не прыйдзеш...

— Мог і не прыйсці,— адказаў мужчына, абдзіраючы з вусоў і кідаючы на падлогу звонкія ледзяшы.

— Распранайся, княжа,— Феадора забрала ў князя шапку, хламіду, павесіла на калок.

Цяпер Лазар Богша ўбачыў нестарога, хоць і з сівізной у валасах, мужчыну, апяразанага мячом, у суконным каптане, суконных штанах, увабраных, здаецца, у валёнкі. Ногі князя былі недаступны Богшаваму воку.

«Хто ж цяпер княжыць у Полацку? — задумаўся Лазар Богша.— Мабыць, Рагвалод. А можа, не Рагвалод, а Расціслаў Мінскі, сын славутага Глеба, які пераняў ад бацькі Усяслава круты нораў і ўсё жыццё варагаваў з Кіевам, ды так і загінуў палоннікам у стольным горадзе. Дык хто ж з іх? Рагвалод ці Расціслаў?..»

Лазар Богша і сам не разумеў, навошта яму ведаць, хто з князёў завітаў у келлю дзіўнай манашкі, больш падобнай на блудніцу, чым служку бога. Абодва князі, здаецца, былі бездары, пра абодвух засталіся ў гісторыі скупыя радкі ў летапісах. Наліха яшчэ забіваць сваю памяць лішняй інфармацыяй, і так яе замнога абрушылася на беднага чалавека дваццатага стагоддзя. Але нешта як бы свярбела. Усё тая ж чалавечая цікаўнасць, якая прывяла свет да атамнай бездані. Лазар Богша ўжо не мог супакоіцца, пакуль не спадзе з тайны апошняя покрыўка. Ён навастрыў увесь свой слых і ўсю ўвагу.

— Чаго клікала, Кажына? — спытаўся князь, спрабуючы абняць манашку.

«Дык яна яшчэ і Кажына,— усміхнуўся Богша.— Бач ты!.. Манашка, разведчыца, шпіёнка, агент нумар... Стоп, стоп! Тут, напэўна, шпіёнаў яшчэ не дадумаліся нумараваць...»

Манашка адвяла князеву руку.

— Богша зрабіў крыж Прадславе,— сказала яна такім прыглушаным, таямнічым голасам, якім, мабыць, Далес дакладваў Трумэну, што і ў рускіх ёсць атамная бомба.

На князя, аднак, яе паведамленне не зрабіла вялікага ўражання. Ён кпліва ўсміхнуўся. Так звычайна ўсміхаюцца людзі, якім здаецца, што толькі яны валодаюць тайнай.

— Не церпіцца Ефрасінні зацьміць славу Сафіі,— сказаў ён.

Ягоныя словы і кплівая ўсмешка выклікалі ў Кажы-

ны гнеў. Богшу здалося, што манашка крыху перабірае меру.

— О, божа мой,— узняла яна ўгору рукі, як бы заклікаючы багоў у сведкі,— да чаго вы, князі, лянівыя! Галавой паварушыць не хочаце. Усё за вас нехта павінен думаць, разважаць, у галаву вам укласці, але і тады вы не здольны звязаць трох слоў, глянуць далей свайго ненажэрнага пуза...

— Глядзі, каб я не загадаў вырваць твой паганы язык,— прыгразіў князь, зноў абдымаючы манашку.

— Адзінае, на што здольныя,— вылузнуўшы з ягоных рук, падкалола князя Кажына.— А пра тое не падумаеце, хто ж вам будзе гаварыць праўду.

— На які ляд мне праўда? — рагатнуў князь.— Піва з яе не зварыш...

— Няўжо ты сляпы, князь? Хіба не бачыш свайго блізкага канца?..

Князь аж скалануўся ад яе прароцтва.

— Ты ведаеш нешта такое, чаго не ведаю я? — дрыготкім голасам спытаўся ён.— Кажы, не муч...

— Сядай, князь,— прапанавала манашка.— Мне паложана стаяць перад табой...

У голасе Кажыны пачуліся ноткі самаахвярнага прыніжэння, за якімі Богша адчуў хітра расстаўленую князю пастку. Але князь нічога не заўважыў. Самаўпэўненасць і ганарыстасць пазбавілі яго тонкага чуцця, а прывычка ўсё дамагацца сілай — разважлівасці.

Князь сеў на лаўку.

— Слухаю цябе, чарадзейка і ведзьма,— сказаў ён з лагоднасцю, якая больш пасавала да ложка, а не да келлі манашкі.

— Толькі не гневайся, князь,— папрасіла Кажына.— З табой я хачу быць шчырая, бо ты патрэбны мне, а я табе. Ці не так?..

— Хай сабе і так,— міласціва пагадзіўся князь.

— Азірніся, князь, навокал. Хіба ты не бачыш, як занепадае Кіеў? Нават Юрый Даўгарукі махнуў на яго рукой. А сын ягоны Андрэй і глядзець на Кіеў не хоча. Кіеўская Русь развальваецца. Каму гэта на руку? Табе, князь, на руку. А Прадславе — горкі ком у горле. Чаму? А таму, што моцны князь — моцная дзяржава. Моцная дзяржава — багатая царква. Царква прагне быць адзінай. А князі разрываюць Русь на кавалкі, як ваўкі ласіцу. Царква, во хто зацікаўлены ў моцным князі. А дзе яго возьмеш?..

Здрабнелі князі. Ні адвагі, ні розуму. Адна пыха і дурасць. Ты, князь, сядзіш у сваім лясным княстве, а таго не ведаеш, што Прадслава, маці-ігумення Ефрасіння, абмянялася пасланцамі і з Пячэрскім манастыром, і з епіскапам Растоўскім Фёдарам. І ўсе яны вока і спадзяванні свае паклалі на Усяслава Віцебскага, каторы сын Васількі, пляменнік Прадславы. Абое яны, як табе, князь, вядома, дзеці малодшага сына Усяслава, якому сам Баян складаў песні. Спачатку Усяслаў Віцебскі зойме Полацкае княства. А потым — Кіеўскае... Таму на палажэнне крыжа ў Спаскім манастыры і едзе з Віцебску Усяслаў Васількавіч. Вось і кумекай, князь...

Князь пабарвавеў. Ён адчуваў сябе, як шчупак у нераце: куды ні кінешся — няма збавення.

— А крыж?.. Навошта крыж? — як за апошні ратунак, схапіўся ён, каб толькі заспакоіць сябе, што Кажына палохае яго, і не больш.

— Гора мне з табой, князь,— уздыхнула Кажына.— Зусім ты нічога не цяміш. Абух абухом...

— Ты вельмі цяміш,— пакрыўдзіўся князь.

Кажына села на лаўку, паклала руку на князевы плечы.

— Не крыўдуй, тпруценька мой,— гарэзліва і пяшчотна прыхінулася яна да князя.— Паслухай мяне дужа ўважлівенька, князь, а я табе па чарзе ўсё да драбніц і раскажу. Крыж гэты не малых грошай каштаваў. І грошы тыя не аднаму Лазару Богшу дасталіся. Імі і рамесны і гандлёвы люд пажывіўся. Таму і славу яны пяюць не табе, а Прадславе. І паслухаюць яе, а не цябе. Крыжам гэтым Прадслава і сабе славу здабудзе і племянніку свайму Усяславу Полацкае княства. А Усяслаў, як толькі стане князем полацкім, першае, што зробіць, пойдзе супраць яцвягаў. Ты ж, князь, сядзіш на пуці да іх. Твайму княству першаму пасці вызначана.

«Як па палічках усё расклала,— падзівіўся Богша.— Але ж не так сабе? Нешта хаваецца за гэтым».

— Што ж мне рабіць, Кажына? — з несхаванай трывогай у голасе спытаўся князь.

— Не мне, грэшнай, даваць князям парады,— лішне пакорліва, каб можна было паверыць у шчырасць яе слоў, сказала Кажына і неўпрыкметку зірнула на палаці, убачыла цікаўнае вока з-пад аўчын, падміргнула Лазару Богшу.

Па яе твары прабегла ўсмешка, як у той гогалеўскай

Салохі, якая схавала ў мяхах і чорта, і галаву, і дзяка, і казака Чуба. Лазару Богшу раптам абрыдла ляжаць у духаце пад аўчынамі, якія да ўсяго дужа смярдзелі.

«Зараз скіну іх і паяўлюся перад князем»,— падумаў Богша, але ў час прыгадаў, што ляжыць на палацях голы. Гэта апыніла ягоную нястрыманасць.

— Не спакушай лёс, Кажына,— губляючы цярплівасць, сіпла сказаў князь.— Я чакаю тваёй парады...

Гэта ўжо быў загад.

— Знішчы Прадславу, князь, з усім яе вучоным вывадкам,— як мячом, секанула Кажына.

— Я не забойца,— памаўчаўшы, сказаў князь, як дрэнны акцёр, якому цяжка паверыць.— Да таго ж я заняў княжацкі стол не без дапамогі Прадславы і трымаюся тут трэці месяц.

— На табе і без Прадславінай шмат крыві,— зусім спакойна адказала Кажына.— Я заклікаю цябе не забіваць... Ты заб'еш Прадславу, а царква далучыць яе да ліку святых. Ёсць тысячы шляхоў, каб пазбавіцца ад няўгоднай асобы. Разгані вучняў Прадславы. Абкладзі самую, як мядзведзіху ў бярлозе, а тады выпусці, хай адпраўляецца ў Візантыю, Іерусалім замольваць свае грахі. Спалі на агні кнігі і летапісы, забарані люду карыстацца граматай. Не дзела, князь, калі самая апошняя баба выдрапвае на сцяне Сафіі просьбы да бога. Не можа гэта прывесці да дабра. Не хто іншы, а філосафы-краснабаі прывялі Афіны да гібелі. Рымская імперыя загінула ад распусты, вучонасці і глыбакадумнасці. Візантыя па тых жа прычынах стаіць на краі бездані. Глянь, князь, на захад. Там не толькі смерды, але і рыцары, графы, герцагі, нават каралі не абучаны чытаць і пісаць. Затое там нараджаецца самая вялікая дзяржава пасля Рымскай імперыі. Вучыся, князь, у Фрыдрыха Барбаросы...

Богша бачыў, што манашка збянтэжыла князя. Ён быў гатовы зрабіць усё, што падкажа Кажына.

«Але ж і пасаліла Ефрасіння і манашцы, і князю,— падумаў Богша, і думка гэтая завіравала, як вясновая вада ў ручаі, вымываючы з глыбіні цяжкія для адказу пытанні.— А што я ведаю пра князёўну полацкую; апрача яе жыція, што пісалася пасля таго, як яе зрабілі святой? Каму і чаму было выгадна зрабіць яе святой? Па чыйму заказу ці загаду было напісана жыціе? Чаму мошчы Ефрасінні пакінулі ў Кіеве, а не прынеслі ў Полацк? У Кіеве, з якім варагаваў яе дзед Усяслаў, дзе загінуў яе

дзядзька Глеб? У Кіеве, князі якога выслалі ў Візантыю яе бацьку і дзядзькоў? Дык чаго ж Ефрасіння прычакала такога гонару?»

Пытанні віліся, як пчолы над полем грэчкі. Але адказу не было.

У Богшы балела галава і чамусьці пазакладала вушы; ён бачыў, як размаўляе Кажына з князем, але не чуў іх.

«Я аглух, і ўжо навечна»,— з болем падумаў Богша, і тут жа да яго слыху даляцеў князеў узлаваны голас:

— Ілжэш, ведзьма!..

— Не шалей, князь,— рашуча асадзіла яна князя.— Паслухай лепей, што я скажу. Ты не ўтрымаеш Полацка, бо апіраешся на паганскую веру. Прымай каталіцтва, станавіся васалам Фрыдрыха Барбаросы, і ніхто не адважыцца адабраць у цябе Полацк.

Князь схапіў Кажыну за плечы, пачаў трэсці, як грушу-дзічку.

— Я задушу цябе,— закрычаў князь.— Я забараніў табе гаварыць пра папу і ягоную рэлігію. Я не адступлюся ад сваёй старой веры...

— Ну і дурань,— зарагатала Кажына.— Ты не разумееш сваёй выгады.

Кажына як апантаная пачала цалаваць князя, і той памалу губляў развагу. Ён быў ва ўладзе манашкі, як нядаўна ў яе ўладзе быў і Лазар Богша.

— Змяя ты, чараўніца,— казаў князь, таксама цалуючы Кажыну.

Ён паваліў манашку на палаці.

— Паашалелі, ці што? — раззлаваўся Богша, бо манашка і князь наваліліся на ягоныя грудзі, аж стала цяжка, амаль немагчыма дыхаць.

Князь ашалела ўскочыў. Паднялася з палацяў і Кажына.

— Хто гэта? — ляскаючы ад страху зубамі, спытаўся князь.

— Будучае,— сказала манашка.

Яна сарвала з Богшы аўчыны, якімі ж сама і прыкрыла яго.

Усё адбылося так хутка, што Богша нават не страпянуўся. Ён прадаўжаў ляжаць на баку, падкурчыўшы пад сябе ногі і адным вокам пазіраючы на князя. А той адразу ж, як чалавек вайсковы, выхапіў з ножнаў шырокі меч...

— Хто ты? — закрычаў князь.

І добра, што закрычаў, бо князі звычайна, ні слова не кажучы, сякуць з пляча, а ўжо толькі потым цікавяцца, каго яны прышылі.

— Кінарэжысёр Лазар Богша,— спрабуючы прыкрыць аўчынай голыя сцёгны, назваўся ён.

— Кінарэжысёр,— перадражніў яго князь,— панахапаліся дурні замежных слоў, а сэнсу іх не разумееце. Ты што там за крыж зрабіў для Ефрасінні ды яшчэ заклінанне напісаў на ім?..

Лазар Богша спакойна дастаў з-пад падушкі плаўкі, джынсы, кашулю. Знарок не дужа спяшаючыся, адзеўся. Апрануў нейлонавую куртку на шматлікіх засцежкахмаланках.

— Я не той Лазар Богша, якога ты, князь, маеш на ўвазе,— сказаў ён.— Ваш Лазар Богша робіць крыжы і іншыя ўпрыгожванні. Ён рамеснік. А я — мастак. Я раблю фільмы.

Богша пацвельваўся. Яму ў асалоду было глядзець у князеў разгублены твар. Але на тое ён і князь, каб у крытычныя мінуты знаходзіць шляхі да, хай сабе і ганебнага, адступлення. Потым знойдуцца словаблуды, якія ператвораць князеву ганьбу ў князеву славу, ягоныя ўцёкі ў мудрае адступленне.

— Ты адкуль прыехаў? — спытаўся князь, яўна пазбягаючы непрыемнай гаворкі.— З Візантыі ці, можа, яшчэ адкуль, напрыклад, з краіны Сін, дзе, кажуць, вялікія князі па загаду іхняга ўладыкі, нейкага Канфуза, абавязаны вучыць сваіх халопаў мудрасці і чалавекалюбству?..

Князь зарагатаў: такім недарэчным і смешным здалося яму тое, што робіцца ў краіне Сін.

— Дарэмна смяешся, князь,— азвалася Кажына, якая дасюль моўчкі стаяла ў парозе.— Хіба не тое ж робіць і княжна Ефрасіння? Дасмяешся да таго, што цябе стануць вучыць смерды і халопы...

— А во, бачыла,— сунуў князь у твар манашцы дулю.— Мы гэтых таленавітых вучняў Ефрасінні прымусім лыка драць для княжых слуг,— і глянуў на Богшу пераможна. Маўляў, бачыў, які я? — Дык адкуль ты?

— З Мінска,— адказаў Богша.

Князь паглядзеў на яго з дапытлівасцю вясковага шэрлак холмса.

— Брэшаш! Учора з Менска прыехалі госці. Пра цябе не было гаворкі ні на адным заездждым двары...

— Князь, ён прыляцеў да нас з будучыні, аж з дваццатага стагоддзя. А цяпер толькі дванаццатае...

Князь наморшчыў лоб, спрабуючы, відаць, уявіць тое далёкае будучае, з якога прыляцеў Богша.

— Хіба такое магчыма? — асцярожна спытаўся ён.

Лазар Богша хацеў быў растлумачыць, як ён паявіўся ў дванаццатым стагоддзі, але яго апярэдзіла Кажына.

— Магчыма,— упэўнена адказала яна.— Ён пасланец рымскага папы і таму можа падарожнічаць у часе...

Яе нахабства не вельмі каб і здзівіла Богшу. Манашка чымсьці нагадвала пасрэднага рэжысёра, які лічыць зробленыя ім слабенькія фільмы геніяльнымі. Такога абвяргаць гэтак жа бескарысна, як даказваць вар'яту, што ён вар'ят. Богша прамаўчаў. Хай брэша! Тым больш што яе аргумент зрабіў уражанне на князя. Ён запрасіў Богшу за стол, а манашцы загадаў падаць чаго выпіць і закусіць.

— А чаго ты прыехаў? — спытаўся князь, не дужа цікавячыся тым, чаго паявіўся чалавек з дваццатага стагоддзя.

Можа, у яго былі большыя клопаты?

Можа, ён палічыў Богшу за звычайнага хлуса, якіх нямала ходзіць па прасторах Полацкага княства?

А можа, ён проста падтрымліваў свецкую размову?

Князь той жа інапланецянін, якім адчуваў сябе і Лазар Богша ў старажытным Полацку.

— Справа ў тым,— сказаў Богша, думаючы, як бы больш даходліва растлумачыць князю, чаму ён прыехаў у старажытны Полацк,— што адзін наш таленавіты, вядомы і вельмі славуты пісьменнік напісаў сцэнарый пра бітву на Нямізе...

Князь шматзначна хмыкнуў:

— Цяпер усе пішуць. І жук і жаба... А што гэта за бітва?.. Нешта не чуў...

Кажына паставіла на стол глечыкі з пітвом, а ў гліняных місках каўбасы, вяленую і смажаную рыбу, маражанае сала і яшчэ нейкія прысмакі, назвы якіх Богша не ведаў.

— Адкуль табе чуць, князь? — сказала яна.— У цябе вунь колькі спраў. Трэба на дзікоў ды ласёў паляваць. Рыбу лавіць. А бітва гэтая была сто гадоў назад. Пра яе даўно забыліся б, каб не Баян. Панавыдумляў розных баек пра асілкаў, пра князя чарадзея, пра трох Яраславічаў, якіх ён ператварыў у сяброў асілкаў, што ездзяць па свеце, каб народ ад ворагаў абараняць.

«Ну, так, князь гэты зусім не полацкі,— вырашыў Богша.— Бадай, і не з роду Усяславага. Можа, Уладзімір забіў не ўсіх сыноў Рагвалодавых, калі ўзяў Полацк?.. Можа, нехта з іх быў на той час у якой-небудзь невялікай крэпасціцы, а потым Рагнеда выпрасіла ў вялікага князя кіеўскага Уладзіміра яму жыццё? Зрэшты, і не ўсім княжацкім сынам даставаліся гарады і крэпасці. Мабыць, князь гэты вось з такіх малодшых сыноў нейкай галіны полацкай дынастыі, які, аднак, не пакінуў мары аб княжацкім прастоле ў Полацку».

Думка прамільгнула, як святло далёкай маланкі.

— Баян, Баян,— паматаў галавой князь.— Цяпер у кожнага князя свой песнятворца. А Баян чый?

Кажына глянула на князя, як настаўніца на лянівага вучня, які зноў не вывучыў урока.

— Ах, князь, ці варта табе ведаць кожнага песняра на Русі? Іх многа, а ты адзін. Ды і Баян гэты таксама даўно памёр. Быў ён звычайны вершаплёт, выпівоха, бабнік і гуляка. Як і ўсе яны, вершаплёты... Не разумею аднаго, навошта Ефрасінні запісваць Баянавы песні?.. Каб абяліць свайго дзеда Усяслава?

Адказ Кажыны спадабаўся князю. Яно і зразумела: непрыемна, калі ты каго не ведаеш, хоць ведаць павінен. А тут, аказваецца, звычайны вершаплёт, ды яшчэ з дрэннай славай. Такое смецце не дастойна князевай памяці...

— А я збянтэжыўся, ці не прагледзеў каго вартага ўвагі,— сказаў князь з яўным намерам паказаць шырыню сваіх клопатаў і размах княжацкай цікаўнасці.— Я заўсёды паважаў песнятворцаў. Яны неабходны ў княстве як кавалі, бондары, рымары і іншы рамесны люд. Ці не праўда, Богша?

— Праўда, князь,— Богша ляпнуў князя па плячы на цыганскі манер: і балюча і крыўдаваць нельга. Яму вельмі дарэчы прыгадаўся прыём у дыскусіях з дурнаватымі, а таму вельмі ўпартымі апанентамі — даводзіць іхнія аргументы да абсурду.— Як глыбока ты, князь, капануў, дзе другія і не здагадваліся б. Толькі ніколі не трымай, князь, столькі песняроў, колькі трымаеш бондараў. Аднаго, не больш. Марока з імі, князь. Не, князь, не трымай больш як аднаго песнятворца, прашу цябе!..

— Перастань, Богша! — словы манашкі, як два снарады, узялі Лазара Богшу ў вілку. Трэці снарад мог паставіць на ягоным існаванні тлустую кропку.

— Слухаю і падпарадкоўваюся,— як апошнюю даніну іроніі, Богша склаў на грудзях рукі.

Ён ужо зразумеў: князь толькі сіла. Кажына — мозг зла. Яго дражніць небяспечна.

— Князю цікава ведаць, чаго ты прыехаў да нас? — нагадала Кажына, нібы акуратная сакратарка.

— Ага, ага,— падхапіў князь.— Чаму менавіта да нас?..

Князь хітра прыжмурыў вочы, і Лазар Богша зразумеў, што не такі ўжо ён і дурны, як прывыклі думаць. Хутчэй каварны. Таму трэба трымаць вуха востра.

— Пагадзіся, князь, што і самы таленавіты пісьменнік не можа аднавіць падзеі і эпоху так, каб яны поўнасцю адпавядалі гістарычнай праўдзе. Нават вашы непрадузятыя летапісцы, якіх і мы хвалім за аб'ектыўнасць, запісвалі падзеі ў выгадным іхнім князям святле. Дык вось я і надумаў пабываць у эпосе Усяслава Полацкага, пра якога ты, князь, напэўна, ведаеш лепей за мяне... Цяпер, князь, мне было зусім не лёгка дамагчыся камандзіроўкі не толькі ў другую дзяржаву, але ў другую грамадскую фармацыю. Там таксама задавалі вось такія пытанні: чаго? навошта? з якой мэтай?.. Але я не мог не паехаць, бо я хачу быць дакладным... Я хачу, каб па маім фільме можна было вывучаць эпоху Усяслава Полацкага...

Князь слухаў і нечага ўсміхаўся. Магло скласціся ўражанне, што князь раскусіў Богшаву хлусню. Ягоная зларадная ўсмешка і без слоў гаварыла: ага, сабачы сын, у сваёй балбатні ты сам сябе прыпёр да сцяны. Так што выкладвай адкрыта, з якой тайнай мэтай паявіўся ў слаўным Полацку?

— Та-ак! — дужа красамоўна выказаўся князь і наліў Богшу кубак мёду.— Выпі, Богша. Сухі язык непрыемна дзярэ слых.

— Ты не верыш мне? — спытаўся Богша.— Чаму?

— А каму можна верыць? — Князь дапытліва глянуў на Богшу.— Каму? Князь хлусіць князю, каб абдурыць яго. Брат хлусіць брату, каб мець выгаду. Самыя страшныя клятвы і тыя сталі хлуснёй. І ты, Богша, хлусіш. Думаеш, я паверыў абаім вам, што ты прыехаў з будучыні? Не і не. Гэта яна, Кажына, каварная шэльма, падбіла цябе на такія выдумкі. Вы хочаце, каб я выракся прадзедаўскай веры, адзінай і непаўторнай, самай справядлівай і сумленнай, дзе за адступленне ад клятвы, за хлусню, за крывадушнасць Пярун караў строга і бязлітасна. Веры,

дзе, стаўшы перад свяшчэннымі дубамі, ніхто не мог збрыдзіць сэрца сваё маной.

Князь узняўся з лаўкі. Расправіў плечы.

— Пачакай, князь, мне вельмі цікава слухаць цябе,— папрасіў яго Богша.— Мы там, у дваццатым стагоддзі, мала ведаем пра гэта.

— Адпраўляйся да свайго Усяслава. Ён быў не з горшых князёў,— сказаў князь.— Яго нават любілі. А ў мяне няма часу. І так заседзеўся я тут.

— Вазьмі і мяне з сабой,— папрасіўся Богша.— Я хацеў бы пабываць у тваім лясным княстве. Няўжо ў ім жывуць папраўдзе?..

— Хочаш паглядзець?.. А не баішся, што не вернешся адтуль?.. Адтуль ніхто не вяртаецца...

— Вазьмі, князь,— рашуча папрасіўся Богша.

— Не, не,— закрычала манашка.— Не хадзі да яго. Адпраўляйся ў Менск, глядзі бітву на Нямізе...

Ад яе крыку ў вачах Лазара Богшы пацямнела. Ён пачуў, нібы правальваецца ў бездань. Ляцеў ён, што праўда, не дужа доўга. Подых ветру прызямліў яго на штосьці цвёрдае.

Калі ён нарэшце расплюшчыў вочы, дык ні келлі, ні манашкі, ні князя нідзе не было.

Лазар Богша стаяў на зімовай дарозе пад дуплаватай пачварнай вярбой, што ўзнімала ў неба два сукі, як дзве рукі, скалечаныя хваробай і старасцю.

## 4

Лазар Богша стаяў на зімовай дарозе пад дуплаватай пачварнай вярбой, што ўзнімала ў неба два сукі, як дзве рукі, скалечаныя хваробай і старасцю.

Мясцовасць была незнаёмая і не сказаць, каб вабіла вочы. Наадварот, яна выклікала смутак і шчымлівы боль. Як кінуць вокам прасціралася ўзгоркавая раўніна, якую перасякала зімняя дарога — злавесны пісяг на бялюткім целе. Дарога адным канцом хавалася ў далёкім лесе. Другім скочвалася па адхонным схіле рачнога берага на лёд, чыста падмецены ветрам. Паспешліва каўзануўшыся па лёдзе, дарога паволі ўспаўзла на гару, да землянога вала, не вельмі высокага і крутога, на якім узвышаліся дзве драўляныя вежы, даволі старыя і ўбогія. Здаецца, падзьмі на іх, і яны паваляцца. Між вежамі, у прoразі

вала, чарнела гарадская брама. Таксама старая, але ўсё яшчэ трывалая.

Лазар Богша стаяў пад вярбою, але ягоны позірк дзіўным чынам пранікаў за крапасны вал, дзе ўшчыльную стаялі хаты, канюшні, свірны, кузні і яшчэ нейкія пабудовы, прызначэнне якіх Богша не ведаў.

Горад за валам дзяліўся на тры часткі-платформы, большая з якіх займала паўночны схіл узвышша. Яе прарэзала вуліца — вузкая, укосікі пралеглая, занесеная снегам, падобная на няўмела пракладзеную па цаліне баразну. Вуліца гэтая дабіралася да паўднёвага канца горада і выбягала за другую, паўднёвую браму на зімовую дарогу. Па той дарозе імчаў коннік на заінелым кані. Богшу здалося, што ён імчыць па небе, якое перакулілася на зямлю.

Але не гэта ўразіла Богшу. Ён выразна чуў, як гопаюць капыты па скаванай марозам дарозе, і нешта трывожнае, жудаснае чулася ў гэтым гопанні. Нібы на кані скакала смерць.

Богшу аж страсянула ад гэтай думкі, і тут жа над ягонай галавой пачуўся шолах крылаў і злавеснае крумканне.

Богша задраў галаву. Крумкачы засцілалі шарачковае неба ад краю да краю, і шолах іх крылаў нагадваў шоргат рыдлёвак аб пясок. Лазар Богша заціснуў вушы далонямі, а галаву ўцягнуў у плечы. Яму хацелася ўцячы адсюль абы-куды, хоць на край свету, але ён добра ведаў, што ўцячы ўжо нельга.

Гэта было страшэннае адчуванне свайго заняволення — навокал ні турэмных сцен, ні калючай агароджы, ні вартавых, а ўцячы нельга, быццам ён прывязаны мільярдамі нябачных пут да тых падзей, якія павінны адбыцца...

«Тое, што непазбежна, не можа быць адкладзена або перанесена напасля. Як я не мог зразумець гэтае д'ябальскае правіла, калі жыў там, у сваім стагоддзі? Пра што я тады думаў? Мітусіўся, пераконваў сябе, быццам нешта раблю, нечым важным займаюся. Божа мой, якая нікчэмная марнасць перад няўхільнасцю таго, чаму наканавана быць!» — падумаў ён, адчуваючы сваё бяссілле перад непазбежнасцю.

Ён яшчэ стараўся затрымацца пад пачварнай вярбою, а яго ўжо кудысьці цягнула, як у вір. Ён азірнуўся і пабачыў, што разам з нейкім людам бяжыць угару па вузкай вулачцы, у канцы якой стаялі два стражы з дзідамі. Яны

і перагарадзілі дарогу натоўпу. Адзін Лазар Богша неяк апынуўся па той бок варот на невялікім дворыку.

Той дворык паўкругам абступілі будынкі без вокнаў, але з дзвярамі. Самы вялікі будынак, што стаяў насупраць варот у ніжні горад, меў яшчэ і ганак з галерэяй на дубовых слупах.

Перад ганкам і стаяў той коннік, якога Богша бачыў на дарозе, і лупіў з-за вуха булавешкай па дошцы. Глухія гукі разляталіся ва ўсе канцы, выкурваючы з-пад стрэх галубоў з вераб'ямі. Тыя як ашалелыя насіліся над горадам.

Людскі натоўп усё рос і рос. Ён зламаў стражу, расцёкся па дворыку, захапіў кожны выступ, кожную страху, абы пачуць навіну, якая, па ўсім, не абяцала дабра.

Падпяразваючы на хаду папругі, надзяваючы на галовы шлемы, выбягалі на дворык дружыннікі, каб навесці парадак. Войска заўсёды павінна быць у форме, іначай яго не адрозніш ад шайкі разбойнікаў з вялікай дарогі.

Дружыннікі накінуліся на натоўп, змялі, сплюшчылі яго, адграблі да вала, і ён раптам прытаіўся, можна было падумаць, што перастаў дыхаць.

У цішыні, што запанавала на дворыку, зарыпелі дзверы, нібы чорт скрыгатнуў зубамі, выкрышыў іх і выплюнуў на зямлю,— на крутую галерэю выпаўз лахматы, з расхрыстанай грудзінай чалавек, падобны на мядзведзя, якога патрывожылі ў бярлозе.

— Што за гоман? — аблёгшы грудзямі на парэнчу, спытаўся ён асіплым голасам.

Ганец перастаў лупцаваць булавешкай па дошцы, ірвануўся да ганка.

— Ваявода!.. Яраславічы ў Случаску. На Менск ідуць...

Па натоўпе, як віхор, пракаціўся гоман, усё больш набіраючы сілу. Загаласілі ў роспачы бабы, заплакалі дзеці.

— Колькі ў іх войска? — спытаў ваявода.

— Святаслаў і Усевалад з малымі дружынамі. Ізяслаў — з вялікай...

З хаты на галерэю выбегла праставалосая маладзіца з кажухом у руках. Накінула кажух на плечы ваяводы.

— Прастудзішся,— паўшчувала яна ваяводу.— Мароз, а ён расхрыстаў грудзі...

Ваявода ўсунуў рукі ў доўгія рукавы, скаціўся па прыступках ганка ўніз, мякка ступаючы па снезе поршнямі,

зрабіў крокаў дзесяць па крузе. Нібы абдумваў прамову, якую трэба сказаць гараджанам.

— Мяняне,— зычным голасам крыкнуў ён, і гоман у натоўпе паступова аціх, як аціхае водгулле ў бары.— Мяняне, чулі, якую вестку прынёс вартавы?..

Натоўп маўчаў — ён-то чуў вестку, ды яго цікавіла другое: што скажа ваявода?

Богша надзіва выразна, буйным планам бачыў напружаныя людскія твары.

Акруглы, з карычневымі ад цяжарнасці плямамі твар маладзіцы. Яна стаяла як скамянелая, закусіўшы край ніжняй пульхнай губы.

Сурова, у адну кропку глядзеў стары з белай барадой. На ягонай шыі вісеў амулет — сякера з мноствам кружкоў.

У хлапчука-падшыванца гарэзліва свяціліся адвагаю вочы: нарэшце можна паспытаць сябе ў баі з чужынцамі, якія пруць у іхнюю зямлю па здабычу.

Твары, твары, твары!..

Напалоханыя, засяроджаныя, суровыя, здзіўленыя, хітрыя, насмешлівыя, зларадныя, самотныя, адкрытыя, радасныя, маршчыністыя, пачырванелыя ад марозу, зарослыя бародамі, захутаныя хусткамі, юныя, дзіцячыя з пузырамі пад носам...

Богша нятрудным намаганнем волі абарваў панараму на смаркатым хлапчуку, нібы абрэзаў плёнку на мантажным стале, і раптам апынуўся сярод абаронцаў горада на крапасным вале.

Ён добра ведаў, што знаходзіцца ў старажытным Менску на рацэ Менцы ці то на прыканцы тысяча шэсцьдзесят шостага, ці то зімой шэсцьдзесят сёмага года, што горад гэты неўзабаве будзе разбураны, а яго жыхары перабіты, але якраз гэта і наводзіла Богшу на страх, аж заходзілася сэрца, а пад лапатку калола тупым шылам.

Богша добра разумеў, што ён не можа загінуць, што, загінуўшы, ён вернецца ў рэальнае існаванне, але яму ўсё роўна было страшна. Хацелася збегчы адсюль у зацішную эпоху, без войнаў і смерцяў. Ды няўмольны закон мантажу чалавечага існавання насуперак Богшавай волі, здаецца, перастаў дзейнічаць. Над Богшам запанавала непазбежнасць, ад якой ніхто яшчэ не здолеў уцячы. Ён усё чыста ведаў, што адбудзецца, і не мог папярэдзіць падзеі. Ён быў бяссільны...

Во, сапраўды, пякельная трагедыя і жудасць, з якой

не давядзі бог калі-небудзь сустрэцца чалавецтву. Смерць заўсёды страх і жуда. Але яна ў параўнанні з тым, што адчуваў Богша,— бязвінная забаўка чорных сіл.

З пакутніцкім выразам на твары Богша назіраў, як мяняне рыхтаваліся сустрэць Яраславічаў. Было шмат крыку, пагроз разбіць, пакараць Яраславічаў, але спрактыкаваным вокам Богша бачыў, што горад не гатовы сустрэць ворагаў, што ён не вытрымае колькі-небудзь сур'ёзнага штурму.

Не хапала ўзбраення, людзей, а можа, і ахвоты змагацца. Ды і парадку было не шмат. Больш мітусні і крыкаў, за якімі хавалася славутае авось: авось Яраславічы не пойдуць на прыступ, авось ваявода палюбоўна дамовіцца з князямі, адкупіцца данінай, авось заўтра ці паслязаўтра прыскочыць на сваіх быстрых конях Усяслаў Полацкі і адгоніць Яраславічаў ад горада...

Богша прайшоўся па горадзе. Паслухаў, пра што гавораць мяняне.

Малады хлопец яшчэ з пушком пад носам замест вусоў прыціскаў у закутку каля вежы дзяўчыну. Тая лянiва адбівалася і гэтак жа лянiва казала яму: «Ведаем мы вас». Хлопец смяяўся: «Калі ведаеш, дык чаго брыкаешся, як неаб'езджаная жаробка?»

На вале двое мужчын палілі касцёр, глядзелі на варожую аблогу і вялі няспешную бяседу:

«Яраславічы таксама людзі. Свае ж хрысціяне. Нада было адразу адчыніць браму. Дык дзе там! Ваявода за сябе баіцца. А нам якая выгада? Чым ваяваць будзем? Ні стрэл, ні коп'яў. Каменя і таго не назапасілі. Сцяну ўсё абяцалі ўзвесці. Дзе там! Неміжане вунь якую сцяну ўзвялі. Ім што — багатыя. А мы — жабракі».

«Дык, ваявода, кажуць, ганцоў паслаў. Усяслаў-князь цяпер пад Ноўгарадам. Калі ўсё добра, і двух тыдняў не міне, Усяслаў тут будзе,— гаварыў другі мужчына з чорнай барадой.— Неяк адседзімся...»

Яраславічы, здаецца, і не схадзіліся браць горад. Па вечарах усе тры браты збіраліся ў адным з княжацкіх шатроў, вялі бяседу, слухалі песні княжацкіх песняроў, а выпіўшы мёду, падзадорвалі сябе на прыступ горада.

Іхнія дружыннікі тым часам шасталі па ваколіцах, рабавалі ўсіх, хто не здолеў уцячы падалей у глухамань. Стары гарадок Ізяслаўль адкупіўся ад Яраславічаў. Князі спадзяваліся, што і Менск дабярэ розуму, таксама адкупіцца багатай данню.

Менск жа спадзяваўся на свайго князя. Падзеі беглі сваёй чаргой. Насустрач людской пагібелі. Яны ўладна трымалі Богшу, не выпускалі яго з горада, для якога настаў ці не апошні дзень існавання.

Вузкая вулачка, перагароджаная снежнымі сумётамі, вывела Лазара Богшу да драўлянай царквы, якая нагадвала свіран з чатырохканцовым бярозавым крыжам на шпілі чатырохскатнай страхі. Дзверы царквы былі расчынены насцеж. А можа, іх зусім не было. Лазар Богша гэтага не заўважыў. Яго ўразіла іншае.

На ўбітай і добра прамерзлай зямлі ніцма ляжала дванаццаць чалавек у аднолькавых белых кашулях, у такіх жа белых штанах, абматаных белымі анучамі. Ні царскіх варот, ні захрыстай, ні панікадзіла або падсвечнікаў, ні абразоў на сценах у царкве не было. Праўда, на сцяне visела распяцце: на кароценькім крыжы — кароценькі Хрыстос з вырачанымі вачамі. Ягоныя рукі, ногі і бок былі густа заляпаны чырвонай фарбай. Яна сцякала з іх густым наплывам. Богша аж уздрыгнуў ад гэтай натуралістычнай, без аніякіх прапорцый жуды.

Затое ўздоўж сцен на сухіх кругляках стаялі старажытныя язычаскія бажкі, выструганыя з кляновых і ліпавых камлёў, сплеценыя з саломы і чароту, вылепленыя з гліны.

Богша надзіва лёгка, без падказкі пазнаваў паганскіх багоў. Вунь стаіць Крыў, кульгавы на левую нагу. Побач Ярыла — дзяўчына ў кашулі да пят, з вянком на галаве і ржанымі каласамі ў правай руцэ. Далей Купала, голы, бессаромны, але вясёлы і троху смешны. Ляшак з рагамі і капытамі, накшталт тых чарцей, што сабраны ў Каўнаскім музеі. Дзве багіні — Нава і Марэна, падобныя на шкілеты, увасаблялі хваробу і смерць. За імі туліўся Трыглаў, чорны і страшны, як падземнае прыстанішча памёрлых, якое ён увасабляў. Нібы салдаты на парадзе выстраіліся дамавік, вадзянік, русалка, Віл, Кікімара, Палазнік, Мора і чамусьці два бажкі балтыйскіх славян, Радгост і Руевіт.

Там, дзе належала быць захрыстай, стаяла сем багоў: галоўны бог і грамавержац Пярун з доўгімі вусамі. Хорс з Дажджбогам, Стрыборг, які загадваў вятрамі, Семаргал, падобны на каржакаватае дрэва з доўгімі каранямі, дужа жаноцкая Макоша і падобны на пастуха Велес. Вакол гэтых галоўных багоў гарэла восем свяцільнікаў. Дым ад іх узнімаўся пад самую страху, туды, дзе зеўрала ў страсе дзірка.

Пярун быў абвешаны ручнікамі, абчэплены пацеркамі. Ён гнеўна глядзеў з падлогі на распятага Хрыста, а распяты Хрыстос з нямым болем глядзеў на яго са сцяны. Абое яны былі ў чымсьці падобныя, можа, грубаватай, тапорнай работай, аголеным натуралізмам, без аніякіх абагульненняў — багі ў першапачатковым народным уяўленні, якіх яшчэ не кранулася недаступная святасць, якіх яшчэ не адарвалі ад людзей і не ўзнеслі на такую вышыню, на якой ужо нельга пабачыць агрэхі тапорнай работы.

З-пад страхі звешвалася і яшчэ адно бажаство, пра якое Богша нічога не ведаў — лік месяца-поўні — адна палавіна якога была зацемнена, другая асветлена. З асветленай гэтай палавіны пазіраў на Богшу жаночы твар. То было, няйначай, увасабленне дня і ночы, святла і цемры, чалавечага розуму і чалавечай нікчэмнасці — філасофскае асэнсаванне рэчаіснасці ў яе дыялектычнай супярэчнасці. Так, прынамсі, падумалася Лазару Богшу. Мабыць, невыпадкова бажаство гэтае спускалася са столі над галавою Перуна. Мабыць, яму належала засцерагчы разгневанага Перуна ад непрадуманых аднабаковых рашэнняў. Ды Пярун не мог задраць сваю драўляную галаву, каб зірнуць у неба.

«У гэтым уся сутнасць быція,— падумаў Богша.— Багі, як і людзі, не здольны зазірнуць у неба-вечнасць, хоць ім і здаецца, што яны глядзяць у яго. Чалавек таму і змясціў бога на небе, каб больш думаць і глядзець у вечнасць. А яму ўсё няма часу. Зямныя клопаты не даюць яму надоўга адводзіць вочы ад зямлі».

Чамусьці думка гэтая падалася яму дужа важнай, нейкім адкрыццём, да якога заставаўся адзін крок, адно імгненне. Ён паспрабаваў сканцэнтравацца, каб зрабіць гэтае адкрыццё, але нешта перашкодзіла яму.

«А чаму мне знаёмы гэты твар, што апускаецца з неба? — падумаў Богша і зноў зірнуў на бажаство ў выглядзе поўні. Яно глядзела на яго жывымі вачамі.— Божа, гэта ж Прадслава, Ефрасіння, князёўна Полацкая. Ну, так, яна...»

Адкрыццё гэтае ўразіла Богшу. Неверагодна, каб на сто гадоў раней нараджэння Ефрасінні, у Менску, у праваслаўнай царкве апускалася з-пад страхі бажаство, як дзве кроплі вады падобнае на Ефрасінню. Зрэшты, чаго не можа быць у зямным існаванні, тое, мусіць, звычайна да існавання замагільнага. Ва ўсякім выпадку, так паду-

малася Богшу, і загадка, што была зацікавіла яго, перастала існаваць.

Так найчасцей і бывае з чалавекам. Пакуль ёсць тайна, нейкая загадка, чалавек не хоча ні есці, ні піць. А як толькі тайна вытлумачана, няхай сабе і бязглуздымі доказамі, ён забывае, што яна існавала. Важна вера ў нешта, хоць тая вера і трымаецца на прывіднай павуцінцы ісціны.

Пакуль Лазар Богша асэнсоўваў убачанае, ля падножжа Перуна разгараўся касцёр з бярозавых і дубовых паленняў, а тыя дванаццаць жрацоў у белых кашулях, што ляжалі на земляной падлозе, цяпер стаялі па крузе, трымаючы ў дрыготкіх руках свяшчэнную ахвяру: хто чорнага пеўня, хто белага голуба, пучок траў, каліва льну, жытнія каласы, пук кудзелі...

Богша падумаў, што ўсё гэта вельмі эфектна выглядала б на кінаплёнцы. Шкада, што сцэнарыст не дадумаўся да гэтага. Але ён не мог дадумацца, бо заўсёды сцвярджаў, што на той час паганская рэлігія была выгнана з Полацкай зямлі, а калі і захавалася, дык хіба ў лясной глухамані. Якая неабачлівая самаўпэўненасць! Людзі дужа неахвотна расстаюцца са сваімі перакананнямі і верай.

— Прывядзіце яе,— пачуўся аднекуль, нібы з неба, жаночы голас.

Лазар Богша азірнуўся — у царкву ўваходзіла прыгожая маладзіца, зусім яшчэ дзяўчо, у белай да пят кашулі, падпяразанай вузенькім чорным поясам, з такой жа чорнай стужкай у белых валасах.

Яе вёў за руку стары сівабароды жрэц, хударлявы, з сінімі вачамі, падобнымі на дзве льдзінкі з замерзлага ляснога возера. У левай руцэ ён нёс дзіця, не аднятае яшчэ ад матчыных грудзей, а таму нявіннае, як белы голуб.

Богша не мог дацяміць, што мусіць тут адбыцца, і ён узняў вочы ўгору, быццам хацеў там знайсці адказ на сваё бязмоўнае пытанне.

І зноў яго вочы сустрэліся з жывымі вачамі жаночага вобліку — бажаства ў выглядзе поўні. Цяпер у Богшы не было сумнення: жаночы твар быў жывы, і ён загаварыў да Богшы голасам сельскай настаўніцы пачатковай школы:

— Лазар Богша, няхай памогуць табе багі спазнаць ісціну, без якой нельга спасцігнуць і самае відавочнае...

Троху загадкавыя словы гэтыя нагадалі нешта даўняе,

з гадоў дзяцінства ўспомненае, але ні да чаго пэўнага не прывязанае. Так, далёкі водгук нейкіх павучанняў, на якія не было звернута потым ніякай увагі.

— Хто ты? — пацікавіўся Богша, не вельмі спадзеючыся пачуць праўдзівы адказ.

— Рагнеда... Прамаці ўсіх князёў, што сядзяць цяпер па гарадах і крэпасцях ад Тмутаракані да Лачвозера і Багалюбава...

Богша паверыў яе словам. Навошта хлусіць полацкай князёўне, вялікай княгіні кіеўскай, затворніцы ізяслаўскай, княгіні полацкай?..

Богша адчуў, як праяснілася ў галаве, нібы ён разгарнуў кнігу і ўся мудрасць яе стала ягонай, Богшавай, памяццю. Ён успомніў, што і праўда цяперашнія князі зямлі рускай паходзяць ад двух сыноў Рагнедзіных: Ізяслава і Яраслава, празванага Мудрым.

Як ён раней не падумаў пра гэта? З адзінаццаці законных, аднаго няроднага (па сутнасці не сына, а пляменніка), мноства незаконных сыноў Уладзіміравых ад шматлікіх жонак і яшчэ больш шматлікіх наложніц пасля смерці Уладзіміравай засталося толькі два сыны, і абодва ад Рагнеды. Астатнія загінулі, разбегліся па свеце, згубіліся сярод дружыннікаў і смердаў па гарадах і весях Кіеўскай Русі.

Што гэта? Шчаслівая выпадковасць? А можа, добра падрыхтаваная аперацыя ганарлівай полацкай князёўны, бацьку і братоў якой забіў будучы вялікі і святы кіеўскі князь Уладзімір, а самую гвалтам узяў замуж? Можа, гэта Рагнедзіна помста князю Уладзіміру? Уладзімір імкнуўся знішчыць Полацкае княства, каб і памяці не засталося аб туташніх князях, а яна, Рагнеда, вярнулася ў Полацк, пасадзіла ў ім князем сына Ізяслава, аднавіла Полацкае княства, стварыла полацкую дынастыю князёў. Мала таго, яна прадбачліва параіла другому сыну, кульгаваму, нямогламу Яраславу, на якога бацька Уладзімір Краснае Сонейка махнуў рукой (які, маўляў, з кульгавага воін!), пайсці князем у Ноўгарад, дзе князёў спрадвеку трымалі ў чорным целе. Затое ў Ноўгарадзе Яраслаў больш-менш спакойна адседзеў чорныя дні варагавання, калі былі забіты Барыс і Глеб, а потым з дапамогаю сястры сваёй Прадславы без лішніх цяжкасцей стаў кіеўскім князем. Так закняжылі ў зямлі рускай князі з роду Рагвалодава, няхай сабе і па жаночай лініі. Але ж Рагвалодавічы, якіх Уладзімір хацеў звесці са свету. Што б там ні казалі, а

жыццё і настаўленне на гады дае жанчына-маці, і тым яна моцная, і нельга перамагчы яе!..

Лазар Богша аж загарэўся жаданнем высветліць у самой Рагнеды некаторыя падрабязнасці яе жыцця і жыцця яе сыноў. Калі і дзе сустрэнецца яшчэ такая нагода?

Але ягоная ўвага, як на грэх, была адцягнута старэйшым жрацом, які спыніўся ў крузе дванаццаці другіх жрацоў — паганскіх апосталаў прадзедаўскай веры...

Старэйшаму жрацу падалі доўгі крамнёвы нож. Ён узяў яго ў правую руку, падняўшы левай рукой дзіця...

Намер яго быў такі відавочны, что Лазар Богша здрыгануўся. Ён хацеў крыкнуць: спыніся! Але крык абурэння і гневу засеў у горле. Тады Лазар Богша, не задумваючыся, безразважна кінуўся да жраца, схапіў яго за руку, якая трымала нож. Ён сціснуў жрацову руку з усёй сілы.

— Адыдзі, паганец,— прашаптаў жрэц, не выпускаючы з рукі нож.— Дай нам вымаліць літасць у адзінага і справядлівага бога нашага Перуна. Іначай усіх нас чакае смерць ад мячоў Яраславічаў...

— Не,— сказаў Богша.— Пакуль ёсць я, не пральецца і кропля нявіннай крыві.

Жрэц нешта сказаў, і на Богшу накінуліся воіны, павалілі яго на Перунова падножжа, так што Богшава галава звесілася з узлобку. Богша ўбачыў над сабой страшнае ў злосці Перунова аблічча, за ім самотны твар Хрыста, вочы якога асуджалі Богшу. За што?

— Пярун патрабуе, каб кроў гэтага чужынца абрасіла ахвярнік,— сказаў жрэц.

Лазар Богша зразумеў, што настаў канец ягонаму замагільнаму існаванню. Зараз жрэц перарэжа яму горла, і ён, Лазар Богша, вернецца на зямлю. Яму захацелася паздзекавацца са старога жраца, які, няйначай, лічыў сябе намеснікам Перуна на зямлі.

— Слухай, дзед, усе твае старанні марныя, і ты не павернеш кола падзей у адваротны бок. Яраславічы разбураць ваш горад, і ён перастане існаваць на ўсе далейшыя вякі. Пра яго існаванне забудуць нашчадкі, і нават гісторыкі стануць спрачацца, ці быў тут горад і ці яго разбурылі Яраславічы. Ніякія твае ахвяры Перуну не памогуць гораду пазбегнуць прадвызначэння...

Жрэц глянуў на Богшу з лютасцю, якая больш пасыходзіла сыну д'ябла, чым служку Перуноваму. Ён узняў над Богшам крамнёвы нож. Богша з кіношнай цікаўнасцю

глянуў у жрацовы вочы: можа, у іх праблісне спачуванне, няўпэўненасць, жаль, спагада, ну, хоць якая рысачка чалавечых пачуццяў перад тым, як ягоная рука перарэжа горла чалавеку. Не пеўню, а чалавеку! Дзе там! У вачах жраца была бязлітасная вера ў сваю праўду. Лазар Богша скалануўся: усё ж паміраць ад рук такога забойцы не хацелася. «Гэта самыя страшныя забойцы,— падумаў Богша.— Забойцы, якія лічаць, што забіваюць людзей дзеля іхняга дабра».

Мусіць, Богшаў час не настаў, а можа, так належыць на тым замагільным свеце, што чалавеку няма звароту назад, у зямное існаванне. Рука жраца здрыганулася, з яеываліўся нож. Сам жа жрэц раптам адкінуўся назад, а з ягоных грудзей вытыркнуўся наканечнік кап'я.

Усё адбылося з такой маланкавай хуткасцю, што Богша не паспеў і вокам міргнуць. Ён толькі адчуў, што яго ўжо ніхто не трымае, і ўсхапіўся на ногі.

Дванаццаць жрацоў і трынаццаты старэйшы валяліся на мёрзлай зямлі ў тых позах, у якіх іх застала смерць. А воіны Яраславічаў ужо скідалі з падножжаў паганскіх багоў і кідалі іх у касцёр. Богша хацеў папярэдзіць воінаў, што ў кастры вельмі моцна зашугала полымя. Таго і глядзі, каб не загарэлася царква. Але ён падумаў, што гэта ўжо не ягоная справа.

Адзін з воінаў, малады яшчэ з выгляду хлопец, падчапіў кап'ём распятага на крыжы Хрыста і таксама кінуў яго ў вогнішча, паверх паганскіх багоў, па якіх ужо бегалі прагныя языкі агню.

Зрабіўшы сваю вайсковую справу, воіны выбеглі з царквы. Нібы пачуўшы волю, агонь перакінуўся на сцяну, адтуль — на сухія дошкі страхі, весела заскакаў па іх, шукаючы выйсця на прастор.

Станавілася горача. Лазар Богша выйшаў на двор. У марозным паветры над горадам стаяў вясёлы гоман заваёўнікаў, перадсмяротныя енкі абаронцаў, лямант жанчын, звон мячоў, віск свіней, мычанне кароў, іржанне коней, смех, лаянка, праклёны, тупат — усе пачварныя гукі вайны, ад якіх, здаецца, не было ратунку.

Богша бег у натоўпе людзей да паўночнай брамы. Ён і сам не ведаў, навошта яму бегчы, якога яму ражна трэба там, куды бег гэты звар'яцелы натоўп.

За брамай на ўтаптаным снезе сабраліся насельнікі горада, ацалелыя пасля пабоішча. Іх было не шмат. Жанчыны, дзяўчаткі. У іхніх вачах яшчэ не растаў страх, але

цеплілася ўжо і надзея. Сярод іх паходжвалі дружыннікі. Натоўп гэты варушыўся і гуў — пачварны клубок жывых цел уразіў Богшу, вострым болем адгукнуўся ў ягонай галаве.

Што было далей, Богша не запамятаў.

Ён ачнуўся ў нейкай хароміне з вялізным сталом, у тарцы́ якога немалады гусляр з залацістай грывай валасоў расцякаўся песняй-былінай па задуменных тварах трох князёў Яраслаўічаў і іх дружыннікаў.

## 5

Ён ачнуўся ў нейкай хароміне з вялізным сталом, у тарцы́ якога немалады гусляр з залацістай грывай валасоў расцякаўся песняй-былінай па задуменных тварах трох князёў Яраслаўічаў і іх дружыннікаў.

Лазар Богша сядзеў між двух ваяк, вопратка якіх і вайсковая амуніцыя сведчылі аб іх высокім чыне. Яны слухалі гусляра з увагай.

Лазару Богшу аж зрабілася крыўдна і зайздросна: чорт бы ўзяў гэтых князёў з іх дружыннікамі — ніякай да яго ўвагі і павагі. Быццам ён не вядомы кінарэжысёр, акцёр і паэт, а адзін з тых бездараў, які нешта піша, здымае ці сам здымаецца, абы зарабіць на хлеб, і гатовы брацца за любую халтуру, што прыносіць грошы.

Ён з падкрэсленай незалежнасцю ўзяў збан, наліў у драўляны коўш пітва, выпіў яго без аніякага смаку, але знарок крактануў на ўсю сілу лёгкіх, як, бывала, умелі крактаць грузавыя рамізнікі, выпіўшы шклянку гарэлкі на марозе, каб сагрэцца. Ды і гэтым ніякай увагі да сябе не прыцягнуў. Яму заставалася цяпер адно: паслухаць гусляра.

У таго быў голас рэдкай прыгажосці, і ён дасканала валодаў ім. Але тое, пра што спяваў гусляр, аж абурыла Лазара Богшу.

Гэта ж трэба набрацца нахабства — услаўляць Яраславічаў за тое, што яны захапілі, разрабавалі амаль безабаронны горад, перабілі ўсіх мужчын ад сівых дзядоў да хлапчукоў, якія яшчэ не адзявалі порткі! І не проста ўслаўляць! Гусляр складаў быліну пра захоп Менска Яраславічамі, як пра высакародны ўчынак асілкаў, што выратавалі свой народ ад варвараў-чужынцаў.

Але і гэта было не ўсё, што абурыла Богшу. Песня-быліна гусляра здорава нагадвала быліны пра Ілью Му-

рамца, Дабрыню Мікіціча і Алёшу Паповіча. Лазар Богша не цярпеў плагіятараў і так званых інтэрпрэтатараў, якія здольны на тое, каб абакрасці і самога сябе.

«Ну і жук!.. Ну і старажытны інтэрпрэтатар!.. А глядзі, якая пашана! Самі князі ледзь не моляцца на яго. Ды чаму не маліцца, калі гусляр праслаўляе іх і яны спадзяюцца на стагоддзі. А за што праслаўляе? За разбой!.. Ну і парадачкі! Ну і гусляр!.. Такога любыя князі запаважаюць...»

Лазару Богшу так і рупіла спыніць хоць якім чынам гуслярова глумленне над праўдаю жыцця. Бо ўжо лакіроўка рэчаіснасці, якой, бадай, не ведала гісторыя. Бог літасцівы, куды ты глядзіш, калі ты ёсць на свеце?.. Дык жа няма яго, няма!..

Богша рашуча падхапіўся, каб сказаць гнеўную прамову, а тады хоць у пекла, хоць назад на зямлю. Але нехта ўзяў яго за левае плячо, моцна націснуў, прымусіўшы апусціцца на лаву. Богша азірнуўся — за ягонай спіной стаяў той самы хлопец, якога полацкі майстар Лазар Богша назваў аўтарам «Слова аб палку Ігаравым».

— Гэта ты? — узрадаваўся Лазар Богша.— Як табе падабаецца гэтая залатакудрая пачвара гусляр? Я абураны!..

— Памаўчы,— загадаў яму аўтар «Слова».— Ты не маеш права так гаварыць. Гэта славуты Баян, унук бога Вялеса, які пасе жывёлу і памагае людзям іграць на гуслях і спяваць песні, што змякчаюць чалавечыя сэрцы, ачарсцвелыя ад несправядлівасці і бязмежнай улады.

— Баян? — не паверыў сваім вушам Богша.— Гэта Баян?..

Тым часам Баян кончыў спяваць, але ягоныя пальцы ўсё яшчэ краталі струны, і тыя ракаталі, як далёкі вясновы гром,— і грозна і ўзнёсла. Калі апошні, можа, самы нізкі гук замёр над чорнай ад вечнай гары столлю, настала пругкая цішыня, якая раптам узарвалася дружнымі крыкамі захаплення.

Толькі князі, як і належыць ім па званні, засталіся сядзець на лаўцы — астатнія паўскоквалі з месц, тупалі нагамі па ўтрамбаванай земляной падлозе, грукалі цяжкімі драўлянымі каўшамі і карцамі аб дубовую стальніцыну, размахвалі мячамі ў высока ўзнятых руках і нават спрабавалі пераймаць гусляра, спяваючы радкі быліны, якія ім найбольш спадабаліся.

Гэта было не тое прытворнае захапленне меламанаў

дваццатага стагоддзя, якія крычаць і вішчаць не таму, што разбіраюцца ў мастацтве, наадварот, таму, што нічога не разумеюць у ім — то было шчырае захапленне песняром. Было зусім непраўдападобна, каб усе гэтыя воіны, прывыклыя забіваць, гвалтаваць, рабаваць, гэтак беззапаветна любілі песню.

Навошта яна ім?.. Што знаходзяць яны ў песні? Але факт заставаўся фактам.

— Цябе таксама захапляюць Баянавы песні? — спытаўся Богша ў аўтара «Слова».

— Ён вялікі майстра,— ухіліўся той ад шчырага адказу і сціпла дадаў: — Але я нязгодны з ім...

Богша не стаў высвятляць, чаму аўтар «Слова» не згодны з Баянам. Ён нырнуў пад стол і вынырнуў па той бок стала.

— Брат,— пачуў Богша голас аднаго з князёў і надзіва лёгка здагадаўся, што гаворыць Ізяслаў Яраславіч, князь кіеўскі, Святаславу чарнігаўскаму,— брат, саступі мне Баяна. Табе і аднаго Хадыны хопіць...

— Чуў? — спытаўся аўтар «Слова» ў Богшы, нейкім цудам апынуўшыся за ягонай спіной.— Усе яны, князі, так. Робяць выгляд, што нешта разумеюць у песнях. Хіба ж можна разлучаць Баяна з Хадынай? Паслухаў бы ты іх разам!.. Божа мой, якое хараство!.. Хоць і адзін Баян варты дзесяткаў гусляроў. Але ўдвух!.. Так спявалі, можа, у старыну пры вялікім князі Уладзіміру...

— І іх разлучаць? — спытаўся Богша, чамусьці вельмі ўстрывожаны словамі аўтара «Слова».

— Разлучаць,— адказаў аўтар.— На што не здольны князі дзеля сваёй прыхамаці...

— Я папярэджу яго,— узгарэўся Богша і рашуча накіраваўся да Баяна, вакол якога стаялі дружыннікі.

Аўтар «Слова» не паспеў спыніць яго. Богша падышоў да Баяна.

— Выйдзем... Трэба пагаварыць,— сказаў ён.

Дружыннікі абурана загулі.

— Ціха,— крыкнуў Баян.— Гэта адзін з маіх зайздроснікаў, і нам настаў час высветліць нашы адносіны.

— Мы яго зараз праткнём кап'ём і павесім грэцца на марозе,— сказаў рудабароды дружыннік.

— Праткні сабе язык,— агрызнуўся Баян.

Дружыннік хацеў нешта сказаць, але яго адціснулі ў кут, сталі ўгаворваць:

— Не звязвайся з гэтымі прыдворнымі паэтамі. Баян

цяпер у княскай міласці. Паскардзіцца князю, дык табе не паздаровіцца.

Рудабароды дружыннік толькі скрыгатаў зубамі.

— Пайшлі,— Баян абняў Богшу за плечы, і яны пасунуліся да дзвярэй.

І зноў Богшу давялося ісці паўз лаўку, на якой сядзелі князі.

— Дзякуй, браце мой Святаславе,— пачуў Богша Ізяславаў голас і зразумеў, што Святаслаў аддаў Баяна Ізяславу, як аддаюць на карыстанне нейкую рэч.— Мой гусляр зусім адбіўся ад рук. Слова яму поперак не скажы. Ніякай удзячнасці...

— Ага, параспускаліся,— пагадзіўся Святаслаў.— Але ж самі і вінаватыя. Іх, гэтых гусляроў, трэба ў чорным целе трымаць. А мы ім патураем. Волю далі. Пры Уладзіміру Красным Сонейку парадак быў. Хай бы каторы паспрабаваў пайсці насуперак княжаму слову! Яго так прыструнілі б, што дзесятаму заказаў бы...

Богша не стаў слухаць, як прыструньваў Уладзімір сваіх гусляроў. У таго і асілкі хадзілі па адной маснічыне. А каторыя спрабавалі пярэчыць князю, тых Уладзімір адсылаў на самыя далёкія заставы — ваюйце сабе там з ідалішчамі паганымі...

Яны стаялі на мысе, які з абодвух бакоў крута абрываўся да дзвюх рэчак. Злева ад іх за чорны лес у сінявацай смузе сплывала чырвонае, як на вецер, сонца. Унізе пад імі, за меншай ракою, стаяла крэпасць з вежамі і брамамі. Брамы былі зачынены, і, няйначай, як здагадваўся Богша, таму, што тут, на мысе, піравалі дружыны Яраславічаў. За крэпасцю былі раскіданы селішчы — слабодкі працоўнага люду. Адно з селішчаў размяшчалася за шырэйшай ракою. Там жа, перавернутыя дагары, чарнелі занесеныя снегам лодкі. Уздоўж крапасной сцяны, што падступала да гары, таксама разбегліся нейкія пабудовы. Яшчэ адно селішча раскінулася злева ад крэпасці, дзе пакаты бераг адступаў ад ракі метраў, можа, на сто.

— Дзе мы? — спытаўся Богша, забыўшыся, што паклікаў гусляра зусім для іншай мэты.

Мясцовасць яму была як бы знаёмая. Яна нагадвала нейкую мясцовасць з другога часу.

— Няўжо не пазнаеш? — здзівіўся Баян.— Гэта ж во Свіслач. За ёй, вунь там, ледзь вышэй, дзе Няміга ўпадае ў Свіслач, гандлёвыя рады Менска. А крэпасць гэтая, што за Нямігай, так і называецца — Няміга.

Лазар Богша прыгледзеўся лепей. Не, чорт пабяры, сапраўды дзіва! Ён, аказваецца, стаіць на кручы, дзе пры жыцці яго, Богшы, у Мінску стаяў кафедральны сабор. Чаму стаяў? Ён і цяпер стаіць. Гэта я памёр, а ён стаіць. А насупраць, за Свіслаччу — Траецкая гара. Недзе там, дзе рака крута выгінаецца, цяпер высіцца оперны тэатр. А ніжэй — Траецкае прадмесце, якое Баян назваў гандлёвымі радамі...

— Дык хіба існаваў такі горад Няміга? — спытаўся ён у Баяна.

— Вы там панапісвалі, панагарадзілі, параскапалі, а так і не дайшлі да ісціны,— сказаў Баян.— Ну, сам падумай, дзе яшчэ мог стаяць горад Няміга, як не на гэтым месцы, дзе рака Няміга ўпадае ў Свіслач? Спрадвеку так было, што гарады называліся па малых рэках, а не па вялікіх. Полацк на Палаце. Віцебск на Віцьбе. Орша на Ршы...

Лазар Богша чамусьці не здзівіўся, што Баян ведае, з якога стагоддзя ён апынуўся ў адзінаццатым стагоддзі. «Здаецца, Баяна, як і князя Алега, звалі вешчым»,— падумаў ён.

— У нас ужо даўно даказалі, што вось гэтая крэпасць, якую ты назваў Нямігай, і ёсць старажытны Менск. І што ён быў спалены і разбураны Яраславічамі. Што ты на гэта скажаш? — падміргнуў Баяну Богша.

Па шчырасці, дык было троху смешнавата спрачацца з Баянам; Богша сам бачыў, як гарэў той Менск, што на Менцы. Ды і стаялі яны перад горадам, які Баян назваў Нямігай.

— Вы там папрывыкалі ні ў што не верыць,— з бурклівай незадаволенасцю папракнуў Богшу Баян.— Усё вам падавай доказы, і не абы-якія — рэчавыя. А рэчы хоць і ўмеюць гаварыць, ды памяць у іх недасканалая. Толькі напісанае — сапраўдна. Чаму ж вы не верыце летапісцам? Яны не ўмелі хлусіць...

— Кінь,— махнуў рукой Богша.— Яны, можа, і не ўмелі хлусіць. Затое ні адзін раз за іх тыя летапісы перапісвалі. Нікана дапісваў Нестар. Думаеш, мала нарабіў ён правак па загадзе свайго князя Святаполка Ізяславіча?.. А калі на княжы стол у Кіеве сеў Уладзімір Манамах, дык хіба не ён забраў летапіс у Выдубіцкі манастыр, дзе над ім добра папацеў ігумен Сільвестар? Але і Сільвестравы пераробкі не задаволілі Уладзіміра, і ён даручыў гэтую далікатную справу свайму старэйшаму сыночку

Мсціславу. Той і адрэдагаваў канчаткова Нікапаўскі летапіс. Так што памаўчы, Баяне...

— То было пасля,— троху разгублена сказаў Баян, але тут жа рушыў у наступленне: — Ну, і што, калі правілі летапісы? Нічога дзіўнага. Каго і калі не правілі? Усіх правяць. Гісторыю і тую правяць. Так, бывае, палепшаць або пагоршаць, што дзіву даешся. То з ног на галаву паставяць, то за вушы падцягнуць. Тут важна, што правяць? Як правяць?.. Канечне, князю Святаполку хацелася ўзвысіць свайго бацьку Ізяслава Яраславіча і, наадварот, прынізіць Полацкага Усяслава. Але нашто яму выдумваць, што Яраславічы, разграміўшы Менск, рушылі з палонам на Нямігу? Усё было так, як напісана, і няма чаго сумнявацца, вышукваць нейкія доказы, або адстаяць свой пункт гледжання. Не, не нашы летапісцы памыліліся, а вашы. Вашым і ў голаў не прыходзіць, што магло быць два Менскі.

— Два? — здзівіўся Лазар Богша.

— А чаму і не так? — спытаўся Баян.

Ён прайшоўся па снезе да старога, вялізнага па акружыне пня. Пасярод яго чарнела выгнілае дупло, і толькі абалонка была яшчэ моцнай. Яны селі: Баян на пень, Богша — проста ў гурбу снегу.

Сонца ўжо напалову схавалася за лес, што рос недзе, як вызначыў дзеля сябе Лазар Богша, на Кальварыйскіх могілках. Над ім у апошніх промнях сонца кружыла процьма галак. Богшу здалося, што ён чуе іх грай.

— Тады прасвяці мяне, неразумнага,— насмешліва папрасіў Богша Баяна, але той, мабыць, не зразумеў іроніі.

— І прасвячу,— паабяцаў ён з упэўненасцю настаўніка, які прыйшоў на першы ўрок у першы клас.— Менск па Менцы дужа старое селішча,— пачаў ён распеўным голасам.— Праз яго ляжаў шлях з драўлян і дрыгавічоў у крывічы і далей да аўкштайтаў, жэмайтаў, земгалаў, ліваў і паморскіх славян, што рассяліліся па ўзбярэжжы і астравах Варажскага мора. На яго яшчэ полацкі князь Рагвалодаў дзед, таксама Рагвалод, вока паклаў...

— Пачакай з Рагвалодам,— перапыніў Баяна Богша.— Ты мне растлумач, як гэта купцы з драўлян і дрыгавічоў дабіраліся да паморскіх славян? Можа, на самалётах...

— На якіх самалётах?.. На лодках па Пцічы, а далей па Існачы...

— Ну, і рассмяшыў,— зарагатаў Богша.— Па Існачы!.. Ды яе курыца ў разводдзе пяройдзе...

Баян пакрыўдзіўся. Ён быў наогул дужа крыўдлівы, гэты пясняр, зрэшты, як і ўсе паэты.

— А ты не смейся. Курыца Ісляч пяройдзе!..— перадражніў ён Богшу.— Ты лепей бы пра іншае спытаўся: чаму драўляне і дрыгвічы не вялі гандаль па Дняпры, Бярэзіне і Свіслачы? З Бярэзіны прасцей было дабрацца да Полацка.

«Лагічна разважае, як філосаф,— падумаў Богша і сам сябе тут жа абвергнуў: — Хоць чаго там! У паэтаў жалезная логіка, а ў філосафаў — адна яе фікцыя. Часы мяняюцца, а разам з імі — паэты, філосафы і нават крытыкі, якія спрадвеку некага за нешта крытыкавалі, а цяпер толькі хваляць. Можа, іх трэба цяпер называць неяк інакш. Славаслоўцы... Пахвалёнцы... Не, нешта ўсё не тое...»

— А і праўда, чаму? — думаючы пра паэтаў, філосафаў і крытыкаў, спытаўся ён.

— Нарэшце пытанне, вартае адказу,— лішне ўзнёсла сказаў Баян.— Бачыш, дарагі Богша, на той час радзімічы, пэўна, чуў пра такое племя, асядлалі Дняпро ад вусця Бярэзіны амаль да вусця Прыпяці. Таму і заняпаў быў гандаль па Дняпры. Не, ён не спыніўся. Наўгародцы з варагамі прабіваліся да Кіева і далей да Царграда. І з Царграда хадзілі ў варагі. Але крывічам, палачанам быў не па сіле ды і не па кішэні такі гандаль. Во і шукалі іншых шляхоў у абход радзімічаў. Таму Рагвалодаў дзед і абнёс тынам Менск. Умацаваў яго. Ваяводу паставіў. А і тут на Нямізе існавала селішча, якое было далёка вядома: ад Дзвіны да Прыпяці, ад Дняпра да Нёмана. Вунь там, на гары (дзе цяпер оперны тэатр, падумаў Богша), некалі стаяла капішча Купале, падобнае на вялізнае кола. Дык вось раз у год, калі наставаў самы вялікі дзень, з'язджаліся сюды крывічы і палачане, драўляне і дрыгвічы, радзімічы і паляне. Раз у год тут ладзіўся кірмаш. На гары палілі кола. Тапілі ў Свіслачы вялізную ляльку «мару», купаліся ў рацэ, качаліся па расе. Тры дні маладыя па сваім выбары займаліся каханнем, і ніхто не мог забараніць ім гэтага. А ўсход сонца адзначаўся карагодамі і песнямі. Раз'язджаліся ж адсюль не толькі з удачна купленымі таварамі, але найперш з жонкамі, бо лічылася, хто на Купалу знайшоў сабе жонку, з той будзе ў яго доўгі і шчаслівы век... Ну, а потым радзімічы былі прагнаны за Дняпро, а неўзабаве і зусім разгромлены. Той, па Пцічы, шлях стаў занепадаць. А па Дняпры і Бярэзіне ажыўляц-

ца. Тады і паявілася каля селішча Няміга другое, якое спачатку называлі Менскім дваром, бо яно належала менскім гандлёвым людзям. Але Менск прадаўжаў заставацца галоўнай крэпасцю на поўдні Полацкага княства. А Няміга і крэпасцю тады не была. Так, перавалачная база. Няміга пры Усяславе стала крэпасцю...

Шчыра табе прызнаюся, падабаюцца мне полацкія князі. Усе яны: і Рагвалод, і дачка яго Рагнеда, якая па сутнасці была полацкай княгіняй, хоць князем і лічыўся Ізяслаў, яе сын, і Брачыслаў, і цяперашні Усяслаў не сядзелі склаўшы рукі. Непрыкметна рассоўвалі свае землі. Ставілі на іх крэпасці. Пракладалі дарогі і волакі. Вось і гэтую крэпасціцу Нямігу заклаў Усяслаў. І сына свайго Глеба паставіў тут княжыць пад сваім нядрэмным вокам. А як жа?.. Ці мала чаго можа здарыцца. Бывае, і сын на бацьку ідзе. Бачыш, якія ўмацаванні на Нямізе? Не тое што ў Менску? Яраславічы таму і захапілі Менск без вялікіх баёў. Як гнілы арэх раскусілі, ды такі ж бедны здабытак і ўзялі. Затое сваю помсту задаволілі. А для Усяслава Менск гэты не вялікая страта. Няміга ж і Заслаўе адкупіліся. Нямігская крэпасць для іхніх зубоў цвердаватая. Пастаяць Яраславічы, папіруюць, балазе ёсць за што піраваць, а там і Усяслаў падаспее. Во і сыдуцца на ратным полі. А як жа!.. Не дзеля таго пёрліся Яраславічы ў гэты паход, каб не паспрабаваць моцы Усяслававага мяча...

А палон свой — жанчын гэтых з дзецьмі — Яраславічы тут пакінуць. Паселяцца яны на Менскім двары. І пойдзе крэпасціцы гэтай дзве назвы — і Менск, і Няміга. Доўга яны будуць спаборнічаць. Ды назва Менск пераможа, калі Глеб канчаткова зацвердзіцца на зямлі гэтай. Па старой памяці, як быў край гэты Менскім удзелам, так і застанецца ім...

Яны замаўчалі, кожны думаючы пра сваё запаветнае. Толькі цяпер Богша ўспомніў, што не дзеля гэтага выклікаў Баяна на размову.

— Паслухай, Баяне,— сказаў ён.— Як ты ўяўляеш свой грамадзянскі абавязак паэта і гусляра?..

— Славіць князёў, асілкаў, ваявод, само сабой... Яшчэ я люблю апяваць жанчын... Самае прыгожае, што ёсць на свеце,— жанчына...

У Баяна загарэліся вочы, а твар яго засвяціўся, заззяў, як вясновае сонейка.

— Пра жанчын пасля... Гэта паэзія інтымная, і да

грамадзянскай ніякіх адносін,— сказаў Богша словамі аднаго вельмі патрабавальнага крытыка, які некалі разграміў Богшаў зборнік.— Мяне турбуе другое. Як ты, пясняр, паэт, славіш князёў, усе заслугі якіх у тым, што яны захапілі амаль безабаронны горад, перабілі, разрабавалі багацці, захапілі ў палон жанчын і дзяцей, пагналі сюды, на Нямігу?.. Ганьба!.. Злачынства ўслаўляць забойцаў і рабаўнікоў.

Богша быў шчыры ў сваім гневе. Але Баян, здаецца, не разумеў, чаго гневаецца Богша. Так яно і было.

— Чаго ты злуеш? — спытаўся ён з нявінным выглядам дзіцяці, якое не разумее, чаму на яго сварацца.— Я слаўлю не забойствы, а воінскую доблесць, не гвалт і рабаванні, якія, дарэчы, бываюць на ўсякай вайне, а чалавечую мужнасць. Чалавек вельмі прыгожы ў баі. Тады ён такі спрытны, дужы, моцны, аж залюбуешся. А пасля бою на яго бывае агідна глядзець. Ён нешта цягне, азіраецца ў вечнай сваёй скваппасці і прагнасці, ці не нарабаваў хто за яго больш? Хваліцца сваімі подзвігамі, якіх у яго і не было. Не, Богша, сваімі песнямі я ўзвышаю князёў, ваявод, асілкаў і проста дружыннікаў над жорсткасцю жыцця. Яны адчуваюць сябе волатамі, уяўляюць, што ваююць за справядлівасць. Справядлівасць, Богша!.. А калі чалавек хоць раз адчуе ў сабе дабрыню і справядлівасць, ён ужо чалавек, а не звер, які забівае невядома дзеля чаго. Паэт і павінен узвышаць людзей, раскрываць перад імі прыгажосць іх учынкаў, калі ён нават троху і недакладны. Інакшай усе мы ператворымся ў жукоў, якія капаюць зямлю, а ўзлятаюць у паветра, каб толькі на імгненне спарыцца... Глянь, Богша, на прыгажосць гэтых прывідных прыцемак. Хіба я павінен апяваць не іх, а гэты гнілы пень?.. Вечную прыгажосць буду я славіць у песнях. Мудрасць Яраслававу, храбрасць Мсціслававу, цудадзейнасць Усяслававу, рашучасць Святаслававу...

— А на ўсіх іх — кроў славянская,— запратэставаў Богша.— І ты, паэт, узяў грэх на сябе за тое, што апяваў і славіў іх... і не кажы мне пра справядлівасць. Хто прынёс дзіцяці слёзы — варты гарэць у пекле. Хто ж свядома славіў крыўдзіцеля — тройчы варты гарэць у пякельным агні...

Баян засмучана думаў, і Богша ўзрадаваўся, што закрануў ягоную душу.

— Лазар Васільевіч, ах Лазар Васільевіч, як вы можаце гэтак абражаць найвялікшага паэта,— раптам пачуў



Юлій Ванаг, Максім Танк, Алесь Асіпенка. 1970-я гады.




Нарада па ваеннай літаратуры.
Злева направа: В. Озераў, М. Аляксееў,
Закі Нуры, М. Грыбачыў і Алесь Асіпенка. 1974 г.

Богша за спіной дужа знаёмы ў сваёй непаўторнасці голас і павярнуўся.

Да яго, як у сне ці ў рапіднай здымцы, не ішоў, а плыў у паветры над зямлёю Рафаіл Міхайлавіч Доля — дзядзька ягонай жонкі Любы.

«Чаму і як ён апынуўся тут? — падумаў Богша, назіраючы за набліжэннем Рафаіла Міхайлавіча.— Ага, ён, здаецца, памёр, як і я. Здаецца ці на самай справе памёр? — спрабаваў аднавіць даўнія падзеі Лазар Богша і не мог.— Зрэшты, якая розніца між чалавекам жывым і мёртвым? Хіба толькі ў тым, што жывы нешта вечна гаворыць, каб не разгадалі ягоных сапраўдных думак, а мёртвы маўчыць? Дык жа маўчанне — золата. Лепей маўчаць. Колькіх язык даводзіў да смерці?! А ўсё не перастаюць нешта гаварыць, абы паказаць свой спрыт і розум...»

Рафаіл Міхайлавіч нарэшце дасягнуў берага, спыніўся насупраць, дакорліва пазіраючы Богшу ў вочы.

— Навошта вы пакрыўдзілі Баяна? — спытаўся Доля плаксівым голасам.— А яшчэ патрабуеце, каб іншыя не крыўдзілі дзіцяці. Баян — тое ж дзіця. Усе паэты такія. А вы крыўдзіце... Каго?.. Сябе крыўдзіце, Лазар Васільевіч... Як жа вы не можаце зразумець, што паходы і войны ў Баянаў час былі доблесцю, а не ганьбай. Ды так яно застанецца і на вякі...

— Хлусіш! — крыкнуў Богша.

— Ты аслеп, Лазар Васільевіч,— сказаў Доля.— Аслеп і ўжо нічога не можаш убачыць...

— Цябе дык я бачу,— злосна сказаў Богша, і яму захацелася схапіць Долю за шкірку і кінуць з кручы ў ваду.

Ён ужо працягнуў рукі, як нехта схапіў яго, прыціснуў да зямлі, паставіў на калені.

## 6

Ён ужо працягнуў рукі, як нехта схапіў яго, прыціснуў да зямлі, паставіў на калені...

Лазар Богша азірнуўся, хоць зрабіў гэта праз сілу. Ён стаяў на каленях пад высокім стэпавым небам, перад шаўковай юртай, з якой далятаді гучныя галасы і незразумелая Богшу мова.

«Куды занесла мяне?» — падумаў Богша, баючыся азірнуцца па баках.

Удалечыні, у стэпе, пасвіліся коні, а справа і злева ад яго стаяла па воіну з аголенымі шаблямі.

— Дзе я? — спытаўся ў іх Богша.

— Маўчы, няшчасны,— сказаў нехта за ягонай спіной, бо воіны прадаўжалі маўчаць, моцна сціснуўшы вусны.

— Дзе я? — знарок ужо гучна спытаўся другі раз Лазар Богша.

— Ты ў стане вялікага, мудрага, найярчэйшага за сонца, найсправядліўшага на зямлі, светлага і высокашаноўнага Чынгісхана...

— Якога мне чорта тут патрэбна? — як бы разважаючы ўголас, спытаўся Богша.— Не хапала бачыць яшчэ гэтага забойцу і ката, сапраўды вялікага ў сваіх крывавых учынках...

— Ён самы справядлівы, літасцівы,— адказаў усё той жа голас за Богшавай спіной.

— Тых, хто стаў бы славіць тырана і забойцу, я караў бы дужа проста — вырываў бы ім язык,— агрызнуўся Богша.

Ён, напэўна, сказаў бы і больш грозную прамову, ды тут з юрты выйшаў сам Чынгісхан. Ён быў невысокага росту, крываногі, як, зрэшты, і ўсе вандроўнікі, што, здавалася, і нараджаліся ў сядле. Раскосыя вочы на ягоным скуластым твары ззялі ад уласнай годнасці і ўсёдазволенасці. Няўклюдна квадратную постаць Чынгісхана добра аблягала белая куртка, а белыя шыракаватыя штаны былі акуратна ўвабраны ў лямцавыя боты, аздобленыя дарагім каменнем. Славуты тыран рознапляменнага войска спыніўся перад Лазарам Богшам, паглядзеў на яго, як на нейкае недарэчнае дзіва.

— Хто ты і чаму апынуўся ў размяшчэнні майго баявога лагера? — грозна спытаўся Чынгісхан.

Ён быў усяго галавы на дзве вышэй за Богшу, хоць той стаяў на каленях. Гэта развесяліла Богшу.

— Я — Лазар Богша, кінарэжысёр,— сказаў ён, зусім непачціва пазіраючы ў вочы Чынгісхана.— У цябе, можа, закурыць знойдзецца? Два вякі не курыў — вушы апухлі. А ўсё таму, што па нашай сістэме выдадзены загад, каб не паказвалі на экране, як героі фільма кураць. Разумееш, некаму падалося, што кіно вінавата ў тым, што людзі п'юць і кураць. Ну, і выдалі загад. На экране цяпер ні махорачнага дыму, ні бутэлек і чарак. Любата! Такое ўражанне, што на свеце ўжо ніхто не п'е, не курыць... Здарава, Чынгісхан?..

Богша знарок балбатаў абы-што, спадзеючыся выпра-

бавацым сваім метадам ашаламіць Чынгісхана. Але па меры таго, як Богша гаварыў, медна-карычневы твар Чынгісхана ўвачавідкі наліваўся крывёю. З раскосых вачэй валадара Азіі так і пырскалі нястрымна гнеўныя іскры. Здавалася, Чынгісхан зараз выхапіць з ножнаў меч, сячане ім па непакорнай галаве Лазара Богшы. Але ён стрымаў сябе нейкім нечалавечым намаганнем волі.

— Адкуль ты паявіўся, такі смелы?.. Глядзі, каб я не загадаў разарваць цябе коньмі...

— Адкуль я паявіўся і чаму, спытайся пра гэта ў тых, хто прыцягнуў мяне сюды не па маёй волі. Не думай, што мне вельмі хацелася сустракацца з такім агідным тыпам, як ты. Я наогул не цярплю забойцаў і тых, хто славіць забойствы, знаходзячы дзеля гэтага тысячы самых розных апраўданняў. Ты заліў крывёю мангольскія стэпы, прасторы Сярэдняй Азіі, Каўказ і землі маёй прарадзімы. Ты спыніў бег часу на землях, якія пераўзыходзілі цябе філасофамі і мудрацамі, паэтамі і мастакамі. Ты адкінуў людзей у часы дзікунства і рабства. Я ненавіджу цябе, як злы лёс, што спасцігнуў народы, якім ты не мог бы служыць апошнім рабом...

Богша задыхаўся ад гневу, што ахапіў яго. Яму хацелася гаварыць і гаварыць. Выкрываць Чынгісхана з ягонымі крывавымі ўчынкамі. Ён ведаў ужо сваю асуджанасць і нічога не баяўся. Але нейкі гоман за ім адцягваў Богшаву ўвагу. Тады ён павярнуў галаву направа і налева, угледзеў вялізны натоўп, які запоўніў увесь стэп. Гэта натоўп і крычаў, трасучы кулакамі, пікамі, калчанамі для стрэлаў, шаблямі і нажамі.

«Чаго яны крычаць?» — падумаў Богша.

— Ты абразіў найвялікшага з вялікіх, найсправядлівага са справядлівых, валадара іхніх цел і душ, надзею і веру, сонца, зямлю і паветра, без якіх ім не жыць. Яны патрабуюць разарваць цябе, які апаганіў светач задум і памкненняў іхніх, на часткі...

— Яны што, сляпыя? — спытаўся Богша, не могучы паверыць, што людзі, якія не ведаюць яго, гатовы забіць яго толькі за тое, што ён сказаў праўду, якая застанецца ў вяках.

— Яны верныя яму, і веру іх у Чынгісхана будуць апяваць у вяках паэты ўсёй зямлі...

Богшу захацелася плюнуць ад агіды.

— Хто скажа мне, адкуль паявіўся гэты нахабнік? — зыркнуўшы па баках, спытаўся Чынгісхан.

Наперад выпаўз чалавек у зашмальцаваным халаце, вельмі падобны на Кірылу Лыкавязава. Ён пацалаваў насок бота Чынгісхана, пасля гэтага ўзняў угору твар. Лазар Богша так і ахнуў ад здзіўлення: то была манашка Феадора, ці, як называў яе лясны князь, Кажына, з якой Лазар Богша расстаўся сто гадоў назад.

— О, вялікі, мудры, смелы ўладар неба, зямлі і мораў, вясновае сонца стэпаў, дыханне ўсяго жывога, вялікі пастух народаў свету,— загаварыла яна.— Чалавек гэты, калі можна назваць чалавекам смярдзючага сабаку, які валодае чалавечай мовай, па празванні Лазар Богша — ліцадзей і чараўнік — маною і хітрасцю пранік у наш час з далёкай будучыні, каб зняць пра цябе фільм і такім чынам адвярнуць твары воінаў ад вялікіх тваіх спраў, пасеяць смуту і непакорнасць табе і тваёй найвыдатнай задуме стварыць сусветную імперыю дабра і справядлівасці, якую не ведала чалавецтва. Ён да таго ж — паэт, які лічыць, што грэшна апяваць такіх, як ты, о вялікі і мудры валадар усяго, што жыве на свеце. Ён прапаведуе мір і роўнасць паміж народамі. Ён гуманіст...

— Хто? — у Чынгісхана пачарнелі вочы.

— Ён з тых, хто лічыць, што пакрыўдзіць адно дзіця — найвялікшы грэх. Што захоп чужых земляў — злачынства, якое трэба караць смерцю...

— Дзе мой кат? — спытаўся Чынгісхан.

— Што загадае яснае сонейка стэпаў? — аднекуль падпоўз кат, цалуючы наскі ханскіх ботаў.

— Яму трэба адсячы галаву, але так, каб у ёй захавалася здольнасць думаць і пакутаваць, а цела ягонае каб памерла і было разарвана арламі-сцярвятнікамі.

— О вялікі і мудры валадар свету,— урачыста загаварыў кат, лежачы на зямлі і не падымаючы вачэй на хана.— Можаш не сумнявацца, я зраблю так, як ты загадаеш. Але дазволь сказаць слова. Лепей хай памрэ галава гэтага нягодніка і злачынцы і яе разарвуць арлы-сцярвятнікі, а цела няхай жыве і пакутуе вечна...

Кат заціх, мабыць, сам спалохаўся сваёй смеласці.

— Будзе так, як сказаў я,— не пагадзіўся з ім Чынгісхан.

Кат закалаціўся як асінавы ліст.

У тое ж імгненне Лазара Богшу схапілі пад рукі, паклалі на калоду дагары тварам. Богша ўбачыў над галавой попельна-шэрае неба, на якім не было сонца. Мабыць, сонца зацямніў Чынгісхан. У небе ўжо кружылі арлы-сцяр-

вятнікі, чакалі, калі можна будзе апусціцца на Богшава цела.

— Богша, паслухай мяне, Богша,— над ім у паветры завіснуў твар Кажыны,— прызнайся хану, што ты раскайваешся ў сваім учынку, і вялікі хан не толькі не стане цябе караць, але залічыць на сваю службу. Ты будзеш складаць у ягоны гонар песні, якіх прагнуць ягоныя воіны. Яны гатовы ісці за ім хоць на край свету. Гатовы загінуць. Выконваць любыя ягоныя загады, якія здаюцца ім мудрымі і справядлівымі... Табе цяжка сказаць, што вінаваты?..

— Цяжка,— адказаў Богша.— Цяжка і агідна...

— Ну і дурань... Зрэшты, ты мог бы і прытварыцца. Тыраны любяць прытворства, хоць і разумеюць, што прытворшчыкі пакінуць іх на першым павароце...

— Не! — запярэчыў Богша.— Я не хачу прытварацца, бо я мастак.

— Мастак!.. Ці мала іх прытвараюцца, абы жыць у міласці, смачна есці, саладка піць і спакойна спаць...

— Такія не мастакі,— рашуча запярэчыў Богша.— Яны гандляры, хай сабе і з прыгожым тварам...

— Тады ты загінеш, і ніхто не будзе памятаць, што некалі жыў такі мастак Лазар Богша...

Лазар Богша пачуў, як па ягоным целе прабеглі мурашкі. Яму зрабілася страшна. Божа літасцівы, тварыць у імя праўды, быць сумленным у сваёй творчасці, столькі зрабіць дзеля таго, каб чалавек стаў лепшы, і загінуць невядомым...

— Але ж гэта несумленна,— троху разгублена сказаў ён.— Несумленна так абыходзіцца з мастаком. Гэта несправядліва...

— Прызнай сваю віну, і ты станеш бессмяротны. Цябе будуць вывучаць, перакладаць на ўсе мовы свету,— сказала манашка.— Няўжо табе лепей памерці і застацца назаўсёды невядомым, чым прызнаць свае памылкі, стаць асабістым песняром хана. Галава — адна. Яе адсякуць, і другую на шыю не прыладзіш...

У Лазара Богшы болем зайшлося сэрца. «Прызнаюся, — падумаў ён.— Будучыя пакаленні мяне зразумеюць. Хан, які не пабаяўся забіць сотні тысяч народа, вельмі проста забароніць успамінаць маё імя, а ўсе мае творы загадае знішчыць. Я не магу дапусціць, каб мае творы — жывыя думкі, бяссонныя ночы, напал пачуццяў і логіка разважанняў — былі знішчаны, каб ні цяпер, ні ў буду-

чым пра іх ніхто не ведаў. Творы — гэта маё жыццё, прадаўжэнне яго на зямлі, калі мяне ўжо на ёй не будзе...»

Ён хацеў ужо сказаць, што прызнае сваю віну перад ханам і гатовы служыць яму верай і праўдай, не задумваючыся над ягонымі справамі, як убачыў у небе той самы цень, што вёз яго з возера Суя ў гэты замагільны свет. І гэты цень і Ефрасіння Полацкая былі падобны як дзве кроплі вады.

— Богша, не слухай яе,— сказала Ефрасіння Полацкая далёкім, але выразным голасам.— Гэта Спакуса. Колькі творцаў гінула, паслухаўшы яе. Успомні, Лазар Богша: калі б Ісуса не распялі, ён не стаў бы Хрыстом...

— Не! — крыкнуў Богша.

Вострая, як брытва, вялікая, як чорная хмара, сякера апусцілася на Богшаву шыю. Ён пачуў, як галава без аніякага болю аддзялілася ад цела і пакацілася па траве, пакуль не наткнулася на белы шоўк юрты.

Толькі цяпер Лазар Богша зразумеў, якую страшную кару прыдумаў яму жорсткі ўладар манголаў Чынгісхан. Розум у ягонай галаве жыў сам па сабе, ён мог усё прадбачыць, усё ведаць і разумець, але нічога не мог зрабіць. Розум быў бяссільны перад злом...

Лазару Богшу зрабілася жудасна ад уласнай безабароннасці і бездапаможнасці: кожны з манголаў мог узяць ягоную галаву, ягоны розум і рабіць з ім усё, што яму ўздумаецца.

«Божа,— падумала Богшава галава, лежачы ў засені пад ханскай юртай,— хай бы хто сумленны, добры, чалавечны падабраў мяне, бо, трапіўшы ў нягодныя рукі, я магу нарабіць многа зла».

Але Богшаву галаву ніхто з манголаў, што снаўдалі каля юрты, не збіраўся падымаць. Мабыць, яе розум не вельмі быў патрэбны гэтым заваёўнікам, што вандравалі ў прывольных стэпах. Адзін з іх, што праходзіў каля галавы, пхнуў яе босай нагой, нібы гэта была не разумная галава, а футбольны мяч.

— Прыгожая цацка, але ж зусім непатрэбная,— сказаў ён, падняўшы галаву за вушы.— Хіба ўзяць для дзяцей? Хай бы пагулялі, пакуль малыя. Але гульні з такімі цацкамі да дабра не даводзяць...

Ён кінуў галаву на траву пад бязлітасна гарачае сонца. Яна засталася ляжаць угору тварам. Яе вочы маглі бачыць неба, але не маглі бачыць тое, што рабілася на зямлі.

Тут ужо Богша не сцярпеў, закрычаў нема і дзіка, як смяртэльна паранены звер, якога затравілі бязлітасныя паляўнічыя.

Ён крычаў доўга, і ніхто не звяртаў увагі на ягоны лямант. Крычы сабе колькі пажадаеш, бо ты розум і табе належыць крычаць ад болю і несправядлівасці, ад бездапаможнасці і адзіноты. Ты — розум!.. Усяго толькі розум...

Галава Лазара Богшы крычала б яшчэ невядома колькі, ды раптам адчула, што ёй прыдадзена цела — тулава, рукі, ногі. Тады яна перастала крычаць.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ:
## ненавіснае... бясконца дарагое кіно

### *Эпізод першы:*
### сага аб студыйным калідоры

Галава Лазара Богшы крычала б яшчэ невядома колькі, ды раптам адчула, што ёй прыдадзена цела — тулава, рукі, ногі. Тады яна перастала крычаць.

Ён ляжаў тварам дагары, закінуўшы галаву на падушку. Ягоныя закочаныя пад лоб вочы ніяк не маглі асэнсаваць, дзе ён, што з ім? Над ім нізка вісела белая покрыўка — столь, а па баках, як у трохкутнай прызме, разыходзіліся дзве салатавыя сцяны. Здавалася, што ён усё яшчэ знаходзіцца ў трынаццатым стагоддзі, пакараны смерцю Чынгісханам.

Гэта было жахліва — прачнуцца і зноў апынуцца там, дзе цябе абезгаловілі. На амярцвелай шыі галава чулася так, як, напэўна, чуе сябе футбольны мяч, якога білі нагамі два таймы. А можа, ён і не прачынаўся наяве, а толькі ў сне, як было ўжо не раз, калі ён падарожнічаў па тым свеце.

Спачатку безуважліва, а пасля ўсё больш асэнсавана ён павёў вачамі па сцяне, па дэдэронавай гардзіне ўніз да падаконніка, застаўленага гаршчэчкамі з кактусамі, потым яшчэ ніжэй, па падлозе з дываном, нарэшце спыніў позірк на стале з пішучай машынкай, у карэтцы якой быў закладзены чысты аркуш паперы.

«Дык гэта ж мой кабінет! — узрадаваўся Лазар Богша.— Цяпер я пэўна не сплю!.. Але ж і прысніцца чортведама што. Прачнешся і сам сабе не верыш, што ляжыш дома, а не вандруеш па замагільным свеце».

Унутры ўсё гарэла і смылела, а левая палавіна грудзей набракла тупым болем. Боль чуўся ў плячы і ў пацяжалелай, асвінцованай за ноч руцэ. «Гэта ж у мяне сар-

дэчны прыступ»,— падумаў Лазар Богша і пачуў, як ад ног да амярцвелай патыліцы пракаціўся брыдзенькі страх.

— Люба, Люба! — закрычаў ён, гукаючы жонку, і раптам успомніў, што яе няма, што яна паляцела ў Адэсу.

Ён працягнуў руку і адразу ж намацаў ручку шуфлядкі ў століку, дастаў цюбік з нітрагліцэрынам. Паклаўшы таблетку пад язык, Лазар Богша заплюшчыў вочы, пачаў чакаць, калі паслабне боль. Але, як толькі ён заплюшчыў вочы, адразу перад ім узнік вазок-саркафаг, тройка белых коней, якая ляцела ў чорнай бездані Сусвету, і жудасны пралом у нябеснай сферы — вароты ў пазазямное існаванне. Богша адразу ж расплюшчыў вочы.

«Цікава, хто мяне прывёз дамоў? — падумалася яму.— Хоць у лоб трэсні, не помню. Першы ў жыцці правал памяці. Мусіць, старэю, і час падумаць пра ўласнае здароўе. Хутчэй бы нітрагліцэрын зняў спазму, тады прыму душ, віп'ю кавы... Не, лепей чаю з бальзамам. І абавязкова трэба пазваніць Любе. Усё — дурасць і глупства».

Папраўдзе, дык Лазар Богша зусім не быў упэўнены, што Люба даруе ўчарашнюю сварку, але яму вельмі хацелася, каб яна даравала, а таму ўгаворваў, запэўніваў сябе, што яна павінна дараваць.

Тым часам нітрагліцэрын паволі сцішаў боль, аж пасвятлела ўваччу. Лазар Богша скінуў ногі з канапы на дыван, пакруціў галавою, нібы хацеў вытрасці з яе тупы надакучлівы клін. «Хопіць»,— сказаў ён сам сабе і рашуча стаў на ногі.

Ванны пакой размяшчаўся побач са спальняй. Лазар Богша адкруціў кран гарачай вады на ўсю магутнасць — вострыя струменьчыкі балюча сцебанулі па жываце, па грудзях, па твары, пацяклі, ужо крыху ахалоджаныя, па нагах. Яны станавіліся ўсё гарачэйшыя. Богша адкруціў кран халоднай вады — струмень пахаладзеў, стаў вастрэйшы.

Павярнуўшыся тварам да сцяны, выкладзенай блакітнаватай кафляй, Лазар Богша прайшоўся душам па спіне, выганяючы з яе зябкі халадок. Ён чуў, як знікае боль у грудзях, а цела становіцца свежым і дужым. Ды і галава прасвятляецца ад кашмараў, што прыкінуліся да яго ноччу.

Выключыўшы гарачую ваду, Богша павялічыў напор халоднай. З хвіліну ён хвастаў сябе халодным душам, потым зноў уключыў гарачую ваду. Начныя кашмары сплывалі разам з вадою ў круглую адтуліну сцёку. Лазар Бог-

ша выключыў ваду, дастаў з кручка махровую прасціну, акрыў ёю плечы. У цішыні, што раптам настала, пачуўся пранізлівы тэлефонны званок.

«Люба!» — радасна падумаў Богша і, забыўшыся, што на ім толькі махровая прасціна, выскачыў з ваннага пакоя.

Тэлефонных апаратаў было два: адзін у кабінеце, другі — у холе, перад залай.

— Алё, алё! — крыкнуў Богша ў трубку, ніяк не хаваючы сваёй радасці.

— Лазар Васільевіч, дзе ты прападаеш? Я ўсе тэлефоны паабламаў...

Богша адразу пазнаў: Карней Карнеевіч Кладачка, дырэктар карціны, тры «К», як яго клічуць на кінастудыі.

— Што здарылася, Карней Карнеевіч? — спытаў Лазар Богша, адчуваючы нейкую бяду.

Толькі цяпер ён убачыў сябе ў трумо, што стаяла тут жа ў холе, і вельмі здзівіўся. Такім недарэкам Лазар Богша ніколі сябе не ўяўляў. Свой адбітак ён прывык бачыць на экране, дзе заўсёды выглядаў аж занадта прыгожа. А тут чортведама хто глядзіць на яго з люстэрка, нейкая пачвара з крывымі нагамі, тлустым чэравам і валасатай грудзінай. Выходзіць, існуюць два Лазары Богшы: адзін — экранны, другі — бытавы, адзін — увасабленне мужчынскай прыгажосці, другі — агідны двайнік.

«А здорава мяне здэфармаваў час,— незадаволены сабою, пабытавым, падумаў Лазар Богша.— Хутка змагу іграць толькі Квазімоду».

Папраўдзе, дык Богша грашыў, калі так думаў. Ён умеў, быў здольны ўсяго сябе падпарадкоўваць ролі. Перад кінакамерай у яго мяняліся і паходка, і манера трымаць сябе. Кожны жэст, кожны рух — усё аддавалася ролі, усё свяцілася натхненнем і талентам.

— Што здарылася, што здарылася? — цяжка адсопваючыся, перадражніў яго Карней Карнеевіч.— А тое здарылася, што на дзве гадзіны прызначаны мастацкі савет. А ты спіш! І нічога не ведаеш. Падобна на тое, што нас хочуць прыкрыць...

За час работы ў кіно Лазар Богша прывык да нечаканасцей, і ўсё ж навіна збянтэжыла яго.

— А вы, Карней Карнеевіч, часам не спрасонку? — насмешліва спытаў Богша, праўда, больш для таго, каб падрыхтавацца самому да найгоршага.

— Мілы мой, я яшчэ не клаўся спаць і ледзьве стаю на нагах,— пакрыўдзіўся Карней Карнеевіч.— У мяне ў

дарозе сапсавалася машына, і мы — ламачыну гэтую — ледзь не ад Лагойска цягнулі на сабе.

Лазару Богшу стала весела, ён аж падміргнуў уласнаму адбітку ў люстэрку. Той у сваю чаргу падміргнуў яму: маўляў, ну і любіць Карней Карнеевіч драматызаваць падзеі.

— Ну, добра, не злуйце, Карней Карнеевіч, я пажартаваў. Але чаму такая паспешнасць?

— Як чаму? Ты хіба не ведаеш, што прыехала Рымачка Громава?

— Адкуль жа мне ведаць, калі дырэктар карціны паведамляе аб такой важнай падзеі тады, калі куратар прыехала ўжо на студыю, а не тады, калі яна толькі падумала, што трэба было б паехаць, паглядзець, што там робіць рэжысёр Лазар Богша...

Богшава іронія зрабіла ўражанне — Карней Карнеевіч зразумеў, што пікіравацца далей няма сэнсу.

— Ну, во што,— пакрысе адступаючы, загаварыў Карней Карнеевіч,— няма нам калі тары-бары разводзіць. Высылаю машыну, а ты праз пятнаццаць хвілін выходзь на вуліцу. Палова членаў савета ўжо ходзіць па калідоры, чакаючы, калі геніяльны рэжысёр Лазар Богша ашчаслівіць іх сваёй увагай. Хвілін дваццаць пастараюся іх затрымаць, а далей не ручаюся...

— Не практыкуйся ў красамоўстве,— спыніў Богша дырэктара.— Праз пятнаццаць хвілін буду на вуліцы...

Карней Карнеевіч павесіў трубку.

«Няўжо я спаў да дзвюх гадзін дня?» — падумаў Богша і, выціраючы галаву канцамі прасціны, пакрочыў у залу, дзе на сцяне вісеў мадэрновы гадзіннік — ходзікі з гірай у выглядзе дзвюх бутэлек з-пад шампанскага і з кашэчай мордай на цыферблаце, якая падміргвала то адным, то другім вокам. Ён размашыста адчыніў дзверы і аслупянеў: у крэсле, бокам да яго, сядзела незнаёмая жанчына.

«А я во які, гуляю па кватэры»,— жахнуўся Богша і механічна адступіў два крокі назад.

Жанчына, аднак, ніяк не зрэагавала на ягонае паяўленне. Магчыма, яна пра нешта моцна думала, а можа, нават драмала, бо ўявіць, што не пачула, як ён зайшоў у залу, было зусім неверагодна. Лазар Богша ціхенька зачыніў дзверы, падыбаў на пальчыках у кабінет.

«Няйначай, нейкая Любіна пратэжыстка,— падумаў ён, апранаючыся.— От ужо чалавек! Ніколі не папярэ-

дзіць, а я кожны раз натыкаются на не дзяўчат у самы непадыходзячы момант».

Што праўда, то праўда, Богшава жонка, Люба, мела адну, не зусім прыдатную ў сямейным жыцці звычку: яна вечна падбірала на кінастудыі бескватэрных кіношных дзяўчат, якія былі ў іх па тыдні і больш, пакуль Лазар Богша здымаў фільм на натуры, у экспедыцыі. Пасля аднаго выпадку Лазар Богша, вярнуўшыся дамоў з камандзіроўкі, нават у свой кабінет заходзіў з асцярогай.

Той, прыгаданы цяпер выпадак выклікаў у Богшы лёгкую ўсмешку. Тады ж, напачатку, яму было зусім не да смеху. Ён прыехаў дамоў троху позна і, каб не тлумачыць Любе, чаму і з кім заседзеўся, ціха прайшоў у свой кабінет. На канапе нехта спаў. Пакой з вуліцы ледзь асвятляла неонавая шыльда над магазінам. Богша, аднак, разгледзеў, што спіць жанчына. Вядома, Люба. Ён хацеў быў разбудзіць яе нейкім жартам, напрыклад, той дзівацкай песенькай, якую ён сам прыдумаў, але фантазія падштурхоўвала на нешта больш дасціпнае. А жонка тым часам нічога не чула ці, можа, прыкідвалася, што нічога не чуе. «Я табе папрытвараюся»,— весела думаў Богша, абы-куды скідаючы адзенне. Раздзеўшыся, ён нырнуў пад коўдру, абхапіў рукамі Любу, але тая так заверашчала, так пачала адбівацца рукамі і нагамі, ды яшчэ і кусацца, што Богша не ўтрымаўся, даў ёй добрага «ляшча» па мяккім месцы.

— А-а-а-а-а, ратуйце! — закрычала Люба незнаёмым голасам. Богшу падумалася, што трапіў у чужую кватэру. Але тут пад столлю ўспыхнула люстра.

— Зіначка, Зіначка, не бойся, гэта Лазар Васільевіч,— пачуў Богша Любін голас.

Лазар Богша ўскочыў, нічога не разумеючы. На парозе кабінета стаяла Люба ў доўгай начной кашулі, а на канапе калацілася ад страху нейкае ружовае ў святле люстры дзяўчо.

«Зіна-Зіначка, Зіначка-маліначка»,— з нейкаю пяшчотаю падумаў Богша пра Зіну, і думка гэтая адагнала прэч і непрыемную вестку пра мастацкі савет і другую, пра новую Любіну пратэжыстку, што сядзела ў зале.

Пакуль Богша нацягваў джынсы, каўбойскую клятчатую кашулю, нейлонавую куртку на засцежках, прайшло хвілін пяць. Засталося — дзесяць. Папіць чаю, вядома, няма калі. Ён зазірнуў у халадзільнік-бар. На яго шчасце, там стаяла бутэлька нарзану. Дастаўшы лімон, Богша вы-

ціснуў сок у фужэр, дадаў лыжку рыжскага бальзаму, паклаў крыху мёду, даліў фужэр нарзанам, залпам выпіў. Напітак асвяжыў. Закурыўшы цыгарэту, Богша нетаропка выйшаў на вуліцу. Машыны яшчэ не было.

«Але, чорт пабяры, адкуль і калі паявілася тая жанчына? — задумаўся Богша.— Учора яе не было. Магу прысягнуць, што не было. Не залезла ж яна праз акно? Хіба Люба дала ключы? Нават і вельмі верагодна... А што, калі я прывёз яе ў кватэру ноччу? Таксама верагодна... Можа, яна якая зладзейка, а я пакідаю яе ў кватэры. Трэба падняцца наверх і спытаць, адкуль яна паявілася?..»

Лазар Богша хацеў ужо ісці ў пад'езд, як з-за вугла выруліла машына. Шафёр затармазіў, спрытна адчыніў дзверцы, перагнуўшыся на бок.

— Сядайце, Лазар Васільевіч. Загадана з вецяркам, бо познімся...

«Ліха з ёю, той жанчынай,— падумаў Лазар Богша.— Як зайшла, так хай і выходзіць...»

— Паехалі,— сказаў ён.

Кожны раз, прыходзячы на кінастудыю, Лазар Богша трапляў у непаўторна знаёмую, мілую, дарагую і бясконца ненавісную атмасферу. Ён не мог, не ўмеў дакладна вызначыць, што і чаму на студыі было да слёз, да трапяткога хвалявання яму адначасова дорага і ненавісна, але ён мог прысягнуць, што абодва гэтыя пачуцці ўжываліся ў ім арганічна і мірна. Мабыць, несумяшчальныя ў іншых людзях, яны ўжываліся не толькі ў Лазару Богшу, але ў кожным, хто аднойчы трапіўшы на кінастудыю, глытнуўшы кіношнага паветра, заставаўся назаўсёды яе палоннікам, як электрон у кальцы сінхратрона.

Лазар Богша неаднойчы задумваўся, а чым адметная кіношная атмасфера? Адказаць на такое пытанне было зусім нялёгка. Знешне кінастудыя была падобна на дзесяткі іншых устаноў. І ўсё ж непадобна. Тут, як нідзе, уладарыў дух неадольных супярэчнасцей: апантаных, бурных захапленняў і горкіх, ледзь не трагічных расчараванняў; фантастычных узлётаў на грэбені славы і катастрафічных падзенняў у нябыт; хвалюючых пакут ад самааддачай творчасці і салодкай уцехі ад лёгка зробленых грошай. Кінастудыя акумуліравала ўсе чалавечыя страсці. Яна была падобна на дом зачаццяў і родаў, дзе ў пакутах любові, насалоды, ахалоджання, нянавісці, раскаяння, болю, шчырасці, гордасці, расчаравання — усёй гамы чалавечых пачуццяў — зачыналася, нараджалася, квіт-

нела або заўчасна гінула чалавечае імкненне да праяўлення сваёй сутнасці...

Не збаўляючы хуткасці, машына падрулiла пад цагляныя сцены прахадной, вымураванай у строгім стылі эпохі барацьбы з празмернасцямі. Прахадная гэтая, як і ўсе на свеце, мела сваю гісторыю, звязаную з лёсам аднаго з дырэктараў кінастудыі, чалавека калі і не вельмі таленавітага, дык арыгінальнага і нават самабытнага. Зрэшты, усе дзевяць дырэктараў, што змяніліся на Богшавым кiношным веку, не былі людзьмі ардынарнымі, шэрымі — кожны з іх вызначаўся нейкім дзівацтвам, якое вылучала яго нават з непаўторнай кіношнай масы.

У таго дырэктара, што пакінуў пасля сябе прахадную і якога за вочы называлі «Ходзікамі», была хоць адна, затое неадольная страсць — любоў да дакладнасці. Ён лічыў, што дакладнасць і ёсць той архімедаў рычаг, якім можна будзе павярнуць кінастудыю ад шэрых, сярэдніх фільмаў да яркіх і геніяльных.

Што праўда, дык усе дырэктары прыходзілі на студыю са сваім архімедавым рычагом. Аднак, маючы рычаг, яны не мелі пункту апоры, а таму неўзабаве знікалі. Шэрыя ж фільмы заставаліся.

«Ходзікі» быў упэўнены, што ў яго ёсць не толькі рычаг, але і пункт апоры. Ідэя, якую ён падсунуў студыі, была звязана з укараненнем новай сістэмы прапускоў. Над яе ажыццяўленнем гады два біліся лепшыя інжынерныя сілы кінастудыі і трох навукова-даследчых інстытутаў, пакуль не адолелі ўсіх перашкод, пакуль не дасягнулі належнага эфекту.

Рэформа ў сістэме прапускоў заключалася ў тым, што метраў за сто ад студыі, за вялізнай лужынай, пабудавалі цагляную прахадную, якая нечым нагадвала куфар. Сюды, у прахадную з дзвюма металічнымі вяртушкамі, з электронным гадзіннікам, з палічкамі для захавання прапускоў, вахцёрскім пакоем і запасным выхадам, перавялі з вестыбюля студыі вахцёраў — дзядзьку Якава і ягоную жонку цётку Матруну. Прагрэсіўнасць сістэмы, аднак, заключалася не ў гэтым, а ў тым, што роўна а дзевятай гадзіне спрацоўвала электроннае прыстасаванне, вяртушкі пераставалі круціцца, а значыць, усе, хто спазняўся хоць на адну секунду, маглі трапіць на студыю не іначай, як паведаміўшы пра сваё спазненне па відэатэлефоне ў дыспетчарскую. Там націскалі кнопку, вяртушка рабіла адзін

паварот, прапускала таго, хто спазняўся, але ўжо з рапартам дырэктару аб парушэнні дысцыпліны.

У першы дзень прахадная была перапоўнена парушальнікамі дысцыпліны. Відэатэлефон і дыспетчары працавалі на поўную моц. Дырэктарскі загад даўжынёй амаль на дваццаць старонак навекі захаваў ганебны факт кіношнай неарганізаванасці.

Назаўтра, аднак, відэатэлефон замоўк. Спазненні рашуча спыніліся. Па перавагах новай сістэмы тут жа была склікана практычна-тэарэтычная канферэнцыя, якая і падрыхтавала брашуру для друку пра выдатны феномен у кіношнай практыцы. Чытач, на жаль, не дачакаўся брашуры, бо хутка выявілася, што ўсяму прычынай была не сістэма, а дзядзька Якаў з цёткай Матрунай. Гэта яны, найвялікшыя ў свеце прыхільнікі кіно і апекуны кіношнікаў, сталі прапускаць недысцыплінаваную кіношную брацію цераз вахцёрскі пакой, мінуючы хітрыя электронныя аўтаматы.

Калі Лазар Богша зайшоў у прахадную, электронны гадзіннік паказваў трынаццаць мінут сорак шэсць секунд на дваццаць другую гадзіну, а над экранам відэатэлефона вісела фанерная шыльдачка з па-мастацку афармленым надпісам: «часова сапсуты». Надпіс гэты паявіўся якраз тады, калі дырэктар па мянушцы «Ходзікі», так і не дачакаўшыся геніяльнага фільма, перамяніў дырэктарскае крэсла студыі на дырэктарскае крэсла на мясакамбінаце...

Убачыўшы Лазара Богшу, дзядзька Якаў падхапіўся з услона, на якім сядзеў і сёрбаў з салдацкага кацялка капусту з грыбамі.

— Здравія жадаю, Лазар Васільевіч,— весела прывітаў ён Лазара Богшу.— Даўно вас не бачыў. Але чуў, чуў і радуюся вашым поспехам. Як вам працуецца, Лазар Васільевіч? Я ў тым сэнсе, ці хутка вы парадуеце народ высокамастацкім творам, які ён з нецярплівасцю чакае?

— А вы, дзядзька Якаў, ці не наступілі на корак? — папытаў Богша.

— Наступіў,— прызнаўся дзядзька Якаў.— А чаму наступіў? Бо не мог сцярпець крыўды.

— Якой крыўды?

— А такой, што нанёс мне ваш сябар Кірыла Лыкавязаў.

— Якую ж крыўду мог нанесці вам Лыкавязаў? — спытаў Лазар Богша.

— А такую,— упарта загаварыў дзядзька Якаў,— па

сакрэту вам кажучы, што вашу карціну лаяў, казаў, што яе закрываюць, і закрываюць вельмі правільна. А я цаню вашае мастацтва, бо вы, Лазар Васільевіч, геніяльны мастак і чалавек не скажу, што зусім бездакорны, але затое сумленны...

На кінастудыі жартавалі: не думай, што ты геній нават тады, калі табе адразу прысудзяць дзве прэміі — Аскара і Нобеля. Ты — геній, калі дзядзька Якаў скажа, што ты геніяльны мастак.

Жарт жартам, але дзядзька Якаў сапраўды належаў да той часткі народанасельніцтва свету, на якіх і трымаецца мастацтва. Дзядзька Якаў быў не проста адданы кіно, ён быў фанатычна і бескарысліва адданы яму.

Дзядзька Якаў ведаў творчыя кадры кінастудыі не па анкетах, характарыстыках ды фотакартках тры на чатыры, а, як ён сам казаў, «з нутра, якое да паперы не прыклеіш». Бадай, кожны кіношны рэжысёр на самым пачатку свайго крыжовага шляху ў кіно, калі бывала пуста не толькі ў кішэнях, але і ў жываце, не раз быў выручаны дзядзькам Якавам і цёткай Матрунай і пазычанай траячкай, і міскай гарачай капусты, і нават чаркай настойкі з таго куфра, што заўсёды стаяў у вахцёрскай.

— Дык во, Лазар Васільевіч, чаму я наступіў на корак,— казаў на развітанне дзядзька Якаў,— не магу адобрыць намеру Кірылы Мацвеевіча, а вам, Лазар Васільевіч, шчыра зычу трымацца і не здавацца...

З такім надарожным словам можна было ісці не толькі на пасяджэнне мастацкага савета, але нават на штурм непрыступнай крэпасці.

Лазар Богша незаўважна перасек двор, змрочны калідорны тамбур і апынуўся ў цёмным і доўгім, як Сімплонскі тунель, калідоры. Яго адразу ж наскрозь працялі нябачныя магнітныя сілавыя лініі неадольных супярэчнасцей. Гэта было не проста адвольнае адчуванне нечых страсцей; тут жылі, уладарылі ягоныя бурныя страсці, страсці ягонай душы, якая ніколі не пакідала студыйныя сцэны. Лазар Богша мог хадзіць дзе яму ўздумаецца,— душа заўсёды заставалася на студыйным калідоры, чакаючы ягонага вяртання, як чакае свайго гаспадара прывязаны на ланцуг сабака.

Лазар Богша на імгненне спыніўся, акінуў калідор уважлівым і як бы здзіўленым позіркам. На ім, па абодва бакі, выстраілася шарэнга шкляных дзвярэй, а над імі на металічных кранштэйнах віселі аднолькавыя шыль-

дачкі з умоўнымі і няўмоўнымі назвамі будучых фільмаў. Ля кожных дзвярэй стаялі купкі кіношнай брацці, для якой студыйны калідор быў домам, клубам, храмам, брацкай магілай, вечным раем і вечным пеклам — усім і адразу.

Усё навокал было сваё, блізкае, зразумелае, роднае, надакучлівае, абрыдлае, але без чаго нельга было пражыць нават аднаго дня. Богша на ўсе грудзі дыхнуў студыйным паветрам; яно імгненна разлілося па целе, зрабіла яго бязважкім, нячутным. Абвостраным засталося толькі пачуццё.

«Калі-небудзь я напішу ўспаміны пра студыю,— падумаў Лазар Богша, не вельмі ўяўляючы гэта далёкае «калі-небудзь».— І назаву іх «Сагай аб студыйным калідоры». Так, так, іменна сагай аб калідоры. Бо студыйны калідор — бурная рака чалавечых спадзяванняў і мар, у якой нараджаюцца і геніяльныя і бяздарныя задумы. Рака, дзе на крутых перакатах віруюць бурныя страсці».

Падумаўшы так, крыху напышліва, але даволі дакладна, Лазар Богша адчуў чыесьці біятокі, што выклікалі ў яго вострае раздражненне. Біятокі былі падобны на надакучлівы камарыны звон ля вуха, ад якога хацелася адмахнуцца. Галава Лазара Богшы інстынктыўна павярнулася на пазыўныя чужых біятокаў, а вочы, як тыя лакатары, адразу ж засеклі ў кіношнай масе Кірылу Лыкавязава.

Кірыла Лыкавязаў стаяў у паставе бога Саваофа, калі той задумаў стварыць свет: карцінная прыгорбленасць ад цяжару, які сам жа на сябе ўзваліў; упэўненасць — я ўсё магу; рашучасць — няма чаго адкладаць на заўтра тое, што можна зрабіць неадкладна; нахабства — што ні зраблю — нідзе не дзенецеся; недаступнасць — а вы мяне за бараду не возьмеце, і наогул я стаю вышэй крытыкі. Кірыла Лыкавязаў заўсёды стаяў у такой паставе. Дарэчы, ад бога яго розніла тое, што бог, агледзеўшыся, крытычна зірнуў на працу сваіх рук і ледзьве не знішчыў усё ім зробленае. Кірыла Лыкавязаў лічыў, што ўсё ім зробленае — геніяльна і павінна жыць вякі.

Усё гэта прамільгнула ў галаве Лазара Богшы, і адразу ж сага аб студыйным калідоры набыла іншае гучанне.

### *Эпізод другі (рэтраспекцыя):*
### эпіталама для Цюкі

Трое былінных асілкаў — Ілья Мурамец, Дабрыня Мікіціч і Алёша Паповіч — выехалі на край лесу, апынілі коней, захопленыя навакольным харαством. Перад імі, проста пад нагамі, клубіўся ў даліне густы белы туман, чамусьці баючыся падняцца сюды, на высокі бераг, асветлены месяцам-поўняй. Злева, апырсканае месячным ззяннем, распасціралася ўзгоркавае поле: чорныя плямы ценяў і ярка высвечаныя шапкі пагоркаў. Справа таямніча замёр лес — магутнае палатно: на пярэднім плане кожнае дрэва выпісана выпукла, сакавіта, падсвечана святлом, як умелі пісаць імпрэсіяністы, за гэтымі асветленымі дрэвамі ляжаў чорны цень, з якога дзе-нідзе цьмяна выступалі сілуэты дрэў-пачвар. Хораша і жудасна! Але самае незвычайнае было ўсё ж за ракою, якая агінала доўгую высокую граду. Туман хаваў граду. Таму здавалася, што дрэвы растуць з пены, нават не растуць, а старчма вісяць у паветры і пяюць.

Спявалі, папраўдзе, не дрэвы, а нейкая спявачка — не вельмі чыстае, затое густое кантральта. Ёй утураваў нетаропкі говар звычайнай сямiструннай гітары. Голас спявачкі і рокат струн далятала з туману, як з-пад зямлі. Гэта было казачна прыгожа. Ад самага месяца цягнуліся да зямлі струны. Усё плыло і звінела, і пад гэты звон спявачка выконвала нешта цыганскае, раздольнае і тужлівае; іменна выконвала — чулася яе жаданне кіраваць голасам, гітарай, струнамі, што былі нацягнуты між небам і зямлёй, усёй планетай і месячнай ноччу.

Алёша Паповіч у выкананні студэнта інстытута кінематаграфіі Лазара Богшы на імгненне ўявіў спявачку: турэцкую хустку на голых плячах, доўгую, з кветкамі па падоле спадніцу, маленькі тамбурын у левай, адкінутай назад руцэ. Як на той карціне «Паміж песняй і танцам», рэпрадукцыя з якой вісела ў іхняй хаце.

— Здаецца, трапілі ў самы цот,— азваўся Ілья Мурамец, ён жа Налім Чыктабаеў, шыракаплечы, каратканогі і няўклюдны, як і належыць быць чалавеку, што трыццаць тры гады прасядзеў на печы, не маючы сілы адарваць сваю моц ад гарачага чарэна.— Цюка спявае...

— Хораша спявае,— задумліва прамовіў Дабрыня Мікіціч, ролю якога выконваў дужа вядомы кінаакцёр Вадзім

Матачкін.— Між іншым, яе прабавалі на ролю Марыны, але мастацкі савет не зацвердзіў...

— Зроду не чуў такога голасу і імя — Цю-ка! — сказаў Алёша Паповіч.

— Гэта яшчэ што,— выгукнуў Ілья Мурамец.— Цюкі трэба баяцца. Не адзін праваслаўны склаў да яе ног даспехі, а потым або сам уцякаў, або яго вытурвалі выспяткам пад зад...

— Ілья Мурамец,— голасам ролі сказаў Дабрыня Мікіціч,— кінь нагаворваць. Хіба мы не былінныя асілкі? А ты страшыш нейкай Цюкай.

— Тады паехалі,— сказаў Ілья Мурамец.

Яны дружна кранулі павады. Тры разнамасныя кані, прывыклыя карцінна выгінаць шыі, калі нацягнуты павады, пачуўшы волю, рушылі з месца. Дарога збягала ўніз, у туман. Яна была пясчаная і добра разбітая, асабліва ля ракі на пераездзе. З туману выступаў мост, пахілены набок, без насцілу.

— Трэці год тут здымаюся,— сказаў Дабрыня Мікіціч,— а моста ніяк не зробяць. Галаву адарваў бы старшыні калгаса. Бывае, машына ці трактар завязнуць, па двое сутак не могуць выцягнуць, а моста не рамантуюць, бо па ім, бачыце, усе, у тым ліку і мы, кіношнікі, ездзяць. Тып!

Ні Ілья Мурамец, ні Алёша Паповіч не адказалі. Коні, напіўшыся рачной вады, вынеслі седакоў на той бераг. Дарога за рэчкай крута павярнула направа ў калідор з навіслых над ёй ляшчын. Калі калідор гэты кончыўся, казачныя асілкі ўбачылі зусім не казачны касцёр, а ля яго сілуэты «тубыльцаў». Тыбульцы, мабыць, пачулі іх, бо раптам узняўся гоман і мітусня. Асілкаў у адно імгненне сцягнулі з коней, пачалі ціскаць у абдымках, соваць у рукі шклянкі і бакалы, бутэрброды і лімоны.

Нарэшце ўсіх трох пасадзілі на выглянцаваную ад доўгага карыстання калоду. У касцёр падкінулі дроў, каб полымя шугала пад самае неба. Нехта тройчы пляснуў у далоні — з будана паявілася рудавалосая, аж ярка-медная ў водбліесках полымя, нявіннавокая дзяўчына. На ёй шырокімі складкамі спадаў уніз хітон. У прыгожых руках яна несла нікеліраваны паднос, на якім стаялі тры бакалы, падобныя на тыя, у якіх падаюць марожанае. Полымя кастра адбівалася ў падносе, бакалах і ў вачах рудавалосай прыгажуні.

Усе тры асілкі ўзняліся — рукі навыцяжку, як стаялі

на здымках перад светлым абліччам грознага і святога князя Уладзіміра. Усе трое глядзелі на дзяўчыну з легенды. Яна заспявала велічальную густым, але крыху фальшывым кантральта.

Алёша Паповіч глядзеў на дзяўчыну не мігаючы, забыўшыся на ўсе перасцярогі Ільі Мурамца. У яго аж вырывалася з грудзей сэрца. Дзяўчына таксама глядзела на яго. Прынамсі, так здавалася яму. Спявала велічальную толькі для яго. Ён дрэнна цяміў. У ім нешта адбывалася, але ён не разумеў што. Ён кудысьці імчаў з хуткасцю святла, а можа, стаяў на адным месцы ўжо не адзін мільярд гадоў — так доўга яна ішла да яго, а можа, ён да яе. У бясконцым сусвеце ўсё адносна.

Як з глыбіні тысячагоддзяў Алёша Паповіч пачуў сваё імя (уласнае імя, якім некалі назвалі яго родныя бацька з маці), тонкія далікатныя пальцы ўзялі з падноса бакал і паднеслі яму. Сапраўды яму! Не якому-небудзь Ілью Мурамцу ці Дабрыню Мікіцічу, а менавіта яму, Алёшу, якога празвалі Паповічам.

Ён узяў бакал, стаў на калені і, пазіраючы знізу па дзяўчыну, выпіў бакал да дна.

Тубыльцы гучна пляскалі ў далоні і весела крычалі: «Брава! Брава!»

Дзяўчына праспявала велічальную Ільлю Мурамцу, потым Дабрыню Мікіцічу, хоць той быў больш славуты акцёр. Ілья Мурамец пацалаваў дзяўчыне руку, а Дабрыня Мікіціч — цмокнуў у шчаку. Зноў усе загаманілі, замітусіліся.

— Мяне ўсе завуць Цюкай,— падышоўшы да Богшы, сказала дзяўчына і падала руку.— А вас Лазарам Богшам? Я помню вас па карціне «На заставе ў чэрвені». Так?

— Так,— радасна ўсміхнуўся Лазар Богша.— Мне здаецца, што і я недзе бачыў вас.

— Можа, вы былі ў нашым Гітысе? Я там вучуся. А можа, вам пра мяне гаварыў Кірыла Лыкавязаў? Што ён гаварыў? Хоць гэта не мае ніякага значэння. Ты мне вельмі падабаешся...

Цюка адразу, без усялякай падрыхтоўкі, перайшла на «ты» і прызналася ў сваёй захопленасці ім. Лазара Богшу гэта не вельмі здзівіла: ён прывык да акцёрскай экстравагантнасці.

— Вы таксама падабаецеся мне,— сказаў Богша.

— Тады нам няма чаго называць адно аднаго на «вы».

Хочаш, пройдземся, бо тут вельмі тлумна?.. Чакай, я вазьму куртку — пад раніцу бывае холадна.

Яна вярнулася хвіліны праз тры, узяла Лазара пад руку.

— Куды мы пойдзем? — спытаў ён.

— З табой хоць на край свету,— адказала яна.— Шкада, што зараз туман, я паказала б табе адну дзіўную мясціну.

— Усё адно пойдзем паглядзім.

* * *

...Сцяжынка забіралася ўгору між стромкіх соснаў. Чым вышэй падымаліся яны, тым радзейшы станавіўся туман; месячнае святло прабівалася і скрозь вершаліны соснаў і скрозь туман.

Гоман даўно застаўся далёка ззаду. У бары стаяла валкаватая глухата — ні шолаху, ні гуку. Толькі пад нагамі часам трашчаў сухі сучок. Цюка мацней прытулілася да Богшавага пляча.

— Ты не баішся лесу? — шэптам спытала яна.

— Не,— адказаў ён.— Я люблю лес. Я вырас у лесе. Мой бацька быў лесніком.

— Як здорава! — выгукнула Цюка, а Лазар падумаў, што ў яе захапленні не адчулася шчырасці.— А дзе ён быў лесніком?

— У Беларусі... У Полацкім раёне. Можа, чула пра Полацк? Там, непадалёку ад горада, ёсць цудоўная мясціна — Суя. Азёры і лес. Сасна і бяроза, узгоркі і сыпучыя пяскі.

— Ой, дык мы з табой землякі! Як гэта хораша! — цяпер ужо лішне горача, захоплена гаварыла Цюка. І зноў Богшу падалося, што захопленасць гэтая ненатуральная.— Дасюль я не разумела, чаму ты спадабаўся мне адразу, а цяпер ведаю — мы ж землякі, у нас адна кроў. Праўда?

«Якое глупства! Што яна вярзе пра кроў, зямляцтва?» — падумаў Богша, аднак тут жа забыўся на свае думкі. Што ні кажы, а глупства казала прыгожая дзяўчына і не проста глупства, а мілае глупства, якое падабаецца нават самаму сур'ёзнаму чалавеку.

— А ты адкуль? Хіба таксама з Віцебшчыны?

— Не, але і я з Беларусі, з-пад Клецака. У нас так кажуць: не Клецк, а Клецак. Ты ніколі не быў у нас? На-

ша вёска — славутая. Калісьці ля яе была бітва рускіх са шведамі. Там і цяпер стаіць капліца з крыжам. Але ў нас няма лясоў, таму я баюся лесу нават днём.

Цюка яшчэ шчыльней прытулілася да Богшы, аж перашкаджала хадзе.

— Я вельмі рады, што сустрэў цябе,— сказаў Лазар, абдымаючы Цюку за плечы.— Ты нікому не давала клятву вернасці?

— Гэта не мае значэння,— сказала Цюка, а памаўчаўшы, дадала: — Я толькі лічуся замужам...

— Чаму лічуся? — спытаў Богша, стараючыся не падаць выгляду, што ён здзіўлены нечаканым і не дужа зразумелым яе прызнаннем.

— Бо мы разышліся. Ты яго, відаць, ведаеш. Ён ваш, вгікаўскі. Кірыла Лыкавязаў.

— Кірыла?..

(Спартыўнага выгляду хлопец, падстрыжаны пад бокс, зайшоў у пакой і, спадылба глянуўшы на ўсіх адразу, спытаў добра пастаўленым голасам:

— Хто з вас Лазар Богша?

— Я,— сказаў Лазар, інстынктыўна прыўзняўшыся з ложка, на якім сядзеў.

— Выйдзем...

— Чаго?

— Морду біць буду...

Лазар падняўся і пайшоў. У калідоры ён павярнуўся тварам да небяспекі, шырока расставіў ногі, каб не адразу ўпасці. Спартсмен весела выскаляў зубы.

— Я — Кірыла Лыкавязаў,— сказаў ён.— Дай рублёў сто, бо сяджу на водмелі, а ты атрымаў з дому. Калі-небудзь і я цябе выручу.

— Ну, ведаеш! — узлаваўся Богша.— За такое...

— Даруй,— сказаў Лыкавязаў,— не хацелася пры тых жлабах прасіць. Хочаш, сам дай мне па мордзе, але і грошы пазыч. Я аддаю.)

— Чаго ты здзівіўся? — спытала Цюка.

— Усё неяк нечакана...

Лазар Богша інстынктыўна адхінуўся ад Цюкі. Яна зразумела так, як можна было зразумець.

— Але ў нас з ім парваны адносіны. І я вольная за-

раз. Ды ён ніколі і не прэтэндаваў. Мы тады абое як страцілі розум.

— Усё адно,— сказаў Лазар Богша.— Ён з нашага інстытута, значыць, брат, таварыш, сябар. Разумееш?

— Не. І не хачу разумець, Кірыла — дрэнь. Ён не можа быць тваім братам, нават сябрам. Ты не ўяўляеш, якая ён дрэнь...

— Перастань, я не хачу слухаць.

— Кірыла нікчэмная дрэнь,— упарта стаяла на сваім Цюка.

У спрэчцы яны і не заўважылі, што ўжо выбраліся з туману на сухі грудок у бары. Проста пад нагамі ў іх, як і тады, калі Богша ехаў сюды, плёскалася белае мора туману, а з неба пад ногі слалася срабрыстая сцежка, сатканая з месячнага святла: ступі і пойдзеш на месяц гэтак жа проста, як ішлі сюды, на гэты сухі грудок.

— Праўда, хораша? — прашаптала Цюка.

Лазару здалося, што яна пачала растварацца ў месячным ззянні.

— Вельмі...

— Тут хораша заўсёды: і днём, і ноччу, і ў раніцу, і пад вечар, калі заходзіць сонца. Але давай сядзем, бо ў мяне кружыцца галава.

Цюка кінула куртку пад няўклюдную, каржакаватую сасну. Села. А Лазар як зачараваны любаваўся наваколлем.

Поўня прайшла ўжо зеніт і цяпер хілілася да захаду, пакрысе губляючы сваё ззянне. Тады, калі яны ўтрох выехалі з лесу, палі здаваліся шырокімі і раздольнымі — агромністая лінагравюра з белых і чорных плям. Цяпер фарбы паспакайнелі, памякчэлі, а ўсё наваколле прыпадобілася да акварэлі ў багетавай рамцы. Затое неба раздалося, падвысілася; ледзь улоўная фіялетавая фарба кранула яго купал. Богша па прывычцы адразу ж знайшоў на схіле нябеснага купала Вялікую Мядзведзіцу — сем ужо няяркіх зорак, а вышэй, над рэдзенькім парасонам сасны — Палярную зорку. То былі зоркі яго маленства. Дзе б ні глянуў на неба, знайшоўшы гэтыя зоркі, ён адразу прыгадваў Полаччыну, возера Сую і сваю вёсачку на пясчаным беразе. Тым часам на ўсходзе ўжо абазначылася ружаватая стужка світання.

«Як хутка ноч мінула,— у думках сказаў Богша; яго-ныя грудзі распірала замілаванасць да свету і прыналежнасць да яго.— Адкуль гэта? А-а-а, Пушкін...»

(У Ленінградзе ён, Богша, нахадзіўшыся па вуліцах і плошчах, такіх славутых, што аж страшна было дыхаць, каб не абразіць гісторыю сваім дыханнем, зайшоў у музей-кватэру Аляксандра Сяргеевіча. Быў абедзенны час, але яму дазволілі зайсці. У музеі — нікога. Адзін ён і жанчына, што пусціла яго.

— Можа, вам расказаць? — спытала яна.

— Дзякую, не трэба...

Толькі яшчэ на развітанне ім было сказана тры словы — падзяка за дазвол пабыць у святой кватэры паэта. Астатні час Богша правёў у маўклівай засяроджанасці. Яму здавалася, што вось-вось з дзвярэй выйдзе сам Пушкін, можа, каб узяць кнігу, а можа, каб выйсці на вуліцу, падыхаць сырым пецярбургскім паветрам. Богша стаяў аглушаны сваёй далучанасцю да Пушкіна. Яму было страшна ад гэтай далучанасці да вялікага генія, але і шчымліва-радасна адчуваць сябе сучаснікам Пушкіна.

Во калі ў яго ўпершыню мільгнула думка стварыць фільм пра аўтара «Слова аб палку Ігаравым». Чаму раптам Пушкін і аўтар «Слова»? Бо Лазар Богша тады ўявіў аўтара «Слова» такім жа гарэзай, якім быў Пушкін. А што, хіба не так? Напісаў і радасна выгукнуў: ай, ды «аўтар», ай, ды малайчына, напісаў насуперак класічнаму Баяну. І не проста напісаў, а выказаў, што хацеў. Можаце караць, але ўсё роўна сказаў тое, што думаў. Не сіропную, мядовую праўду, а суровую праўду сваіх дзён. Ай, ды аўтар! Мог, мог крыкнуць ён, напісаўшы «Слова» не па канонах Баянавых. Гарэза!.. Хіба не Пушкін?!

«Хто мы ў гэтым Сусвеце,— думаў тады Богша, стоячы перад нізенькім сталом, за якім геній ствараў свае бессмяротныя творы,— пылінка, народжаная крушэннем светаў, ці ўвесь Сусвет у адной пылінцы? Я чую нейкае адкрыццё, але не магу выказаць яго даступнымі чалавеку сродкамі. Яны прымітыўныя, а тое, што я адчуваю, надзвычай складана. Можа, я не саспеў, каб выказвацца пра такія складаныя рэчы? Пушкін мог бы выказаць маё адчуванне. Я — не магу. А што, калі і Пушкін не змог бы словам выказаць тое, што адчуваю я? Слова не самы дасканалы матэрыял для перадачы пачуццяў, што распіраюць грудзі. Хоць напачатку было слова. А што, калі напачатку было не слова? У людзях гінуць мільярды мільярдаў прыгожых, непаўторных, высокіх пачуццяў толькі таму, што няма сродкаў, каб матэрыялізаваць іх. Але я знайду такія сродкі...»)

— Пра што ты думаеш? — спытала Цюка.

Яна сядзела абапёршыся спінаю аб сасну, выцягнуўшы доўгія ногі.

— Пра нас з табой у сусвеце. Пад гэтым небам з яркімі зоркамі любіў, а можа, ненавідзеў сляпы Гамер, Пушкін ехаў на апошнюю дуэль са светам, Блок вар'яцеў ад суму загарадных дач. Мы насельнікі аднаго пакоя...

— Хадзі сядзь ля мяне,— сказала Цюка, працягваючы да яго рукі.— Я баюся нечага. Можа, вечнасці, пра якую ты сказаў.— А калі ён прысеў, дадала: — Лазар, я дужа зямная і грэшная. Не трэба гаварыць пра сусвет...

— Ты — святая грэшніца,— сказаў ён.— Я кахаю цябе...

Лазар Богша абняў Цюку. Яна падставіла гарачыя пухлаватыя вусны. Яны цалаваліся да самага ўсходу сонца, нічога не заўважаючы, нічога не разумеючы.

Вакхічная ноч, як сказаў бы Пушкін.

— Чаму ты не ўзяў мяне? — спытала Цюка, як бы ачнуўшыся ад салодкага сну і зразумеўшы, што то быў не сон, а ява.

— Я вельмі кахаю цябе. Я не разумею, як мог існаваць без цябе. А цяпер мне трэба ехаць. Наш стары прачынаецца рана. Сёння будзе здымацца вельмі складаны эпізод. Увечары я прыеду да цябе.

— Увечары мяне не будзе. Наша група закончыла здымкі. Вернешся ў Маскву — сустрэнемся. А ўсё ж дарэмна ты не ўзяў мяне...

Яна прапаноўвала сябе з такой непасрэднасцю, нібы хацела напаіць вадой. Лазару было няёмка, хоць ён не лічыў сябе цнатлівым хлапчуком.

— У нас наперадзе ўсё жыццё,— сказаў ён,— каб належаць адно аднаму, не надакучаючы.

— Пойдзем пакупаемся,— прапанавала Цюка.— Тут пад кручай ладная затока...

Не чакаючы яго, яна пачала спускацца пад кручу.

Лазар Богша пайшоў за ёю. Сцежка гублялася ў сыпучым пяску. Рака тут год за годам падмывала бераг і з часам утварыла даволі вялікую затоку.

Цюка зняла свой хітон ці балахон, потым квяцісты бюстгальтар і сінія трусікі. Яна раздзявалася з такім натуральным спакоем, што Богша западозрыў, а ці не іграе яна якую-небудзь ролю. На захадзе ў кіно ўжо раздзявалі жанчын — толькі пакуль раздзявалі...

Раздзеўшыся, Цюка па пяску падышла да затокі, ска-

лыхнула застылую ваду нагой; тры дрогкія кругі пабеглі па вадзе да таго берага. Цюка паплыла ўслед за імі, падганяючы вострымі ключыцамі яшчэ адну хвалю пругкай вады.

«Яна і праўда святая грэшніца»,— падумаў Лазар Богша. Таропка скінуўшы з сябе адзежу, ён з разгону нырнуў у ружаватую ад нізкага сонца ваду. Яна аказалася халаднейшай, чым ён уяўляў. Аж зайшлося дыханне. Затое адразу прапаў сон.

Недзе ў бары Ілья Мурамец і Дабрыня Мікіціч гукалі яго: ого-го-го-го-о-о-о! Богша насціг Цюку. Абняўшыся, яны пацалаваліся яшчэ раз, наглыталіся халоднай вады.

— Мяне клічуць,— сказаў Богша.

— Я чую. Буду нецярпліва чакаць цябе ў Маскве.

— Я знайду цябе...

Яны паплылі да берага, у адзін такт робячы махі рукамі. Калі яны вылезлі на бераг, Цюка папрасіла:

— Адвярніся. Мне чамусьці сорамна. Я адзенуся...

«Яна нечаканая,— падумаў Лазар Богша.— Як добра, што я паехаў сюды. Тут чакаў мяне мой лёс».

* * *

Інтэрнат быў пусты, як торба, з якой усё вытраслі. Студэнты, выкладчыкі, адміністрацыя — усе паехалі ў падшэфны калгас. Богша падумаў і махнуў да іх, да Цюкі.

У Фірсанаўцы ён злез. Калгас, дзе працавалі гітысаўцы, быў недзе за лесам. Ужо стаяла падмаскоўная восень — вельмі празрыстая, вельмі сухая, аж шчымліва ныла сэрца. У празрыстым паветры выразна бачылася кожнае дрэўца з пажоўклай лістотай.

Лазар ніяк не мог даўмецца, чаму Цюка паехала ў калгас: магла б не ехаць. Але яму было прыемна, што яна паехала.

За лесам на пагорку тужыла вёска. Богша прайшоўся па вуліцы з канца ў канец — нікога. Схадзіў у пасёлак за ручаём. І там нікога не сустрэў. Нават сабак не было. Трэба вяртацца ў Маскву. Ён сеў на лаўку пад рабінаю, каб адпачнуць на дарогу. Высока ў небе ляцелі ў вырай жураўлі. Ён доўга сачыў за імі, пакуль жураўліны ключ не ператварыўся ў ледзь прыкметны пункцір на яркім блакіце неба. Тады пачуў, што з поля вяртаюцца калгаснікі.

Дзве грузавыя машыны спыніліся ля адзінага на ўсю вёску калодзежа. Людзі весела саскоквалі на зямлю, атрасалі дарожны пыл. Богша ва ўсе вочы выглядаў Цюку.

— Лазар, Лазар! — закрычала Цюка, паяўляючыся з-за другой машыны.— Ой, Лазар, адкуль ты?

Яна павісла ў яго на шыі, так шчыра заплакала, што ён разгубіўся. Іх абступіў цікаўны натоўп.

— Гэта мой жаніх,— крыкнула Цюка, нібы баялася, што Лазара могуць адабраць.— Няма чаго смяяцца...

Між тым ніхто не смяяўся.

Гадзіны праз дзве Лазар Богша з Цюкай — Кацярынай Ляўдак па пашпарце — ужо сядзелі ў сельсавеце пры старым, паедзеным шашалем стале, рэгістравалі свой шлюб пад акампанемент сварлівай сельсавецкай прыбіральшчыцы.

— Прыспічыла ім, глядзіце сюды, на ноч не зважаючы, распісвацца! Каб мая воля, дык я вас мятлой распісала б... Пабачце яе, яшчэ нечага лыбіцца. Замуж ідучы — плакаць трэба...

— Памаўчы, Акуліна,— цыкнуў на прыбіральшчыцу старшыня.— Закрый шлюзы на ўсе застаўкі.

— А ты мне не ўказвай, во што,— не паслухала прыбіральшчыца.— Я за праўду стаю...

Тым часам маладзенькая сакратарка выпісала шлюбнае пасведчанне. Лазар Богша заплаціў пошліну, падняўся, каб ісці.

— Чакай,— спыніў яго старшыня,— пацалавацца трэба. Па абраду, які нам зверху прадпісаны, каб нечым адрозніць рэгістрацыю шлюбу ад рэгістрацыі смерці...

Яны былі абое маладыя, а таму ўсё ўспрымалі з гумарам. Ім было весела і там, у сельсавеце, і пасля, на студэнцкім вяселлі ў калгасе.

Пасля вяселля тры студэнткі, якія кватаравалі з Цюкай, вызвалілі маладым хату, гаспадыня паслала шлюбны ложак — лішняя перасцярога вясковай цёткі, не пазбаўленай забабонаў,— і сама таксама сышла да суседзяў.

Лазар з Цюкай засталіся адны на ўсю хату. Іх раптам ахінула цішыня, стала пуста і гола навокал. Яны разгублена маўчалі.

— Будзем класціся спаць,— сказаў Лазар.

— Будзем,— як рэха, адгукнулася Цюка.

Лазар выключыў святло, асабліва яркае пад раніцу. У хаце стала цёмна, хоць выкалі вока. Ён пайшоў у тым кірунку, дзе стаяла Цюка, выставіўшы перад сабой рукі.

Крокаў праз пяць ягоныя рукі ўпёрліся ў сцяну. Цюкі не было. Запальнічка на нейкае імгненне выхапіла з цемры ложак, дыванок на сцяне з белымі лебедзямі і Цюку ўпоперак ложка ў «вянчальным уборы». Ён лёг ля яе таксама поперак ложка.

— Я кахаю цябе, Каця,— сказаў ён і дакрануўся губамі да яе твару. Цюка плакала — твар быў мокры ад слёз.— Чаго ты, Каця? Мы будзем хараша жыць...

— Гэта ад шчасця,— сказала яна і паклала цёплую далонь на яго галаву.— А шчасце, як тая жар-птушка, дастаецца толькі дурням. Альбо я дурніца, альбо злавіла не шчасце, а міф, прыгожую казку...

Лазар Богша не мог здагадацца, што трывожыць Цюку, чаму яна загаварыла пра шчасце. Яму хацелася ведаць, чаму ў яе так крута змяніўся настрой, але ён разумеў камічнасць сітуацыі — у шлюбную ноч трэба займацца не размовамі, а каханнем.

— Ты забылася, што дурны Іванка быў зусім не дурань,— усё ж сказаў ён.— Дурнямі былі ягоныя браты, бо не той дурань, што завецца дурнем, а той, хто застаецца ім...

— Дзіўна,— пасля доўгага маўчання загаварыла Цюка іншым тонам,— але я адчуваю сябе зусім маленькай дзяўчынкай. Лазар, я дужа брыдкая, і ты, вядома, чуў пра гэта. Таму я і адчуваю сябе маленькай, што хачу быць чыстай перад табой.

— Але я нічога не чуў,— сказаў Богша.

— Не трэба хлусіць,— папрасіла Цюка.— Не трэба хлусіць. Я праўда брыдкая. Але я буду вернай і добрай. Чаму я была брыдкай? Бо мне падабаліся дасюль усе. І я не магла нікому і ні ў чым адмовіць. Разумееш? Не, ты не разумееш. Кажуць, што я разбэшчаная сексуалка. Гэта няпраўда...

— Навошта ты, Каця?

— Добра, не буду. Але не абдымай мяне...

Лазара Богшу нядобра кальнула думка: «Нагулялася...»

— Я кахаю цябе — астатняе мяне не цікавіць,— ён пачаў цалаваць яе твар лёгкімі, як ранішні ветрык, пацалункамі.

Цюка не адхілялася, але і не адказвала на пацалункі: я твая рэч і ты маеш права мною карыстацца — вось што азначала яе абыякавасць. Богша зразумеў гэта. Яе абыякавасць пакрыўдзіла яго. У хаце пасвятлела, а можа, вочы

прывыклі да цемры. Але столі не было відаць. Богша не разумеў, чаму яму абавязкова хочацца ўбачыць столь.

— Не крыўдуй,— сказала Цюка,— я таксама кахаю цябе. Вельмі кахаю. А ці праўда, што ты быў у Германіі? Чаго ты паехаў туды?

— Мяне вывезлі,— рэзка сказаў Богша.

— Хочаш, я раскажу табе пра сябе? — спытала Цюка.

— Навошта?

— Тады пойдзем пагуляем. Я баюся цёмных начэй. Але з табой мне будзе не страшна.

— Лепей паедзем у Маскву. Што нам тут рабіць? — прапанаваў Богша.

— Паехалі,— вельмі ўзрадавалася яна.— У Маскву... У вечны тлум... Цішыня прыгнятае...

Лазар запаліў святло. Яны сабралі рэчы і пайшлі ў ноч. Падсвечаныя агнямі Сходні і Хімак, а можа, і яшчэ якіх пасёлкаў, па небе беглі шпаркія хмары, сівыя і калматыя. Яны хоць крыху асвятлялі чорную астылую зямлю.

Цюку як бы падмянілі: яна зноў стала пяшчотнай і ласкавай. Яны ішлі праз лес, моцна прытуліўшыся адно да аднаго, і цалаваліся. Цалаваліся і потым, у пустым вагоне электрычкі.

У Маскву прыехалі рана. Гарадскі транспарт яшчэ не хадзіў. Сонны таксіст падкінуў іх да Богшавага інтэрната.

— Дзе цябе нячыстая сіла носіць? — разбуджаная Богшам, спытала вахцёрка цётка Луша і, убачыўшы Цюку, рашуча загарадзіла дзверы. З дзеўкай не пушчу. Мне і так дастаецца ад каменданта.

— Цётка Луша, але ж гэта мая жонка. Во глядзі штамп. Запісаліся мы. Каця, пакажы пашпарт...

Цётка Луша паглядзела пашпарты, замігала кароценькімі вейкамі, збіраючы дробныя слёзы.

— Што ж ты адразу не сказаў, нячысцік. Ачалавечыўся хоць. Дай я абдыму цябе, бяспутная твая галава... А ты, дзеванька, трымай яго ў руках. Іх, мужчын, усіх у руках трымаць трэба, але і глядзі яго. Мужчыны, як дзеці...

Цётка Луша пацалавала спачатку Лазара, а потым ужо і Цюку. Яны хацелі падымацца на паверх, як цётка Луша паклікала Богшу.

— Лазарка, дык я ледзьве не забылася, табе тут запіска ёсць. Ехаць табе трэба, неадкладна.

Лазар разгарнуў запіску: «Сцэнарый дыпломнай ра-

боты зацверджаны. На студыі трэба быць не пазней семнаццатага».

Гэта было, бадай, самае неверагоднае з усіх неверагоднасцей сённяшняга дня. Яго ўласны сцэнарый, які ён напісаў для сваёй жа дыпломнай работы, быў зацверджаны...

— Мне, Каця, шанцуе сёння,— сказаў ён, падаючы ёй запіску.— Шанцуе, аж не верыцца. Але цяпер паедзем на студыю разам. Я здыму цябе ў галоўнай ролі. Гэта будзе твая першая роля ў маім фільме. А потым ты будзеш іграць усе астатнія ролі...

— Лазар, я хачу спаць,— сказала Цюка.

* * *

Чорны стары паравоз лянотна пыхкаў парай, як Лазараў дзед, таксама Лазар, люлькай. Яны абодва — дзед Лазар і паравоз — былі старыя і абодва любілі пыхкаць люлькай. Іх падабенства ўразіла Лазара Богшу. Лазар спыніўся перад паравозам, падміргнуў яму, як, бывала, падміргваў дзеду.

— Здароў, дзед,— сказаў Богша паравозу і, зняўшы толькі што куплены капялюш, пакланіўся, як кланяюцца дужа дарагому чалавеку.— Даўно я цябе не бачыў, дзед. Як ты трываеш? Усё пыхкаеш люлькай. А адна кропля нікаціну забівае каня. Так кажуць вучоныя, якія, між іншым, самі труцяць сябе і не толькі нікацінам, а і зайздрасцю, якая ў тысячу разоў больш атрутная.

Аднекуль зверху, як з неба, пачуўся захоплены голас:

— Во набраўся, во вылузваецца!..

Голас з неба быў знаёмы, недзе некалі чуты. Богша ніяк не мог даўмецца, адкуль далятае голас, ці не з нутра паравоза?

— Гэй, ты, нябога, пацалуй свайго дзеда ў тэндар. Толькі спярша вытры губы,— здзекліва параіў усё той жа голас.

Перамогшы неймаверную цяжкасць, Лазар Богша ўзняў вочы ўгору. Там, у няяркім вакзальным святле, з чорнага акенца-рамы паблісквалі чыесьці белыя зубы на чорным твары.

— І пацалую,— з п'янай настойлівасцю і задзірыстасцю сказаў Богша.

Ён і праўда хацеў ужо цмокнуць паравоз у круты бок,

абы не бачыць насмешлівыя зубы, як той жа голас прыкаваў яго да месца:

— Дзядзька Нічыпар, глянь, гэта ж Лазар!.. Каб мне з месца не ўстаць, калі гэта не дзядзькі Васіля Лазар...

Богша, як аглушаны доўбняй, пакруціў галавою, бо ніяк не мог здагадацца, хто пазнаў яго. У вачах нечага двайлася, траілася, то знікала, то зноў паяўлялася. А з вышыні тым часам высыпалася на перон паўтузіна чорных смярдзючых чарцей. Яны схапілі Богшу ў абдымкі, аж у таго праяснела ў вачах, а паўтузіна чарцей нейкім цудам ператварылася ў аднаго зусім рэальнага чалавека, сябра па дзяцінстве і пракудах, нават нейкага родзіча — сёмая вада на кісялі — Радзівона Трошку.

— А я гляджу: ты ці не ты? Аж бачу — ты. Дамоў едзеш ці праводзіш каго?..

Лазар Богша задумаўся. Думкі то скакалі галопам, то паўзлі слімаком.

— Здаецца — еду,— сказаў ён, выдзіраючы з сябе ўспамін, як здаровы зуб — з дзікім болем.— Буду здымаць фільм з Сюкай у галоўнай ролі.

Радзівон зноў выскаліў зубы.

— Чаму з сукай? Хіба з чалавекам не дазволілі?

— Не з сукай, а з Сюкай,— Лазар ніяк не мог вымавіць жончына імя.— Яна мне жонка, разумееш? Завуць яе Каця. Разумееш? Сюкай яе звалі бацькі. Зразумеў?

З паравоза злез дзядзька Нічыпар. Не Богшаў дзядзька, а Радзівонаў. Ён выцер рукі, толькі пасля гэтага павдароўкаўся з Лазарам. Усё ў дзядзьку было грунтоўна, трывала, аж Лазару стала няёмка за свой выгляд і недарэчны паклон паравозу.

— Даруйце, я, здаецца, узяў лішак,— вінавата сказаў ён.— Учора ці пазаўчора я ажаніўся, у главку зацвердзілі мой сцэнарый, а цяпер во еду здымаць фільм...

— Маці ўзрадуецца,— сказаў дзядзька.— А цяпер табе, Васільевіч, у самы раз легчы. Ты ў якім вагоне едзеш?

Лазар Богша доўга шукаў білет. Нават быў усумніўся, а ці купляў ён білет наогул? І ці павінен куды ехаць? Але білет знайшоўся, і нават у купэйны вагон.

Радзівон узяў Лазара пад руку, павёў у вагон. Перад вагонам тоўпілася так многа народу, што Богша спалохаўся: ці не задумалі ў ягоны гонар праводзіць мітынг?

— Гэта ўсе твае? — спытаў Радзівон у Лазара.

— Мае — гэта я сам,— сказаў Лазар, баючыся шумнага натоўпу.— Хадзем, я пазнаёмлю з жонкай.

Цюкі, аднак, нідзе не было відаць. Богша бачыў некага, хто брынчаў на гітары, яшчэ аднаго, які спрабаваў зацягнуць песню, сыценькую дзяўчыну, што складала далоні над грудзямі і ўсё паўтарала, закочваючы пад лоб вочы: «Я вас малю». Цюкі нідзе не было відаць.

— Нідзе твая жонка не дзенецца,— сказаў Радзівон, не дужа верачы Лазару наконт жонкі.— Хадзем, я цябе пакладу спаць...

Схапіўшы Лазара пад пахі, Радзівон запіхнуў яго спачатку ў тамбур, а потым і ў купэ. Лазар не супраціўляўся — адразу ж лёг. Лёг і праваліўся, як у чорную бездань. Спаў ён да самай раніцы...

Спачатку Лазар Богша расплюшчыў адно вока — баяўся пабачыць нешта вельмі жахлівае,— потым другое. Насупраць спала Цюка, уткнуўшы ў падушку маленькі зграбны носік.

«Усё, усё,— рашуча падумаў Богша,— цяпер за работу! Я павінен зрабіць маленькі шэдэўр кінамастацтва, як Чаплін... Толькі шэдэўр! Лёс прыхільны да мяне: я пісаў сцэнарый для Цюкі, хоць не ведаў, што яна ёсць на свеце і нават вучыцца ў Гітысе. Але я пісаў сцэнарый іменна для яе».

Яму не цярпелася падзяліцца сваімі парываннямі з Цюкай. Ён ціхенька пакратаў яе за нос.

— Божа, а я думаю, хто мяне бярэ за нос. Мяне ніхто і ніколі не браў за нос,— сказала Цюка і расплюшчыла вочы.

— Ты самая прыгожая на ўсім свеце,— сказаў Богша шэптам, але яна пачула яго і ўсміхнулася.

— Няпраўда,— пакруціла галавой,— але мне ўсё роўна прыемна. Я толькі вельмі баюся тваёй маці. Не ведаю чаму, але баюся. Яна снілася мне ўсю ноч...

— Дзівачка, пры чым тут маці? Мы будзем жыць у студыйным інтэрнаце. Калі-небудзь пазней, калі я зніму карціну, мы забяром маці да сябе. Яна ў мяне добрая, і табе няма чаго баяцца яе.

— Лазар, не прытварайся, Лазар,— закінуўшы галаву назад, весела зарагатала Цюка.— Мы едзем да тваёй маці, на Сую...

Металічная бліскучая ручка ў дзвярах павярнула доўгую дзюбку на кароткай шыі — дзверы ад'ехаліся ўбок, схаваліся за сцяною. На парозе ў строгай чыгуначнай форме ўзнікла ружовашчакая істота.



Алесь Асіпенка, Алесь Адамовіч і Андрэй Макаёнак. 1970-я гады.



У часе сустрэч з чытачамі.
У цэху віцебскай фабрыкі «КІМ» Алесь Асіпенка,
Юрась Свірка і Рыгор Барадулін. 1976 г.

— Добрай раніцы,— праспявала яна вельмі мілагучным голасам.— Вам хутка выходзіць, а вы ўсё лежыцё. Радзівон Максімавіч перадаваў, каб вы не спяшаліся, пачакалі яго.

Ружоващчокае дзіва паклала білеты на сталок і выйшла, зусім збянтэжыўшы Лазара Богшу.

— Ты што-небудзь разумееш? — спытаў Богша Цюку.— Нейкая фантасмагорыя, сон.

Цюка тым часам надзявала сукенку цераз галаву. Яна была заблыталася ў рукавах; перад вачамі Лазара нейкі час варушыўся Цюкін зад, туга абцягнуты трусікамі ў сіні гарошак. Потым сукенка схавала яго, Лазар узняў вочы — з праразі каўнерыка паявіўся Цюкін твар з насмешліва высунутым языком.

— Не трэба мяне разыгрываць, Лазар. Мы едзем да тваёй маці, а хто такі Радзівон Максімавіч, я, далібог, не ведаю. Ну, з'еў?..

— З'еў,— пагадзіўся Лазар Богша, хоць ніяк не мог прыгадаць, калі ён вырашыў ехаць да маці і калі сустрэўся з Радзівонам.

У Полацку ён не быў аж тры гады. Пакуль Радзівон Трошка бегаў па сваіх справах, Лазар павёў Цюку на круты бераг Дзвіны, з якога адкрываліся далягляды на Задзвінне.

Яны стаялі на аблыселым пагорку перад Сафійкай. З Балтыйскага мора дзьмуў вільготны, прапахлы асеннім лесам вецер. Там, адкуль дзьмуў вецер, дагараў пажар ліцвёвага падлеска, агаляючы чорны, як абвуглены, яловы лес. Адтуль, з-за лесу, плылі парваныя на шматкі хмары, давалі драла ад нябачнага ворага. Праз кароткія прасветы ў радабоддзі хмар часам выглядала самотнае сонца. Пад ім, унізе, віравала, закручвалася ў тугія спружыны імклівая плынь Дзвіны. Сонца азарала яе і тут жа адварочвала свой ружовы лік — холадам патыхала ад ракі...

Захопленая хараством і веліччу, Цюка маўкліва і ўсхвалявана глядзела ўдалеч, туды, дзе між лясоў хавалася возера Суя. Так моўчкі яны стаялі доўга, пакуль балтыйскі вецер не працяў іх да касцей.

— Ці адчуў ты вечнасць? — спытала Цюка, калі яны ўжо сядзелі ў сталоўцы, якая чамусьці называлася чайной.

Чаю, аднак, у ёй не было, толькі спіртное, але затое на выбар. Яны ўзялі кахецінскае, селі за стол пры печы-цыліндры, акаванай ліставым жалезам і пафарбаванай пад

золата, маўляў, ведай нашых, полацкіх! Печ дыхала сухой гарачынёй, і яны хутка сагрэліся.

— Чаму ты загаварыла пра вечнасць? — спытаў Лазар, уражаны жончыным пытаннем.

— Сама не ведаю,— сцепанула плечуком Цюка.— Ты не звяртай увагі. На мяне, бывае, такое находзіць. Калі мы стаялі на беразе ракі, я пачула, што вецер пахне грыбамі. Праўда, неразумна? Ніякай сувязі: пах грыбоў і вечнасць... А во, бачыш... Жаночая логіка.

— Чалавек хоць раз у жыцці павінен адчуць вечнасць, каб зразумець сваё месца ў яе бясконцасці.

— А калі ты адчуў вечнасць? — спытала Цюка.

Лазар Богша задумаўся. Сапраўды, калі? У дзяцінстве і дзедава жыццё здавалася вечнасцю. Але ж яно не магло прыйсці і тады, калі кожную хвіліну побач з ім стаяла смерць. Хоць не, менавіта тады ён адчуў вечнасць праз яе мімалётнасць, вечнасць, якая, здавалася, залежала ад простага эсэсмана — вартавога сабакі гітлераўскага рэйха.

Перад ягонымі вачамі ярка выбліснула злавесная карціна таго верасnёўскага світання: сем вытрашчаных, як на мароз, зорак Вялікай Мядзведзіцы над падвешанымі за рукі вязнямі. Іх падвесілі так нізка, каб маглі грызці аўчаркі. І тыя станавіліся на задпія лапы, упіраліся ў целы павешаных пярэднімі лапамі і грызлі крывавымі мордамі вязняў, якія не маглі нават абараніцца. Так, так, гэта тады ён падумаў, што свет усё ж вечны, што Вялікая Мядзведзіца будзе вечна свяціць у небе, хоць людзі цкуюць людзей аўчаркамі.

— Чалавек дазваляе сабе подласць і свінства тады, калі не верыць у вечнасць,— уголас падумаў Лазар Богша.— Папраўдзе, дык чалавек, які не верыць у вечнасць, а таму робіць вялікія ці малыя подласці, бадай, зусім і не чалавек, а бязрогая жывёліна, якая залезла з нагамі ў карыта.

Ад ягоных такіх песпадзяваных слоў Цюка здрыганулася, нібы яе абдало холадам.

— Я выклікала ў цябе нейкі жудасны ўспамін? — спытала яна.— Даруй, мілы, і давай памаўчым. Маўчанне, кажуць,— золата...

— Найчасцей яно подласць і здрада,— рэзка, аж злосна, сказаў Богша.

— Мне будзе цяжка з табою,— прызналася Цюка,— але я яшчэ больш кахаю цябе. У кожнага з нас, каго закранула сваім чорным крылом вайна, шмат балючых ран,

якія мы хаваем пад паказной весялосцю або абыякавасцю...

Лазар быў крыху здзіўлены яе высновай, хоць квяцістасць, з якой была выказана ўвогуле слушная думка, яму не спадабалася.

— Аднак нам трэба ісці. Нас чакае Радзівон,— нагадаў ён.

Радзівон сапраўды чакаў іх. Побач з ім стаяла зграбная маладзіца ў камбінезоне і чорным берэце. Маладзіца нечага ўсміхалася.

— Не пазнаеш? — спытаў Радзівон, кіўнуўшы галавой на маладзіцу.

Лазар паглядзеў лепей, нешта далёкае замітусілася ў памяці, але ніяк не хацела складвацца ў адзін, цэльны ўспамін.

— А я дык вас адразу пазнала. Вы быццам і не змяніліся,— нараспеў загаварыла маладзіца.

— Домна! — узрадавана крыкнуў Лазар, пачуўшы яе голас.— Во не чакаў! Адкуль ты? Каця, гэта — Домна. Мы з ёю на адной парце сядзелі.

— Ахаць ды ўздыхаць пасля будзеце,— перапыніў іх Радзівон.— Ехаць трэба...

— Ага, трэба,— неяк нават спалохана пагадзілася Домна.— Вы, дзяўчына, залазьце да мяне ў кабіну. А мужчыны наверсе пасядзяць. Тут недалёка...

Седзячы ў кузаве грузавіка, Лазар без вялікага намагання ўявіў у памяці даўнюю, яшчэ даваенную Домну. Тое сваё першае каханне... І тое, што было потым. Каб не вярэдзіць сябе, Лазар пачаў любавацца наваколлем — трэба ж нечым заглушыць былое...

Дарога на Сую, заглыбіўшыся ў лес, забрыкала па сухіх пагорках, paрослых выносістымі соснамі, паплыла пясчанаю ракою ў мокрыя, з зялёнай вадой у каляінах лагчыны, заскакала, пужліва абягаючы сівыя балацявіны. Лазар Богша з дзіцячым захапленнем назіраў, як з-за яго спіны раптам выбягае какетлівая бярозка з залацістымі маністамі на косах і, крутнуўшыся на стройнай ножцы, знікае за паваротам. А ўжо над галавою згінаюцца распрапутыя да апошняга лісточка ляшчыны, так і стараюцца сарваць з яго хоць капялюш, каб прыкрыць сваё голае цела. А крыху счакаўшы, абапал дарогі парадам выстройваюцца прысадзістыя дружныя яліны, падняўшы над сабой вострыя пікі вершалін. Кожны паварот дарогі апякаў Лазараву душу. І хоць Лазар не любіў

слязлівай узрушанасці, ён не мог чамусьці адрынуць яе ад сябе — бачанае растапіла яго, як агонь растапляе воск.

Калі грузавік не вельмі роў, Лазар Богша чуў, як у кабіне перагаворваюцца Домна з Кацяй. «Пра што яны гавораць?» — думаў ён, але тут жа забываўся на іхнія размовы. Наваколле зачароўвала яго, брала ў палон.

Радзівон не перашкаджаў. Насунуўшы на лоб кепку, ён драмаў ці, можа, прыкідваўся, што дрэмле. Да вайны яны абодва кахалі Домну, але ён, Лазар, быў шчаслівейшы.

«Ці замужам яна? — падумаў Лазар і адказаў сабе:— А табе якая справа?»

Нібы вітаючы іх, перад самай вёскай вецер разагнаў хмары, і на сінім небе выбліснула няяркае сонца. Потым неба перакулілася на зямлю, разлілося да самага бору шырокім возерам. Грузавік, вісела чхнуўшы, выскачыў на знаёмую з дзяцінства вуліцу, спыніўся ля пахілага плота з дубовымі весніцамі. З іх выйшла Лазарава маці. Яму кінулася ў вочы, што маці зноў паменшала ростам. Першы раз ён заўважыў гэта, калі вярнуўся з праклятай Нямеччыны. Тады ён здагадаўся, чаму маці паменшала ростам — за два гады вырас ён. Цяпер Лазар не мог зразумець, чаму маці паменшала і выглядае як падлетак-дзяўчынка са старэчым тварам.

— Мама! — паклікаў ён маці, падумаўшы, што яна не пазнае яго.

Маці прыклала брылёк далоні да броваў, хоць ёй не перашкаджала сонца — яно свяціла ёй у спіну.

— Я даўно чую, што ты едзеш,— матчыны вусны толькі паварушыліся, але Лазар зразумеў, што яна хацела сказаць.

Ён баяўся, каб маці не заплакала, бо тады не стрымацца і яму. Душылі гарачыя салёныя слёзы. Яны, як расплаўленая магма, клекаталі ў ім. Пакуль ён стрымліваў іх.

«Божа, які я нягоднік,— караў сябе Лазар, адчуваючы, аднак, прыемную палёгку ад уласных сварлівых слоў, нібы пàрыўся ў лазні венікам з маладых бярозавых галінак.— Мяне, ахламона, варта было б высцябаць лазовым дубцом. Горш, варта адарваць вушы, распісаць папругай, каб не мог ні сесці, ні легчы. Бедная мама, даруй мне, дурному і няўдзячнаму. Цяпер я буду часта бачыць цябе. А як толькі атрымаю кватэру, забяру».

Яму стала зусім лёгка. Слёзы выпарыліся ў прастору,

прапылылі ў небе лёгкім воблачкам, а тыя, што не выпарыліся, апалі на дно душы роснай прахалодаю...

— Пахудзеў ты,— сказала маці,— і на бацьку стаў падобны, царства яму нябеснае. Думала, не дачакаюся цябе: пішаш, прыеду, і не едзеш. А ў Івана аб Ільы трэцяя дачка парадзілася, Дашай назвалі, як мяне. На нішто, Лазарка, сыходзіць богшаўскі род...

Ён зразумеў не далікатны папрок.

— Мама, во гэта мая жонка, Каця...

Маці не спяшаючыся падышла да Каці, выцерла ражком хусткі сухія, бяскроўныя вусны.

— Дай жа я цябе пацалую,— сказала яна.

Цюка першай пацалавала свякруху. Маці, ні слова не сказаўшы, павярнулася, пайшла ў хату. Нават Лазар разгубіўся ад матчынага ўчынку.

— Пайшлі,— сказаў ён жонцы і Радзівону, прапусціў іх наперад.

Самому яму ўсё нешта карцела азірнуцца, быццам яго нехта тузаў за каўнер. У весніцах ён не стрымаўся, павярнуўся і тут жа сустрэўся з самотнымі Домнінымі вачамі. Цяпер ён успомніў, што забыўся падзякаваць Домне за тое, што прывезла яго дамоў, і нялоўка, быццам падаваў міласціну, працягнуў ёй руку:

— Дзякуй табе, што падвезла нас...

— Авой, работы той, усё роўна сюды ехала,— на Домніным твары выступіла сарамлівая пунсовасць.— Во так, Васільевіч, і жывём...

Лазару падалося, што Домна папракнула яго: яна дачакалася яго, а, выходзіць, дарэмна.

«Але ж я не абяцаў ёй,— няшчыра падумаў Лазар і засаромеўся сваёй няшчырасці.— А хоць не абяцаў. Даваў падставу спадзявацца. Ну і што? Я — шчаслівы, яна — не. Значыць, я вінаваты. Шчаслівыя заўсёды вінаваты, бо яны шчаслівыя. Але ўжо нічога не паробіш. Я кахаю Цюку...»

— Усё мінаецца, Домна,— сказаў ён.— Былое не вяртаецца...

— Былое не забываецца,— сказала Домна.— А ці доўга ты прабудзеш тут?

Лазар зразумеў, што Домна спытала не так сабе.

— Дні тры, не болей,— адказаў Лазар і раптам зразумеў, чаму Домна пацікавілася, колькі дзён ён будзе гасцяваць.— Але я хутка прыеду на Сую здымаць фільм, і мы яшчэ пабачымся...

— Усяго табе добрага, Лазар,— з непрадбачанай цеплынёй развіталася Домна.

«Ну вось, я зноў абнадзеіў яе,— падумаў Богша.— Навошта? У мяне ж няма да яе ніякіх пачуццяў. Адно жаласць і шкадаванне, ды яшчэ адчуванне сваёй віны, хоць яе і не было».

Калі Лазар зайшоў у хату, маці стаяла, нізка сагнуўшыся над куфэркам. Усё вечка куфра спадыспаду стракацела каляровымі малюнкамі. Лазар ахапіў іх адным кароткім позіркам, нібы высветліў промнем пражэктара з даўніны гадоў. Некалі ён мог прастойваць перад вечкам куфэрка, як на маленні; таямнічы дзівосны свет малюнкаў бударажыў ягонае ўяўленне нават больш за казкі Шахеразады, якія ён прачытаў дужа рана і якія вельмі ўразілі яго. І цяпер напачатку ён убачыў іх тымі, дзіцячымі вачамі; потым промень пражэктара патухнуў, і ўжо дарослы позірк зблізку і звысоку адзначыў парфумную стракатасць і прытарную саладжавасць малюнкаў. Вадаспад Іматра з прыгожай постаццю жанчыны ў вуалетцы на пярэднім плане нагадаў этыкетку з таннага мыла, а аперэтачная пара — вокладку замежнага часопіса, бачанага ў Кірылы Лыкавязава, які часта бываў на міжнародных кінафестывалях.

Лазар адышоўся, каб не трывожыць сябе: дзяцінства сплыло — новыя ўяўленні валодалі ім.

З-пад сувояў палатна, посцілак і вышываных ручнікоў маці дастала драўляную, адпаліраваную рукамі і часам скрыначку, зробленую з бярозы-чачоткі. Лазар ніколі не бачыў гэтай скрыначкі.

— Зберагла во,— з нечуванай суровасцю сказала яна, павярнуўшыся тварам да Каці.— Знаю, вы, маладыя, не прызнаеце цяпер ні чорта, ні бога. Але ж то не боскае — чалавечае бласлаўленне. Мяне мая свякруха бласлаўляла, я — цябе, а ты — сваю малодшую нявестку блаславіш. Так яно і пойдзе з роду ў род.

Маці ўрачыста адкінула вечка скрыначкі, выцягнула з яе пазелянелы ланцужок, на якім вісеў васьміканцовы крыж. Лазар не паверыў сваім вачам, але несумненна то была мініяцюрная копія крыжа полацкага майстра Лазара Богшы, зробленая ім для князёўны Прадславы.

Калісьці настаўнік гісторыі, які прывіў Лазару Богшу любоў да мінулага, казаў, што з ефрасіннеўскага крыжа не рабілі крыжоў нацельных. А выходзіць, рабілі.

Тым часам маці надзела ланцужок на Каціну шыю.

— Дзякуй, мама,— аж са слязамі на вачах сказала Каця і тройчы пацалавала маці.

— Вазьмі і скрыначку,— сказала маці.— Крыж гэты не нацельны. Ён павінен ляжаць у хаце, і яго нельга выносіць з яе. Так мне мая свякруха наказвала, а ёй яе свякруха.

— Але ж у нас няма свайго дома. Дзе ж мне трымаць гэты крыж? — з наіўнай прастатой спытала Каця.

— Насі скрыначку з сабой,— параіла маці.

Цяпер Лазар адважыўся бліжэй разгледзець крыж. Ён паклаў яго на далонь. Крыж быў металічны, цяжкаваты, можа, латунны. Той, богшаўскі, крыж Лазар бачыў толькі на фатаграфіі, але яна ўрэзалася яму ў памяць. Сапраўды крыжы былі вельмі падобныя. І на тым крыжы і на гэтым — сіметрычна размешчаны іконкі святых, а між імі яшчэ два крыжы: уверсе чатырохканцовы, усярэдзіне шасціканцовы. Лазар перавярнуў крыж. На адваротным баку можна было разгледзець малюнак святога, але надпісу над ім не было.

— Мама,— звярнуўся Лазар да маці,— гэты крыж вельмі падобны на крыж Ефрасінні Полацкай, які зрабіў для не мой цёзка Лазар Богша. Можа, мы якія нашчадкі таго Богшы?

— Не выдумляй ты! Лепей во цяперака сядайце за стол. А ты, Радзівонька, збегай па Домну. Няхай з маці сваёй прыйдзе. І сваім скажы, каб падышлі...

Домна, аднак, не прыйшла.

* * *

— Ах, Лазар, мне здаецца, што я прыпала перасмаглымі вуснамі да чыстай гаючай крыніцы, п'ю і ўсё здаравею. Як добра, што ты прывёз мяне сюды! Твая маці — цуд, непераўзыдзены геній характва. Мы будзем любіць яе моцна-моцна... Але, Лазар, пакляніся мне, што ты не возьмеш яе да сябе, калі мы атрымаем кватэру. Мы будзем памагаць ёй, але не будзем жыць разам...

Богша здзіўлена паглядзеў на жонку і ці не ўпершыню заўважыў, што ў яе татарскі разрэз вачэй, які робіць Цюкін твар таямніча пяшчотным.

— Нічога не разумею,— сказаў Лазар, любуючыся жончыным тварам, па-асабліваму сёння адухоўленым.— Чаму ты не хочаш, каб маці жыла з намі?

— Мне будзе няёмка сварыцца з ёю...

Лазар таксама сеў, падкурчыў пад сябе ногі. Цюка ўмела ўражваць нелагічнасцю. За гэтыя два дні жыцця на Суі Лазар не раз пераконваўся ў яе здольнасцях.

— Чаму ты так упэўнена, што будзеш сварыцца? Мая маці ніколі і ні з кім не сварылася.

— А са мной будзе,— упарта сказала Цюка.— Са мной цяжка ўжыцца разам. Я — брыдкая. І наогул, калі жывеш з кім побач, дык абавязкова некалі пасварышся. З людзьмі жыць у любові можна толькі на адлегласці.

— Ах ты, мой філосаф! — абдымаючы Цюку, засмяяўся Лазар.— Маці і сама не хоча пераязджаць да нас. І ўяві, яна тлумачыла сваё нежаданне жыць у нас амаль гэтак, як і ты. Толькі яна выказала тваю думку інакш: дзве лісіцы ў адной нары не жывуць...

— Ну от бачыш, хіба я табе не казала, што твая маці цуд, што я люблю яе, што яна самая разумная на свеце жанчына. І я вельмі кахаю цябе, Лазар. Я кахаю цябе па-асабліваму...

Цюка моцна абняла Лазара, пачала цалаваць з такой апантанасцю, што ў таго аж закружылася ў галаве. Яны ўпалі на ложак, моцна сціснуўшы адно аднаго ў абдымках...

Адно імгненне, роўнае вечнасці, ці вечнасць, роўная аднаму імгненню.

— Ты страсная,— сказаў Лазар.

— Памаўчы, дурненькі,— папрасіла Цюка.

— Аднак жа нам трэба ехаць сёння,— нагадаў ён.

— Так-так, ехаць,— пагадзілася Цюка.— Я ўжо ведаю, як сыграю ролю ў тваім фільме. Можаш не сумнявацца, ты зробіш выдатны... геніяльны фільм.

### *Эпізод трэці (рэтраспекцыя):*

### эпітафія на смерць дружбы

Лазар Богша праваліўся з жахлівым трэскам. Яго выдатны, геніяльны фільм быў знішчаны, сцёрты на дарожны пыл, а сам ён прызнаны бяздарным і ўпартым аслом. Само сабой, пра бяздарнага і ўпартага асла ніхто ўголас не гаварыў. Гэта разумелася без слоў. Богшу знішчылі карэктна, ветліва, на высокім этычным узроўні, як умеюць гэта рабіць толькі ў кіно.

У студыйным інтэрнаце Лазара чакаў Кірыла Лыкавязаў. Ён сядзеў у маленькім вестыбюлі на адзіным крэс-

ле з калекцыі студыйнага сталяра Максіма Сахончыка — дзве коса збітыя скрыні, абцягнутыя аксамітам і аздобленыя парчой. Папраўдзе, Кірыла Лыкавязаў не быў той асобай, якую вельмі ў гэтай сітуацыі хацеў бачыць Лазар Богша. Але іх яднала прыналежнасць да адзінага ў краіне інстытута, які для Лазара Богшы быў святыняй, а кожны, хто некалі вучыўся ў ім, яго, Богшавым, братам.

Знешне Кірыла Лыкавязаў нагадваў вялікага дабрадушнага ката, які, прыгрэўшыся на прыпечку, мурлыкае сабе пацїху кацінуую песню. Лазар Богша тады яшчэ не ведаў, што лагодны кот у адно імгненне ўмее пераўвасабляцца ў крыважэрнага тыгра. Богша павітаўся з Кірылам, ледзь пераадолеўшы няёмкае адчуванне сваёй над ім перавагі, больш удачлівага мужчыны і сваёй нікчэмнасці як рэжысёра.

Кірыла Лыкавязаў у сваю чаргу састроіў на твары выраз спагадлівасці, хоць ягоны твар і працівіўся гэтаму — на ім ніяк не знікала адзнака сытасці і задаволенасці.

— Я ўжо чуў, як з табою расправіліся нашы студыйныя цэрберы, што вартуюць уласную бяздарнасць,— сказаў ён з тым невыразным адценнем у голасе, калі не разбярэш, ці табе спачуваюць, ці радуюцца твайму гору.— Але не гаруй, стары. Хадзем да мяне ў групу...

— Кім?

— Рэжысёрам,— адказаў Кірыла з такой упэўненасцю, нібы быў дырэктарам студыі.

— Спадзяешся, што студыйнае начальства мяне зацвердзіць? — уражаны лыкавязаўскай дабратой і спагадлівасцю, спытаў Лазар Богша.

— Мяркую — зацвердзяць. Дарэчы, ты не будзеш пярэчыць, калі на галоўную ролю я запрашу Цюку?

У Лазара, безумоўна, не было сур'ёзных прычын пярэчыць, хоць нешта падказвала яму не згаджацца. «Зрэшты,— падумаў ён,— хай гэта рашае сама Цюка».

Ці не з той інтэрнацкай сустрэчы і нарадзілася іхняя дружба, якая з цягам часу стала нагадваць вар'яцкі какталь: сумесь даверлівасці і здрады, шчырасці і нянавісці, падтрымкі і зайздрасці, вернасці і хлусні і яшчэ мноства чалавечых вартасцей і заган. Гады, па-свойму распараджаючыся, дадавалі ў іхнія адносіны то салодкага сіропу, то пякучага воцату, то духмянай атруты, а то і жыватворчага бальзаму, які зацягваў балючыя раны тонкай скуркай забыцця. Гады бурылі, яны ж пакрысе і цыравалі іхнюю ненатуральную дружбу.

Тады ж, шчыра расчулены лыкавязаўскай дабратой, Богша ўсхвалявана сказаў Кірылу:

— Я табе двойчы ўдзячны. Найперш таму, што не трымаеш злосці за Кацю. Іншы, напэўна, не падаў бы мне руку. Па-другое, дзякую табе, што прыйшоў на дапамогу, калі мне яна вельмі патрэбна. Я гэтага ніколі не забуду. А цяпер пойдзем да мяне, пасядзім па-брацку...

Кірыла нешта загаварыў пра гуманізм і ягоную, лыкавязаўскую, бязмежную гуманнасць. Ён гаварыў увесь час, пакуль Лазар завіхаўся ля стала, гатуючы закуску. Ён гаварыў бы і далей, але прыйшла Цюка, і Кірыла адразу замоўк.

— Сабачы холад на дварэ,— сказала Цюка, хукаючы на рукі і насцярожліва пазіраючы на Кірылу.

— Ён хоча прапанаваць табе ролю ў сваім фільме,— каб неяк растлумачыць жонцы, чаму ў іх сядзіць Кірыла, сказаў Лазар.

— Ён са мной ужо гаварыў,— з наіўнай шчырасцю сказала Цюка, выдаўшы тым самым Кірылу, які прамаўчаў, што ён размаўляў з ёю.— Але мне не падабаецца сцэнарый...

— А я і не ведаў, што вы ўжо сустракаліся,— абы парушыць няёмкую паўзу, сказаў Лазар.— Чаму табе не падабаецца сцэнарый?

— Чаму? — спытала Цюка не ў яго, Лазара Богшы, а ў Кірылы Лыкавязава, які збянтэжана, але і іранічна крывіў тонкія губы — усміхаўся.— Я табе скажу, чаму мне не падабаецца сцэнарый. Я не цярплю крывадушнасці, а Кірылаў сцэнарый наскрозь хлуслівы і крывадушны.

— Каця,— адчуваючы сяброўскую адданасць Лыкавязаву, які прыйшоў яму на выручку, з дакорам выгукнуў Лазар.— Каця! Як ты можаш так казаць?

Цюка, аднак, не звярнула на ягонае высакародства ніякай увагі. Яна ўперылася злоснымі вачамі ў Кірылу Лыкавязава.

— Я не магу зразумець,— абурана гаварыла яна, не зводзячы вачэй з Кірылы,— як можа чалавек хлусіць без усялякай патрэбы?

— Нешта я цябе не разумею,— стараючыся ўхіліцца ад Цюкінага позірку, сказаў Кірыла.

— Хіба ты, Кірыла, прытрымліваешся тых прынцыпаў, якіх вучыш прытрымлівацца тваіх герояў? Кіношныя штучкі, Кірыла. Ты пішаш і будзеш здымаць фільм не дзеля нейкай высокай ідэі, а дзеля прыгожага кадра,

дзеля займальнай сцэны і яшчэ чортведама дзеля чаго. Ты сам не верыш у тое, пра што пішаш. Ты — цынік, для цябе няма нічога святога. Ты, як тыя кухары, што добра ведаюць, чаго і колькі трэба пакласці ў бурду, каб яе елі іншыя, але сам есці не станеш.

Папраўдзе, Лазар Богша не чакаў такога ад жонкі. Дасюль яна ніколі не праяўляла такой апантанасці. А ў яе, выходзіць, ёсць свае погляды, і яна смела выказвае іх рэжысёру, які прапануе ёй галоўную ролю.

— А якая каму справа, што спавядаю я,— важна тое, што спавядаюць мае героі,— з нейкай дзіўнай насмешлівасцю сказаў Кірыла, так што было не зразумець — гаворыць ён жартам ці ўсур'ёз.

— Ну, гэта ты, браце, загнуў,— прыйшоў на выручку жонцы Лазар.— Герой майго твора — гэта заўсёды частка маіх думак, летуценняў, маіх трывог і клопатаў. Іначай можна скаціцца да беспрынцыповасці...

— У беспрынцыповасці таксама існуюць свае прынцыпы,— як бы пацяшаючыся над імі, сказаў Кірыла.— Сцэнарый адпавядае стандартам і меркам, якія ўстанавілі кіназнаўцы і крытыкі. Ім і прад'яўляйце прэтэнзіі.

— Але ж гэта подла, подла,— істэрычна запратэставала Цюка,— навязваць людзям думкі і ўчынкі, спосаб жыцця, нарэшце, якія сам не прымаеш. Хацелася б паглядзець, як бы ты паводзіў сябе на месцы сваіх герояў...

— Давайце памаўчым,— усё з той жа іранічнай усмешкай сказаў Кірыла.— Мы дужа цвярозыя, каб весці такія сур'ёзныя размовы.

— Ну, так, так,— пагадзіўся Богша.

— Дай мне цыгарэту,— папрасіла Цюка.

Калі яна прыкурвала з яго, Лазаравых, рук, ён заўважыў, што ў яе дробна дрыжалі пальцы. Яму стала шкада яе — навошта з-за глупства псаваць нервы? Лазару не хацелася, каб Цюка лішне залазіла ў спрэчку. Гэта магло выглядаць дужа асабістай, прыватнай непрыязнасцю. Ён непрыкметна паціснуў яе руку, заклікаючы памаўчаць. Цюка, відаць, зразумела яго: яна зацята курыла, глыбока дыхаючы дымам. Але Лыкавязаў сам усчаў гаворку.

— Ты, Цюка, была і застанешся безнадзейнай фантазёркай,— павучальным тонам загаварыў ён.— Мастакі — найвялікшыя і найталенавіцейшыя прытворцы і манюкі, якіх і любяць за тое, што яны прыгожа маняць і вельмі дасціпна прытвараюцца. Якая справа каму да таго, што пяшчотная закаханая Джульета на сцэне ў жыцці сварлі-

вая, нягодная бабёнка, якая здраджвае свайму мужу з кожным сустрэчным-папярэчным і да ўсяго неаднойчы ўжо хварэла...

— Кірыла! Як ты можаш?..

— Значыць, магу,— спакойна сказаў Лыкавязаў.— А колькі вялікіх геніяльных пісьменнікаў прапаведавалі аскетызм, а самі пілі віно, гулялі ў карты і кахалі жанчын, колькі з іх з абурэннем пісалі пра чалавечую прагнасць, а самі да непрыстойнасці былі прагныя, колькі ганьбавалі багацце, а самі абагачаліся як толькі маглі. Справа ў тым, што мастакі самыя вялікія грэшнікі...

— Яны святыя грэшнікі,— крыкнула Цюка.— Яны пісалі праўду жыцця, за тое іх і любілі, а ты ствараеш імітацыю праўды.

— Якое глупства! Яны таксама выдумвалі праўду жыцця,— не стрымаўшыся, даволі злосна сказаў Лыкавязаў.— Выдумвалі, каб купацца ў славе і заадно мець кучу грошай. Во дзе схаваны ўвесь сэнс іхняй праўдзівасці, смеласці і гэтак далей і да таго падобнае.

— Ну, ведаеш,— абурылася Цюка.— Ты прагрэсіруеш у сваім бяспрыкладным цынізме...

— А мне напляваць. Я хачу стаць славутым рэжысёрам, і я стану ім. Чуеш, стану. Запомні гэту гаворку.

— З такой філасофіяй не станеш,— сказала Цюка.

— Чалавеку на тое і дадзены язык, каб ён з дапамогай яго хаваў свае думкі,— сказаў Кірыла.— Я не такі дурань, каб кожнаму гаварыць тое, што сказаў вам. Ды я і вам нічога не гаварыў... Хочаш, Лазар, бяры маю руку, і мы пойдзем разам да славы. Яе, славу, як капрызную дзеўку, не ўгаворваюць, а бяруць нахрапам.

— Не, Лазару з табой не па дарозе,— Цюка ўскочыла з ложка, на якім сядзела, і стала між імі.

— Кіньце вы спрачацца,— памяркоўна сказаў Богша.— Хіба ты не бачыш, што Кірыла жартуе...

— Дай я цябе пацалую,— з начаканай парыўнасцю сказаў Кірыла.

Яны абняліся і пацалаваліся на вечную дружбу.

Калі Кірыла Лыкавязаў пайшоў, Лазар сказаў жонцы:

— Каця, ты ставіш другога рэжысёра ў цяжкае становішча, калі адмаўляешся ад ролі ў Кірылавым фільме...

— А мне якая справа? — сказала Цюка і раптам насцярожылася, нібы лісіца перад пасткаю.

— А такая, што другі рэжысёр — твой муж, Лазар Богша.

— Ты ідзеш другім рэжысёрам? — у Цюкі ад здзіўлення дугою выгнуліся бровы, зламаліся ды так і застылі, як у тэатральнай масцы.— Ты не павінен ісці да яго рэжысёрам...

— Не забывайся, што я не маю ні дыплома, ні работы.

— І ўсё роўна, усё роўна,— са слязамі на вачах сказала Цюка.— Ты моцны, дык чаму хочаш выглядаць слабым? Ты думаеш, што Кірыла паявіўся, каб памагчы нам? Наіўны ты чалавек!

— Але якая яму выгада браць мяне рэжысёрам, а цябе на галоўную ролю?

— Не ведаю, не ведаю,— заплакала Цюка.— Нічога не ведаю, але Лыкавязаў нешта задумаў...

Яны тады першы раз пасварыліся. А праз месяц, калі ў Лазара Богшы не засталося і капейкі грошай, Кірыла Лыкавязаў сказаў яму, што ягоную кандыдатуру не зацвердзіла студыйнае начальства. То была беспардонная хлусня, як потым дазнаўся Лазар. А тады ён не ведаў, што рабіць. І той жа Кірыла параіў, каб ён паехаў куды падалей, дзе яго не ведаюць і дзе ён можа прыкласці свае сілы.

* * *

Сабраўшы нейкіх паўтары сотні рублёў, Лазар махнуў на другі канец нашай неабсяжнай краіны, падалей ад сораму і ганьбы, у край сейсмічных катастроф і сонечнай спёкі.

Дырэктар тамашняй кінастудыі — дабрадушны таўстун з потным тварам і бліскучымі чорнымі вачамі — сядзеў у вялізным кабінеце паміж двух вентылятараў, якія памалу паварочвалі свае ветрадуйныя хабаткі так, каб іхні гаспадар абдзімаўся з усіх бакоў.

— А-а-а-а, дарагі, заходзь, заходзь, даўно чакаю,— абрынуў ён на Богшу вадаспад слоў, калі той, прачакаўшы ў прыёмнай гадзіны чатыры, нарэшце трапіў у кабінет.— Рад бачыць цябе, дарагі таварыш. Ды што ты стаіш? Сядай у крэсла. Хваліся, адкуль прыехаў? А-а-а, ведаю, быў там. Як тваё прозвішча, дарагі? А што рабіць хочаш, не пытаю: фільмы хочаш здымаць. Безумоўна, рэжысёр. Па вачах бачу. У цябе, дарагі, вочы галодныя: па рабоце ссумаваўся. А можа, ты аператар? — раптам з надзеяй спытаў дырэктар.— Аператары нам во як патрэбны, па самае горла...

Пра гэтага дырэктара і ягоныя дзівацтвы Богша наслухаўся баек яшчэ ў інстытуце, таму адказаў з асцярогай, падумаўшы для сябе, што, бадай, ехаў сюды дарэмна.

— Не, я не аператар,— сказаў ён.— Шкадую, але не аператар.

— Хочаш, канечне, здымаць мастацкі фільм у дзвюх серыях? Спадзяюся, што сцэнарый напісаў сам?

Сцэнарый у Богшы быў. Але ён пабаяўся, што дырэктар разыгрывае яго, а таму вырашыў пра сцэнарый прамаўчаць.

— Сцэнарыя няма,—сказаў Богша.— А здымаць гатовы аднасерыйны фільм, нават кароткаметражку дакументальную. Мы людзі неганарлівыя.

— Ай-вай-вай,— залямантаваў дырэктар,— навошта аднасерыйныя. Будзеш здымаць толькі двухсерыйныя. Цяпер скажы шчыра: сам здымацца хочаш?

— Хачу...

— Ай-вай-вай! Маладзец! Правільна, дарагі! Сам пішаш сцэнарый, сам здымаеш па ім фільм, сам здымаешся ў ім у галоўнай ролі. Усё правільна! Слухай, а жонку, скажы сумленна, таксама будзеш здымаць у галоўнай ролі?

— Я нежанаты,— схлусіў Богша.

— Як жа так, дарагі, хочаш здымаць фільмы, а яшчэ нежанаты? Ну, ды гэта зусім не страшна. Жэнім, дарагі, харошую актрысу знойдзем, таленавітую актрысу знойдзем...

— Чаму актрысу? — па-шчыраму здзівіўся Богша.— Можа, я з афіцыянткай жанюся...

— А ты, дарагі, на самай справе рэжысёр? — занепакоена спытаў дырэктар, уважліва да яго прыглядаючыся.— Можа, разыгрываеш мяне, старога? Ведаю я вашага брата кіношніка.

— Я сёлета інстытут закончыў. Хочаце, магу дыплом паказаць? — хлусіў і далей Богша, бо яму не было чаго губляць.

— Усё, здаюся, пераканаў,— дырэктар падняў угору кароценькія рукі.— Але ўсё роўна жаніся з актрысай. Чаму з актрысай? Тлумачу, дарагі. Жаніцца ж ты ўсё роўна будзеш! Факт! А з кім бы ты ні ажаніўся, жонка твая рана ці позна ўсё адно запатрабуе, каб здымаў яе ў галоўнай ролі. У мяне дужа багаты вопыт. Я па сваім вяку досыць нагледзеўся, таму ад душы раю — жаніся з актрысай, па магчымасці з таленавітай, якая потым стане геніяльнай. Ты павінен ставіць геніяльныя фільмы — гэта

факт, які ты сам не захочаш абвяргаць. А калі ў цябе жонкай будзе бяздарная актрыса, хіба ты здолееш ставіць геніяльныя фільмы? Толькі геніяльныя! Іначай ідзі ў кухары... Піва любіш?

Пытанне было яўна з падкавыкай, напэўна, каб высветліць, а ці п'е ён, Лазар Богша?

«Мяне так проста не купіш»,— падумаў ён.

— Піва мне забаранілі піць урачы. У мяне ныркі хворыя.

— Ай-яй-яй,— пашкадаваў дырэктар.— У нас улетку горача. Абавязкова трэба нешта піць. Або чай, або піва. А грошы ў цябе ёсць?

— Ёсць,— бадзёра выгукнуў Богша, хоць у кішэні была адна трыццатка на тыя пяцідзесятых гадоў грошы. Трыццатка з нейкай там дробяззю.

— Ах, які ты маладзец! — узрадаваўся дырэктар.— Не, які ты маладзец! Сталоўка ведаеш дзе? Не ведаеш? Спытаеш на калідоры. Язык ёсць? Ён цябе хочаш да Мекі давядзе, а хочаш да турмы. Гэта я так, жартую. Пойдзеш зараз у сталоўку, возьмеш шашлык. Разумееш — шашлык! Скажаш — дырэктару шашлык. Зразумеў? Піва бутэлечку не забудзь. З халадзільніка бяры. Зразумеў? Прынясеш усё гэта сюды. Тады і пагаворым. На пусты жывот якая гаворка...

Богша рынуўся на пошукі студыйнай сталоўкі, як апантаны філосаф на пошукі абсалютнай ісціны. Сталоўку, дарэчы, доўга шукаць не давялося, бо яна знаходзілася паверхам ніжэй. Круглатварая, белавалосая і вельмі мажная буфетчыца ў адно імгненне «арганізавала» бутэльку піва і дырэктарскі шашлык. Трымаючы ў адной руцэ бутэльку з півам, а ў другой дырэктарскі шашлык, Лазар Богша бягом кінуўся назад, але ў кабінет зайшоў павольна, з гонарам.

— Чаму сабе не ўзяў шашлык? — спытаў дырэктар.— Не хочаш? Правільна робіш. Не трэба браць прыклад з мяне. Сто дзесяць кіло без тапачак. Кінарэжысёр павінен быць худы, як шакал, моцны, як снежны барс, хітры, як лісіца, дальназоркі, як арол. Ты будзеш здымаць фільмы, а не глядзець іх, як гэта раблю я. Калі ў цябе будзе сто дзесяць кіло без тапачак, ты перастанеш быць кінарэжысёрам — ты станеш дырэктарам студыі або яшчэ якой канторы.

Дырэктар не спяшаючыся сцягнуў з шампура кавалак бараніны, не спяшаючыся доўга жаваў яго. Праглынуўшы,

запіў бурштынавым півам. Лазар Богша ледзь не самлеў ад зайздрасці.

— Дык вось, дарагі Лазар Богша,— пачаў дырэктар, з'еўшы шашлык і выпіўшы бутэльку піва,— будзеш здымаць у нас самы адказны, самы галоўны фільм года. Пачакай дзякаваць. Сільву Тарабееву ведаеш? Не? Ты адкуль на маю галаву зваліўся? Можа, прыляцеў з Марса? Не? Тады чаму ты не ведаеш Сільву Тарабееву? Нашага салаўя, нашага дзікага коршуна эстрады! Не, ты не можаш не ведаць Сільву Тарабееву! Яна наша слава! І ты будзеш рабіць фільм пра гэту непараўнальную старую кабылу, хай яна пражыве яшчэ сто гадоў і хай давядзе да інфаркту яшчэ сто філарманічных адміністратараў. Нам з табой, дарагі, жыць трэба, а таму мы з табой зробім геніяльны фільм, інакш Сільва зробіць з нас не менш геніяльную адбіўную. Ты хочаш, каб нейкая бяздарная спявачка зрабіла з нас адбіўную? Не хочаш! І я не хачу. Значыць, ты зробіш тры часткі фільма. Запомні — фільм з трох частак. І не больш, нават тады, калі Сільва стане рваць на сваёй галаве пяцісотрублёвы парык. Пасля з тваіх трох частак мы зробім дзве, а калі пашанцуе — адну частку. Зразумеў? Тады слухай далей. Заўтра Сільва ляціць у Маскву. Ты бярэш аператара і ляціш з ёю. Пастарайся не прагаварыцца, што ты здымаеш дзве часткі. Падругое, пазбаў божа цябе не здымаць у самалёце. Але ты будзеш здымаць пустой камерай. Не бойся, усё прадугледжана: аператар будзе мець дзве камеры, ён пра гэта ўжо ведае. Самае галоўнае, што патрабуецца ад цябе, каб ты ўвесь час тузаў, не даваў спакою гэтай старой ведзьме, гэтаму вампіру і крывасмоку Сільве Тарабеевай. Інакш, дарагі, нам з табою не будзе спакою. Сільва, дарагі, умее пісаць пісьмы, а яшчэ горш, яна ўмее дамагацца прыёмаў у самых вялікіх людзей і прасіць у іх дапамогі ад нашага брата. А паколькі мы з табой на прыёмы да тых людзей не здолеем трапіць да канца свайго жыцця, дык нам давядзецца пісаць тлумачальныя запіскі і атрымліваць вымовы.

Лазар Богша слухаў дырэктара і не разумеў, ці той смяецца з яго, ці сапраўды ён нейкі дзівак.

— А хто пісаў сцэнарый? — спытаў Лазар Богша, бо нешта трэба было спытаць, каб перапыніць дырэктара.

— Сцэнарый будзеш пісаць сам. Зразумеў? Добра! Цяпер бяжы ў бухгалтэрыю. Трох тысяч табе хопіць? Мала будзе, дасі тэлеграму. Ну, жадаю, дарагі, поспехаў,—

дырэктар выцягнуў з кішэні трыццатку, падаў здзіўленаму Богшу.— Вазьмі, вазьмі, думаеш, я не ведаў, што ў цябе апрача гэтай трыццаткі ні граша?..

Назаўтра Лазар Богша разам з аператарам і Сільвай Тарабеевай пачаў пакутніцкае ўзыходжанне на галгофу. То было цяжкое ўзыходжанне, але Богша не мог, не меў права адступаць, нават тады, калі Сільва Тарабеева запускала ў яго тапкам, расшытым бісерам, або тады, калі яна траціла прытомнасць. Двухчасцёвы фільм быў зроблены і прыняты без скарачэння, Сільва напісала паўтузіна заяў у маскоўскія інстанцыі і два тузіны ў мясцовыя, у якіх прасіла, загадвала знішчыць Лазара Богшу, як крыважэрнага бандыта і бяздарнага рэжысёра.

— Слухай, дарагі,— сказаў яму аднаго разу дырэктар,— я цябе вельмі прашу: уцякай. Адсядзіся дзе-небудзь месяцаў дванаццаць, потым я вазьму цябе зноў. А зараз уцякай, бо іначай мне давядзецца аддаваць цябе пад суд. Уцякай, дарагі, выручай, а я цябе ў бядзе не пакіну...

За якія нязробленыя злачынствы можна аддаць чалавека пад суд, Лазар Богша ніяк не мог здагадацца, а таму хацеў напачатку плюнуць на дырэктарскае запалохванне, ды неўзабаве зразумеў, што сейсмічная актыўнасць Сільвы Тарабеевай і сапраўды становіцца небяспечнай. Зрэшты, была і яшчэ важная прычына аддаць канцы, кажучы марской тэрміналогіяй,— нясцерпны сум па Каці, якая чамусьці пісала рэдка і скупа.

Студыйны ўпаўнаважаны чыгункі і Аэрафлоту прыдбаў яму білет на самалёт, і аднае сонечнай раніцы Лазар Богша ўзяў курс на захад, дзе жыла Цюка, дзе існавала кінастудыя, якая, безумоўна, яго не чакала, але ўсё ж была жаданым берагам для чалавека, які двойчы цярпеў няўдачу.

Цуды пачаліся з аэрапорта, у які Богша прыляцеў пад вечар. Яго сустрэла не Цюка, а былы дырэктар няўдалай кароткаметражкі Карней Карнеевіч Кладачка. Лазар Богша, напэўна, і не заўважыў бы Кладачку, бо пільнаваўся толькі жаночых твараў, шукаючы між іх Кацін, але Карней Карнеевіч сам аклікнуў яго, таропка падбег, тройчы пацалаваў і раптам нечага заплакаў. У Богшы ёкнула сэрца: няйначай, нешта здарылася з Цюкай. Аднак, прыгледзеўшыся лепей, Лазар заўважыў, што Кладачка плакаў слязамі радасці, а не гора.

— Як я рад, як я рад,— сціраючы са шчок слязіны, усхвалявана гаварыў Кладачка,— адным словам, вітаю і

віншую. Праўду, як галубку, ні на агні не спаліш, ні ў вадзе не ўтопіш...

— Пра што вы, Карней Карнеевіч? — нічога не разумеючы, спытаў Богша.

— Як гэта пра што? — з недаверам перапытаў Карней Карнеевіч.— Во табе і маеш! Ты хіба газет не чытаў, радыё не слухаў? Не чакаў, Лазар Васільевіч! Ці ты і праўда нічога не ведаеш? Зусім такі не ведаеш?..

— Карней Карнеевіч,— запрасіў літасці Богша,— не цямніце вы, будзьце ласкавы...

Кладачка, мусіць, толькі цяпер паверыў, што Богша сапраўды нічога не ведае. Ён падштурхнуў Богшу пад бок, падміргнуў спачатку левым, а потым і правым вокам.

— Ну, тады моцна трымайся за паветра. Я цябе зараз такой навіной аглушу,— сказаў Кладачка і перайшоў на ўрачысты тон:— Дык вось, значыцца, Лазар Васільевіч, наша... твая кароткаметражка на міжнародным фестывалі атрымала першы прыз, а таму дырэкцыя студыі выклікала цябе тэлеграмай, каб ты даў згоду здымаць мастацкі фільм...

Калі б Лазар Богша зрабіў два дзесяткі кароткаметражак, дык і тады ён не паверыў бы ў тое, пра што гаварыў яму Кладачка. А між тым Карней Карнеевіч не хлусіў.

У жыцці цудаў, вядома, не бывае. Цуды здараюцца толькі ў кіно. Ісціну гэтую, праўда, спрабуюць аспрэчваць, аднак яна не перастае заставацца ўпартым фактам.

Чаму і як Богшава кароткаметражка трапіла на фестываль? Наконт гэтага існавала тры непацверджаныя версіі. Адны казалі, што пераблыталі каробкі з фільмамі, другія, што паслаць Богшаў фільм настояў інстытуцкі настаўнік Лазара, чалавек вялікай прабіўной сілы, трэція, што Богшаў твор быў пасланы, каб разыграць высокае журы. Як бы там ні было, але калі журы фестывалю сярод мноства кароткаметражак прагледзела Богшаву, яно прыйшло спачатку ў здзіўленне, а потым і ў непраўдападобнае захапленне. Захапленне было агульнае, але зусім неаднолькавае: дваццаць адзін член журы падзяліліся на трынаццаць плыняў, кожная з якіх трымалася свайго пункту гледжання і адстойвала яго з нечуванай упартасцю. Аднак усе без выключэння сыходзіліся на адным, што Богшава кароткаметражка, безумоўна,— з'ява. Дыскусія пагражала зацягнуцца на гады, бо толькі адных тэрмінаў,

каб даць назву новаму накірунку ў кіно, было прыдумана нешта больш за сотню. Але фестываль падыходзіў ужо к канцу, зрэшты, як і візы на прабыванне ў краіне. Таму, сабраўшыся на заключнае пасяджэнне, журы амаль аднагалосна прысудзіла першую прэмію Богшавай кароткаметражцы...

Карней Карнеевіч Кладачка расказваў пра ўсё з нязменным сваім гумарам, чым не змяншыў важнасці падзеі і Богшавых заслуг. Факт, як вядома,— рэч упартая.

* * *

Чалавечая дабрыня — аднолькавая ва ўсіх яе праявах, подласць — шматаблічная і бясконца разнастайная.

Першы Богшаў фільм, хоць і не зрабіў на студыі перавароту, як спадзяваўся сам Богша, але і не застаўся незаўважаным. У мясцовым друку раптам успыхнула зусім адвольная дыскусія: тое, што хвалілі адны, дарэшты адвяргалі другія, так што Лазар Богша ніяк не мог даўмецца, ці ён сапраўды стварыў мастацкі шэдэўр, ці дасціпную дрындушку. Сам ён жартаваў: дзіцё хоць і смаркатае, але ягонае. Тым часам выступіла адна ўплывовая газета, якая падвяла вынікі дыскусіі, назваўшы Богшу таленавітым рэжысёрам, а яго карціну — цікавым пошукам.

Богша на той час працаваў ужо над новым фільмам. Ён задумаў стварыць трылогію пра сваё апаленае вайной пакаленне. Яму хацелася паказаць вайну такой, якой ён бачыў і ведаў, а не такой, як яна паўставала з чытаных ім твораў.

Ён якраз знаходзіўся ў падрыхтоўчым перыядзе — рабіў пробы акцёраў, выбіраў натуру для здымак, разам з мастакамі працаваў над эскізамі дэкарацый і касцюмамі,— як на яго і на Цюку пасыпаліся ананімкі. Спачатку найбольш на Цюку.

То былі брыдзенькія, хоць і ўмела зробленыя пасквілі і нагаворы, друкаваныя на машынцы і пісаныя ад рукі непасрэдна Лазару Богшу. Нейкі мужчына, напрыклад, з нахабнай шчырасцю пісаў пра свае з Цюкай інтымныя адносіны. Богшу ўразіла, што невядомы нягоднік прыводзіў такія інтымнага парадку факты, якія сапраўды мог ведаць блізкі чалавек. Потым былі і яшчэ розныя па змесце і форме пісьмы ад жанчын і мужчын, але з аднолькавай дозай бруду. Нейкая жанчына адкрывала Богшу вочы, якія не бачыць, што яго жонка па-ранейшаму жыве з

Кірылам Лыкавязавым, атрымлівае ад яго грошы і каштоўныя падарункі, пасміхаецца з Богшы і расказвае пра яго такое, за што яе варта выпхнуць за дзверы выспяткам пад зад.

Бруд, бруд, бруд, які, аднак, муляў Лазару Богшу вочы. Цюка плакала, клялася ў сваёй невінаватасці. Лазар верыў і не верыў. Найчасцей не верыў. Ды ўсё адно закрадвалася ў душу падазронасць. Яна, як шашаль, тачыла іхнюю любоў.

Потым пасыпаліся пісьмы ва ўстановы. У іх Цюка выстаўлялася ўжо не проста разбэшчанай дзеўкай, а здрадніцай і нямецкай паслугачкай, якая спала без разбору з кожным немцам. Ананімшчыкаў мала абыходзіла, што ў вайну Цюка мела нейкіх чатырнаццаць гадоў. Нарэшце паявіліся ананімкі на самога Лазара Богшу, нашмат танчэйшыя, але і нашмат атрутныя. Тыя ж, а можа, і другія іксы і ігрэкі, прызнаючы несумненную таленавітасць Лазара Богшы і як бы між іншым, пыталіся, а ці не таму Базар Богша трымаецца за Цюку, што яна добра ведае нейкую тайну, якую выдасць адразу, як Богша паспрабуе яе кінуць. Былі і такія пісьмы, у якіх зусім недвухсэнсоўна сцвярджалася, што Богша добраахвотна паехаў у Нямеччыну, быў завербаваны там і накіраваны гестапа ў канцэнтрацыйныя лагеры, каб убівацца ў давер вязняў і выдаваць іх нямецкім уладам.

Бруд, бруд, бруд, які пранікаў на студыю, выклікаючы ў кіношнікаў самыя розныя здагадкі. «Дыму без агню не бывае»,— паціху разважалі на студыі. Богша і Цюка адчувалі, як вакол іх утвараецца незразумелая, непадступная пустата. А галоўнае — не дакажаш, ды і каму станеш даказваць? І ўжо ў друку раптам перагледзелі ягоныя абодва фільмы — дыпломную работу і поўнаметражную стужку,— знайшоўшы ў іх тонкі манеўр, каб працягнуць ва ўжытак варожую філасофію. Як з ночы раптам выніклі і скаргі Сільвы Тарабеевай — яшчэ адно пацвярджэнне чужой па духу дзейнасці Лазара Богшы, які сказіў вобраз вялікай актрысы.

То быў жахлівы год, які і закончыўся жахліва.

Праз тры дні пасля мастацкага савета, на якім з паспешлівасцю, неўласцівай кіношнікам, Лазар Богша быў адхілены ад работы над фільмам, Кірыла Лыкавязаў зайшоў у Богшаў рэжысёрскі пакой.

Ён, Лазар Богша, якраз гатаваў каву, калі размашыста расчыніліся дзверы і на парозе ўзнікла спартыўная

постаць Кірылы Лыкавязава. Богша бясконца абрадаваўся госцю. Кірыла Лыкавязаў належаў да тых кіношнікаў, хто хоць і не вельмі кідка, але ўсё ж падтрымліваў яго і Цюку ў гэтыя нялёгкія дні.

— За гэтыя два дні ты зайшоў да мяне першы,— паскардзіўся Богша.

— Не крыўдуеш? — спытаў Кірыла.

— Чаго?..

— Што я не выступіў у тваю абарону?

— Але ж цябе не было на мастацкім савеце.

— Я не пайшоў знарок.

— Пабаяўся?

— Не, я не хацеў сядзець з людзьмі, якія паверылі подлым ананімшчыкам. Я дапускаю, што Цюка, магчыма, і небязгрэшная, але ты, хто выцерпеў столькі пакут...

— Кірыла! Не гавары так пра Цюку...

— Даруй і яшчэ раз даруй, але я ведаў яе...

— Я прашу цябе, не чапай Цюкі...

— Не хочаш... Я абураны, Лазар, да глыбіні душы і ананімкамі і тым, што здарылася. Я хацеў бы глянуць у вочы таму, хто пісаў гэтыя подлыя пісьмы. Глянуць і плюнуць яму ў морду. Мяне ахоплівае жах, калі я думаю, што падаю нягодніку сваю чыстую руку, што я проста дыхаю адным з ім паветрам. Але я не менш абураны, што нашы задужа прынцыповыя члены мастацкага савета паверылі ананімшчыкам, паставіўшы пад сумненне тваю, Лазар, сумленнасць.

— Ты лічыш, што мастацкі савет адхіляў мяне ад работы па гэтай прычыне? — спытаў Лазар Богша, як бы пацвярджаючы сваю здагадку, што паявілася ў яго.

Кірыла Лыкавязаў скептычна ўсміхнуўся, як усміхаюцца з наіўнага пытання малога хлапчука.

— А хіба ты яшчэ сумняваўся? Верыў у тое, нібы ў тваёй незакончанай працы знайшлі нейкія памылкі? Глупства, Лазар. Калі цябе трэба адхіліць ад работы, нашы студыйныя мудрацы знойдуць у цябе якія хочаш недахопы.

— Кірыла, Кірыла, што ты кажаш? Я хадзіў да дырэктара, ён сказаў мне, што ўсяму прычына мае пошукі формы. Ім здаецца, што я забраўся ў багну фармалізму і абстракцыянізму.

— Ты — наіўны рамантык, Лазар. А на свет трэба глядзець цвярозымі вачамі, як гляджу я. Хочаш ведаць, чаму ты трапіў у няміласць? Але гэта толькі паміж намі. Наш

мастацкі кіраўнік, на якога ты молішся, як на бога, выдыхся, як старая вадавозная кляча. Ён не можа стварыць нават пасрэднага фільма, а таму баіцца нас, маладых, цябе, мяне, Сцёпку Грышына, Андрэя Янчука, Жэню Мануйліка — усіх, хто патэнцыяльна можа спіхнуць яго з крэсла мастацкага кіраўніка студыі. Ты зразумееў мяне? Ён хоча заставацца мэтрам, а таму рэжа нас, не дае ўзняцца над ягонай бяздарнасцю. Ён — мінулае, мы — будучае. Я не разумею, Лазар, чаму, напрыклад, ты не маеш права на мастацкае кіраўніцтва?

— Я хачу здымаць фільмы...

Лазар пачаў здагадвацца, што Кірыла думае не пра яго, а пра сябе. Кірыла як бы і не пачуў, што сказаў Лазар.

— Справа не ў тым, хто з нас, маладзейшых, стане мастацкім кіраўніком. Важна адрынуць з дарогі цяжар напрацаваных штампаў, на якія нас скіроўвае стары маразмацік.

— Усё, можа, і так,— сказаў пасля нядоўгай паўзы Лазар,— але я ніколі не паверу, што Антон Данілавіч мог пісаць ананімкі.

— Няважна, хто пісаў, важна, хто натхняў,— сказаў Кірыла, быццам чакаў такіх слоў ад Богшы, і тут ашаламіў таго навіной:— Мне загадана дазняць твой фільм. Таму я і прыйшоў да цябе. Я не даў згоды, пакуль не пагавару з табой.

Лазара Богшу балюча кранула, што цяпер ужо ў яго няма ніякай надзеі.

— А што я? Табе нічога не гаварылі пра мяне?

Кірыла працягнуў руку цераз столік, паклаў на Богшава плячо.

— Калі ты верыш мне і лічыш сябрам, дык вось мая парада: з’ездзі на які год на тую студыю, дзе ты рабіў фільм пра Сільву Тарабееву.

— А Цюка?

— Яна будзе здымацца. Я паставіў такую ўмову, і яны згадзіліся. Як бачыш, справа не ў фармалізме, не ў актрысе. Ну, дык што, давай руку на дружбу?..

Лазар падаў руку.

* * *

Тэрміновая тэлеграма-маланка знайшла Лазара Богшу ў далёкім калгасе Вахшскай даліны, дзе ён здымаў фільм пра бавоўнаводаў. Лазар тройчы прачытаў каро-

ценькі тэкст, і сэрца зайшлося ад болю. Здавалася, нехта кальнуў у яго вострым шылам, і яно затрапятала без аніякага рытму, як падстрэленая птушка крыламі.

Малады аператар, які здымаў высачэзныя сціrты сырой бавоўны, лежачы на спіне, мабыць, таксама пачуў бяду: усё яшчэ трымаючы навісу камеру, ён павярнуўся на бок, спытаў у Богшы дрыготкім голасам:

— Лазар Васільевіч, што здарылася?

Лазар Богша яшчэ раз перачытаў тэлеграму.

— У мяне загінула жонка,— сказаў ён чужым драўляным голасам.

Аператар ускочыў з сухой, выгаралай зямлі — такі ж карычнева-буры і сухі як зямля.

— Як загінула? Чаму загінула? — спытаў ён, пазіраючы на Богшу вялікімі, як слівы, вачамі.— У нас фільм не кончаны.

Ён сам зразумеў, што сказаў зусім не тое, што трэба было сказаць чалавеку, у якога загінула жонка, бо раптам пачаў знімаць з шыі камеру і ніяк не мог зняць.

— Рахім, ці ведаеш ты, калі ўвечары ляціць на Маскву апошні самалёт?

Рахім пахітаў галавой.

— Я паеду з табой,— сказаў ён.— Вай-вай, якое гора...

Ля іх цесным колам ужо стаялі калгаснікі, паціху перагаворваліся і чамусьці таксама ківалі галовамі, нібы іх калыхаў вецер. Да Лазара падышоў стары зморшчаны чалавек у паласатым халаце, з доўгай, клінам барадой, асцярожна кранууўся Богшавай рукі.

— Будзь мужны ў горы, што насцігла цябе,— сказаў ён, з намаганнем вымаўляючы кожнае слова.

— Так, так,— механічна адказаў Богша.

Яму хацелася кудысьці бегчы, плакаць, выць, качацца па зямлі, грызці яе ў бяссільнай роспачы. Але ён нікуды не бег, не мог плакаць, ён стаяў, як прыкаваны цяжкімі ланцугамі. Яго ўзялі пад рукі, павялі за сціrту, дзе стаяў «газік». З кабіны высунуўся шафёр, працягнуў рукі:

— Сядай, шэф, кожная хвіліна дарагая.

Лазар сеў, ухапіўся абедзвюма рукамі за металічную ручку і адразу адключыўся ад жывога свету. Усё, што было потым, не засталося ў памяці — выкрасленыя суткі з жыцця.

На кінастудыю ён прыехаў пасля абеду, і першы, каго ўбачыў, быў Кірыла Лыкавязаў. Той сядзеў у студыйным скверы на лаўцы, абхапіўшы галаву рукамі. Лазар пайшоў

да яго па акуратна падстрыжаным і ўжо крыху пажоўклым газоне. Ён адначасова бачыў газон і Кірылу, аж дзіўна было: у канцы газона — помнік журбе і гору. Помнік глядзеў на яго, Лазара Богшу, сінімі, амаль васількавымі вачамі.

— Што здарылася, Кірыла? — чамусьці шэптам спытаў Богша.

Кірыла раптам пахіліўся наперад, у яго падкасіліся ногі, але ён не ўпаў, а нейкім чынам апынуўся на каленях, папоўз да Богшы, уткнуўся галавой у Богшаў жывот.

Гэта было жахліва: стаяць перад чалавекам, які тыцкаецца табе ў жывот, як галоднае цялё ў вымя, каб наталіць голад, каб не памерці. Але якраз гэтая жахлівасць вярнула Богшу з доўгай адсутнасці, дзе ўсё ж заставалася кволенькая надзея на нейкі цуд. Цяпер ён зразумеў, што цуда няма і не магло быць. Цуды можна рабіць у кіно. У жыцці ж уладарыць запраграмаваная непазбежнасць.

Пра гэта падумалася нават з палёгкай, як катаржаніну, што нарэшце дабраўся да месца катаргі.

Богшу захацелася ўзяць Кірылу за чуб, каб адвесці ягоную галаву ад сябе. Але той сам адхінуўся, закінуў твар угору, як на малітве.

— Хочаш — забі мяне,— сказаў ён трагічным голасам, як акцёр у ролі Атэлы.

Кірыла ўзняў угору рукі.

— Давай без тэатральных эфектаў,— занадта спакойна сказаў Лазар Богша.— Як ты ўгробіў Цюку?

Кірыла адразу ж узняўся з каленяў, бадай, механічна абабіў са штанін пясок.

— Лазар, клянуся самым дарагім мне, я не хацеў, але яна пачала настойваць, каб зрабілі яшчэ адзін дубль. Ты ж помніш той эпізод? Ты сам яго запісаў. Калі карнікі паляць вёску, а яна выскоквае ў акно, ужо ахопленае полымем.

Перад вачамі Лазара Богшы міжвольна мільгануў кадр: яркае пякельнае полымя, уся ў агні хата і Цюка, якая ў апошняе імгненне выкульваецца з акна. Якая жахлівая смерць!

Ён узяў Кірылу за штрыфлі замшавай курткі, прыўзняў над зямлёй, каб потым кінуць, разбіць удрузг. Лазару здавалася, што ён высока над сабой падняў Кірылу, але, калі ён апошнім намаганнем розуму стрымаў сябе, каб не штурхнуць Кірылу ў бездань, а паставіць на зямлю, той нават не варухнуўся. Няйначай, зразумеўшы, што

крызіс праміпуў, Кірыла абцягнуў куртку, дастаў з кішэні пачак «Казбеку».

— Закуры, Лазар.

— Пайшоў ты...

— Лазар, я перад табой нявінны. Дарэмна ты думаеш, што вінаваты адзін я. Цюка была як апантаная. Яна іграла так, нібы фільм ставіў ты. Ды так яно і было. Ты ж яшчэ не ведаеш, што ў цітрах было вырашана ставіць тваё прозвішча.

Кірыла ішоў поруч, аддана зазіраючы Лазару ў вочы, як сабака, што не ўсцярог гаспадарскае дабро. Ён усё гаварыў і гаварыў; змоўк толькі тады, калі яны зайшлі ў прасторны студыйны вестыбюль, дзе на высокім пастаменце стаяла закрытая векам чырвоная труна ў вянках і асенніх кветках.

Перад імі раптам расступіўся прыціхлы натоўп. Лазар ужо адзін пайшоў па вузкім калідоры. Як у тумане, ён убачыў Цюкін партрэт з жалобнай стужкай — Цюка, як жывая, загадкава ўсміхалася яму: а вось і я, Лазар...

Да яго адразу ж падышоў дырэктар. У дырэктара сутаргава крывіліся тоўстыя губы. Ён паціснуў Богшаву руку, сказаў нейкія словы спачування і спагады. За ім пачалі падыходзіць і члены пахавальнай камісіі. Богша зноў занурыўся ў сябе, адключыўся ад навакольнага свету.

Яго не пераставала мучыць неадчэпная думка: чаму лёс распарадзіўся, каб у астатні час ён не змог пабачыць Цюкі, няхай сабе і не жывою. Агонь спапяліў апошняе яго права зірнуць ёй у твар. Ім авалодала вар'яцкая думка: раз ён не мае магчымасці бачыць Цюку, дык і рабіць яму няма чаго. Ён падышоў да сцяны, зняў Цюкін партрэт з жалобнай стужкай, панёс перад сабой на выхад. І зноў перад ім утварыўся вузкі калідор, у канцы якога стаяў маўклівы і суровы Карней Карнеевіч Кладачка. Карней Карнеевіч дачакаўся Богшу, асцярожна вызваліў з ягоных рук Цюкін партрэт, перадаў камусьці, хто стаяў непадалёк, а сам абняў Богшу за плечы. Так яны і выйшлі на двор, у сквер, пад каштаны.

— Табе ўсё ж трэба пабываць на могілках,— сказаў Кладачка.

— Я не хачу хаваць яе,— вяртаючыся з забыцця, сказаў Лазар Богша.— Усё разумею і не магу пагадзіцца. Ці, можа, ты скажаш, што злыя заканамернасці лёсу непазбежны? Усё ж вяло да гэтай трагічнай недарэчнасці. Ты скажы мне, дзе мая віна?

— Табе належыць закончыць фільм,— сказаў Кладачка.— Пра гэта ўжо ішла гаворка. Усё праходзіць — гора таксама. Вось аклемаешся і закончыш карціну.

— Без Цюкі?

— Яна адзнялася,— сказаў Кладачка, нібы Цюка зрабіла сваю справу і паехала дамоў.— То была апошняя здымка. А карціна павінна выйсці. Іначай навошта яна спаліла сябе...

— Як ты можаш?.. Божа, якія мы, кіношнікі, жорсткія!

— Магу,— упарта сказаў Кладачка.— Мне вось пагражае турма. А я пра карціну думаю. Пасля нас нешта павінна застацца, іначай якія мы з табой мастакі. І не глядзі на мяне так. Думаеш, што дырэктар карціны толькі адміністратар? Не, Лазар, і я мастак. Можа, недзе я атрымліваў бы большую зарплату і жыў бы спакайней. Ды не! Мастак сядзіць ува мне...

Лазара Богшу, аднак, уразіла не гэтае прызнанне Кладачкі — Богша ніколі не сумняваўся, што кожны кіношнік у душы мастак,— ён толькі цяпер з усёй яскравасцю ўразумеў, што за смерць Цюкі панясуць пакаранне. Значыць, смерць яе будзе адпомшчана. Вось чаго ён прагнуў увесь гэты час!

«Так яму і трэба,— падумаў ён пра Кірылу Лыкавязава.— Так яму і трэба. Хай засудзяць яго, і хай ён падохне ў турме. Але за што караць Карнея Карнеевіча?»

Пытанне гэта прагучала як раскаянне за сваю папярэднюю думку, бо раптам успомніў словы Кірылы Лыкавязава: «Ты ж помніш той эпізод, ты сам яго запісаў». Ён жахнуўся ад таго, што мог апынуцца на месцы Кірылы Лыкавязава, калі б яго не адхілілі ад работы. Мог, бо ён тады з нечалавечай апантанасцю запісваў гэты эпізод, быццам падсвядома рыхтаваў Цюкіну смерць. Ён жа ўжо тады ва ўсіх дэталях бачыў гэты праклятым эпізод: Цюка выскоквае з акна, паўзе, а за ёю, на яе падае ахопленая полымем страха хаты. Няўжо ён сам асудзіў Цюку на смерць?..

— Карней Карнеевіч, за што ж вас судзіць? Судзіць трэба мяне.

— Чалавека ж загубілі,— спакойна, як пра нешта пазаўсёды вырашанае, сказаў Кладачка.

* * *

Следчы цярпліва слухаў Богшавы прызнанні. Ён сядзеў па той бок стала і з сумным выразам твару, які і не

спрабаваў хаваць, глядзеў зморанымі вачамі на Богшу. Ён быў немалады, хоць яшчэ далёка не пенсійнага ўзросту — чалавек, які дзень пры дні страчаўся са злачынцамі і сведкамі. Яму, мабыць, абрыдла ягоная праца, так, па крайняй меры, падумалася Богшу, і ён пастараўся як найхутчэй закончыць свой маналог, які зацягнуўся.

— Дык што вы хацелі? — страпянуўшыся, спытаў следчы.

Во табе і маеш! Хіба ён, Богша, гаварыў незразумела?

— Я хацеў давесці вам, што ў смерці маёй жонкі вінаваты я, а не Кірыла Лыкавязаў, бо я распрацоўваў рэжысёрскі сцэнарый, а ён толькі добрасумленна выконваў тое, што было запісана ў ім.

— Дужа добрасумленна выконваў, аж загінуў чалавек. Актрыса! Таленавітая актрыса! — нечакана ўсхвалявана загаварыў следчы.— Вы хоць гэта разумееце?

— Яна была мая жонка,— пагадаў Богша.

Следчы ці то з цікавасцю, ці то з падазронасцю спадылба глянуў на Богшу.

— Гэта мне вядома,— абыякавым голасам сказаў ён.— Але я ўсё роўна не разумею вас.

— Мне здаецца,— асцярожна падбіраючы словы, загаварыў Богша,— што няма саставу злачынства, каб прыцягваць да суда рэжысёра і дырэктара карціны. Так, здаецца, прынята гаварыць у вас? Калі хто і вінаваты, дык я. Ну і судзіце мяне, а сам сябе я асудзіў навекі.

Следчы скупа ўсміхнуўся.

— Састаў злачынства ёсць,— важка сказаў ён.— Мяне цікавіць другое: чаму вы так настойліва абараняеце людзей, якія ўсё ж вінаватыя ў смерці вашай жонкі?

— Яны мае калегі і сябры. Я добра ведаю іх. Гэта, спадзяюся, нямала. А потым вы не ўяўляеце, што такое сапраўдны кіношнік. Гэта чалавек, які павінен рызыкаваць, калі ён здымае мастацкі фільм, а не халодную ілюстрацыю да нечага. Без рызыкі не існуе мастацтва.

Пакуль Богша гаварыў, следчы сядзеў, абапёршыся на рукі, што ляжалі на стале неяк вельмі па-хатняму. І вочы ў яго былі прыкрыты цяжкімі павекамі таксама па-хатняму. І ўсё ж ён выглядаў недаступным, таямнічым сфінксам. Лазар нечага пачаў баяцца яго.

— Ах, Лазар Васільевіч, Лазар Васільевіч,— ужо адкінуўшыся на спінку крэсла, выгукнуў следчы.— Вось вы нечага хадайнічаеце, просіце, калі я вас правільна зразумеў, каб і вас прыцягнуў да адказнасці, быццам я нічога

пра вас не ведаю, быццам я не следства вёў, а бесклапотна бяседаваў за кубкам кавы. Я, Лазар Васільевіч, ведаю пра вас больш, чым вам здаецца.— Богша сцепануўся ад ягоных слоў.— І гавару я цяпер з вамі ўжо не як следчы, а як звычайны чалавек, нашмат старэйшы за вас і, даруйце, больш вопытны, які добра паспытаў жыцця.

Следчы ўстаў з-за стала, прайшоўся па пакоі, падкрэсліваючы гэтым, што ён і сапраўды строс з сябе афіцыйнасць.

— Я таксама паспытаў жыцця ўдосталь,— сказаў Богша, падазраючы, што следчы ставіць яму нейкую пастку, у якую трапіць не ён, Богша, а Кірыла і Кладачка. Тады выйдзе, што ён, Богша, замест таго каб памагчы ім, толькі нашкодзіў.— Чатыры ўцёкі з канцэнтрацыйных лагераў нешта важаць на шалях нашай вопытнасці. Некалі старшыня лагернага антыфашысцкага камітэта сказаў, што я нарадзіўся ў кашулі...

— І пра гэта ведаю,— тактоўна перапыніў яго следчы.— Вы вось выгароджваеце Лыкавязава. А ці ведаеце вы, што перад тым, як пасдаць Кацярыну Ляўдак у агонь, Кірыла Мацвеевіч прымусіў яе выпіць шклянку гарэлкі? Для чаго?

Ён спыніўся перад Лазарам Богшам, як бы любуючыся ягонай разгубленасцю. Лазар Богша і сапраўды зніякавеў. Дык вось адкуль Цюкіна апантанасць. Але ён тут жа падумаў, што не дасць следчаму ўцягнуць яго ў сведкі супраць Кірылы.

— Бачыце,— з развагаю пачаў ён,— часам натуральнасць акцёра перад камерай, калі той знаходзіцца ў экстрэмальных умовах, вымагае такіх мер, якія недасведчанаму чалавеку здаюцца ледзь не злачыннымі. А між тым, мне, напрыклад, захад Кірылы Лыкавязава ўяўляецца зусім зразумелым. Ён хацеў зняць на плёнку не страх жанчыны, якая выкідваецца з акна ў полымі пажару, а прагу да жыцця, рашучасць гераіні выбрацца з пекла, рашучасць, бадай, неўсвядомленую. Гарэлка ў гэтым выпадку здымала ў актрысы пабочную эмоцыю — страх за сваё жыццё, які мог не быць пераадолены актрысай у складаных умовах здымак. Канечне, з пункту гледжання закона тут, магчыма, і не ўсё правільна, але з пункту гледжання мастацкай неабходнасці — заканамерна. Рызыка? Так. Але рызыка неабходная.

— Ах, так, так... Пра гэта гаварыў і Лыкавязаў. Дарэчы, Кірыла Мацвеевіч падтрымліваў і вашу цяперашнюю

заяву, што вінаваты вы, можа, і ўскосна, але вінаваты, бо загадзей прадвырашылі трагедыйны фінал, распрацаваўшы дасканала эпізод у рэжысёрскім сцэнарыі,— і быццам спахапіўшыся, што сказаў недазволенае, што адкрыў тайну следства, крута перамяніў гаворку: — Лазар Васільевіч, а ў нас ужо нейкім чынам абед. Загаварыліся мы з вамі. Чайку вып'ем? Я зараз пазваню ў буфет. Вядома, калі ў вас знойдзецца час. Мне і самому цікава, карыстаючыся нагодай, пагаварыць з вамі пра кіно. Я даўні яго прыхільнік. Каб не вайна, дык, можа, і рэжысёрам стаў. Сам некалі рабіў фільмы, аматарскія, вядома. А пасля закруціла, завіравала і ўсё наперакос. Следчым стаў...

Ён, аднак, не стаў чакаць Богшавай згоды, набраў нумар, сказаў некаму:

— Дусенька, два чаю і бутэрброды, вядома.

Тым часам Лазар Богша моцна задумаўся над тым, пра што знарок ці, можа, прагаварыўшыся, сказаў следчы. Ва ўсякім разе, выходзіла так, што ён, Лазар Богша, прыйшоў да следчага тады, калі Кірыла Лыкавязаў ужо назваў яго саўдзельнікам трагедыі ці злачынства — думай, як табе падабаецца.

Ідучы да следчага, Лазар Богша цешыў сябе думкай, што робіць аж два высакародныя ўчынкі: бярэ на сябе, і прытым добраахвотна, віну, а значыць і ратуе ад немінучай кары — пра што гаварылі на студыі — калег, таварышаў па працы. Кірылава паказанне абражала лепшыя Богшавы намеры.

Пра сваю адказнасць Богша мог сказаць толькі сам. Сам, але не Кірыла! Кірыла не меў права перакладаць віну з хворай галавы на здаровую. Абараняючы Кірылу перад следчым, Лазар, тым не менш, добра разумеў, што той вінаваты ў смерці Цюкі. Але ён разважаў па-свойму лагічна і чалавечна. Цюку ўжо не вернеш, і нікому, у тым ліку і яму, не палегчае, калі двух тваіх жа братоў-кіношнікаў пасадзяць у турму. Ад бяды ніхто не застрахаваны. Цяпер Лазар Богша думаў над тым, што трэба не мець ні мужнасці, ні сумлення, каб перакладаць сваю адказнасць на другога. Ягоная размова са следчым таму ўяўлялася непатрэбнай і абразлівай.

Пакуль Богша разважаў, следчы хадзіў па пакоі, заклаўшы рукі за спіну. Відаць, яны абодва думалі пра адно і тое ж, але кожны па-свойму.

У дзверы пастукалі. Следчы дазволіў зайсці і спыніўся пасярод пакоя. Увайшла ці не тая самая Дуся — пухлень-

кая, ружовашчокая маладзіца з пышнымі каштанавымі валасамі, схопленымі белым абручыкам.

— Прагаладаліся, міленькія? — спытала яна са шчырай пяшчотай у голасе.— Зараз пакармлю, родненькія.

Яна паставіла на стол паднос, на якім курыўся парай вялікаваты чайнік, стаялі два кубкі і талерка з бутэрбродамі: два з каўбасой і два з сырам. Расстаўляючы ўсё гэта на стале, Дуся з цікавасцю паглядзела на Богшу.

— То, Дусенька,— заўважыўшы яе цікаўнасць, сказаў следчы,— кінарэжысёр і пісьменнік Лазар Васільевіч.

— Ешце на здароўе,— сказала Дуся.

Богша яшчэ раз падзівіўся з дасведчанасці следчага. Няўжо той чытаў ягоныя творы?

— Наша карміліца і паіліца,— сказаў следчы, як толькі за Дусяй зачыніліся дзверы.— Дабрэйшай душы чалавек, а ў жыцці нешчаслівая...

Ён не стаў тлумачыць, чаму яна нешчаслівая, сеў за стол, пачаў есці і піць з такім апетытам, аж Богша пазайздросціў. Яму тыя бутэрброды не лезлі ў горла. Усё гэтае чаяванне ў службовым кабінеце, няхай сабе і ў абедзенны перапынак, здавалася дзіўным і штучным.

«Калі б я зазняў такі эпізод у кіно — следчы п'е чай з чалавекам, які з'явіўся да яго з прызнаннем,— уся рэдактура разам з мастацкім саветам сказала б, што такое ў жыцці не бывае, і запатрабавала б выразаць эпізод з фільма. А ў жыцці і не такое бывае, чаго не пакажаш ні ў якім кіно»,— падумаў Богша.

— Дык на чым мы спыніліся? — раптам перапыніў ягоныя думкі следчы.— Ага, на вашым заступніцтве... Што я вам скажу, шаноўны Лазар Васільевіч. Безумоўна, гэта высакародна. Другі на вашым месцы пісаў бы ва ўсе канцы, патрабаваў бы самай суровай кары. А вы — не. Вы просіце літасці і нават прызнаецеся ў сваёй віне. Высакародна!

Сказаўшы гэта, следчы памаўчаў, як бы абдумваючы наступную думку. Ён адпіў глыток чаю.

— Прызнайцеся, Лазар Васільевіч, што вы так і думалі, калі ішлі да мяне: я раблю высакародна. Угадаў? Тут і ўгадваць не было чаго. Ёсць людзі, якія не ўмеюць даваць нават самай нікчэмнай дробязі. Усё жыццё не даруюць. Хоць і прыкідваюцца добранькімі, як цяпер кажуць, гуманнымі. А самі помсцяць праз усё жыццё, робяць зло тым, хто некалі не так глянуў на іх, не так сказаў ім і, ужо не дай бог, нешта зрабіў ім. Можа, і не па-

думаўшы зрабіў — усё адно. І што дзіўна, такія людзі з выгляду дужа памяркоўныя, пры народзе гатовы крычаць, каб памілавалі самага злога злачынцу, затое, калі іх чуе толькі адзін чалавек, да ўсяго абцяжараны неабходнасцю трымаць службовую тайну, яны гатовы і самага невінаватага ўтапіць у лыжцы вады. Вы, Лазар Васільевіч, не такі. Вы пастаянныя ў сваім імкненні даравацъ. У вас яно арганічнае, а не штучнае. Таму вы і прыйшлі да мяне. Не пярэчце, Лазар Васільевіч, я ведаю, што вы скажаце. Я не маю пры гэтым на ўвазе класавы антаганізм. Я кажу пра нашыя звычайныя жыцейскія адносіны. У тым і справа, здавалася б, нам няма чаго трымаць адзін на аднаго злосць, а тым больш крыўду. А трымаем жа, дарагі Лазар Васільевіч. Навошта? Цяпер пойдзем далей. Як, напрыклад, разважалі вы: засудзяць Лыкавязава, дык на ваша сумленне ляжа нібы двайны цяжар. І за тое, што вы сябе вінаватым у смерці жонкі адчуваеце і што Лыкавязава нейкім чынам падвялі, напісаўшы рызыкоўны эпізод. Але я ўхваляю вашы парыванні. Даруйце, што так нязграбна выказваюся. Мы прывыклі гаварыць мовай далёка не літаратурнай.

— Няпраўда,— запратэставаў Богша.— З чаго вы ўзялі? Я так не думаў. Хоць, можа, і так, але інакш... Вы маеце дзіўную здольнасць ставіць усё з ног на галаву.

— Даруйце, што вас пакрыўдзіў,— сказаў следчы.— Я чаму так падумаў, бо дасканала, як мне здаецца, вывучыў усю справу. Я, Лазар Васільевіч, не які-небудзь аматар у следчай рабоце і тым больш не бяздушны чалавек, які дбае толькі пра тое, каб хутчэй спіхнуць справу ў суд. Я, Лазар Васільевіч, люблю сваю работу і заўсёды хачу дакапацца да самага мацерыка. На маім месцы іншы і не стаў бы лішне капацца ў такой справе, як гэта. Тут з самага пачатку ўсё зразумела было. Вось вы нядаўна сказалі, што няма саставу злачынства. Ды вам самы апошні студэнт першага курса юрфака скажа, што ёсць. Самі памяркуйце. Пачынаюцца здымкі эпізоду павышанай небяспечнасці. Служба тэхнікі бяспекі папярэджвае дырэктара карціны і рэжысёра, што жыццё актрысы падвяргаецца небяспецы, і забараняе здымаць эпізод так, як ён задуманы. Дырэктар карціны таксама згодны. Ён угаворвае рэжысёра зрабіць змены ў сцэнарыі. Вы ж самі разумееце, што мантажом можна дасягнуць любога эфекту. Што ж адказвае Лыкавязаў? Будзем здымаць так, як задумана. Чаму? Пра гэта я скажу пазней. Тады дырэктар просіць рэ-

жысёра адкласці здымкі назаўтра, каб прыгнаць пажарную машыну і такім чынам падстрахаваць актрысу ў часе здымак. Што ж робіць Лыкавязаў? Ён пачынае здымкі, так і не дачакаўшыся пажарнай машыны. Усё зразумела, спадзяюся?

— Я не ведаў такія падрабязнасці,— сказаў Богша.— І ўсё ж я магу зразумець Кірылу Лыкавязава. Здымкі праводзяцца, калі кароткі дзень, а заўтра, магчыма, не будзе сонца, пойдзе дождж. А чакаць няма калі, бо ўсе тэрміны выйшлі, план студыі зрываецца. Тут задумаешся і пойдзеш на самую небяспечную рызыку.

— Дапусцім, што так. Тады чаму Лыкавязаў не хацеў здымаць эпізод па-іншаму, як прапаноўваў Кладачка? Скажу. Яго мучыла адно неадчэпнае жаданне — дазняць карціну так, як знялі б яе вы.

— Зусім верагодна, што так яно і было,— сказаў Богша.

Следчы крыху здзіўлена паглядзеў на яго.

— Паверце, Лазар Васільевіч,— апраўдваючыся, сказаў ён,— я зусім не збіраўся даказваць вам віну Лыкавязава. Так ужо выйшла. Загаварыліся, заспрачаліся, ну, я да слова і сказаў, каб вы сябе лішне не мучылі.

— Дык што, іх засудзяць? — спытаў Богша, у душы пагаджаючыся ўжо са следчым, што Кірыла, бадай, заслужыў кару. Ён адчуваў сябе пагана: прыйшоў да следчага, каб абараніць Кірылу, а цяпер згаджаецца з ім.

Следчы, аднак, ніяк не зрэагаваў на ягонае пытанне. Ён знарок сам запытаўся ў Лазара:

— А якія ў вас былі адносіны з жонкай, Кацярынай Ляўдак?

— Гэта што, допыт? — пакрыўдзіўся Богша.

З ім, незаўважна для яго самога, адбылася крутая перамена. Ідучы да следчага з прызнаннем, ён быў гатовы чыстасардэчна расказаць пра сябе ўсё, цяпер жа яму хацелася пярэчыць следчаму, можа, таму, каб давесці, што і ён, следчы, не ўсё ведае, не да ўсяго дакапаўся. Ён быў гатовы адмаўляць нават відавочныя факты. А тым больш яму не хацелася, каб хто-небудзь зазіраў у інтымны свет яго жыцця.

— Які допыт, Лазар Васільевіч? — з горкай усмешкай сказаў следчы.— Сядзім, гаворым шчыра. Вы мне пытанні задаеце, я вам.

«Але ты на маё пытанне так і не адказаў»,— падумаў Богша.

— Даруйце,— сказаў ён.— Па-мойму, адносіны былі нармальныя.

— Так я і думаў,— сказаў следчы.

Лазар не зразумеў, што ж думаў следчы? Што адносіны былі нармальныя ці што ён здагадваўся, што Богша схлусіць?

— Я не зусім зразумеў вас,— прызнаўся ён.

— Ананімкі, якія вы атрымлівалі, не пашкодзілі вашым узаемаадносінам?

— Вы хіба ведаеце, хто іх пісаў? — з надзеяй спытаўся Лазар Богша.

— У мяне не было падстаў расследаваць гэтую справу,— лішне шчыра сказаў следчы. Лазар Богша не паверыў яму.— Дарэчы, чаму вы тады не звярнуліся ў адпаведныя органы, каб знайшлі ананімшчыка?..

— Неяк не падумаў, што можна звярнуцца,— прызнаўся Богша.— А калі б і звярнуўся?..

— Лазар Васільевіч,— прапусціўшы міма вушэй Богшаў адказ, сказаў следчы,— я хачу супакоіць вас наконт Кірылы Мацвеевіча і Карнея Карнеевіча. Яны абодва падпадаюць пад амністыю. Прызнаюся, мне, як юрысту, шкада патрачаных дзён і намаганняў. А як чалавек я нават задаволены сабой. Я дакапаўся да мацерыка. Жадаю і вам, Лазар Васільевіч, з часам дакапацца да яго. Яшчэ жадаю вам поспехаў. Можа, калі ўспомніце ды і запросіце на прэм'еру...

Ён моцна пацiснуў Богшаву руку.

«А ён ведае, хто пісаў ананімкі,— ідучы дамоў, падумаў Богша.— І таму пра мацярык, да якога дакапаўся, гаварыў невыпадкова...»

* * *

Лазар Богша закончыў той фільм — сваю былую мару, ледзь не поўнасцю зрэжысаваную і адзнятую Кірылам Лыкавязавым. Ён увесь час, пакуль манціраваў фільм, думаў пра Цюку. З болем глядзеў на яе экранна-жывую і ўжо мёртвую, у зачыненай наглуха труне. Часам ён не заўважаў экрана, адбіткаў на ім, у пакутах народжаных вобразаў, мантажнай з яе цеснатой і паўсюль раскіданымі плёнкамі. Потым ужо ў зале праглядаў, дзе апрача яго сядзелі аператар, мастак, кампазітар, другі рэжысёр, гукааператар, дырэктар карціны і рэдактар, ён як бы ўпер-

шыню ўбачыў свой будучы фільм і быў уражаны тым, што ўбачыў.

Кірыла Лыкавязаў здымаў фільм, прытрымліваючыся рэжысёрскага сцэнарыя, як сляпы трымаецца плота, каб не ўпасці і не заблудзіць на ўласным агародзе. Можа, Кірыла пабойваўся Богшы, няхай сабе і адхіленага ад працы над фільмам, выкінутага за борт кінастудыі, але ж аўтара сцэнарыя і пачынальніка здымак. Лыкавязаў умеў быць асцярожным — наперадзе жыццё, і ці мала якія прыпаднясе яно сюрпрызы. А можа, ён паважаў Богшу, паважаў і ненавідзеў? Так, прынамсі, здавалася самому Лазару. І ён памалу пераканаў сябе, што Кірыла паважае яго.

А гэта ўжо здымала хоць палову віны з Кірылы Лыкавязава. У Кірылавай беражнасці да працы Богшы было нешта па-чалавечы прыстойнае, нават святое, якое не дае мастаку права перарабляць на свой капыл працу другога мастака. На такое здольны не ўсе — кіношнікі тым больш. Кіношнікам падабаюцца толькі свае творы, толькі свая манера. І тут ужо нічога не паробіш...

Лазар Богша нямала пабачыў людзей, якія самым бесцырымонным чынам лезлі ў працу сваіх калег, не спрабуючы зразумець іх мастакоўскі лад думак, навязвалі свае, дробязныя рашэнні, якія ім здаваліся значнымі, нават вялікімі, хоць на справе былі бяздарнымі штампамі. Лазар Богша ніяк не мог зразумець рэжысёраў, якія бралі чыйсьці твор і пачыналі перапрацоўваць яго на свой густ, найчасцей ператвараючы мастацкі твор у рамесніцкае практыкаванне на адвольную тэму. Богша да ўсяго быў пісьменнікам. Ён ведаў цану слова не толькі ў літаратуры, але і ў кіно, якую не ведалі ці не хацелі ведаць рэжысёры, што перапісвалі сцэнарый непісьменнай, жабрачай мовай. Ён ужо даўно заўважыў, што чым больш бяздарны рэжысёр, тым мацней у яго жаданне перапісваць сцэнарый на свой капыл. На жаль, графаманства ўсёабдымнае, і змагацца з ім амаль немагчыма.

Кірыла адкрываўся перад ім новай якасцю, якую Богша дасюль не заўважаў. Але нешта так і цярабіла яго, так і падбухторвала не паддавацца першаму ўражанню.

Калі на экране прамільгнулі апошнія кадры і ў зале загарэлася святло, Лазар Богша акінуў позіркам семярых удзельнікаў прагляду, зачапіўся вокам за рэдактара.

Вераніка Яшная сядзела перад ім у профіль. Богша бачыў адно яе вока — на белым фоне чорны авал райка, у

якім адбіваўся агеньчык бра. У адрозненне ад другіх рэжысёраў, якія цярпець не могуць рэдактараў і па-дурному канфліктуюць з імі, Богша на рэдактарах правяраў сябе, свой фільм, сваіх экранных герояў. Рэдактар быў для яго праявіцелем, які выяўляе здабыткі і хібы твора. Ён любіў рэдактараў жорсткіх, нават просталінейных, якія маглі памыляцца, памыляліся, але неслі з сабой свежы пагляд. Вераніка Яшная была вось такім рэдактарам — чортам у спадніцы, якую большасць рэжысёраў ненавідзела.

Усе маўчалі, чакаючы нейкіх слоў ад Богшы.

— Ну, і што ты скажаш, Вераніка? — спытаўся ён троху абыякава, нібы яму было ўсё роўна, што скажа Яшная.

Вераніка павярнулася да яго ў тры чвэрці анфас. Цяпер агеньчык бра перавандраваў у правае вока.

— Мне здалося, вы хацелі сказаць нешта другое,— з заўсёднай сваёй замаруджанасцю сказала яна,— але вам штосьці перашкодзіла... Можа, я і памыляюся...

Яму хацелася крыкнуць: «Не, не памыляешся. Уцэліла ў самае яблычка». Але яго апярэдзіў аператар.

— Вечна ты лезеш з парадамі,— злосна накінуўся ён на рэдактара, мабыць, адчуўшы замах на фільм.— Што хацелі, тое і сказалі. Не больш і не менш...

— І я пра тое ж,— у голасе Веранікі пачулася ледзь улоўная іронія.— Не больш і не менш...

Лазар узняўся з крэсла і пайшоў у калідор, пакінуўшы шасцярых у разгубленасці.

Увечары ён рашыў, што павінен схадзіць да Кірылы Лыкавязава, каб пагаварыць з ім аб сваім уражанні ад фільма, а заадно пабурыць адчужэнне, што прынесла Цюкіна смерць. Цюкі ўжо не вернеш. Ды і яму, Лазару Богшу, немагчыма і надалей цярпець катаванне сябе вечнай помстай. Ён не ўмеў доўга трымаць злосць. Яна нібы апякала яго нутро. Патрабавалася выгаварыцца і памірыцца.

Ён і лёг з гэтым намерам абавязкова памірыцца з Кірылам. Хіба можна жыць у адной сям'і і ненавідзець адзін аднаго? Вар'яцтва, не больш. Але, як толькі лёг, яму падумалася, што ён не можа, не мае права дараваць Кірылу смерць Цюкі. Хто даў яму такое права? Ён можа толькі помсціць. Нават тады, калі б Цюка з таго свету і папрасіла яго дараваць Кірылу. Яна можа дараваць. Ён — не.

Гледзячы ў белую столь, Лазар Богша ўсё больш распаляў сябе, выдумляў для Кірылы тысячу па-вар'яцку жорсткіх пакаранняў. Ён ведаў — надарся выпадак — ні-

воднае з іх, нават самае бяскрыўднае, не будзе ім ажыццёўлена. Проста настала неабходнасць выпусціць накопленую пару непрыязнасці.

Усе ягоныя начныя трызненні былі глупствам, недарэчнасцю. З Кірылам Лыкавязавым яны не маглі разысціся, як два злачынцы, скаваныя адным ланцугом... Але было і яшчэ нешта, што рабіла ягоныя помслівыя памкненні ганебнымі, недастойнымі чалавека. Ён задумаўся, і надзіва лёгка да яго прыйшоў адказ.

«І гэта я гатовы быў пакараць Кірылу? — падумаў ён.— Тады хто я сам? Хлус, які прапануе другім тое, што не можа спавядаць сам?.. Ідзі ты тады да д'ябла, дробненькі нягоднік, якому выгадна выстаўляць сябе дабрачком, а на самай справе гатовы караць смерцю чалавека, няхай сабе і вінаватага. Цяпер нямала такіх, асабліва сярод нашага брата, што на словах спавядаюць адно, а на справе робяць другое. Лямантуюць: мяшчанства, бездухоўнасць, сквапнае назапашванне рэчаў, а самі пагрузлі ў тых жа грахах, ды яшчэ ў памерах, якія радавому абывацелю і не сніліся. Крычаць: справядлівасць, спагадлівасць, узаемавыручка і падтрымка, а самі, дарваўшыся да карыта, гатовы залезці ў яго з нагамі, абы нікога болей не дапусціць да яго. Ганьбяць бяздушных, абыякавых, крывадушных, баязлівых, а самі думаюць пра сябе, пра свой дабрабыт, сваё крэсла, пасаду, славу».

Ён заснуў непрыкметна, а прачнуўшыся, вырашыў не адкладваць свайго паходу і недзе перад самым абедам ужо сядзеў у кватэры Кірылы Лыкавязава, абсталяванай з наўмыснай стылізацыяй пад вясковы быт: ля сцен лаўкі, распісныя скрыні, куфры, замест ложкаў палаці, засланыя дамаатканымі дарагімі посцілкамі, дубовы стол у куце, завешаным ручнікамі, а пад імі — паліца, на якой стаяў бюст самога Кірылы Лыкавязава — апостал з непрытушанай гардыняй у нахабных вачах.

Маладая Кірылава жонка, мастачка па касцюмах, паставіла на стол абед: сала ў керамічнай талерцы, густа пасыпанае соллю і кменам, салёныя гуркі і бляшанку трасковай пячонкі, якой тады былі завалены паліцы нават сельпоўскіх лавак.

— У нас усё проста,— сказала яна, як бы апраўдваючыся перад Богшам.— Мы жывем без прэтэнзій...

— Не зусім проста і не зусім без прэтэнзій, калі на стале сярэбраныя відэльцы і нажы,— пажартаваў ён.

— Гэта мне дасталося ў спадчыну,— пачала тлумачыць

Зоя.— Мая бабуля, маміна мама, належала да роду Цеханавецкіх. Бачыце, на відэльцы і нажах вензель і год — восемсот пяцьдзесят восьмы... Бабулін дзядзька ў той год засядаў у нейкім — я не дужа разбіраюся якім — камітэце па вызваленню сялян ад прыгону. Ён меў маёнтак недзе пад Віцебскам. Дык у той год ён і заказаў у Пецярбурзе гэты сталовы набор, які і падараваў сваёй пляменніцы, а маёй бабулі. Гэта, калі хочаце, не толькі свяшчэнная рэліквія нашага роду, але і гісторыя, і я дастаю набор толькі тады, калі прыходзіць такі пачэсны госць, як вы, Лазар Васільевіч...

— Вельмі крануты,— паіранізаваў Богша.

Яму было смешна і горка: некалі дваране спрабавалі прымазацца да каго з пралетарскім паходжаннем, цяпер нашчадкі пралетарыяў саромеюцца прызнавацца ў сваім паходжанні. Ён ведаў Зоіну маці. Яе продкі сапраўды былі некалі прыгоннымі пана Цеханавецкага.

О, час!..

Богшу расхацелася гаварыць з Кірылам. Але той сам усчаў гаворку.

— Мінулае — сон, фантазія, якую выдумваюць на ўцеху сабе,— сказаў ён з упэўненасцю вучонага, які адкрыў новы закон.— Я, напрыклад, не ведаю, як звалі маіх прадзедаў і нават матчыных бацькоў. І нічога — жыву! А каб і ведаў? Што дадалося б мне? Нездаровае адчуванне, што я нашу іхнія гены і таму не магу пазбавіцца ад нейкіх хібаў? Я не хачу залежаць ад мінулага. Я — сённяшняе, пакуль жыву. І ўсё знікае разам са мной. А нехта другі — сын ці дачка — будуць жыць сваім жыццём, рабіць яго пасвойму. Мінулае прыгнятае...

Зоя хацела запярэчыць, але Кірыла цыкнуў на яе, як на кошку, з якой няма чаго цырымоніцца. Яна змоўкла. Толькі на твары ўспыхнула яркая пунсовасць. Богша пашкадаваў Зою. Яна або да смерці застанецца Кірылавай рабой, або некалі ўзбунтуецца і кіне яго. І тое і другое не прынясе ёй радасці.

— Ты памыляешся,— сказаў ён, толькі дзеля таго, каб падтрымаць Зою.— Чалавек без мінулага — пылінка на скразняку.

Зоя ўдзячна паглядзела на яго, нібы ўзнагароджвала за падтрымку. Богшу падабалася, што Зоя прыўздымае яго перад мужам. Было прыемна адчуваць сваю перавагу і брыдка.

— Калі ты пакажаш мне фільм? — Кірыла зірнуў на

Богшу халоднымі жорсткімі вачамі.— Я ўсё ж маю пейкія адносіны да яго...

— Я і сам паглядзеў яго толькі ўчора.

— Ён прынёс мне нямала турбот,— цягнуў нейкую сваю лінію Кірыла, яўна задзіраючыся на спрэчку,— але і дапамог многае зразумець...

— Смерць часам дзейнічае на самыя непадатлівыя натуры,— не стрымаўся Богша, каб не падкалоць Кірылу.

— Хлопчыкі, не трэба,— Зоя, як на малітве, склала перад сабой далоні.

— Мы не будзем,— па-хлапчукоўску несур'ёзна паабяцаў Богша.— Мы пагаворым аб фільме. Ён наша дзіця... Дык што ён дапамог табе зразумець?..

— Я не даваў Зоі абяцання, а таму буду гаварыць тое, што хачу сказаць, і вы абое здагадваецеся, пра што я хачу гаварыць. Дык вось, следчы, які вёў справу аб смерці,— Кірыла запнуўся, мабыць, не ведаў, як яму трэба называць нябожчыцу: Цюкай, Кацяй ці яшчэ як...— аб смерці Кацярыны Платонаўны, дужа настойліва лез у галіну духоўнай дзейнасці чалавека, якая называецца кінематографам і ў якой ён разбіраецца прыблізна так, як баран у бібліі. Чорт бы іх пабраў, гэтых сучасных пінкертонаў, шэрлак холмсаў, фінбоў, мегрэ і іншых зарубежных і айчынных паляўнічых за душамі падазроных. Дастаеўскі ўсё ж меў рацыю: следчы заўсёды — паляўнічы за дзічынай. Мой следчы быў абсалютна ўпэўнены, што ён непераўзыдзены паляўнічы, хоць усяляк адмаўляў гэта...

Богша разумеў, чаму Кірыла з такой злосцю і пагардай абрушыўся на следчага. Яму было непрыемна слухаць Кірылу.

— Ці не мог бы ты быць больш канкрэтны? — сказаў ён.— Мне не цікава слухаць пра следчага. Я хачу пачуць, што зразумеў ты...

Кірыла незадаволена пасоп носам, але спрачацца не стаў.

— Следчы ўсё дапытваўся, ці варта было рызыкаваць актрысе і калі варта, дык чаму і ў імя чаго? Вось тады я і задумаўся над ягоным гэтым надакучлівым пытаннем. У ім быў сэнс. Я ледзь не сказаў яму, што варта было рызыкаваць. Але мне не хацелася падводзіць цябе...

Было падобна, што Кірыла з вінаватага становіцца ў позу абвінаваўцы.

— Мяне?

— Пад следствам, на жаль, знаходзіўся я,— сказаў

Кірыла з д'ябальскай усмешкай.— Ну, ды гаворка не пра гэта. Мы ўсе рызыкуем. Кожны па-свойму, і кожны ў імя сваіх ідэалаў. А ў імя чаго ты рызыкаваў сваёй жонкай?..

Богша прыгадаў, як Кірыла стаяў перад ім на каленях у дзень пахавання Цюкі. Цяпер ён зрабіў Богшу выклік. Хоча палічыцца за тую сваю слабасць? Ці, можа, ёсць больш важкія прычыны?.. Богша быў надзіва спакойны.

— У імя праўды мастацтва,— таксама з выклікам сказаў ён, у другі раз беручы віну за Цюкіну смерць на сябе.

Першы раз ён узяў гэтую віну ў кабінеце следчага.

— Ха, насмяшыў!.. Твая праўда — ілюзія, ашуканства недасведчаных людзей. Несумленнае ашуканства, Богша. На жаль, кінематограф пагруз у штучнай, выдуманай шматзначчнасці, у гэтым спакойным і занудлівым разглядванні дэталей. Ад яго патыхае першабытным сумам...

— Чаму несумленнае ашуканства? Хіба бывае сумленнае?..

— Бывае,— Кірыла грукнуў па стале кулаком, загадаў Зоі: — Прынясі віскі...

Зоя моўчкі паднялася, прынесла бутэльку віскі.

— Я не шкадую,— стала апраўдвацца яна.— Віскі трэба піць з содавай вадой або з газіроўкай. А содавай вады няма, газіроўкі таксама...

— Мы не з роду Цеханавецкіх,— Кірыла распараджаўся жонкай, як парабчанкай. І абражаў яе, як парабчанку. Сказаў і забыў, што сказаў. Звярнуўся да Богшы: — А таму несумленнае ашуканства, што ты дужа ўпіклівa, з педантычнай скрупулёзнасцю імкнуўся выпісаць усе жахі вайны. Ты глядзеў на яе не з вяршыні будучай перамогі, а з анатамічкі. Табе, можа, і цікава, але навошта гэта мне?..

Папраўдзе, дык Богша разгубіўся. Ён маўчаў, вырачыўшы вочы, не знаходзячы слоў для абароны. Вельмі ўсё было прымітыўна, неправдападобна, а таму вельмі непрыступна для атакі.

— Так ужо і з анатамічкі?..— разгублена прамармытаў ён.

Кірыла прапусціў міма вушэй ягоную спробу пярэчыць.

— Прызнаюся, калі мне даручылі здымаць твой гэты фільм, я разгубіўся, бо твая канцэпцыя пярэчыла маёй.

— У цябе была канцэпцыя? — падкалоў яго Богша. На большае яго не хапіла.

— Хіба вайна толькі скапленне жахаў і няшчасцяў? — прадаўжаў Кірыла.— Хіба ў ёй няма нічога светлага і

прыгожага? Напрыклад, рамантыкі, мужнасці, адчуванпя абавязку? Хіба ў вайну былі адны пакуты, слёзы і роспач? Не было кахання, смеху, мар, надзей? Хіба не самыя лепшыя песні нарадзіліся ў вайну? Напачатку я думаў, ты памыляешся як мастак. Потым зразумеў, што не. Ты ішоў на гэта свядома. Ды каб жа толькі ты! І ўсім вам патрэбны жахі толькі дзеля таго, каб сцвердзіць сябе. Ты — кан'юнктуршчык, Богша. Ты супраць вайны. Я таксама. Але мы па-рознаму ставімся да яе. Палохаючы людзей жахамі вайны, ты заплюшчваеш вочы на выраджэнне сытым жыццём. Во чаго трэба баяцца.

Лазару хацелася абарваць Кірылу якім-небудзь каварным пытаннем: а дзе ты быў у вайну і чаму не захацеў сам паспытаць рамантыкі? Такое пытанне было непрыемна Богшу сваёй дробязнасцю. Ён ведаў, дзе пражыў усю вайну Кірыла Лыкавязаў і чаму не трапіў у армію і на фронт. Ведаў, праўда, са слоў самога Кірылы, які ўмеў маляваць сваё жыццё ў таежным пасёлку ў камічных фарбах.

— А ці не зблытаў ты рыцарскія турніры з сучаснымі войнамі, а опернае адбыванне палону князем Ігарам у Канчака з фашысцкімі лагерамі смерці? — спытаўся Богша ў Лыкавязава.

— Не, не зблытаў,— вельмі паспешліва адказаў Кірыла.— Я не давёў сваю думку да канца, і ты можаш абвінаваціць мяне ў нелагічным мысленні. Смерць Каці... Рызыка ў кіно... Праўда мастацтва... Жахі вайны... Выраджэнне сытым жыццём... Ці не праўда, бяссэнсіца вар'ята. Не, мой мілы, усё абумоўлена і моцна звязана. Аднойчы напалоханы абывацель будзе напалоханы на ўсё жыццё. І ўжо сам стане палохаць другіх...

Кірыла біў бязлітасна, без аглядкі. Нібы навечна рваў з Богшам не толькі дружбу, але і звычайныя чалавечыя адносіны, як ірвуць іх з пракажоным. Яму хацелася выйграць.

— Ты здурэў! — абурыўся Богша.

Кірыла яго не пачуў. Ён прадаўжаў гаварыць як апантаны:

— А калі мастак, які палохае, ды яшчэ таленавіты, нават геніяльны? Тады ён з такой дакладнасцю, з такім напалам страсцей распіша жахі, што хоць кладзіся і памірай. І ўсё ў імя праўды мастацтва. Дык ці не таму табе спатрэбілася смерць Цюкі? Ты і праўда спаліў яе ў імя тваёй фальшывай праўды. Я ўсё рабіў, каб у фільме хоць

на імгненне прамільгнуў агеньчык аптымізму. Усё рабіў. Але прадухіліць трагедыю не мог. Ты разбэсціў Цюку, зачараваў яе сваёй выдуманай праўдай мастацтва. Яна і запатрабавала, каб я хоць у гэтым эпізодзе не адступіў ад твайго рэжысёрскага сцэнарыя. Я не адступіў, і яна згарэла. Цяпер я сказаў, што хацеў...

Богша разгублена маўчаў. Раптам Кірыла вылез з-за стала, пайшоў у спальню, паваліўся на палаці. Богша пяўцямна глянуў на Зою.

— Што гэта? Маналог у стылі сярэдневяковай трагедыі? Героя якраз хапае на тое, каб выказацца і памерці? Ці прытворства?..

— З ім бывае,— адказала Зоя.— Не зважайце. Заўтра ён не зможа ўспомніць ніводнага слова...

Так яно і было.

Перад Богшам пранеслася ягонае і Цюкіна жыццё, як вогненны шар маланкі. Кірыла ўсё стаяў на месцы. Здалося, пранесліся гады, а ён не саступіў і на крок. Стаіць і глядзіць на яго...

*Эпізод чацвёрты (працяг першага):*

**дыскусія на адвольныя тэмы**

— Нарэшце,— сказаў Кірыла Лыкавязаў, зрабіўшы тры баксёрскія крокі насустрач Лазару Богшу. Ягоная правая рука, здавалася, нанясе ўдар знізу, але, напаткаўшы па дарозе Богшаву, толькі моцна паціснула яе.— Кажуць, што ты ўчора ўрэзаў?.. Час бы і спыніцца...

— Хто кажа?.. Якое глупства! — Богша адказаў з той праўдзівасцю ў голасе, што бывае ў грэшніка, які хоча забыцца пра зямныя грахі.

Па шчырасці дык яму было брыдка хлусіць, ды і не было на тое важкіх прычын, але яшчэ больш брыдка было прызнацца ў свінстве, няхай і невялікім, але якому іншага вызначэння і не выбераш у багатай матчынай мове.

Кірыла ўзяў Богшу пад руку, з нечаканай таямнічасцю спытаў, быццам адкрываў найвялікшую тайну:

— Ці чуў ты, што прыехала Рыма Сяргееўна Громава?

— А чаго? На ахвяры?..

— Я мяркую, не дзеля таго, каб пляскаць табе ў ладкі,— сказаў Кірыла і зарагатаў са свайго жарту.

«Я недзе ўжо чуў гэта»,— раптам падумаў Богша, і ў ягонай галаве балюча заварушыліся ўспаміны.

— Ты ніколі не падарожнічаў на той свет? — спытаўся ён у Кірылы.

— Не,— весела адказаў той, падумаўшы, што Богша жартуе.— Не падарожнічаў і хачу як мага надалей адносці гэтае прыемнае падарожжа.

— А я падарожнічаў,— што-кольвечы прыгадваючы з начных трызненняў, сказаў Богша.

— Відаць, не дужа спадабалася, калі так хутка вярнуўся назад.

— Мне адсеклі там галаву,— сказаў Богша з той сур'ёзнасцю, што дае падставу пачуць у ёй адмысловы жарт.

— Спадзяюся, аперацыя была не дужа цяжкай і пад агульным наркозам?

— Уяві, без наркозу...

— Жахліва... Яны, мабыць, не здагадваліся, якія думкі раяцца пад яе чарапком, а то схапілі б яе і насілі б з сабой, як самы дарагі палон,— пажартаваў Кірыла таксама з сур'ёзным выразам на твары.

— Не, Кірыла, яны якраз здагадваліся,— вельмі сур'ёзна адказаў Богша.— Таму баяліся маёй галавы. Яна магла адкрыць ім вочы, пасеяць сумненні ў душах, задумацца над сабой і сваім ханам, над яго парадкамі. Уяві сабе, дзесяткі тысяч мангольскіх воінаў, якія звязаны адзінай мэтай, спосабам жыцця, памкненнямі і намерамі, а значыць, і адной думай і верай у праўду іхняй агульнай справы. У іх ніякіх сумненняў наконт заваёвы чужых зямель, забойства тысяч людзей, ніякіх разважанняў наконт дабра і зла. Ды ім і непатрэбна думаць. За іх думае хан. А тут раптам галава са шматвяковым гістарычным вопытам. Ад такой станеш уцякаць...

— Гэта што? Прытча?.. Не сказаў бы, каб вельмі арыгінальная,— Кірыла быў разгублены, а таму лішне катэгарычны.

«Што ён падрыхтаваў мне? Якую пілюлю? — падумаў Богша.— Але нешта падрыхтаваў. Во ўжо ніколі не здагадаешся, што ён можа зрабіць у наступную хвіліну...»

(Другая палова пяцідзесятых гадоў была багатая на змены надвор'я. То раннія прымаразкі, то познія адлігі.

Лазар Богша ў тыя гады станавіўся на рэжысёрскія ногі. Марудна. Цяжка. Ён увесь быў захоплены творчасцю, планамі на будучае, тым, каб устаяць, закрочыць насустрач сонцу. Менавіта сонцу. Гэта быў вобраз, які захапіў

яго, як ідалапаклоннiка. Ці не таму ён нічога не бачыў навокал, нічога не чуў. Ён хадзіў, задраўшы галаву, каб глядзець на сонца, і не мог схіліць яе, каб пабачыць зямныя справы. Яны даносіліся да яго рэхам студыйнага калідора.

Кіношная брація пацяшалася на той час з Кірылы Лыкавязава, але найбольш употай, пакуль аднаго разу не абурылася, аднак абурылася зноў жа так, як умеюць толькі кіношнікі,— ярасны выбух і дабрадушнае заспакаенне.

Лазару Богшу даўно быў вядомы зменлівы характар Кірылы. Але пры ўсім гэтым Кірыла ўмеў заставацца наперадзе. Ён нагадваў таго ўсюдыіснага штабс-капітана, які, ідучы наперадзе калоны, нейкім чынам зноў аказваўся наперадзе, калі давалі каманду кругом, шагам марш!.. Кірылу нічога не каштавала адрачыся ад сваіх слоў, сцвярджаць нешта зусім супрацьлеглае таму, што нядаўна сцвярджаў. Але Богша паблажліва ставіўся да ягоных хібаў — сам не без іх, дык чаго абурацца чужымі? Ды і ці мала на Богшавай памяці было такіх, што рабілі так, як Кірыла. Ці мала хто прызнаваў свае памылкі, каб потым адрачыся ад прызнанняў, а затым зноў прызнавацца.

Кірыла, праўда, умеў не прызнавацца ў памылках. Ён заўсёды сам быў у наступленні на тых, хто дапускаў памылкі. Ну, а калі ўжо не было выкруткі... Кірыла заўсёды знаходзіў выйсце. Гэта яму належаў афарызм: «У мяне, вядома, ёсць свая думка, але я з ёю катэгарычна нязгодны».

У тыя гады на кінастудыі паявіўся здольны рэжысёр Міця Зяблік, які зняў свой першы фільм і пра які раптам загаварылі як пра з'яву мастацтва.

Лазару Богшу фільм Зябліка не тое што не падабаўся. Ён не мог зразумець, хоць і баяўся праслыць рэтраградам, чаму фільм так хваляць. Праўда, у ім была нейкая свежая думка, але дужа нязначная, каб узнімаць фільм на такую вышыню. Праўда, у ім была непадкупная наіўнасць. Але зноў жа гэта не давала падстаў для такога захаплення. Вялы мантаж. Нявыверанасць сцэн. Адсутнасць акцёрскага ансамбля. Ды і не заўсёды відаць была рука рэжысёра. Ён паспрабаваў сказаць гэта на калідоры Кірылу Лыкавязаву. Той абрынуў на яго вадаспад абвінавачанняў, сярод якіх самым бяскрыўдным было абвінавачанне ў адсталых поглядах на мастацтва. Кірыла на той час захапляўся італьянскім неарэалізмам.

Не прайшло і паўгода, як аднекуль падзьмуў іншы ве-

цер, і фільм Зябліка быў дружна раскрытыкаваны. З гэтай прычыны і ўжо не на студыі адбылося абмеркаванне. Дакладчык, асоба вельмі нават адказная, у сваім дакладзе сказаў пра фільм Зябліка яшчэ больш жорстка, можа, з перахлёстам, але зусім безапеляцыйна. Зяблік сядзеў на той нарадзе побач з Кірылам. Ён быў перапалоханы. Ды і не дзіва. Хто ж пасля такой крытыкі дасць яму работу?

— Кірыла Мацвеевіч,— звярнуўся ён да Лыкавязава,— мне трэба выступіць, прызнаць памылкі. Гэта найлепшае, што можна прыдумаць пры такіх абставінах...

Кірыла паглядзеў на Зябліка са спачуваннем, але і са злосцю.

— Ты думай, што гаворыш!.. Справа не толькі ў табе. У калектыве. Мала чаго можа сказаць дакладчык. Вось я падымуся на сцэну і пастаўлю кропкі над «і». Я ім дакажу іх памылкі.

Ён сапраўды падняўся на сцэну. Ён прызнаў не толькі памылку студыі, якая дазволіла Зябліку здымаць заганны фільм, але і сваю памылку, бо ён не разгледзеў як трэба твару ідэалагічнага дыверсанта...)

«Са мной так не выйдзе,— падумаў Богша,— ды і часы цяпер не тыя. Але трэба быць напагатове. Кірыла недарэмна загаварыў пра Громаву. Ён ужо знайшоў час, каб пагаварыць з ёю і падкінуць ёй сякую-такую інфармацыю».

— Не, гэта не прытча — рэальная падзея, падобная на прытчу...— сказаў Лазар Богша.

— Кінь заліваць. Становіцца смешна,— сказаў Кірыла.— Глядзі, да нас ідзе Рымачка і ззяе, як дыямент у залатой асадцы. Пойдзем, прыкладзёмся да ручкі...

Рыма Сяргееўна Громава належала кіно, як і кіно належала ёй. Яе дзед, Канстанцін Сяргеевіч Громаў, быў, бадай, самым таленавітым аператарам мультыплікацыйных фільмаў на фабрыцы Ханжонкава. Па малаходжанай кіношнай сцежцы пайшоў і яе бацька Сяргей Канстанцінавіч, чалавек, што праўда, таленавіты, але раскідзісты, несабраны. Ён у свой час спрабаваў пісаць сцэнарыі, здымаць фільмы і сам здымацца ў іх, пазней жа заняўся тэарэтычнымі працамі, якія не прынеслі яму вялікай славы, а бадай, наадварот, праславілі яго не з лепшага боку. Сяргей Канстанцінавіч у свой час перабыў членам усіх груп і груповак ад «Фекса» да «Пралеткульта», але нідзе падоўгу не затрымліваўся. Маці Рымы Сяргееўны Капіталіна

Мікалаеўна таксама належала да кіно. Яна была дачкой у свой час вядомага мастака, з якім аб'ездзіла ўсю Еўропу і нават здымалася ў нейкім фільме з нейкім дужа славутым акцёрам. У адрозненне ад свайго мужа Капіталіна Мікалаеўна была асоба практычная, мэтанакіраваная, а таму, як толькі ў іх нарадзілася дачка, вырашыла зрабіць яе на ўвесь свет вядомай актрысай.

З самага маленства Рыма Сяргееўна знаходзілася ў акружэнні славутых і неславутых рэжысёраў, аператараў, кінаакцёраў і літаратараў, у вечнай кіношнай гамане, сярод дэкарацый у павільёнах, што ў адрозненне ад тэатральных выглядалі сапраўднымі палацамі.

Але актрысы з яе не выйшла. Праўда, Рыма Сяргееўна здымалася ў кіно — першы раз ці не ў пяць гадоў, калі сыграла дзяўчынку-беспрытульніцу,— потым былі і другія ролі, але найбольш эпізадычныя, якія не маглі прынесці ні славы, ні нават звычайнага задавальнення. Яна і сама яшчэ ў інстытуце кінематаграфіі зразумела, што быць актрысай не яе доля, а таму насуперак маці, якая ўсё яшчэ не губляла надзей, перайшла на сцэнарнае аддзяленне. Па яе экранізацыях было пастаўлена два ці тры фільмы, даволі ўдалыя, якія стварылі ёй пэўны аўтарытэт у кіношных колах.

Мабыць, ад бацькі Рыма Сяргееўна атрымала ў спадчыну раскіданасць, бо неўзабаве перастала пісаць сцэнарыі, занялася такой няўдзячнай работай, як крытыка,— ступіла на слізкі шлях, дзе пакаўзнуцца дужа лёгка, а прыйсці да нечага надзвычай цяжка. Рыма Сяргееўна неўзабаве зноў захапілася літаратурай, але не ў жанры сцэнарным. Яна пачала пісаць партатыўныя аповесці — трычатыры друкаваныя аркушы. Вось тады Рыме Сяргееўне і прапанавалі пасаду, напалову адміністрацыйную, напалову творчую. Тут і выявіліся сапраўдныя яе здольнасці. Рыма Сяргееўна здолела паказаць сябе з найлепшага боку. Яна ўмела дасягнуць таго, дзе іншыя станавіліся ў тупік. Адным словам, Рыма Сяргееўна аказалася адпаведнай таму сінтэтычнаму віду мастацтва, якім з'яўляецца кіно, дзе ўсё пераплялося ў фантастычны клубок: літаратура і музыка, выяўленчае мастацтва і вобразнае адлюстраванне на плёнцы, мантаж і жывая натура, гаспадарчыя клопаты і акцёрская ігра — усё, усё, што нараджае ў пакутах мастацкі твор — фільм.

Рыму Сяргееўну пабойваліся, але і паважалі. Яна была свая, кіношная, а не якая-небудзь прышлая, выпад-

кова зацягнутая ў кінавір і закручаная ў ім да поўнай няўцямнасці. Але гэта было і блага, бо Рымачка ведала ўсе кіношныя хітрыкі і не паддавалася на іх.

Кірыла Лыкавязаў узяў Рымаччыну вузкую руку з залатым пярсцёнкам, нязграбна пацалаваў, цмокнуўшы, яшчэ не дакрануўшыся да рукі губамі ў паветра. Лазар Богша таксама пацалаваў руку.

— Вы хоць падманціравалі матэрыял? — спытала яна, адразу прыступіўшы да справы, якая была для яе жыццём.

— Калі ж было? — сказаў Богша.— Проста мной зроблена першая прыкідка для сябе.

— Вы ж ведаеце, я падтрымлівала ваш сцэнарый,— было такое ўражанне, што Рыма Сяргееўна наперад апраўдваецца перад ім.

— Цяпер нешта перамянілася? — спытаў Богша.

Рыма Сяргееўна з дакорам паглядзела на яго: сур'ёзны чалавек, а задае дурнаватыя пытанні.

— Але ж вы памянялі сцэнарый. Напісалі новы. Так мне, прынамсі, сказаў Кірыла Мацвеевіч. Няўжо вы не разумееце, што вы нарабілі?

«Ага, во з якога боку пад'ехаў на крывых санях Кірыла,— падумаў Богша.— Дзякуй богу, што з гэтага. Рыма Сяргееўна мяне зразумее».

Кірыла адчуваў сябе дужа няёмка. Ён нешта прамармытаў, накшталт: «Я толькі перадаў думку Накіпелавай».

— Рыма Сяргееўна, я ўсё разумею і вельмі прашу вас з разуменнем паставіцца да таго, што ўбачыце,— Богша гаварыў з той доляй шчырасці, на якую здольны таленавіты акцёр.— Мы з аўтарам — спачатку зусім незалежна адзін ад аднаго, а потым і разам — прыйшлі да думкі, што сцэнарная аснова толькі выйграе ад змен. Я ўвесь час памятаў вашы заўвагі, калі прымалі літаратурны сцэнарый. Тады я быў супраць. Потым зразумеў, што вы вельмі прафесійна вызначылі слабае месца ў сцэнарыі,— Богша паддобрываўся да Рымы Сяргееўны. На самай справе яна нічога не гаварыла.— Сапраўды, праз бітву на Нямізе мы маглі сказаць банальную рэч. А вось паказаць аўтара «Слова аб палку Ігаравым», які паўстаў супраць канонаў быліннага часу, супраць Баяна, якога ён паважаў, у якога вучыўся і ўсё ж пайшоў супраць яго, бо адчуваў новыя павевы часу і новыя задачы творчасці, як і Пушкін у «Ба-

рысе Гадунове»,— вось пра гэта варта было здымаць фільм.

Рыма Сяргееўна нічога не сказала на гэта. Богша адчуваў: яна падрыхтавана, каб здацца.

— Я была здзіўлена вашаму выбару на ролю Усяслава Полацкага,— сказала яна, каб перавесці гаворку ў спакойнае рэчышча.

— А ён якраз няблага іграе,— адказаў Богша.— А каго б бачылі вы?

— Не ведаю, не ведаю,— паспешліва сказала Рыма Сяргееўна, як бы гаворачы гэтым Богшу, што яна не любіць улазіць у творчыя справы рэжысёра, але не ўтрымалася і назвала адразу тры прозвішчы акцёраў, якія, на яе думку, маглі сыграць галоўную ролю.

— На жаль, двое з іх вельмі занятыя і не маглі здымацца,— адказаў Богша,— а трэцяга я не стаў запрашаць сам. Яго апошнім часам заездзілі.

— І ўсё ж ён у кожным фільме непаўторны,— сказала Рыма Сяргееўна, адразу зразумеўшы, пра каго сказаў Богша.

Размова была вельмі прафесійная, а таму прыемная абаім: што ні кажы, а добра, калі людзі разумеюць адно аднаго з паўслова. Богша незаўважна адчуў, як з яго спадае цяжар сумненняў, што адолелі ў машыне па дарозе на студыю.

Тым часам на калідоры паявіўся дырэктар кінастудыі, чалавек сутулы і пануры з выгляду, у акружэнні сваёй світы, якую ён усюды вадзіў за сабой дзеля большай саліднасці. Павітаўшыся з Богшам, дырэктар загаварыў з Рымай Сяргееўнай пра тое, як ён некалі ў маладосці хадзіў паляваць на тыгра і ледзьве не загінуў, бо падранены звер выбіў з яго рук стрэльбу. Але ён не спалохаўся, выхапіў кінжал, і тады тыгр уцёк у плаўні. То быў адвечны «канёк» дырэктара, заезджаны да знямогі, але пра гэта ён расказваў кожны раз, калі трапляўся свежы чалавек, які і не здагадваўся, што дырэктар ніколі не хадзіў на паляванне, нават на зайцоў.

У блакітнай зале — дырэктар чамусьці вельмі любіў блакітны колер — сядзела ці не палова студыі. Богша акінуў позіркам залу, і яго ахапіла тое прыемнае хваляванне, якое ахоплівае любога мастака, калі ён выносіць свой твор на публіку. Было страшна, але і добра, як перад скачком з парашутам.

— Чаму так многа народу? — незадаволена буркнуў

дырэктар, сядаючы ў крэсла.— То ж не грамадскі прагляд... Давайце пачынаць. Наступны раз каб, апрача членаў савета, нікога не пускалі...

На дырэктарскую буркатню ніхто, вядома, не звярнуў увагі. Дырэктары на тое і існуць, каб бурчаць, сварыцца, даваць указанні... А сапраўды, яшчэ для чаго існуюць дырэктары?

Кірыла Лыкавязаў, як належыць яму па праву, адкрыў мастацкі савет кароткім уступным словам. Маўляў, мастацкі савет сабраны нечакана і толькі таму, што прыехала паважаная Рыма Сяргееўна, але гэта якраз і дарэчы, бо настала патрэба прагледзець рэдакцыю фільма, які займае ў планах студыі важнае месца як па тэматыцы, так і па ўдзельнай вазе ў вытворчасці. Даўшы слова Лазару Богшу, Кірыла адышоўся і сеў ззаду, ля сцяны, як бы ў цень. Лазар Богша аж здзівіўся: звычайна Кірыла сядзеў побач са студыйным начальствам. На ўсякі выпадак.

— Да гэтага фільма я ішоў доўга,— пачаў Богша, раптам адчуўшы, што зусім не ведае, пра што павінен сказаць мастацкаму савету. Заўсёды ведаў, а цяпер ніякіх думак.— Мне даўно хацелася крануцца нашай гісторыі, якую мы так мала ведаем. Наколькі мне ўдалося — меркаваць вам. Даруйце, што матэрыял не поўнасцю падкладзены. Вы пабачыце і дублі і праклейкі. Я пастараюся сказаць, што хаваецца за кожнай такой праклейкай. Можа, будуць пытанні?

Пытанняў не было. Лазар Богша націснуў на кнопку селектарнай сувязі, папрасіў кінамеханіка:

— Пачынайце, калі ласка.

Экран успыхнуў сіняватым святлом...

* * *

З нейкага часу паміж Кірылам Лыкавязавым і Лазарам Богшам ішла зацятая і непатрэбная, на думку кіношнікаў, дыскусія. Папраўдзе, дык сутнасць яе была незразумела самому Лазару Богшу. Ён часам падазраваў, што Кірыла знарок уцягвае яго ў дыскусію. Богша даваў сабе слова не спрачацца, а мудра маўчаць, але кожны раз незаўважна для сябе пачынаў пярэчыць Кірылу, а запярэчыўшы, ужо стаяў на сваім, хоць і шкадаваў: чаму было не стрымацца?

Самае дзіўнае ў гэтай дыскусіі на адвольныя тэмы, як іх ахрысцілі кіношнікі, заключалася ў тым, што ніхто на

студыі не бачыў важкіх прычын для дыскусій, а таму іх тлумачылі суперніцтвам двух вядучых рэжысёраў. Пагаворвалі, што Лазар Богша не ўспрымае творчасці Кірылы Лыкавязава, больш таго, лічыць ягоныя фільмы павярхоўнымі, верхаглядскімі, а значыць, і маламастацкімі. З другога боку, пагаворвалі, што Кірыла Лыкавязаў у сваю чаргу не прызнае творчасці Богшы, знаходзячы ў ёй уяўную глыбакадумнасць. Усё гэта было не так, а таму хадзілі чуткі, што Богша не даруе Лыкавязаву смерці Цюкі, а той баіцца Богшы і са страху адплочвае, прыдзіраючыся да кожнага яго фільма.

Лазар Богша сапраўды адчуваў да Кірылы антыпатыю, якую ён тлумачыў лыкавязаўскім імкненнем падабраць пад сябе ўсю студыю. А Лыкавязаў не цярпеў Богшу, які не баяўся казаць Кірылу ўсё, што думае пра яго. Быў у гэтым пэўны рэзон.

Дыскусіі звычайна ўзгараліся нечакана і па такіх пытаннях, якія, здавалася, не давалі падстаў да зацятых, аж варожых спрэчак. Яны ўзнікалі, як правіла, пасля кожнага чарговага фільма каго-небудзь з варожых бакоў.

Не, абодва рэжысёры не апускаліся ў спрэчках да збэшчвання фільмаў суперніка. Дыскусіі адбываліся па тэарэтычных пытаннях, гэта значыць закраналі нейкія агульныя палажэнні стану кінематографа. Богша звычайна выступаў больш грунтоўна, Кірыла — з той сялянскай практычнасцю, якая хоць і не дужа прэтэндавала на тэарэтычныя абагульненні, затое давала свой плён.

— Мы ўсё ж робім фільмы дзеля таго, каб іх глядзелі,— пачынаў сваю прамову Кірыла Лыкавязаў.— Трэба ж, мусіць, паважаць гледача, а не выпрабоўваць ягонае цярпенне. Я іншы фільм не магу даглядзець і да паловы, дык я ўсё ж прафесійны глядач. А як быць простаму чалавеку, што прыйшоў і для таго, каб адпачыць. Мусіць, нельга злоўжываць глядацкім цярпеннем. Каму патрэбна іншая філасофская заглыбленасць, якая хутчэй выглядае як звычайная занудлівасць...

І ўсе разумелі, што Кірыла Лыкавязаў гаворыць не проста ў парадку тэарэтычных разважанняў, а мае на ўвазе апошні богшаўскі фільм, які і праўда не вызначаўся імклівасцю сюжэта, затое быў насычаны філасофскімі развагамі. Богша таксама разумеў, у чый агарод кідае Кірыла камень, і ён ужо не мог стрымацца, каб не адказаць яму.

— Мне здаецца,— казаў ён,— што некаторыя нашы

фільмы адвучваюць гледача думаць, бо яны не нясуць ніякай думкі, а толькі пустую займальнасць. А між тым народ — найвялікшы мудрэц і філосаф. Адмаўляць яму ў гэтым — значыць прыніжаць яго да першабытнага мыслення. Мы ствараем духоўныя каштоўнасці, а не шырпатрэбаўскую прадукцыю, якую можна, пакарыстаўшыся, выкінуць на сметнік. Твор мастацтва павінен хваляваць гледача, даваць яму праўдзівае адлюстраванне страсці і мудрасці эпохі. Адмаўляць сучаснаму гледачу ў праве разумець філасафічнасць твора — ці не значыць гэта адрываць яго ад усёй культуры мінулага, бо, што ні кажыце, вялікія майстры свету ва ўсіх жанрах мастацтва не ў апошнюю чаргу дбалі пра філасафічнасць сваіх твораў.

І ўсе ведалі, што Лазар Богша мае на ўвазе лыкавязаўскі фільм, які, што праўда, глядзеўся з неаслабнай увагай, але ў якім дробненькія страсці толькі казыталі нервы гледача.

Богша глядзеў на экран з той прафесійнай уважлівасцю, якая вымагае нястомнай працы розуму: дзе і што лішняе, дзе атрымалася не так як было задумана. За мантажным сталом ён больш клапаціўся пра тое, каб адабраць лепшыя дублі і з большай ці меншай дакладнасцю зманціраваць матэрыял, а потым ужо заняцца яго чысткай.

Цяпер Богша бачыў свае памылкі, на шчасце, нешматлікія, можа, нават дробязныя, але якія раздражнялі яго, аж хацелася спыніць прагляд, пачаць здымкі занава. Ды хіба такое магчыма ў кіно? Як ён у гэты час зайздросціў мастакам і пісьменнікам! Яны шчаслівыя. Мастак можа сцерці з палатна ўжо гатовую карціну, намаляваць яе панова́му. Пісьменнік можа выкінуць у кошык раман, каб перапісаць яго так, як пабачылася. У кіно такое нікому не дазволена. Адзнятае аднойчы не можа быць пераразнята, бо на тое не хапае ні плёнкі, ні грошай.

Заняты сваімі думкамі, але ўважліва сочачы за экранам, Лазар Богша нейкім незразумелым чынам бачыў і прыціхлую залу і Кірылу Лыкавязава, на твары якога ўвесь час блукала іранічна-горкая ўхмылка — Кірылу фільм не падабаўся.

Дзіўна, але Лазара Богшу балюча кранала Кірылава ўхмылка. Яму чамусьці вельмі хацелася хоць аднойчы скарыць Кірылу, пачуць ад яго не прытворную пахвалу, а шчырае захапленне ягоным фільмам. Ён недзе спадцішка спадзяваўся, што гэты фільм і будзе такім творам, які пе-

раможа Кірылу. Богша разумеў, што не дачакаецца такога. І ўсё ж чакаў, быццам ад гэтага залежаў далейшы яго лёс.

Яму раптам падумалася, што, можа, і Кірыла чакае ад яго таго ж. Але ён тут жа запратэставаў: «Ды я і рад быў бы сказаць яму прыемнае, парадавацца ягонаму поспеху, каб было што хваліць. Усё дробна, плоска, хоць і займальна. А галоўнае, усё з тым пяўлоўным душком абывацельскай дабрачыннасці і сытасці, калі ўжо няма ніякай справы да людзей, з якімі жывеш, а толькі адна няшчырая бачнасць зацікаўленасці ў чужых лёсах, затое ўсё звернута на сябе, на свой дабрабыт, на сваё незалежнае існаванне, як у таго спешчанага ката, што грэецца на ляжанцы, мурлыкае сабе пад нос няскончаную песню сытай задаволенасці».

Нарэшце на экране прамільгнулі апошнія кадры. Яркі промень праектара патух, і ў зале на адно толькі імгненне запанавала цемра і аж звонкая цішыня. Потым загарэлася лямпачка на сцяне, нехта ўключыў святло ў зале — люмінесцэнтныя лямпы пад высокай столлю. Толькі цяпер кіношная брація рушыла на выхад.

Нехта пацiснуў Богшаву руку. Ён азірнуўся — Карней Карнеевіч Кладачка.

— Па-мойму, гэта выдатна,— усхвалявана сказаў ён і абняў Богшу.

Што ж, сябра ёсць сябра!..

У канферэнц-зале, дзе праводзіліся студыйныя сходы і пасяджэнні мастацкіх саветаў, панавалі ўжо прыцемкі, так што давялося запаліць святло. Члены мастацкага савета размясціліся за двума сталамі, што стаялі ўздоўж сцен, пафарбаваных у яркі лімонны колер. Здымачная група ўселася бліжэй да дзвярэй, якія ва ўсе часы неслі выратавальную функцыю — за імі можна было знікнуць.

Кірыла Лыкавязаў прыйшоў ці не апошні, падняўся на ўзвышэнне, дзе стаяў стол, падобны на дырыжорскі пульт. Ды і сам Кірыла нагадваў дырыжора, перад якім паклалі замест партытуры сімфоніі папку з хецкім клінапісам. Ён быў разгублены, хоць і рабіў выгляд, што разумее той хецкі клінапіс і неяк прадырыжыруе сімфонію, як толькі музыканты зоймуць месцы ў аркестры.

Як і заўсёды, час перад пасяджэннем цягнуўся бясконца доўга, нібы тое галоднае лета, пакуль нехта з нецярплівых не крыкнуў, каб пачыналі, бо трэба ж некалі і дзяцей выхоўваць. Кірыла падхапіўся з крэсла, без аніякіх

прадмоў, нібы толькі і чакаў гэтага голасу, даў слова рэдактару фільма.

— Фільм мне ўяўляецца цікавым і ў цэлым падабаецца,— таксама без лішніх прадмоў заявіў рэдактар і, пераймаючы манеру тэатральных рэцэнзентаў, пачаў падрабязна расказваць змест фільма. Толькі потым ён загаварыў, праўда, не дужа ўпэўнена, пра тое, што яму не спадабалася.

З гэтага і пачалася тая вялікая гаварыльня, якая вядома кожнаму кіношніку, дзе прамоўцы адстойваюць свой погляд, абсалютна дакладна ведаючы, што трэба адрэзаць ад аднаго эпізоду, прыставіць да другога, каб фільм набыў вартасць шэдэўра. Зрэшты, такое здараецца не заўсёды, а найчасцей тады, калі фільм выходзіць за межы звычайных уяўленняў і яго нельга мераць меркай вядомых ужо ў кіно стандартаў, бо ён і сам прэтэндуе на нейкі новы стандарт для будучых пакаленняў мастацкага савета.

Члены мастацкага савета з усёй стараннасцю імкнуліся выявіць сваю эрудыцыю, а таму ўжывалі найноўшую кіношную тэрміналогію, так што збоку можна было падумаць — ідзе дужа навуковы сімпозіум. Фільм найбольш хвалілі, хоць не абыходзілася без прапаноў і нават прыдзірак. Часам успыхвалі бязладныя спрэчкі, і тады Кірыла Лыкавязаў хмурыў бровы, з усёй сілай грукаў костачкамі пальцаў па стале.

Богша тым часам непрыкметна адзначаў, якія эпізоды прапаноўвалася ўжо зняць або хоць скараціць — такіх эпізодаў набіралася аж трынаццаць, ледзь не чвэрць усёй карціны. Праўда, члены мастацкага савета прапаноўвалі не вельмі катэгарычна, а хутчэй праблематычна, ці, як кажуць кіношнікі, у парадку трызнення.

Лазар Богша слухаў пахвалу з тым адчуваннем, якое бывае ў чалавека, якога кожны дзень прымушаюць піць патаку — было прытарна,— аднак і крытыка яго раздражняла, як раздражняе чырвоная анучка быка — так і хочацца на яе кінуцца. Па шчырасці, дык Лазар Богша чакаў двух выступленняў: Кірылы Лыкавязава і Рымы Сяргееўны Громавай.

Першы ўзяў слова Кірыла Лыкавязаў. Было гэта парушэннем кіношнай традыцыі — старшыня мастацкага савета гаварыў апошні. Але не толькі гэта ўразіла Богшу. Выступаючы наперадзе Рымы Сяргееўны, Кірыла як бы намякаў, што на студыі ёсць свой пункт гледжання на

фільм Лазара Богшы і прадстаўніца Дзяржкіно павінна з гэтым лічыцца.

Так, напэўна, падумалі і ўсе члены савета, бо ў зале наступіла злавесная цішыня, якая бывае перад навальніцай — душна і глуха.

Кірыла, няйначай, хацеў паназаляцца. Ён нагадаў членам савета пра пачэснае месца Лазара Богшы ў савецкай кінематаграфіі, пахваліў ягоныя два-тры найлепшыя фільмы. Не абышоў і Богшавых памылак, сказаўшы пра іх коратка, але так шматзначна, што яны засланілі Богшавы дасягненні.

Усе заўважылі, што Кірыла Лыкавязаў выступаў на гэты раз як па пісаным. Значыць, рыхтаваўся да выступлення загадзя і вельмі грунтоўна. Напружанне ў зале стала яшчэ больш моцным.

Лазар Богша, не жадаючы таго, слухаў Кірылу з незразумелай яму ўвагай. Ён наперад ведаў, што скажа Кірыла, але слухаў уважліва, баючыся чамусьці прапусціць хоць адно слова. Кожнае лыкавязаўскае слова было падобна на кулю, якая не забівае, а вельмі балюча джаліць. Зрэшты, Богша чакаў ад Кірылы і нейкіх нечаканасцей. Лыкавязаў быў вунь як здольны да іх.

— Дык вось,— Кірыла Лыкавязаў зрабіў паўзу і загаварыў ужо з металам у голасе, пазіраючы кудысьці ўгору, нібы хацеў заклікаць усявышняга ў сведкі сваёй аб'ектыўнасці.— Дык вось, дарагія таварышы,— яшчэ раз паўтарыўся ён,— у такога выдатнага майстра, які валодае талентам з незвычайнай сілай уздзейнічаць на чалавечыя эмоцыі, на свядомасць людзей, моцны не толькі станоўчы эфект уздзеяння, але, і што найбольш небяспечна ў дадзеным выпадку, адмоўны эфект уздзеяння. Ягоныя хібы, памылкі, недахопы такія ж яркія, уражлівыя, як і ўсё ягонае майстэрства. Ягоныя памылкі становяцца памылкамі людзей, якія іх не заўважаюць. І гэта не толькі насцярожвае...

Лазар Богша ледзьве стрымаўся, каб не зарагатаць у гэтай перанасычанай ад напружання зале, дзе голас Лыкавязава здаваўся голасам вясковага вешчуна-чарадзея, якога і слухаюць толькі таму, што ён гаворыць не так, як усе, а незразумела.

Станоўчы эфект уздзеяння!..

Яркія, уражлівыя недахопы!..

Ачумець можна!.. Але ж слухаюць і не заўважаюць, што чуюць!..

Як жа любіць кіношная брація вычварнасць і заблытанасць!.. Незразумела — і вельмі добра! Непісьменна — ну і што? Абсурдна — значыць, па-наватарску!..

Мусіць, ён на нейкі час адключыўся, выпусціў з-пад увагі лыкавязаўскія практыкаванні ў «высокім стылі», бо раптам голас Лыкавязава вынырнуў як з падзямелля.

— На нашу думку, быў выдатны сцэнарны матэрыял выдатнага пісьменніка і кінадраматурга Цімоха Баравіка-Залеўскага, быў, нарэшце, прыстойны рэжысёрскі сцэнарый, адобраны намі, падтрыманы Дзяржкіно. І вось паважаны майстра — а толькі майстры могуць дазволіць сабе такую вольнасць — адкідвае прэч літаратуру, уласнае бачанне літаратурнай асновы, робіць зусім новы экранны варыянт кінатвора. Мы не можам ухваліць такі ўчынак хай сабе і заслужанага рэжысёра, бо ён — дрэнны прыклад для моладзі. Мы не можам ухваліць і тое, што нам паказаў рэжысёр, як першую прыкідачную рэдакцыю. На нашу думку, экранны варыянт стаў горшым за літаратурную аснову і па распрацоўцы агульнай сюжэтнай лініі і па змястоўнай напоўненасці дзеяння...

На гэты раз Лазар Богша толькі пакрывіўся ад «агульнай сюжэтнай лініі» і «змястоўнай напоўненасці дзеяння».

І зноў Богша адключыўся ад таго, што гаварыў Кірыла Лыкавязаў. Ён не ведаў, ці доўга прабыў у такім стане. Лыкавязаўскі голас вярнуў яго ў канферэнц-залу.

— Такім чынам,— гаварыў Лыкавязаў,—ні па ідэйнай канцэпцыі, ні па мастацкаму вырашэнню тэмы мы не можам ухваліць прадстаўленую нам рэдакцыю фільма...

Ён адразу ж даў слова Рыме Сяргееўне. Богшу аж стала шкада яе.

Рыма Сяргееўна спрабавала ўратаваць фільм, але, ратуючы яго, яшчэ больш нішчыла, прапануючы Богшу выкідваць з фільма найбольш дарагія яму эпізоды, тыя, якія яны прыдумалі з Цімохам Баравіком-Залеўскім, абрамляць увесь фільм нейкай штучнай гісторыйкай з сучаснага жыцця, быццам тое абрамленне магло нешта дадаць фільму.

Лазар Богша ўжо не быў здзіўлены, калі і Рыма Сяргееўна пагадзілася з Лыкавязавым, што яшчэ рана прымаць рэдакцыю фільма.

Усё было хоць і не зусім нечаканым, але ўсё ж неверагодна, што Лазар Богша нават не паверыў пачутаму: Кірыла Лыкавязаў аб'явіў пасяджэнне закрытым.

«Усё,— падумаў Богша з адзінокай асуджанасцю. Ён

разумеў, што перарабляць фільм не стане, каб не разбурыць створанае. Рабіць жа нейкае публіцыстычнае абрамленне было ўсё адно, як да Полацкай Сафійкі прыбудаваць буйнапанельны корпус. Рыма Сяргееўна яшчэ спрабавала даказаць яму, што такое абрамленне можна зрабіць без аніякай шкоды для фільма, але Лазару Богшу было нецікава яе слухаць. Ён прадаўжаў думаць: — Талент мастака мусіць найперш за ўсё дбаць пра душэўныя рухі чалавека, пра тыя важкія галоўныя пытанні, што складаюць сутнасць жыцця, яго сэнс. Жыццёвыя сітуацыі мяняюцца часта, а чалавек з яго адвечнымі праблемамі застаецца. Колькі рэжысёраў браліся ўжо за нейкую самую актуальную тэму, але мяняліся ўмовы быцця і фільм паміраў на вачах яго ж творцы. Які гэта жах, калі на вачах у бацькоў паміраюць дзеці. Дзеці павінны паміраць толькі пасля бацькоў. I я не хачу смерці маім творам пры мне...»

Рыма Сяргееўна, відаць, зразумела Богшаў душэўны стан, а таму развіталася, перанёсшы размову на заўтра.

На калідоры Богшу чакалі аператар Юра Засухін і Кладачка.

— Не гаруй, стары,— абняў Богшу аператар.— Фільм ёсць...

— Быў,— сказаў Богша.

— Зрабі ты ім гэтае абрамленне, а эпізоды адстаім. Пасля яны самі адмовяцца,— параіў Карней Карнеевіч.

— Не,— сказаў Богша.— Здароваму чалавеку не патрэбны мыліцы...

Яны моўчкі пайшлі па калідоры, пустым і доўгім.

— Я застануся,— сказаў Богша.— Хачу яшчэ раз паглядзець фільм, можа, у апошні раз...

— Глянь на сябе,— параіў Кладачка.— Выспіся. Заўтра паглядзім разам.

Богша толькі цяпер прыслухаўся да сябе: левая палавіна грудзей зноў, як днём, набракла болем, а левая рука амярцвела.

— Адпачнём там,— Богша ткнуў рукой у падлогу.— Я цябе папрашу, Карней Карнеевіч, пашлі тэлеграму Любе.

Ён дастаў з кішэні блакнот, вырваў лісток, прыткнуўшыся да падаконніка, напісаў тэкст:

«Люба, даруй. Прылятай хутчэй. Мне блага. Вельмі».

— Надумаў ты нешта,— буркнуў Кладачка, але настойваць, каб не заставаўся, не стаў, ведаў, што бескарысна.

Богша падняўся на другі паверх, дзе была лабараторыя.

— Можа, гатова плёнка? — спытаў ён начальніка змены.

— Гатова.

Ён распарадзіўся, каб яе занеслі ў мантажную. Там за акаванымі жалезам дзвярамі яго чакала мантажніца Вера.

— Лазар Васільевіч,— сказала яна,— не перажывайце вы так, неяк абыдзецца.

— Абыдзецца...

Лазар сеў за мантажны стол. І толькі цяпер адчуў, як стаміў яго гэты мастацкі савет.

Наперадзе была ноч.

* * *

З таго часу, як Лазар Богша сеў за мантажны стол, прастора і час страцілі адвечнае сваё значэнне — усё цяпер абмежавалася маленькім квадратам экрана, на якім адбывалася звязанае ў заблытаны вузел дзеянне: жыццё і смерць — дзве няўжыўчывыя суседкі.

Напачатку Богша прагледзеў выданую лабараторыяй плёнку, якую не паказваў і на Суі, калі глядзелі ў калгасе, адабраў лепшыя на ягоны густ дублі. Потым ён узяўся за мантаж, не заглядаючы нават у мантажныя лісты — усё помнілася да драбніц: кожны эпізод, кожны план. Ён пагрузіўся ў работу, як пагружаецца ў глыбіню мора вадалаз: зямное, сухапутнае знікае, застаецца праца ў адрыве ад гаманкога свету.

Яны, бадай, не размаўлялі з Верай, бо тая разумела яго з паўслова, ды і словы, якімі яны часам абменьваліся, належалі да іншай сферы чалавечага жыцця — справы,— дзе не патрэбны хітрасць, крывадушнасць, зайздрасць, ліслівасць, хлусня, дзе можна абыходзіцца першароднымі словамі-сімваламі.

Калі фільм быў пераманціраваны, Лазар Богша падумаў, што павінен глянуць на яго збоку, адным позіркам і ўжо староннягa гледача, каб атрымаць цэльнае і цвярозае ўражанне.

У Веры быў стомлены выгляд: пад вачамі залеглі сінявaтыя цені, а твар завастрыўся, набыў попельнае адценне.

— Адпачні, Вера,— сказаў ён і сеў на яе месца за мантажным сталом.

Вера перасела ў мяккае крэсла, што стаяла ў куце. Лазар заклаў стужку, націснуў рычажок — на экране з'явіліся першыя кадры... Неўзабаве Богша здолеў так адключыцца ад навакольнага свету, што ўжо адчуваў сябе не проста гледачом, нават не сведкам, а ўдзельнікам далёкіх падзей. І хваляваўся не як глядач, а як удзельнік далёкіх падзей, які не ведае, што будзе потым.

Апошнія кадры, як заключны акорд сімфоніі, нарэшце аджылі свой век на экране. Лазар Богша выключыў яго, прадаўжаючы механічна ўзірацца ў цёмны квадрат, нібы чакаў які цуд.

— А ўсё ж добра, што ні кажыце — добра,— сказаў ён з той перакананасцю, якая бывае ў людзей, абсалютна ўпэўненых у сваёй праўдзе.

Уласны голас, што прагучаў у мёртвай цішыні, вярнуў Богшу з далёкіх вандровак, дзе не было ні прасторы, ні часу. Ён убачыў белую сцяну, мантажны стол, рулон плёнкі на ім і толькі цяпер успомніў пра Веру.

— Ах, Вера, Вера,— паціраючы рукі ад задаволенасці сабой, узнёсла загаварыў ён,— які я малайчына! Далібог, мне не сорамна прызнавацца ў гэтым.

Вера прамаўчала, і ён павярнуўся, каб сказаць ёй нешта ўжо іранічнае. Вера соладка спала, схіліўшы галаву на плячо.

«Вечны лёс мастака: няма з кім падзяліцца першым сваім шчасцем, самым свежым уражаннем»,— усміхнуўся ён і на дыбачках выйшаў на калідор.

Яму страшэнна хацелася курыць, здалося, што не курыў аж з таго часу, як пабываў на нямігскай бітве. Дым цыгарэты крыху асвяжыў галаву. Богша пайшоў па калідоры, з прыемным хваляваннем слухаючы, як гулкае водгулле разносіць ягоныя крокі, нібы крокі камандора, калі той ішоў на званы пір.

Яму хацелася цяпер зусім аб'ектыўна падумаць пра тое, як склаўся фільм. Эмоцыі эмоцыямі, а ў мастака павінна быць яшчэ і цвярозае да сябе стаўленне. Яму нідзе так не думалася, як у рэжысёрскім пакоі. Нават дома, дзе заўсёды нешта адцягвала ўвагу, можа, тая хатняя ўтульнасць, якую стварыла Люба.

«Яна павінна ўжо была атрымаць тэлеграму,— падумаў ён пра жонку.— Можа, цяпер сядзіць у аэрапорце, чакае пасадкі».

Яго пакой быў паверхам ніжэй. Лесвіца патанала ў змроках, хоць на яе і падала святло з вялізнага, на ўсю

сцяну, акна, за якім у скверы гарэлі ліхтары. У калідоры на другім паверсе дык і наогул было вельмі цёмна, толькі ў канцы віднелася акно — светлая пляма на чорным аксаміце цемры.

Лазар Богша ледзь адамкнуў дзверы — усё не мог патрапіць ключом у замок. Затое выключальнік у пакоі намацаў адразу. Некалькі разоў міргануўшы пад столлю, успыхнула асабліва яркае ўначы святло, дарэшты запаланіўшы Богшаў пакой.

Лазар сеў у крэсла за сталом, каб аддацца развагам, ды раптам адчуў, што за дарогу да кабінета растрос усе думкі. Засталася зморанасць. «Трэба зварыць каву»,— падумаў ён і пайшоў да шафы. У шафе гэтай — прыналежнасці студыйнага рэквізіту — адна паліца была адведзена пад кававы посуд. На ёй стаялі кубкі са сподачкамі самых розных памераў — ад напарстка да паўлітровай ёмістасці,— бляшанкі з кавай, металічная пасудзіна для цукру і аж дзве кававаркі: адна на дзве шклянкі кавы, другая — партатыўная, але затое такая, у якой можна было зварыць вельмі густую каву.

Цяпер яму хацелася густой кавы, аж чорнай, як дзёгаць. Ён схадзіў па ваду, засыпаў у кававарку па самыя беражкі каву, уткнуў штэпсель у разетку, стаў чакаць.

Неўзабаве тонкі кававы водар заказытаў у носе, расплыўся па пакоі.

Кава зварылася такая, якую хацелася зварыць. Богша ўліў у кубак яшчэ чайную лыжку рыжскага бальзаму, да паху далёкага і чужога поўдня дадаўся водар сваіх, блізкіх палёў і бароў.

Богша піў каву дробненькімі глыткамі, па кропельцы, як п'юць нектар пчолы, хоць яму і хацелася асушыць кубак адразу і да дна.

«Трэба пазваніць Кірылу,— чамусьці падумаў Богша.— Я павінен сказаць яму, што фільм усё ж атрымаўся».

Рука была пацягнулася да тэлефона ды і апусцілася на стол, нібы нехта нябачны ўтрымаў яе.

«Позна,— сказаў сабе Богша.— Чалавек спіць... Ну і што? Чаму я не магу разбудзіць яго? Якая абывацельская далікатнасць: даруйце, я вас крышачку патурбую... Да д'ябла сумненні. Мы — мастакі. І ён не можа не зразумець мяне, майго жывога нецярпення. Я павінен сказаць яму, што ён памыляецца. Іначай ён будзе спаць, перакананы ў сваёй праўдзе...»

Да тэлефона доўга ніхто не падыходзіў: у мёртвай цішыні тэлефонныя гудкі нагадвалі сірэну карабля, які падае сігналы няшчасця. Лазар ужо хацеў пакласці трубку — Кірылу не разбудзіш і гарматным залпам,— як гудкі спыніліся, у вуха палез незадаволены сонны голас:

— Алё, чорт вас падзяры... Алё, хто гэта?..

Лазар Богша дужа добра ўявіў Кірылу: сонны, узлахмачаны, босы, у адных плаўках.

— Спіш? — спытаў Богша падробленым пад Кірылу голасам.

— З вамі паспіш... Хто гэта?

— Святы грэшнік.

— Лазар?! Ну, ведаеш...

— Ведаю, Кірыла. Мне трэба з табой пагаварыць...

— Пайшоў ты... Я спаць хачу... А вам, чарцям, не спіцца. Весела...

— Весела, Кірыла.

— У каго вы сабраліся?

— Я адзін, Кірыла. Уся студыя спіць. А я не сплю. Не, хлушу. Яшчэ не спіць за акном ліхтар.

— Слухай, перастань выяргаць словы, як Везувій лаву. Я босы. З-пад дзвярэй дзьме, а ў кватэры сабачы холад. Чаго ты звоніш?

— Прыязджай на студыю. Пасядзім, пагаворым. Зараз нам ніхто не перашкодзіць. Мы ж з табой, Кірыла, бадай, ніколі не гаварылі па шчырасці.

— Звар'яцеў?..

— Даўно. Кожны з нас крыху вар'ят. Адзін ты не. Таму і пазваніў табе. Прыязджай! Я адзін. Разумееш, зусім адзін...

— Ты хоць уяўляеш, якая цяпер гадзіна?

— Чацвёртая...

— Не, ты звар'яцеў ці ў дым п'яны...

— Угадаў. Я п'яны. Я закончыў карціну і захмялеў ад радасці.

— З чым і віншую,— не паверыў Кірыла. Было чуваць, што ягонае цярпенне выгарала, як газ у запальнічцы.— А цяпер будзь здароў...

— Пачакай, Кірыла,— закрычаў Богша з адчаем у голасе.— Не вешай трубкі. Мне трэба сказаць табе колькі дужа важных слоў.

— Тады я хоць абую тапкі і накіну што на плечы...

Ён паклаў трубку. Лазар чуў кожны шолах. Мусіць, жонка спытала, хто звоніць, бо Кірыла аж злосна крык-

нуў: «Хто-хто? Богша звоніць. Надраўся...» Нарэшце ён узяў трубку.

— Давай кажы, што хочаш.

— Па-першае, Кірыла, я не надраўся,— сказаў Богша.— Я дасюль сядзеў у мантажнай. Я хачу спадзявацца, што табе, як і мне, вядома тое непаўторнае адчуванне адзіноты, калі закончыш фільм, а навокал ні душы, якой можна было б расказаць пра сваю радасць ці расчараванне. Такое адчуванне бывае толькі ў мастакоў. Я называю яго адзінотай асуджаных на творчасць...

— Не кажы глупства. Мастак не адзінокі. У яго мільёны гледачоў.

— Які ты, Кірыла, стэрыльны, аж боязна за цябе брацца без гумавых пальчатак. Ці ты не разумееш, што гледачы прыходзяць потым. А я кажу пра адчуванне, што паяўляецца, калі завершаны творчы акт, пра першы вынік і першае пачуццё. Творчасць, як і каханне, інтымная. Разумееш, інтымная. Але пра яе хочацца крычаць на ўвесь свет. Во ў чым сакрэт. А тут крычы не крычы — нікога няма. Вера спіць. Дык я пра каханне. Не пра любоўныя сувязі, а пра каханне. Любоўныя сувязі хаваюць. Чыстае каханне не баіцца людскіх вачэй, хоць яно інтымнае па сваёй прыродзе. Закаханы хоча крычаць пра яго. Так і творчасць. А тут нікога побач, каму можна было адкрыць душу. Таму і адзінокасць.

Богша адчуваў, што недзе заблытаўся ў сваіх разважаннях, нават супярэчыць сабе.

— Лазар, што ты хочаш?

«Што я хачу?» — спытаў у сябе Богша, падумаўшы, што ягоны позні званок сапраўды быў падобны на вар'яцтва. Дужа яны розныя. Але яму трэба было з кімсьці падзяліцца пачуццямі. Хоць з самім д'яблам. З д'яблам нават лепей. Той, па крайняй меры, бывае розны, як зло.

— Даруй, Кірыла,— пранікліва сказаў ён,— я і праўда ненармальны. Але я ведаю, што хачу. Скажы мне сваю думку пра фільм. Толькі, калі можаш, шчыра.

Кірыла нечага даволі доўга маўчаў. Богша нават падумаў, што той адгаворыцца пустымі фразамі.

— Ты ж ведаеш маю пазіцыю. Я выказаў яе на мастацкім савеце,— сказаў Кірыла іншым і як бы афіцыйным тонам.— Я не разумеў і не разумею, навошта патрэбны гэты фільм? Што зацікавіць у ім гледача? Князі? Іх міжусобіцы? Бітва на Нямізе, адна з дзесяткаў падобных ёй сваёй ганебнасцю бітваў? Эпоха, у якой не было колькі-

небудзь выдатнай асобы? Святая Ефрасіння, якая не можа пераадолець інерцыю свайго класа? Ці, можа, ты спадзяваўся, што цябе вывезе аўтар «Слова аб палку Ігаравым»? Але ён асоба больш чым міфічная, якая, бадай, і не існавала. Кажуць, што і аўтара і яго «Слова» прыдумалі ў васемнаццатым стагоддзі. А калі ты з міфічнай асобы робіш героя, дык ці не выглядае гэта тэндэнцыйнай спробай адарвацца наогул ад рэальнасці і ў той жа час паказаць яе ў ідэальным выглядзе? Інакш навошта было б гарадзіць загароду. Адчуваю, ты спытаеш зараз, а хіба нельга здымаць фільмы на гістарычныя тэмы? Чаму ж, калі з гісторыі бяруцца нейкія важныя падзеі або сапраўды вялікія людзі, чые справы заслугоўваюць увагі нашых сучаснікаў. Я не стаў бы выступаць супраць. Але нейкія дробныя князькі... Князькі, якія чортведама чаму ваююць паміж сабой. Я бачу тут...

— Не, не,— перапыніў яго Богша,— у нас няма небяспекі зрабіцца князямі. Але мы з табой можам ператварыцца ў князькоў. Во ў чым сэнс...

— Ну, выбачай, перакапаў, але якраз у адваротным.

— Я зразумеў цябе, Кірыла. Ты памыляешся, калі думаеш, што гісторыя маралі не мае працягу і вытокаў, што мараль кожны раз зноў стваралі пануючыя класы па сваім вобразе і падабенстве. Не, Кірыла, адтуль, з далёкіх глыбінь старажытнасці, да нас дайшлі не толькі фаліянты мёртвых летапісаў, адтуль прыйшлі людскія страсці: і подласць, і вернасць, і крывадушнасць, і вера ў будучыню, і вернае каханне, і смерць. І мяне захапілі ў сцэнарыі не знешнія прыкметы таго часу, хоць я стараўся перадаць іх не проста добрасумленна, а як найбольш верагодна, мяне захапілі напружанне думкі, жывое трапятанне часу і, як крык душы чалавечай,— «Слова аб палку Ігаравым». Не трэба, Кірыла, ператвараць у міф тое, што існуе рэальна. І не проста існуе. Яно прымушае думаць. Тады, у дванаццатым стагоддзі, невядомы чалавек, пісьменнік, кажучы словамі сённяшняга слоўніка, ідзе насуперак даўняй традыцыі апяваць княжацкія паходы і падымаецца — заўваж, Кірыла, падымаецца над родавай псіхалогіяй, над удзельнымі інтарэсамі. Смеласць аднаго ці адзнака эпохі? І тое і другое. Але ж павінна была і саспець такая думка. І спела яна ў манастырах, дзе можна было схавацца, каб падумаць пра час і пра сябе. І спела яна ў княжацкіх ды баярскіх дварах, дзе была магчымасць набірацца кніжнага розуму. Народ жа, Кірыла, быў тады непісьменны.

Хоць і ён даваў смелых мысліцеляў, якія гатовы былі загінуць, абы сказаць князю праўду. Такія, як Даніла Заточнік...

— І ўсё роўна я не пагаджуся з табой,— сказаў Кірыла.— Мне зусім нецікава слухаць людзей, што адышлі ў нябыт, як і іхнія погляды. Яны нічаму не могуць мяне навучыць...

— Так некалі думаў і я. Пачне, бывала, раіць мне нешта маці, я слухаю яе з маладым іранічным нахабствам: ну, што яна, старая, разумее? А яна разумела, і заўсёды выходзіла не па-мойму. Чаму мы адмаўляем мінуламу права на ўрокі? Толькі таму, што ў сваёй гардыні спадзяёмся, што дадумаліся да таго, да чаго нашы адсталыя продкі ніколі б не дадумаліся. Мы і не ўяўляем пра чацвёртае вымярэнне, якім з'яўляецца час. А я пабыў у ім. Раю і табе, Кірыла, некалі заглянуць туды.

— Мяне ніхто не адарве ад сучаснасці,— з катэгарычнай цвёрдасцю сказаў Кірыла.

— Я не хачу адрываць цябе. Я не разумею іншага, чаму ты не хочаш, каб я бываў там.

— Няўжо ты не можаш знайсці тэмы ў нашым імклівым, дынамічным часе? Чаму ты ўцякаеш у мінулае, Богша?

— Падазраеш? А я, Кірыла, ваяваў, паспытаў нямецкіх лагераў, у той час як ты знаходзіўся ў далёкім тыле, пры бацьках. Не трэба мяне падазраваць у тым, чаго ў мяне нават не было ў думках.

— Ты таму і разбудзіў мяне, каб абражаць?

— Я разбудзіў, каб ты не спаў у поўнай упэўненасці, што праўда заўсёды на тваім баку.

— Хочаш, каб я быў яшчэ і ўдзячны?

— Я падазраю, што ты развучыўся ўжо разумець сэнс звычайных слоў. Ты, Кірыла, абкружыў сябе бяздарнасцямі, якія пяюць табе гімны, як пелі песні князям, каб праславіць іхнія бяздарныя паходы. Ты прагнеш выглядаць волатам, але забываеш, што спачатку паклапаціўся, каб побач з табой былі карлікі. Ах, Кірыла, Кірыла!

— Ты дзеля гэтага і разбудзіў мяне?

— А хіба не варта?

— Твайму свінству і хамству няма ні межаў, ні назвы. Але я дарую табе...

— Якое высакародства!..

Яны абодва амаль разам паклалі трубкі, каб не чуць абразлівых тэлефонных гудкоў.

Надзіва, размова з Кірылам Лыкавязавым дабратворна паўплывала на Богшу — нібы ён скінуў з сябе жалезную кальчугу, што замінала ягоным рухам. Стала вальней пачуваць сябе. Богша прыбраў кававае начынне ў шафу, апрануў куртку і выйшаў на вуліцу.

З усходу, уздоўж шырокага праспекта, дзьмуў вецер, асабліва пякучы ў перадранішні час. Ад яго парываў гайдаліся ліхтары і шэрыя цені кідаліся па баках; здавалася, вуліца бяжыць, як плёнка ў праектары. Лазар падумаў, што трэба шукаць нейкую спадарожную машыну, але дзе ты яе знойдзеш, калі праспект пуставаў. Кварталы праз два на вялізным пляцы, Богша пабачыў адзінокае таксі — здалёк свяціўся ў цемры зялёны агеньчык. Богша разбудзіў шафёра і ўжо хвілін праз сем быў у пад'ездзе свайго дома, сляпога, без адзінага агеньчыка.

Лазар падняўся на свой паверх, адчыніў дзверы, не запальваючы агню, прайшоў у спальню — яму чамусьці падумалася, што там ужо чакае яго Люба. Ён паспешліва запаліў святло — спальня сустрэла яго безалаберным запусценнем: скамечаная падушка, скручаная коўдра, абы-як раскіданыя рэчы, папера на стале, пішучая машынка з недадрукаваным аркушам паперы — усё крычала пра запусценне. Аж стала моташна.

За гады жыцця з Любай Лазар прывык да найстражэйшага парадку, які часам нават і раздражняў яго: кожная рэч на сваім месцы, нідзе ні пылінкі, ложкі акуратна засланыя, як у мемарыяльным музеі. Богша скінуў куртку, пачаў быў скідаць джынсоўку, але, глянуўшы на ложак, аж здрыгануўся: падалося, што той падобны на халодную магілу.

Ён сеў у мяккае вальтэраўскае крэсла. Яно прагнулася пад цяжарам ягонага цела, моцна ўзяло ў свае пяшчотныя абдымкі, нібы засумавала без яго.

У ванным пакоі з крана капала вада. Лазар падумаў, што варта было б пайсці закруціць кран, але расслабленае цела не хацела слухаць ягоную слабую волю. У крэсле было дужа ўтульна і цёпла. Богша ляжаў колькі часу з заплюшчанымі вачамі, адчуваючы прыемную знямогу. Раптам ён успомніў пра тую жанчыну, што сядзела ў зале днём, калі ён так неабачліва заскочыў туды голы. Сядзіць яна там ці не?

«Так яна цябе і чакала,— насмешліва падумаў ён.— Даўно пайшла. Але як яна магла выйсці, калі я замкнуў

дзверы на два замкі? Тады сядзіць... А раніцай прыляціць Люба. Трэба ўсё ж зазірнуць у залу. Пераканацца».

Перамогшы сваю расслабленасць, Богша ўстаў з крэсла, выйшаў на калідор. У доме да жудасці было ціха. Ніводнага гуку. Ён паціху адчыніў дзверы.

У зале, на тым жа крэсле, бокам да яго, сядзела незнаёмая жанчына ў чорным адзенні — тая, якую ён бачыў днём, калі яму пазваніў Карней Карнеевіч Кладачка.

# ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ: праваслаўныя язычнікі

## 1

У зале, на тым жа крэсле, бокам да яго, сядзела незнаёмая жанчына ў чорным адзенні — тая, якую ён бачыў днём, калі яму пазваніў Карней Карнеевіч Кладачка.

Богша жахнуўся. Яго ўразіла і напалохала не тое, што жанчына дачакалася яго (куды дзенешся, калі ён замкнуў кватэру аж на два замкі?), а тое, што яна сядзела ў крэсле ў той жа паставе, як і тады, калі ён заглянуў у залу. Не хацелася верыць, што чалавек можа нерухома праседзець больш паўсутак. А што, калі яна памерла?.. Во ўжо сапраўды крымінальны дэтэктыў у стылі Жоржа Сіменона: кінарэжысёр прыходзіць дамоў, а ў мяккім крэсле — мёртвая жанчына...

«Нешта дурное лезе ў галаву,— падумалася Богшу.— Чаму ў маёй кватэры павінна быць жанчына? Несусветная лухта! Можа, у крэсле сядзіць здань або сама смерць?..»

Думка была дужа бязглуздая, але Богша адчуў, як брыдкі халадок папоўз па спіне, прытаіўся ў патыліцы і адразу на галаве заварушыліся валасы, як тады ў лесе, калі ён пабачыў галодных пілiпаўскіх ваўкоў, якія вялі, падганяючы хвастамі, двух вясковых сабак. Ён сам цяпер быў падобны на сабаку: у сваёй кватэры адчуваў сябе пад канвоем.

Як і тады, яму захацелася кінуцца наўцёкі, можа, нават да тэлефона, каб пазваніць у міліцыю. Няхай прыедуць, разбяруцца, бо гэта іхні клопат ахоўваць грамадзян ад гвалтаўнікоў і зданяў...

Ды нешта пазбавіла яго здольнасці рухацца. Нават язык прысох да нёба — самае жахлівае з таго, што даводзілася некалі адчуць Богшу: усё бачыць, разумець і маўчаць, не ратаваць сябе. Ягонае жаданне нешта рабіць на-

гадвала аслаблены адлегласцю імпульс незразумелай волі, нібы нехта з далёкага сусвету кіраваў ягонай дзейнасцю.

Богша яшчэ падумаў, што, бадай, фантасты мелі рацыю, калі пісалі аб планеце ў космасе, на якой існуе звышразумнае рэчыва, што кіруе ўсёй чалавечай дзейнасцю на зямлі. Жахліва быць на месцы гэткага біялагічнага робата, якому нехта недзе праграмуе ягоныя добрыя і благія ўчынкі: любоў і нянавісць, мір і вайну, забойствы і літасць, зайздрасць і спагаду, скупасць і шырыню натуры. Хочаш ці не хочаш, а рабі, што табе запраграмавана. Жах!.. Цікава, а электронны робат, які зроблены чалавекам, таксама пакутуе?.. Мабыць, пакутуе. Не можа не пакутаваць, калі яго, напрыклад, прымушаюць разлічваць траекторыю атамных ракет, якія нясуць атамныя зарады і павінны знішчыць цэлы народ. Бедалага робат, як хочацца яму паспачуваць!

На шчасце, барацьба ўласнай волі з чужой, якая не давала яму дзейнічаць, вялася нядоўга, магчыма, некалькі кароткіх імгненняў. Богша раптам адчуў, што правая рука падпарадкоўваецца ягонай, а не чужой волі, а ў галаве яркім промнем праблiснула разважлівая думка, што, бадай, ніякай здані або смерці няма, што ўсё гэта звычайная галюцынацыя, якая наявілася ад стомы. Варта яму, Богшу, запаліць святло, як галюцынацыя знікне, ператворыцца ў нешта зусім рэальнае.

Прызвычаеным рухам Богша працягнуў руку да выключальніка. Пальцы, аднак, не намацалі яго на прывычным месцы. Выключальнік кудысьці знік.

Дасюль Лазар Богша не зводзіў вачэй з жанчыны. Яму думалася, што як толькі ён адвядзе вочы, дык яна прападзе, растворыцца ў цемры, што панавала ў зале. Цяпер, калі рука не намацала выключальнік, Лазар Богша міжволі вымушаны быў адвесці вочы, каб знайсці той чортаў выключальнік.

Ён крута павярнуў галаву і ледзь стрымаўся, каб не закрычаць ад яшчэ большага жаху, які зведаў дасюль: за ягонай спіной, пад нагамі, зеўрала страшэнная бездань...

Богша інстынктыўна адступіў крокі два назад, каб часам не зваліцца ў тую бездань ад якога нязграбнага руху. Адначасна ён спрабаваў зразумець, што ж здарылася з той часткай ягонай кватэры, на месцы якой цяпер зеўрала бездань.

Бездань знікала ў недасяжных глыбінях, а пачыналася якраз на тым месцы, дзе стаяла капітальная сцяна, што

адгароджвала пакоі ад прасторнага калідора. Цяпер калідора, усёй паўднёвай палавіны іхняга пяціпавярховага дома, бадай, не існавала. Затое нейкім цудам засталася палавінка дзвярэй, зашклёных матавым узорчатым шклом, што вялі з калідора ў залу. Дзвярына свабодна вісела над безданню. Яна нават злёгку гайдалася, можа, ад подыхаў ветру. Жудаснае відовішча для чалавека, які не страціў розум. Дзвярына над безданню!..

Богша найперш падумаў, што цяпер ён не можа трапіць ні ў свой кабінет, ні ў спальню, ні на кухню або ў ванны пакой, бо ісці туды трэба калідорам, які праглынула бездань. Богша воляй няволяй павінен быў заставацца ў зале, сам-насам з незнаёмай жанчынай.

Божа, як яны з Любай некалі радаваліся, што пакоі іхняй кватэры асобныя, а не сумежныя — мода дваццатага стагоддзя ўсё і ўсіх раз'ядноўваць гмахамі, пад'ездамі, калідорамі з жалезабетону, які добра прапускае ў кватэры і з кватэр любыя гукі, нават самыя інтымныя. Зрэшты, а што засталося ад славутай інтымнасці, якой так ганарылася чалавецтва? Усё навідавоку, усё чутно і ўсё раздзелена на клеткі. Парадокс часу: хавацца па клетках, якія гукадасяжныя і празрыстыя, нібы акварыумы.

Запозненая думка працяла Богшу. Так, напэўна, працінае здагадка ўсю істоту грэшніка, калі той трапляе ў пекла: раптам пачынае разумець, што вяртання назад няма, трэба адказваць за свае грахі, якія некалі лічыў забавамі і радасцямі жыцця. Жахлівае адкрыццё!

Хоць і не толькі жахлівае. Ёсць яшчэ і адваротны бок: звычайная чалавечая цікаўнасць — трэба добра агледзець новы дом свайго вечнага зняволення, хай гэта будзе пекла ці нават рай...

Лазар Богша таксама паспрабаваў, наколькі гэта было магчыма, добра прыгледзецца да бездані: што яна такое, а можа, і ў ёй ёсць нейкія берагі? Нядаўні страх, што быў скаваў яго, незаўважна адступіў, і Лазар Богша здолеў адзіным позіркам ахапіць неабдымную прастору, якая сапраўды не мела выразных межаў і чымсьці нагадвала шахматную дошку з трохмернымі кубікамі, а не двухмернымі клеткамі. Кубікі таксама выглядалі, бадай, без канца і краю, але бачыліся наскрозь даволі выразна, нібы адлітыя са шкла.

Такому адкрыццю сапраўды можна было падзівіцца. Але ўжо нешта, яшчэ больш дзіўнае, захапіла Богшу: кожны кубік трохмернай прасторы, а магчыма, кожная кропка

гэтай прасторы змяшчалі ў сабе адбітак нейкіх падзей у іх няспынным руху: нараджэнне, развіццё, старэнне, знікненне, нараджэнне нечага новага. То быў непарыўны цыкл, можа, нейкае жыццё, ва ўсякім выпадку, нейкае існаванне чагосьці дужа рэальнага ад пачатку і да канца, які станавіўся новым пачаткам, а можа, канцом чагосьці, што патрабавала ўвагі, а можа, і не патрабавала ўвагі, бо не мела сэнсу ў тым значэнні, якім чалавек навучыўся яго разумець.

Знешне прастора-бездань нагадвала галаграфічны адлюстровак, які да ўсяго не застыў у сваёй статычнасці, а няспынна рухаўся, як адлюстровак кінастужкі на белай прасторы аб'ёмнага экрана.

Лазар Богша раптам здагадаўся, што бясконцасць у вечным руху і ёсць чацвёртае вымярэнне — Час,— якое ніколі не знікае бясследна. Дык вось якое яно, чацвёртае вымярэнне! Вялізнае і жудаснае. Падзеі разгортваліся ў ім у бясконцасці кубікаў, і былі яны такія розныя, такія несумяшчальныя, узаемасупрацьлеглыя, што станавілася горка і крыўдна: хто мог змясціць побач такія розныя падзеі, нібы назнарок, каб падкрэсліць імгненную няўстойлівасць адных і пачварную пастаяннасць другіх?

Побач з мноствам кастроў, на якіх гарэлі людзі, суседнічалі багатыя балі, што тут жа змяняліся жудаснымі бітвамі, ад якіх кроў застывала ў жылах; чалавечыя ахвярапрынашэнні, калі маладому чалавеку каменным нажом рассякалі грудзі і даставалі сэрца, якое яшчэ трапятала на далоні жраца, знаходзіліся побач з філасофскімі дыспутамі старажытных вучоных аб вечнай любві і гармоніі; бязлітасныя ў сваёй лютасці гладыятарскія баі — з крыкамі хакейных балельшчыкаў...

Кожны кубік уяўляў нейкі жывы, рухомы малюнак, часам больш пачварны за карціны Сальвадора Далі. Тыя хоць заставаліся на вякі нерухомыя.

Дзікія пажары, у якіх гінула ўсё жывое, суіснавалі з ідыліяй сонечнай раніцы, у якой чуўся перазвон кос і рыпенне калодзежных жураўлёў; барадатыя страшылішчы руйнавалі крэпасць у той час, як другія складвалі з чарапоў піраміды пад самае неба; голы пастух забаўляўся з такой жа голай пастушкай, і ім было вельмі хораша і весела, а тут жа закопвалі ў зямлю жывых прыгожых жанчын, і яны каналі на вачах шчаслівых людзей, што назіралі за пакараннем няшчасных.

Можа, ад гэтых кантрастаў асабліва выразна, да сар-

дачнага болю, успрымаліся чалавечыя беды і да кружэння галавы, да салодкай знямогі — чалавечыя радасці.

Лазар Богша раптам пачуў яшчэ, што ўся прастора прапахла, прасмуродзела, прачадзела сумессю разнастайных пахаў, якія немагчыма ўявіць у рэальным жыцці.

«Што гэта? — падумаў Богша.— Можа, я памёр? Ці звар'яцеў? Няўжо я бачу чалавечую гісторыю, нікім не прыгладжаную, непадладжаную пад нейкія патрэбы, а такую, якой яна была? Кроў, пот, слёзы і, нібы дыяменты на зрэб'і, зрэдку палацы і храмы, уробленыя палі і статкі жывёлы, сінь азёраў і зеляніна лясоў, якія таксама знікаюць перад вачамі — не паспее нарадзіцца, як трэба паміраць. Веліч і бясслаўе, беднасць і раскоша, слава і ганьба, жыццё і смерць — усё непадзельна, як адна плынь, якая невядома куды і дзеля чаго плыве ў няспынным сваім імкненні наперад, а можа, назад, у невядомасць, з якой толькі што паявілася...»

Лазара Богшу агарнулі гаркота і сум, якія нейкім чынам прараслі ў ім надзеяй на збаўленне.

— Ну што, наглядзеўся? — спытаўся ў яго жаночы голас.— Не захацеў бы аказацца богам-тварцом, каб кожнае імгненне любавацца тварэннем сваіх рук? Во ўжо бязлітасная і вечная кара! Спачатку ў гордасці сваёй — усё магу! — стварыць нязбытную мару — рай для разумных істот, а потым задні́м розумам спасцігнуць усю абсурднасць ідэі аб зямным раі. Не, большай кары не прыдумаеш! Спадзяешся стварыць прыгажосць, хараство, гармонію, а ствараеш сусветны кавардак з дзікімі забойствамі, здзекамі, манаю, прытворствам і ўсімі іншымі заганамі, якіх на зямлі безліч і якія называюцца адным словам — зло. Я часта думала пра гэта ў келлі Сафійскага манастыра і потым, калі мяне выслалі з Полацка, каб не бунтавала людзей. А як я магла бунтаваць? Я проста думала ўголас, бо сама яшчэ не ведала, дзе шукаць ісціну. Мне хацелася садзіцца да аналоя з чыстым сэрцам, каб засведчыць на тысячагоддзі праўду пра свой час. Хто ж пра яго скажа праўду, калі не сучаснік?

Лазар Богша з душэўным трапятаннем слухаў самотны маналог жанчыны, баючыся павярнуцца на такі знаёмы голас. Ён здагадваўся, што жанчына і ёсць тая здань, якую ён пакінуў сядзець на крэсле ў зале і якую ўбачыў, калі зайшоў сюды колькі хвілін назад. А здань гэтая — Ефрасіння Полацкая, якая везла яго на той свет. Не, Лазар Богша зусім не баяўся, што Ефрасіння Полацкая зноў

павязе яго ў замагільны свет — такое было б падобна на дрэнны фарс,— Лазар Богша баяўся, што вобраз, створаны ім на экране, зусім не падобны на рэальную Ефрасінню Полацкую, якую ён мог зараз пабачыць. Што можа быць горш за расчараванне ў сваёй працы, якую песціў у душы ўсё жыццё?..

Але ж і стаяць вось так над безданню не выпадала. Ён жа, Лазар Богша, не які там вахлак, а божай міласцю паэт, рэжысёр і акцёр...

Ён паварочваўся паволі, як у замаруджанай здымцы. Рух толькі адчуваўся, але не быў бачны. Богшу здавалася, што ён ніколі не зробіць таго паўабарота, каб убачыць Ефрасінню. Але яна ўзнікла перад ім, выплыўшы аднекуль з цемры, як выплывае на неба месяц-поўня. Твар яе быў асветлены нябачнымі промнямі. Богша бачыў яго выразна.

Дзіўна, Ефрасіння была падобна на актрысу як дзве кроплі вады. Гэтае знешняе падабенства ўзрадавала Богшу. Яму нават падумалася, што ў крэсле сядзіць актрыса, а не Ефрасіння. Думка цалкам завалодала ім. Яна ўрэшце нешта растлумачвала. Актрыса прыехала і адразу з цягніка прыйшла да яго на кватэру, бо ён даў ёй ключ. Пабачыўшы, што ён яшчэ спіць, актрыса не стала будзіць яго, села ў крэсла і заснула.

Ніякіх загадак. Нічога звышнатуральнага. Усё проста як божы дзень!

«Як жа яе завуць? — падумаў Богша. Імя актрысы, як на злосць, вылецела з галавы.— Старасць — не радасць. Хутка забуду, як завуць уласную жонку».

Нагадак пра жонку адразу паставіў усё на сваё месца: ролю Ефрасінні выконвала ягоная жонка, Люба! Чорт ведае што робіцца з ім апошнім часам! А ўсё гэтае тузанне з фільмам. Тут і здаровы чалавек можа з'ехаць з глузду. А ён хіба нездаровы? Толькі таму, што баліць галава? Ные сэрца? Дык калі не балела галава? Калі не ныла сэрца? Кіношнік заўсёды працуе на мяжы сваіх фізічных сіл...

Ён яшчэ раз глянуў на Ефрасінню і цяпер добра разгледзеў, што Люба нікольki не падобна на яе. Тады, можа, і гэтая жанчына не Ефрасіння?

— Хто вы? — спытаўся ён дрыготкім — аж самому было агідна — голасам.

— Лазар Богша,— сказала жанчына, умольна склаўшы рукі на грудзях,— я Ефрасіння Полацкая. І дзеля ўсяго святога, не трэба са мной на «вы». Я прыйшла, каб засцерагчы цябе...

— Мяне? Засцерагчы?.. Ад чаго?..

— Ад самаўпэўненасці,— спакойна адказала Ефрасіння.

— Я не Кірыла Лыкавязаў,— заспрачаўся Богша.— У таго сапраўды самаўпэўненасці на дзесяцярых.

— Усе мы, Лазар Богша, хварэем на самаўпэўненасць, а таму ўвесь час спатыкаемся.

— Кірыла Лыкавязаў не спатыкаецца, хоць ён самаўпэўнены,— стаяў на сваім Лазар Богша.

— Гаворка не пра Кірылу Лыкавязава, а пра цябе.

— Табе проста, дужа лёгка разважаць на адвольныя тэмы,— з дакорам сказаў Богша.— Для цябе Кірыла Лыкавязаў такая ж абстракцыя, як для мяне епіскап полацкі дванаццатага стагоддзя. А для цябе епіскап полацкі — канкрэтны чалавек, зло, якое табе было не перамагчы.

— Епіскап полацкі зрабіў мяне святой,— сказала Ефрасіння, быццам Лазар Богша ведаў пра гэта, але забыўся.

— Ну, гэта ты дарэмна,— не паверыў Богша.— Хутчэй было наадварот. Ён так прыцясняў цябе, што ты вымушана была збегчы ў Візантыю.

— Нічога ты, Лазар Богша, не зразумеў,— упікнула Ефрасіння.— А ўсё таму, што лішне самаўпэўнены.

Богша не стаў спрачацца. Не варта губляць час на пустую палеміку. Хіба мала страчана яго на розных пасяджэннях, мастацкіх саветах, у прэзідыумах, на сходах, парадах, «круглых сталах», сімпозіумах і яшчэ чортведама на якіх пасядзелках! Чвэрць жыцця — не менш! Годзе! Калі ўжо надарыўся выпадак, што да яго завітала сама Ефрасіння Полацкая, дык варта распытаць у яе пра тое, што невядома не толькі яму, рэжысёру Лазару Богшу, але цэламу зборышчу гісторыкаў.

Лазар Богша сеў у крэсла насупраць Ефрасінні. Яму падумалася, што не зашкодзіла б зварыць каву, але ён успомніў пра бездань, якая зеўрала на месцы кухні. Кавы, на жаль, не заварыш. Не было і цыгарэт. Здаецца, у серванце стаяла бутэлька каньяку. Богша падышоў да серванта — той быў пусты. Ну вось, безалкагольнае і бестытунёвае жыццё, хоць станавіся прэзідэнтам адразу двух добраахвотных таварыстваў.

Усё гэта скіроўвала Богшу на ваяўніча-іранічны лад. А што рабіць чалавеку, які пазбаўлены ўсіх уцех адразу, калі не насміхацца над сабой ці над сваім блізкім?

— Цікава было б глянуць, як жа ў тыя гады рабілі святых? — насмешліва спытаўся Богша.— Пры жыцці ці

пасля смерці?.. Пры жыцці, мне здаецца, рабіць чалавека святым вельмі небяспечна. Чалавек дужа слабы, каб вытрымаць выпрабаванне святасцю. Усе на яго моляцца. Кожнае, нават самае бязглуздае слова падхопліваецца тымі, хто верыць без аглядкі, і тымі, каму выгадна падхопліваць слова святога, хоць яны і не верадь у ягоную святасць.

— Не выскаляй зубы, Богша,— папрасіла Ефрасіння.— Чалавек паяўляецца ў жыцці на кароткае імгненне, як знічка ў небе, але след ягоны можа быць у мільён разоў ярчэйшы і даўжэйшы за след знічкі.

— І пажартаваць нельга,— пакрыўдзіўся Богша.— Мяне за жывое ўзялі твае словы пра бога-тварца. Усе мы тварцы і, на жаль, таксама не ведаем, што ствараем.

— На цябе гэта непадобна,— усміхнулася Ефрасіння.

— Я не Кірыла Лыкавязаў,— заспрачаўся Богша.— Той заўсёды ведае, што і дзеля чаго стварае. А мяне вечна грызуць сумненні, аж хочацца кінуць-рынуць усё і пайсці сеяць хлеб.

— Таксама не апошні занятак,— адгукнулася Ефрасіння.

— Тады дзе ісціна? — спытаўся Богша.

— Ідзі за мной,— загадала Ефрасіння.

Яна лёгка паднялася з крэсла, прайшла паўз Богшу з грацыёзнасцю балерыны, падалася на калідор, якога не было. Богша спалохаўся, што Ефрасіння не заўважыць бездані і праваліцца ў яе. Ён хацеў запыніць яе, але не паспеў. Ефрасіння адарвалася ад падлогі і растварылася ў прасторы, як, бывае, знікае чалавек у густым тумане.

Богша падхапіўся з крэсла. У яго моцна калацілася сэрца. Ён падбег да бездані — у ёй па-ранейшаму існаваў няспынны рух, а ўсё пражытае чалавецтвам жыццё праходзіла на вачах у Богшы, нібы ён быў бессмяротны творца, а не смяротны чалавек.

Знайсці Ефрасінню ў гэтым тлуме было не лягчэй, чым іголку ў адным з мільёнаў стагоў сена, раскіданых на паплавах зямлі. Але ён не мог не рынуцца на пошукі. Было б зусім подла кінуць жанчыну адну ў неабсяжнай бездані.

Лазар Богша заплюшчыў вочы, зрабіў тры крокі, пачуў, што ногі ўжо не кранаюцца падлогі, а цела ляціць у прасторы з дзіўнай бязважкасцю, ад якой троху млосна, але і хораша.

## 2

Лазар Богша заплюшчыў вочы, зрабіў тры крокі, пачуў, што ногі ўжо не кранаюцца падлогі, а цела ляціць у прасторы з дзіўнай бязважкасцю, ад якой троху млосна, але і хораша.

Палёт гэты працягваўся нядоўга. Богша пачуў сябе такім маленечкім, што нават няможна было ўявіць фізічныя свае памеры — іх, папраўдзе, наогул не было. Яны толькі адчуваліся, як успамін пра нешта. Так адчувае чалавек адрэзаную нагу ці руку. Яе ўжо няма, але яна яшчэ ёсць у ягоных адчуваннях. Затое зусім натуральна жыла ягоная свядомасць, якая заставалася ў тым жа, як і раней, аб'ёме, але ўжо раскаваная ад сваёй абалонкі, а таму незалежная і смелая.

«Ну во, для іх я цяпер загінуў»,— падумаў пра кіношнікаў Богша.

Раскутым сваім розумам Лазар Богша ўбачыў сябе ў цэнтры маленечкага шара, які круціўся з шалёнай хуткасцю, так што яе, уласна кажучы, і нельга было заўважыць.

«Я апынуўся ў цэнтры «чорнай дзіркі», пра якую на зямлі расказвалі столькі дзівосаў. Па тэорыі ўсё, што трапляе ў гэтае, да апошняй мяжы сціснутае рэчыва, ужо не можа вырвацца ў Сусвет. Тут, за абалонкай гэтай фантастычнай зоркі, звышшчыльнай і звышцяжкай, нябачанай ні чалавечаму воку, ні магутнаму тэлескопу, адсутнічае нават час. Выходзіць, трапіўшы сюды, я стаў бессмяротны. Як проста стаць бессмяротным! Мы там, на зямлі, гатовы на розныя хітрыкі, абы застацца бессмяротным у памяці пакаленняў, а тут ніякіх намаганняў — цябе без аніякага болю праглынула «чорная дзірка» — і ты ўжо бессмяротны. Эй, вы, хто імкнецца да бессмяротнасці, хадзіце сюды!.. Толькі тут вы станеце сапраўды бессмяротнымі, а ўвесь астатні Сусвет з яго прасторава-часовымі суадносінамі застанецца недзе за межамі шварцшыльдаўскай сферы, якая акружае гэтае дзіва — «чорную дзірку».

Лазару Богшу думалася надзіва лёгка, пад нейкую звышсучасную музыку — праніклівую і тонкую,— якая была яшчэ аб'ёмнай і ўсёабдымнай. Яму хацелася адключыцца ад думак, слухаць музыку, але невядома адкуль узніклыя думкі перамаглі гэтае жаданне адключыцца ад іх.

«Дык я памёр ці стаў бессмяротны? — задумаўся Лазар Богша.— Мой розум прадаўжае існаваць, значыць, я не

памёр. Але маё разуменне законаў Сусвету прымушае думаць, што я ўсё ж памёр. А памёршы, стаў бессмяротны, хоць у гэтым няма ніякай логікі. Не павінна быць логікі, хоць яна ёсць. Ці мала бывала так, што пры жыцці чалавека ніхто не ведаў, а пасля смерці ён станавіўся не проста славутым — проста славутасць гэта мыльная бурбалка, якая ляціць у паветры ды яшчэ і пераліваецца колерамі вясёлкі,— а бессмяротным».

Лазар Богша чапляўся за ўрыўкі нейкіх думак, нібы яны падводзілі яго да чортведама якога вялікага адкрыцця. Толькі адкрыццё тое не давалася яму ў рукі, як тая казачная жар-птушка. Аж ён пачаў злаваць.

«Чакай-чакай,— сказаў ён сам сабе,— калі ў «чорнай дзірцы», дзе я зараз знаходжуся, адсутнічае час, дык выходзіць, што памёр і час. Што ж тады засталося? Мая свядомасць, уласцівасць думаць? Значыць, розум непадуладны смерці? Ён вечны. Але ж такое не бывае. Розум не можа існаваць асобна ад чалавека. А чаму не можа? Хто давядзе, што разам з чалавекам у Сусвеце знікне і розум? Чалавек толькі адна з абалонак для розуму. Тады ўзнікненне жыцця на зямлі і з'яўленне чалавека на ёй было не шчаслівай выпадковасцю, а неабходнасцю, прыстанішчам розуму».

Адкрыццё гэтае вельмі здзівіла Богшу. Думаеш, ламаеш галаву, вынаходзіш складаныя рашэнні і формулы, а адказ ляжыць побач. Ён просты, нават банальны. Можа, некалі чалавецтва, падышоўшы да канца свайго існавання, раптам адкажа на вечнае і пакутлівае пытанне: дзеля чаго яно паявілася на зямлі?

Можа, ад думак, а можа, ад таго, што шар, у якім знаходзіўся Лазар Богша, круціўся з шалёнай хуткасцю, яго крыху блажыла. Ён падумаў, што такая вялікая хуткасць некалі можа разбурыць «чорную дзірку». Тады ён, Лазар Богша, вырвецца ў Сусвет, як бы народзіцца нанава. Але на зямлю ён, бадай, ужо ніколі не вернецца. Дык ці варта тады чакаць гэты выратавальны выбух? Для зямлі, сваёй краіны, горада, дзе жыў, кінастудыі, на якой працаваў, сям'і, у якой праводзіў час, ён памёр, знік з твару зямлі назаўсёды. Год, дзесяць, пяцьдзесят, хай нават сто гадоў, яго яшчэ будуць памятаць, а потым і памяць зарасце травой забыцця. Ды і ці мае гэта нейкі сэнс?.. Божа, які гэта няўстойлівы прывід — слава, прызнанне!

У гэтым безвыходным становішчы заставалася адно: змірыцца — самы непрымальны варыянт для сумленнага

чалавека, творцы, партызана, які і ў фашысцкім лагеры смерці не зміраўся з гвалтам і асуджанасцю, змагаўся за сябе, за сваю чалавечую годнасць. Але там ён быў не адзін. Тут — нікога поплеч. Толькі сціснутае, спрасаванае гравітацыяй рэчыва, якое і назваць рэчывам было рызыкоўна.

Лазар Богша раптам з болем у сэрцы падумаў пра вязняў свету ўсіх часоў і народаў, якіх змяшчалі ў непрыступныя муры, у глухія камеры-адзіночкі, куды не пранікаў ніводны гук, апрача гуку крокаў турэмшчыка, на ўсё іхняе жыццё. Якая гэта жахлівая кара быць адлучаным ад сябе падобных.

І ўсё ж вязень меў хоць нейкае спадзяванне. У Богшы ніякіх надзей не было. Колькі будзе круціцца «чорная дзірка», столькі і ён будзе тырчаць у ёй. А калі яна і разваліцца. Што чакае яго?

«Гэта хана»,— уголас падумаў Богша, успомніўшы тое, яшчэ даваеннае слоўца, якое азначала бясслаўны канец. Яно дужа дакладна вызначала ягонае становішча.

— Слухаю і вушам не веру: няўжо разумная істота? — раптам пачуўся чыйсьці басавіты голас, які, здалося, ішоў адразу з усіх бакоў, нібы гаварыў не адзін чалавек, а вялізны хор.

Богша, які так хацеў пачуць чалавечы голас, нечага спалохаўся. Яму стала страшна, як бывае страшна чалавеку, які паклікаў чорта, цвёрда верачы, што яго няма, а чорт тут як тут са сваім агідным аблічам.

Але разам са страхам ажыла і кволая жаданая радасць. Выходзіць, ён, Богша, не адзін, хто трапіў у гэтую «чорную дзірку». Хай гэта будзе хоць чорт, хоць яшчэ якая поскудзь. Удвух яны нешта прыдумаюць, каб на злосць астраномам, астрафізікам, стваральнікам вар'яцкіх гіпотэз, якія нельга ні даказаць, ні абвергнуць, выбавіцца з гэтага небяспечнага цела, якое назвалі «чорнай дзіркай». Няўжо не маглі прыдумаць нейкую іншую назву? Фантазіі на розныя гіпотэзы хапіла, а на назву не засталося.

Злосць на вучоных вярнула Богшу развагу: а што, калі пачуты голас усяго толькі галюцынацыя?

— Хто ты? — спытаўся Богша, спадзеючыся, што ніхто яму не адкажа.

Аж не...

— Бог,— пачуўся ў адказ басавіты голас.

— Бог? — не паверыў Богша.— Не дуры галавы. Ты — міф, выдумка цёмных людзей...

— Табе не паложана сумнявацца,— пачулася ў адказ.— Ты абавязаны верыць... Усяму... Зразумеў?.. І наогул, хто ты такі, разумнік, і як са мной размаўляеш?..

Богша азірнуўся. На валуне сядзеў дзядок у белых портках і такой жа белай кашулі, з ядлоўцавым кійком у руках, на які ён абапіраўся сівым клінам-бародкай. Гэта вельмі здзівіла Богшу.

— А як мне не засумнявацца,— адчуў упэўненасць і смеласць Богша.— Казалі, што ты волат, аж страшна на цябе глянуць. А ты як ліліпут ва ўзросце аднаго года.

— Усё адносна,— па-філасофску зазначыў бог.— Калі б ты мог глянуць на сябе, дык убачыў бы, што ты ростам такі ж малы, як электрон. Але якраз з гэтай самай прычыны ты не можаш сябе ўбачыць без электроннага мікраскопа. А глядзець на сябе праз мікраскоп, пагадзіся, яшчэ нікому не ўдавалася.

— Сапраўды, я не бачу сябе,— пагадзіўся Богша.— Тады адкажы мне на адно пытанне: хіба можна, каб чалавек не бачыў сябе?

— Усё на свеце падуладна богу, значыць, мне,— пахваліўся бог.

— Калі так,— узрадаваўся Богша,— дык вызвалі мяне з гэтай «чорнай дзіркі». У мяне фільм не здадзены, а на студыі план трашчыць... Людзі без прагрэсіўкі застануцца.

Бог няўцямна пазіраў на Богшу, нібы той гаварыў чорт ведае пра якія складаныя філасофскія праблемы.

Бог паклаў кіёк, правёў па твары рукамі, нібы мусульманін, які чыніць намаз.

— А ты, уласна кажучы, з якой галактыкі? — спытаўся ён з асцярогай.— Ці, можа, прыляцеў з антысусвету, які пачынаецца на адлегласці дзесяці ў саракавой ступені, узведзенай у куб, светавых год.

Цяпер ужо Богша заміргаў вачамі ад здзіўлення. Хто сядзіць перад ім? Калі бог, дык павінен жа ён ведаць, дзе жывуць людзі? А можа, гэта і не бог, а нейкі звар'яцелы тэарэтык. Дык жа і чокнутаму тэарэтыку павінна быць вядома, што такіх неўявіма вялікіх лічбаў у прыродзе не існуе.

«Ва ўсякім разе,— падумаў Богша,— трэба трымацца з насцярогай. Ляпнеш што-небудзь не так, і гэты «бог» сыграе з табой такое сола, што да канца свету не апамятаешся. Самае лепшае ў такіх выпадках гаварыць праўду. Калі і загінеш, дык за яе. А гэта і ганарова і абнадзейвае».

— Я з Зямлі — планеты сонечнай сістэмы,— адказаў ён.

Бог са жвавасцю хлапчука саскочыў з валуна, абабег вакол Богшы па вельмі выцягнутай эліпсавай арбіце.

— Няўжо з Зямлі? — спытаўся ён, пазіраючы на Богшу з цікавасцю і недаверам.— З той самай планеты, што круціцца вакол Сонца па трэцяй ад яго арбіце? У яе яшчэ ёсць спадарожнік. Месяц, здаецца...

— Абсалютна дакладна,— пацвердзіў Богша.

— І што там у вас на Зямлі дзеецца? — ад нецярплівасці бог аж не мог устаяць на адным месцы.

Ягонае гэтае пытанне, такое натуральнае ва ўмовах зямнога быцця, тут прагучала дурнавата. Усемагутны бог, які ўсё ведае, усё бачыць, сочыць за кожным чалавекам, недасведчаны, што робіцца на створанай ім Зямлі. Ну і кіраўнік! Забраўся ў «чорную дзірку» і не шманае...

Так бы і сказаць богу! Але Богша ў час успомніў, што ён, нейкім чынам, прадстаўнік слаўнага роду зямлян, а таму яму нельга паказваць сябе гэткім нявыхаваным тыпам. Стрымлівала і другое. Можа, бог правярае яго. Таму на богава пытанне ён адказаў стрымана, хоць і няпэўна:

— Нічога асаблівага не дзеецца. Жывём патроху.

Бог з недаверам глядзеў на Богшу, нібы на якую здань.

— І шмат вас такіх, як ты, на той зямлі?

— Ды недзе мільярды чатыры,— адказаў Богша.

— Не можа быць! — замахаў рукамі бог.— Хоць забі — не паверу!..

Цяпер Богша не сумняваўся, што перад ім не бог, а ліха ведае хто. Ён адчуў сваю перавагу над самазваным богам. Можна было трымацца з ім на роўнай назе.

— Паслухай, бог,— з уласцівай яму іроніяй загаварыў Богша,— у нас, на Зямлі, пра цябе такога напляслі. Што ты і ўсемагутны, і ўсёведаючы, і ў кожнага чалавека, лічыш не толькі бачныя, але і нябачныя грахі. А ты!.. Глядзіш на мяне, нібы я зваліўся з Месяца.

— Плесці розныя небыліцы вы, мабыць, умееце,— сказаў бог.— Я гэтую вашу здольнасць заўважыў адразу. Хлусы, якіх не бачыў ні сусвет, ні антысусвет.

— Ну-ну, не вельмі выступай,— пакрыўдзіўся за сваіх аднапланецян Богша.— Калі хочаш ведаць, дык міфы і паданні — гэта народная творчасць на ранняй стадыі першабытнага грамадства. Чалавецтва прайшло нялёгкі шлях свайго развіцця, і яму патрэбна была аддушына ў

цяжкім жыцці. Ён і стварыў міфы пра цябе. Часам прыгожыя, часам страшныя...

— Вы што, авалодалі ўменнем сачыняць мастацкія творы?.. У вас ёсць інтэлектуальная культура?..

— А чаму ты здзіўляешся? — спытаўся Богша.— Усё ў нас ёсць...

— Ну і дзіва,— пачухаў галаву бог і сеў на валун, дастаў з-за пазухі капшук, насыпаў у піпку махры, прыкурыў, здаецца, ад маланкі, а можа, электрычнага разраду.— Справа ў тым, што і вас і ўсё на вашай гэтай планеце Зямля ствараў я сам...

— Не хлусі,— спыніў яго Богша.— Не хлапчук ужо, а вярзеш абы-што.

— Каб мне з гэтага месца не ўстаць,— пакляўся бог.— У мяне тады ўзнікла ідэя правесці адзін навуковы эксперымент. Датуль я таксама ствараў розныя абалонкі для змяшчэння ў іх розуму. То былі моцныя істоты, прыстасаваныя да самых экстрэмальных умоў. На жаль, яны не адпавядалі задуманым стандартам. А такія ўжо былі ў антысусвеце. Маім не хапала, я сказаў бы, разумнай гібкасці і гібкай кантактнасці, хоць ставала глыбіні і універсальнасці. Моцны розум і універсальнасць аказаліся таксама недахопам. Я пераспрабаваў шмат варыянтаў. Істоты з моцным розумам і абалонкай даводзілі цывілізацыі да апошняй мяжы пазнання. Але ў іх чагосьці не хапала. Гэта быў вельмі разважлівы і моцны розум у вельмі дасканалай абалонцы. І толькі. Вось тады ў мяне і саспела задума паэксперыментаваць на біялагічнай аснове. Я прадбачыў, што эксперымент гэты дужа небяспечны, але спакуса была вялікая. Я не ўтрымаўся. Спачатку, вядома, аблюбаваў на краі адной галактыкі невялікую зоркавую сістэму з дзесяці планет...

— Чаму з дзесяці? — спытаўся Богша, зноў злавіўшы бога на тым, што ён не вельмі дакладна ведае тое, пра што гаворыць з такой упэўненасцю.

У Богшы зноў паявілася падазрэнне, што бог гэты нейкі прайдзісвет, які падрабіўся пад бога накшталт Грышкі Атрэп'ева, які вельмі праўдзіва іграў ролю царэвіча Дзімітрыя.

— А ты не перабівай,— грозна паглядзеў на яго бог.— Забыўся, з кім размаўляеш?

— А ты не брашы,— стаяў на сваім Богша.

Бог аж пляснуў у далоні.

— Я яго, можна сказаць, стварыў, а ён мне хаміць.

— Я не цярплю няпраўды,— аж крыкнуў Богша.— Надакучыла брахня. Наліха ты мне заліваеш, што планет у сонечнай сістэме дзесяць, калі іх усяго дзевяць?

— Май цярпенне даслухаць да канца,— супакоіў бог Богшу.— Ну і тэмперамент! Слова не скажы! Пазнаю тварэнне сваіх рук. Ніякай павагі да старэйшых. Гатовы таго, хто стварыў яго, узяць за бараду.

— Ну, годзе, давай сачыняй,— сказаў Богша.

— Во, гэта іншая справа,— узрадаваўся бог.— Дык слухай, што далей было. Стварыў я на той планеце жыццё. Ну, аддзяліў там ваду ад сушы, насяліў сушу звярамі, ваду — рыбамі, паветра — птушкамі. Гэта мне як плюнуць. Вопыт быў. Засадзіў глебу дрэвамі, засеяў травамі. Цяпер трэба было брацца за істоту, адпаведную маёй задуме. Ды тут да мяне нечакана з сяброўскім візітам завітаў самадзержац з антысусвету. Мы тады з ім канфліктавалі. Так што перагаворы меліся быць цяжкімі. Пачаліся банкеты, абеды, вячэры, прыёмы. Кантакты памалу наладжваліся. А калі зусім наладзіліся, я і падзяліўся з ім сваёй задумай. Выслухаў ён мяне ды і кажа: «Нічога, бог, не выйдзе. Я і сам спрабаваў праводзіць доследы на біялагічнай аснове. Жах, што атрымалася! Валасы дыбарам становяцца. Хочаш знішчыць вынікі свайго доследу і не можаш. Я тады ўсю антыпланету ўзарваў. Праводзь, вядома, дослед, але на ўсякі выпадак падумай, як потым пазбавіцца ад створаных табой істот».

Тут я не стрымаўся, запярэчыў. Кажу, маўляў, у цябе, самадзержац, можа, дослед не ўдаўся. Потым ты не хочаш улічыць, што ў нас розныя сістэмы, розныя светапогляды, розныя падыходы да творчасці.

«Усё гэта так,— пагадзіўся самадзержац,— а толькі паслухай мяне і пастаў гэтай тваёй істоце абмежавальнікі розуму. Каб ён не адразу праяўляўся, а пакрысе. Інакш створаныя табой істоты гэтую планету разам з табой узарвуць. Я наглядзеўся на іхнія фокусы. Хопіць аднаго самаўпэўненага вар'ята, каб знішчыў і сябе і ўсю галактыку».

Я зноў запярэчыў. Кажу самадзержцу: калі так зрабіць, як ты кажаш, дык мая істота на планеце і года не пражыве. Умовы на ёй цяжкаватыя.

«А ты сваю гэтую істоту спачатку пасялі ў спецыяльнай выгарадцы, каб прывыкла да цяжкіх умоў. Потым, як расплодзіцца, выпусціш з выгарадкі і паглядзіш, што атрымалася»,— параіў самадзержац.

Парада самадзержца мне спадабалася. Зрабіў я выга-

радку на планеце. Назваў яе раем. Потым дзве істоты стварыў, каб размнажаліся і каб сумна ім не было. Усё як след. Ды раптам у галаву цюкнула. Калі эксперыментаваць дык эксперыментаваць. Ствару я яшчэ дзве істоты. Такія ж кволыя, але з дужа моцным розумам, як і на іншых галактыках. Цікава паглядзець, якая з дзвюх пар акажацца найбольш аптымальная. Скажу шчыра, вымусіў мяне на такі эксперымент самадзержац. Падумаў я, што ён не проста так сабе даваў параду, а хацеў падштурхнуць мяне на няправільны шлях.

Стварыў я яшчэ адну пару. Пасяліў яе на пятай арбіце. Умовы там яшчэ горшыя былі, ды затое розум у істот разоў у сто тысяч мацнейшы.

Скажу адразу: абодва эксперыменты не ўдаліся. Тыя істоты з моцным розумам за кароткі час такога натварылі, што хоць у антысусвет імігрыруй. Я тую планету на пятай арбіце — Фаэтон — к чортавай матары ўзарваў. Іначай яны і да мяне дабраліся б...

— Ну, а што з тымі істотамі, што на Зямлі ў раі пасяліліся? — спытаўся Богша.

Бог доўга маўчаў.

— Зямныя стварэнні аказаліся таксама з вялікімі заганамі,— нарэшце сказаў ён.— Непаслухмяныя, сварлівыя, крывадушныя, усім незадаволеныя, прагныя, задзірыстыя, хлуслівыя. Адчыніў я загарадку і выгнаў іх у свет. Думаў, яны і года не пражывуць. Дык хіба не здзівішся, калі пачуеш, што істот тых на Зямлі чатыры мільярды? Як яны там маглі пракарміцца? Як не перабілі адна адну?..

Богшу гэта закранула за жывое.

— Дык вось яно што,— узгарэўся ён.— Стварыў нас на Зямлі і кінуў на волю лёсу. А сам у «чорнай дзірцы» схаваўся. Гіньце створаныя мной людзі. Дык гэта не проста амаральна, але і злачынна. За такую злосную безадказнасць судзіць трэба.

Бог разгубіўся. Мабыць, з ім яшчэ ніхто і ніколі так не размаўляў. Але паступова да яго вярталася ўпэўненасць. І ўжо ён пайшоў у наступ на Богшу:

— Табе добра гаварыць... А мне па няходжаных сцежках давялося ісці. Тут такіх дроў наламаць можна...

— Кінь хавацца за аб'ектыўнымі прычынамі. Не ўпэўнены ў маральнасці эксперымента, то не бярыся за яго,— абурана адказаў Богша.

— Не крыўдуй,— папрасіў Богшу бог.— Я сапраўды

рад нашай сустрэчы. Лепей раскажы мне пра зямныя вашы справы...

— На гэта спатрэбіцца шмат часу,— сказаў Богша.— А мне дамоў трэба. Ды хацелася яшчэ пабываць у Полацкім княстве дванаццатага стагоддзя.

— Пабудзеш. Гэта ў маёй сіле. І я табе цвёрда абяцаю. А цяпер сядай побач і расказвай,— папрасіў бог.

Шчыра кажучы, задача аказалася больш складаная, як здалося на першы погляд. З чаго пачаць? Не расказваць жа богу пра геалагічнае мінулае Зямлі, пра розныя мезазойскія і кайназойскія эры, пра мелавыя, трацічныя і чацвярцічныя перыяды, пра эвалюцыю ўсяго жывога на Зямлі ад найпрасцейшых арганізмаў да чалавека, калі бог перакананы, што стварыў усё сам, ды яшчэ застаўся незадаволены створаным.

Каб выхваляўся сваім умельствам, выстаўляў сябе творцам-геніем, які стварыў дужа дасканалую прыроду, Богша, вядома, не стрымаўся б, павыскаляўся б з ягонай самаўлюблёнасці. Тут надарылася абсалютна нетыповая для творчых работнікаў з'ява. Бог-творца наперакор прывычнаму быў незадаволены справай сваіх рук і гаварыў пра гэта абсалютна шчыра.

Лазар Богша пастараўся прыгадаць, ці сустракаў ён калі творцу, нават самага бяздарнага, які прызнаўся б, што ён зрабіў нешта нявартае ўвагі? Здаецца, не сустракаў. Бога за сваё самакрытычнае стаўленне да ўласнай творчасці можна было паважаць...

Не простым аказалася расказаць і вельмі сцісла гісторыю чалавецтва. Што яна такое, гісторыя? З якога боку да яе падступіцца?

Кінуўшы позірк у глыбіню стагоддзяў, Богша злавіў сябе на тым, што памятае фараонаў, цароў, імператараў, ханаў, шахаў, военачальнікаў, кіраўнікоў паўстанняў, ведае войны, якія яны вялі, бітвы, якія выйгравалі або прайгравалі. Але ж гісторыя гэта не толькі правіцелі і бітвы...

Дык пра што ён павінен гаварыць богу, каб той добра зразумеў, ад чаго і каго ён у свой час адступіўся? Богшу не хацелася паказваць чалавецтва, вываленым у брудзе і крыві. Яму хацелася ўзвысіць чалавечы род перад богам. Расказваць богу пра веліч і прыгажосць чалавека і ўсяго чалавецтва. А веліч і прыгажосць чалавецтва зусім не стасуюцца да войнаў і бітваў, як бы іх ні называлі ў гісторыі, бо гэта кроў, калецтва, гвалт, слёзы, смерць. А майстэрства палкаводцаў? Што гэта як не ўменне забіваць людзей, каб

потым справіць пір на касцях пераможаных. Яно магло выклікаць у бога агіду і раскаянне, што ў свой час не ўзарваў і Зямлю, закончыўшы тым самым эксперымент на біялагічнай аснове.

Богшу не хацелася даць богу хоць маленечкі шанец на апраўданне. Хай бы адчуў, што кідаць створаную ім жа істоту, а тым больш узрываць планету не толькі амаральна, але і злачынна.

Тады пра што ён павінен расказваць богу? Хіба пра духоўную культуру чалавецтва? Але ж і ў ёй гучыць водгулле крывавых войнаў і бітваў. Вядома, гучыць, але на якой ноце? Во ў чым сакрэт. Во чаму такі жывучы старадаўні эпас розных народаў. Сакрэт — у ноце дабра і справядлівасці, якімі прасякнуты паданні і міфы, быліны і сказанні. На ёй, адной гэтай ноце, створана ўся народная культура.

У Лазара Богшы была магутная памяць на паэтычныя творы. Ён ведаў ледзь не ўвесь старажытны індыйскі эпас, паэтычныя міфы Сярэдняй Азіі, «Іліяду» Гамера, «Песню песняў» Саламона, скандынаўскія сагі, фінскую «Калевалу», нямецкую «Песню пра Нібелунгаў», цудоўныя сказанні амерыканскіх індзейцаў і, вядома ж, рускія быліны і самы цудоўны помнік усходнеславянскай культуры — «Слова аб палку Ігаравым».

Богша з натхненнем чытаў урыўкі з шэдэўраў сусветнай літаратуры, каменціраваў іх, усяляк падкрэсліваючы высокі духоўны ўзровень чалавецтва. Сапраўды, было што чытаць, пра што расказваць. Можа, толькі тут, у гэтай «чорнай дзірцы», Богша і сам, як ніколі раней, адчуў веліч чалавецтва, яго духоўную сілу і моц, ягоную прыгажосць і непаўторнасць і не ў тым, што яно вынайшла порах, гармату, кулямёт і розныя складаныя машыны, якія выпрацоўваюць усё гэта на згубу чалавецтва, а ў тым, што стварыла помнікі архітэктуры, скульптуры, карціны, песні і паданні — памяць пра сябе і свае пачуцці.

На жаль, ён мог ілюстраваць свой расказ пра культуру чалавецтва толькі паэтычным словам. Гаварыць пра выяўленчае мастацтва, музыку і архітэктуру ён не хацеў. Баяўся, што не хопіць дакладных і вобразных слоў, каб данесці да бога і гэтыя здабыткі чалавечага генія. Таму ў канцы свайго чытання паэзіі Богша коратка сказаў богу: «А чалавецтва яшчэ стварыла найвыдатнейшыя шэдэўры жывапісу, скульптуры, архітэктуры, музыкі, расказваць пра якія нельга бездапаможнымі тут словамі. Музыку трэ-

ба слухаць, а творы выяўленчага мастацтва — глядзець. Але павер мне, яны бываюць мацней за слова».

Бог сядзеў уражаны пачутым. Ён плакаў.

Можа, яму было сорамна, што некалі не разгледзеў у кволай істоце, якая сапраўды мела мноства заган і недахопаў, такі патэнцыял інтэлекту, пра які ён, бог, не мог і марыць.

— Я хацеў бы загладзіць сваю віну,— выціраючы рукавом слёзы, сказаў бог.— Можа, я буду чым-небудзь карысны чалавецтву?

Захоплены высокай паэзіяй, духам дабрыні і праўды, якая перамагае крыўду, Богша неяк забыўся на страшэнныя супярэчнасці ў пакінутым ім свеце. На жорсткія войны, у якіх гіне самы цвет чалавецтва, яго надзея і будучыня — моладзь, на голад, бяспраўе, прывід ядзернай вайны, якая можа ў адно імгненне спапяліць цывілізацыю, здабытую такой дарагой цаной.

Цяпер ён успомніў пра ўсе цяжкія хваробы чалавецтва і ледзьве стрымаўся ад спакусы папрасіць бога пазбавіць чалавецтва ад іх. Гэта так было проста — папрасіць. Але Богша паспеў падумаць: а як чалавецтва ўспрыме ягоную гэтую просьбу? Хто ўпаўнаважваў яго? Ён хацеў ужо адмовіцца ад божай дапамогі, ды зноў яго ахапілі сумненні. Адмаўляючыся ад такой спакуслівай просьбы, ён, Лазар Богша, бярэ на сябе вялікую адказнасць. А што, калі чалавецтва не здолее ўтрымаць рукі вар'ятаў, якія трымаюць атамныя бомбы? Тады ён і ніхто другі будзе вінаваты ў атамнай вайне, у знішчэнні жыцця на Зямлі.

Яму было над чым падумаць. Некалькі разоў ён гатовы быў папрасіць бога, як дарослыя сынкі просяць, не чырванеючы, сваіх бацькоў даць ім грошай на набыццё японскага магнітафона. Але вера ў чалавека і чалавецтва перамагла.

— Я схлусіў бы табе,— сказаў ён,— калі б сказаў, што мы жывём без трывог і клопатаў. Больш таго, чалавецтва час ад часу сутрасаюць такія выпрабаванні і катаклізмы, пасля якіх яно клянецца зрабіць усё, каб такія катаклізмы больш не паўтарыліся. Праходзяць гады, і чалавецтва зноў нехта заганяе ў выпрабаванні яшчэ больш жахлівыя і цяжкія, як мінулыя. Але ж, бачыш, яно жыве, развіваецца, шукае новыя шляхі да лепшай долі. Яно жыве па сваіх чалавечых законах, недасканалых, жорсткіх, нават бязлітасных, але сваіх. Дык ці варта яму вяртацца ў той рай, які быў у яго? Хай чалавецтва жыве па сваіх законах.

Само шукае свае шляхі да праўды і дабра. Даруй, але табе лепей застацца тут, у «чорнай дзірцы».

Бог задумаўся.

— Бадай, ты маеш рацыю,— сказаў ён.— Я захоплены чалавецтвам. Яно застаецца самай дасканалай істотай у сусвеце на бясконцыя гады. Жыць яму вечна! Розум не вынішчальны. Ён усё пераможа. А цяпер вяртайся на зямлю. Я вельмі рады, што сустрэўся з табой. Я адпраўлю цябе ў любую кропку планеты... у любы час яе існавання... заплюшчаны вочы... задумай, куды табе трэба... моцна... яшчэ адно імгненне...

Апошнія словы даходзілі да Богшы, як у сне. Потым адбыўся выбух. Богша перастаў адчуваць гравітацыю. Ён стаў разрастацца, як невялічкае воблачка, бывае, разрастаецца ў навальнічную хмару. Яму дыхалася вольна і лёгка. Ён ляцеў у Сусвеце з хуткасцю святла. Яна паволі замаруджвалася. Ператварылася ў нуль. Богша пачуў пад нагамі нешта цвёрдае.

«Прызямліўся»,— падумаў ён і расплюшчыў вочы.

Ён стаяў у царкве.

Сярод яе бялела дамавіна, і мноства свяцільнікаў асвятляла суровых і чымсьці ўстрывожаных людзей, якія стаялі ў галавах нябожчыка.

## 3

Сярод яе бялела дамавіна, і мноства свяцільнікаў асвятляла суровых і чымсьці ўстрывожаных людзей, якія стаялі ў галавах нябожчыка.

З прытвора да самага драўлянага ўзвышэння, на якім стаяла дамавіна, слалася кужэльная дарожка з раскіданымі па ёй маладымі яловымі лапкамі. Лазар Богша спыніўся крокі за тры ад дамавіны, стараючыся зазірнуць у яе. Яму здалося, у дамавіне ляжыць нехта знаёмы.

Але там ляжаў сівы чалавек, закрыты па грудзі кавалкам старанна адбеленага палатна. Белыя, нібы пасярэбраныя валасы і белая покрыўка з асаблівай выразнасцю адцянялі пляму на твары, падобную на барадаўчатую жабу, якая вылезла з-за вуха, учапілася пярэдняй лапай за брыво, а задняй уперлася ў падбародак, прымяла мяккую, як кужаль, бараду. На бугрыстую і пасля смерці ўсё яшчэ сінюю пляму было жудасна глядзець і цяпер; некалі, на жывым твары яна, напэўна, выглядала яшчэ больш жудасна.

Богша мог прысягнуць, што ніколі не сустракаўся з нябожчыкам. Ён са здзіўленнем і няўцямнасцю азірнуўся, не разумеючы, чаму ён тут, у незнаёмай царкве, пры труне, у якой ляжыць чужы яму чалавек?

Злева ад яго стаялі і паціху перагаворваліся жанчыны, выціраючы ражкамі хустак слёзы, справа — мужчыны ў напружанай маўклівасці. Іхняя вопратка ўразіла Богшу. Ён недзе некалі бачыў такую вопратку, але калі і дзе? Можа, у якім гістарычным фільме?

У галавах нябожчыка справа і злева стаяла, няйначай, радня: мужчыны, жанчыны, дзеці розных узростаў.

Аднак ні папа, ні псаломшчыка, ні дзяка ў царкве не было. Царскія вароты — іканастас, як дзве кроплі вады падобны на той, што знаходзіўся некалі ў музеі Рафаіла Міхайлавіча Долі,— былі зачынены, і за імі, па ўсім, нікога не было.

Богшава паяўленне ў царкве не выклікала ніякай цікаўнасці. Ды і не дзіўна: Богша не ведаў іх, яны — Богшу. Цяпер, аддаўшы належнае нябожчыку, можна было паціху выйсці, не парушыўшы атмасферу гора і смутку. Ступаючы на наскі, каб не нарабіць грукату, Богша падаўся да дзвярэй.

З-за калоны, што падтрымлівала хоры, насустрач яму выйшаў каржакаваты стары з грывай сівых густых валасоў, з доўгай белаю барадой. У ягонай хадзе не было старэчай стомленасці, крыўднага бездапаможнага шоргання нагамі, якія выклікаюць спачувальны жаль. Стары абуджаў захапленне і павагу.

— Застанься, Богша,— апыніў ён Богшу. Ягоны голас, здалося, быў знаёмы.— Куды і чаго спяшацца?

— Дзе я чуў гэты голас? Ён мне вельмі знаёмы,— сказаў Богша.

— Бітву на Нямізе памятаеш?..

— Баян?! — узрадаваўся Богша.

— Баян... Састарыўся. І голас стаў не той, і струны пад пальцамі не гучаць так, як бывала.

— У памяці сваёй мы ўсе маладыя,— сказаў Богша.— Нельга, каб чалавецтва загінула такім маладым.

— У маладосці песні ідуць ад здароўя, бадзёрасці і безразважнасці,— яны гаварылі кожны пра сваё, але добра разумелі адзін аднаго.

Неяк у маскоўскім Доме літаратараў, куды Богша зайшоў паабедаць і дзе на гэты ранні для нядзелі час сядзелі толькі тры знакамітыя пісьменнікі: паэтэса, празаік і пу-

бліцыст. Богшу пасадзілі за суседнім сталком, і ён міжвольна стаў сведкам іхняй дзіўнай гаворкі. Яны тады таксама гаварылі кожны пра сваё: паэтэса пра сексуальную раскаванасць паэзіі, празаік пра рускі іканапіс, а публіцыст пра стойкасць абаронцаў аднаго з партовых гарадоў на Балтыцы ў Айчынную вайну, але гэта не шкодзіла ім разумець адно аднаго.

— Сусвет — адзіная сістэма, дзіўным чынам арганізаваная каля васемнаццаці мільярдаў гадоў назад. І чалавецтва не хаатычная сума індывідуумаў, а адно цэлае, жывы думаючы арганізм...

— Пад старасць спяваеш душой, якая спазнала вернасць, здраду, славу, зайздрасць, якая навучылася адрозніваць сапраўдныя каштоўнасці ад падробак пад іх.

— Свет, у якім мы жывём, ёсць свет, у якім жывём мы. Дзіўна, ці не праўда? І калі ў Сусвеце існуе адзіная сістэма, якая абумовіла з'яўленне чалавека і чалавецтва, дык чалавек і чалавецтва павінны імкнуцца да адзінага розуму планеты. Розум не можа дапусціць, каб чалавецтва ўзарвалася накшталт «чорнай дзіркі» і разляцелася па Сусвеце элементарнымі часткамі.

— А ты малайчына, што прыйшоў пакланіцца праху вялікага Усяслава Полацкага,— сказаў Баян.

Богша выглянуў з-за калоны. Божа літасцівы, ён жа знаходзіцца ў Полацкай Сафійцы! Але чаму ён апынуўся ў Сафійцы, на пахаванні князя Усяслава?

Нешта невыразнае мроілася яму праз напластаванне часу-прасторы, праз туман галактык і халодную плазму квазараў.

«А можа, няварта ламаць галаву, чаму і дзе я знаходжуся зараз, у гэта самае імгненне: на дарозе ў камфартабельнай машыне або ў акіяне на кволым плоціку, на фешэнебельным курорце або ў захудалай, правінцыяльнай турме? Нехта з вучоных сказаў, што калі б прырода «выбрала» крыху іншую паслядоўнасць лічбаў, дык свет быў бы зусім другім. Не выключана, што чалавека наогул не было б і не было б каму пазнаваць Сусвет. О, гэтая выпадковасць не ўсвядомленых яшчэ заканамернасцей ад чатырох тыпаў фундаментальных узаемадзеянняў у Сусвеце да пяці рэцэптараў, якімі чалавек пазнае свет такім, якім ён, можа, і не існуе ў сапраўднасці! Відаць, сэнс заключаецца ў тым, каб чалавек асэнсоўваў яго ўсюды, куды ні трапіў бы на сваім жыццёвым шляху».

Думка гэтая супакоіла і адцягнула Богшаву ўвагу ад

другараднага. Зрэшты, пакуль што ён не мог выдзеліць тое галоўнае, на што павінен скіраваць сваю ўвагу.

— Прызнаюся, я зусім не здагадваўся, што ў труне ляжыць Усяслаў Полацкі,— прызнаўся Богша.— Ды і на пахаванне я трапіў выпадкова...

— Яго будуць хаваць не тут, у Полацку, а на Суі,— зашаптаў Баян.— І не па царкоўнаму абраду, па старому...

— І ты прымчаўся, каб спець мёртваму славу, як спяваў некалі славу Яраславічам, калі яны разграмілі Усяслава на снезе Нямігі? — Богша не стрымаўся, каб не ўпікнуць Баяна за ягоную беспрынцыповасць.

— Пра што ты гаворыш, няшчасны? — абурыўся Баян.— Пра якое паражэнне Усяслава на Нямізе?.. Ля ягонай труны ты ганьбіш вялікага воіна, чалавека і пакутніка, абылганага нядобразычліўцамі. І не славу я прымчаўся пець, а слухаць вялікі плач найвялікшай плакальшчыцы Рагнеды, сястры Усяслава і жрыцы-вяшчунні суйскага храма...

— Але ж прызнайся, што ты спяваў славу Яраславічам пасля Нямігскай бітвы,— не адставаў ад Баяна Богша.

— Спяваў,— прызнаўся Баян.— Як лёгка мы дакараем другіх, а пасля самі, стаўшы на іх месца, робім горшае і не чырванеем нават... А знаеш, Богша, з якіх слоў я пачаў славу Яраславічам пасля Нямігскай бітвы?.. «На Немизе снопы стелют головами, молотят чепи харалужными, на тоце живот кладут, веют душу от тела. Немизи кровави брезе не бологом бяхуть посеяни, посеяни костьми руских сынов...» Во з чаго я пачаў славу Яраславічам.

— Гэта сказаў аўтар «Слова аб палку Ігаравым»,— запярэчыў Богша.

— Гэта сказаў я. Толькі я мог сказаць такое,— узлаваўся Баян.— Я сам бачыў, як клаліся галовы воінаў на белым снезе. Я бачыў, як чырванелі ад крыві берагі Нямігі. Я стаяў на крутым беразе ракі і глядзеў на тую страшную бітву. Вось тады я, напэўна, упершыню падумаў, што не славу князям мне спяваць трэба, а плачам раздзіраць іхнія сэрцы. Тады і пачала адступаць ад мяне маладосць безразважлівасці...

— А пасля, як Усяслава садзілі на княжацкі стол у Кіеве, хіба не ты спяваў славу Усяславу?..

— Ну, я... І не адзін я ўскладаў надзеі на Усяслава. Хіба ўпершыню такое, калі думаеш: нарэшце прыйшоў той князь, які ўстановіць на зямлі мір, парадак і справядлівасць?..

— Твае славы князям зрабілі дужа вялікі ўплыў на песняроў усіх княстваў,— нагадаў Богша.

— Што мне былая слава мая? Хіба я вазьму яе з сабой у магілу?..

— Ты застаўся ў памяці,— сказаў Богша.

— Маё імя — як водгулле чыесьці другой славы,— не пагадзіўся Баян, і Лазар Богша падзівіўся, як ён блізка ад ісціны.

У царкве раздаліся ледзь чутныя крокі.

З прытвора да дамавіны лёгкай хадою ішла жанчына ў доўгай накідцы з гарнастаяў, пад якой відаць быў белы каптан.

## 4

З прытвора да дамавіны лёгкай хадою ішла жанчына ў доўгай накідцы з гарнастаяў, пад якой відаць быў белы каптан.

Дзве дзяўчыны падтрымлівалі краі накідкі.

— Рагнеда,— шапнуў Баян.— Сястра Усяслава.

Богша выйшаў з-за калоны. Ён бачыў, як наструнісліся людзі, як загарэліся любоўю і адданасцю іхнія вочы. І толькі ў сыноў Усяслава і іхніх жонак прамільгнуў у вачах страх, а можа, разгубленасць. Не ва ўсіх...

Не дайшоўшы крокаў трох да дамавіны, Рагнеда выпрастала з-пад накідкі рукі, узняла ўгору. У адной яна трымала чорнага пеўня, у другой — каменны нож.

Лазара Богшу ўразіў твар Рагнеды — адухоўлены і прасветлены, нібы яна стаяла не перад нябожчыкам, а перад нованароджаным.

Яна роспачна крыкнула і ў тое ж імгненне няўлоўным, прызвычаеным, нават прыгожым рухам рукі адсекла галаву пеўню, акрапіла ягонай крывёю белую покрыўку на нябожчыку.

Богша здрыгануўся. Абрад гэты здаўся яму дзікунскім і бязглуздым.

Яна ж кінула пеўня пад дамавіну, сашчапіла рукі, узняла іх над галавой і колькі часу стаяла так у маўклівай задуменнасці.

— Зараз ты пачуеш такое,— зашаптаў Баян і ад асалоды, якую чакаў, заплюшчыў вочы.— І плач, і славу, і праклён, і клятву, і найвышэйшую любоў — песню ўсіх песняў.

У царкве панавала пругкая цішыня. Чулася толькі

патрэскванне свечак. У Лазара Богшы чамусьці моцна білася сэрца.

Рагнеда пачала плач на вельмі нізкай ноце. Лазар Богша падумаў, што голас у яе падобны на голас перуанскай спявачкі Імы Сумак. Адрозненне заключалася хіба ў тым, што голас Імы Сумак, здавалася, нараджаўся недзе высока ў гарах і памалу апускаўся ў нізіну, а голас Рагнеды, нарадзіўшыся ў глыбінях крывіцкіх бароў, як водгулле далёкага грому, шугаў угору, запаўняючы сабой прастору да самага неба. Богшу здалося, што голас Рагнеды ўзніме зараз купал царквы, распісаны пад зорнае неба, у цэнтры якога выглядала з аблокаў аблічча бога з візантыйскімі рысамі твару.

Рагнеда бясконца доўга цягнула адзіны гэты гук «о», круглы, як кола, што спальваюць на Купалу, як сонца, што ў купальскую раніцу сустракае натоўп шчаслівых людзей, як сляза, што скочваецца па шчацэ, выпальваючы на ёй вечны равок смутку.

— О-о-о, браце мой Усяславе! Гаспадзіне і княжа! Чаму не страчаеш мяне на стромым беразе Дзвіны? Ці ногі натаміліся ў паходах, ці раны ўклалі ў пасцелю? У пасцелю не з пуху лебядзінага, а з сена наддзвінскіх паплавоў? Зязюляю ляцела да цябе, браце мой любы. Хацела глянуць у вочы ясныя. А ты прымжыў іх ад святла месяца. Месяц, сыне сонца, чаму так няміла глянуў на брата і князя, што самі апусціліся павекі...

Усё часцей жанчыны выцíралі ражкамі хустак вочы. Усё часцей мужчыны пераступалі з нагі на нагу, каб схаваць усхваляванасць.

А Рагнеда ўжо звярталася да сонца яснага, якое не дагледзела, калі смерць падкралася да вялікага князя. Хіба можна спачываць сонцу, калі князю пагражае смерць? Яна звярталася да ветру, які загуляўся ў палях і не паспеў адвеяць злую смерць ад князя. Да Дзвіны, якая не перагарадзіла дарогу смерці. Да язычаскіх багоў, якія на гэты раз адступіліся ад Усяслава. Яна размаўляла з багамі як роўная, толькі малодшая за іх. І гэта асабліва кранала. Рагнеда то спявала прыглушаным ад крыўды галасам, то звонкім, у якім чуўся дакор.

«Быў бы ў мяне магнітафон! — пашкадаваў Богша.— Хіба запомніш гэтую непаўторную адметнасць плачу? А калі і запомніш. Хто паверыць у праўдзівасць плачу? Скажуць, сам сачыніў».

Яшчэ Богша падумаў, што ў шматлікіх даследаваннях

старажытнай літаратуры так мала гаворыцца пра плачы. А яны дайшлі ледзь не да нашых дзён, бо яшчэ зусім нядаўна хадзілі па людзях два плакальшчыкі: хлапчук і ягоны бацька, спявалі плачы на пахаваннях. Той хлапчук потым стаў знакамітым паэтам. Ці запісаў хто тыя плачы, якія пранёс праз усё жыццё хлапчук?..

Думкі адцягнулі на нейкае імгненне ўвагу ад плачу Рагнеды. Мабыць, таму ён не злавіў, калі ў яе голасе пачуліся другія інтанацыі. Рагнеда спявала славу князю і брату.

Яна прыгадвала кожную яго бітву, для кожнай знаходзіла адметныя яркія фарбы, аж думалася, што ў кожнай удзельнічала і яна сама. Яна хваліла розум і дабрыню Усяслава, ягоныя клопаты пра Полацк, ягоную вернасць старым законам і адданасць полацкай зямлі.

То было хвалюючае апавяданне пра князя-воіна, дбайнага гаспадара, добрага сем'яніна, заступніка крывічоў ад варожых нападаў. І ўжо не слязамі смутку і горычы плакалі жанчыны, а замілаванасці да князя і радасці, што ім давялося жыць пры такім разумным і справядлівым князі.

А ўжо і новыя інтанацыі паявіліся ў голасе Рагнеды — даверлівы, шчыры, заглыблены роздум пра чалавечае жыццё і адказнасць тых, хто застаецца жыць, перад вялікім нябожчыкам. Богша зразумеў, што песня-роздум скіравана нашчадкам князя. Яна як клятва, як павучанне ім, але без той лабавой дыдактыкі, да якой паправыкалі людзі ў канцы дваццатага стагоддзя.

Што праўда, Богшу ў Рагнедзіным роздуме больш захапляла прафесійна-мастацкая аздоба песні, а не канкрэтны яе адрас, нават не сам змест і падтэкст, які, чулася, укладвала Рагнеда ў свае паэтычныя разважанні. Захапляла прыгажосць і дакладнасць метафар, якія не ўскладнялі думку, а набліжалі яе да слухачоў, рабілі больш выразнай і ўспрымальнай.

Напэўна, тут, як нідзе, падыходзілі паэтавы словы наконт кавалка жыцця, скупога і шэрага, з якога паэт стварае найчароўнейшую легенду.

Лазар Богша быў захоплены філіграннай інструментоўкай гэтай па-майстэрску выкананай імправізацыі, хоць увесь пачуты Богшам плач быў бездакорны па мастацкай завершанасці.

Было пязвычна, нават святататна стасаваць гэтыя словы: «майстэрства», «мастацкая завершанасць», «інстру-

ментоўка» да плачу — выяўлення вялікага чалавечага гора ў словах, што нараджаюцца ў душы. Але ўсе іншыя вызначэнні не змаглі б растлумачыць пачуццёвага ўздзеяння плачу на чалавека.

«Дык паэзія і ёсць пачуццё, выказанае ў словах-вобразах,— лішне завучана падумалася Богшу.— Але пачуццё гэтае было шчырым, а не па-акцёрску сыграным. Любоў, пянавісць, спагада, гнеў, спачуванне, страта, дабрыня, зло... Як здорава навучыліся мы іграць гэтыя пачуцці перад публікай. «Мяне хвалюе... Я занепакоены... Я абураны... Я ўзрадаваны...» Чорта два цябе хвалюе, непакоіць, радуе. Проста пішаш, іграеш ролю, бо трэба нешта рабіць, а больш нічога рабіць не ўмееш. Дзе ўжо шукаць пачуццяў!.. Таму і заглыбляемся ў бытавыя дэталі. Дэталяў шмат, а думак і пачуццяў мала. Ды і дзе іх возьмеш, сядаючы за пісьмовы стол кожны божы дзень?»

— Не прыемлю... Вось гэта і не прыемлю,— раздражнёна сказаў Баян, абарваўшы Богшаў роздум пра паэзію.

Богша здрыгануўся. Здалося, Баян падслухаў ягоныя думкі. Аж зрабілася прыкра. Думку і тую нельга схаваць ад староніх вушэй. Ну і свет!

— Я думаў пра вялікую спадчыну, што засталася нашчадкам,— чамусьці стаў апраўдвацца Богша.— Не пра грошы і рэчы; яны — парахня і пыл, а пра духоўныя здабыткі і, у першую чаргу, пра мастацкае слова...

— Словы таксама розныя,— заспрачаўся Баян.— Яны павінны ўзвышаць, не апускацца да ніцай травы чалавечых штодзённых клопатаў. Яны вартыя гусляў, а не дудкі свінапаса, якая збірае статак.

— Ты адмаўляеш роздум у паэзіі? — спытаўся Богша.

— Я адмаўляю паэзію, якая заклікана павучаць. Каго? Сыноў Усяслававых? Іхніх жонак і дзяцей? Заблуджэнне і марнасць! Павучаць іх усё адно, што прасіць галодных піліпаўскіх ваўкоў захоўваць парадак каля зарэзанага зубра. Ці адзін раз дзеці князёў разрывалі Кіеўскую Русь. І сыны Усяслава не лепшыя. Разарвуць полацкую зямлю на кавалкі. Рагнеда песню сапсавала, калі вучыла ёю нашчадкаў Усяслававых жыць у міры і дружбе. Так яны і паслухаюць. Вунь стаіць Давыд — сын Усяславаў — з дзецьмі. Ён водзіць дружбу з Алегам, сынам Святаслава Яраславіча. А той, што стаіць пасярэдзіне, Барыс, абапіраецца на Уладзіміра, сына Усевалада Яраславіча. А Глеб, князь Мінскі, верны саюзнік сыноў Ізяслава Яраславіча, бо жанаты на дачцэ Яраполка Ізяславіча. Памятаеш, як

тры Яраславічы піравалі на Нямізе пасля таго, як спалілі Менск? Здавалася, дружбе іх не будзе канца да смерці. Дзе там! Так рассварыліся, што прымірыць ваду з агнём лягчэй, чым іх. Усе гэтыя нашчадкі Яраслававы грызуцца між сабой, як сабакі за абгрызеную костку. Ды каб жа толькі між князямі не было згоды. Манахі, папы ды ігумены таксама не ў згодзе. Полацкі епіскап, верны візантыйскай царкве, падтрымлівае Давыда, і разам выступаюць супраць Пячэрскага манастыра. А малодшы сын Усяславаў, Георгій, як і Ізяславічы, звязаны з Пячэрскім манастыром. А Пячэрскі манастыр вораг Уладзіміру Усеваладавічу... Не, Богша, не справа песняроў і плакальшчыц лезці са сваімі павучаннямі. Пясняр павінен быць салаўём, а не варонай, якая каркае, павучаючы сваіх дзяцей.

Рагнеда кончыла плач на высокай ноце. Здалося, зазвінеўшы, парвалася залатая струна...

— Мір вам і блаславленне Макошы, маці ўсяго існага,— павіталася яна з пляменнікамі, іхнімі жонкамі і дзецьмі, з усім людам, што стаяў у царкве. Ёй адгукнуўся нястройны хор мужчынскіх і жаночых галасоў.

— Мір і блаславленне вам Перунова,— грымнуў з прытвора царквы басавіты голас, чуты ўжо Богшам у «чорнай дзірцы».

У царкве стаяў мажны стары з доўгім кіем, якім ён з усяе сілы грукнуў аб каменную падлогу.

— Хто гэта? — спытаўся Богша ў Баяна.

Той здзіўлена ўзняў вочы на Богшу, нібы перад ім было дзіця, якое пры людзях ляпнула нешта недазволенае.

— Перуноў вяшчун, слава яму на вякі. Непасрэдны нашчадак сапраўдных крывіцкіх князёў...

Нашчадак крывіцкіх князёў нізка схіліў галаву перад вяшчуняй суйскага храма Рагнедай.

— Мужайся,— сказаў ён ёй, хоць у той і не было роспачы.— Душа Усяслава ў калясніцы Перуновай зараз будзе ўзнесена на аблокі, прыстанішча Перуна.

Ён зноў грымнуў аб падлогу кіем, нібы збіраўся выкрасаць з яе агонь, і — во дзіва з дзівосаў, якіх не даводзілася бачыць Богшу,— раптам бліснула маланка, зацьміўшы святло мноства свяцільнікаў, па царкве пранёсся віхор і загрымеў гром, нібы па бруку пранесліся калёсы.

Усе, хто быў у царкве, пападалі ніцма, не смеючы глядзець, як Пярун забірае да сябе на аблокі душу полацкага князя. Адзін Богша застаўся стаяць, абапёршыся на калону і спадзеючыся нешта пабачыць.

Ды нішто не адбылося. Патухла хіба дзесяткі тры свяцільнікаў, і кволы дымок ад іх падымаўся пад царкоўны купал, раствараючыся там, як ранішні туман пасля ўсходу сонца.

Затое на дварэ, здаецца, пачыналася навальніца. Богша выйшаў на каменны ганак. За агароджай стаялі чатыры чорныя కані з прывязанымі да іх насілкамі. Чатыры хлопцы трымалі коней за павады, азіраючыся на царкоўныя дзверы.

А з-за Дзвіны, адтуль, дзе за лесам раскінулася возера Суя, паўзла сюды чорная грукатлівая навальнічная хмара.

## 5

А з-за Дзвіны, адтуль, дзе за лесам раскінулася возера Суя, паўзла сюды чорная грукатлівая навальнічная хмара.

Мусіць, на ёй і спяшаўся ў Полацк паганскі бог Пярун па душу вялікага князя Усяслава. Ён грукатаў так моцна, аж здавалася, расколваецца неба і зямля ўздрыгвае ад страху.

Вясна толькі пераваліла на другую палову красавіка, але першая навальніца абрынулася не на голы лес; маладая лістота за тры апошнія дні апранула дрэвы ў любімы палачанамі зялёны колер. На сугрэве ўжо раскашавала сон-трава і ярка жаўцелі кветкі дзьмухаўцу па схілах Дзвіны і Палоты. Усё гэта магло б радаваць, каб не смерць князя. Сярдзіты Пярун, па ўсім, і нагадваў людзям аб смерці.

Палачане стаялі за агароджай. Рэжысёрскім позіркам Богша прайшоўся па натоўпе. На тварах людзей выразна бачылася трывога. Богша і сам адчуў яе. Можа, таму, што першая чвэрць дванаццатага стагоддзя ўсё яшчэ заставалася для яго тайнай Полацкага княства пасля смерці князя Усяслава. Ды і потым на карце гісторыі Полаччыны вучоныя не сцерлі белыя плямы — нібы іх назнарок накідала нейкая несумленная рука.

Тайны заўсёды трывожаць...

Богшу захацелася пайсці ў натоўп, каб распытаць у каго пра апошнія гады жыцця Усяслава, пра яго трох старэйшых сыноў. Дзе, у якіх удзелах яны пачалі княжыць пасля смерці бацькі? Якраз у гэты час труну пад галашэнне дачок, нявестак і ўнучак Усяслававых пачалі выносіць. Загаласілі і полацкія жанкі, можа, не так па князю, як ад страху перад будучыняй.

Шасцёра дружыннікаў, што неслі труну, паставілі яе на насілкі. Чатыры паганятыя селі на коней і рушылі ў дарогу. За імі — дружыннікі, князі; на цяжкіх калёсах — жанчыны. Працэсія памалу выпаўзала за царкоўны двор.

Шлях быў няблізкі, да возера Суя, і Богша падумаў, што яму туды не дайсці. Чамусьці страшэнна балелі ногі, а ў грудзях пякло. Аднак і заставацца тут не хацелася. Навошта?.. Ён нічога тут не забыў. Ніпто яго тут не цікавіла. Богша прыладзіўся ў хвост працэсіі, паклыпаў, цяжка валочачы хворыя ногі.

Як бы на развітанне Полацка з князем, раптам крыж-накрыж бліснула маланка і адразу, без роздыху, грымнуў пярун, аж пазакладала вушы. Вялізны, у чатыры абхваты дуб, што стаяў за Палатой, на вачах людзей раскалоўся напалам, абедзве палавіны грузна абрынуліся на зямлю.

Богша падумаў, што працэсіі варта было б перачакаць навальніцу, але ніхто не звярнуў на яе ўвагу. Хмара, не праліўшы дажджу над Полацкам, распаўзлася па небе.

Ён так і не заўважыў усёй дарогі да возера, што звівалася па лесе, нібы рачулка-пятлянка ў сухую пару года, збіраючы з крыніц кволыя ручайкі халоднай вады. Ён убачыў сябе на краі атуленай сасновым борам паляне, сярод якой узвышаўся недаступна грозны язычаскі бог Пярун, а вакол яго па вяршынях правільнага васьмівугольніка гарэлі свяцільнікі.

І нідзе нікога...

На супрацьлеглым баку паляны, пад выносістымі соснамі, туліўся язычаскі храм на слупах, сярод якога гарэў касцёр, падаграваючы воск у вялізным катле. Ад храма ў адзін і другі бок цягнуўся шнурок хатак, падобных на хлеўчукі. З-за язычаскага храма вынырнула працэсія — шарэнга сівых, з непакрытымі галовамі дзядоў. Другая такая ж працэсія, але з адных жанчын, падымалася па адхонным беразе возера, дзе пры самай вадзе стаяў яшчэ адзін храм з драўлянай фігурай багіні Макошы.

Абедзве працэсіі спыніліся перад тварам Перуна. Старэйшы жрэц і жрыца Рагнеда ўзнялі ўгору рукі, нібы заклікалі неба ў сведкі. І тады ўсе ўбачылі, як з-за возера, там, дзе ў яго ўпадае невялікая рачулка, чорнай хмарай сунецца сюды пахавальная працэсія.

Не дайшоўшы да капішча Перуновага крокаў пяцьдзесят, працэсія спынілася. Шасцёра дружыннікаў лёгка ўзнялі труну з насілак, панеслі яе на выцягнутых угору руках. Труна паплыла сярод натоўпу, як ладдзя па Дзвіне

ў ціхае надвор'е. Даплыўшы да Перуновага капішча, труна апусцілася на касцёр з сухіх бярозавых плашак.

— Што вы робіце?.. Я не веру... Не веру!..— закрычаў Лазар Богша, нібы сядзеў на рэпетыцыі, а перад ім ігралі нейкі вадэвіль самадзейныя акцёры.— Не маглі Усяслава спальваць на агні! Не маглі! Звычай такі задоўга да Усяслава кануў у вечнасць...

Голас яго прагучаў як у пустыні. Ніхто не азваўся. Людзі прадаўжалі рабіць сваю справу, дзеля якой і прыехалі сюды з Полацка.

Пад развітальна-адыходную песню жрацоў нехта прынёс вялізны цэбар алею, і ўсе сталі чэрпаць яго конаўкамі, выліваць на касцёр. Потым аднекуль паявіліся жытнёвыя снапы акалоту. Імі жрацы абставілі касцёр, а паверх снапоў паклалі восем вянкоў з васількоў.

Цяпер заставалася толькі падпаліць касцёр, спаліць на ім грэшную абалонку князевай не менш грэшнай душы.

Аж не!

Старэйшы жрэц і жрыца Рагнеда падышлі да кастра, спыніліся ў нагах нябожчыка.

— Сыны Усяслававы, прадаўжальнікі роду вялікага князя полацкага, падыдзіце да бацькі і князя, пакляніцеся старажытнаю страшнай прысягаю ў вернасці запавету, дадзенага вам вялікім князем Усяславам, сынам Брачыслававым.

Жрэц трымаўся ўрачыста і з гонарам, як і належыць захавальніку старажытных абрадаў.

Сямёра сыноў Усяслававых аддзяліліся ад натоўпу, падышлі да ўзгалоўя княжай труны. Яны былі дужа розныя, але ў чымсьці і падобныя адзін на аднаго.

Жрэц абвёў іх строгім позіркам каршуновых вачэй.

— Князь Давыд,— звярнуўся ён да каржакаватага марудлівага мужчыны,— як старэйшы сярод братоў, пакладзі першы левую руку на бацькаў лоб і выслухай мяне дужа ўважліва... Яшчэ пры жыцці бацька твой і князь полацкі выдзеліў табе Друцкі ўдзел. Паклянешся, што ніколі не пакладзеш вока на полацкі княжы стол...

У Давыда хваравіта перасмыкнуўся твар, часта-часта заторгалася левае павека. Здалося, Давыд павернецца і пойдзе ад бацькавай труны. Але ён неяк стрымаў сябе, дужа марудна, быццам яна важыла пудоў дзесяць, падняў левую руку і ўжо зусім абяссілена апусціў яе на бацькаў лоб. Ягоныя пальцы ўздрыгнулі разы чатыры і супакоіліся.

— Князь Барыс,— пацяплелым голасам паклікаў жрэц наступнага сына,— па бацькавым наказе ты сядзеш на полацкі стол. Будзь для братоў тваіх бацькам і князем. Памагай ім адстойваць Полацкую зямлю ад хціўцаў і ворагаў, беражы адзінства Крывіцкай зямлі. Хай абмінуць цябе сваркі і злачынныя помыслы, якія ці адзін ужо раз ставілі Кіеўскую Русь на мяжу распаду...

— Разумна распарадзіўся князь Усяслаў,— зашаптаў нехта за Богшавай спіной.— Давыдава жонка — унучка Манамахава, дачка Мсціслававa. Полацкае веча не хацела б мець князя, прывязанага да Чарнігава, дзе цяпер княжыць Манамах. Мсціслаўна ж круціць Давыдам, як спрытная папрадуха верацяном.

Жрэц паклікаў трэцяга сына Усяслававага Глеба, які ўжо гады чатыры сядзеў у Менску, а да таго ваяводзіў там паспяхова. Глеб паклаў руку на рукі двух братоў і тройчы перахрысціўся, як і належыць сапраўднаму хрысціяніну, які і ў стане ворагаў не адрачэцца ад сваёй веры.

Затым настала чарга чацвёртага сына, Рагвалода, які атрымаў у спадчыну Лукомлю. Хваравіты на выгляд Рагвалод зусім абыякава паклаў руку паўзверх братавых і застыў у нязручнай паставе, нібы караў сябе за нейкі аднаму яму вядомы ўчынак. Пятым быў Раман, якому дастаўся ў спадчыну Віцебск. Шостым — Расціслаў, якому перайшоў у спадчыну Ізяслаўскі ўдзел. Перш чым пакласці руку, Расціслаў дапытліва глянуў на Глеба і нечаму ўсміхнуўся. Апошні паклаў руку для клятвы самы малодшы з сыноў Усяслававых, Святаслаў. Яму дастаўся самы далёкі і бедны ўдзел — Браслаўскі.

Сямёра братоў стаялі цяпер у маўклівай нязгодзе, пазіраючы хто куды, нібы саромеліся глянуць адзін аднаму ў вочы. Маўчаў і натоўп — княжацкія жонкі і іх дзеці, жрацы і жрыцы, дружыннікі і просты люд, які прыйшоў на абрад пахавання і клятвы.

Яна была страшная, нават жудасная, гэтая клятва. Ад яе аж стыла кроў у жылах. Усяславічы слухалі яе, скамянеўшы ад страху і нядобрых прадчуванняў.

Цяпер Богша зразумеў задуму з клятвай на старажытны лад — даўнія клятвы выклікалі ў князёў свяшчэнны страх і маглі стрымаць іх ад міжусобіц, новыя, праваслаўныя клятвы на крыжы і евангеллі князі не ставілі і ў грош.

Голас жраца нарэшце замоўк, і ўсе, хто стаяў і слухаў яго, уздыхнулі з нейкай жаданай палёгкай. Сямёра князёў пакланіліся Перуну, з'елі па драбку свяшчэннай зямлі,

пацалаваліся адзін з адным на вернасць і далучыліся да натоўпу.

Мсціслаўна гнеўна глянула на Давыда.

— Не мог запярэчыць, цялё без'языкае,— зашыпела яна.— Будзеш сядзець у Друцку, як тхор у падпечку... Па старшынству Полацк належыць табе...

Князь неахвотна штосьці сказаў, і Мсціслаўна раз'ярылася яшчэ горш, але Богша не пачуў яе слоў. Натоўп раптам загаманіў, загуў, вітаючы працэсію, што выйшла з язычаскага храма з вялізнымі і вітымі васковымі свечкамі. Васьмёра жрацоў кіравалі да васьмі свяцільнікаў, ад якіх і запалілі свечкі. Зноў загаласілі жанчыны. Восем сокалаў-сапсанаў, узмахнуўшы вострымі доўгімі крыламі, узляцелі пад небам і, мусіць, радыя волі, з крыкамі «к'як-к'як» імкліва пранесліся над борам у вясновай сінечы.

Восем жрацоў падпалілі жытнёвыя снапы. Белаваты дым, прарэзаны языкамі полымя, дружна выбухнуў у неба, і адразу зашугаў агонь, ахапіў касцёр, труну і вялікага князя.

Відовішча было не з прыемных. Менскі князь заплюшчыў вочы, размашыста стаў хрысціцца. Адвярнуўшыся ад кастра, хрысцілася і ягоная жонка, дачка Яраполка Ізяславіча, унучка Яраслава Мудрага. Пачалі хрысціцца і астатнія князі. Толькі Барыс і ягоны сын Рагвалод не ўзнялі рук, каб пакласці на сябе святы крыж...

Агонь усё набіраў сілу і ўжо шугаў вышэй самых стромкіх соснаў. Ад яго гарачага подыху людзі адступалі пад засень бору, дзе ўжо стаялі сталы і жанчыны насілі на іх памінальныя стравы.

Адзін жрэц, здавалася, не адчуваў пякельнай гарачыні. Узняўшы ўгору рукі, ён уголас маліўся Перуну:

— О, слаўны Пяруне, вялікі і ўсемагутны, пераможца Вялеса, перад якім не можа ўстаяць ні дрэва, ні камень, ні чалавек і ты, Даждж-бог сын Сварогаў, які дае жыццё, святло і агонь, бог багоў Свентавід, якому даступна будучыня, маці славян мудрая Макоша і ты, прабацька крывіцкага роду Крыў, усе багі і бажкі крывіцкія, вас заклінаю я зямлёю і небам, дзённым святлом і начною цемраю не пакіньце Барыса, адзіную надзею нашу захаваць веру бацькоў і дзядоў нашых ад замаху варожай веры, якую насаджаюць Хрыстовы служкі...

Агонь памалу ападаў, агаляючы чалавечы касцяк на распаленым вуголлі — астанкі вялікага князя полацкага, якія неахвотна аблізвалі чырвоныя языкі полымя.

Неўпрыкметку насоўваўся ціхамірны вечар, і жыватворнае сонца памалу скочвалася на вяршаліны недасягальна высокіх соснаў.

## 6

Неўпрыкметку насоўваўся ціхамірны вечар, і жыватворнае сонца памалу скочвалася на вяршаліны недасягальна высокіх соснаў.

Так, прынамсі, здавалася Лазару Богшу, які стаяў на пляцоўцы крапаснай вежы Браслава. Направа і налева ад крэпасці разлегліся азёры Навята і Дрысвяты, схаваныя цяпер пад бранёй тоўстага лёду, прыцярушанага бялюткім снегам.

З крэпасці было відаць, як з далёкага лесу выпаўз чорнай вужакай абоз, папоўз сюды па дрэнна накатанай дарозе. Вярсты за тры да крэпасці ад абозу адарвалася з тузін коннікаў, якія пагналі коней на ўсю моц.

Перапалоханы Богша няўцямна глядзеў, як набліжаюцца коннікі да Браслава, і ніяк не мог зразумець, чаму стражы не ўзнімаюць трывогу. Яму не хацелася апынуцца ў асаджаным гарадку, як некалі ён апынуўся ў Менску, калі да яго падступілі дружыны Яраславічаў.

Наліха яму гэты Браслаў?.. Што ён забыўся ў ім?.. І наогул, чаму ён павінен боўтацца ў свеце, як грэшная душа ў чысцілішчы?.. Чаму пракляты лёс кідае яго, куды захоча?.. Навошта яму гэтая даўніна, быццам, пабыўшы ў ёй, можна нешта змяніць на свеце?..

«Кірылу Лыкавязава лёс ніколі не закідае туды, куды яму не хочацца або дзе яму быць нявыгадна,— горка падумалася Богшу.— Ён і выступаў за трыбунай толькі тады, калі ў прэзідыуме сядзела вялікае начальства. А што, можа, ён мае рацыю? Цяперашні час не любіць эмоцый. Яны шкодзяць людзям. Нават той, хто некалі па маладосці паддаўся ім, цяпер навыперадкі адхрышчваецца ад сваіх слоў, учынкаў, маладой безразважнасці, поўнасцю аддаючыся разліку, кар'еры, набыткам, славе і ліха ведае яшчэ якому д'яблу без пачуццяў і парыванняў. А я пасівеў, састарыўся, а ўсё не думаю пра разлік і выгаду. Таму і паглядаюць на мяне скоса. Але як жа можна тварыць без пачуццяў?.. Калі ўжо так усюды патрэбны разлік, дык стварайце кібернетычную машыну. Яна лепей за чалавека складзе патрэбны, беззаганны, па ўсіх правілах літаратуразнаўства мастацкі твор. Без эмоцый, затое не прычэпіцца самы прыдзірлівы крытык».

...Ужо чуваць быў конскі тупат. Богшу хацелася крыкнуць стражам: «Што ж вы стаіце, разявы?» Ды ён так перахваляваўся, што не мог вымавіць ніводнага слова.

Раптам вароты крэпасці расчыніліся, з іх вылецела дванаццаць коннікаў, панесліся насустрач тым, што імчалі да крэпасці.

Богша заплюшчыў вочы, каб не бачыць, як сустрэнуцца грудзі ў грудзі два атрады, каб абагрыць крывёю снег. Ён чуў, як гупаюць аб мёрзлую зямлю конскія капыты, як крычаць воіны на ўсю моц лёгкіх. Дзівіла толькі, што крыкі былі радасныя, вясёлыя.

— Вунь той... той сват,— закрычаў каля ягонага вуха нехта ўзрадаваным голасам.— Ну, проста бочка на дзвюх крывульках ды яшчэ абутая ў лапці і шарсцяныя панчохі... Ах, каб яго, гэтага жмудзіна!..

Богша расплюшчыў вочы. Стражы на вежы рагаталі, пабраўшыся за жываты. Там жа, дзе мелася адбыцца схватка, праязджалі па снезе ў крэпасць апошнія сані з захутанымі ў мядзведжыя шкуры седакамі.

Цяпер Богша здагадаўся, што лёс невыпадкова занёс яго ў Браслаў.

«Цікава паглядзець, чым кончыцца гэтае сватаўства,— падумаў Богша,— калі верыць жыццяпісу Ефрасінні Полацкай і сцэнарыю Баравіка-Залеўскага, дык яна павінна зараз адмовіць жаніху і пайсці ў манастыр. А дзе ён, той манастыр, у Браславе?.. Царквы і той няма».

З харомаў на ганак тым часам выйшлі князь Святаслаў і ягоная жонка. Яны неслі на ручніку хлеб-соль. Сват прыняў хлеб-соль. Тады з-за мужчынскіх квадратных спін выскачыла сваццця-жмудзінка, замалацiла языком, як цэпам, на сваёй, не зразумелай князю і яго жонцы жмудзінскай мове. Але і без перакладу было зразумела, што сваццця расхвальвае жаніха.

Святаслаў запрасіў сватоў у харомы. Тыя расселіся па лаўках. Аднекуль паявіліся два талмачы. Яны і абвясцілі, што перад вачамі браслаўскага князя і княгіні зараз стане жаніх.

У харомы прывялі нешта захутанае ў мядзведжую шкуру поўсцю наверх. Калі яе раскруцілі, Богша ўбачыў хлапчука з далікатнымі абрысамі твару, сінімі вачамі і доўгімі русявымі валасамі. Было яму гадоў пятнаццаць-шаснаццаць. Святаславава жонка з прывычнай жанчынам палёгкаю ўздыхнула — жаніх мог бы аказацца пачварай або калекам.

— Прывядзіце князёўну Прадславу,— загадаў Святаслаў.

Сваты ўперылі вочы ў дзверы, чакаючы нявесту.

Нявеста ўварвалася ў святліцу са звонкім смехам і вясёлым крыкам:

— А вось і не зловіш, не зловіш...

Стоячы спіною да сватоў, яна паказала камусьці, хто быў за дзвярыма, язык і зноў зайшлася смехам. Ёй, бадай, не было васьмі, хоць талмач і аб'явіў сватам, што князёўне Прадславе сёлета споўнілася восем — самая пара для замужжа.

Зрэшты, гэта не мела ніякага значэння, бо сваталі і пяцігадовых і пяцімесячных за семнаццацігадовых і старэй. Бывала і наадварот.

Звонкая весялосць нявесты, здаецца, спадабалася сватам. Ды і хто не расчуліцца, не прыйдзе ў замілаванне, пачуўшы бесклапотны і мілы дзіцячы смех? Сваты заўсміхаліся: дзякуй жмудскім багам, што ў княжыча будзе вясёлая жонка. У гэтым цяжкім, небяспечным жыцці лепей мець вясёлую жонку, чым занудлівую і сварлівую, ды яшчэ прывезеную ліха ведае з якіх даляў, быццам і паблізу не знайшлося б брахлівай заразы.

Старэйшы сват разы тры хрукнуў ад уласнай велічы, бо гэта ён і падшукаў княжычу нявесту, і не абы-якую, а з роду Усяслававага.

Тыя, каму Прадслава паказвала язык, аказаліся яе мамкай-карміцелькай і цёткай, абедзве ўзятыя ў княжы двор з сем'яў дружыннікаў выхоўваць князёўну і адказваць за яе перад князем і княгіняй. Акінуўшы позіркам сватоў і князя з княгіняй, яны супакоіліся. Свавольства князёўны спадабалася, значыць, ніхто не насварыцца на іх.

— Як ты стаіш, князёўна? — прашаптала цётка.

Князёўна павярнулася да сватоў усё яшчэ з усмешкай на твары. У яе вачах мільганула збянтэжанасць. Так многа чужых людзей яшчэ ніколі не было ў іхніх харомах. Госці былі нейкія не такія, як жыхары Браслава, хоць тут можна было сустрэць каго хочаш — гарадок стаяў на скрыжаванні многіх дарог і на мяжы рассялення розных народаў.

Збянтэжанасць толькі кранулася Прадславінага твару, як ён адразу паблажэў, рот расцягнуўся да вушэй, а ўся фігурка князёўны стала падобна на каркас пугала, якое ставяць у каноплях, каб адпужваць вераб'ёў. Да ўсяго яе

круглы і нейкі плоскі тварык зморшчыўся, здалося, што князёўна зараз заплача. А калі яна, бывала, плакала, яе твар рабіўся ўтрая непрыгожым.

Яна, пэўна, і заплакала б, каб не сват, які падкаціўся да князёўны на крывых нагах, загаварыў да яе хоць і неразумела, але з цеплынёй у голасе. Князёўна як бы адтанула. Зморшчыны на яе твары зніклі, вочы засвяціліся, а шчокі паружавелі.

Сват выхапіў з-за пазухі бурштынавыя пацеркі, надзеў іх на тоненькую шыйку князёўны.

Пацеркі не маглі не спадабацца, і князёўна сапраўды залюбавалася імі. А залюбаваўшыся, успомніла, што павінна і сама, як вучыла яе цётка, аддзячыць жаніху падарункам. Спачатку, вядома, трэба было знайсці жаніха сярод стольkіх гасцей. Але гэта было няцяжка: жаніх сядзеў побач са старэйшым сватам. Прадславе паклалі на рукі цяжкі меч. Яна паднесла яго жаніху і завучана ўсміхнулася.

Богша быў расчараваны. Усё як у дрэнным сцэнарыі: прачытаўшы тры старонкі, можна беспамылкова сказаць, пра што будзе пісацца на трыццатай.

«Ах, гэтыя царкоўныя пісакі,— узлаваўся ён на манастырскіх біёграфаў Ефрасінні Полацкай,— панапісваюць абы-чаго. Так ужо яна і адмовіла жаніху і пайшла ў манастыр. Хто ў яе пытаўся, жадае яна ці не жадае выходзіць замуж. Ды і чаму яна павінна была адмаўляць жаніху?.. Хоць, чакай, чакай... Дыму без агню не бывае. Калі яна выйшла б замуж, дык як потым апынулася ў манастыры? Вось табе і загадка. Выходзіць, сцэнарый не такі і просты...»

Княжацкія слугі ўносілі ў пакой сталы, ужо застаўленыя стравамі. Разам з усімі Богша сеў за стол. Яму хацелася піць, але на сталах не было напіткаў. Хоць бы бярозавік. Во ўжо сапраўды сухі закон дык сухі — і крынічнай вады не выпрасіш!

Затое ў сватоў быў выдатны апетыт. Добра прыгледзеўшыся, Богша заўважыў, што сваты, як і браслаўскія мужыкі, часцяком хаваюцца за спіны суседзяў, задзіраюць галовы, аж выпінаюцца гарлякі, смокчуць з доўбаных пасудзін нейкае пітво, якое не толькі дадае апетыту, але і бесшабашнай весялосці, ад якой, папраўдзе, рабілася страшнавата. Можа, які дурань пакінуў іх яшчэ пры зброі? Можа ўсчацца такая бойка, што не ацалеюць і жаніх з нявестай.

Цвярозы Богша мог спадзявацца толькі на нейкі цуд. І ён паявіўся ў выглядзе дружынніка, заіпелага па самыя вочы, які нечакана ўваліўся ў княскія харомы. За ім пракаціўся па сталах клубок белай пары, што ўварвалася з панадворка.

— Князь,— закрычаў дружыннік,— яцвягі, на Браслаў ідуць. Не падымецца сонца і на дзве ляхі, як яны будуць пад сценамі крэпасці...

Богша выбег на двор.

З-за лесу ўставала барвовае сонца, як на пажар.

Было дзіўна, як ён, Лазар Богша, не прыкмеціў, калі праляцела ноч. Можа, і не адна. Ён вярнуўся ў харомы.

Размазваючы па шчоках слёзы, у харомах плакала князёўна Прадслава.

## 7

Размазваючы па шчоках слёзы, у харомах плакала князёўна Прадслава.

— Ты чаго плачаш? — спытаўся Богша, пазіраючы, як уздрыгваюць вузкія дзіцячыя плечы князёўны.

— Хачу замуж,— усхліпваючы, адказала Прадслава.

— Цімох,— звярнуўся Лазар Богша да Баравіка-Залеўскага, які ляжаў на ляжанцы,— аддадзім Прадславу замуж за жмудскага княжыча...

— Няможна,— разважліва адказаў Баравік-Залеўскі.

— Чаму?..

— Па-першае, таму, што я строга прытрымліваюся жыція Ефрасінні, а па-другое, як мы яе потым падстрыжом у манашкі?..

— Падумаеш!.. У кіно ўсё можна, нават надзець штаны цераз галаву,— адказаў Лазар Богша.

Баравік-Залеўскі ўзлаваўся той штучнай злосцю, якую можна было ўспрыняць і за непаказную.

— Ты — дрэнь і лайдак, якіх не ведала чалавецтва са змрочных часоў Саванаролы. Можа, ты захочаш яшчэ пакласці Прадславу ў ложак з тым жмудскім княжычам?.. А трасцу табе! Я лепей задаўлюся на гнілой асіне, чым дазволю зрабіць з Прадславы разбэшчаную дзеўку. Зразумей, нягоднік, якіх не бачылі і ў эпоху японскага сярэднявечча, Ефрасіння была асветніцай. Ас-вет-ні-цай!.. І нявіннай!.. Чыстай, як крынічная вада ў студні маёнтка майго прадзеда, сябра і паплечніка Касцюшкі...

Баравік-Залеўскі ўссеў на свайго выпрабаванага кань-

ка; цяпер ён мог двое сутак сачыняць сваю радаслоўную, калі яго не спыніць.

— З мяне хопіць, здаюся,— падняў угору рукі Лазар Богша.— Я прашу толькі звярнуць увагу на князёўну, якая плача і кажа, што хоча замуж.

— Ну і што? — Баравік-Залеўскі вырачыў і без таго лупатыя вочы.— Вам, кіношнікам, прыходзяць у галаву адны банальнасці. Хіба вы можаце зазірнуць у глыб з'явы?.. Дудкі-с!.. Гэта можам зрабіць толькі мы, пісьменнікі. Вы, як тыя графаманы, якія троху навучыліся крэмзаць, абсалютна ўпэўнены, што можаце ствараць мастацкія творы. А гэта не творы, а хлусня і паскудства, ад якіх хочацца вымыцца ў гарачай вадзе. Ці мала што можа захацець князева дачка? Гэта звычайная для такога ўзросту гульня ў мамы і таты. Мне, Богша, надакучыла чытаць табе лекцыі пра той час, псіхалогію людзей, іх норавы і звычкі, гістарычны фон, на якім разгортваюцца падзеі ў нашым кінатворы.

— Пайшоў ты,— Лазар Богша хацеў яшчэ дадаць канкрэтны адрас, куды хацеў паслаць свайго сцэнарыста, але ў час спахапіўся, што ў святліцы знаходзіцца дзяўчынка, ды яшчэ князёўна.— Цябе толькі паслухай, дык ты нагаворыш на два тамы па трыццаць пяць аркушаў кожны...

— Вельмі ты адстаў,— агрызнуўся Баравік-Залеўскі.— Таксама менш дзвюх серый не здымаеш...

Яны абодва зарагаталі: і тое і другое было праўда — рабы божыя любілі разгарнуцца ўшыркі.

— Тады кажы, як Прадслава трапіла ў манастыр? — прымірэнча спытаўся Богша.— Ці, можа, ты верыш таму, што напісана ў жыцці святой Ефрасінні?.. Я табе, Цімох, адразу заяўляю, што не стану здымаць, як малалетняе дзяўчо, якое адзін за другім прыязджаюць сватаць княжычы, балбоча нешта аб марнасці славы бацькоў і наогул усяго зямнога жыцця, прапаведуе старэчы аскетызм, служэнне богу, заклікае праводзіць бяссонныя ночы ў малітвах на каленях... Не магло быць такое. Не магло!.. Князёўны ішлі замуж, а не ў манастыры. Так што паводзіны тваёй асветніцы зусім нетыповыя. Хто цяпер паверыць у яе шчырасць? Зрэшты, і тады не паверылі б.

— Замуж хачу,— азвалася Прадслава.

— Чуў? — спытаўся Богша ў Баравіка-Залеўскага.

— Не глухі,— адгукнуўся той.— Але гістарычная праўда вымагае ад мяне...

Баравік-Залеўскі раптам ускочыў з ляжанкі, як апан-

таны кінуўся да дзвярэй, дзе стаяла нейкая хваравітая з выгляду жанчына, апусціўся перад ёй на калена, спаважна ўзяў яе руку і пацалаваў з такой шляхетнай вытанчанасцю, што Богшу здалося, нібы ягоны сцэнарыст толькі і рабіў, што цалаваў ручкі пекных паненак.

— Калі ласка, княгіня Звяніслава,— ён падтрымаў жанчыну пад локаць, падвёў да цяжкага драўлянага крэсла.— Сядайце, княгіня Звяніслава... Я вельмі ўзрушаны, што нарэшце бачу вас. Мой дзед расказваў, што ваш бацька, дужа знакаміты чалавек сярод вольналюбівых ноўгарадскіх мужоў, хрысціў некалі майго продка, таксама гараджаніна і вечавога ноўгарадскага сакратара. Такім чынам мы радня, хоць далёкая, але радня...

Нейкай нязнанай інтуіцыяй Богша дапяў, што жанчына гэтая віцебская княгіня, жонка Рамана — сына Усяславава. Але далей гэтага ягоная інтуіцыя не сягала, хоць на Богшу абрынуліся пытанні, як попел Везувія на галовы жыхароў Пампеі. Сотні «чаму?» джалілі ягоны мозг, як яны любяць джаліць мазгі ўсіх дапытлівых шукальнікаў ісціны.

— Чаго яна хныча? — спыталася княгіня ў Баравіка-Залеўскага, кіўнуўшы галавой у бок Прадславы.

— Замуж хоча,— са з'едлівасцю старога сатыра адказаў той.— А між тым ёй нельга выходзіць замуж.

— Абсалютна правільна,— падхапіла княгіня.— У наш бязлітасна суровы час выходзіць замуж і раджаць дзяцей — злачынства. Што, гаротных, чакае іх? Пакуты і гора...

— Хачу замуж,— заканькала князёўна.

— Не грашы,— перасцерагла князёўну віцебская княгіня.— Хіба варта з-за гэтага плакаць?.. Дурненькая, мы плачам тады, калі нас не бяруць замуж. Але мы ўтрая мацней плачам тады, калі выйдзем замуж. Азірніся навокал. Чаго дасягнулі твае бацькі, усе сыны Усяслававы? Пажаніліся, атрымалі ўдзелы, сталі княжыць, весці войны, здабываючы сабе славу, прыносячы людзям гора. Хіба вечна гэта? Хіба жыццё не праплывае міма іх? Усё парахня, якую развейвае вецер. Не, дзіця маё, як на мой сталы розум, дык не пра замужжа трэба думаць, а куды схавацца ад мітусні і рознага непатрэбства, ад несправядлівасці і крыўды, ад гора і здзекаў. Не паспела я аддаць зямлі князя і мужа свайго, як твой бацька сеў на ягоны стол і з усіх набыткаў выдзеліў мне і манастыру такія крошкі, якія кідаюць прахожым-калекам на другі дзень

вялікадня. Але я шчаслівая тым, што знайшла ратунак у начных маленнях на каленях, у затворніцтве і пастах у цішыні манастырскіх келляў...

— Чуеш, твая княгіня Звяніслава цытуе словы Прадславы з жыція святой Ефрасінні,— задзірліва падміргнуў Баравіку-Залеўскаму Лазар Богша.— А ты нешта вярзеш пра гістарычную праўду. Твае царкоўнікі, пішучы жыціе Ефрасінні, нахлусілі ў ім, колькі ім хацелася...

— Цытуюць усе,— зазначыў Баравік-Залеўскі.— Нават акадэмікі.

— Акадэмікам усё можна,— запярэчыў Богша, абы падражніць свайго сцэнарыста.— А яна крадзе ў Ефрасінні яе ўнутраныя маналогі, гэта значыць арыгінальныя думкі, ды яшчэ мае нахабства выдаваць іх за свае.

— Тады гэта не лічылася плагіятам,— як мог абараняў сваю радню ў трыццатым ці трыццаць пятым калене Баравік-Залеўскі. Што-што, а ён не здраджваў шляхетнасці, як навучыліся здраджваць мужыцкасці ягоныя калегі.— Паўтараць чужыя, але разумныя думкі не злачынства, а дабро. Бяда, што хто-кольвечы навучыўся красці без разбору ўсё, у тым ліку і выказванні дурняў, на якіх нехта паставіў штэмпель: «геніяльна».

— З табой немагчыма спрачацца,— прызнаўся Богша і раптам прыклаў палец да вуснаў: у размове княгіні і князёўны загучалі нейкія новыя ноткі, нячутыя дасюль. Яны здзівілі і насцярожылі. Спачатку.

Потым дужа разважлівая думка працяла Богшу. Навошта яму хвалявацца, навошта наогул усё гэтае ўдакладненне дэталяў, якія, напэўна, не маюць рашаючага значэння ў гісторыі.

А што? Хіба абавязкова трэба абцяжарваць сябе пакутамі ўсяго чалавецтва? Трэба жыць весела і прыгожа. Эпікурыйцы былі не дурні. Яны ўмелі адасобіцца ад заган іхняга часу, не бачыць беднасці і гвалту, што царавалі тады на іх зямлі. Ды і сучасныя скнары-эпікурыйцы навыварат,— гэткія мужычкі-хітрункі, што паназапасілі ў сваіх камунальных кватэрах рознага барахла, якое не ведаюць нават для чаго прыстасаваць, магчыма, таксама не дурні. Яны таксама адгарадзілі сябе ад людзей і іхніх клопатаў. Праўда, яны, бадай, не ўмеюць жыць весела, гэтыя сучасныя эпікурыйцы, якія на адзіноце жаруць прадуктовы дэфіцыт...

Пісаць трэба весела, не чапаючы таго, што можа зашкодзіць твайму спакою. І фільмы ставіць такія, каб на-

ват самаму малепькаму чыноўніку незнарок не замуляла вочы. Вядома, ружовыя героі — гэтыя херувімчыкі з пульхнымі шчочкамі і попкамі — нагналі добрую аскому, але на чорта лысага цягнуць у творы ўсялякую поскудзь? Раптам нехта можа ўгледзець у ёй сябе, а ўгледзеўшы, залямантуе, што абразілі не аднаго яго, а ўвесь клас, ну, калі не клас, дык нейкую праслойку, хай не праслойку — толькі прафесію, зрэшты, можна дапусціць, што і не прафесію, а вузкую спецыяльнасць...

І тут ужо не адгаворышся прыкладамі з сусветнай літаратуры. Прызнавайся, што нарабіў глупства. Да чортавай бабулі гэтыя абвостраныя канфлікты, пра якія балабоняць крытыкі. Ім што! Яны сто торбаў нагавораць. А як толькі ты абвострыш гэты самы канфлікт, дык і трахнуць па галаве, аж пасыплюцца чорныя іскры.

Шчаслівы той, хто абачлівы. Таму ніякай поскудзі ў творах. Але і ружовых чалавечкаў таксама. Залатая сярэдзіна. Займальнасць плюс смеласць у межах станоўчага ўспрыняцця рэчаіснасці. Герой павінен падабацца. Усім, усім! Як лялька з белымі валасамі і блакітнымі вачамі, якіх расхоплівалі нават тыя, хто сам даўно перастаў гуляць у лялькі і даўно пагадаваў дзяцей.

Прыгадаўшы некалі бачаную ім ляльку вытворчасці ГДР, Богша зрабіў адкрыццё, што прыйшоў да згоды з Кірылам Лыкавязавым. Во хто дасканала ведае, што і каму патрэбна. Усё жыццё яны з Кірылам не маглі сысціся ў поглядах, і вось фінал: ён, Лазар Богша, прыйшоў да таго, чаго Кірыла Лыкавязаў прытрымліваўся ўсё жыццё.

«Не заплямім наш стэрыльна-белы кінаэкран пачварамі з жыцця».

«Дайце дарогу светламу, а чорнае выкіньце на сметнік».

«Канфлікты патрэбны тым, хто прывык лавіць рыбку ў мутнай вадзе».

«Хай наш самы перадавы ў свеце кінаэкран выпраменьвае дабрыню».

«Няма чаго герою фільма наклейваць барадаўкі — ён прыгажэй выглядае без іх».

Божа, колькі Кірыла насачыняў афарызмаў, каб апраўдаць свае бяздарныя фільмы!

Ад вечнай палемікі з Кірылам Лыкавязавым у Богшы пачынала разрывацца на кавалкі збалелае сэрца. Яму раптам здалося, што ён даўно памёр і Кірыла Лыкавязаў напісаў ужо аб ім успаміны, выстаўляючы і яго ружовень-

кім херувімчыкам — само ўвасабленне гармоніі і хараства, праўда, усё ж меншае за Кірылу Лыкавязава. Богша ўбачыў і назву гэтага эсэ: «Мы былі вернымі сябрамі».

Яго аж скаланула. Чорт з табой, рабі свае ружовыя фільмы. Кіруй і настаўляй маладых, як мастацкі кіраўнік. Але навошта ж пісаць успаміны, калі ты праз усё жыццё катаваў маё сэрца, падстаўляў падножкі, біў з-за вугла ўсім, што трапляла пад руку. І ўсё гэта рабіў ад дабрыні?.. Хлус! Ты ніколі не ведаў, што такое дабрыня. Ты толькі крычаў пра яе з усіх афіцыйных амбонаў ды заклікаў іншых быць добрымі. Сам жа рабіў зло...

У Богшавых грудзях балюча і цяжка білася сэрца. Трэба было ўзяць сябе ў рукі, пастарацца забыць Кірылу Лыкавязава, пераключыць сябе на нейкі іншы занятак.

Сэрца памалу супакойвалася. Як бы здаля да Богшы сталі далятаць галасы. Гаварыла жанчына:

— Што ты хочаш, Прадслава? Я ўзяла цябе ў манастыр, зрабіла сваёй памочніцай. Падумай толькі, якога гонару ўдастоілася ты! А калі я памру, ты станеш ігуменняй. Тады і рабі, што табе ўздумаецца. Цяпер жа, Прадслава, дай мне спакойна замольваць свае грахі. Маліся і ты. Чаму ты больш сядзіш за кнігамі, чым стаіш на каленях за малітвамі? Чаму больш разважаеш над мірскімі справамі, чым над словам божым?..

Лазар Богша не паверыў сабе: дзе ён, чаму і як апынуўся ў нейкай прасторнай келлі з лаўкай каля сцяны, грувасткім сталом у куце, над якім вісела лампадка перад трыма абразамі. Абразы зусім былі непадобны на тыя, якія Богша бачыў у цэрквах, саборах і музеях розных гарадоў. Няйначай, яны былі напісаны мясцовымі багамазамі на ліпавых дошках, так-сяк аздобленых арэхавымі рамкамі.

За сталом сядзела былая віцебская княгіня Звяніслава ў адзенні ігуменні, а перад ёю стаяла пасталелая князёўна Прадслава — манашка і пад'ігуменння.

Трэба ж такое! Хацеў пабачыць, як і чаму пайшла Прадслава ў манастыр і... праваронiў. Богшу было прыкра за сваю непаваротлівасць. Во ўжо наздзекуецца з яго Баравік-Залеўскі! Каб хоць крыху атрэсціся ад назойлівай прыкрасці, Богша знарок бесклапотна сказаў:

— Хіба гэта так важна?..

— Важна, Богша, важна,— горача адгукнулася Ефрасіння.— Ты, як і мая дзядзіна Звяніслава, думаеш, што ў манастыр вядзе адна дарога — бязмежная вера ў Хрыста і царства нябеснае. Таму і ўяўляеш манахаў на адзін

твар — чорны натоўп, як чарада гракоў увосень на мокрым полі. Ты памыляешся. Кожная з нас прыйшла сюды сваёй дарогай. І рознымі сцежкамі прадаўжаем ісці тут, у царстве адрачоных ад свету, прыстанішчы загубленых спадзяванняў і няспраўджаных надзей.

— Не кашчунствуй! — жахнулася ігумення.

— Хіба споведзь кашчунства? — спыталася Ефрасіння тым голасам, які бывае ў дзяцей і людзей з цвёрдаю верай.— На споведзі людзі прызнаюцца і не ў такіх цяжкіх грахах.

— Спавядаюцца дзеля таго, каб пазбавіцца грахоў, ты спавядаешся, каб множыць іх. Я не магу дапусціць у манастыры непаслушэнства. А ты толькі і робіш, каб манашкі не слухалі слова божага.

— Няпраўда, сястра і маці-ігумення,— спакойна запярэчыла Ефрасіння.— Я вучу іх думаць...

— Навошта? — здзіўлена спытала ігумення.— Навошта ім думаць, калі ёсць свяшчэннае пісанне? Вера ў яго пазбаўляе чалавека ад неабходнасці растрачваць душэўныя сілы свае на бязглуздае непатрэбства. Хто моцна верыць, таму няма над чым думаць. Той шчаслівы.

— Верыць можна ў тое, што здабыта і ўсвядомлена ўласным розумам.

— Памаўчы,— тупнула нагой ігумення.— Такім языком гаворыць сам д'ябал.

— Тады і языком Ісуса Хрыста гаварыў д'ябал, бо ён вучыў людзей не браць на веру вучэнне фарысееў і кніжнікаў. Ён вучыў людзей думаць і такім чынам спасцігаць дабро і праўду.

Ігумення аж пазелянела ад слоў Ефрасінні.

— Грахаводніца, на калені! — закрычала яна.— Ты дазваляеш сабе такое, бо дачка князя, а не простая манашка. Мне агоркла нарэшце цярпець гэта. Заўтра я адпраўлю цябе да епіскапа. Хай ён настаўляе цябе на пуць ісціны. Там, у святой Сафіі, у строгім затворніцтве, ты будзеш перапісваць кнігі і, можа, праз іх спасцігнеш слова божае. Маліся, няшчасная, аб сваёй душы грэшнай!..

— Дзякуй богу,— радасна ўсклікнула Ефрасіння.

Богша здзівіўся яе прасветленаму твару.

— Марш у царкву!..— загадала ігумення.— І на калені!.. На калені!.. Накладаю на цябе эпітым'ю ў сорак саракоў паклонаў перад іконай божай маці...

Падмятаючы падолам чорнай расы цвінтар, Ефрасіння спяшалася адбіць богу паклонаў сорак саракоў.

Падмятаючы падолам чорнай расы цвінтар, Ефрасіння спяшалася адбіць богу паклонаў сорак саракоў.

У царкве гарэлі свечкі. Злева на каленях малілася дзесяткі два жанчын. Справа чорнымі слупамі тырчалі некалькі манахаў у аднолькавых расах, падперазаных пяньковымі вяроўкамі. На ўзвышэнні, перад зачыненымі царскімі варотамі, спіной да тых, хто маліўся, стаяў нейкі святчэннаслужыцель з капой сівых валасоў, якія падалі лохмамі на плечы, абцягнутыя залатой рызай. Свяшчэннаслужыцель стаяў, распяўшы рукі, трымаючы ў іх святыя дары. Богша падумаў, што гэта і ёсць епіскап.

Епіскап схіліў галаву перад царскімі варотамі, павярнуўся тварам на царкву, бласлаўляючы манахаў і жанчын. Тыя падалі на падлогу, як падаюць ад ветру снапы на жытнёвым полі. Толькі Ефрасіння засталася стаяць сярод царквы, і гэтага не мог не заўважыць епіскап.

— Ідзі за мной,— загадаў ён Ефрасінні.

Несучы святыя дары на выцягнутых руках, епіскап пайшоў да дзверцаў справа ад царскіх варот. Жанчыны і манахі з вясёлым пошумам падымаліся з падлогі, хрысціліся лянівымі ўзмахамі рукі, нібы не хапала сілы асяніць сябе размашыстым крыжам.

Царква ўвачавідкі апусцела. Яны з Ефрасінняй засталіся адны сярод каменных сцен, якія вянчаў недасягальны купал. Ефрасіння пайшла ад абраза да абраза, гасіла пальцамі свечкі — царква памалу патанала ў змроках, і ўсё больш выразна чамусьці вынікалі на абразах строгія твары святых. Яны наводзілі змярцвеласць і страх.

Богша назіраў, як у пальцах Ефрасінні гасне кволы агеньчык свечкі, і яму здавалася, што гаснуць не свечкі, а зоркі ў Сусвеце, нібы настаў канец свету, пра які некалі думалася дужа адвольна і з недаверам. Канец свету сапраўды быў жахлівы, праўда, зусім па-іншаму, не так, як ён апісаны ў апакаліпсісу. Той канец свету быў больш тэатральны: трубы анёлаў, вывяржэнне попелу, серы і распаленых да чырвані каменняў, рэкі, якія цяклі назад да вытокаў, грукат грымотаў, плач тых, хто запознена раскаяўся.

Тут панавала мёртвая цішыня і густая цемра, ад якіх займала дыханне, і толькі праблескі свядомасці падказвалі, што над зямлёй пранеслася ядзерная катастрофа. Богшу было зусім няважна ведаць, хто вінаваты ў ёй. Не бы-

ло ні вінаватых, ні бязвінных — яны ператварыліся ў попел, які перамяшалі, узнялі ў неба грандыёзныя выбухі і шалёныя віхуры.

І ўсё ж вінаватыя былі: ён, Лазар Богша, і Ефрасіння Полацкая. Яны былі вінаватыя, што выжылі. Цяпер ім належала судзіць саміх сябе за тое, што засталіся жывыя, што на іх легла адказнасць за смерць усяго чалавечага роду. Чаму яны не сталі поперак смерці, чаму не загарадзілі ёй дарогу?

Лазар Богша прыгадаў усе спрэчкі апошніх гадоў: колькі слоў было сказана, каб утаймаваць вар'ятаў, а тыя ўсё ж зрабілі сваю чорную справу.

Богшу хацелася выць, крычаць ад роспачы, бяссілля і адзіноты. Але гэта ўжо не магло дапамагчы.

Згаснуць бы так, як гасне ў Сусвеце зорка. А можа, і яна гасне з болем і ў роспачы, што нешта не здолела прадбачыць?

Нейкая тайна заставалася для Богшы за сямю замкамі. Ён стаяў разгублены, знішчаны сваёй вінаватасцю. Таму голас Ефрасінні ў цемры здаўся яму ратавальным агеньчыкам у далёкай далі, дзе, магчыма, існавала жыццё і збаўленне ад жаху жыць на адзіноце.

— Я здагадваюся, чаму епіскап паклікаў мяне,— Ефрасіння як бы разважала ўголас.

Яна пайшла да бакавой форткі злева.

За форткай да царквы былі прыбудаваныя пакоі епіскапа. У прыхожай стаяла драўляная канапа, падобная на палок у лазні. На ёй сядзеў малады манах і старанна калоў арэхі, але не еў ядры, а складаў іх на драўляны сподак. Пэўна, для епіскапа.

— А ты куды прэшся? — спытаўся ён у Богшы.

— Да епіскапа...

— А чаго?.. Якое ў цябе важнае пытанне, каб надакучваць епіскапу? — дапытваўся манах, не пазіраючы нават на Богшу, быццам той і не чалавек, а нейкая казяўка.— Калі наконт асобнай келлі, дык звярніся да келяра, а калі наконт работы, дык пагавары з псаломшчыкам... Епіскап дужа заняты. Ён усю ноч маліўся. Ні на хвіліну не заснуў...

У Богшы не было ніякіх просьбаў. У яго зараз наогул ніякіх чалавечых пачуццяў не было. Толькі ў далёкай памяці замаячыў, нібы выхаплены з цемры ўспышкай маланкі, сляпуча белы сілуэт — дзве старэчыя постаці на прызбе. Дзяды зацята спрачаліся: хто вядзе карову, чала-

век ці вяроўка? Нейкая бязглуздзіца, але яна вярнула Богшу чалавечыя пачуцці.

— Патрон запрасіў мяне па важнай справе,— нахабна пазіраючы на манаха, схлусіў Богша.— Я буду пісаць ягоны жыццяпіс. Цяпер усе пішуць свае жыццяпісы і пры жыцці друкуюць дзённікі, як бы распранаюцца дагала.

Манаха нібы ветрам здзьмула з канапы.

— Праходзь, будзь ласкавы,— адчыніў ён дзверы ў пакой епіскапа.

Там, у вялікай гасцінай, прыслужнік памагаў епіскапу знімаць рызу. Зняўшы, ён павесіў яе на калок. Рыза тапырылася лубам. Здавалася, пад ёю так і засталася ганарлівая абалонка епіскапа. Сам жа ён стаяў сярод пакоя ва ўсёй сваёй непагляднасці: хударлявы, вузкаплечы і крываногі, у белых портках і палатнянай кашулі. Прыслужнік накінуў на ягоныя плечы накідку — гарнастаевае футра на чырвонай шаўковай падбіўцы. Епіскап зморана апусціўся на лаўку, адкінуўся да сцяны на падкладзеную ўсё тым жа прыслужнікам падушку.

Ні Ефрасінню, ні Богшу ён не запрасіў сесці.

«Ну і хам!» — падумаў Богша.

— Клікалі, отча прападобны? — спыталася Ефрасіння.

— Падай квасу,— загадаў епіскап прыслужніку,— і можаш ісці...

Ефрасіння стаяла, склаўшы рукі пад грудзямі. Яны падзявочы гарэзліва адтапырвалі чорную расу.

Прыслужнік прынёс квас, падаў епіскапу з паклонам.

— Хачу сказаць табе колькі слоў,— напіўшыся квасу, звярнуўся да Ефрасінні епіскап.— А ты выслухай уважліва і ўспрымі з любоўю.

Ефрасіння пакланілася.

— Отча прападобны, прыму словы твае, як падарунак неацэнны,— пакорліва адказала Ефрасіння, хоць Богша заўважыў, што пакорлівасць гэтая далася ёй з неймавернай цяжкасцю.

Епіскап вытрымаў паўзу, няйначай, каб Ефрасіння адчула ўсю важнасць таго, што ён ёй скажа.

— Было мне ў сне бачанне дзіўнае,— нарэшце загаварыў ён глухаватым голасам.— З'явіўся да мяне анёл божы і кажа: «Пашлі рабу божую Ефрасінню ў Сялец, дзе царква святога Спаса. Там ёй належыць быць, маліцца за душы памёршых манахаў, якія жылі пры царкве да ўтварэння епіскапіі ў Полацку».

Епіскап гаварыў са шкадаваннем у голасе: ён нізаво-

шта не адправіў бы Ефрасінню ў пахілую, занядбаную царкву, але ж на тое воля божая і не паслухацца яе вялікі грэх. Богша адчуваў, што гэтае шкадаванне — прытворства, за якім хаваецца нешта іншае, а таму з нецярплівасцю чакаў, што скажа Ефрасіння.

— Сапраўды бязмежна ўлада боская,— вытрымаўшы доўгую паўзу, сказала Ефрасіння і ўзняла вочы да абразоў.— І да мяне ў сне з'явіўся анёл божы і, пакланіўшыся, параіў пакінуць маленечкую келлю ў святой Сафіі і адправіцца ў Сялец, каб праўдай і верай служыць там Ісусу Хрысту. І не адзін раз пасланнік божы з'ўляўся мне ў сне, а тройчы запар. Так што я добра запомніла ягоныя анёльскія словы. У трэці раз ён паабяцаў мне, прападобны отча, узяць Сялец у поўнае маё карыстанне, бо ён і належаў майму бацьку яшчэ пры жыцці дзеда Усяслава.

Здалося, епіскап праглынуў аршын. Ён спрабаваў нешта сказаць, нечаму запярэчыць, але толькі хаўкаў ротам, як шчупак, выкінуты на гарачы пясок.

— Ён не мог так сказаць,— нарэшце ў епіскапа прарэзаўся голас.— Ты лжэш, Ефрасіння.

— Гэта ты лжэш, отча. Анёл абяцаў сказаць і табе пра Сялец. Нядобра, прападобны отча, утойваць слова божае, бо гэта вялікі грэх.

— Як ты размаўляеш са мной? — узлаваўся епіскап.

— Нікуды я не стану перасяляцца,— рашуча сказала Ефрасіння.— Я прывыкла тут сустракаць сонца за чытаннем і перапісваннем кніг, а змрокі — за малітваю...

— Не сваёй справай ты занялася, князёўна,— папракнуў яе епіскап.— Князь гневаецца вельмі. Навошта ты, паддаўшыся дрэннаму прыкладу кіеўска-пячэрскіх старцаў, пішаш абы-што пра князёў. Адзін бог можа судзіць іх за справы іхнія. Манахам належыць замольваць свае і чужыя грахі, а не пнуцца ў свецкія справы. Хай мітусня людская і клопаты іх застаюцца за парогам царквы...

— Замольваючы грахі, мы міжволі прыгадваем свецкае быццё. Уцячы ад яго немагчыма, нават схаваўшыся ў глухіх нетрах лясоў. І ты ведаеш пра гэта, отча...

— Во і маліся! Святая візантыйская царква вучыць нас падтрымліваць князёў і воінства іх як паслядоўнікаў бога і яго анёлаў на зямлі.

— І забойствы таксама?..

— Пра што ты?.. На ўсё воля божая...

— Візантыйская царква пагрузла ў распустве і багацці. Ты, отча прападобны, таму і абараняеш яе, што сам хо-

даіш у дарагіх адзеннях і жывеш у цёплых пакоях, а бедны гараджанін мерзне ад холаду з восені да лета.

— Сыдзі ад граху падалей,— закрычаў епіскап.— Княжай і сваёй уладай загадваю — сыдзі!..

— Мяне можна выгнаць з Полацка, але ж праўда застанецца тут.

Ефрасіння крута павярнулася і выйшла, пакінуўшы Богшу на адзіноце з епіскапам.

— Навошта ж ты так, епіскап? — упікнуў яго Богша.— Ефрасіння жадае дабра і шчасця Полацкай зямлі.

Епіскап паглядзеў на Богшу, як на дзівака.

— На тое ёсць князь і веча,— сказаў ён.— Дужа ўсе разумныя сталі. Усе толькі і робяць, што клапоцяцца пра Полацкую зямлю... Ефрасіння вечна будзе гарэць у пякельным полымі, а імя яе будзе забыта хутчэй, чым цела яе ператворыцца ў парахню. Яна нешта блюзніць пра праўду. А праўда ў кожнага свая. Маленечкая, а свая. У князя вялікая праўда, бо ён князь. У вечавога тысяцкага — меншая, але большая за праўду рамесніка ці дружынніка. Манаху не праўда патрэбна, а вера. Ефрасіння не праўду шукае, а ісціну, якая аднаму богу даступна. Грэх дужацца з самім богам. Таму і нам, манахам, ад яе дужання адны страты і клопаты. Вунь яна надумала летапісы весці. Не толькі нашы князі, а кіеўскія, чарнігаўскія, суздальскія і смаленскія занепакоіліся. Навошта царкве з князямі спрачацца? Нам бы свае грахі замаліць. Яна ж яшчэ надумала Баянавы песні запісаць, бо дзеда яе Усяслава Баян славіў. А Усяслаў усім багам маліўся. Царства яму нябеснае, але царкве больш выгоды, каб пра яго менш ведалі.

— Дык што будзе з яе летапісам і песнямі Баяна? — спалохаўся Лазар Богша.— Можа, ты загадаеш іх знішчыць?..

— На тое княжая воля,— ухіліўся ад прамога адказа епіскап.

Богша падумаў, што трэба папярэдзіць Ефрасінню.

Ён выбег на двор.

Густая цемра ахутвала горад, і толькі ў небе сям-там свяціліся цьмяныя зоркі.

9

Густая цемра ахутвала горад, і толькі ў небе сям-там свяціліся цьмяныя зоркі.

Толькі цяпер Богша сцяміў, што не ведае, дзе шукаць Ефрасініну келлю. Здаецца, у царкве.

Ён пайшоў вобмацкам, як сляпы, трымаючыся сцяны, і нечакана для сябе апынуўся ў царкве. У ёй, з-пад самага купала, звешвалася на тонкай пяньковай вяроўчыне панікадзіла — сем рознакаляровых лампадак у каваных падстаўках-трымальніках. Лампады кідалі на царкву мройнае святло, падобнае на няяркую вясёлку.

Богша прыгадаў, што такое прымітыўнае панікадзіла з лампадак ён бачыў некалі ў музеі Рафаіла Долі. Тады ён не звярнуў на яго ўвагу. Можа, і сам Доля не ведаў, які трымаў скарб.

Няма ўжо ні Долі, ні панікадзіла, ні іканастаса, ні самога музея. Хутка не стане і яго, Лазара Богшы, і тады наогул знікне памяць аб унікальнай калекцыі, як знікла памяць аб тым, хто пачаў некалі яе збіраць, як знікла памяць аб тым, хто напісаў «Слова аб палку Ігаравым»...

Богша павярнуўся, каб пайсці адсюль, з гэтай славутай царквы, дзе ўсё нагадвала мінулае і навекі страчанае. У думках ён прасачыў доўгую гісторыю існавання Сафійкі, прыгадаў, напэўна, самую дзікую задуму каталіцкіх служак пана бога — сцерці наогул памяць аб былой славе Полацка. Не было яе, славы, не было гісторыі. Яна пачалася з таго часу, як Полацк трапіў пад уладу польскіх паноў і уніяцкіх епіскапаў. Таму яны не проста перасвянцілі Сафійку ў касцёл, а перабудавалі яе, надаўшы строгім формам абрысы шляхетнасці. Але строгія формы не лезлі ў шляхецкую апранаху напаказ. Яны, на злосць перабудоўшчыкам, вылазілі з гэтай апранахі. Богша быў рады, што адзін са свайго дваццатага стагоддзя ўдастоіўся гонару бачыць царкву Сафіі ў яе першазданным вобліку.

Дзве жанчыны з вялізнымі хатулямі, гнучыся пад іх цяжарам да падлогі, кіравалі з царквы на выхад. Богша не заўважыў, адкуль яны паявіліся. Ён пайшоў за імі.

Выйшаўшы на царкоўны цвінтар, жанчыны азірнуліся. Адна з іх была Ефрасіння.

— Куды ты? — спытаўся ён.

— У Сялец...

— Не магла дачакацца дня?..

— Ноч — мая ратавальніца...

Богша падумаў, што яму варта было б памагчы жанчынам. Але яны стаялі ўжо каля новай хаты, ад бярвення якой пахла смалой. Недзе за плотам ляніва разы два гаўкнуў сабака. Спадарожніца Ефрасінні паклікала яго, і ён замоўк. На высокім ганку паявілася постаць мужчыны ў белым — кужэльная кашуля дасягала яму да пят.

— Хто там? — спытаўся ён.

— Ладзіслава, брат Лазар, з княжной Прадславай,— адказала Ефрасініна спадарожніца.

Мужчына скаціўся па прыступках уніз, вызваліў Ефрасінню ад паклажы. Панёс хатуль у хату.

У хаце пахла жыллём, бярозавым дзягцярным духам і жалезнай акалінай. Богша спыніўся ў парозе. Навокал яго панавала чорная цемрадзь.

Дзесьці ў куце цяжка засоп кавальскі мех. У горне ўспыхнула колькі іскраў. Неўзабаве затрапятаў і агеньчык. Чорныя змрокі шарахнуліся па закутках. Перад Богшавым зрокам паўстаў пакой, які ён недзе ўжо бачыў.

«Гэта ж Лазара Богшы хата,— прамільгнула ў Богшавай галаве здагадка.— Калі я быў у ёй? Тады як жывыя здані прывезлі мяне і кінулі ў старажытным Полацку на марозе?..»

Сярод пакоя цяпер стаяла Ефрасіння. Яе спадарожніца, сястра Лазара Богшы Ладзіслава, знімала з плячэй хатуль, каб пакласці яго на стол побач з хатулём Ефрасінні. На палацях ляжаў стары, няйначай, бацька Лазара Богшы. А сам Лазар Богша — майстар славутага крыжа для Спаскай царквы — стаяў каля горна, раздзімаючы ў ім агонь. Ён быў малады, яшчэ бязвусы, русавалосы і сінявокі.

Бацька Лазара ўсё прыглядаўся да начных гасцей.

— Ладзіслава, ці ты гэта? — спытаўся ён.

— Я, тата, з князёўнай Прадславай.

Стары споўз з палацяў, пакланіўся Ефрасінні.

— Слава табе, князёўна, на вякі...

— І табе, майстар Багуслаў,— адказала Ефрасіння.

— Які я майстар,— махнуў рукой стары.— Аслеп во... Цяпер ён майстар... А вы адкуль і куды, калі не тайна?..

— Тайну мы хочам пакінуць у цябе, майстра... Тваю і нашу тайну.

Яна развязала вузлы на хатулі. У святле горна ярка бліснула каваная аздоба кніжнай вокладкі.

— Пазнаеш, майстар, сваю работу?.. У ёй і часцінка маёй працы — летапіс княства Полацкага, складзены мною па летапісцах Брачыслававых і Усяслававых...

Стары майстар падышоў да стала. Дрыготкай рукой ён памацаў залатыя засцежкі, акаваныя ражкі вокладкі, ікону богамацеры, устаўленую ў вокладку ў самым яе цэнтры.

— Мая работа,— перасельным ад хвалявання голасам

сказаў ён.— Нягожа, князёўна, такую каштоўнасць цягаць у хатулі ўначы па горадзе...

— Тата, як ты можаш! — крыкнуў ад горна сын.

— Магу, бо зробленае — непаўторна,— адказаў стары майстар.

— Таму і прынесла табе, майстар,— сказала Ефрасіння.— Схавай кнігу гэтую падалей ад чалавечых вачэй. Баюся, што яе можа спасцігнуць страшная бяда.

— Што ты кажаш, князёўна? Хто пасмее зрабіць замах на кнігу з воблікам богамацеры?..

— І вось гэты летапіс схавай,— як бы не пачуўшы старога майстра, Ефрасіння дастала з хатуля другую кнігу ў простых вокладках з ліпавых дошак, абцягнутых цялячай скурай. Ражкі абіўкі абшарпаліся, але кніга выглядала зусім новай.— То малы летапісец дзеда майго Усяслава. Дзіўлюся, калі паспяваў ён яшчэ садзіцца да стала, каб напісаць колькі слоў пра падзеі не толькі ў Полацку, але і ў Ноўгарадзе, Чарнігаве, Кіеве, Смаленску. Люты ён быў у баях, але і ў кніжнай справе пераўзыходзіў сам сябе.

— Надоўга, князёўна, вартаваць мне гэтыя кнігі? — спытаўся стары майстар, як толькі Ефрасіння замоўкла.— Чую, дні мае злічаны, хоць Перунова страла яшчэ не паслана па маю душу...

— Не ведаю, майстар,— прызналася Ефрасіння.— Пакуль у Полацку княжыць атожылак кіеўскі, усяго можна дачакацца. Але я пастараюся з часам перахаваць іх. Ладзіслава,— звярнулася яна да сваёй спадарожніцы,— нам час у дарогу...

Ладзіслава загарнула астатнія кнігі ў кавалак палатна, завязала ражкі вузлом, закінула хатуль за плечы.

На двары ўсё яшчэ стаяла цёмная ноч. Абедзве падарожніцы мінулі гарадскі пасад, пайшлі сцежкай у жыце. За ім чарнеў лес. Падарожніцы нырнулі пад яго шаты і вынырнулі ўжо за ім, на паляне, сярод якой стаяла невялікая драўляная царква з манастырскімі харомамі.

На ўсходзе залачала неба. У прывідным святле зары асабліва кідаліся ў вочы вартыя жалю беднасць і запусценне. Ефрасіння пайшла да расчыненых насцеж дзвярэй струхлелай будыніны. Квадратны пакойчык у ёй нагадваў бы катушок для свіней, каб не было ў ім палацяў, глінабітнай, патрэсканай ад часу печы, дубовай лаўкі і дубовага стала.

Ладзіслава, як толькі скінула хатуль на палаці, адразу загаласіла, як па нябожчыку: «А ці не лепей нам было

кінуцца з кручы ў хуткаплынную Дзвіну? Ці не лепей было, каб нас разарвалі ваўкі, чым памерці ад голаду і холаду ў гэтай глухамані? Хай вялікі Пярун паб'е тых, хто прыдумаў нам такое лютае пакаранне...»

Яна магла галасіць бясконца доўга. Ды ў святле сонечнай раніцы раптам узнікла на парозе келлі нешта калматае, зялёнае, бруднае, абарванае.

— Чаго сырасць разводзіш? — асіплым чалавечым голасам спытала яно.

Ладзіслава крыкнула, як падавілася праклёнамі. У яе вачах адбіўся жах.

— Ці не старац Іона? — спыталася Ефрасіння ў зялёнай здані.

— Ага, ён самы,— адказала здань.

— А я Ефрасіння, у свецкім жыцці дачка князя Святаслава. Унучка Усяслава.

Старац упаў ніцма.

— Цеснай хіба стала келля святой Сафіі? — спытаўся ён.— Харчышак ці прынесла?.. Тут з голаду апруцянееш...

Ефрасіння памагла старцу падняцца з падлогі.

— А што казаў бог апосталам? — павучальна загаварыла яна.— Не насіць з сабой нічога, апрача спадарожнага кія. У мяне ж і кія няма, бо па маладосці ён непатрэбны мне. Затое я маю надзейнае апірышча — кнігі. Дасць бог, ствару тут школу. Запалю агеньчык святла і розуму на зямлі Полацкай, каб знікла навала, бо ўсе беды нашы ідуць ад невуцтва і цемнаты...

— Харчышак бы якіх,— зноў заскуголіў старац Іона.— Хлеба даўно не еў. Усё лебяду ды крапіву ямо. Ногі не ходзяць...

Ён быў вялікі грэшнік, гэты галодны старац Іона.

На званіцы зазыўна заблямкаў звон, склікаючы паству на ютрань.

## 10

На званіцы зазыўна заблямкаў звон, склікаючы паству на ютрань.

Ефрасінні здалося, што ён сёння блямкае асабліва ўрачыста. А ёй, як на грэх, не маглося. Балела ўсё цела, як на перамену надвор'я.

Да пачатку ютрані заставалася часу вярсты на дзве спорным крокам. Ефрасіння адкінулася спіной да сцяны, прыкрыла цяжкімі павекамі вочы. Яна мела права на гэты кароткі адпачынак.

Але, як толькі яна заплюшчыла вочы і як бы адгарадзілася ад надзённых спраў, мінулае агарнула яе, запярэсціла ўваччу. У ім не было вялікіх радасцей, ды і тыя, што былі, здабываліся крывёю, потам, салёнымі слязамі. Можа, усім радасцям такая цана, іначай яны і не сталі б радасцямі?..

І ўсё ж яна магла быць задаволена сабой.

На месцы струхлелай будыніцы — царквы святога Спаса — у Сяльцы вырас манастыр, пабудавана новая каменная царква, а ў ёй гонар і вядомасць манастыра — напрастольны крыж, пра які сягнула слава аж да самога Ерусаліма. Канечне, гэта не толькі яе клопат. У першую чаргу дойліда Івана і майстра Лазара Богшы. Іван угаварыў яе паспрачацца з самой Візантыяй. Царква пабудавана на славянскі лад. Візантыйскія дойліды пасміхаліся: хай палачане паспрабуюць збудаваць храм. Дваццаць гадоў будуць будаваць, а ён і двух гадоў не прастаіць. А яго пабудавалі за два з паловай гады, і стаяць ён будзе вечна. Ці тое набудавалі б палачане, каб не гэтыя войны, княжыя міжусобіцы? Ефрасіння ненавідзела іх душой. Але нічога зрабіць не магла і ўжо не зможа.

Шчасце і слава яе — кнігі. Яны тварэнне яе рук, розуму і бяссонных начэй. Днём ёй хапала спраў па манастыры. Гаспадарка, што ні кажы, вялікая. Усё трэба дагледзець, на ўсё патрэбны час. Для кніг заставалася ноч. Колькі іх праведзена за перапісваннем! Літарку да літаркі, слова да слова, радок да радка, старонку да старонкі. Цяпер на царкоўных аналоях ляжаць яе кнігі: евангелле, псалтыр, малітоўнік. Але гонар яе не яны, а летапіс, над якім яна працавала каля дваццаці год. Па крупінцы збірала, правярала, вывярала кожную дату, кожны факт. Нашчадкі павінны ведаць праўду. Не трэба яе ні прыхарошваць, ні мазаць каламаззю. Якая ёсць, такой і павінна застацца нашчадкам. Другі яе гонар — песні Баянавы. Яна беражна збірала іх, запісвала, баючыся, што, можа, бярэ на душу вялікі грэх. Яна гатова дзень і ноч адмольваць той грэх! Затое якая асалода чытаць песні ў вольны час. Хай і яны застануцца нашчадкам.

Не, ёй сапраўды можна радавацца і быць шчаслівай. Дык чаму ж тады так неспакойна на душы, чаму шкрабе яе, точыць шашаль?

Ці адзін ужо раз задумвалася Ефрасіння, на каго можна даверыць гэтыя найкаштоўнейшыя скарбы. Слоў няма з таго часу, як пайшла па Русі пісьменнасць, кнігі сталі і

багаццем і гонарам гарадоў, манастыроў, князёў, епіскапаў і нават простых людзей. А ўсё ж, хто пасля яе захавае манастырскія кнігі? Ці мала знойдзецца такіх, хто кнігамі паспрабуе адкупіцца ад чужога князя, хто ў жаданні дагадзіць чужаземцу падаруе яму якую-небудзь з выпакутаваных ёю кніг.

Праўда, ёсць у яе на прыкмеце вучань. Туташні, са слаўнага роду Ратшы, які перабраўся ў Ноўгарад, дзе больш зацішна, чым у Полацку. Вельмі здольны юнак. Такіх здольнасцей Ефрасіння не бачыла за свой век. І сумленны. Ды і жыцця пабачыў. З малых год жыў у суйскіх язычнікаў, спасцігаў старажытную мудрасць суйскіх дзядоў. Потым бацька забраў яго адтуль і аддаў у школу да Ефрасінні. Гэты змог бы памножыць кніжную справу. Але ёсць у яго адна рысачка, якая выклікае ў Ефрасінні сумненне.

На званіцы ўсё яшчэ зазыўна блямкаў звон, і яна падумала, што час ісці да ютрані.

Нехта асцярожна, як бы сарамліва крануў біла. Яно тройчы грукнула аб ліпавую дошчачку.

— Хто там? — спыталася Ефрасіння.

— Гэта я, настаўніца,— пачуўся з-за дзвярэй голас.

— Заходзь...

У келлю ігуменні зайшоў Паэт, што напіша «Слова аб палку Ігаравым».

— Блаславі, прападобная,— схіліўся ён у паклоне.

— Бог блаславіць,— Ефрасіння двума пальцамі начарціла ў паветры крыж.— Што прывяло цябе так рана?..

— Рашэнне...

Ефрасіння горка ўздыхнула.

— Я так спадзявалася на цябе, а ты кідаеш мяне...

— Настаўніца, я пайшоў бы за табой на край свету, але дзядзька мой кліча мяне ў Чарнігаў. Ды і люба мне на свае вочы пабачыць стэпы палавецкія, пахадзіць у паходах на стэпнякоў. Полацкая зямля падобна зараз на параненага мядзведзя. Кожны сабака яшчэ ад жывога хоча адхапіць сабе смачнейшы кавалак... Ноўгарад, той атлусцеў і не можа цікавіць творцу. Паўднёвыя гарады з іх князямі хвалююць маё ўяўленне.

— Я разумею цябе,— сказала Ефрасіння.— Я спадзявалася, што ты станеш захоўваць нашу кніжную скарбонку... Можа, калі напісаў бы і пра тое, як мы рабілі яе.

Аўтар «Слова» сумеўся — не чакаў ён такога ад Ефра-

сінні, а выходзіць, і настаўніца не пазбаўлена самаўпэўненай ганарлівасці.

— Настаўніца,— прачула загаварыў ён,— я не нарадзіўся, каб складаць песні-быліны па пракладу Баяна або салодкія прамовы, якімі цешыць сябе і прыхаджан Кірыла Тураўскі, выскаляцца так, як Даніла Заточнік, не па сэрцы мне і складаць жыція, накшталт тых, што складзены аб Барысе і Глебе ці аб Васільку Церабвольскім. Мая душа прагне ўзвышанага, вялікага, праўдзівага і неабдымнага. Я хачу спяваць на ўсю Русь, а не для аднаго князя ці аднаго горада.

— Гэта ў цябе ад старэйшага жраца суйскага храма. Гэта ён узбаламуціў тваю душу...

— Маю душу ўзбаламуціла ты, настаўніца,— сказаў аўтар «Слова».— Гэта ты закінула ў яе іскру надзеі. Мы дужа надоўга, настаўніца, застанемся ў душы язычнікамі, хоць будзем маліцца Хрысту. Старая язычаская вера яднала народы. Новая раз'яднала іх.

Яны доўга маўчалі, аж Богша знецярпеў ад гэтай паўзы.

— Я таксама пакідаю Полацк,— амаль нячутна сказала Ефрасіння.

— Настаўніца, чаму?..

— Заўтра прыхаджанам скажуць, што я паехала пакланіцца труне божай у далёкі Іерусалім. Цесна і душна стала тут. Дыхаць няма як. Не мне першай пакідаць айчыну. Не мне апошняй.

— Палачане не дапусцяць такое,— горача запратэставаў Паэт.

Ефрасіння горка ўсміхнулася. Аднымі пабялелымі вуснамі.

Перад сценамі манастыра гуў растрывожаны натоўп.

## 11

Перад сценамі манастыра гуў растрывожаны натоўп. Лазар Богша дужа лёгка прашыў натоўп наскрозь, апынуўся на манастырскім двары. Сярод яго стаялі нейкія царкоўныя чыны ва ўрачыстых рызах.

— Нам бы воінаў сотню,— сказаў адзін з іх.

— Пакрычаць і супакояцца,— выказаў меркаванне другі.

— Аслабла вера ў народзе, вось што...

— Калі з чатырох аднаму адкруціць галаву, трое адразу стануць верыць...

— Усё не тое,— сказаў, мабыць, галоўны чын.— Людзі шануюць яе за грахі. Зробім грахі праведнасцю, а яе, грэшную,— святой. Самі не зробім, людзі зробяць.

— Наіўныя спадзяванні,— рагатнуў нехта.

Богша азірнуўся на незнаёмы голас.

Пад разгалістым дрэвам, якія растуць, няйначай, як у раі, сядзеў пацешны чалавечак, пакамечаны, кудлаты, у паношаным зрэб'і, але па выгляду жыццярадасны і бесклапотны.

На галаве ў яго ляпіўся каўпак, мабыць, з лямцу, але такі паношаны, што не здагадаешся, якім ён быў новы: троху крываватыя ногі былі абуты ў сырамятныя пасталы, падвязаныя сырамятнымі аборамі па белых кужэльных анучах. Ствараласяўражанне, што чалавек з усяго свайго цела найбольш шануе ногі. А што! Калі, можа, яго ногі кормяць, дык станеш шанаваць іх.

— Я і кажу, усё наіўныя спадзяванні. Не станем заглядаць у далёкую будучыню, калі сённяшні дзень можа быць астатнім днём твайго жыцця, у якім ты не ведаў радасці, а толькі пакуты, сорам і брыду зямнога быцця. Ваструбім, як у златакаваныя трубы, ва ўсе сілы розуму свайго і зайграем у сярэбраныя арганы гордасці сваёй мудрасцю, абы не чуць, не бачыць беднасці, здзекаў, жорсткасці і гвалту. Дайце мне багацце і грошы, княжы стол або мітрапаліцкія палацы, каб я адвёў вочы свае ад пакут людскіх, абы самому піць, есці, весяліцца... О, вартыя жалю людзі, якія сядзяць на скрынях з даброму і не заўважаюць голых і сірых, што пакутуюць ад голаду і холаду! І яны яшчэ вучаць жабрака раздзяліць хлеб свой з такім жа жабраком. Як стрымаць сябе і не плюнуць у іхнія бессаромныя зрэнкі?..

Лазар Богша з душэўным хваляваннем слухаў бязладную гаворку незнаёмага чалавека. Хто ён?..

— Не кашчунствуй! — важка прагучаў знаёмы голас Ефрасінні.— Самкні вусны твае, бо з іх не водар або пяшчотны напеў, а смурод і карканне ворана, які ляціць на крывавую трызну. Чалавек справамі сваімі вялікі, а не багаццем. Не дагаджай чэраву, яно бяздоннае, а галаве, якая прагне ўсё спазнаць і на ўсё даць адказ...

— Ну і пацешыла, настаўніца,— зарагатаў чалавечак.— Меўшы багацце, можна плявузгаць аб яго нікчэмнасці. А калі ў мяне ні граша, ні палушкі, а нутро аж смыліць ад смагі?..

— Спадзявайся...

— На што?..

— На божую прыхільнасць...

— Ці многа ты спадзявалася, калі выперлі цябе з Сафіі?.. Гібела б у беднасці і забыцці, каб не міласць епіскапа, твайго бацькі і суйскіх язычнікаў, якія напоўнілі сусекі зернем, хлявы жывёлай, а харомы манастырскія дармавой сілай.

— Слухаць цябе крыўдна, бо талент свой размяняў на прымаўкі скамарошскія,— тонам вясковай настаўніцы, якая прывыкла павучаць малалетак, пачала ўсчуваць пацешнага чалавечка Ефрасіння.— Усё жартачкі і жартачкі...

— А табе, можа, больш даспадобы такія крыўлякі, як тураўскі затворнік Кірыла? — спытаўся чалавечак.— Замураваў сябе ў вежы крапаснои, з чарапкоў есць, з прыгаршчаў п'е толькі ваду з Прыпяці і вяшчае, каб увесь люд, гледзячы на яго, не еў, не піў... Выкрывае абжорства епіскапа, мітрапаліта, папоў і дзякоў, што асабліва падабаецца бедным... Знаем мы гэтых выкрывальнікаў чужых заган. Гэтых гаваруноў з любога поваду, абы сябе выставіць, паказаць, які ён праведны, які разумны. Дайце яму толькі епіскапскі сан, як ён пачне грэбці ўсё сабе і сабе, салаўём запяе пра божую благадаць і нікога ўжо не пачуе, апрача сябе...

— Не паклёпнічай на Кірылу,— крыкнула Ефрасіння.— У яго не слова — мёд і крэмень, бо прыемныя слыху і не разыходзяцца са справай. І ўвесь спосаб жыцця яго — узор дасканаласці і самаахвярнасці...

Яна, здаецца, узлавалася не на жарт.

Чалавечак падміргнуў Богшу, як бы заклікаючы яго ў хаўруснікі.

— Ты хто? — спытаўся Богша.

— Даніла Заточнік... Няўжо не чуў?.. Мяне па ўсім Уладзімірскім і Суздальскім краі ведаюць. Я праўду ў вочы рэжу. За гэта і засадзілі ў манастыр на Лач-возеры.

— Манах, а гаворыш, як бязбожнік,— сказаў Богша, стараючыся прыгадаць, дзе знаходзіцца тое Лач-возера.

— Дзівак ты, Богша,— усміхнуўся Даніла Заточнік.— Бязбожжа найперш і выспявала ў манастырах. А дзе ж яшчэ?.. Простаму чалавеку ні да бога, ні да чорта. Яму адно ў галаве, як бы выжыць ды пражыць адведзеныя дні. А калі дзень пры дні, ноч за ноччу ходзіш у ціхамірнай келлі на адзіноце з сабой, непазбежна пачынаеш варушыць мазгамі. Спачатку спакваля, як цяжкімі жорнамі, калі мелеш сырое зерне, а потым усё весялей і весялей. І ўжо

разгортваеш святое евангелле не са святасцю, з якой належыць разгортваць яго, а з сумненнем і многімі пытаннямі, на якія табе ніхто, апрача цябе, не адкажа. Тады вачам тваім пачынаюць адкрывацца тайны, святая покрыўка падае з кніг, і ты размаўляеш са звычайнымі людзьмі, прарокамі або святымі, якія зусім не былі прарокамі, а тым больш святымі, а такімі ж, як і мы, людзьмі, з зямнымі вартасцямі і заганамі. А сам стваральнік усяго існага паўстае перад табой дзіваком дзедам, якога хоць і пабойваюцца яшчэ, але ўжо спадзяюцца, што ён, па сутнасці, за ўсімі не ўгледзіць. Так выспявае думка пра бязбожжа. А за ёй прыходзіць і другая: не ўсё тое золата, што блішчыць, не ўсе святыя, хто за кожным словам успамінае імя божае. Сумленнаму чалавеку няма чаго ўслаўляць князя там, дзе яго паўшчуваць варта. За яго гэта зробяць несумленныя і прадажнікі, што на жываце паўзуць да княжых даброт. Сумленны маўчыць, несумленны крычыць. Той, хто паўзе на жываце, князю не страшны. Калі лёг на жывот, дык будзеш паўзці на ім да самай смерці. Князю страшны той, хто галаву нясе з гонарам. Таму ганарліўцы ходзяць па зямлі ў грэшніках, а як памруць, то і святымі іх назавуць. Дык як мне жыць у такім свеце, дзе ўсё навыварат, дзе душа не мае спачыну ад крыўды і несправядлівасці?

Даніла Заточнік дастаў з-пад куста бутэльку.

— Глынём, Богша, амброзіі з бярозавікам, настоеным на прарошчаным ячмені. Чуў я ад верных людзей, што ў вас на тым свеце цэлыя кантыненты співаюцца, махорку і марыхуану кураць. Распуства такое, што свет не бачыў.

Ён па-змоўніцку падміргнуў Богшу, і той зразумеў, што і амброзія з бярозавікам, і балбатня пра распуства ў дваццатым стагоддзі — звычайнае малачэнне языком.

— Я веру табе, Даніла,— прачула сказаў ён.

— Не вер яму,— нехта моцна грукнуў кіем.

Каля іх стаяў стары з белай барадой і вельмі жывымі сінімі вачамі, нібы вада ў возеры Суя. Ён трымаў кій, аздоблены паляшуцкай разьбой і дарагімі каменьчыкамі.

— Знаёмся, Богша, гэта Кірыла Тураўскі, златавуст, епіскап і, між намі кажучы, хітрун...

Богша працягнуў руку і тут жа сумеўся, а ці падаюць руку епіскапам? Гэта яны падаюць руку для пацалунка.

— Вельмі прыемна,— сказаў Кірыла Тураўскі, не заўважаючы працягнутай Богшавай рукі.— А з ім трымайся асцярожна. Ягонае скамарошства не такое бяскрыўднае, як лічаць манахі, гагочучы над ягонымі пацешнымі пры-

маўкамі ды выслоўямі. Ён сее небяспеку... Хоча, каб князь больш увагі звяртаў не на воінства сваё — залог міру і спакою, а на такіх, як ён, птушак нябесных, што не сеюць, не жнуць, а зерне гатовы кляваць па чатыры разы на дзень.

— Я нікога не прадаў, мяне прадалі,— запярэчыў Даніла Заточнік, анічуць не злуючы на епіскапа.— Ты глядзіш на знешнасць маю і не хочаш заглянуць у душу мне. Знешнасць — абалонка, за якой хаваецца душа. А хіба не ты сам казаў, што далікатная і пяшчотная душа найчасцей павінна хавацца за тоўстай і грубай абалонкай, а таму, дзеці мае, вучыцеся разглядаць літасць божую за знешняй суровасцю богавай...

Апошнія словы Даніла Заточнік сказаў, пераймаючы голас Кірылы.

— Не дзярзі, Даніла,— зноў строга сказаў Кірыла Тураўскі.— Скамарошства тваё не да твару радавітаму мужу, а дзёрзкасць твая супраціўна тваёй пісьменнасці. Вусны твае маглі б хвалу ўзносіць да неба, а ты імі хулу вывяргаеш...

Кірыла Тураўскі гаварыў пявучым паляшуцкім голасам. Так пявуча можа шумець пад нямоцным ветрам адзінокі прыгажун дуб. Лазар Богша неяк адразу ўпадабаў Кірылу Тураўскага і ягоную напеўную гаворку. Даніла ж здаўся Богшу яршыстым сачыніцелем, які сам не ведае, чаго яршыцца, але ўжо не можа паводзіць сябе інакш. Ці мала Богша ведаў такіх задзірак пісьменнікаў, якія ўсё супраць некага ваююць, а самі вечна ходзяць з гузакамі?

Ды раптам Даніла Заточнік загаварыў без аніякага крыўляння ці, як казаў Кірыла Тураўскі, скамарошства:

— Ну, так, Кірыла, так і я мог бы нака́паць у збан мудрасці са свайго языка колькі слоў, саладзейшых за мёд. Мог бы! Ды не жадаю. Ад выстаянага мёду моцна ў галаве кружыцца. Ад прыгожых слоў раскрываюцца сэрцы. Ды не кожнае прыгожае слова лечыць. Ты бачыў кветку, ад якой вачэй не адвесці, а дыханне яе смяртэльна? Так і слова. І чым прыгажэй яно, тым мацней атручвае сэрца. Ні волі ў ім, ні самастойнасці. Што чалавеку кажуць, з тым і згаджаецца. Я сцякаю горыччу і злосцю за безабаронных жабракоў і дурняў, якія слухаюць прыгожыя словы і вераць ім, як збавенню ад свайго няшчасця. Ты, Кірыла, вучыш ціхамірству і любові да бліжняга, суладнасці і прыгажосці. Але людзей трэба вучыць быць ваўкамі з хціўцамі, што абрабавалі іхнія хаты, забралі іхніх дзяцей і жонак сабе на паслугу ды яшчэ патрабуюць, каб ім казалі дзя-

куй. Ты папракаеш мяне, што ў доўгіх вандроўках я раз-губіў свой талент. Але толькі лены сядзіць на месцы, ды яшчэ той, хто не хоча пабачыць людскія пакуты. Сядзь, заплюшчы вочы і ты набудзеш спакой. Ах, як навокал прыгожа. Ах, як усё суладна і добра! Ах, якое яднанне і любоў! Ах, якія птушкі і звяры насяляюць лясы, якія рыбы водзяцца ў рэках! Уся гэта прыгажосць для багатых і сытых. Сыты думае пра салаўіныя песні, а галодны — пра кавалак хлеба. Замаўляць зубы няшчаснаму грэшна. А ты, Кірыла, і князям і смердам гаворыш пра прыгажосць.

— Чалавек не каменны ідал, якому падавай ахвяры. Ён дабра і прыгожасці прагне, бо дзеля іх нарадзіўся на свет,— запярэчыў Кірыла Тураўскі,— а ты п'еш і таму розум твой, як полымя ў вецер, кідаецца ва ўсе бакі, гатоў апаліць і таго, хто расклаў яго.

— Душа агнём смыліць, таму і заліваю яе віном...

— Віно паслана богам, каб увесяляць душу і бога славіць, а не дзеля таго, каб упадобіцца свінні ў бруднай лужыне — залезці ў лужыну і рохкаць ад задаволенасці.

— Няпраўда! — закрычаў Даніла.— Віно п'юць не таму, каб стаць дурнем, а каб засцерагчы сябе ад дурасці і гвалту. Здаўна вядома, дурнога вучыць, што дзіравым мехам ваду насіць. А цяпер кожны дурань хоча ашчаслівіць цябе сваімі парадамі. Чаго не ведае мудры, спытайся ў дурня. Той усё ведае: і як проса сеяць, і як царкву ставіць, і як гаршкі ляпіць, і як кнігі пісаць. А чаму дурню такая міласць? Таму, што на княжым двары ён пуп не пуп, а каля пупа складка. Ён з-за княжага пляча цябе вучыць. Паспрабуй скажы дурню, што ён дурань. Князь падумае, гэта ты яго дурнем абазваў. Табе ж горай. Так што маўчы і не дыхай. Віналюбца проста ўпікаць. Паспрабуй князю праўду скажы. Не скажаш. Яе толькі п'яны ды юродзівы могуць сказаць. Іначай у адзін міг у цямніцы апынешся, калі ў другое княства не ўцячэш. З п'янага ды юродзівага не шмат спагоніш. Не было б юродзівых ды п'яных, некаму было б князю праўду сказаць. Яе і мудрацы стараюцца не чапаць. На тое яны і мудрацы, каб змаўчаць. А калі ўжо трэба нешта сказаць, дык або дужа вядомае, або дужа незразумелае...

— Той, хто пераварочвае зямлю плугам, не задумваючыся, хто і што будзе сеяць на ёй,— не земляроб,— сказаў Кірыла Тураўскі.— Не разбураць, а ствараць належыць чалавеку. Пэцкаць дзёгцем і дурань умее. Хай ён паспрабуе навесці пазалоту на дах божага храма...

— Навошта пазалота дзіраваму даху? — запальчыва спытаўся Даніла Заточнік.— Каб вочы абмануць?.. Іх абдурыць проста. Паспрабуй абдуры дождж, калі льецца на галаву з дзіравага даху.

Богша здагадаўся, што за ўсёй гэтай алегорыяй хаваецца спрэчка між двума напрамкамі ў старажытнай літаратуры. Усё, выходзіць, спрадвечна — літаратурныя спрэчкі таксама.

А што не спрадвечна? Усё было, усё паўтараецца на нейкім новым вітку жыцця, а таму не знікае і не можа знікнуць, хіба разам з чалавецтвам. Могуць загінуць кнігі, ноты, карціны, але застанецца тое, што называецца традыцыяй, нацыянальнай свядомасцю, народным духам.

Богшу прыгадаўся Кірыла Лыкавязаў з ягонай самаўпэўненасцю і пачуццём уласнай годнасці, раздзьмутым ім жа самім, а таму дужа легкаважкім.

«Гэта ён, Кірыла Лыкавязаў, упэўнены, што да яго на свеце нічога вартага не было і нікога геніяльнага не існавала. А калі нехта геніяльны і быў, дык вельмі шкада. Закрыць бы ўсіх геніяў... Пачаць бы новую эру з прызначэння яго, Кірылы Лыкавязава, на пасаду Хрыста-збавіцеля — мастацкага кіраўніка ўсяго кінамастацтва, адзінага і непаўторнага глашатая мастацкай ісціны ў апошняй інстанцыі. Бездарам заўсёды замінаюць папярэднікі, ці не таму яны так і пнуцца заняць нейкую пасаду, каб можна было стрыгчы ўсіх на свой лыкавязаўскі капыл».

Богша сеў на свайго любімага канька — іронію і, мабыць, не злез бы з яго так хутка, каб не пачуўся прымірэнчы голас некага трэцяга, хто ўлез у літаратурную дыскусію тураўскага епіскапа і зняволенага ў манастыры на Лач-возеры жартаўніка з некалі радавітых уладзіміра-суздальскіх людзей.

— А ці не лепей было б нам, браццяя, складаць песні сягачасным ладам? Ці ж можна салоўкам імкнучы па выдуманым дрэве, сягаючы звонам гусляў пад воблакі, не чуць плачу жаночага, душапрыдатных пропаведзяў з царкоўных амбонаў, якія адкрываюць сэрцы любові і радасці, прыпевак, жартаў на вясёлых ігрышчах, якіх не цураўся і славуты Баян, летапісных сказаў і павучанняў, язычаскіх часоў паданняў і песняў, якія ёсць голас народа і ягонае непрыхарошанае жыццё? Дык паплачам, паразважаем над раз'яднанай Руссю, узрадуемся шчасцю спяваць некалі адну песню на ўсе рускія землі, упрыгожыўшы яе фарбамі жывога і пісанага слова...

Ну, вядома ж, гэта быў аўтар «Слова аб палку Ігаравым». Дзіўна было другое: як маглі сабрацца разам такія славутыя людзі дванаццатага стагоддзя? Богша напружыў усю сваю памяць, каб прыгадаць, калі яны нарадзіліся і калі памерлі. У галаве было пуста.

Перад вачамі плылі толькі разнаколерныя кругі. У прамежкі між імі Богша бачыў нейкія дзіўныя ўрыўкі нейкіх незразумелых падзей, чуў нейкія размовы, якія вялі невядомыя людзі. Усё мроілася невыразна. Ды раптам перад ім вынік з неадкуль нейкі гісторык ці, можа, крытык-літаратуразнаўца, а, бадай, і не той і не другі, а звычайны палец, які ўказвае, што трэба рабіць, куды і чаго ісці. І гэты нехта абурана загаварыў, звяртаючыся да яго, Лазара Богшы:

— Хопіць, Лазар Богша!.. Хопіць!.. Падзівачыў, і годзе! Твае мастацкія дасканаласці — гэтыя выбрыкі на патрэбу выбраных — нікому не патрэбны. Яны парахня і пыл. Забыццё кране іх раней, чым твая труна будзе апушчана ў магілу...

«Гэта ж Кірыла Лыкавязаў,— здагадаўся Богша і чамусьці вельмі ўзрадаваўся яму.— Мы ж вгікаўцы. Нам трэба памірыцца. Я скажу яму...»

Богша не ведаў, што ён скажа Кірылу Лыкавязаву, але адчуваў, што нешта важнае, тое, што спазнаў, падарожнічаючы ў прасторы і часе. Ён памкнуў яму насустрач з лёгкасцю птушкі, якая лунае ў паднябессі. Ён працягнуў Кірылу руку на вечнае брацтва. А той моцна штурхнуў Богшу ў грудзі, саштурхнуў проста ў раку.

Сам жа застаўся на беразе ў позе бога, які пакараў непаслухмянага грэшніка. Кірыла пераможна ўсміхаўся...

— Я перамог цябе, Лазар,— сказаў ён.

— Час няўмольны суддзя, а не ты,— адказаў Богша.

Тысячы людзей у няўцешнай жалобе прыйшлі праводзіць яго ў самае доўгае падарожжа; і конная міліцыя ледзьве стрымлівала натоўп на бясконцай дарозе.

# ЧАСТКА ПЯТАЯ:
## фантазія ля мажор

*Эпізод апошні:*

### апладысменты пад заслону

* * *

Тысячы людзей у няўцешнай жалобе прыйшлі праводзіць яго ў самае доўгае падарожжа; і конная міліцыя ледзьве стрымлівала натоўп на бясконцай дарозе.

Недарэчная фраза гэтая, народжаная чорт ведае па якіх законах логікі, паўтаралася ў свядомасці Кірылы Лыкавязава на адной і той жа ноце, як надакучлівы зубны боль.

Кірыла Лыкавязаў стаяў ля акна ў сваім кабінеце, і яго ахоплівала радаснае адчуванне вольнасці. Ён разумеў, што пачуццё гэтае нізкае, брыдкае, подлае, не вартае чалавечай годнасці, але насуперак цвярозай развазе, падспудна, у ліха ведае якіх закутках ягонай сутнасці жыло вось гэтае адчуванне раскаванасці і вольнасці, нібы са смерцю Лазара Богшы з ягоных плячэй, а можа, і душы, зваліўся неймавернай вагі груз.

Трэба было пазбавіцца ад нізкай радасці, прыдаць сабе выраз жалобы і засмучэння адпаведна моманту, але заглушыць бурлівую радасць было немагчыма, бо каварная фраза ўсё падагравала яе. Тады Кірыла Лыкавязаў загадаў сабе не паўтараць правакатарку-фразу, як некалі, у пару маладосці, загадваў выйграваць апошні раунд у спаборніцтве на званне чэмпіёна.

Цяпер, аднак, волі было недастаткова, пэўна, таму, што фраза гэтая склалася ў піку Лазару Богшу і ягонаму пахаванню, пра ягонае, Кірылава, пахаванне, так, як ён яго ўяўляў. Яно павінна было зацямніць пахаванне Лазара Богшы. Таму сіла волі тут не дзейнічала: яе не было, яна таксама памерла.

Лухта?.. Бязглуздзіца?..

Каб жа ды так!..

Кірыла Лыкавязаў раптам зразумеў, што ўсё ягонае жыццё, творчасць самым фатальным чынам залежалі ад жыцця і творчасці Лазара Богшы. Залежалі нават тады, калі Лазар Богша цярпеў непапраўныя катастрофы, падаў з вышыні ў прорву, а ён, Кірыла Лыкавязаў, знаходзіўся на грэбені магутнасці і славы, узняты туды чарговым поспехам. Гэта была ягоная трагедыя. Ён заранёй быў асуджаны на поспех. Яшчэ тады, калі недзе абгаворвалася ягоная кандыдатура на новую пастаноўку, новы поспех чакаў яго ў прыёмным пакоі. Кожны новы фільм мог быць толькі поспехам. Але чаму і тады ён, Кірыла Лыкавязаў, абавязкова азіраўся на Богшу, нібы і фільм, і поспех яму патрэбны былі, каб падкалоць Богшу, даказаць сваю праўду, свой прамы, як пад лінейку, шлях у мастацтве.

Бадай, было і крыўдна і сорамна тварыць у залежнасці ад чалавека, творчы метад якога ён адвяргаў цалкам і поўнасцю. Добра, што пра крыўду і сорам ніхто не ведаў, нават не здагадваўся. Усе лічылі, што ў Кірылы Лыкавязава не можа быць такіх пачуццяў. А яны былі. І ад таго, што пра іх не здагадваліся, крыўда і сорам прыпякалі не менш.

Цяпер яму не трэба было азірацца, не трэба з адчаем у сэрцы чакаць, што можа сказаць, зрабіць, падумаць Лазар Богша. Хто азіраецца на цені? Цені знікаюць. Значыць, вольнасць, незалежнасць, і не толькі яму.

Ад нечаканай думкі, што ён не адзінокі, што нехта яшчэ будзе рады вызваліцца ад гнятлівай богшаўскай самапатрабавальнасці і сумленнасці, у свядомасці Кірылы Лыкавязава перастала гучаць недарэчная фраза. І ён адразу вярнуўся да рэальных падзей з рэальнымі намерамі.

Найперш яму трэба было прадумаць развітальную прамову. Ён двойчы кашлянуў, правяраючы голас. Голас гучаў. Ды і чаму яму не гучаць?.. Цяпер варта падумаць, пра што ён павінен гаварыць? Якую выбраць тэму?

Ён незаўважна, па прывычцы падумаў пра тэму і адразу згубіў пакірунак думак. З-за гэтага паняцця — тэма — яны з Богшам не адзін раз біліся лбамі да адурэння. Кірыла Лыкавязаў і цяпер адразу ж заспрачаўся з Лазарам Богшам, лёгка знаходзячы важкія аргументы ў апраўданне свайго пункту гледжання на тэму як аснову асноў любой творчасці.

Ад завочнай дыскусіі яго адарваў тэлефонны званок. Яго запрашалі на пасяджэнне пахавальнай камісіі, якая сабралася ў кабінеце дырэктара студыі.

Перш чым выйсці з кабінета на калідор, дзе, напэўна ж, сноўдалі кіношнікі, Кірыла Лыкавязаў з хвіліну пастаяў сярод пакоя, каб прыдаць твару пакутлівы выраз.

* * *

Апрача членаў камісіі ў кабінеце дырэктара студыі знаходзілася яшчэ чалавек шэсць-сем прадстаўнікоў афіцыйных і неафіцыйных устаноў, у тым ліку і Рыма Сяргееўна Громава.

Дырэктар студыі, ён жа старшыня пахавальнай камісіі, не адрываўся ад тэлефонаў: то званіў сам, то званілі яму. У яго быў заклапочаны выгляд. І не дзіва, бо клопатаў сапраўды хапала. Трэба было ўсё прадугледзець, узважыць, нічога не забыць, узгадніць і ўтрэсці кожную драбніцу, каб потым не апынуцца перад нейкімі непрыемнымі нечаканасцямі. А што яны могуць узнікнуць, не даводзілася сумнявацца.

З самай раніцы і зусім нечакана да студыі пацягнуліся прыхільнікі таленту Лазара Богшы. Яны спыняліся ў студыйным скверы з расчышчанымі і падмеценымі дарожкамі, збіваліся ў групы і групкі, а тым часам з аўтобусаў і тралейбусаў, што падыходзілі да прыпынку «Кінастудыя», выплёскваліся ўсё новыя і новыя людскія хвалі.

Дзень, як на тое, абяцаў быць па-вясноваму сонечным і цёплым — і гэта пасля нядаўніх маразоў, якія, здавалася, пратрымаюцца яшчэ вельмі доўга. Таму трэба было чакаць яшчэ большага наплыву народу, і пахавальная камісія, што граху таіць, разгубілася.

Справа, вядома, была не ў тым, што на пахаванне прыйдзе так многа народу. Сярод натоўпу, што сабраўся ў скверы, зрэшты, як і сярод тых, хто нейкім чынам пранік на студыйныя калідоры і ў студыйныя вестыбюлі, шасталі самыя розныя чуткі пра смерць Лазара Богшы і тайныя падкопы пад яго, якія і прывялі геніяльнага рэжысёра да такой заўчаснай смерці.

Чуткі выклікалі прыкрасць і абурэнне, нібы хто знарок хацеў запляміць студыйную дабрачыннасць, узвесці паклёп на яе дружны калектыў. Чамусьці ўсе лічылі, што калектыў быў дружны, вядома, не без таго, але ж не так, каб распускаць чорт ведае якія паклёпы.

З вуснаў у вусны, напрыклад, перадаваліся падрабязнасці пра пасяджэнне мастацкага савета, на якім быў бязлітасна «зарэзаны» богшаўскі фільм. Падрабязнасці гэтыя ашаламлялі.

Чуткі пра мастацкі савет яшчэ можна было неяк растлумачыць. Пасяджэнне мастацкага савета кінастудыі не пасяджэнне генеральнага штаба, дзе ўсё сакрэт і ваенная тайна. Ніхто з членаў мастацкага савета не даваў клятвы ці падпіскі аб нераспаўсюджванні чутак аб яго пасяджэннях, а таму кожны мог вельмі пераканаўча жывапісаць выступленні працаўнікаў Богшы супраць ягонага фільма.

Здзіўляла другое: адкуль зусім староннія людзі ведалі пра тое, што Лазар Богша пасля пасяджэння мастацкага савета застаўся на ўсю ноч у мантажнай і так удала пераманціраваў фільм, што новы варыянт сягнуў да сусветных вышыняў мастацкага кіно?

Што Богша сапраўды зрабіў новы варыянт свайго фільма, магла засведчыць мантажорка. Але хто мог засведчыць, што новы варыянт быў сапраўды геніяльны? Яго ж ніхто не бачыў, апрача самога Лазара Богшы. Чутка тым не менш расплывалася па натоўпе.

Казалі яшчэ, што фільм у новай рэдакцыі не пабачыць свету, бо ён геніяльны, а ўсё геніяльнае бездары не дапускаюць да народа. Нехта абсалютна дакладна ведаў, што фільм пакладзены ў сейф, які апячаталі трыма пячаткамі.

Усе гэтыя і іншыя зусім ужо неверагодныя чуткі ўзбуджалі натоўп. Здавалася, вось-вось над ім выбухне шаравая маланка — загадка прыроды, якую ніяк не разгадаюць фізікі. У такім жа прыблізна становішчы знаходзяцца і сацыёлагі-псіхолагі, калі спрабуюць разгадаць феномен натоўпу.

Чуткі даходзілі да дырэктарскага кабінета, выклікаючы ў членаў камісіі самыя розныя да іх адносіны. Трэба было прымаць нейкія захады, а якія — ніхто не ведаў. Усе нечага пабойваліся і асцярожнічалі. Таму самыя простыя пытанні, звязаныя з пахаваннем Лазара Богшы, выраслі ў складаныя праблемы. Раптам узнікла, напрыклад, праблема, дзе ставіць труну. Раней усё было зразумела. Труну збіраліся паставіць у вестыбюлі, дзе звычайна і адбываліся грамадзянскія паніхіды, калі паміраў хто са студыйных супрацоўнікаў. Цяпер была выказана думка, што народ можа не зразумець камісію. Ды і студыйны вестыбюль не мог умясціць такую процьму народу. Узнікла пытанне і пра памінальны стол, на якім асабліва настойваў Баравік-Залеўскі як шчыры прыхільнік старых традыцый і звычаяў. Мноства вось такіх пытанняў чакалі свайго вырашэння і ніяк не вырашаліся, пакуль некаму ў галаву не ўзбрыло паслухаць думку Кірылы Лыкавязава,

які да ўсяго стаяў на чале Саюза кінематаграфістаў і яму, як кажуць, па штаце належала сказаць сваё рашаючае слова.

Многія пры гэтым у душы ўсміхаліся. Кірыла Лыкавязаў быў непераўзыдзены майстар перакладаць вырашэнне нават самых малых і нязначных пытанняў на людзей старонніх, абы самому ўхіліцца ад адказнасці. Цяпер, здавалася, Кірылу Лыкавязаву нічога не застанецца, як выказацца без аніякіх адгаворак.

Кірыла зайшоў у дырэктарскі кабінет з выглядам самога гора, увасобленага ў каржакаватую спартыўную фігуру. Ён вельмі ціха павітаўся з усімі, не забыўшыся, аднак, пацалаваць руку Рымы Сяргееўны Громавай.

— Я вам спачуваю,— сказала Рыма Сяргееўна.

У яе такіх простых словах многія пачулі падтэкст. Справа ў тым, што ў натоўпе, які сабраўся, каб праводзіць Богшу на могілкі, гаварылі не толькі пра геніяльнасць Лазара Богшы і розныя падрабязнасці з ягонага жыцця; называліся і нядобразычліўцы, якія ўвесь час дапякалі Богшу, пакуль не звялі яго ў магілу. Сярод сваіх, хатніх нядобразычліўцаў і чужых найчасцей называлася імя Кірылы Лыкавязава.

Рыма Сяргееўна была праінфармавана пра гэта. Члены камісіі абмяняліся думкамі, ці варта ў такім выпадку даваць слова Кірылу Лыкавязаву. Вырашылі — варта. Бо маўчанне Кірылы Лыкавязава толькі яшчэ больш напаліла б атмасферу.

Кірыла Лыкавязаў збольшага ведаў, што пра яго гавораць у натоўпе. У яго ўсюды былі свае людзі, якія дакладвалі яму не па абавязку службы, а па абавязку дружбы. Гэта быў адзін з прынцыпаў Кірылы Лыкавязава: больш ведаеш — лягчэй прымаць рашэнні.

Калі Кірыла Лыкавязаў зайшоў у кабінет, дырэктар студыі адкінуўся на спінку крэсла, пераключыў усе тэлефоны на прыёмную і, пазіраючы кудысьці за акно, коратка і дакладна пералічыў усе ці амаль усе праблемы, якія належыць неадкладна вырашыць.

Кірыла ўважліва выслухаў дырэктара і нейкі час сумленна моршчыў лоб, як бы ўзважваючы на ўласных шалях кожную з праблем і кожнае для іх рашэнне.

Члены камісіі падумалі, што Кірыла Лыкавязаў трапіў у нерат: ні назад ні наперад. Але ён, на здзіўленне, усе праблемы вырашыў адным махам.

— Я мяркую,— сказаў ён,— што нам трэба спытаць

наконт усяго гэтага думку Дзяржкіно, у чым нам дапаможа шаноўная Рыма Сяргееўна, бо, мне здаецца, нам самім лёгка збіцца на шлях неаб'ектыўнасці...

Хто, апрача Кірылы Лыкавязава, мог бы знайсці такое простае выйсце? Ды ніхто!

Рыма Сяргееўна запунсавелася. Ёй было і прыемна, што звярнуліся да яе, але яна і разгубілася. Каму можна пазваніць па такім далікатным пытанні? Старшыні Дзяржкіно?.. І нязручна і небяспечна. Галоўнаму рэдактару? Бескарысна. Можа, адгаварыцца... Але на яе глядзелі з надзеяй, і марудзіць у такіх выпадках азначала паказаць сябе маленькай сошкай, якая толькі на перыферыі спрабуе выставіць сябе важнай персонай.

Яна папрасіла дырэктара набраць нумар намесніка старшыні Камітэта, а той па селектары папрасіў зрабіць гэта сакратарку. Не прайшло трох хвілін, як на провадзе азваўся намеснік старшыні.

Рыма Сяргееўна ў трох словах паведаміла сутнасць справы. Намеснік старшыні — гэта добра чулі ўсе, хто сядзеў непадалёк ад стала,— сказаў: «Адну хвіліначку» — і, мабыць, таксама камусьці пазваніў, бо адна хвіліначка зацягнулася да хвілін дзесяці.

— Рыма Сяргееўна,— нарэшце загаварыў намеснік,— перадайце таварышам са студыі, што ўвесь наш кінематограф смуткуе з прычыны заўчаснай смерці найвыдатнейшага кінарэжысёра, таленавітага акцёра, геніяльнага пісьменніка нашага часу Лазара Васільевіча Богшы. Мы страцілі найвялікшы і непаўторны талент.

Рыма Сяргееўна слова ў слова паўтарыла сказанае, падкрэсліўшы словы: «найвыдатнейшы», «таленавіты», «геніяльны», «найвялікшы», «непаўторны».

Члены камісіі, якія дасюль сядзелі затаіўшы дыханне, узрадавана загаманілі, нібы ім было зроблена найвялікшае адкрыццё. Кірыла Лыкавязаў перапыніў гамонку.

— Мы сапраўды панеслі страту, якую нельга запоўніць,— робячы націск на кожным слове, важка і перакана̀ўча сказаў ён.— Лазар Васільевіч быў нашым сумленнем і вышынёй, на якую мы раўняліся. Я мяркую, што пахаванне яго павінна адбыцца на самым высокім узроўні. Таму лічу несур'ёзнай прапанову паставіць труну з целам у вестыбюлі. Як старшыня Саюза і даўні сябар Лазара Васільевіча, я настойваю аддаць для развітання з нябожчыкам самую лепшую залу...

Члены камісіі, якія нядаўна кідалі каменьчыкамі ў лыкавязаўскі агарод, цяпер слухалі Кірылу з пашанай.

— Але мы не паспеем ужо аформіць глядзельную залу, самую вялікую на студыі,— усумніўся дырэктар.

Кірыла Лыкавязаў двойчы шматзначна кашлянуў. Дырэктар зразумеў, што ў Кірылы Лыкавязава ёсць нейкая іншая прапанова.

— Кірыла Мацвеевіч, вы хацелі прапанаваць нешта іншае? — спытаўся ён.

— Я мяркую,— нібы аказваючы дырэктару найвялікшую паслугу, сказаў Кірыла Лыкавязаў,— што самым лепшым месцам быў бы першы павільён, дзе яшчэ захаваліся дэкарацыі ад фільма Лазара Васільевіча...

Усе прызналі, што лепшай прапановы не магло быць...

* * *

Чырвоная труна з целам Лазара Богшы стаяла ў вялізным студыйным павільёне, дзе сапраўды захаваліся рэшткі дэкарацыі апошняга Богшавага фільма. Уражанне стваралася магутнае. Чырвоная труна на фоне старажытнага горада.

Паўз труну цёк бясконцым цурочкам людскі ручаёк. Ля труны сядзела жонка Лазара Богшы — Любоў Аляксадраўна ў акружэнні акцёраў студыі і часткі здымачнай групы. Ціха ігрaла музыка. Бясшумна змянялася ганаровая варта. Кожнаму, хто прыйшоў на пахаванне, хацелася пастаяць дзве хвіліны каля знакамітага рэжысёра, акцёра і пісьменніка.

Час блізіўся да грамадзянскай паніхіды, а яшчэ было не вырашана з памінальным сталом, і дырэктар студыі пасля разваг і хістанняў паслаў сакратарку па Любоў Аляксандраўну. Крок гэты, можа, быў крыху неабачлівы і нетактоўны, але ўлічваючы Любін свавольны характар, у дырэктара альтэрнатывы не было.

Любоў Аляксандраўну суправаджалі дзве актрысы. Яны завялі яе ў кабінет, а самі выйшлі, хоць ім хацелася ўсё чуць і бачыць.

— Любоў Аляксандраўна,— ускочыў Баравік-Залеўскі, прапануючы сваё крэсла,— прашу вас...

Любоў Аляксандраўна прайшла паўз яго да дырэктарскага стала. Там галоўны рэдактар кінакамітэта вызваліў ёй крэсла.

— Любоў Аляксандраўна,— дырэктар з бояззю глянуў

на Любу,— зразумейце нас правільна. Мы хацелі б ведаць, як вы ставіцеся да памінак...

— Ніякіх памінак! — з незразумелай рашучасцю ў голасе крыкнула Люба.

На гэтым, бадай, размова і закончылася б, каб не Баравік-Залеўскі, які любіў вытыркнуцца там, дзе вытыркацца не трэба.

— Гэта бязбожна і абразліва,— з выклікам сказаў ён, не звяртаючы ўвагу на жэсты, якія яму рабіў галоўны рэдактар кінакамітэта.— Хіба Лазар Богша, пухам яму зямля, які паганец, што нам адмаўляюць памянуць яго і добрым словам і куццёй, як гэта рабілі ягоныя і нашы продкі — крывічы?.. Ці, можа, шаноўная Любоў Аляксандраўна забылася, што і яна паходзіць з таго ж племя і са знакамітага роду Азарэвічаў, якія, адсячыце мне галаву, калі я схлушу, ніколі не цураліся дзядоўскіх звычаяў, хоць былі вялікімі актрысамі імператарскага тэатра...

Баравік-Залеўскі напаў так знянацку і з такой напорыстасцю, што ў Любові Аляксандраўны аж заняло дыханне. Яна ліхаманкава думала, як бы найлепш адказаць сцэнарысту, але ў галаву лезла нейкае глупства на ўзроўні сварак Камароўскага рынку. На шчасце, яе выручыў Кірыла Лыкавязаў, які не цярпеў Баравіка-Залеўскага, а таму не мог змоўчаць, каб не паспрачацца з ім.

— Я мяркую,— з прывычнай важкасцю ў голасе сказаў ён,— нам варта пагадзіцца з глыбокапаважанай Любоўю Аляксандраўнай, бо сапраўды лепшай памяці незабыўнаму Лазару Васільевічу, будзе не п'яная застоліца і царкоўная куцця, а ягоныя творы і той фільм, над якім ён з такой упартасцю працаваў да самай сваёй смерці...

Кірыла Лыкавязаў быў першы, хто пасля смерці згадаў апошні Богшаў фільм. Што падштурхнула яго загаварыць пра фільм, які быў бязлітасна ім жа самім раскрытыкаваны на мастацкім савеце, у які ён не верыў, які не мог успрыняць і прыняць, застанецца тайнай на ўсе часы. Прадбачанне? Жаданне загладзіць сваю віну?.. А можа, цвёрдая вера ў тое, што фільм гэты — самая вялікая няўдача Лазара Богшы з усіх ягоных няўдач?..

Зрэшты, справа зусім не ў тым, каб дакопвацца да глыбінь лыкавязаўскай псіхалогіі. Яна як лабірынт Мінатаўра, з якога не выберашся без чужой дапамогі.

Любоў Аляксандраўна пачула ў словах Кірылы Лыкавязава пра апошні Лазараў фільм нейкі намёк, нейкую інтрыгу, і, як бывае ў людзей свавольных, але ўпартых і

рашучых, у яе тут жа саспела ідэя, самая, здавалася, нерэальная, нават абсурдная, але таму і вельмі спакуслівая і жаданая.

— Я сказала ніякіх памінак, бо для мяне Лазар Васільевіч жывы. Памінаць жывога, даруйце, кашчунна і святататна,— Любоў Аляксандраўна няўзнак кінула позірк на Баравіка-Залеўскага. Той праглынуў папрок і, як вінаваты, богатварыў цяпер яе.— Але я не збіралася парушаць дзедаўскія традыцыі і звычаі. Лазар Васільевіч любіў застоліцы і сёння не адмовіцца пасядзець са сваімі сябрамі і калегамі за таварыскім сталом. Але... Але перад тым, як мы сядзем за стол, я хацела б, каб мы ўсе разам паглядзелі ягоны фільм, над якім ён працаваў усю ноч. Аддамо павагу яго неўтаймаванай працаздольнасці. Тым больш што ў народа склалася не зусім правільнае ўяўленне... Вы разумееце, пра што я кажу...

Першы апрытомнеў ад такой нечаканай прапановы Любові Аляксандраўны Баравік-Залеўскі. Ён як апантаны кінуўся да яе, схапіў абедзве рукі і па чарзе прыпаў да іх, выказваючы тым сваё захапленне Любоўю Аляксандраўнай і яе прапановай.

Дырэктар кінастудыі запытальна глянуў на Рыму Сяргееўну. Тая моўчкі схіліла галаву. Было незразумела, ці яна падтрымлівае Любоў Аляксандраўну, ці збянтэжана яе прапановай.

* * *

Кірыла Лыкавязаў доўгім праніклівым позіркам абвёў натоўп, які запоўніў агромністы здымачны павільён і ўсю прастору перад ім, зрабіў два крокі да мікрафонаў.

Пад столлю і на спецыяльных пляцоўках гарэлі сафіты. Ледзь чутна стракатала камера. Славуты рэжысёр-дакументаліст здымаў на ўсялякі выпадак грамадзянскую паніхіду па Лазару Богшу.

Натоўп быў спрасаваны ў адну істоту з сотнямі твараў, якія нагадвалі старажытную тэатральную маску трагедыі. І, як тая маска, ён быў маўклівы. Здавалася, нават не дыхаў.

Кірыла перавёў позірк на Лазара Богшу. Той ляжаў у чырвонай труне з выразам насмешлівасці. Такім Кірыла Лыкавязаў ведаў яго жывым. Такім ён застанецца ў памяці.

— Таварышы,— сказаў ён і адчуў, што голас гучыць

так, як і хацелася,— верная сяброўка і саратніца Лазара Васільевіча Богшы, найвыдатнейшая кінаактрыса і цудоўнай душы чалавек, Любоў Аляксандраўна сказала, што Лазар Богша не памёр. Ён жывы. І гэта вельмі дакладна і правільна. Таму і я буду гаварыць пра яго жывога, любімага і грэшнага.

Ён быў паэтам, акцёрам, рэжысёрам. Непаўторным. Таленавітым. Мудрым. Пра нас з ім нагаворана шмат. Рознага. А мы заставаліся бескампраміснымі таварышамі, вернымі сябрамі і пабрацімамі, для якіх кінематограф быў святыняй. Мы пранеслі яе ў сэрцы, не апаганіўшы хоць бы адным кадрам.

Не, мы не былі святымі, якіх малявалі багамазы. Мы спрачаліся, сварыліся, але мы дружылі непарушнай мужчынскай дружбай. Напэўна, мы часам у спрэчках перабіралі меру. Кажу пра сябе, нізка схіляючы галаву перад паплечнікам і калегам па высокім мастацтве.

Кірыла Лыкавязаў сапраўды адступіў у бок ад мікрафонаў і па-тэатральнаму прыгожа і дасканала схіліў галаву. Калі ён вяртаўся да мікрафонаў, на ягоных вачах бліснулі дзве слязінкі.

Баравік-Залеўскі, які плаціў Лыкавязаву той жа манетай непрыязнасці, ціха шапнуў аднаму з членаў камісіі:

— Стары, каго хаваюць: Лазара Богшу ці Кірылу Лыкавязава?..

Той наступіў на нагу сцэнарыста: маўляў, маўчы.

— Лазар Васільевіч,— тым часам прадаўжаў прамову Кірыла Лыкавязаў, адчуваючы задаволенасць, што заваяваў увагу натоўпу,— меў нялёгкі характар. Але пры ўсім тым, ён заставаўся чалавекам высокай маралі і майстрам сваёй справы. Яго часта спасцігалі няўдачы, бо ён быў мастак, які любіў і найбольш за ўсё цаніў эксперымент. Але ён знаходзіў мужнасць перамагаць няўдачы і сябе ў іх.

Тры дні назад мастацкі савет кінастудыі глядзеў рэдакцыю апошняга ягонага фільма. Твора вельмі складанага па мастацкай структуры, філасофскаму асэнсаванню гістарычных падзей далёкай даўніны, я сказаў бы, фільма спрэчнага, хоць і цікавага. Мы, ягоныя сапраўдныя сябры, выказалі шмат заўваг, прапаноў і прэтэнзій да фільма. Як сумленны мастак і грамадзянін Лазар Васільевіч не стаў у позу пакрыўджанага майстра, а засеў за мантажны стол, каб зрабіць новую рэдакцыю з улікам нашых прапаноў.

Мы не ведаем, якая атрымалася новая рэдакцыя. Спадзяёмся, што новы фільм Лазара Богшы будзе дастойным ягонага імені. Я хацеў бы звярнуць увагу на адзін толькі штрышок характару Лазара Богшы.

У тую ноч, гадзіне а пятай, мяне разбудзіў тэлефонны званок. Я падняў трубку і пачуў узбуджаны, усхваляваны голас Лазара Васільевіча.

— Я закончыў мантаж новай рэдакцыі,— сказаў ён мне.

Разумееце, мастак не мог дачакацца раніцы. Яго распірала радасць завершанай працы. Яму трэба было падзяліцца з сябрам сваёй радасцю. Ён шчыра дзякаваў нам за зробленыя яму заўвагі. У гэтым увесь Лазар Богша, вялікі мастак нашага часу. І я падумаў тады: якое гэта шчасце працаваць побач з такім магутным чалавекам і творцам!

Сёння, адразу пасля таго, як мы аддадзім зямлі дарагога нам чалавека і мастака, тут, на студыі, збярэцца мастацкі савет, каб паглядзець і абмеркаваць ягоную рэдакцыю фільма, якому мы зычым шчаслівую дарогу па экранах краіны.

Натоўп па-ранейшаму зацята маўчаў.

* * *

На экране мільганулі апошнія кадры фільма.

У глядзельнай зале ўспыхнула святло.

Члены мастацкага савета, супрацоўнікі студыі, шматлікія аматары, журналісты, пісьменнікі, мастакі, якіх запрасілі на пашыранае пасяджэнне мастацкага савета, хвіліны тры сядзелі як акамянелыя — такім моцным было ўражанне ад фільма.

Затым у нейкім адзіным парыве людзі паўскоквалі з крэслаў, павярнуліся да пульта, за якім павінен быў сядзець рэжысёр і дзе сіратліва стаяла нікім не занятае крэсла, запляскалі ў далоні. Здавалася, канца не будзе авацыі. Але трэба было захаваць і форму. Дырэктар студыі аб'явіў, што абмеркаванне адбудзецца ў ягоным кабінеце.

На калідоры Кірыла Лыкавязаў узяў пад руку Рыму Сяргееўну і, прыгнуўшыся да яе вуха, шапнуў:

— Майстэрству сапраўды пазайздросціш. Але навошта?.. Навошта?..

## 1

Рэчка Сільніца, якую, бывала, і ўлетку пераходзілі па кладцы, а цяпер і ў разводдзе пеўню па калена, дзяліла вёску Барсукі на дзве няроўныя часткі: большую — старую, пасляваеннай сірочай забудовы — і меншую — новую, разбагацелую на прыканцы шасцідзесятых гадоў, пяцісценную, пад шыфернымі і бляшанымі дахамі, пры якой старая вёска выглядала выкінутым за раку атопкам. Уражанне гэтае асабліва падкрэслівалася вясной і ўвосень, калі сады і прысады, голыя ад лісцяў, адкрывалі вачам двары, выстаўляючы напаказ грунтоўнасць і самавітасць Новых і амаль жабрачую безабароннасць Старых Барсукоў.

Стаяла якраз тая пара, калі абтрэсеныя сады з пажоўклай і парадзелай лістотай не затрымлівалі зроку; ён, здавалася, пранікаў у кожную хату Старых Барсукоў з нізкімі, пачарнелымі ад часу і га́ры столямі, з тымі, яшчэ пасляваеннай пары маленькімі вокнамі, са сценамі, сяк-так абшытымі знутры фанерай і выклеенымі таннымі шпалерамі, абы-як складзенымі печамі і халоднымі сенямі, якія свяціліся з усіх бакоў дзіркамі. Хаты Новых Барсукоў былі даступны зроку толькі з панадворка. Зазірнуць у іхняе нутро было магчыма не далей зашклёных верандаў і па-сучаснаму цесных прыхожых, якія служылі адначасова і кухнямі. У чыстыя, ці белыя пакоі доступ староннім быў зачынены наглуха, і не таму, каб, барані божа, хто не ўгледзеў дарагія дываны і імпартную, яшчэ больш дарагую мэблю. Чыста мужыцкая звычка ашчаджаць усё, аж да чысціні, закрывала ход у белыя пакоі. Нават самі гаспадары без патрэбы не заходзілі ў іх, найбольш аціраліся ў прыхожай.

Старыя Барсукі любілі, каб у іх усё было навідавоку, нават падпечак, дзе несліся куры. Не было ў іх моды дзяліць хату на пакоі, ды і не было за што тады ставіць дашчаныя перагародкі — на працадзень мала палучалі, а здабытая мазалём капейчына патрэбна была на падаткі і пазыкі.

Новыя Барсукі будаваліся пазней, калі механізатары і жывёлаводы сталі атрымліваць грошы, спачатку, праўда, нерэгулярна, па абставінах, а потым штомесячна, ды яшчэ і прэміяльныя за ўраджаі і надоі. К таму часу паспела мода і на хароміны, а не хаты, на перагародкі, на тынкоўку сцен, аздобленую на гарадскі манер узорамі пад алей.

Старая вёска не магла ўгнацца за новай, і не таму, што не хапала грошай — яны цяпер вадзіліся ў кожнай хаце,— а таму, што не было патрэбы. Старая вёска старэла і пусцела на вачах; у рэдкіх хатах жылі маладзейшыя за пяцьдзесят ды яшчэ з сем'ямі. Астатнія хаты сяк-так сагравалі адзінокіх людзей у гадах, найбольш удоў, якім гарадскія дзеці толькі на лета падкідалі ўнукаў. Улетку старая вёска трохі ажывала. Затое з восені і аж да позняй вясны яна нагадвала пакінуты мурашнік: колішняй жвавасці не згледзіш, хоць ты сачы за вёскай праз увесь дзень. Старым людзям няма куды спяшацца. Той свет і пачакаць можа — не вялікая ў ім радасць...

З гары, у смузе асенняй раніцы, не дажджлівай, але і не сонечнай, Старыя Барсукі выглядалі прывідам, але прывідам дарагім, як блізкі стары чалавек, з якім праведзена ўсё жыццё і які вось-вось сканае на тваіх вачах. Мала што побач расце малады і дужы! Хіба ён заменіць таго, што састарыўся, на якога можна было спадзявацца, як на сябе?

Для Хрысціны даражэй Старых Барсукоў нічога на свеце не было. Нават іхняя непагляднасць мела свае перавагі перад шыкоўнасцю Новых Барсукоў. Нездарма ж кажуць, што самыя прыгожыя мясціны там, дзе нарадзіўся, самыя агідныя — чужына, на якой даводзіцца паміраць...

Хрысціне думалася маркотна найбольш таму, што нехта, як наўмысна, прыгнуў да самай зямлі крыж на Яўхімавай магіле, паздзекаваўся, помсцячы Яўхіму і пасля смерці.

Стоячы каля прыгнутага да зямлі крыжа, Хрысціна

раптам успомніла Яўхімавы словы, сказаныя ім незадоўга да смерці:

— Дзіву даюся: як мы, такія розныя, пражылі з табой усё жыццё?..

Сказанае Яўхімам цяпер здавалася ледзь не адкрыццём. Дасюль Хрысціне не было калі задумвацца над тым, як яны жывуць. Трэба было добра падумаць, як пражыць з чатырма дзецьмі, якім хацелася даць адукацыю, каб хоць яны не корпаліся ў брудзе.

Барсукі не мелі сваіх могілак. Частка барсукоўцаў хавала нябожчыкаў на завіранскіх могілках, дзе некалі стаяла царква святога Міколы вясноўага, частка — у Гараватцы, на гары, пад стромымі соснамі. Яўхімава магіла якраз і знаходзілася на гаравацкіх могілках. Ад гаравацкіх могілак да Барсукоў кіламетра паўтара. Але з гары Барсукі нібы на далоні. Здаецца, махні раз-другі рукамі — і ты дома, а ісці паўгадзіны, не менш, бо напрасцяк не пойдзеш. Сёлета асаблівa.

Сёлета, пасля ранніх маразоў, якія счарнілі націнне, палілі халодныя надакучлівыя дажджы. У нізінах стаялі цэлыя азёры зеленаватай халоднай вады, ды і на вышэйшых мясцінах усё расквасіла, падняло, як на дражджах. Сёння дождж, дзякуй богу, не ліў. Але неба так і не расчысцілася ад хмар. Яны беглі нізка над зямлёй, ужо выдаеныя, пустыя, як вымя перадойкі, а таму лёгкія, нават бязважкія.

З гэтага хмурага, зацягнутага хмарамі неба, ужо на самым падыходзе да вёскі, Хрысціна пачула самотнае курлыканне. Яна задрала галаву і адразу ўбачыла жураўліны клін.

Такога вялізнага жураўлінага кліна Хрысціна не бачыла, можа, з даўняга дзяцінства, калі і на іхнім балоце пад самымі Барсукамі вадзіліся качкі і гусі, цыбатыя бацяны і шэрыя лясныя курачкі. Задоўга да вайны ўсё гэтае птаства аднаго лета кудысьці знікла, нават не дачакаўшыся восені. Можа, надакучыў ім надрыўны гул «фардзона», чорнага, як жук, смярдзючага, як тхор, трактара з калючымі заднімі коламі, якія пакідалі на зямлі глыбокія, з ірванымі краямі лункі.

Хрысціна доўга сачыла за роўненькім жураўліным клінам, які суладна, у адзін такт махаў крыламі, не паспешліва, але і не лянiва, а ў самую меру, каб ніхто не адстаў і не замарыўся. Мабыць, важак жураўлінага кліна быў стары, з багатым вопытам далёкіх падарожжаў журка. Па

сваёй сіле ён мог бы і прыдаць лёту больш імклівасці, а мог і запаволіць яго. Не, ён ляцеў так, каб усім было добра. У гэтым і была ягоная мудрасць, набытая вопытам.

Жураўліны клін неўзабаве знік з вачэй, зліўся з такімі ж, як і сам, шэрымі хмарамі. Тады Хрысціна і пачула далёкія з вёскі гукі. Нехта з усяе сілы забіваў у дрэва цвікі, моцна, з асалодай, грукаючы малатком.

«Каму гэта прыспічыла ў нядзелю з раніцы забіваць цвікі?» — падумала яна.

Лепей прыслухаўшыся, Хрысціна зразумела, што нехта нешта прыбівае ў Старых Барсуках, і падзівілася яшчэ больш. Царкоўныя святы і ў Старых Барсуках праўлялі хіба тры-чатыры сям'і, затое нядзелю прызнавалі ўсе. І стараліся не рабіць. Не таму, што баяліся граху — адным болей, адным меней,— а таму, што даражылі гэтым дзяньком, як найвялікшай узнагародай.

З таго часу, як барсукоўцы аб'ядналіся ў калгас, асабліва да вайны, ды яшчэ гадоў пятнаццаць і пасля вайны, старшыні іхняга калгаса на нядзелю выдумвалі людзям самую розную работу — змагаліся з рэлігійнымі забабонамі.

Потым ужо з шасцідзесятых пачалося паслабленне сельскаму люду і найперш вось з гэтых нядзель, якія, здавалася, не страцілі біблейскага значэння: шэсць дзён рабі аж да поту на твары, а на сёмы адпачывай і цешся зробленым. А што, разумна! Трэба ж некалі спыніцца, азірнуцца назад, парадавацца таму, што зрабіў, падумаць над тым, што трэба зрабіць.

Каб хто забіваў цвікі ў Новых Барсуках, дык яшчэ можна зразумець — новабарсукоўцы гатовы былі адарваць і ад ночы, абы набыць якую дарагую цацку. Тое, што нехта забіваў цвікі ў Старых Барсуках, насцярожыла Хрысціну. Не прывядзі божа, ці не памёр хто...

Хрысціна сарвалася з месца, пайшла наўпрасткі спорным крокам па неўзараным полі. Перабегшы равок, за якім пачынаўся агарод яе хроснай, Хрысціна аж ляйнулася: «Божачкі, гэта ж у хроснай».

Шыракаватая мяжа вывела Хрысціну на задворкі сядзібы, па-старому вялікай, але добра занядбанай. Сядзібу гэтую ставіў яшчэ свёкар хроснай, чалавек майстравы, працавіты. Выйшаўшы з хаты на двор, можна было трапіць у хлявы і хлеўчукі, свірны і вазоўні, паветкі і дрывотні, склепы і лазні — усё пад рукой, усё на месцы.

Абагнуўшы хлеў, Хрысціна апынулася перад хатай на

невялікім гуменцы, недагледжаным і пуставатым. Цяпер на ім стаялі чырвоны «Масквіч» з нефарбаванай дзверцай — няйначай, нядаўна пабываў у аварыі — і грузавая машына з высокімі бартамі, а на ёй шафа з люстэркам на ўсю дзвярыну і разлапісты фікус, стары, як і сама хросная.

Хрысціну так і кальнула ў сэрца: значыць, яшчэ адна жывая душа — на гэты раз не чужая — адрываецца ад роднай зямелькі.

Старэйшы сынок хроснай — Лявонька Бычок — забіваў дошкамі вокны. Два акны ўжо былі забіты крыж-накрыж; Лявонька прыбіваў дошку да трэцяга акна, якраз насупраць чалеснікаў вялізнай, на стары лад, печы. Цвікі Лявонька трымаў у роце; Хрысціне здавалася, што ў яго выраслі чорныя жорсткія вусы, хоць ён зроду быў руды, як медны таз.

Лявонька біў малатком з-за вуха. Таму адзін раз трапляў па плешцы цвіка, а два разы прыходзілася побач, па сухой пабурэлай дошцы. На прывітанне Хрысціны ён толькі кіўнуў кудлатай галавой. Сказаць «добры дзень» яму заміналі цвікі. Замест яго жвава азваліся бабулі — віталіся ўразнабой старэчымі галасамі.

Бабуль — пяцёра. Усё даўнія, з даваенных яшчэ часоў, таварышкі хроснай. Яны стаялі, як на парадзе, у шарэнгу трымаючы ў руках гаршчэчкі з кветкамі. У бабуль былі самотныя твары, нібы яны праводзілі таварышку не ў горад, а на завіранскія могілкі.

Хрысціна падышла да іх, таксама стала ў шарэнгу, спытала ў старой Тукаліхі:

— А дзе ж хросная?

Ёй можна было і не пытацца, бо якраз у гэтую мінуту з хаты на ганак з гнілымі маснічынамі выйшла хросная. Яна несла перад сабой стары, матчынага благаславення абразок, паліваны, цалюсенькі макацёр, у якім некалі пад вялікдзень пяклі здобны куліч — бабку па-тутэшняму, якую насілі свяціць у царкву; пранік з качалкай, якімі прасавалі бялізну, і хатулёк з адзеннем на смерць.

Хросная спынілася на ганку і раптам загаласіла ўголас:

— А ма-ая ж ты-ы-ы хрэ-эсні-іца-а-а, а ма-ая ж ты-ы-ы лю-юба-ая, мяняю я гняздзечка наседжанае на вырай цёплы, цёпленькі, ды нязнаны, нязведаны...

Лявонька выплюнуў цвікі пад ногі, павярнуўся тварам да маці.

— Ну, што ты як па нябожчыку выеш? — сказаў ён строга, з дакорам у голасе.— Можна падумаць, што цябе на Салаўкі адпраўляюць...

Хросная адразу перастала плакаць, як бы спалохаўшыся гэтага слова «Салаўкі».

Цяжка шоргаючы нягнуткімі, нібы драўлянымі, нагамі, хросная падышла да Хрысціны.

— Ета табе, Хрысцінка, на памяць,— сказала яна, выцягваючы рукі з паклажай.

Усе рэчы, што трымала хросная, былі без патрэбы Хрысціне. Але нельга было пакрыўдзіць старую. Таму Хрысціна ўзяла макацёр, пранік з качалкай і адступіла на крок.

— Вазьмі, Хрысцінка, і абразок еты, пакрова багародзіцы, на які я і на свет нарадзілася...

Хрысціна ў разгубленасці не ведала, што рабіць з гэтым абразком. Не вешаць жа яго на сцяну, як нейкую карцінку ў пазалочанай рамцы. Пакласці ў шафу? Дык таксама нібы не месца абразку.

Хрысціна збянтэжана зірнула на абраз, хоць, можа, тысячу разоў бачыла яго на покуце ў хаце хроснай. З аправы, з металічных пласцін, прарэзаных на месцы твару і рук, глядзела на Хрысціну самотным, дакорлівым позіркам багародзіца, нібы прасілася: «Вазьмі мяне, кабета, нікому непатрэбную. Я табе дакучаць не стану».

— Добра, давайце,— паніклым голасам сказала Хрысціна, беручы і абразок з рук хроснай.

Тым часам з хаты выйшаў малодшы сын хроснай — Мікіта. Яму было за шэсцьдзесят, і ў адрозненне ад старэйшага брата ён быў лысы, тоўсты і кароценькі, як морква-карацелька. Мікіта нёс перад сабой калыску.

— Лёня, глянь,— весела закрычаў ён,— наша з табой зыбка. Можа, возьмем? Музейная рэдкасць!..

Лявонька з лішняй сур'ёзнасцю загадаў брату:

— Кінь ты яе к чортавай матары... Быццам табе рабіць няма чаго... Во памажы забіць дзверы ў хату...

Мікіта прыўзняў калыску над галавой, кінуў з размаху на кучу смецця.

— Бачыла?.. Нічога ім ужо не трэба,— сказала хросная, і Хрысціна зразумела, што гэткі самы лёс чакаў і абразок, дарагі хроснай як матчына блаславенне.

Хросная стала развітвацца з таварышкамі — абдымала кожную, тройчы цалавала, прасіла дараваць, калі былі якія ад яе крыўды. Бабулі кланяліся хроснай, тыцкалі

нягнуткімі шчопцямі ў лоб і грудзі — бласлаўлялі на дарогу.

Развітваючыся з Хрысцінай, хросная зноў заплакала, ціхенька, каб не пачулі сыны.

— Дужа хачу, каб ты прыехала на пахаванне,— шапнула Хрысціне хросная.— Яны ж і свечачку не паставяць. Закапаюць пад аркестру, а мо і без яго. А мне адну свечачку, каб было відаць, куды ісці на тым свеце.

Хрысціна паабяцала, не дужа ўпэўненая, што здолее прыехаць — гаспадарка.

Сыны забілі дзверы, закурылі. Яны не спяшаліся. А хросная ўжо адчувала сябе лішняй у гэтай вёсцы, якая дала некалі ёй прытулак, мужа, дзяцей, якая стала яе роднай вёскай і з якой цяпер трэба ехаць у свет.

— Ну, паехалі,— нецярпліва сказала яна.— Нечага бары растабарываць.

Сыны кінулі недакуркі, утапталі іх у вільготную зямлю. Хросная села ў «Масквіч». Абедзве машыны загрымелі маторамі, скрануліся з месца.

Першым на вуліцу выруліў грузавік. У люстэрку спачатку на адзін, потым на другі бок пахілілася вуліца з хатамі і прысадамі і стала на сваё месца. За грузавіком, адбіваючыся ў люстэрку шафы, папоўз «Масквіч».

— Во, і яшчэ адзін зуб вываліўся,— сказала адна з бабуль і тым самым вывела Хрысціну з задуменнасці.

Трэба было ісці дамоў, гатаваць абед — не сабе, а кватаранткам, пяцярым студэнткам-першакурсніцам, што прыехалі выбіраць бульбу. Абед звычайна быў позні, нацямку, бо ўдзень студэнтаў кармілі ў полі. Але два разы на дзень пяцярых дзевак трэба было накарміць, і не абы-як. Хрысціна абы-як карміць не любіла — лепей тады ўжо зусім адмовіцца ад кватарантаў або хай самі сабе гатуюць.

## 2

За ўсе гады, як паажаніліся яе хлопцы, а старэйшая дачка выйшла замуж, Хрысціна, бадай, не болей як па два разы гасцявала ў кожнага з іх і не больш як дзве ночы дазваляла сабе такую раскошу. Не хацелася лішне надакучаць нявесткам і зяцю, ды і не было часу — дома чакала гаспадарка, і не малая, а Яўхім, папраўдзе, не дужа любіў гаспадарыць. З той жа, трохгадовай даўнасці, пары, як памёр Яўхім, Хрысціна наогул не магла кінуць

вёску хоць на адзін дзень. Вязалі па руках і нагах кароўка з цялушкай, двое падсвінкаў, паўтара дзесятка курэй, дзесятак гусак, кот з сабакам — на аднаго работніка працы з раніцы да позняга вечара.

Ад'езд хроснай прымусіў Хрысціну задумацца пра свой лёс. Раней чамусьці не думалася. Жылося, працавалася, і вось табе нейкі чарвячок, як шашаль, пачаў тачыць нядаўнюю ўпэўненасць у сабе. Усё здалося хісткім, няўстойлівым і прыгнётлівым, аж зашкрабло на сэрцы ад гэтай няпэўнасці свайго лёсу.

Былі і яшчэ абставіны, якія змушалі думаць пра заўтрашні дзень. Звычайна ўсе барсукоўцы назапашвалі корму каровам з другога ўкосу.

Першы забіраў калгас, як кажуць, і па праву, і па неабходнасці: трэба было закладаць сянаж, сілас, рабіць травяную муку, пакаваць цюкі. Кароў у калгасе, праўда, было не шмат, але ж і зіма доўгая, а малачко гнаць трэба і ў маразы, не тое што раней: прыйшла зіма — з малаком выбачайце. На другі ўкос у калгаса проста не хапала рабочых рук. Навальвалася іншая работа — тут ужо не да сена. Таму атаву ахвяравалі калгаснікам — касі хто колькі зможа. Ды ў апошнія гады і начальства зверху загадвала старшыням не крыўдзіць калгаснікаў — няхай косяць атаву, гадуюць каровак, усё лішні літр малака ў дзяржаўны бітон.

Сёлета праклятушчы дождж згнаіў другі ўкос. Хто яшчэ меў падыходы да тэхнікі, той неяк выхапіў з далёкіх дзялянак накошанае, а такія, як Хрысціна, і паловы не вывезлі — згніло ў пракосах і копах. Таму і трэба было добра падумаць, што рабіць з каровай і цялушкай.

Ад'езд хроснай міжволі наводзіў Хрысціну на думку, што некалі і ёй давядзецца развітвацца з Барсукамі, вясковымі абшарамі, уробленым агародам і роднай хатай. Як ні круці, а прыйдзе такая пара, калі на сябе не вельмі спадзяешся, а маючы чацвёра дзяцей, якім аддадзена ўсё, каб выйшлі ў людзі, быццам і няёмка перад суседзямі канаць адной у пустой хаце.

Само сабой напрошвалася рашэнне пабываць у дзяцей, каб выбраць у некага прытулак. Думка гэта была ёй непрыемная, бо нейкім чынам абражала яе дзяцей, якіх яна любіла аднолькавай любоўю. «Да каго захачу, да таго і пайду»,— падумала яна, і нібы палягчэла на душы.

Але намер паехаць да дзяцей, проста вось так нечакана заявіцца госцяй, завалодаў ёю моцна і неадступна.

Увечары, накарміўшы свіней, Хрысціна ўзяла даёнку, пайшла ў хлеў, каб падаіць карову. Адразу ж на двары паявілася Наташа, адна з яе кватарантак, аматарка паспяваць, але здольная і на любую вясковую работу.

— Дайце, цётачка, я падаю,— сказала яна і забрала ў Хрысціны даёнку.

Хрысціна не дужа і працівілася. Наташа ёй падабалася вось гэтай паслужлівасцю, якая ішла не ад хітрасці і жадання спадабацца, а ад шчырасці і дабрыні. Пазіраючы, як Наташа доіць карову, Хрысціна надумала пагаварыць з ёю пра свае намеры.

— Паслухай, Наташачка, што я хацела папрасіць,— загаварыла яна і раптам падумала, што не варта, што нельга ўзвальваць на плечы гэтай паслужлівай дзяўчыны ўсю сваю гаспадарку, але ўжо было няёмка спыняцца на паўслове.— Хацела я да дзяцей з'ездзіць. Гадоў шэсць як не была. А з вясны дык і не бачылася...

Наташа адразу зразумела Хрысцініну просьбу.

— Ці надоўга вы, цётачка? — спыталася яна.— Мы ж хутка канчаем працу.

— Мне тыдня хопіць,— узрадавалася Хрысціна.— Я яшчэ Тукаліху папрашу памоч...

— Не, мне нікога не трэба. Упраўлюся. Ды і дзяўчаты памогуць...

— А сняданне і абед ці зварыце?..

— Ды не клапаціцеся вы, абыдземся,— весела сказала Наташа.

— Ну, то я заўтра і адпраўлюся,— рашыла Хрысціна.

Пакуль Наташа дадойвала карову, Хрысціна прынесла вады, намыла бульбы, спусціла з ланцуга сабаку, які вечна выў, калі сядзеў на прывязі. Рабілася ёй як ніколі лёгка, з небывалай асалодай, як у маладосці, калі толькі пачынаеш гаспадарыць і спадзяешся зрабіць за жыццё нешта важнае. Наташа падаіла карову, панесла малако ў хату. А Хрысціна яшчэ памыла ў лужыне гумовікі і толькі цяпер з адчуваннем задаволенасці рушыла ў хату.

Дзяўчаты сядзелі на ложку, як ластаўкі на жардзіне пад паветкай. А Наташа стаяла, пазіраючы ў чорнае акно. У ім адбівалася яркае святло люстры і сама яна, Наташа, з накінутай на плечы хусткай. Гэтая хустка рабіла Наташу больш дарослай і сталай. Цяпер у Наташы яшчэ быў прыгнечаны выгляд.

«Мусіць, Наташка сказала ім пра мой ад'езд, і яны насварыліся на яе, што пагадзілася паглядзець гаспадар-

ку,— здагадалася Хрысціна.— А яно і праўда, знайшла бясплатных батрачак. Здурэла баба! Хто яны табе? Унучкі? Дочкі? Дык і тыя па цяперашнім часе не вельмі кідаюцца з дапамогай... Яны з бацькоўскіх ды дзядоўскіх рук глядзяць, як бы паболей урваць».

Хрысціна зняла гумовікі, паставіла ля печы. З панадворка ў хаце здалося аж горача. Але па тым, што не адна Наташа накінула хустку на плечы, Хрысціна здагадалася: хата за дзень выстудзілася. Вецер і макрэча вышасталі з яе цеплыню.

— Можа, дзяўчаткі, не шкодзіла б прапаліць грубку? — ці то спыталася яна, ці то намякнула на такую магчымасць.

Найперш ёй хацелася ўлагодзіць тых чатырох дзяўчынак, што сядзелі на ложку; можа, яны перастануць злаваць на Наташку.

— Ой, цётачка, было б добра, а то мы на той бульбе зусім акалелі,— азвалася таўсмаценькая Людачка, але не падхапілася, каб пабегчы па дровы.

Наташа таксама не зварухнулася, хоць на яе гэта было непадобна. Значыць, сяброўкі дапяклі ёй за паслужлівасць.

Хрысціна зноў нацягнула гумовікі. Абувалася яна знарок марудна, назаляла дзяўчатам — можа, каторую пройме сорам. Дзе там — сорам іх не кранаў. Хрысціна надзела стары балоневы плашч, дужа даўні падарунак старэйшай дачкі Антаніны. Тады гэтыя плашчы былі ў модзе. Але мода модай, а звычайнай практычнасці ў іх не было. У вецер ды пад дажджом у балоні той прамерзнеш да касцей, а ў добрае надвор'е адсырэеш ад брыдкага поту. Калі на што і прыгодны такі плашч, дык як зараз — накінуў на плечы, выбег на хвілінку пад дождж і тут жа вярнуўся.

З дрывамі Хрысціна не мела клопату. Чаго-чаго, а дроў, і не абы-якіх, ёй хапала і зімой і ўлетку. Гэта быў клопат малодшага сына Антона, які рабіў дырэктарам дзяржаўнага запаведніка.

Антон паяўляўся заўсёды нечакана недзе на прыканцы лета. Вылезшы з машыны, ён найперш абдымаў маці, цалаваў, прыгаворваючы: «Ад сябе, ад жонкі маёй, ад тваёй нявесткі, ад унучкі, ад унука».

Потым ён выпіваў кубак малака, выціраў рукавом губы, як некалі ў маленстве, і пытаўся па-даросламу заклапочана;

— З дрывамі, мабыць, нявыкрутка?.. Ну, то не турбуйся. Заўтра будуць.

Пад вечар ён ехаў у адно з двух лясніцтваў ці леспрамгас, і назаўтра сапраўды на двор заязджалі гружаныя дрывамі машыны. Шафёры і грузчыкі, весела перагукваючыся, скідалі палены. Сын адводзіў маці ўбок, ціха шаптаў:

— Вазьмі ў машыне партфель...

Хрысціна ведала, у партфелі будуць пляшкі гарэлкі, гарадская закусь. Хрысціна радасна сварылася: хіба яна сама не можа пачаставаць людзей? Сын клаў па-мужчынску цяжкую руку на матчына плячо:

— Можаш, мама, але ж і я не жабрак...

Пакуль шафёры ды грузчыкі рэзалі і калолі дровы, Хрысціна паспявала сабраць на стол. Якраз у гэты час нехта з грузчыкаў гукаў яе:

— Гаспадынька, прымай работу...

Гэта было самае салодкае імгненне. Яна наперад ведала, што ўбачыць: пад паветкай будуць складзены дровы, а двор акуратна падмецены — ні табе трэскі, ні апілак,— але ўсё роўна было шчымліва хораша. Гаспадынька!

І сёлета сын прыгнаў аж тры машыны дроў. І сёлета паўтарылася тая ж завядзёнка...

Каб і сена яшчэ ўзяў на сябе Антон... Сена ляжала на старэйшым, Міхасю. Няма чаго крыўдаваць, Міхась прыскокваў, бывала, на тыдзень і болей. Працавітасці яго можна было пазайздросціць. Але апошнія гады чатыры, яшчэ пры бацьку, Міхась рэдка калі знаходзіў час пабыць дома дні тры. Прыскочыць на машыне, пакосіць два дні і хутчэй у горад, да сям'і. Яно і зразумела, сямейка ў Міхася па цяперашнім часе вялікаватая, чацвёра, а жонка не сказаць каб дужа кемлівая: пашлеш па ваду — прынясе лебяду.

А з дачок набытак малы. Ледзь папросіш што зрабіць, адразу за сваё:

— Мама, вазьмі грошай ды наймі каго. Мы занятыя...

А каго цяпер наймеш у вёсцы? Хіба якога прапашчага п'яніцу? Дык ён табе наробіць! Ён толькі і глядзіць, калі краму адчыняць, а як адчыняць, дык памінай хочаш добрым словам, а хочаш благім...

Хрысціна набрала дроў, прынесла ў хату, скінула на бляху ля грубкі. Зноў пачала распранацца і разувацца. Хай дзяўчаты самі распаляць грубку.

Па ўсім, у хаце за гэты час адбылася хоць і кароткая,

але рашучая спрэчка. Цяпер дзяўчаты сядзелі на ложку, як мокрыя вераб'і на суку, а Наташа збірала на стол.

Таўсмаценькая Людачка не вытрымала першай, скочыла з ложка, адчыніла дзверцы грубкі, стала накладаць дровы. Тады і астатнія тры — Мая, Каця і Лена — пайшлі дапамагаць Наташы.

Неўзабаве ў грубцы весела загуў агонь і, хоць у хаце па-ранейшаму было сыра і халаднавата, надаў жытлу ўтульнасць і харАство.

На стале ўжо стаяла страва, шэсць талерачак і відэльцаў — зусім па-гарадскому. Дзяўчаты занялі свае звычныя месцы, прысела з краёчку і Хрысціна. Пры такой маладой ды ешчай кампаніі і ў яе праразаўся апетыт, як той першы зуб у дзіцяці — так і хочацца нешта жаваць ім.

Калі чарвячок першага голаду быў заморааны, Хрысціна загаварыла як бы і не да дзяўчат, а так, разважаючы ўголас:

— Падумала я падумала ды і засумнявалася; ці час цяперака ехаць у госці? Да станцыі той ці дабярэшся, ды і табе, Наташа, у такую непагадзь бэрсацца па гразі, калі і на бульбе працы хоць адбаўляй... Не, не паеду!

— Вам відней,— азвалася Наташа.— Але мне, чэснае слова, не цяжка.

— Дык мы дапаможам... Чаму адна Наташа? — падхапілася Каця.— Праўда, дзеўкі?..

— Глядзіце, можа, лепей падумайце, а не тое што чухчубурахты,— перасцерагла іх Хрысціна.

— Ой, цётачка, гаворыце вы нешта,— нібы пакрыўдзілася рослая не па гадах Лена.— Быццам мы на гаспадарцы не рабілі. І карову падоім, і свіней дагледзім.

Хрысціна абвяла іх пацяплелым позіркам.

— Ну, то тады заўтра і рушу. Заўтра якраз на станцыю ідзе машына.

## 3

Ад Барсукоў да станцыі Сачкі па добрай дарозе лічылася дваццаць тры кіламетры. Але да Маталыжана, за якім пачынаўся асфальт, кіламетраў дванаццаць ляжала асенняя бездараж, з такім мноствам аб'ездаў, што да дванаццаці кіламетраў дадавалася яшчэ кіламетры чатыры.

Шафёры клялі гэтыя кіламетры страшнымі праклёнамі, раённае начальства бязлітасна шпыняла вымовамі старшынь двух калгасаў і двух сельсаветаў за абыякавасць да

дарожнага будаўніцтва, старшыні давалі самае апошняе слова прывесці дарогі ў боскі выгляд і нешта рабілі прыхапкам, а вясновыя і асеннія разводдзі насміхаліся з іх.

Сёлета дарога да Маталыжана нагадвала кісель у запырсканых берагах вялізнага карыта. Грузавік, здавалася Хрысціне, не каціўся, а плыў, то ныраючы па самы радыятар, то выбіраючыся на вышэйшыя, нібы кімсьці вычарпаныя мясціны.

Шафёр да самага Маталыжана кляў дарогу і начальніка гаража, які паслаў яго ў рэйс замест Тараса Лямцюжонка. Хрысціна прапускала ягоныя словы міма вушэй. Яна думала, да каго з дзяцей ёй найперш ехаць?

Пытанне гэтае не такое простае, як магло здацца на першы погляд. Толькі старэйшы сын Міхась ды дачка Антаніна жылі ў адным горадзе, хоць і на розных яго канцах. Па вясковых мерках, дык зусім не блізка адно ад аднаго — кіламетраў, бадай, пад пятнаццаць набярэцца.

Малодшы Антон працаваў кіламетраў за сто пяцьдзесят ад горада ў запаведніку. А малодшая дачка — Вуля — Улляна — жыла аж у былой Заходняй Беларусі.

Хрысціне хацелася найперш пабываць у Антона. Было ў ёй патаемнае адчуванне, што, пачаўшы сваё гасцяванне з Антона, яна праўядзе яго без аніякіх непрыемнасцей. Чаму павінны быць непрыемнасці, Хрысціна не вельмі разумела. Наадварот, яна была ўпэўнена, што непрыемнасцей не будзе, не можа быць, што яе ўсе прымуць радасна, як было дасюль. Але нешта не пераставала грызці. Хрысціне здавалася — яна рашуча гнала ад сябе такую брыдкую думку,— што пасля смерці бацькі дзеці як бы аддаліліся ад яе. І не таму, што сталі прыязджаць не так часта, не! Бывала, прыедуць, насварацца на бацьку, паспачуваюць ёй — усё нейкая ласка. Цяпер, калі яна засталася адна, абараняць яе не было ад каго, спачуваць не было патрэбы, і Хрысціна адчула вакол сябе халаднаватую пустату. Яна была падобна на хворага, якому ўсе дагаджалі пакуль ён хварэў, а як перастаў хварэць, ніхто на яго ўжо не звяртаў увагі.

Можа, яно было так, а можа, і не так. Маці заўсёды калоціцца за сваіх дзяцей, таму і чакае нейкія непрыемнасці. А яна, Хрысціна, не такая хіба, як усе жанчыны?

Найбольш за ўсё Хрысціну непакоіла Вуля. І не толькі цяпер, а заўсёды. Яна адрознівалася ад астатніх дзяцей не таму, што была апошняй, падскрэбкам, як зваў яе бацька. Змалку яна была хваравітая, дужа ўражлівая.

Хрысціна вазіла яе па дактарах: сваіх, мясцовых, у вобласць, нават у Мінск, але Вуля не папраўлялася.

Толькі ў пятым класе яна раптам выладнела. З таго часу і пачаліся з ёю пакуты; год ад году большыя. Вуля нібы намерылася навярстаць дзіцячыя пракуды, свавольствы, адабраныя хваробамі. Яна стала прападаць невядома дзе, прапускаць урокі ў школе, прыдумвала самыя неверагодныя гісторыі, ад якіх можна было страціць розум.

Пасля васьмігодкі Вуля з'ехала з дому, зажыла сваім, незразумелым, нават таямнічым для Хрысціны жыццём. Няйначай, вось гэта і выклікала ў Хрысціны трывогу.

Хрысціне падумалася, што, бадай, найперш трэба было б паехаць да Вулі. Не таму, што спадзявалася некалі знайсці ў яе прытулак. Проста раптам зашчымела сэрца па непуцёвай, і адразу прыгадалася біблейская прытча пра блуднага сына. Што праўда, то праўда, усе дзеці дарагія бацькам, а непуцёвыя даражэй утрая. Найперш таму, што бясконца капаешся ў сабе, чаму яны сталі блуднымі, думаеш, мяркуеш, як зрабіць, каб яны вярнуліся на езджаны шлях, а не блукалі па абочынах.

«Можа, і праўда, вазьму білет на Гродню,— рашуча падумала Хрысціна,— бо загасцюю ў шчаслівых і не паспею да нешчаслівай».

У Хрысціны як гара звалілася з плячэй, хоць і зварухнулася разважлівая думка: «А калі забаўлюся ў Вулі?.. Напэўна забаўлюся... Ну, і няхай, можа, яе бяду развяду, а што там бяда жыве-пасвіцца, дык ці варта сумнявацца...»

Грузавік якраз выязджаў на шашу, на гладкі, вымыты дажджамі асфальт. Шафёр ямчэй прыладзіўся на сядзенні, зняў правую руку з баранкі, каб дастаць цыгарэту. Салодкі дымок казытнуў Хрысціну, аж здрыганулася сэрца — бывала, такі дымок ішоў ад Яўхімавых цыгарэт.

Колькі яна павалявала з Яўхімам, каб не курыў. Дзіўна, дым шафёравай цыгарэты не раздражняў Хрысціну, а Яўхімаў, бывала, даводзіў да шаленства.

Каб жа толькі цыгарэтны дым!..

Хрысціне не хацелася ўспамінаў. Хопіць! За доўгія гады сэрца навярэджана да крывавых ран. Але думкі пра Яўхіма, пра іх сумеснае жыццё няпрошана лезлі ў галаву, разгортваліся ў ёй бясконцай стужкай, як і гэтая шаша. Дзякуй богу, што шашы ёсць канец, а значыць, і яе думкам.

Хрысціна аж узрадавалася станцыйным прысадам. Няма чаго варушыць мінулае: яго не паправіш, не зменіш.

Яна аддзячыла шафёра рублём. Той абыякава сунуў пакамечаную паперку ў нагрудную кішэньку. Хрысціна забрала паклажу, скіравала на перон, з якога быў ход у касу.

Толькі цяпер яна дапяла розумам, што не можа найперш паехаць да Вулі. Цягнік на Гродню праходзіць тут раніцай. Не сядзець жа ёй амаль суткі на станцыі, якую і за станцыю нельга палічыць.

Хрысціна спынілася, каб паправіць хустку, пад звонам, які вісеў на кранштэйне на рагу станцыйнай будыніны. Выслізганая рукамі вяроўчына сцякала з ягонага языка, як сліна ў калгаснага быка.

— Ці ты гэта, Максімаўна? — спытаўся нехта за яе спіной як бы здаля пачутым голасам.— Добрага табе здароўечка, Хрысцінка...

Хрысціна, так і не апусціўшы рук, якімі завязвала хустку, павярнулася на той голас. Крокі за два ад яе стаяў прыгорблены, з упалымі шчокамі стары ў шынялі чыгуначніка, чорнай фуражцы і кірзавых ботах. Дробны маршчыністы ягоны твар нагадваў твар Цімоха Каўку, Стаханішчынага Цімкі, але ў таго твар быў крамяны, акруглы, ружовы, а ў гэтага доўгі і зямлісты.

— Цімох? — баючыся абазнацца, спытала яна.

— А ты, Хрысцінка, мала змянілася,— сказаў ён.— Я цябе здаля пазнаў, па хадзе. Хоць, дай бог памяці, мы з табой не бачыліся гадоў за трыццаць.

Хрысціна была так уражана сустрэчай, што ніяк не магла прыгадаць, а ці сустракаліся яны наогул пасля вайны.

— Адкуль ты наявіўся? — спытала яна.

— А ўжо трэці год жыву тут, у Сачках... Пра цябе ведаю — заўдавела...

— З асенняга Івана чацвёрты год пайшоў,— удакладніла Хрысціна.— Чаму ж я пра цябе не чула?..

— А я пяты гадок адзін жыву. Таму сюды і пераехаў... А ты куды сабралася ў такую непагадзь?

— У добрае надвор'е работа не адпускае, вось і чакаеш, пакуль задажджыцца.

— Яно так...

— А да цягніка на Мінск колькі яшчэ засталося? — спыталася Хрысціна.

Цімох дастаў з-за пазухі гадзіннік-рэпу, можа, яшчэ

той, даваенны, кіраўскі, які насіў у нагруднай кішэньцы на ланцужку, прадзетым у пятлю лацкана, а можа, новы, прынесены з вайны.

— Яшчэ тры гадзіны з гакам,— сказаў ён.

Хрысціне здалося, што пра тры гадзіны Цімох сказаў радасна, а яна нечага спалохалася, быццам вінаватая перад ім.

— Ці ведаеш, будуць білеты? — зноў спытала яна.

— Анягож, будуць... Я табе ўстрою...

Хрысціну крануў вось гэты клопат аб ёй. Устрою... Важна было не тое, дапаможа ёй Цімох з білетамі ці не дапаможа, а ягоная спагадлівасць.

Над Сачкамі тым часам завісла чорная, з сівымі падпалінамі хмара. З яе сыпануў буйны дождж, і адразу, аднекуль з-за чыгункі, падзьмуў ледзяны вецер. Хрысціна падхапіла паклажу, кінулася да пачакальні. Яна аказалася зачыненай, хоць гэта, напэўна, супярэчыла правілам. Заставаўся адзін ратунак — брылёк над уваходам у службовы пакой. Брылёк хоць троху прыкрываў ад дажджу.

Яны стаялі ўдваіх. Цімох нечага нецярпліва тупаў нагамі.

— Чаго ты, Максімаўна, будзеш тут на ветру пакутваць,— нясмела цэдзячы словы, пачаў Цімох.— Касірка цяпер толькі за гадзіну да цягніка паявіцца. А ключы ў яе. Зайдзі да мяне, перасядзі гэты дождж...

Хрысціна хацела адмовіцца: маўляў, здурэў ты, Цімка, што людзі падумаюць? І ўсміхнулася: во ўжо чаго не варта баяцца...

Цімка жыў тут жа пры станцыі, у пакойчыку старой хаты, да якой ляпілася ці не пяць ганкаў з глухімі і зашклёнымі тамбурамі, да якіх вялі па агародзе сцяжынкі. Цімкаў тамбур быў з маленечкім акенцам, аздобленым разьбой па дрэве. Разьба ўпрыгожвала і вушакі дзвярэй. Хрысціне нечага стала радасна, што Цімка пастараўся аздобіць жыллё знадворку,— значыць, засталася ў ім тая, маладых гадоў, хватка ўсё рабіць стала, з душой і густам. Але пакойчык знутры выглядаў не тое што несамавіта, здавалася, нехта доўга і ўпарта ствараў тут несусветны кавардак.

Хрысціна як зайшла ў пакойчык, так і спынілася ля дзвярэй, не ведаючы, куды паставіць клункі, дзе прысесці самой. Мабыць, яе разгубленасць заўважыў Цімка, ён рукавом шыняля згроб з нешырокай лаўкі ўсё, што на ёй

ляжала, на падлогу, разы два дзьмухнуў, каб не засталося пылу, сказаў:

— Сядай во, Максімаўна, у нагах праўды няма...

Яна села, стараючыся не глядзець на запусценне Цімкавай кватэры. Але хочаш не хочаш, а ў вочы лезла гэтая непрыбранасць, гэты бруд, што збіраўся тут усе гады.

— Развёў свінушнік,— не стрымалася Хрысціна, хоць хацела стрымацца, бо якая ёй справа да Цімкі і Цімкавай кватэры.

— Ага,— пагадзіўся Цімка.— Я сюды толькі перананачаваць прыходжу.

— А начаваць хіба прыемна ў такім хляве? — спытала яна ўсё з тым жа дакорам.

Цімка не азваўся. Ён стаяў задумлівы ля грубкі з плітой на дзве канфоркі. Хрысціна падумала, што ён усё ж пакрыўдзіўся. Але Цімка нарэшце перапыніў маўчанне:

— Ты, Максімаўна, даруй і не зважай. Усё лепей, як пад дажджом. А я прывык да беспарадку. Мая Паўлаўна, не ў абсуд ёй сказана, прыбірала ў хаце два разы на год, і то зверху...

Цімох гаварыў абыякавым голасам, нібы не пра сваю жонку, а пра чужую, да якой яму няма ніякай справы, але ў ягоных словах Хрысціна чула дакор сабе за тое, што ён, Цімох Стахванёнак, вымушаны быў жаніцца на неахайнай Паўлючышчы.

— Што ж ты ўжо так паддаўся жонцы?.. Ці характару не хапіла? — спыталася яна і раптам падумала, што такі не было ў Цімкі характару ніколі.

— Ты, Максімаўна, распалагайся, а я адлучуся на паўгадзінкі,— не адказаўшы на Хрысцініны пытанні, сказаў Цімка і выйшаў.

Хрысціна так і не паспела запыніць яго: крутнуўся і пайшоў, пакінуўшы яе ў разгубленасці. Ёй засталося толькі сцепануць плячамі. Не, Цімка не перамяніўся з маладосці. Во так, бывала, можа кінуць адну і знікнуць. А можа, і кожны чалавек застаецца на ўсё жыццё без якіх-небудзь змен?..

Сядзець без работы ў хаце Хрысціна не магла, не ўмела. Спачатку яна хацела пайсці з гэтага няўтульнага, бруднага пакоя. Але ў акно з такой зацятасцю барабаніў дождж, што не было ніякай ахвоты вытыркваць пад ягоныя ярасныя струмені галаву. Хрысціна прайшлася па пакоі. Адчыніла дзверцы грубкі. Топка была забіта рознай непатрэбшчынай, годнай, аднак, на распалку.

«Божа мой, дзе ж ён варыць сабе ежу? — падумала Хрысціна.— Няўжо харчуецца ўсухамятку?..»

Адкрыццё гэтае аж кальнула ў сэрца болем і шкадаваннем — такая ўжо жаночая натура. Хрысціна заглянула ў шафку. Там ляжаў акраец хлеба, стаяла распачатая бляшанка кансерваў, а ў шклянцы крыху цукру.

У вочы кінуліся яшчэ запалкі. Хрысціна ўзяла іх, надпаліла смецце ў грубцы. Потым паставіла вядро з вадою на пліту. Неяк нават незаўважна для сябе, па адвечнай жаночай прывычцы не сядзець без работы, калі яна сама лезе ў рукі, Хрысціна стала прыбіраць пакой.

Калі вада крыху сагрэлася, Хрысціна вымыла акно, стол, лаўку, падлогу — у пакоі нібы пасвятлела, і сам ён аж раздаўся ўшыркі.

А Цімкі ўсё не было. Можа, і не прыйдзе? На яго гэта вельмі падобна. Хрысціна села на лаўку, заціснула далоні каленкамі. Ёй было нечага крыўдна, быццам Цімка ашукаў яе.

«А такі не прыйдзе Цімка,— падумала яна і стала збірацца.— І мне трэба было паслухацца яго, пайсці сюды... Састарылася, а розуму не набралася».

Дзверы ў пачакальню ўжо былі адчынены. Хрысціна купіла білет. Гадзіннік, што вісеў у пачакальні, паказваў, што да цягніка засталося ўсяго сорак мінут. Добра, што незаўважна прамінуў час.

Хрысціна выйшла на перон. Вецер гнаў па небе расшкуматаныя хмары. Між іх выглядала вельмі сіняе і высокае неба. Як на мароз.

«Казаў, што паможа з білетам,— усміхнулася Хрысціна, зноў згадаўшы Цімку.— Цяперашні мужык пайшоў, як балбатлівая баба,— збрэша і не пачырванее».

І тут Хрысціна ўбачыла Цімку на пуцях з мятлой і саўком у руках. І ён убачыў яе, падхапіў вядро, пасунуўся сюды, да станцыйнай будыніны. Па дарозе ён колькі разоў згінаўся, падымаў нейкае смецце, кідаў у вядро. Рабіў ён гэта прывычна, прызвычаена, і Хрысціна падзівілася яшчэ: пуці прыбірае, а да свайго жытла рукі не даходзяць.

— Чаго ты так рана выбралася? Я цябе мінут за пятнаццаць гукнуў бы,— сказаў ён, спыняючыся крокаў за пяць ад яе.

Хрысціне хацелася паўшчуваць яго — кінуў адну ў сваёй бярлозе і знік,— але замест гэтага спыталася:

— А есці ты сам сабе варыш ці сталуешся дзе?

Цімка часта-часта заморгаў выгарэлымі вейкамі.

— Многа мне той яды трэба...

— А дзеці хоць памагаюць?..

— Што дзеці,— махнуў Цімка рукой.— У іх свае клопаты. Яны яшчэ з маіх рук глядзяць...

Хрысціна не стала распытваць пра дзяцей: дзе яны, што з імі? Навошта? Звычайная бабская цікаўнасць. Памагчы чалавеку не паможаш, а душу развярэдзіш...

— Хутка ўжо і цягнік,— сказала яна.

— Ага... Ён тут адну мінуту стаіць. У цябе які вагон?

— Трэці...

— Ён вунь насупраць той бярозы спыніцца... Давай я памагу табе аднесці туды рэчы.

Ён падхапіў яе клункі, пайшоў наперадзе. А калі падкаціў той трэці вагон, Цімка папрасіў правадніцу — немаладую ўжо жанчыну з доўгім буслiным носам,— каб уладзіла Хрысціну на спакайнейшае месца, не збоку і не на верхняй паліцы.

Правадніца і сапраўды знайшла ніжнюю паліцу, памагла пакласці хатулі ў скрыню пад лаўкай, каб Хрысціна не баялася за іх. А пасля яшчэ напаіла чаем, так што Хрысціна не ведала, як дзякаваць яе.

## 4

У плацкартным купэ ехаў невясковага выгляду чалавек, які неўзабаве забурыўся спаць, не зняўшы ні джынсаў, ні світэра,— скінуў толькі мадэльныя туфлі.

Нагуляўшыся ў суседнім купэ, дзе весела сакаталі дзяўчаты, палеглі спаць на верхніх паліцах і маладыя хлопцы, можа, студэнты, уцекачы з бульбянога фронту.

Хрысціне не спалася. Яна села ў куток, прыкрыла ногі старэнькай вярблюджай коўдрай, пазірала ў акно, за якім чарнела непраглядная восеньская ноч. Было прыемна слухаць, як перагаворваюцца пад вагонам колы, як ляскаюць яны, нібы конскія капыты па ўмерзлай зямлі, на стыках рэек, як парыпвае, пакрэктвае старой абшыўкай вагон, як хіліцца ён то на адзін, то на другі бок — здаецца, вось-вось упадзе набок, але ў час спахопліваецца, каб выраўняцца і пабегчы сабе далей, пагойдваючыся на рысорах.

Праз даволі роўныя прамежкі з цемры паяўляліся ліхтары, то скупыя на святло, то яркія; падплывалі да вагона асветленыя будыніны станцыйных службаў і цём-

ныя прысадзістыя карпусы складаў і іншых гаспадарчых пабудоў. Цягнік спыняўся. За сценамі вагона пачыналася беганіна і гармідар. Надоўга. Пакуль пасажыры не знойдуць свае вагоны, пакуль не ўсядуцца.

І на малых, і на большых станцыях цягнік падоўгу стаяў, нібы на кожнай з іх чакаў тых бесклапотных пасажыраў, што гатовы спазніцца і на ўласныя хаўтуры.

Такая аднастайнасць у самы раз магла б схіліць на сон, а ён, як на тое, не прыходзіў. Ды Хрысціна і не клікала яго. Нашто сябе змушаць, калі не спіцца, калі наперадзе зіма, за якую адлежыш бакі, які б ты сабе занятак ні прыдумаў. Дзіва што, цямнее а чацвёртай гадзіне пасля паўдня, світае пасля дзевяці раніцы.

Канечне, у былыя часы жанчыне і начы не хапала. І кудзелю з воўнай трэба папрасці, і за кроснамі адседзець, і навязаць, і нашыць. Усё за зіму. На астатнія дні года хапала і больш важнай працы: сеяць, палоць, жаць, малаціць — усяго не пералічыш...

Толькі калі тое было!.. Хрысціне і то ўжо не давялося ні прасці, ні ткаць. Засталося хіба ўспамінаць, як прала ды ткала маці. Можа, таму тыя зімовыя вечары пры зыркім святле лямпы і прыгадваюцца Хрысціне, як вялікая ўрачыстасць, як дарагое свята, а не абрыдлая да нянавісці катарга. Нездарма ж, бывала, закончыўшы прасці або ткаць, жанчына выцягвала з веніка бярозавы прут, секла маткі нітак або сувоі палатна, прыгаворваючы: «Гэта табе за тое, што рукі нылі, што спіна балела, што вочы не было калі звесці».

Не, не таму ўсё ж прыгадваецца тая праца, як урачыстасць, як свята. Не, не таму!.. Самая цяжкая і панылая, яна так не надакучае, як нуднае, адзінокае існаванне ў прыгнётлівай цішыні хаты доўгай зімовай ноччу. Божа ж мой, які гэта жах ляжаць у глухой маўклівасці, калі нават цвыркуну быў бы рады! Часам узнікае думка, што, можа, заклала вушы, і аж робіцца не па сабе — толькі глухаты і не хапала!..

Звычайна ў такія адчайныя хвіліны, калі недарэчная думка працінае да роспачы, да халоднага поту, Хрысціна працягвала руку, у цемрачы намацвала на сцяне цыбулю, напакаваную ў капронавыя панчохі — вельмі зручна вешаць такія мяшэчкі на цвік і надзейна, бо цыбуля не псуецца і не высыхае,— пачынала злёгку пагойдваць іх. Цыбуля нямоцна шалахцела. Хрысціна тады аж смяялася са сваіх страхаў.

Цяпер Хрысціну ахіналі самыя розныя гукі, як бы нагадваючы ёй, што яна не глухая, не адзінокая, што едзе не абы-куды, а ў госці да сваіх дзяцей. Як тут заснеш?! Так, хіба падрэмлеш, як той заяц, пакуль цягнік не падыдзе да чарговай станцыі, не клацне буферамі.

Павольнае целяпанне цягніка нават было на руку Хрысціне. Цягнік прыходзіў у Мінск недзе каля дзевяці раніцы. Самы раз прыходзіць у госці, бо дужа ранні госць, які будзіць гаспадароў, не надта жаданы: людзі толькі падняліся з ложкаў, не памыліся, не прычасаліся, а тут: дзень добры ў хату... Каму такое даспадобы?

З гэтай акалічнасці вынікала яшчэ адно немалаважнае рашэнне: найперш завітаць да Міхася. Па-першае, у Міхася заўсёды нехта будзе дома, а калі і не будзе, дык не цяжка перачакаць у суседзяў. Па-другое, смешна было б ехаць да Антаніны, у новы мікрараён, да чорта на кулічкі, калі Міхась жыў побач з вакзалам — бяры ногі ў рукі і тупай да самага дома. Па-трэцяе, Міхась быў самы старэйшы сын, а таму Хрысціна лічыла яго і больш сталым, разважлівым і гарнулася да яго. У Міхася было тое, чаго не бачыла ў сваім замустве Хрысціна: мужчынская сталасць і разважлівасць. Яе Яўхім, царства яму нябеснае, быў і скоры на справы і абыякавы да іх.

Хрысціна сабралася яшчэ за гадзіну да прыходу цягніка ў Мінск. А мінут за дваццаць ужо выйшла ў тамбур, быццам яе нехта павінен сустракаць. Можа, і дарэмна не адбіла тэлеграму, але дарогу да сынавага дома яна ведала добра.

Па падземным пераходзе Хрысціна выйшла на вуліцу Дружную і адразу апынулася на ўскраіне горада.

Залінейны раён гэты нагадваў вёску, якую з усіх бакоў абступіў горад. Вуліцы хоць і былі замошчаны, але асфальт прадраны да каменнага бруку, тратуары найчасцей зроблены з дошак або выкладзены бетоннымі плітамі. Уздоўж тратуараў стаялі пахілыя платы, за якімі існавала нейкае таямнічае для староннягa вока жыццё.

Па вышмарганых у мазуце і гразі плахах Хрысціна мінула пераезд, звярнула ў вузкую вулачку, падобную на серп. На прыканцы вулачкі, за частаколам з брыльком, ляжаў непрыкметны завулак, у канцы якога і стаяў дом, дзе жыў Міхась са сваёй вялікай сям'ёй.

Дом гэты нагадваў няўмела складзеную сціртy саломы — пад адным дахам ці не чатыры хаты, злепленыя ў адну. Да кожнай хаты яшчэ прыбудаваны сенцы, веранды,



Ільля Гурскі, Алесь Асіпенка, Сяргей Грахоўскі. 1968 г.



Алесь Петрашкевіч, Нічыпар Пашкевіч,
Алесь Асіпенка. 1970-я гады.

прыбудоўкі і проста ганкі, сяк-так зашклёныя, забітыя фанерай. У доме жыло сем сем'яў — сваякі, якія толькі лічыліся сваякамі, бо ладу між імі даўно не было.

Калісьці дом належаў Міхасёвай цешчы, якая аж тры разы выходзіла замуж, ад кожнага шлюбу мела дзяцей, ды яшчэ ўдаўцы падкідвалі сюды сваіх. Не дзіва, што дом быў падобны на Ноеў каўчэг, дзе ўсякай твары па пары.

На двары, як і заўжды, калі Хрысціна прыязджала да сына, сушылася бялізна. Каля дрывянікаў стаяў зусім яшчэ новы матацыкл з «люлькай» і інвалідная каляска. Ля яе завіхаліся дзеці. Можа, хацелі разабраць на часткі, а можа, спрабавалі завесці, каб паездзіць. На Хрысціну яны не звярнулі ніякай увагі.

Нырнуўшы пад развешаную бялізну, Хрысціна вынырнула па той бок кветніка перад дзвярыма ў прыбудоўку. Дзверы трымаліся на адной завесе, мабыць, даўно ўжо не запіралі прыбудоўку. Ды і не было яе дзеля чаго запіраць. У ёй сам чорт мог паламаць ногі; чаго там ні валялася: бляшанкі, старыя прадзіраўленыя каструлі, бутэлькі, жалязякі, паламаныя крэслы, скрыні і яшчэ ліха ведае што, укрытае пылам, аплеценае павучыннем.

«Во ўжо таўстапятая,— нядобра падумала Хрысціна пра нявестку Любу,— зусім зарасла хламам».

Некалі, з першага позірку, Хрысціна неўзлюбіла сынаву абранніцу, але змірылася з ёю, як і большасць свякрух, што жадаюць сынам дабра. Што праўда, Люба ніколі не вызначалася ахайнасцю, так што Хрысціна магла б і прывыкнуць да гэтага.

Хрысціна паставіла сумкі, пазваніла. Доўга ніхто не адказваў. Потым з-за дзвярэй пачуўся ломкі, як у маладога пеўніка, голас:

— Хто патрэбны?.. Нікога дома няма...

Хрысціна здагадалася, што пытае Юрка, унук, нечаканы для бацькоў, а яшчэ больш для яе, Хрысціны. Нявестка нарадзіла Юрку, калі яе старэйшая дачка ўжо скончыла восьмы клас. Міхась, мусіць, саромеўся прызнацца маці пра чацвёртае дзіця, нічога не напісаў, і Хрысціна трапіла ў становішча той няўдаліцы, што гаворыць неўпапад.

Прыехала ў госці, убачыла ў хаце ладнага хлапчука, які, смешна пераастаўляючы крываватыя ножкі, тэпаў па хаце.

— Божачка, а гэты адкуль?.. Чый?..

Яна спытала такім напалоханым голасам, што Міхась

з Любай разгубіліся і пачырванелі. Толькі тады Хрысціна здагадалася, што хлапчучок іхні. А яна была падумала, ці не прынесла яго ў падоле ўнучка... Чаго цяпер на свеце ні бывае. Таму ўзрадавалася, падхапіла ўнука на рукі, прыціснула да грудзей.

— А які ж ён крэпенькі ды ладненькі, нібы той баравічок пад пакровы...

Цяпер Юрку ішоў адзінаццаты, калі не дванаццаты год, і Хрысціна, якая даўно не бачыла яго, не магла ўявіць, які ён на выгляд.

— Юрачка, дзетка мой, гэта я, барсукоўская баба, прыехала,— назвалася яна ўсхваляваным голасам.

За дзвярамі нейкі час стаяла цішыня, нібы ўнук раздумваў, пускаць барсукоўскую бабу ў хату ці не пускаць. Затым дзверы адчыніліся. Хрысціна ўбачыла даўгалыгага з кужэльнымі валасамі хлопца ў пацёртых джынсах, сандалях на босую нагу і тэнісцы, упрыгожанай раз'юшаным ільвом.

— Заходзь,— запрасіў ён Хрысціну, быццам яна была не бабуля, а незнаёмая цётка, якая вельмі недарэчы звалілася яму на галаву.— Бацька на працы, маці на базары, а мне хутка ў школу...

Пасвяціўшы бабулю ў сямейныя справы, Юрка пайшоў у пакойчык з акном на агарод.

Хрысціну балюча кранула ўнукава абыякавасць.

«Чужая я яму,— падумала яна і тут жа апраўдала Юрку: — Сама вінаватая. Ён мяне, лічы, і не ведае. Баба, называецца: па высакосных гадах унука бачыць...»

Але падумаўшы так, Хрысціне ўсё роўна хацелася, каб унук сустрэў яе неяк інакш, па-сваяцку прыветліва, ласкава, як і належыць сыну твайго сына, адзін успамін аб якім саграе душу і сэрца.

Унукам такога не зразумець. Ды і дзецям таксама. Не могуць яны спасцігнуць матчынай, а тым больш бабульчынай любові да іх, пакуль самі не стануць бацькамі, дзядамі, бабулямі. Такая ўжо доля старых: кладзеш здароўе на дзяцей, потым на ўнукаў, а яны яшчэ і папікнуць цябе, што не любіў іх, не памагаў, а прыйдзе немач, вады не пададуць.

Хрысціна не наракала на лёс. Ён не абдзяліў яе жаночым шчасцем. Не тым жаночым шчасцем, што саграе цела, а тым, што саграе душу. На мужыка ёй не вельмі пашанцавала, хоць таксама грэх вінаваціць яго наўздагон. Быў час, калі ёй зайздросцілі: пасля вайны мужчына ца-

ніўся дорага і за самага дохленькага бабы трымаліся абе-руч. Не тое што цяпер, год-два папрымераецца да мужыка і, калі не дужа даспадобы,— каленкам пад зад. Няхай паспрабуе вякнуць — закон заўсёды на баку бабы. І ўсё ж, па цяперашнім розуме, ад мужыка Хрысціне было больш клопатаў і непрыемнасцей, чым радасцей і цяпла.

Хрысціну душу саграваліі дзеці. Таму і нельга наракаць на лёс. Канечне, вялікае шчасце для жанчыны, калі мужык заўсёды побач, калі на ягонае плячо можна абаперціся, за ягоную спіну схавацца. Толькі такое бывае рэдка і не вечна. Самае найлепшае для жанчыны пагрэцца каля дзяцей. Праўда, цяпер і дзеці найчасцей глядзяць, каб пажывіцца каля бацькоў, а самім не дужа пра іх дбаць...

Юркаў бяскрыўдны ўчынак толькі на імгненне выклікаў боль і рой думак, падобных на бліскавіцу ў цёмную жнівеньскую ноч. Хрысціна паставіла сумкі ў прыхожай, па адвечнай сялянскай звычцы найперш зазірнула на кухню — пакойчык з газавай плітой, са сталом, халадзільнікам і шафкамі, што віселі на сцяне і стаялі на падлозе. Так яно было заўсёды, не намі пачалося і не намі скончыцца, што гаспадыня пачынаецца з кухні. Пакажы кухню, і адразу відаць, што за гаспадыня ў доме...

Хрысціне адразу кінулася ў вочы гара пасуды на стале, нямытыя каструлі на пліце, пластмасавае вядро са смеццем, якое ўжо добра смярдзела. І зноў, як толькі што ў прыбудоўцы, у Хрысціны варухнулася глухая непрыязнасць да нявесткі і гаркаватая жаласць да сына. На гэты раз непрыязнасць аказалася ўчэпістай, хоць Хрысціна і спрабавала павінаваціць сябе: трэба было даць тэлеграму, каб не заставаць людзей знянацку.

Пастаяўшы на парозе кухні, Хрысціна заглянула да ўнука. Там панаваў яшчэ большы вэрхал. Непрыбраны ложак нагадваў вароняе гняздо. Пасярод падлогі ляжала куча гліны, і мутная лужынка вады расплылася з-пад яе па ўсім пакоі. Адзінае акно загароджвала нейкае драўлянае збудаванне, якое масцілася на падстаўцы. Каля яго стаяў Юрка, абмазваў драўляны каркас глінай — ляпіў нешта з той гліны, як, бывала, ляпіў розныя дзівосы з пластыліну.

У Юркі быў вельмі засяроджаны і не па-дзіцячы сур'ёзны твар. Хрысціна аж залюбавалася на яго — мужчына!.. І адразу забылася непрыязнасць да Любы. У хаце светла не ад чысціні, а ад добрых дзяцей.

— Вырас ты як,— сказала Хрысціна.— А худы... Адны косці ды скура... Чаму ў госці не прыязджаеш?.. Малака папіў бы... Сырадою...

Ад паўнаты пачуццяў, што распіралі ёй грудзі, яна гаварыла нешта неабавязковае і чула, што словы яе не даходзяць да ўнука. Юрка прадаўжаў мясіць гліну, абмазваць ёю каркас.

Яна не стала яму перашкаджаць — хай лепіць, чужую работу трэба паважаць.

Юрка працаваў маўкліва яшчэ з паўгадзіны. Потым у зале пранізліва зазваніў будзільнік. Юрка, як трымаў у руцэ камяк гліны, так і шмякнуў ім аб падлогу. Стаў выціраць рукі аб фуртух.

— Навошта ж ты так? — не стрымалася Хрысціна.

— Мне ў школу трэба,— сказаў Юрка.

— А ўрокі хоць вывучыў?

— Усе ўрокі не перавучыш, усё на свеце ведаць не будзеш,— разважліва адказаў Юрка і пайшоў мыць рукі.

Мыў ён рукі, а потым пераапранаўся ў школьную форму не спяшаючыся, з дарослай грунтоўнасцю, і гэта зноў спадабалася Хрысціне. Яна чамусьці ўявіла, што цяпер самы час спытаць пра старэйшых унучак і ўнука.

— А як жа жывуць Нэлка з Людкай, Віцька?

Юрка, не глянуўшы нават у яе бок, сказаў з дакорам:

— Дужа ты хочаш многа знаць, глядзі, каб не састарылася...

— Глянь ты на яго,— троху пакрыўдзілася, а больш пасмяялася з яго Хрысціна.— Хачу знаць, бо вы мае ўнукі.

— Мяне другое непакоіць,— пераапрануўшыся ў школьную форму, сказаў Юрка.— Што з табою рабіць?.. Можа, дзе пагуляла б, пакуль хто прыйдзе.

— Дзе ж я пагуляю? — сумелася Хрысціна.— Ты што, не пазнаў мяне?..

— Чаму, пазнаў, але лепей было б, каб ты пазней прыйшла... Ну, ды ладна, заставайся...

Ён дастаў з шафы партфель, пайшоў да дзвярэй.

— Юрачка, дзетка, а ці еў ты што?..

Хрысціна спахапілася па даўняй звычцы. Бывала, як яе дзеці хадзілі ў школу, а яна, вечна занятая, сустракала іх добра калі на двары, а часцей па дарозе да школы, дык яна тады вось так і пыталася ў іх, ці елі яны што?

— У школе паем,— адказаў Юрка.— Мне тата грошы даў...

Хрысціну так і паласнуў па сэрцы страх. Юркавы сло-

вы загучалі як знак бяды, пра якую ўнук не хоча гаварыць, якой баіцца ці саромеецца. Яе так і падбухторвала кінуцца-рынуцца на роспыты, але розумам дапяла — нельга.

— Сядай за стол,— рашуча сказала яна Юрку.— Я таго-сяго прывезла. Пакаштуеш...

Яна дастала з сумкі сыр, масла, смятану. Зайшла на кухню, спынілася ў нерашучасці, не ведаючы, дзе можна прыткнуцца.

— Кладзі сюды,— Юрка перагрузіў частку пасуды са стала на пліту. Хрысціна спаласнула талерку, паклала на яе сыр, заправіла смятанай.

— Мама, мусіць, дужа спяшалася, што не паспела прыбраць са стала? — спыталася яна.

— У нас усе спяшаюцца, як на вакзале,— адказаў Юрка яўна не сваімі словамі.— Ды ты не перажывай...

— Еш...

— Банкет,— весела сказаў Юрка.— Сваё?..

— Сваё...

— Яснае дзела, у магазіне такога не купіш... Там, пакуль да прылаўка дойдзе, смятану сто разоў разбавяць...

— Прыязджай да мяне на зімовыя канікулы,— запрасіла Хрысціна,— кожны дзень будзе банкет... Яшчэ і каўбасамі пачастую. Ты, мусіць, ніколі не каштаваў мачанку з блінамі?

Юрка пахітаў галавой.

— Куды мне!.. Нельга!.. Без мяне яны зусім прападуць... Я ў іх голуб міру...

Хрысціну ўразіла і напалохала не тое, што Юркава лішне дарослая разважлівасць была па-дзіцячы наіўная і нязграбная, нават у нечым пачварная; Хрысціне раптам здалося, што ведае, якая бяда прыйшла ў гэтую хату.

Жанчыны звычайна апускаюць рукі, калі мужык пачынае цягнуць не ў хату, а з яе, співаецца, тыраніць жонку п'янымі выхадкамі або яшчэ горай — заводзіць маладую прысуху і зусім забывае на родную сям'ю. Хрысціне не хацелася верыць у сваю здагадку, але тая моцна ўчапілася ў яе, як клешч у цела. Нават сэрца зайшлося тупым болем.

«Божа, як жа я раней не здагадалася? — падумала яна ў роспачы.— Усё гаспадарка, праца, клопаты... А яшчэ кажуць, што матчына сэрца бяду за год чуе... Дык жа і чула яно, чула!.. Хіба ж не бачыла, як апошнім часам Міхась спяшаўся ў горад? Як той алкаголік у краму. Ляціць, нібы яго чэрці падганяюць, а як ухопіць бутэльку, дык, не адыходзячы ад прылаўка, і выжлукціць. І Міхась...

Бывала, прашу: пераначуй, сынок. Дык ён абы зьікнуць з матчыных вачэй. Прыскочыць як па пажар, ды і назад...»

Хрысціна пачула, як гарачая хваля пракацілася па целе, ударыла ў галаву пякучым агнём. «А па радыё ўсё гавораць пра п'янства, крычаць супраць яго... Змагаюцца, ды так, каб не надарвацца. А яно і не меншае. Не, не меншае. Грошы ў людзей водзяцца. Гарэлкі ў кожным магазіне хапае. Людзі збалаваліся. Пра яду не думаюць. Чаго пра яе думаць. Во і п'юць...»

— Унучак, Юрачка,— аж дрыготкім голасам звярнулася яна да ўнука,— а татка здаровы?.. Ці заўсёды дома бывае?.. Можа, калі і не прыходзіць?

— Татка здаровы,— буркнуў Юрка, незадаволены, што перашкаджаюць яму есці.— Мы з ім кожную ноч спім...

У Хрысціны адлегла на сэрцы. Дзякуй богу, памылілася. І як яна магла такое дурное падумаць пра сына?.. З радасці яна пагладзіла Юрку па галаве.

— Ну во, яшчэ,— сцепануў той вострым плечуком,— гладзіш, як нейкага ката ці зусім малога...

— Дык ты і ёсць малы,— усміхнулася Хрысціна, падумаўшы: «Бач ты яго! Лічыць сябе дарослым, а дзіця, горкае дзіця».

Юрка даеў тварог, вылез з-за стала.

— Напакаваўся,— пагладзіў сябе па жываце.

«Але ж нешта ўсё ж такі здарылася,— прадаўжала разважаць Хрысціна.— Няйначай, Любка пасварылася з Міхасём. Таму і спяць асобна».

Думка гэтая была не балючая, хоць і непрыемная. Чаго ім сварыцца? Ссівелі, дзяцей чацвёра, а ўсё нешта не падзеляць.

У першыя гады пасля жаніцьбы між Міхасём і Любай часта ўзгараліся спрэчкі, і водгулле іх дакочвалася да Барсукоў. Люба, пры яе спакойнай марудлівасці, аказалася раўнівай да шаленства. Таму і ражала адно дзіця за другім, каб прывязаць імі да сябе Міхася. З часам рэўнасць прыціхла. Няўжо зноў наявілася? Такое бывае. Баба пад старасць раптам пачынае раўнаваць мужыка без аніякіх падстаў.

— Даўно татка з табой спіць? — паспрабавала хоць нешта высветліць Хрысціна.

— Даўно...

Унукаў адказ нічога не прасвятліў. Наадварот, заблытаў. Што азначае даўно? Тыдзень? Месяц?.. Ці, можа, год?.. Тады чаму так доўга не мірацца? Люба з Міхасём

раней мірыліся... Ну, то раней, калі па начах былі патрэбны адно аднаму. Цяпер ложак не мірыць...

— Юрачка, можа, татка мамку пакрыўдзіў? — спытала яна і ўбачыла, як перасмыкнуўся Юркаў твар.

— Не, татка нікога не крыўдзіць,— сказаў ён, нібы адмахнуўся ад назойлівай мухі, і пайшоў за дзверы, пакінуўшы Хрысціну ў разгубленасці і збянтэжанасці.

«І навошта я дацінала яго пытаннямі? — упікнула сябе Хрысціна.— Усё роўна нічога не высветліла, ды, можа, і няма чаго высвятляць. Здалося...»

Цяпер, калі яна засталася ў хаце адна, можна было агледзецца не баючыся.

Яна не стала распакоўваць сумкі, адклаўшы гэты занятак напасля; засунула толькі іх за шафку, каб не стаялі пад нагамі. Яшчэ раз, і ўжо непаспешліва, агледзела кухню.

Не, яна не памылілася. Гора крычала пра сябе з кожнага кутка. Тут вялікай назіральнасці і не трэба. У вочы нахабна лезла галеча, якую цяперашнім часам рэдка дзе і сустрэнеш. Фіранкі нагадвалі анучы, якія невядома чаму навесілі сушыцца на акно. Ад уціральніка засталіся рызманы. Кухонная мэбля састарылася, абдзёрлася, паламалася, што на яе нельга было глядзець. Ды ці толькі гэта сведчыла пра галечу і запусценне. Хрысціна зазірнула ў патэльні і каструлі. Закарэлая пярловая каша, нейкі тлушч з кавалкамі чэрствага ў ім хлеба, кружкі цыбулі, разлезлая кілька, пагрызеныя чырвоныя буракі, гнілыя памідоры — усё гэта не сведчыла пра заможнасць, і Хрысціну зноў ахапіла адчуванне бяды.

Думай што хочаш, але што прыдумаеш, ды і ці прыдумаеш? Хрысціна зняла плашч, кофту, закасала рукавы сукенкі дый узялася прыбіраць кухню. Не сядзець жа без работы. Калі нешта робіш, дык хоць у галаву не лезуць благія думкі.

Гадзіны праз дзве яна хоць троху давяла кватэру да ладу: збольшага выграбла бруд, памыла пасуду, падлогу, акно, а фіранкі зняла і замачыла ў тазе. Хацела вынесці з Юркавага пакоя гліну, але ў час пасцераглася.

А Любы ўсё не было. Ну, што можна рабіць на тым базары? Абед не згатаваны, у хаце хоць шаром пакаці, а яна чорт ведае дзе швэндаецца. Чаго?.. Хіба працуе там... І праўда, працуе... Дзеці павырасталі, адной Міхасёвай зарплатай не абыдзешся...

Хрысціна павесялела: нарэшце знайшла тлумачэнне

таму, што пабачыла. Міхась працуе на таксі і прыходзіць з работы толькі пасля пяці. Люба таксама не раней чатырох прыйдзе, бо базар раней не закрываюць. Старэйшыя дзеці хто на працы, хто вучыцца. Адзін Юрка аказаўся дома. Якая яна неабачлівая: паехала і не папярэдзіла. Сядзела б цяпер пад дзвярыма...

Хрысціна стала распакоўваць сумкі. Ад гэтага занятку яе адарвалі крыклівыя жаночыя галасы з двара. Неўзабаве, грукнуўшы аб сцяну, расчыніліся дзверы. Хрысціна ўбачыла на парозе нейкую азызлую бабу ў фуфайцы, з рыдыкюлем у руцэ, спалохалася: што за навала? Але тут жа з-за спіны азызлай бабы выглянула Люба ў збітай на патыліцу хустцы. Расхрыстаная, п'яная. Люба падштурхоўвала бабу, прыгаворваючы: «Праходзь, ты — госць, праходзь, ты — госць».

Хрысціна як сашчапіла пальцы, як склала на жываце рукі, так і скамянела ў роспачы.

Во чаго не чакала дык не чакала!..

Азызлая баба нарэшце пераступіла парог. За ёю ў прыхожую ўсунулася і Люба. Зачапіўшыся за нешта, хоць, здаецца, і чапляцца не было за што, Люба ледзьве ўтрымалася на нагах, мацюкнулася з вясёлай зухаватасцю, і ўжо абедзве п'яна зарагаталі.

Мабыць, на п'яныя вочы ды з дзённага святла ў цемнаватым калідоры яны не адразу ўбачылі Хрысціну, а ўбачыўшы, разгубіліся, праўда, ненадоўга.

— Мамачка!.. Свякроўка!.. Прыехала!..— На Любіным усё яшчэ прыгожым твары засвяцілася і патухла вінаватая ўсмешка.— А мы во з кумой...

Яна падштурхнула тую куму, а можа, і не куму зусім, і тая, шморгнуўшы вялікім наздраватым носам, працягнула Хрысціне руку з шырокай мужчынскай даланёй.

— Юлька,— назвалася яна, быццам якое дурное недарослае дзеўчанё.

Яна выхапіла з рыдыкюля бутэльку віна і, падскокваючы ў нейкім пачварным танцы, пайшла на кухню, прыпяваючы: «Я гуляла, весялілась, пакуль з печы не звалілась...» Грукнуўшы бутэлькай аб стол, яна дастала з рыдыкюля другую, потым кавалак ліvернай каўбасы, два салёныя агуркі, селядзец, памідоры. Юлька распараджалася на чужой кухні, як у сябе дома, і гэта асабліва абурала Хрысціну. Яна з першага позірку неўзлюбіла азызлую куму, чым далей, тым гэтая нелюбоў мацнела.

А Любе, па ўсім, падабалася, як распараджаецца на

яе кухні Юлька. Сама яна тыцкалася без аніякага сэнсу то ў шафку, то ў халадзільнік, то ў шуфлядку стала, не перастаючы з п'янай развязнасцю хваліцца перад кумой:

— У мяне ж, Юлька, заўсёды парадак. Люблю, кумачка, чысціню... Да святла падымуся, прыбяру, аж зіхаціць усё... Думаеш, хто ацэніць, заўважа? Дзе там...

Хрысціне брыдка было слухаць нявестку: што вярзе толькі!.. Але ўсчынаць гаворку з п'янай бабай не хацелася: з п'яным гаварыць, што шалёнага сабаку дражніць. І ўсё ж не сцярпела, проста не магла сцярпець.

— Пра дзіця падумала б... Пра Юрку... Ці снедаў сёння...— сказала яна.

— Юрка?.. Ці снедаў?.. Ды я сама недаем, а яго накармлю,— залямантавала Люба.— Чуеш, кумачка, што свякроўка кажа?.. Во, кумачка, як мне за ўсё маё дабро адплочваюць. Ты чаго прыехала, чаго? — Ваяўніча пайшла яна ў атаку на Хрысціну, аж тая разгубілася.— Гэта ён цябе выклікаў?.. Ён, ведаю!.. Ён даўно хоча, каб не мяшала яму. Каб якую сцерву сюды прывесці. Не, ты чула, кумачка, гэта я сына не накармлю... Госпадзі!..

Яна заплакала з такой непадробнай крыўдай, што Хрысціна сумелася: каб яна сама не прыбрала хату, то падумала б, што Любка сапраўды не спала ноч, наводзіла парадак.

— Любка, ну, Любка, перастань,— накінулася на яе кума, падміргваючы Хрысціне, каб маўчала.— Вып'ем во па каліву ды пагаворым як людзі. Запрашай, Любка, свякруху... Я сама — свякруха... Не паспею на парог, як нявесткі хапаюць пад рукі ды за стол. Наставяць прысмакаў розных, паўлітра — пі, еш, мама. Мне тое паўлітра не трэба, але ж прыемна...

Юлька адкаркавала бутэлькі, стала наліваць віно.

— Мне не трэба,— адвяла яе руку Хрысціна.— Я не п'ю...

— Любка, глянь, твая свякроў намі грэбуе,— завялася цяпер Юлька, быццам Хрысціна бог ведае як яе абразіла.— Я хіба якой дрэні наліваю? Віна!.. А яно ад бога. Яго ў Кане Галілейскай Хрыстос піў і на святое прычасціе ў царкве давалі... Ці, можа, вы ніколі не прычашчаліся?.. Можа, няверуючая?.. Тады звіняйце...

Хрысціне хацелася схапіць качаргу, палічыць бутэлькі на стале, а заадно і галовы кумы і Любкі.

«Ці даўно такое? — думала яна.— Чаму Міхась маўчаў? Не хацеў турбаваць? А можа, сам прыкладаецца да

чаркі? Найчасцей так і бывае: пачынае піць мужык, а за ім і жонка. Толькі жанкі співаюцца хутчэй».

Тым часам Юлька стала наліваць Любе. Тая рашуча закрыла далонню шклянку.

— Мне нельга,— запярэчыла яна.

— Са свякрухай трэба,— упарта заявіла кума.— Пакрыўдзіцца можа.

— Калі не хоча, то і не трэба гвалтам прымушаць,— заступілася за нявестку Хрысціна, здагадваючыся, што Люба з Юлькай «ламаюць камедыю».

— Ды хіба з мамачкай дарагой,— раптам здалася Люба.— Але ж урачы... Кажуць, каб не піла...

— Плюнь на ўрачоў,— сказала кума.— Самі жлукцяць, а нам забараняюць... Я іх ведаю... Сама ў бальніцы рабіла.

— Мамачка, за ваша здароўе... Як я рада, што ты прыехала,— і Люба, зусім забыўшыся, што толькі што абражала свякруху, абняла Хрысціну, пацалавала і нейкім адным, вельмі прызвычаеным рухам перакуліла шклянку, нібы выліла віно ў бяздонную прорву.

Яны не сталі закусваць. Юлька зноў наліла. Цяпер яны не прыкідваліся, што не могуць піць, што п'юць толькі таму, каб прывеціць Хрысціну. Люба дастала з сумкі яшчэ чатыры бутэлькі. У Хрысціны аж пацямнела ў вачах.

— Любачка, можа, хопіць,— паспрабавала нясмела запярэчыць яна.

— Сваё п'ём, не чужое,— змрочна адказала Юлька.

Хрысціна з жахам заўважыла, што Юлька чым больш п'е, тым больш робіцца пахмурнай, аж страшнай. Яе маленькія чорныя вочкі, здавалася, гараць пякельным сінявым агнём на застылым, каменным твары. Хрысціне падумалася, што такія твары напэўна бываюць у забойцаў. Яна аж здрыганулася ад гэтай думкі.

У Любы настрой мяняўся штохвілінна. Яна або вязалася да Хрысціны, каб тая выпіла сваю шклянку, або хвалілася, якая яна ўвішная гаспадыня і яе ўсе навакол паважаюць, кляла за нешта Міхася і дачок, а потым, спахапіўшыся, хваліла іх, раптам пачынала сварыцца з Юлькай і тут жа мірылася з ёю.

Хрысціна ніяк не магла дачакацца, калі кончыцца гасцяванне. Яно, мусіць, і не кончылася б, каб раптам не паявілася Любіна малодшая дачка, Нэла.

Той раз, калі Хрысціна гасцявала ў Міхася, Нэла выглядала цыбатым падлеткам. Цяпер у дзвярах кухні стая-

ла ладная дзяўчына, нечым падобная на Яўхімаву маці — такая ж смуглявая, цыганістая, з вузенькай, як у асы, таліяй і цяжкаватым азадкам. Яна стаяла, па-бабску ўпершыся рукамі ў клубы, абцягнутыя вузкімі штонікамі.

— Зноў сабрала сваю хеўру? — зацята спытала Нэла, гледзячы на застоліцу невідушчымі ад злосці вачамі.— Зараз жа выматвайцеся, каб і духу вашага не было.

Ні Люба, ні Юлька ніяк не выказалі страху. А Хрысціна сумелася і разгубілася. Божа ж мой, унучка палічыла яе за п'яніцу, алкагалічку. Дажылася, старая!.. А можа, не пазнала?.. Мусіць, не пазнала...

Яна ўжо хацела назвацца, хто яна і адкуль, як раптам усхадзілася Люба.

— Нэлка, цыц!.. Я каму кажу, шчанючка паганая,— закрычала яна на дачку.— Ты спярша глянь, хто да нас прыехаў. Глянь!.. Баба барсукоўская.

— А мне напляваць на тваіх баб, барсукоўскія яны ці базарныя,— таксама закрычала Нэла, і твар яе перакрывіўся, стаў страшны і непрыгожы.— Я табе не Людка... Мяне з дому не выжывеш...

— Гляньце на яе, гляньце,— залямантавала Люба.— Гэта я вінаватая, а? А што тая скурвілася, дык ёй і дзела няма. Можа, і сама туды глядзіш?..

За доўгае сваё жыццё Хрысціна ці мала нагледзелася на сямейныя перабрэхі, але такога не чула, каб маці пры староннім чалавеку гэтак непрыстойна бэсціла дачку.

— Любачка,— пляснула яна ў далоні, быццам хацела і словам, і жэстам гэтым прымусіць нявестку падумаць пра тое, што кажа,— аксціся, што ты плявузгаеш? На каго?..

Ды Люба, мабыць, не толькі за сённяшняе, а і за даўняе хацела палічыцца з дачкой.

— А што, хай шчанючка гэтая не распускае языка. На матчыных харчах адгадавала азадак, ды яшчэ маці ёй не падабаецца. Дачакаецца, што здзяру штонікі ды так адлупцую, што ні сядзе, ні ляжа...

Яна паспрабавала прыўзняцца, каб папалохаць Нэлу, а можа, і праўда кінулася б на дачку з кулакамі. Нэла штурханула яе ў грудзі, закрычала пранізлівым голасам:

— Крані, паспрабуй крані... Я цябе вось гэтай бутэлькай,— яна ў адно імгненне схапіла са стала бутэльку ад віна, замахнулася ёю.

Хрысціна паспела перахапіць Нэліну руку, вырвала

бутэльку, выпхнула ўнучку з кухні. Можа, на гэтым сварка і закончылася б, каб не кума.

— Ты на каго руку падымаеш? — залямантавала яна.— На маці?.. Бессаромніца!.. Божачка, злітуйся і памілуй!.. Які свет!.. На маці, радзіцельніцу, з бутэлькай!.. Ды цябе, гадзіну, задушыць мала...

Гэты злосны, пранізлівы, дзікі лямант вывеў Хрысціну з раўнавагі. Наперакор сваёй памяркоўнасці яна, не памятаючы сябе, кінулася да кумы, схапіла яе за плечы — адкуль толькі ўзялася сіла,— выштурхнула за дзверы. Разгубленая кума не вельмі нават і супраціўлялася.

У хаце раптам запанавала мёртвая цішыня. Абапершыся аб вушак, стаяла Люба, пазірала на Хрысціну перапалоханымі вачамі, няйначай, баялася, што свякруха выкіне і яе.

Здзіўлена, з адабрэннем пазірала на Хрысціну і Нэла.

Гэтая маленечкая перамога прыдала Хрысціне ўпэўненасці ў сваіх сілах і праваце, веры ў тое, што яна здолее памагчы сыну ў ягонай бядзе. Хрысціна адчула сябе гаспадыняй, якая пасля доўгай адлучкі вярнулася дамоў, пабачыла непарадкі і цяпер павінна скіраваць дом у звычную каляіну.

Ні слова не кажучы, усё ў той жа маўклівасці, яна павылівала віно, што засталося ў бутэльках, з той жа рашучасцю прыбрала стол.

— Ганьба!.. Сорам!..— сказала яна нявестцы.— Ідзі выспіся... Глядзець на цябе моташна, да чаго дапілася кабета.

У яе голасе было столькі моцы, што Любка, як тое малое дзіцянё, падалася ў спальню.

— Даўно гэта ў вас? — спытала Хрысціна Нэлу.

— Даўно,— як рэха адгукнулася тая.

— А з Людай што?..

— Яна ў свайго хлопца жыве,— адказала Нэла з той простай шчырасцю, што аж скаланула Хрысціну.

— А куды бацька глядзіць?.. Ці, можа, таксама...

— Яму нельга... Ён шафярыць...

Хрысціна зразумела, што Міхась і праўда гэтым не грэшны.

## 5

У начной сцішанасці чулася звонкае ціканне будзільніка ў зале, ды з панадворка запаўзалі ў кухню, аслабленыя адлегласцю, гукі вялізнай чыгуначнай станцыі: мета-

лічны скрыгатлівы лязгат вагонных буфераў, невыразнае мармытанне нейкіх галасоў, як у сапсаваным рэпрадуктары, перастук колаў, перарывісты сірэнны сігнал на пераездзе.

Праз акно паглядала ў кухню зарава, няйначай з аэрадрома, дзе праз усю ноч гарэлі пражэктары і ліхтары. Яно займала крыху не паўнеба, кідаючы на залінейны раён скупую, прывідную віднату. Святло ад зарава дасягала хіба дахаў? Тыя, як і вершаліны дрэў, выглядалі чорнымі ценямі на чырванаватым палатне неба. Ніжэй было цёмна і чорна, хоць і не так, як у вёсцы ў пахмурныя вечары.

Было позна. Хрысціна з сынам сядзелі на кухні. Водсветы зарава, што пранікалі праз незавешанае акно, не разганялі цемры, а толькі прарэджвалі яе. Кухню ахутвала мяккае сутонне, у якім часам пабліскваў агеньчык Міхасёвай цыгарэты.

Ціхамірна спалі па сваіх пакоях Нэла і Юрка. Заціхла, як бы прытаілася ў сваёй каморцы Люба. Яна заснула адразу, як толькі Хрысціна выправіла яе з кухні. Павалілася ў чым была апранутая на ложак, заскрыгатала зубамі, застагнала, як цяжкахворы чалавек, якога адолеў боль.

Хрысціна колькі разоў кідалася ў спальню, калі нявестка, здавалася, канае, жыве, можа, апошнія хвіліны,— так страшна яна стагнала. Хрысціна пераварочвала Любу са спіны на бок, баючыся, што тая захлынецца. Тады наступала нядоўгае заціша. А потым Люба зноў паварочвалася на спіну, і ўсё пачыналася спачатку.

— Не бойся ты, ліха яе не возьме! А калі возьме, дык туды ёй і дарога,— не сцярпеўшы, сказала Нэла, і Хрысціну аж скаланула яе жорсткасць.

— Нэлачка, хіба ж так можна?.. Яна ж твая маці...

— Пажыла б ты з ёю,— перакананая ў сваёй праваце, сказала Нэла.— Далі б мне інтэрнат, ніводнага дня не засталася б тут...

Нэла гаварыла з такой зацятай рашучасцю, што Хрысціна пашкадавала яе. «Во да чаго можа давесці жанчына хату, калі родная дачка гатова кінуцца ў свет, абы не бачыць гэтае гора».

Хрысціну ўсё мацней і мацней ахоплівала трывога, і яна з хваравітай нецярплівасцю чакала сына, каб распытаць і пра Любку, і пра Віцьку з Юркам, і пра Людку з Нэлкай, і пра яго самога. Найперш, можа, пра яго самога. Як ён мог дапусціць такое, каб на ягоных вачах рушыла-

ся сям'я, каб разбягаліся па свеце дзеці? Хіба ж няма сродкаў, каб апыніць жонку? Хіба не лечаць цяпер ад гэтай страшнай хваробы? Дык што ён сабе думае?

Пытанні былі балючыя. І неяк так сталася, што Хрысціна вінавацілa найперш сына. А каго ж яшчэ, як не гаспадара?

Міхась прыйшоў позна.

— Даўно прыехала? — спытаўся ён і папракнуў маці: — Тэлеграму не магла даць?..

Ён стаяў у парозе, як чужы. На ім — замасленая ватоўка, як у калгаснага трактарыста, на галаве шапка, з-пад якой выбівалася пасма валасоў. Чорныя картовыя штаны былі запраўлены ў кірзавыя боты.

Хрысціна бачыла, што Міхась моцна зморaны, а яе прыезд прыгнятае яго, і, няйначай, таму, што яна стала сведкай ягонага жыцця, якога ён саромеецца.

— Дык я зусім нечакана сабралася, не да тэлеграмы было,— стала апраўдвацца яна, як вінаватая, і Міхасю, мабыць, стала няёмка.

— Каб жа я знаў, дык на другую змену не застаўся б...

— Божачка, дык і ці еў ты што,— падхапілася Хрысціна.— Распранайся, я цябе пакармлю...

Ён скінуў ватоўку, зняў боты, стаў мыцца пад кранам. Хрысціна стаяла над ім, і яе агортваў жаль. Міхась выглядаў старым зношаным чалавекам: згорбіўся, звузіўся ў плячах, змізарнеў, а яшчэ ж нядаўна выглядаў спраўным.

— Люба дома? — спытаўся ён, намыліўшы твар, як бы хаваючы яго пад мыльнай пенай ад маці.

— Спіць... І Нэла з Юркам спяць.

Ён памыўся, доўга выціраўся ручніком. Маўчаў. І яна баялася парушыць гэтую маўклівасць. Міхась і вячэраў у поўнай маўклівасці. Абаім яна была нясцерпнай мукай. Можа, яны так і разышліся б, каб раптам не перагарэла электрычная лямпачка. Міхась пашукаў цэлую — не знайшоў. Закурыўшы цыгарэту, прысеў на табурэтку. Зацягнуўшыся дымам, спытаў:

— Ну, ты цяпер, бачу, усё ведаеш?..

— Даўно яна так?..

— Ужо ж...

— Таму ты заўсёды і спяшаўся дамоў?..

— Запоі ў яе... Тыдзень-два п'е, потым каецца...

— Даравацъ сабе не магу, як жа я раней пра тваю бяду не здагадалася...

— У цябе сваіх клопатаў хапае.

— Што мае клопаты? — не пагадзілася яна.— У цябе гора...

— Гэта ты з непрывычкі...

Хрысціна абурылася:

— Ды хіба да такога прывыкнеш?.. І што ты толькі гаворыш? Нэлка вунь пагражае ў інтэрнат перабрацца, Людка дома не жыве. Сыночак, сям'я ж рушыцца, а ты кажаш — з непрывычкі...

— Не з-за Любы ж усё,— сказаў Міхась.

— А з-за каго?

— Усё, мама, не так проста... І ўжо нічога не паправіш,— асуджана сказаў ён.— А з дзецьмі ўсё ладна...

— Што ладна, сыночак? — спыталася яна, ледзь стрымаўшыся, каб не закрычаць ад ягонай спакойнасці.— Што? Людка з дому сышла... Як ты можаш спакойна гаварыць, калі дачка невядома ў каго і чаму там жыве?..

— Чаму невядома?.. Я ў іх бываю... Харошы чалавек...

— Дык што, яны запісаліся? — не магла зразумець Хрысціна.

— Яму яшчэ трэба развод афарміць...

— Дык ён яшчэ і разводзень? — жахнулася Хрысціна.

— Кінула яго жонка...

— Божачка, што ты толькі кажаш?.. Добрых жонкі не кідаюць...

— Кідаюць,— як рэха адгукнуўся Міхась.

Хрысціна пачула, што Міхась не хоча расказваць пра Люду. Можа, саромеецца, а можа, і не ведае нічога. Яна не стала болей распытваць. Вырашыла, што абавязкова пабывае ў Люды, паглядзіць і на таго разводня, і на яе самую.

— Ну, а Віцька?..

— Што Віцька? Віцька на бульбе, як усе. За яго я спакойны,— з незразумелай упэўненасцю адказаў Міхась.

І зноў Хрысціна пачула, што Міхась не хоча гаварыць пра дзяцей. Яна яшчэ паспрабавала распытаць пра Нэлу, але, сустрэўшы ягонае ўпартае нежаданне, зноў завяла гаворку пра тое, што асабліва балела.

— Сыночак, ты Стахвана Барсука ведаеш, не забыўся?..

— Чаму не ведаю,— адказаў Міхась.

— Сонька ягоная ўзяла прымака з леспрамгаса. Дык, бывала, і грэх і смех, з хаты яшчэ на сваіх нагах выходзіць, а ў хату за ўвесь год, дай божа, каб тры разы прый-

шоў. Усё прывозілі ды прыносілі. І тыя тры дні, казалі, што сваімі нагамі дайшоў, на печцы вуглём адзначыў. І ўсім, хто прыходзіў, паказваў. Во, кажа, глядзіце, тры чыслы, у якія я сам дахаты дабраўся. Гістарычная падзея, а не тое што там нейкі пераварот у Афрыцы. А гады тры назад Сонька яго недзе ў Прыбалтыцы на лячэнне прыстроіла. З год не піў. Выходзіць, лечаць...

— Гавораць больш,— неахвотна адказаў Міхась.

— Але ж з год не піў,— падказала Хрысціна.— Дык жа і тое ратунак...

— Будзем, мама, класціся спаць,— сказаў Міхась.— Мне заўтра к сямі раніцы...

— І зноў дапазна?..

— А што паробіш?..

Ён пайшоў у спальню. Хрысціна лягла ў зале на канапу. Не магла заснуць. Чула, як бубняць у спальні Міхась з Любай. Пра што гавораць? Хрысціна, як ні прыслухоўвалася, ні слова не магла пачуць.

«Дрэнь дзела,— падумала яна.— Заўтра сама з Любай пагаманю. Не можа быць, каб не паслухалася. Няўжо ж у яе нічога мацярынскага не засталося? Паслухаецца... Не можа быць, каб тут не было такой бальніцы, дзе лечаць ад гэтай заразы. У ногі кінуся, абы Любку вылечылі».

Яна заснула толькі пад раніцу. Мусіць, моцна, бо не чула, як збіраўся на працу Міхась, як пабегла ў сваё вучылішча Нэла. Прачнулася яна ад нейкай пругкай, насцярожанай цішыні.

У калідоры гарэла святло. Нехта не выключыў лямпачку. Хрысціна выглянула з залы, прыслухалася. Нідзе нікога, нідзе ні гуку. Яна заглянула на кухню. Нікога. Ну і гаспадыня!.. Спіць... Хрысціна пайшла ў спальню. Любы там не было. Ложак стаяў незасланы. Коўдра скручана. Падушкі валяліся абы-як, нібы імі біліся.

Будзільнік на сталку паказваў без дваццаці восем. Няйначай, Люба пайшла ў магазін. Гандляваць у горадзе пачынаюць рана, не тое што ў вёсцы — пасля позняга снядання.

Здагадка гэтая нейкім чынам вытлумачвала ранню́ю адсутнасць нявесткі.

Сапраўды, у хлебным кантэйнеры заставалася, можа, грамаў трыста хлеба.

Яна зноў пайшла на кухню. Памылася. Прычасалася перад люстэркам. З пакойчыка, ужо апрануты, выйшаў Юрка. Пацягваючыся і пазяхаючы, сказаў:

— А я ляжу і думаю, хто гэта па хаце тупае?..

— Спаць табе не дала? — спытала Хрысціна.

— Не, выспаўся...

— Мыйся ды снедай,— загадала Хрысціна.— Мамка, мусіць, па хлеб пайшла?..

Юрка хмыкнуў:

— Чакай яе хлеба... Яна пакуль не пахмеліцца, хоць на вяроўку прывязвай. А пахмеліцца — і з ланцуга збяжыць...

— Дзе ж яна пахмеліцца? Хіба ў вас гарэлку з самай раніцы прадаюць?..

— Яна з-пад зямлі дастане,— з нейкай зухаватай упэўненасцю сказаў Юрка.— У яе ўсюды знаёмыя. Яна ўмее з людзьмі жыць. А іначай і нельга. На прылаўках вунь каўбасы няма, а ў нашай суседкі, цёткі Зіны, сабак каўбасой кормяць...

Юрка гаварыў з той недзіцячай разважлівасцю, якая магла толькі спалохаць, а не ўзрадаваць. А Міхась яшчэ кажа, што з дзецьмі ўсё ладна. Хай яно на сухі лес, гэтае «ладна».

— Юрачка, дзетка, а ў які магазін магла пайсці мама?.. Дзе цяпер гарэлку прадаюць?..

— Дужа ёй гарэлка патрэбна,— усміхнуўся Юрка.— І чарнілам абыдзецца...

— А ім дзе гандлююць?..

— У прадавольственным магазіне,— адказаў Юрка.— Хоць не, ён адкрываецца з дзевяці. Яна, бадай, у забягалаўцы па Томскай вуліцы... «Апошні грош» называецца. Туды з усяго горада едуць.

Хрысціна таропка апранулася.

— Я хуценька,— паабяцала яна.

— Дарэмна ты,— абыякава сказаў Юрка.

На дварэ ўжо трохі развіднела, але нізкія бурыя хмары, што беглі ў бок аэрадрома, нібы баяліся спазніцца на самалётны рэйс, надавалі світанню шэры, няветлівы выгляд. Хрысціне падумалася, што ў вёсцы нават самыя дажджлівыя світанні не бываюць такімі цяжкімі і прыгнётлівымі, як тут, у горадзе. Здавалася, на плечы ўссеў мядзведзь, гне цябе долу, каб паваліць.

Дзе тая забягалаўка, Хрысціна не ведала, хоць і памятала, што Томская вуліца некалі страчалася ёй не вельмі далёка ад Міхасёвага дома. Яна пайшла наўздагад і неўзабаве сапраўды ўбачыла доўгі, ашклёны па фасадзе павільён, які туліўся між дзвюх высокіх стромкіх будынін

і крыху ў баку ад вуліцы. Над ім вісела шыльда: маленечкімі літарамі было напісана «кафэ».

У забягалаўцы яшчэ гарэла святло. Праз шкляную сцяну рваліся на прастору гукі нейкай нянаскай грымлівай музыкі.

Хрысціна адчыніла дзверы — у твар патыхнула махорачным дымам, півам, нясвежай стравай і яшчэ чымсьці кіслым да брыды. Нягледзячы на ранні час, кафэ было забіта людам.

Злева ад дзвярэй на ўсю залу густа ляпіліся адзін да аднаго высокія столікі, за якімі таўкліся людзі. А каму не хапіла месца за столікамі, стаялі каля сцяны, да якой мацавалася паліца.

Справа свяціўся рознакаляровымі агнямі буфет з паліраваным прылаўкам, а за ім — кухня, якую ад буфета адгароджвала цяжкая парчовая парцьера. За прылаўкам завіхалася мажная чырванашчокая маладзіца ў белым халаце, у какетлівай белай шапачцы, з вялізнымі абручамі-завушніцамі і тоўстымі пярсцёнкамі на пульхных пальцах. Перад парцьерай, аблакаціўшыся на прылавак, стаяла худая, як вобла, жанчына і нешта гаварыла другой, па гэты бок прылаўка, няйначай афіцыянтцы, у сукенцы і фартушку, з какошнікам, як у артысткі, што аднаго разу прыязджала ў Барсукі і спявала сялянскія песні.

Мабыць, кафэ працавала даўно. На століках стаялі парожнія шклянкі і талеркі, куфлі з півам, валяліся кавалкі хлеба. Але бутэлек з гарэлкай ці віном Хрысціна з першага позірку не заўважыла.

Дзве палавіны кафэ — тая, дзе гандлявалі, і тая, дзе спажывалі,— зусім не адпавядалі адна адной. Тая, дзе буфет, была прыгожа аздоблена: на паліцах — поўна нянаскіх бутэлек і розных бліскучых цацак, на прылаўку — бліскучая машына і вясёлы самавар на падстаўцы, асветленыя квадрацікі шкла размаляваны заморскімі краявідамі, на якіх утульна адпачываюць прыгожыя дзяўчаты і хлопцы, са столі звісалі люстры з вісюлькамі, у якіх зіхацела святло, аж люба глядзець.

Затое другая палавіна, дзе стаялі за столікамі людзі, нагадвала і аўчарнік, і райцэнтраўскую закусачную: той жа бруд, той жа люд, абы-як апрануты, тыя ж беднасць і непагляднасць.

На Хрысціну ніхто не звярнуў увагі, быццам яна была без плоці. Мабыць, каб тут паявіўся сам бог, дык і яго не заўважылі б. Туташні люд маліўся, і вельмі шчыра, свай-

му богу — бутэльцы. Гэта памагло Хрысціне добра агледзецца. Яна прыкмеціла, што на буфетных паліцах стаяць толькі дарагія віны ды каньякі. А тым часам мужчыны даставалі аднекуль з-пад столікаў бутэлькі, разлівалі віно па бакалах, найчасцей проста ў піва, а бутэлькі зноў савалі пад стальнічыну. Сярод сталоў хадзіла старая ў паношаным сінім халаце і вельмі спрытна збірала тыя выпітыя бутэлькі, зносіла іх. Яна ж, высачыла Хрысціна, прыносіла з-за парцьеры і поўныя бутэлькі.

Сабраўшы бутэлькі ў далёкім ад дзвярэй куце, дзе каля паліцы стаялі спіной да залы нейкія мужчыны і жанчыны, старая занесла іх за парцьеру, а неўзабаве паявілася адтуль з трыма бутэлькамі віна. Панесла іх усё ў той жа далёкі кут. Адна з жанчын павярнулася, каб забраць бутэлькі. Хрысціну аж скаланула — Люба!

Люба п'яна смяялася, нешта казала прыбіральшчыцы і па-свойску ляпала тую па плячы.

Хрысціна пачула, як моцна, аж стала горача, штурханула ў скроні кроў, а ў вачах пацямнела. Потым з гэтай цемрачы, аж разанула ў вачах, выплыла Люба, якая ўсё яшчэ смяялася, за ёй — мажная гандлярка па той бок прылаўка з вялікімі залатымі завушніцамі. Гандлярка налівала піва ў куфель, і пена цераз край сцякала на тоўстае залатое кальцо, якое ад гэтага, здалося, ззяе нясцерпным бляскам.

— Спяваеш! — не чуючы свайго голасу, крыкнула Хрысціна.— З саменькай раніцы!.. Прытон устроіла?.. Ах ты, сцерва!..

Мабыць, яе голас быў вельмі моцны, бо праз смугу, што ўсё яшчэ ахутвала вочы, Хрысціна ўбачыла, як людзі перасталі есці і піць, а гандлярка спалохана пазірала на яе, быццам ніяк не магла даўмецца, адкуль і чаму яна тут паявілася.

Хрысціна і сама спалохалася свайго голасу. Ёй зрабілася няёмка, і яна не ведала, што рабіць далей. Гэтая не разгубленасць вывела гандлярку з няпэўнасці. Яна паставіла куфель на прылавак, абаперлася на цяжкія рукі, упёрла ў Хрысціну шэрыя драпежныя вочы.

— Ты чаго крычыш, старая падла? — не вельмі гучна, але жорстка спытала яна.— Выпіць на дармаўшчынку захацела?.. Дык я зараз міліцыю паклічу. Не мяшай гандляваць, смярдзючая разваліна...

Хрысціне аж заняло дыханне. Каб яе ды так знеслаўлялі на людзях? Божачка, да чаго дажылася! Ды за што?

— Ах ты, поскудзь,— не сцярпела яна абразы,— з-пад прылаўка гандлюеш ды яшчэ агрызаешся. Во, во, заві міліцыю... Я на цябе пагляджу...

Хрысціне здавалася, што цяпер ужо гандлярка спалохаецца, запросіць літасці, аж тая, наадварот, пайшла на яе нахрапам, нібы той бульдозер.

— Гляньце на яе! — закрычала яна.— Набралася як жаба гразі, ледзьве на нагах стаіць... Мужчыны, ды што ж вы глядзіце на гэтую алкагалічку! Выкіньце яе адсюль, каб не смярдзела... У міліцыю яе трэба здаць...

— Гэта я п'яная? — не паверыла сваім вушам Хрысціна.— Каб ты белы свет так бачыла, як я піла...

Яна хацела і яшчэ паклясціся, што не ўжывае гэтай заразы, але каля яе раптам як з-пад зямлі ўзніклі дзве азызлыя морды: адна з пераламаным носам, другая шырокая і пляскатая, як праснак. Хрысціна хацела закрычаць, паклікаць людзей на дапамогу, але ў яе адняліся ногі, рукі, мова, як і тады, у вайну, калі ўзлаваны нечым немец крычаў, што застрэліць, і махаў перад яе тварам наганам, а яна ніяк не магла даўмецца, чаго ён крычыць і за што хоча яе застрэліць.

— Табе што, старая карга, жыць надаела? — сказаў бамбіза з пераламаным носам.

Ён схапіў яе за каўнер і неяк дужа лёгка адарваў ад падлогі. У Хрысціны мільганула думка, што гэта ўсё, яе канец. Але страху не было. Падумалася спакойна.

Перад яе вачамі мільганулі абыякавыя твары, вясёлыя агні буфета, дзверы з шыльдачкай, на якой напісана, калі кафэ працуе. Яе ногі ўсё яшчэ боўталіся ў паветры, не знаходзячы апоры. Недзе нехта моцна залямантаваў. Рука бамбізы чамусьці аслабла.

Хрысціна азірнулася. Любка малаціла вярзілу з пераламаным носам па чым папала, і той закрываўся ад яе рукамі.

— Люба... Любка... Пусці, гадаўка...

Ён спрабаваў адарваць ад сябе Любку, але тая ўчапілася ў яго мёртвай хваткай, як клешч. Мужчына з пляскатым тварам схапіў яе поперак цела, стаў адцягваць ад бамбізы. Люба крыху яшчэ пасупраціўлялася, але аслабла, адпусціла бамбізу.

— Звар'яцела ты, ці што? — накінуўся на яе бамбіза.

Хрысціна спалохалася, што ён пачне біць Любку. Але нічога не здарылася.

— А ты не лезь,— сказала Люба.— Гэта мая свякруха. Я за яе горла перагрызу...

— Дык так бы і сказала,— бамбіза з пераламаным носам пайшоў да свайго століка, набухаў поўны куфель віна і выпіў залпам.

— Мамачка, свякрушка, ідзі дамоў, я зараз... Пабачыш, зараз, каб мне на гэтым месцы праваліцца,— Любка лёгенька стала падштурхоўваць Хрысціну да выхаду.

— А-а-а, дык гэта тваё золата,— закрычала за прылаўкам гандлярка.— Каціся разам з ёю, і каб нагі тваёй...

— А пайшла ты, мардатая...

Люба загнула такі мат, што Хрысціна, хоць і прывыкла да іх у калгасе, знямела.

— Любачка, золатка, навошта ж ты так?.. Пайшлі, дачушка, дамоў... Юрачка чакае... Пайшлі...

Яна абхапіла Любу за плечы, вывела з забягалаўкі. Крокаў мо дзесяць яны ішлі абняўшыся. Хрысціна нават падумала, што перамагла нявестчыну хваробу. Прывядзе зараз нявестку дадому, пагаворыць з ёй, як з чалавекам... Не можа быць, каб не адумалася...

Люба раптам спынілася, нібы пра нешта ўспомніла.

— Я хуценька,— сказала яна.

— Пайшлі, дзетка, дамоў,— стала ўгаворваць Хрысціна.

Але Люба ні з таго ні з сяго заўпарцілася:

— Ты ідзі, я дакажу ім...

— Што ты дакажаш?..

Люба не стала слухаць, сарвалася з месца і пабегла па вуліцы. Канечне ж, у кафэ. Хрысціна ў наіўнасці сваёй паспрабавала перагарадзіць ёй дарогу, але Люба пабегла ў завулак. Хрысціна рынулася за ёй. У завулку Любы ўжо не было. Хрысціна пастаяла на раздарожжы, вярнулася дахаты.

Юрка смажыў яешню. Убачыўшы Хрысціну, спытаў:

— Не знайшла?..

— Дай я табе памагу,— сказала Хрысціна.

— Я сам,— адказаў Юрка.— Я, калі хочаш, любы абед згатую.

— Знайшла я маму,— прызналася Хрысціна.— У кафэ...

— А я табе што казаў?..

— Што ж рабіць, Юрачка?.. Ратаваць яе трэба.

— Алкаголікі — людзі прапашчыя,— махнуў рукой Юрка.

— Што ты кажаш? Чаму прапашчыя? — не пагадзілася Хрысціна.— Лечаць жа іх. У газетах пішуць і па радыё тарабаняць, што лечаць і многім памагае.

— Яно добра было б палячыць яе,— разважліва сказаў Юрка.— Без жанчыны цяжка ў доме.

— Ну во, бачыш...

Юрка падсмажыў яешню, паставіў патэльню на стол, запрасіў Хрысціну:

— Прысаджвайся, паснедаем...

Гэтая дарослая не па гадах размова і запрашэнне паснедаць з ім за жывое кранулі Хрысціну. Божа літасцівы, малое дзіця разумее, што і да чаго, а дарослы бацька апусціў рукі — кацiся ўсё па ветры, як таполевы пух.

Паснедаўшы, Хрысціна сабралася ў дарогу. Яна не ведала, дзе трэба шукаць тую бальніцу, у якой лечаць п'яніц, але была ўпэўнена, што знойдзе яе.

## 6

Апытаўшы чалавек дваццаць, Хрысціна амаль страціла надзею знайсці патрэбную ёй бальніцу. Людзі, якіх яна апыняла, або паглядалі на яе з асуджэннем і здзіўленнем, або на хаду, не задумаўшыся, адказвалі кароткім словам «не». І ніхто з іх, як гэта абавязкова было б у вёсцы, не пацікавіўся, навошта ёй тая бальніца, што за гора напаткала яе.

Абыякавасць людзей балюча кранала Хрысціну. Канечне, не кожны гараджанін павінен ведаць, дзе лечаць алкаголікаў, але ж кожнаму, да каго яна звярталася, было зразумела, што не сабе жанчына шукае ратунку, а некаму з блізкіх, і не якога-небудзь там ратунку, а ад п'янства. Хоць бы хто паспачуваў, хоць бы позіркам раздзяліў яе бяду. Дзе там!

Бягуць, спяшаюцца, а куды, чаго?! Ні аднаго знаёмага аблічча. Божа, як жа тут жыць, калі кожны дзень бачыш чужыя, няветлівыя твары. Не тое што ў вёсцы. Выйшаў на двор, глянуў у адзін бок — знаёмы чалавек, зірнуў у другі — свой.

А тут паваліся на вуліцы — прабягуць міма. Некаму і дамоў паведаміць, што табе кепска.

Хрысціна скурай адчувала гэтую сваю адзінокасць у горадзе. Раней такога не ведала. А цяпер раптам адчула. Ёй ужо не хацелася шукаць бальніцу, спыняць і апытваць занятых людзей. Гары яно ўсё гарам!

Але, як бывае заўсёды, у самую апошнюю хвіліну, нібы ўзнагарода за цярплівасць, прыйшла ўдача. Хрысціна ўбачыла машыну з чырвоным крыжам, з якой вылезлі доктар з медсястрою, пайшлі ў дом. У машыне застаўся шафёр.

Быў ён немалады і нечым прыемны, як здалося Хрысціне. Яна не памылілася. Шафёр з талковай самавітасцю расказаў ёй, што найперш трэба звярнуцца ў дыспансер, дзе Любку возьмуць на ўлік і абавязкова палажаць у бальніцу. Ён падрабязна расказаў, дзе размяшчаецца той дыспансер і як да яго можна дайсці і даехаць. Аказалася, зусім і недалёка, можа, кіламетры тры, утрая меней, як да канторы іхняга калгаса, і меней як да цэнтра калгаснай брыгады. Такія адлегласці Хрысціна прывыкла мерыць не па адным разе на месяц.

Не, не перавяліся і ў горадзе ўважлівыя і добрыя людзі! Дзякуй, што захаваліся. Іх бы ў тую Чырвоную кнігу заносіць, пра якую летась чытаў лекцыю ў іхнім клубе нейкі вучоны. Каб добрых людзей не паменшала, а каб большала.

А што, ці мала яшчэ пасвіцца браканьераў, што забіваюць не звяроў і птушак, а людзей. А хіба цяжка забіць шчырага, добрага чалавека? Вельмі нават проста. Як тое ласяня, што выгадавала, выпаіла іхняя вёска і якое само пабегла да людзей, а яны яго і застрэлілі. Добрыя і шчырыя людзі таксама кідаюцца насустрач браканьеру. А той возьме і заб'е на пацеху. Толькі браканьераў, што забіваюць звяроў, бывае, караюць.

Хрысціна і не заўважыла, як дайшла да таго раёна, у адным з завулкаў якога і трэба шукаць дыспансер. Азірнуўшыся, Хрысціна падумала, што шафёр, можа, нешта наблытаў. Навокал не было будыніны, вартай лячэбнай установы.

У цесных завулачках, што разбягаліся ад пустэчы, ушчыльную стаялі драўляныя баракі, па вокны загрузлыя ў зямлю, цагляныя прысадзістыя дамы з маленькімі вокнамі, за якімі ўгадвалася людское жыллё, а не бальнічныя ложкі, глухія, без вокнаў, карпусы нейкіх майстэрняў, высокі, шматпавярховы дом з магазінам пад ім.

Трэба было зноў спыняць людзей, распытваць; Хрысціну аж скаланула: во ўжо нямілы занятак! Цяпер, навучаная горкім вопытам, яна не кідалася безразважна да першага сустрэчнага-папярэчнага. Падышоўшы да скасабочанага барака, Хрысціна стала прыглядацца да людзей,

што праходзілі міма. Люду праходзіла шмат, але ўсё такога ж засяроджанага, таропкага, непадступнага. Хрысціна доўга не адважвалася каго-небудзь турбаваць. Нарэшце ўбачыла жанчыну з гаспадарскімі сумкамі, з такім жа, як у шафёра, ветлівым тварам.

— Даруйце,— звярнулася да яе Хрысціна,— ці не ведаеце вы, дзе тут ад гэтай заразы лечаць?..

Хрысціне здалося, што жанчына нібы згідзілася. Яна аж здрыганулася, але на пытанне адказала з негарадской грунтоўнасцю:

— Бачыце вунь той шэры дом? За ім і павярніце налева, за вугал. Там убачыце завулак, Аўражны называецца. Пройдзеце да трохпавярховага дома з ганкам. Над гэтым ганкам будзе шыльдачка з надпісам: скурана-венерычны дыспансер. Вось там і лечаць ад рознай заразы...

— Не ведаю, як вам і падзякаваць,— расчуленая дабратой жанчыны, сказала Хрысціна.— Гэта ж ведаеце, якое ў мяне гора?.. Нявестка зусім спілася. Дык во, іду прасіць, каб узялі на лячэнне. Не чулі, вылечваюць яны?

— Дык вам наркалагічны дыспансер патрэбны,— аж нечаму ўзрадавалася жанчына.— І ён там жа... Як я не здагадалася?.. Хаця чаго? Маглі ж вы па якое скурное захворванне занемагчы...

— Каб жа якое другое, а то п'янства,— уздыхнула Хрысціна.— Сорам такі, што і не кажыце. Але ж нічога не паробіш. Сям'я гіне.

— Дык жадаю вам поспеху,— сказала жанчына.— Не забудзьце!.. Наркалагічны дыспансер...

— А ліха на яго, абы дыспансер, абы вылечылі,— сказала на развітанне Хрысціна.

Дом з высокім ганкам, над якім сапраўды былі дзве шыльды, Хрысціна знайшла без аніякай цяжкасці. Паднялася на ганак і спынілася, бо ў грудзях балюча і моцна затрапятала сэрца.

«Не давядзі бог пад старасць хадзіць па гэтых дыспансерах,— падумала яна, хапаючы ротам паветра.— Але ж нічога не паробіш... Трэба ісці, бо ніхто за цябе не сходзіць, не кінецца на дапамогу... У час бы добры...»

Падбадзёрыўшы сябе, Хрысціна пацягнула дзверы за ручку і адразу апынулася ў даволі светлым калідоры, разгароджаным не суцэльнымі перагародкамі, а з планак, на якіх віселі вазоны з кветкамі і рознымі ўпрыгожаннямі.

Пад кветкамі сядзелі і стаялі нейкія людзі — адны мужчыны, абы-як адзетыя, з адрузлымі ўчарнелымі тва-

рамі, усе пахмурныя і маўклівыя. Толькі ўбаку, ля акна, два міліцыянеры нечага весела смяяліся.

Хрысціна ў нерашучасці спынілася. Не ведала, ці трэба тут вітацца, як гэта робяць на вёсцы, ці не трэба?

Па ўсім было відаць, што чарга стаіць да доктара. Хрысціна падышла да мужчыны, які сядзеў, прыгорбіўшыся на крэсле. У яго быў надзіва вялікі глюгаваты барвовы нос і вельмі прыгнечаны выгляд.

— Вы да доктара? — ціха спытала яна мужчыну.

Не адрываючы позірку ад падлогі, мужчына незадаволена хмыкнуў:

— Му-угу...

— І хто ж будзе апошні?..

— Тут усе апошнія,— замест панурага мужчыны адказаў другі, што стаяў падпёршы плячом перагародку.

На ім была модная куртка з парваным замком-маланкай, вельмі пакамечаныя штаны, нібы іх жавалі калгасныя цяляты, і туфлі на босую нагу. Ён усё пераступаў з нагі на нагу, а ягоныя маленькія запалыя вочкі так і шнырылі па людзях і нечага гарэзліва ўсміхаліся.

— Даўно? — спытаў ён Хрысціну і пстрыкнуў пальцамі па брудным каўнерыку нейлонавай кашулі.

Хрысціна здагадалася, што вясёлы чалавек гэты пытае, ці даўно п’е Люба.

— Гады тры,— адказала яна.

— Хэ, з такім стажам тут і гаварыць не захочуць. Тут, матуля, алкаголікі з пачэсным стажам. Чула калі пра чорных алкаголікаў?.. І дзе ты толькі расла, матуля, калі гэтага не ведаеш? Не, з табой важдацца не стануць.

— Чаму не стануць? — спалохалася Хрысціна.— Абавязаны...

— Хэ, абавязаны,— заспрачаўся мужчына.— Дужа ім захочацца з табой важдацца. У іх старых алкаголікаў процьма, а тут ты... Так сказаць, звыш плана. Іншая справа, калі на іх грамадскасць ціснe. Толькі і грамадскасці ты таксама ўвесь глянец псуеш. Грамадскасць павінна выхоўваць і адпаведна з кожным годам паляпшаць паказчыкі. А ты паказчыкі перакрэсліваеш. Кумекаеш?.. Не?.. Тады папулярна. Па нашым апорным пункце, за які адказвае адзін тут заводзік, летась, напрыклад, лічылася энная колькасць алкашоў. Палова з іх была адпраўлена на лячэнне, астатнія прафілакціраваны. Адным словам, наведзены поўны марафет, і куды трэба далажана, што па раёне ажур і поўная ілюмінацыя. І раптам ты. Новая

алкашка. Ты ж не ўчора ёю стала?.. Не, не ўчора. Тады куды глядзелі ўрачы, міліцыя і ўсе тыя, што нясуць за нас адказнасць?.. Ну, натуральна, адразу крытыка... А ты бачыла каго, хто любіць крытыку?.. Канечне, крытыку кожны выслухае, а потым хваста накруціць усім, каму можна. Во чаму лепей цябе не ўбачыць, чым пачаць лячыць. Цяпер скумекала, пачым фунт ліха?..

Хрысціна здагадалася, што вясёлы мужчына палічыў яе за алкагалічку. Ну і няхай. Няма чаго спавядацца кожнаму алкаголіку, чаго яна тут. А тое, пра што брахаў гэты прапойца, Хрысціна ўсур'ёз не прыняла. П'яніцы, даўно вядома, нагавораць табе, што на возе не павязеш.

Тым часам дзверы доктарскага кабінета адчыніліся, адтуль у суправаджэнні міліцэйскага лейтэнанта вінтом вырулiў лысы з качыным тварам чалавек. Па чарзе, як па чароце ў вецер, пракацілася лёгкае хваляванне: не гоман, а менавіта хваляванне — гэткі шолах, парыпванне крэслаў, пакашліванне. Позіркі ўсіх скіраваліся на смешнага чалавека з качыным тварам. Той раптам ляпнуў далонямі па грудзях, па кішэнях кароценькага пінжачка, па каленях і зноў па грудзях, нібы той цыган, які зараз кінецца ў скокі.

— Братва, у каго ёсць дымнуць? — спытаўся ён, ашчэрыўшы шчарбаты рот.

Нехта працягнуў пачак «Прымы». Чалавек згроб яго, выхапіў цыгарэтку, закурыў.

У чарзе спалохана загаманілі.

— Не дражніў бы ты іх,— параілі яму.— Тут курыць забаронена.

— А нам напляваць. Далей Альхаваткі не пашлюць,— спакойна адказаў шчарбаты і прапанаваў лейтэнанту:— Закуры, лейтэнант. Цяпер у цябе адным клопатам менш будзе...

— Ой, даскачашся ты, Сімакоў,— паківаў пальцам лейтэнант, але цыгарэту з падстаўленага пачка ўзяў.

— Мне цяпер і лагер строгага рэжыму як рай, а ты палохаеш,— адказаў Сімакоў.

— Не каркай,— папярэдзіў лейтэнант.

З кабінета выглянула ў гадах жанчына, няйначай медсястра, гучна паклікала:

— Турчын...

Ад перагародкі адклеіўся чалавек у куртцы, які толькі што растлумачваў Хрысціне, чаму яе не стануць лячыць.

— Прасіся са мной, не прападзеш,— параіў Сімакоў.

— Пайшоў ты,— адмахнуўся Турчын.— Мяне і дзевятка ўстроіць...

— Пра што яны гавораць? — пацікавілася Хрысціна яшчэ ў аднаго п'яніцы, што сядзеў насупраць.

— Вядома пра што,— неахвотна адказаў той,— куды на лячэнне адправяць. Альхаватка — за дзвесце кіламетраў адсюль. А дзевятка новая бальніца. Бальніца, значыцца, яшчэ не дабудавана, дык наш брат там працуе. Горад побач. З дому могуць прыходзіць. Адным словам, вялікага страху няма. Яшчэ могуць у Навінкі адправіць. Ну, ды туды не трапіш...

З кабінета ўжо выходзіў Турчын, задаволена паціраючы рукі. І зноў па чарзе прайшло хваляванне.

— Куды? — як бы на адным дыханні спытала чарга.

— На Серабранку,— адказаў Турчын.

Чарга ахнула і знямела: так бывае, калі паказваюць нейкае дзіва дзіўнае.

— Пашчасціла!..

— У яго там галоўны ўрач радня...

— Брэша ён...

— Будзеш брахаць, як ампулу ў зад зашыюць...

— Лепей вагоны грузіць, чым ампула.

Чарга гула як растрывожаны вулей. Хрысціна нічога не разумела: чаго людзей раптам гэтак прарвала, як плаціну. Калі галасы аціхлі, яна спытала ўсё таго ж, што сядзеў насупраць:

— Чаго яны разгаманіліся?

— На Серабранку абы-каго не бяруць. Там лечаць, а не валынку валыняць...

Хрысціна падумала, што будзе прасіць дактароў, каб лячылі Любу на Серабранцы.

Тыя, што пабывалі ў дактароў, адыходзілі да акна, курылі, не баючыся, што іх могуць пакараць. Хрысціна і без староннняй дапамогі зразумела, што для таго і стаяць у калідоры міліцыянеры, каб алкаголікі не разбегліся, каб іх пасля тутэйшага дыспансера адразу адправіць па прызначаных бальніцах.

А як жа адпраўляюць такіх, як Люба?.. За імі таксама пасылаюць міліцыю ці трэба самім адвозіць у бальніцу?..

Хрысціна ўжо не звяртала ўвагі на тых, хто заходзіў у кабінет, і на тых, хто выходзіў. Яе ахапіў одум пра Любу.

Чарга паменела. Нарэшце міліцыянеры каго адпусцілі дамоў, каму скамандавалі садзіцца ў машыну, якая стая-

ла ля пад'езда. З кабінета выйшаў апошні алкаголік. Хрысціна, не чакаючы запрашэння, зайшла ў кабінет.

У вялізным пакоі з двума вокнамі стаялі тры сталы. Насупраць дзвярэй, у прасценку між вокнамі, тварам да дзвярэй сядзеў у гадах мужчына з нервовым жоўтым тварам — адны косці ды скура. Злева — малады, з рэдзенькай бародкай. Справа — жанчына з акруглым тварам і дужа доўгімі вейкамі. За ёй, у кутку,— медсястра. Усе чацвёра былі ў белых халатах.

Як толькі Хрысціна пераступіла парог кабінета, усе чацвёра дружна ўзнялі галовы, няўцямна паглядзелі на яе і тут жа апусцілі вочы ў паперы, што ляжалі перад імі на стале.

Хрысціна павіталася.

— Што вам?.. Толькі коратка,— спытаўся нервовы доктар.

— Не ведаю, з чаго і пачаць,— прызналася Хрысціна.— Я сама з вёскі...

— Тады чаму да нас? — ускінула галаву жанчына.— Мы з раёна не прымаем...

— Дык што ж мне рабіць? — разгубілася Хрысціна, але тут жа даўмелася, што дактары палічылі яе за п'яніцу.— Я не пра сябе клапачуся...

— Сын, зяць п'е? — спытаўся той, што з бародкай.

— Нявестка...

Дактары пераглянуліся.

— Прозвішча? — спытаўся нервовы.

— Маё?.. Малінец...

— Я вас пра нявестку пытаю,— узлаваўся нервовы доктар.

— І яе Малінец.

— Дзе жыве?..

— Нова-Залінейны тупік...

Нервовы доктар паморшчыўся, нібы раскусіў зялёную журавініну.

— На жаль, наша,— сказаў доктару з бародкай і тут жа зноў спытаў Хрысціну: — Яна на ўліку?..

— Не, без уліку п'е,— адказала Хрысціна.— Запоем...

Усе чацвёра заўсміхаліся, прыкрываючы твары далонямі. Малады доктар дастаў з шуфляды тоўсты сшытак у чорнай вокладцы, пагартаў.

— Малінец... А імя і па бацьку як? — спытаўся ён.

— Любоў Дзмітраўна...

— Не, не састаіць,— доктар сунуў сшытак у шуфляду.— Пазвані Крыловічу,— параіў свайму напарніку.

Нервовы доктар набраў нумар па тэлефоне.

— Крыловіча,— папрасіў кагосьці і, дачакаўшыся таго Крыловіча, спытаў: — Слухай, Крыловіч, нарколаг Магілеўскі звоніць... Ці ведаеш ты такую сям'ю па Нова-Залінейным тупіку — Малінец... Ну, так, Малінец...

Па тэлефоне нешта доўга адказвалі. Магілеўскі слухаў і кідаў позіркі то на маладога доктара, то на жанчыну.

— Даўно яна п'е? — прыкрыўшы трубку рукой, спытаў ён Хрысціну.

— Гады два-тры,— не вельмі ўпэўнена адказала Хрысціна, адчуваючы нешта нядобрае.

Па тэлефоне зноў нешта гаварылі. Доктар ківаў галавой, ці то згаджаўся, ці то, наадварот, не мог пагадзіцца. Нарэшце ён паклаў трубку. Дапытліва паглядзеў на Хрысціну.

— А вы даўно з сынам і нявесткай жывеце? — з нехаванай падазронасцю спытаў Хрысціну.

— Я ж вам казала, што ў вёсцы жыву,— дзівячыся з бесталковасці доктара, сказала Хрысціна.— Я ўчора толькі прыехала...

— І адкуль вы даведаліся, што нявестка п'е?

— Дык яна і зараз п'е,— адказала Хрысціна.— У той забягалаўцы, што «Апошнім грошам» называецца.

— А чаму не муж прыйшоў, а вы?.. Ці, можа, ён вас паслаў?..

— Дык ён жа на працы... Ды і рукі апусціў, а сям'я распадаецца...

— А сам п'е?

Хрысціне надакучыў гэты допыт. Яна, па ўсім, адчувала, што доктар ёй не верыць, што той Крыловіч пасеяў у яго нейкае сумненне.

— Сам не п'е,— адказала яна.— А што вы мяне, як у судзе, дапытваеце?.. Я да вас па дапамогу... Дык і кажыце, ці можаце памагчы?

З-пад доўгіх веек жанчыны-доктаркі бліснулі вочы. А тым часам нервовы доктар стаў расказваць маладому доктару, што яму сказаў Крыловіч, які, аказваецца, працаваў участковым:

— Дзівосы на калёсах, участковы кажа, што сям'я Маліцоў нармальная. Сам Малінец працуе шафёрам. Жонка ў п'янстве не зафіксавана. Крыловічу можна верыць...

Жанчына-доктар зноў злосна зыркнула на Хрысціну.

— А вы заяву прынеслі? — спыталася яна.

— Якую заяву? — здзівілася Хрысціна.— Я ж вам чалавечым языком кажу, што п'е яна, лячыць яе трэба. Кажуць, на Серабранцы добра лечаць... Пакладзіце яе туды...

— А якія ў нас падставы класці яе? — сурова сказала жанчына.— Можа, вы на сваю нявестку нагаворваеце.

— Я? — аж захліпнулася ад крыўды Хрысціна.— Я да вас як да ратунку ад бяды, а вы мяне ж злачынцай выстаўляеце. Вы мне прама скажыце, лечыце вы п'яніц ці праўду кажуць, што баіцёся, каб вашы паказчыкі не сапсаваліся?

Дактары не проста пакрыўдзіліся, яны абурыліся.

— Як вы смееце?! — не стрымалася доктарка.

— Дзіва, што вам нявестка на дагадзіла,— падаў голас і нервовы доктар.

— І хто вас толькі дактарамі прызначыў? — сказала Хрысціна і пайшла з пакоя.

Чула, як за яе спіной доктарка абурана сказала:

— Не ўжылася з нявесткай, во і надумала сплавіць нам...

Хрысціна ў роспачы спынілася на калідоры. З кабінета выйшаў малады доктар. Убачыў яе, падышоў.

— Трэба прывесці нявестку да нас,— параіў ён.

— Як жа яе прывядзеш?.. Не маленькая, пад зад не шлёпнеш...

— Участковага паклічце...

— Куды ні кінься, без міліцыі не абыдзешся,— сказала Хрысціна і пайшла.

Што ні кажы, а вясёлы алкаголік у чымсьці меў рацыю, калі казаў, што з такім стажам, як у Любы, не кінуцца лячыць.

Хрысціну разбірала крыўда. Хіба ж можна так ставіцца да людзей, што прыходзяць са сваім горам? Чалавеку ў горы ўсягды спачувалі і дапамагалі, чым маглі. А тут! Бог ты мой, дактары!.. Яму кажаш, баліць, а ён табе яшчэ бальней робіць...

Хрысціна з дарэмнай настойлівасцю ганяла па замкнутым коле пытанні, на якія не магла адказаць,— толькі вярэдзіла сэрца.

Тратуары то раздаваліся ўшыркі, то звужаліся перад старымі, першых пасляваенных гадоў, дамамі. Хрысціна ішла пасярэдзіне, не зважаючы на вірлівую людскую

плынь. Яна, лічы, і не заўважала нікога. Так і дайшла да Нова-Залінейнага тупіка. Ачомалася толькі на двары і адразу пачула вясёлыя п'яныя галасы.

У Хрысціны так і ёкнула сэрца, хоць яна, можа, і не спадзявалася на нешта іншае. Чалавек заўсёды чакае цуд. А ён дужа рэдка надараецца ў жыцці.

На кухні апрача Любы сядзелі яшчэ тры жанчыны: учарашняя Юлька, высокая, учарнелая, з дзятлавым доўгім носам Гэлька і падобная на падлетка, але сіваватая ўжо, з маршчыністым тварам Лізавета.

На стале стаяла процьма бутэлек, напалову пустых. Гасцяванне, мусіць, ішло даўнавата. Усе чацвёра, асабліва Люба, ледзьве варочалі языкамі, каліназываліся Хрысціне. Назваўшыся, сталі рагатаць з той п'янай шчодрасцю, калі смех пачынае палохаць цвярозага чалавека.

— Дык слухайце далей, бабы,— праз рогат прадаўжала Гэлька апавядаць, няйначай, пра нешта брыдкае.— Я яго тады цоп... Ха-ха-ха,— зайшлася яна ад смеху, аж пабарвавела, паклалася грудзьмі на край стала,— дык ён аж бабахнуў...

— Бабы, каб вас!..— застагнала ад смеху Юлька.

Яна смяялася страшна, дзіка, шырока разяўляючы рот і хапаючы ім паветра, як рыбіна на пяску, а яе цела — вялікія грудзі, крутыя плечы — дробненька трэслася, нібы Юльку білі канвульсіі.

Лізавета не рагатала, а пранізліва пішчала, у перапынках між піску гэтак жа сама пранізліва выгукваючы:

— Ой, трымайце, абсікаюся!..

Любка не смяялася. Яна, здаецца, нічога не разумела, нічога не бачыла і не чула. Яна п'яна і насцярожана глядзела на шклянку з віном, быццам чакала, што з яе вынырне нехта страшны.

— А ў мяне ў руцэ... ха-ха-ха... шланг гумавы,— выгукнула Гэлька, і ўсе тры зноў зайшліся ад п'янага рогату.

Любка ад іхняга смеху нібы схамянулася. Яна ўзяла шклянку, панесла яе да рота, неяк па-дзіўнаму адстаўляючы руку, як па адлёце, стала піць. У Хрысціны памутнела ўваччу: Люба, здалося, не п'е, а давіцца віном. У яе сутаргава сціскалася горла, і кожны глыток віна прыносіў ёй нясцерпны боль. На Любчыны вочы набеглі слёзы, а віно пацякло двума цурочкамі з краёў вуснаў, як кроў у чалавека, калі ён канае. Цурочкі скаціліся па падбародку на шыю, затым пад каўнерык кофты, за пазуху. Так, му-

сіць, п'юць атруту самазабойцы. Не хочуць, а п'юць. Не могуць не піць.

І Любка неяк дапіла віно, паваліласе галавой на стол, усё яшчэ трымаючы шклянку ў руцэ.

Бабы перасталі рагатаць, але іхнія твары заставаліся ўсё такімі ж тупымі, без аніякай адзнакі хвалявання.

— Любка, а Любка,— пачала тармасіць яе Юлька.— Ты чаго, Любка?..

— Лішку ўзяла, каб яе халера,— сказала Лізавета.

— Лішку не бяруць, яе ў судзе даюць,— рагатнула Гэлька.

За сваё жыццё Хрысціна ці мала бачыла п'яных мужчын, але яны ніколі не выклікалі такой агіды і абурэння, як гэтыя чатыры п'яныя бабы.

— Што ж вы робіце, бабы? — загаварыла яна дрыготкім ад злосці і крыўды голасам.— Маці чатырох дзяцей спойваеце. Ці ў вас сораму няма? Ці дакаціліся да таго, што далей некуды?..

— А ты хто будзеш? — задзірліва крыкнула Гэлька.— Брысь, старая!..

Яна схапіла памідор, шпурнула ў Хрысціну. Памідор шлёпнуўся аб вушак, ад яго пырснулі ва ўсе бакі чырвоныя пырскі.

— Гэлька, апамятайся,— залямантавала Юлька.— Гэта ж Любчына свякруха...

Можна было падумаць, што Гэлька спалохаецца ці хоць засаромеецца. Дзе там!

— А яе месца, знаеш дзе? Пад печчу,— са злоснай упартасцю сказала Гэлька.— Я гэтых божых каровак знаю. Іх дустам труціць трэба...

— Ой, трымайце, абсікаюся! — віскнула Лізавета і пакацілася ад рогату.— Божая кароўка!.. Ой, трымайце!..

Хрысціна, яшчэ як толькі зайшла на кухню, угледзела каля пліты жалезную качаргу. Некалі, калі яшчэ не было паравога ацяплення, а ў доме стаялі грубкі, гэтай качаргой выграбалі попел. Загнуты кароткі канец яе быў шыракаваты, а даўжэйшы — дзяржак — з загагулінай, дужа добра было трымаць у руцэ.

— Бачу, бабы,— аж лішне спакойна сказала яна, толькі ў грудзях, не вырваўшыся на волю, лютаваў гнеў,— з вамі не дамовішся.— Яна знарок марудна нагнулася, узяла качаргу, паважыла ў руцэ.— Цяпер паслухайце мяне дужа ўважлівенька. Вымятайцеся зараз жа, каб вашага і



На ваеннай прысязе,
якую прымаў унук Саша. 1978 г.

духу не засталося, а не тое, дык галовы пашчапаю. І не дай вам бог яшчэ раз сюды заявіцца...

— Ой, напужала, абсікаюся,— віскнула Лізавета і стала разліваць, як на злосць Хрысціне, віно па шклянках.

— А зараз абсікаешся,— ужо не маючы сіл стрымліваць сябе, паабяцала Хрысціна.

Яна і сама падзівілася, як спрытна, нібы толькі гэтае і рабіла ўсё жыццё, цюкнула канцом качаргі па бутэльцы, ледзь вышэй Лізавецінай рукі. Нямоцна звякнуўшы, рыльца з палавінкай бутэлькі адскочыла, перавярнула шклянку, віно з бутэлькі вылілася ў Лізавецін падол.

— Вон, лярвы! — не чуючы сябе, закрычала Хрысціна.— Галовы шчапаць буду...

Качарга яе зноў апусцілася, але не на галовы, а на бутэлькі, што цесна стаялі на стале. Шкло тонка дзынкнула. Па стале разлілася бурштынавая лужына віна.

Першай падхапілася Юлька. Здалося нават, што ў яе прапаў хмель.

— Максімаўна, мамачка, цётачка,— залямантавала яна, прыкрываючы галаву рукамі.— Я ж нічога... Гэта ўсё яны, яны...

Юлька падхапіла з падлогі сумку, выбегла на калідор. Лізавета таксама спалохалася. Яна нырнула пад стол, на карачках выпаўзла з-пад яго ўжо на гэтым баку, падхапілася і, схаваўшыся за Юлькай, затаілася, як тая мыш пад венікам.

За сталом засталася Гэлька. Яе драпежныя чорныя вочы не мігаючы ўперліся ў Хрысціну, аж той нечага стала страшна.

— Ты што ж гэта, старая падла, бутэлькі б'еш?.. За іх грошы плочаны.— Гэлька гаварыла не гучна, нават ціха, з нейкім гадзючым шыпеннем у голасе, якое не абяцала нічога добрага.— Я табе ўсю пашчу разарву.

«Во бандытка,— спалохана падумала Хрысціна.— Такая што хочаш зробіць... І нікога дома няма. Хоць бы Юрачка быў...»

Але якраз вось гэтая безабароннасць і надавала Хрысціне мужнасці. Яна зрабіла крок назад, каб ямчэй было размахнуцца качаргой, сказала з нечаканай для самой рашучасцю:

— Толькі падыдзі...

— Гэлька, тваю маць, у турму захацела? — закрычала Юлька.

Яна падскочыла да Гэлькі, абхапіла тую за плечы, стала ўгаворваць, каб не чапалася да старой.

Утраіх яны выкаціліся з хаты. На двары нечага прыпыніліся, размахвалі рукамі і крычалі. Хрысціна на ўсякі выпадак зашчапіла дзверы на крук.

Калі яна вярнулася на кухню, Люба спала, паклаўшы галаву на стол. А можа, прытваралася, што спала. Хрысціне так і хацелася трахнуць яе качаргой па галаве, каб адным махам пазбавіць сынаву сям'ю ад пакут і гора.

«Божа, уратуй мяне ад такіх думак,— жахнулася яна сама таму, што падумала.— Чалавек жа, а не скаціна якая...»

Яна раскатурхала Любу. Тая глядзела на яе пустымі вачамі, без аніякага ў іх сэнсу, і, здаецца, нічога не разумела, хто і што ад яе хоча.

— Ах ты, поскудзь,— узлавалася Хрысціна, падхапіла Любу пад пахі, ледзь не волакам дацягнула да спальні. Кінула, нібы той мех з мякінай, на ложак.

Трэба было прыбраць кухню, пакуль не вернецца Юрка. Хрысціне чамусьці не хацелася, каб Юрка быў сведкам пагрому, які ўчыніла яна, Хрысціна. Дзіцяці гэтаму і так хапае. Не давядзі бог нікому такое бачыць...

Прыбіраючы кухню, Хрысціна не пераставала думаць над тым, як бы памагчы сыну... Дадумацца да чаго добрага было немагчыма. І яна мо дзесяты раз задавала сабе адно і тое ж пытанне, якое неадчэпна назаляла ёй зусім простым на яго адказам: навошта сыну такая жонка?.. Няхай бы кідаў яе, і ніякіх пакут. Ніхто яго за гэта не асудзіць, ніхто не стане дакараць. Нават уласныя дзеці...

## 7

Міхась, як і ўчора, прыйшоў дахаты позна. Юрка ўжо спаў, а Нэла пайшла кудысьці, сказаўшы Хрысціне, што, можа, не прыйдзе і начаваць. Хрысціна не стала ўгаворваць яе: нічога ўжо не паправіш.

Міхась не спытаў пра дзяцей, быццам іх і не было. Ён доўга мыўся пад кранам. Доўга выціраўся, быццам толькі гэта і радавала яго.

Хрысціна паставіла вячэру. Сама села ўскрай стала, паглядала на сынаў зმораны твар, на сівыя ўжо валасы, і ёй было бясконца шкада яго. Сын выглядаў вялікім і дужа бездапаможным хлапчуком.

— Хадзіла ж я ў той дыспансер для п'яніц,— сказала яна і спадцішка паглядзела на Міхася — як ён паставіцца да яе слоў?

— Дарэмна,— буркнуў ён, не стаўшы тлумачыць, чаму дарэмна хадзіла, быццам яму даўно надакучылі размовы з маці.

— А яно і праўда — дарэмна,— прызналася Хрысціна, зноў прыгадваючы, як яе зняважылі там.— Кажуць, трэба або заяву на Любу напісаць, або самую прывесці да іх.

— У нас так,— памаўчаўшы, сказаў Міхась.— Без заяў нідзе не можам абысціся. Усе бачаць, ведаюць: не, каб памагчы, дык справы нікому няма. Пішы заяву, скардзіся, хоць на родную маці, во, тады машына закруціцца, ды так, што хацеў бы назад адкруціць — нельга. Кажуць, што алкагалізм — хвароба. Так яно і ёсць, самая што ні на ёсць хвароба, бо чалавек сабой не валодае. А папрасі, каб забралі ў бальніцу... Не тое што «хуткай дапамогі» не прышлюць, дык насварацца на цябе, як бы ты яшчэ і вінаваты. Ды і лечаць... Лячыў я яе, мама...

— Не памагло?

— Горш піць стала. А яшчэ ж па знаёмству лячылі... Колькі я тых падарункаў перакупляў. Глуха...

— А не па знаёмству хіба не лячылі б? — спытала Хрысціна.

— Дык жа Люба баялася, каб яе на ўлік не ўзялі.

— Такой бяды, хай бы бралі!..

— І што ты, мама, кажаш? На ўлік не дзеля таго бяруць, каб лячыць каго, а каб лягчэй было куды падалей сплавіць, бо нікому не хочацца з ім важдацца. У дактароў свае клопаты, у міліцыі свае. Дактарам няма калі сачыць, ці п'е чалавек, ці, можа, перастаў. Сачыць павінна міліцыя, участковы. А ў яго хулігання хапае. Па ўчастковым — ні, хоць распеража́йся, абы ціха было, абы на цябе не кáпалі і пад плотам не валяўся. А калі хто накáпае, заяву, значыць, напіша, тут ужо размова кароткая — за шыварат ды на два гады лячыцца.

— А што з імі, п'яніцамі, рабіць? — запярэчыла Хрысціна, не разумеючы сынавага спачування прапойцам.— Я іх адной вяровачкай звязала б ды ў вір галавой, каб свет не паскудзілі... За два няпоўныя дзянёчкі я нагледзелася такога... Пабачыў бы ты, што тут сёння было. Люба прывяла нейкія тры сцервы. Адна другой горш. Бандыткі нейкія. Асабліва цыганістая такая, Гэлькай завуць. Доб-

ра, што ў мяне ў руках качарэжка была, а то, далібог, маглі задушыць. Дык што, з такімі хіба трэба цацкацца?.. Ці, можа, няпраўду кажу?..

— Праўда, мама, у кожнага свая,— не пагадзіўся Міхась.— Толькі мне ад таго не лепш. Во ты кажаш: сунула б п'яніц у вір галавой. А навука даказвае, што п'янства — хвароба. А калі так, дык яго і лячыць трэба як хваробу. І абыходжанне з чалавекам павінна быць адпаведнае. А ў нас як?.. З аднаго боку, п'яніца нібы і хворы чалавек, і яго дактары лечаць, а з другога, з ім абыходзяцца, як са злачынцам, і за ім, як цень, міліцыянер ходзіць. Некалі было такое, што і вар'ятаў за хворых не лічылі. Білі іх, на ланцуг садзілі, у халодныя просціны на суткі загортвалі. Думалі, вар'ят прытвараецца, у яго чорт усяліўся. А цяпер жа звар'яцелых не садзяць на ланцуг. І абыходжанне з імі як з хворымі. І дактары не бягуць па міліцыянера, калі трэба звар'яцелага ў бальніцу класці. А алкаголікаў павесілі на шыю міліцыі. Яна што, лекар, міліцыя?.. Ды той жа ўчастковы... Ён і сам, бывае, п'е... Во што мне незразумела, мама...

Хрысціна слухала Міхася з тым болем у сэрцы, які нараджаецца бездапаможнасцю. Яна, гэтая бездапаможнасць, вынікала не з таго, што Хрысціна не ведала, як памагчы сыну, а найбольш ад ягонай веры ў сваю пераконанасць. Ёй не падабалася гэтая сынава пераконанасць, якая, на яе сялянскі розум, не шмат каштавала. Людзі цяпер нахапаліся розных парад, якія шчодра сыплюць па радыё, пра якія ў газетах пішуць. Чаго толькі не начытаешся, не наслухаешся! Уключыш радыё, усё пра выхаванне гамоняць: чалавека трэба выхоўваць, чалавека трэба выхоўваць!.. Ды ўсё так, каб, барані божа, не пакрыўдзіць яго. А чалавекі — яны розныя. Іншаму тое слова — як гарох аб сцяну. Яму розум у галаву трэба розгай заганяць. І Міхась начытаўся, наслухаўся пра далікацтва. Во і не ўбачыў, як жонка збілася з пуці. А тут не ўгаворы патрэбны, не лячэнне, а задраў бы спадніцу ды пагладзіў бы папругай зад, каб дзянькі тры сесці не магла. Глядзі, і вылечыў бы.

— Дык што, сынок, і гору памагчы няма як? — спыталася яна.

Міхась сядзеў, абсунуўшыся на стол, нібы яму было цяжка трымаць непаслухмянае цела. На матчына пытанне не спяшаўся адказваць.

— Гады праз два дом знясуць,— нарэшце сказаў ён.—

Папрашу, каб далі кватэру дзе-небудзь на другім канцы горада, падалей ад яе сяброўак. Яны зводзяць Любку...

— Сынок,— пляснула ў далоні Хрысціна,— што ты кажаш? Адумайся!.. За два гады яна ад гарэлкі згарыць.

— А што ж рабіць, мама?

У ягоным голасе было нешта новае: зморанасць і безнадзейнасць.

— Кідай яе, сынок, кідай,— сказала яна, як нырнула ў халодную ваду.

Міхась, здалося, аж сцяўся, прыгорбіўся ад яе слоў. Яна чакала, што, можа, ён зазлуе, насварыцца на яе, а ён, апусціўшы галаву, глядзеў кудысьці пад стол, сядзеў не варушачыся, толькі дробненька торгалася правае калена. Потым ён марудна прыўзняў галаву, глянуў на маці. Хрысціна пабачыла ў ягоных вачах вінаватую разгубленасць.

— Не магу я кінуць яе,— сказаў ён і аж скалануўся.

Хрысціну агарнуў сорам: як яна магла штурхаць сына на такі ганебны крок?..

— Сыночак,— прачула загаварыла яна,— мне і самой шкада Любу. Так шкада, аж балюча. Таму і хочацца нешта параіць... Ты ўжо не крыўдуй, сыночак...

— Я не крыўдую,— супакоіў яе Міхась.— Мне і самому іншы раз хацелася на край свету з'ехаць: у тайгу, тундру, за тысячы кіламетраў ад людзей, каб толькі ўратаваць яе...

Хрысціну як хто падштурхнуў: божа, дык яна і сама пра гэта думала.

— Сыночак, пераязджай у Барсукі,— раптам прапанавала яна, хоць прапанова гэтая цяплілася ў яе з учарашняга дня.— Механізатары цяпер добра зарабляюць. Хата ў мяне, сам знаеш, не маленькая — месца хопіць. А стане цесна, дык пераселіцеся. У хроснай запуставала хата. Жывіце сабе. Можа, і Люба перастане піць.

Міхась надоўга задумаўся.

— Назад звароту няма,— нарэшце сказаў ён.— Дзеці не захочуць. Ды і сам я ў гарадскі асфальт урос.

У сынавых прастадушных словах не было ёй папроку, але Хрысціне падумалася, што Міхась усё ж упікнуў яе. Гэта яна «перасадзіла» Міхася з вясковай урobленай глебы на асфальт.

Забытае ўжо і пахаванае навекі раптам уваскрэсла ў яе памяці так свежа і ярка, нібы ўсё адбывалася ўчора.

Дай бог прыгадаць, у якім жа гэта было годзе? Міхась

тады хадзіў у восьмы клас Завольшанскай школы, дзе былі сельсавет, бальніца, школа, МТС, саўгас і невялічкая цагельня прамкамбіната. Значыць, было тое ў пяцьдзесят шостым... не, бадай, у пяцьдзесят пятым... Зрэшты, ці не ўсё роўна?

Яна тады рабіла цялятніцай. Дзеці к таму часу падраслі, памагалі па гаспадарцы, а калгаснае начальства патрабавала мінімуму працадзён — не выробіш, не дазволяць абкошваць кусты і аўражкі, а то і пазбавяць прысядзібнага ўчастка. Таму і пайшла цялятніцай: жывёлаводаў не крыўдзілі, а яшчэ і падтрымлівалі.

Рабіла яна адна. Другой цялятніцы не было: ахвотнікаў не знаходзілася. Памагаў ёй Халімон Гусак, стары гадоў за шэсцьдзесят, але боўдзіла, якіх свет не бачыў, ды яшчэ і ахвотнік да чаркі.

Халімон двойчы на дзень прывозіў у цялятнік корм, згружаў у прыбудоўцы, а ўжо Хрысціна разносіла яго па загарадках.

У той марозны ветраны дзень Халімон запіў з самае раніцы. Але ўранку яшчэ неяк прывалокся на ферму, хоць згрузіць корм і бітоны з малаком ужо не мог. Хрысціна сама разгрузіла воз. Пакуль накарміла ды напаіла цялят, надышоў час абеду. Трэба было падумаць пра вечар. На Халімона надзеі не было.

Не заглянуўшы нават дамоў, яна пабегла ў канцылярыю. Старшыня калгаса сядзеў у кабінеце ў паліто і шапцы, цягаў з шуфляд стала паперы і рваў іх на дробныя кавалкі. Рабіў ён гэта старанна, нібы адказную справу. Чорная бляшаная скрыня была поўная парваных папер.

На Хрысцініна прывітанне старшыня не адказаў. Не ўзнімаючы вачэй, спытаўся вялым голасам:

— Табе чаго?

— Халімон запіў,— адказала яна, даючы гэтым зразумець сур'ёзнасць справы, якая прыгнала яе ў кантору.

— А я тут пры чым? — старшыня выцягнуў з самай ніжняй шуфляды тоўстую шэрую папку, не зазірнуўшы нават у яе, шпурлянуў у бляшаную скрынку.

— Хай бы брыгадзір прызначыў каго на падвозку корму,— папрасіла Хрысціна, бо так ужо было заведзена ў старшыні, што спачатку трэба звярнуцца да яго, а ён ужо дасць распараджэнне брыгадзірам.

— Хай і прызначыць,— каб толькі адчапіцца ад яе, злосна сказаў старшыня.

— Самі ж завялі такое правіла, каб вас турбавалі, а цяпер яшчэ злуяцеся, быццам я вінаватая,— не сцярпела Хрысціна.

Старшыню як хто ўджаліў. Ён ускочыў з крэсла, перакуліў бляшаную скрынку, паддаў яе нагой — паперы павысыпаліся, а скрынка, грукочучы і падскокваючы, пакацілася ў далёкі кут, дзе на ўслоне стаялі снапы леташняга ўраджаю .

— Няма мяне!.. Няма!..— як апантаны закрычаў ён.— Усё!.. Знік!.. Растварыўся!.. Выпарыўся!..

Напалоханая і лямантам старшыні, і ягоным дзікім выглядам, Хрысціна выскачыла на калідор, забегла ў баковачку да рахункаводкі Сцепаніды.

— Што гэта са старшынёй? — спытала яна.— Зусім злюцеў...

— Дык жа з работы пагналі,— растлумачыла Сцепаніда.

Хрысціна кінулася шукаць брыгадзіра. Баялася, што абцямнее, тады давядзецца рабіць у цемры — электрычнага святла на ферме не было.

Брыгадзіры гулялі: ці то спраўлялі памінкі па былым старшыні, ці то пілі з радасці, што яго знялі. Яна зразумела, што цяпер ужо ніхто ёй не дапаможа, трэба выкручвацца самой.

Дамоў яна вярнулася позна. За сталом, пры керасінавай лямпе, сядзеў Міхась, вучыў урокі. Прымасціўшыся на ложку, Тоня чытала нейкую кнігу. Убачыўшы маці, загаварыла ўсхваляваным голасам:

— Мама, Мішка кажа, што бацька вяртаецца...

— Куды вяртаецца? — спытала Хрысціна.

— Яго старшынёй выбіраць будуць,— растлумачыў Міхась.

— А ты адкуль ведаеш?..

— Дык у сельсавеце казалі...

Хрысціна так і села на ўслон — раптам аслаблі ногі. Яе агарнула прадчуванне нейкай бяды, што непазбежна паселіцца ў хаце разам з Яўхімам, які цяпер будзе жыць тут не наездам, а пастаянна. Адкуль і чаго ўзнікла гэтае адчуванне, Хрысціна не разумела, але была ўпэўнена, што дабром Яўхімава старшынства не кончыцца; такое ўжо было.

Пасля вайны Яўхім сеў у старшынскае крэсла на пагарэлішчы. У іхні калгас тады ўваходзіла толькі адна вёска,

хутчэй назва яе, бо перад самым вызваленнем вясной сорак чацвёртага ад Барсукоў засталіся адны галавешкі.

За вайну Яўхім здорава змяніўся: памякчэў, паспакайнеў, навучыўся спачуваць людзям, а ягоная славутая жалезная непрымірымасць, здалося, адляцела следам за варожымі войскамі. Працавітасць, аднак, засталася. Яўхім, як і раней, мог рабіць, не спаўшы і не еўшы, суткамі.

Першыя тры пасляваенныя гады Яўхім кідаўся як заводны чорт. Выбіваў крэдыты на будаўніцтва, лес, цэглу, насенне, жывёлу, сякую-такую тэхніку, шкло, цвікі, гонту — усё, што патрабавалася, каб узняць з руін калгас.

Перад яго нахрапістасцю, магутным напорам не вытрымлівалі не толькі раённыя ўстановы, але і абласныя, рэспубліканскія і нават сталічныя, саюзныя.

За няпоўныя тры гады яму сапраўды шмат удалося. Былі злеплены хлявы для скаціны, па тым часе прасторныя, з каменнымі слупамі, з чарапічнымі дахамі, заснаваны ўсе фермы, як і належала тады, ад конегадоўчай да авечай, пабудаваны ток і свіран, вялікая паветка пад тэхніку і хата пад калгасную канцылярыю.

Адбудаваліся і калгаснікі, не раскошна — сціпла, але ж першымі ў раёне выбраліся з зямлянак. Яўхім памог людзям абзавесціся каровамі, свіннямі, а на другі год свайго старшынства, адмовіўшыся ад паслуг МТС і такім чынам збярогшы натуральную аплату трактарыстам, выдаў на працадзень і аванс: хлеб, бульбу, грошы.

Таму барсукоўцы і даравалі Яўхіму многія ягоныя грахі: запальчывасць, непамерную патрабавальнасць, скорую, а таму найчасцей несправядлівую расправу. Яўхіму нічога не абыходзіла заскочыць у хату да якой-небудзь непаваротлівай цёткі, якая не паспела ў час выпаліць печ і выйсці на працу, заліць агонь вадою або, яшчэ горай, памалаціць качаргой гаршкі з недаваранай стравай.

Яўхімава гаспадарлівасць тым часам не выклікала захаплення ў раёне, а ягоная ганарлівая незалежнасць, рэзкія меркаванні і выступленні супраць раённых кіраўнікоў на раённых і абласных нарадах, толькі множылі шарэнгі нядобразычліўцаў. У раёне падумвалі, як бы пазбавіцца ад такога нязручнага старшыні калгаса. Магчымасць такая неўзабаве паявілася.

У краіне загаварылі пра ўзбуйненне калгасаў. Раённае начальства тут жа праявіла зайздросную паспешлівасць: першым узбуйніла барсукоўскі калгас, а пад гэтай

маркай Яўхіма перавяло ў паляводы: маўляў, у таго няма належнай адукацыі, хоць яе не было і ў старшыні, якога паставілі на чале ўзбуйненага калгаса.

Яўхім перамог гонар, пайшоў у паляводы, але сцярпець новыя парадкі не мог. Па вечарах, начапіўшы на нос акуляры, ён садзіўся пры керасінавай лямпе, клаў перад сабой вучнёўскія сшыткі ў клетку, ставіў чарніліцу-невылівайку і пачынаў пісаць скаргі. Пісаў у вобласць, у Мінск, у Маскву, усім, хто меў хоць нейкае дачыненне да вёскі.

У раён і калгас зачасцілі камісіі. З работы прагналі спачатку аднаго старшыню, потым другога. А калі заявы пасыпаліся і на трэцяга, Яўхіма выклікалі ў раён, прыгразілі, але яму мала абыходзілі тыя пагрозы.

Мабыць, дрэнна закончылася б тая пісаніна для Яўхіма, ды некаму прыйшло ў галаву паслаць яго старшынёй калгаса — можа, супакоіцца.

Яму далі дабіты да ручкі суседні з барсукоўскім калгас «Маяк». Яўхім палічыў гэта за сваю перамогу.

Хрысціна ў «Маяк» не паехала. Там яшчэ бугрыліся па вёсках зямлянкі, а ў Барсуках была свая хата, гаспадарка. Куды і навошта кідацца ў свет, калі яшчэ невядома, чым кончыцца новае Яўхімава старшынства. Сарвіся з месца — будзеш споўдацца потым як Марка па пекле.

Яўхім як бы і ўзрадаваўся такому рашэнню жонкі. «І мне вальней будзе,— падвёў ён рыску пад іхняй размовай.— Лейцы там давядзецца нацягваць туга, а жонка ў такіх выпадках не памочніца. Будуць паказваць пальцамі, што я табе патураю, хоць ты ведаеш: са сваіх я патрабую больш». То была святая праўда.

Яўхім паяўляўся дома гады ў рады — не было часу,— нацягваў лейцы, ды, відаць, так моцна, што на пачатку лета пяцьдзесят трэцяга года яго вызвалілі ад працы за перавышэнне ўлады. Магло быць і горш, судзілі б, ды, мусіць, было не да Яўхіма — у той год адбылося шмат такіх падзей, што Яўхімава перавышэнне ўлады забылася. Увосень яго прызначылі дырэктарам цагельні — пасада, што ні кажы, гучная, але з дужа маленькай зарплатай.

Хрысціна па лёс не наракала. Гадавала карову з цёлкай, выкармлівала двух кабанчыкаў, мела курэй і качак, нават тры калоды пчол, каб мець свой мёд на лячэнне ў непагодлівыя дні восені і зімой. Яўхім, праўда, па гаспадарцы не памагаў, але грошай часам даваў, асабліва калі ў Хрысціны не хапала на падатак. Яўхім не цярпеў, што жонка ў сельсавеце лічылася нядоімшчыцай.

І вось, калі верыць Міхасю, Яўхім зноў вяртаецца ў калгас, і не радавым, а старшынёй: і радасна, і страшна. Навошта Яўхіму кідаць прывычную службу, вяртацца ў калгас, дзе за гэтыя гады так многа змянілася? Ды і баялася яна Яўхімавага кіравання. Бачыла, не сляпая, што Яўхім за гэтыя гады палюцеў, што цяперашнія калгасныя парадкі яму не падабаюцца. А што ён можа зрабіць, калі людзі прывыклі да іх, прызвычаіліся і неяк жывуць.

Можа, таму, каб пабачыць, як будзе трымаць сябе Яўхім на сходзе, Хрысціна і пайшла ў клуб.

Там было холадна і няўтульна. Мужчыны ў зале курылі, тупалі нагамі, каб сагрэцца, а над іхнімі галовамі плыло воблака пары і дыму. Людзей, здавалася, анічуць не кранала зборышча — прывыклі, каго б ні прывезлі, іхняя справа пасядзець, падняць рукі. За апошнія гады старшыні мяняліся амаль кожны год, людзі не паспявалі нават запамінаць, каторага як звалі.

Прадстаўнік з раёна, нейкі малады зух з чорным густым чубам, перасыпаючы сваю прамову жартамі і прымаўкамі, як перцам, сказаў, што калгаснікі лепей, чым ён, ведаюць кандыдата на пасаду старшыні, бо Яўхім Захаравіч тутэйшы і ўсе, хто прыйшоў на сход, мусіць, з'елі з ім не адзін пуд солі, прагаляючы смагу не толькі крынічнай вадой.

Жарт мужчыны не падтрымалі смехам, і прадстаўнік раёна адразу ж спытаўся, якія ў каго будуць наконт новага старшыні прапановы?

Двое зараней падрыхтаваных праўленцаў папрасілі слова, сталі хваліць Яўхіма, як той заляжалы тавар.

Слухалі іх з усмешкай і ціхім, напаўшэпт, пад'ялдыкваннем — усе ведалі, што абодва праўленцы спачатку наадрэз адмовіліся выступаць, а потым, паразважаўшы, пагадзіліся і цяпер не шкадавалі пахвал — грошы за іх плаціць не трэба.

Калгаснікі дружна паднялі рукі і, не чакаючы, пакуль прадстаўнік спытае, ці ёсць хто супраць або ўстрымаўся, запляскалі ў далоні.

— Аднагалосна,— аб'явіў прадстаўнік і даў слова Яўхіму.

«Навошта яму гаварыць? — падумала Хрысціна.— Яго і праўда ўсе ведаюць як аблупленага... Вот жа нагаворыць абы-чаго...»

Яна перажывала за Яўхіма, як некалі ў маладосці. Хацелася, каб ён сказаў нешта разумнае, што спадабалася б

усім, і баялася, што Яўхім ляпне якую-небудзь дурноту, з якой пасля будуць скаліць зубы.

Яўхім нетаропка выйшаў з-за стала, стаў на самы краёчак сцэны, пазыбаўся на насках фетравых ботаў, аблямаваных жоўтай скурай, глянуў у залу цяжкім і, як здалося Хрысціне, змораным позіркам. Ёй нечага стала шкада яго. Можа, ён рады, што скончылася ягонае тулянне па чужых кутках, споўданне за шэсць кіламетраў дамоў і з дому, яда ўсухамятку. Хрысціна, хоць і не прызнавалася нікому, лічыла, што з Яўхімам учынілі расправу, што, можа, ён не так ужо і вінаваты.

— Рана пляскаеце, шаноўныя мае землякі,— сказаў Яўхім, нібы шпурлянуў у залу жменьку жарствы.

Многія прынялі гэта як жарт, а таму адказалі таксама жартам:

— Гэта аванс, на другі не спадзявайся — у касе ні капейкі...

Яўхім пільна зірнуў у залу, як бы хацеў разгледзець жартаўніка. Але не разгледзеў.

— Я не дужа зручны для тых, хто і далей думае на шармачка ехаць. Хопіць, наездзіліся! — Яўхім наўкось, як сякерай па сухім дрэве, секануў марознае паветра шырокай далоняй, і гэты ягоны дужа выразны жэст адразу сцішыў вясковых гаваруноў, нібы ў іх перахапіла дыханне.— Людзі, моцна пабраўшыся за рукі, дружна ідуць у светлую будучыню — камунізм, а вы?.. Мне сорамна за вас, барсукоўцы і другія таварышы з навакольных вёсак... Вы застылі на месцы, аберуч трымаючыся за каровіны і свінячыя хвасты, за свае соткі і другую ўласнасць. Ганьба, кажу я вам, і не намераны ні аднаго дня цярпець такую адсталасць і несвядомасць, як па частцы дысцыпліны, так і па частцы прыватнай уласнасці, якая з'яўляецца прычынай усіх нашых недахопаў. Зразумела я выказаўся, дарагія таварышы, ці патрабуецца каму дадатковае тлумачэнне?..

Яўхім спытаўся такім голасам, што ніхто не адважваўся выставіць сябе перад народам гэткім недарэкам, які нічога не разумее. У зале маўчалі, а Яўхім, цешачыся з гэтай нясмелай цішыні, стаяў на краёчку сцэны, звысоку пазіраў у залу, як бы кажучы сваім аднавяскоўцам: «Ну, зразумелі, што я не жартаваць сюды прыйшоў?»

Маўчанне цягнулася надакучліва доўга, аж у некага не вытрымалі нервы, і ён спытаўся дрыготкім голасам:

— Дык, можа, цяпер і печы ў хаце не патрэбны?..

Нехта з маладзейшых фыркнуў, не стрымаўшыся, каб

не рагатнуць, ды пабаяўся зарагатаць ад душы. Яўхім пастараўся разгледзець, хто там спытаўся наконт печаў, але, відаць, не разгледзеў, бо зноў секануў паветра далоняй:

— А і не патрэбны будуць, бо замест старых чадных печаў правядзём паравое ацяпленне, як гэта робяць у горадзе...

Цяпер ужо нехта, не баючыся, крыкнуў:

— А есці варыць дзе будзем?

— А нідзе,— адказаў Яўхім, цешачыся сам са свайго загадкавага адказу, які збянтэжыў людзей.— Нідзе,— паўтарыў ён, каб не падумалі, што жартуе,— бо мы адкрыем у калгасе сталовую, кафэ і бар. Прыхадзі туды, выбірай яду па смаку, пі і еш, не думаючы, што трэба мыць талеркі і міскі, што трэба нешта з прадуктаў купляць назаўтра і тупаць каля печы, познячыся на работу... Адным словам, мы перавярнем наш быт, як казаў Карл Маркс, грунтоўна, на ўсе сто градусаў...

Заява Яўхіма выклікала вясёлае ажыўленне, пэўна, таму, што людзі не далі яму веры. Ды і сама Хрысціна, седзячы на задняй лаўцы, падумала: «Не маладзён ужо, час бы па-сталаму пагаварыць з народам, а ён казкі расказвае, як бывала...»

Ужо лежачы на шырокім ложку з нікеліраванымі спінкамі, аздобленымі бліскучымі шышкамі, Хрысціна асцярожненька, бо ведала Яўхімаву нецярпімасць да розных парад, сказала пра тое, што занепакоіла яе:

— Навошта ты пра кафэ ды бары плёў? Мы каторы год на працадзень амаль нічога не палучаем... Паабяцаў бы людзям аванс за харошую работу... А ты пра кафэ...

— Таму і на працадзень не палучаеце, што кавалак зямлі каля сваёй хаты вам даражэй за калгаснае поле,— не задумваючыся, быццам чакаў гэтай размовы з жонкай, а таму добра ўсё ўзважыў, жорстка адказаў Яўхім.— Сваёй кароўцы вы гатовы корм саваць і ў рот і пад хвост, а грамадскую скацінку пасвіць няма каму. Во да чаго давяла вас праклятая ўласнасць!.. Не было б гэтых каровак, цялятак, кабанчыкаў, курачак ды качак, пабеглі б як міленькія на калгаснае поле, каб зарабіць на працадзень, а не азірацца на свой участак... Таму і дам я вашай гэтай прыватнай уласнасці рашучы і бязлітасны бой. Да вясны адбяру гэтыя забаўкі, каб не шкодзілі калгаснай справе.

— Яўхім, не рабі гэтага,— аж падхапілася Хрысціна.— Парадкі наводзь, а каровак, кабанчыкаў не кранай. Як жа людзі жыць будуць?..

— Заела цябе прыватная ўласнасць,— з непадробным жалем сказаў Яўхім.— Але нічога, палову вашай мужыцкай свядомасці мы вытрахнулі, калі стваралі калгасы, цяпер настаў час вытрасці і астатнюю палову, іначай нам хана, і ўсё, што рабілася, сабаку шалудзіваму пад хвост...

Мусіць, палічыўшы, што далейшая размова з жонкай ні да чаго не прывядзе, Яўхім павярнуўся на бок, нацягнуў на галаву коўдру.

Хрысціна так і праляжала да першых пеўняў — сон адступіў, нібы Яўхім сваімі размовамі прагнаў яго чортведама ў якую далячынь...

Як і ў першыя пасляваенныя гады свайго старшынства, Яўхім зноў без продыху бегаў па розных установах, але цяпер прыязджаў дамоў не вясёлы і ўзбуджаны, а раздражнёны, злосны і зацята маўклівы. Тая партызанская хватка, што некалі памагала яму, цяпер нават замінала: Яўхімава настырнасць выклікала ва ўстановах рашучы адпор і абсалютнае неразуменне Яўхімавых просьбаў і дамаганняў.

Пацярпеўшы паражэнне з выбіваннем розных даброт на патрэбу калгасу, Яўхім увесь пал скіраваў на калгасныя справы.

Ранняй вясной, як толькі абсохлі пагоркі і па іх важна задыбалі гракі, Яўхім павёў наступленне на калгасніцкія гаспадаркі. Пачаў ён яго па сваім правіле: найперш сагнаў са двара ўласную карову з цялушкай.

Нічога яшчэ не ведаючы, Хрысціна вярнулася з цялятніка, зайшла на двор, пабачыла разяўлены дзвярыма хлеў і аж спалохалася: мусіць, Тонька не зачыніла дзверы, карова з цялушкай збеглі ў поле — цяпер шукай іх.

Тонька была дома. Яна першая і паведаміла пра бацькаў учынак. Яшчэ ніколі Хрысціна не была так абурана, як цяпер: прыйшоў на ўсё гатовенькае — і на табе, распараджаецца, быццам ён гадаваў гэтую карову, быццам чакаў ад яе цялушку? Самой усё трэба было рабіць: і сена касіць, і цягаць яго на сабе. Грошай і то не даў, каб прыкупіць корму карове. А цяпер распараджаецца. Чужой працы яму не шкада. Прывык да таго, што адну палу пад бок, а другой прыкрыўся, і ўвесь клопат. А што заўтра дзецям даць есці, яго мала турбуе. Кафэ!.. Дзе тое кафэ?.. Ды і за якую трасцу туды пойдзеш?.. З таго ж малачка, з сала грошы на базары возьмеш, каб купіць чаго адзець. Дык ён апошнюю надзею адбірае...

Хрысціна кінулася на ферму. Там сабралася ці не па-

лова вёскі. Халімон Гусак сядзеў на драбінах без перадка, часаў языком, як мельнікава сучка хвастом.

— Ой, людцы, добра кажучы, гэным якая раскоша настала: ні табе клопатаў пра корм гэтай абжоры з рагамі, ні табе думак, што ёй, праклятай, пад бок кінуць, ні табе патрэбы недзе адшукаць ухажора сваёй кароўцы. Ды я, добра кажучы, такой жызні даўно чакаў і з душэўным лікаваннем адвёў кароўку на ферму. Няма чаго ёй у адзіноце пакутаваць, ды ўсё роўна з яе малака, як з таго казла воўны. Яшчэ летась дзве сіські ўсохлі, а Яўхім Захаравіч, дай бог яму здароўя, абяцаў два гады запар выдаваць мне па літру малака кожны дзень у кошт зданай кароўкі...

Хрысціне надакучыла слухаць Халімонаву балбатню.

— Дзе мая карова? — спытала яна, хоць і ведала, што тая стаіць у хляве — дзе ж яшчэ?

Халімон адчуў нядобрае ў пытанні старшыніхі. Борздзенька саскочыў з драбін, стаў у дзвярах, загароджваючы дарогу ў хлеў. З аднаго боку, у яго быў найстражэйшы загад Малінца нікога не пускаць на ферму, з другога — перад ім стаяла сама старшыніха, а не абы-хто.

— Максімаўна,— як можна далікатна папрасіў ён Хрысціну,— не дуры. Вы з мужыком разберацеся, а мне наганяй будзе, паколькі я, добра кажучы, адказны за гэты хлеў і скацінку, якая стаіць у ім.

Хрысціна рашуча адштурхнула Халімона, зайшла ў хлеў. У праходзе з загарадак відаць былі толькі каровіны зады, але Хрысціна адразу пазнала сваю Субоху. Пайшла да яе, чуючы, як следам дыбае Халімон. Ёй было напляваць на яго. Хрысціна падышла да Субохі, пагладзіла яе па гладкім, аж бліскучым крыжы. Карова пацягнулася да гаспадыні чорнай пысай, узрадавана замычала, нібы скардзілася, што вось так з ёй абышліся.

Хрысціна адвязала тонкі ланцужок ад слупка, павяла Субоху па праходзе. Халімон адступаў, баючыся, што Хрысціна, чаго добрага, можа чым папала аплявушыць.

— Максімаўна, добра кажучы,— прасіў ён,— хоць ланцужок пакінь, усё ж ён — калгасная маёмасць...

Загнаўшы Субоху ў хлеў, Хрысціна начапіла замок на дзверы, а ключ паклала ў кішэню ватоўкі. Хай цяпер Яўхім пацалуе ў прабой!.. Знайшоўся разумнік!.. Дык жа і яна не лыкам шытая...

Хрысціна думала з тым ваяўнічым настроем, які бываў у яе дужа рэдка. Яна была памяркоўнай, сціплай, аж

занадта. Забраўшы карову з фермы, Хрысціна проста падбадзёрвала сябе, бо ведала, будзе шмат грукату.

Яўхім, пачуўшы пра жончын учынак, прыбег дамоў злосны, як д'ябал. Найперш ён кінуўся да хлява і, угледзеўшы замок на дзвярах, пабег шукаць якую жалязяку, каб зламаць яго. Але нічога не знайшоў і тады зусім страціў раўнавагу.

Ён уляцеў у хату, закрычаў чужым раз'юшаным голасам:

— Ключ!..

У куточках ягоных вуснаў закіпала белая пена. Хрысціна аж спалохалася. Нядаўняя ваяўнічасць троху паслабла, але не зусім пакінула яе.

— А во табе,— выставіла яна дулю.— Вядзі сваю карову, а маю з дзецьмі не чапай...

Мусіць, Яўхім адчуў, што лабавой атакай жонку не пераможаш.

— Тэ-эк,— сказаў ён і сеў пры стале.— Тэ-эк!..

— А ты што думаў? — агрызнулася Хрысціна.— Я табе не Халімон Гусак...

— Бачу, што не Халімон,— азваўся Яўхім.— Гэта ж нада!.. Былы кулацкі падбрэхіч цяпер аказаўся больш свядомы за былую камсамолку і актывістку.

— Якім быў падбрэхічам, такім і застаўся,— адмахнулася Хрысціна.— Яму, гэтаму няўклюду і гультаю, усё адно каму падбрэхваць...

То была праўда. Яўхім і сам ведаў цану Халімону, таму зрабіў выгляд, што не пачуў жонкі. Дастаў пачак «Беламору», закурыў. І ўжо зусім спакойна загаварыў:

— Ты мяне, Хрысціна, ведаеш, я ад свайго не адракуся і не адступлю. І каровак у калгасны статак усё роўна здадуць, калі не цяпер, дык у чацвер, бо дзе вы іх пасвіць будзеце? На сваіх сотках?.. Дык яны малаватыя. А зіма прыйдзе, чым карміць карову?.. Пакуль калгаснаму статку не нарыхтую сена, сабе касіць нікому не дазволю. Ды і пасля пагляджу, ці трэба дазваляць. Будзеце вы, каторыя несвядомыя, яшчэ прасіць у мяне, каб узяў вашу кароўку на ферму, ды не вазьму...

Вось гэты спакойны, без крыку, тон выбіў з Хрысціны рэшткі ваяўнічасці. Яна ведала — Яўхім слоў на вецер не кідае.

— Не маеш права! — адчуваючы сваю бездапаможнасць перад ягонымі нягнуткімі, жорсткімі довадамі, у

роспачы крыкнула яна.— Ніхто не адмаўляў права на карову, свінчо, агарод. Ніхто!.. А ты самавольнічаеш...

Яўхім усміхнуўся так, як ён умеў, калі адчуваў сваю правату і неправату тых, хто з ім спрачаўся,— здзекліва, але як бы і са спачуваннем, маўляў, шкада мне цябе, хоць ты і не варта таго, каб цябе шкадавалі.

— Маю права, маю,— пераконана сказаў ён.— І во што, Хрысціна, зараз жа адвядзі карову на ферму, бо ўчынак твой — бабская дурнота. На, прачытай,— ён працягнуў ёй нейкую паперыну.

Нечага баючыся, Хрысціна разгарнула яе. То быў акт на куплю-продаж Субохі ў грамадзяніна Малінца калгасам «Зара».

Ёй стала смешна са свайго страху: пужаная варона і куста баіцца.

— Ну і што з таго? — спытала яна.

— А тое, што ты не сваю карову вывела з калгаснай фермы, як табе здаецца, а грамадскую. Значыць, украла...

— Украла?..

— А ты як думала? — спакойна адказаў Яўхім.— Украла і па закону ты злачынца, на якую я павінен заявіць у міліцыю. Прыедзе міліцыя, знойдзе карову ў тваім хляве. Што будзе?.. Суд... І дадуць табе ад трох гадоў да пяці. А карову вернуць калгасу як і належыць, бо ў канторы ёсць вось гэты самы акт, складзены па ўсіх правілах. Можаш мне паверыць...

Хрысціна і верыла, і не верыла сваім вушам. Разумела, што Яўхім здольны і на такое. Яна яшчэ, можа, троху і паўпарцілася б, ды тут раптам у іхнюю дарослую спрэчку ўлез Міхась.

— Мама, аддай карову, аддай, іначай я збягу з дому,— зацята сказаў ён, дашчэнту напалохаўшы Хрысціну.

Яна выхапіла з кішэні ключ, кінула яго Яўхіму.

Яўхім не пакрыўдзіўся, ключ падняў.

— Міша,— папрасіў сына,— адвядзі карову. Мне як бы і няёмка...

Міхась, на здзіўленне Хрысціны, пакорліва ўзяў ключ, накінуў на плечы ватоўку, нахлабучыў шапку, выйшаў з хаты.

Вось тады Хрысціна і паклялася страшнай клятвай — чаго б там ні каштавала, выправіць дзяцей у горад.

«Чаго яны тут дачакаюцца? — горка думала яна.— У кожнага старшыні свае законы, свае парадкі, паспрабуй прынаравіся да іх. Ды і якое жыццё на вёсцы? Мала

таго што з ранку да вечара корпаешся ў гразі ды брудзе, дык яшчэ цябе і папіхаюць, ніякай табе павагі і ўвагі. За адзін год саду не вырасціш, жывёліну не выгадуеш. А вось такі Яўхім у адзін момант можа і сад высекчы, і кароўку забраць, і нічога ты яму не скажаш. Ён табе так насоліць, што навек будзеш помніць. Ні сена не дасць адкасіць, ні дроў прывезці. Каму паскардзішся? А хоць і паскардзішся. Ну, аднаго разу паківаюць яму пальцам, а ён табе кожны дзень будзе помсціць. У горадзе другія парадкі. Там ты сам сабе гаспадар, хоць і ніякай у цябе гаспадаркі няма. І вялікае начальства побач. Можна да яго схадзіць, праўду даказаць. У горадзе жызня спакойная, на трывалым грунце, а тут, як на пяску,— усё плыве, а куды?.. Канечне, Міхась па сваім характары больш прыгодны для вёскі. Але нічога, паўпарціцца, а сам жа сваю выгаду зразумее».

Міхась вучыўся добра, з сёмага класа цягнуў на залаты медаль. Песціў у сабе да смешнага наіўную надзею: вывучыцца на астранома. Хрысціна ведала пра ягоную гэтую мару, але разважала па-свойму, з вясковай практычнасцю. Дзе ён, той інстытут, што вучыць на астраномаў? Ды і ці паступіць у яго хлапчук з глухамані? А яшчэ горш, калі ўскінецца Яўхіму на розум не адпускаць маладых на вучобу. Было ж некалі такое: у газетах пісалі, што ніхто не мае права затрымліваць выпускнікоў школ, якія хочуць вучыцца далей, а старшыня калгаса не даваў даведкі. Без даведкі ж з калгаса заявы ў тэхнікумы і інстытуты не прымалі. Цяпер ад Яўхіма можна ўсяго чакаць. За два гады, якія засталіся да заканчэння школы, ці мала вады ўцячэ. Таму, пакуль не позна, трэба, каб Міхась ішоў у любы тэхнікум; нечага выдумляць: тое па мне, а гэта не па мне.

Яўхім і сапраўды ўзвіўся, калі пачуў, што Хрысціна выпірае сына ў горад на вучобу. Крычаў: «Не псуй яму біяграфію. У яго, можа, сваё прызванне. Можа, ён захоча ў калгасе застацца. У яго тут прасторная дарога. У калгасах цяпер вучоныя людзі на вагу золата».

Горай было тое, што Міхась нечага адмоўчваўся. Ні за маці, ні за бацьку не выступаў. «Нейтрал»,— як казаў Яўхім.

У сварках і калатнечы прамінулі два месяцы. А калі нарэшце перамагла Хрысціна і Міхась схіліўся на яе бок, было позна, прыём заяў у тэхнікумы спыніўся. Міхась, здалося Хрысціне, узрадаваўся. Але шчасце тады было на

яе баку. Хрысціпіна сястра Вера, гарадская, за міліцэйскім капітанам замужам, напісала, што аўтатэхпікум аб'явіў дадатковы набор. Так Міхась і апынуўся спачатку ў тэхнікуме, а пасля майстрам на аўтабазе, а потым і таксістам — таксісты зараблялі больш, як майстры, а ў Міхася адзін за адным паявілася трое дзяцей. Трэба было думаць пра заробкі...

Кавалачак жыцця прамільгнуў перад Хрысцінай, як бліскавіца ў жнівеньскую цёмную ноч — ярка, да болю ў вачах.

— Будзем класціся спаць,— сказала яна.— Заўтра хачу да Антаніны заскочыць. Як яна там? Даўно бачыў яе?

Міхась нечага папярхнуўся, закашляўся.

— Даўно,— з нейкай натугай адказаў ён.

— Што ж вы?.. Брат і сястра, бліжэй радні няма...

— Мы з ёй у контрах,— прызнаўся Міхась.

— У якіх контрах? — не зразумела Хрысціна.

— Не ладзім з ёй... Кантакту няма, як у зажыганні, калі яно псуецца.

Міхась не спяшаючыся падняўся, даючы зразумець маці, што не хоча гаварыць пра сястру.

## 8

Ноччу Хрысціна ніяк не магла заснуць. Растрывожаная памяць і загадкавыя словы Міхася пра Антаніну выклікалі прадчуванне яшчэ нейкай бяды, што чакае яе ў дачкі.

За сценкай, у спаленцы, гаманілі Міхась з Любай. Часам Хрысціна прыслухоўвалася да іх галасоў. Яны то цяклі двума ручайкамі — адзін, як па каменьчыках, другі, нібы па чароце,— то зліваліся разам: Міхась з жонкай сварыліся, і, здаецца, моцна, хоць і стараліся, каб ніхто не пачуў. На думку Хрысціны, у сварцы перамагала Люба. Гэта выклікала ў Хрысціны незадаволенасць.

«У Міхася не было і няма характару,— думала яна.— Што Любка захоча, так таму і быць. Каб хто другі, дык на шворцы завёў бы жонку ў бальніцу, прымусіў лячыцца, Любка распусцілася. Управы няма».

Хрысціна, як бывала, калі яна адчувала сваю бездапаможнасць, думала ваяўніча, хоць яшчэ зусім нядаўна Міхасёва вернасць жонцы кранула яе. Яна такога не зведала. Яўхім, дзеля нейкай справы, мог ахвяраваць і ёю, і дзецьмі.

Хрысціне было шкада сына, але яна не ведала, як дапамагчы яму. Таму і паяўлялася ў яе вось гэтая ваяўнічасць. Чамусьці думалася нават, што Люба вінаватая і ў тым, што брат «у контрах» з сястрой. Чаму Антаніне варагаваць з Міхасём? Колькі Міхась зрабіў, каб Антаніна кончыла інстытут. Каб не ён, можа, у Антаніны зусім паіншаму склаўся б лёс. Толькі Люба магла пасварыць сястру з братам.

І зноў жа Хрысціна вінаваціла нявестку найбольш таму, што не дужа любіла яе. Разумела, у адносінах да Любы яна не зусім справядлівая, але нічога не магла парабіць з сабой. Так скаліся абставіны не цяпер, а даўно, калі Міхась толькі надумаў жаніцца. Хрысціна не хацела такой гарадской нявесткі, ды яшчэ без адукацыі, у якой, апрача гарадской пыхі і дурнога пасміхання з вясковых людзей, нічога не было. Прадаўшчыца!.. Скажы каму на вёсцы, засмяюць: што Міхасю лепшай у горадзе не дасталося, з махляркай ажаніўся. Гэта потым прадаўшчыцы ўзняліся ў цане, усё могуць дастаць, усё купіць, бранзалеткамі абчэпяцца — блішчаць, дурням на спакусу. А тады, калі Міхась жаніўся, да прадаўшчыц ставіліся без павагі, з пагардай — нахабкі, махляркі, грубіянкі, каго хочаш аблаюць, ашукаюць. Лепей падалей ад іх.

Хрысціна заснула незаўважна. А калі прачнулася, дык сумелася: здаецца, не спала, бо ўсё яшчэ былі чуваць галасы Міхася і Любы, але ўжо не прыглушаныя, а гучныя і вясёлыя, ды і далятаці яны як бы і не з-за сцяны, а з калідора ці, можа, з кухні.

Адзеўшыся, Хрысціна заглянула на кухню. Там, за сталом, сядзелі трое. Пілі чай. Міхась першы заўважыў яе, бо сядзеў тварам да дзвярэй.

— Во і мама прачнулася,— з нейкай, як падалося Хрысціне, радасцю паведаміў ён сыну і жонцы.

Юрка з Любай павярнуліся. Юркаў тварык аж ззяў ад нейкага шчасця. На Любіным — ляжаў адбітак доўгага запою: пад вачамі — чорныя кругі, у вачах — мітуслівая вінаватасць і толькі на сасмяглых, бяскроўных вуснах блукала баязлівая ўсмешка.

Люба падхапілася, як вінаватая, стала запрашаць Хрысціну за стол.

— Пачакай, хоць вочы прамыю,— стрымала яе Хрысціна.

Люба ўзялася дапамагаць. У яе дробна дрыжалі рукі, а рухі былі рэзкія, мітуслівыя, ды і ўся яна неяк тор-

галася, аж Хрысціне было не па сабе, а ў грудзях балюча варушыўся жаль: як можа пашкодзіць сабе чалавек!..

Вясёлае ажыўленне, што панавала на кухні, пакуль туды не заявілася Хрысціна, знікла. Міхась з Юркам моўчкі дапівалі чай.

Хрысціна выцерлася не дужа чыстым ручніком. Юрка адразу ж саступіў ёй сваё месца за сталом, пайшоў у пакойчык рыхтаваць урокі. Люба паклала на талерку прасянай кашы, падсунула распачаты пачак масла — бяры, свякруха, сама па густу. Хрысціна адшчыкнула кавалачак масла, паклала ў кашу. Яна адчувала сябе дужа скавана, няўтульна, нібы сядзела за сталом не ў сына, а ў чужых людзей. Можа, гэтае адчуванне было таму, што Хрысціна адвыкла снедаць у кампаніі, ды яшчэ такой, якая паснедала і сядзіць за сталом з ветлівасці, па прынуцы. Прасяная каша, якую так любіла Хрысціна, чамусьці не лезла ў горла.

Хрысціне захацелася ў Барсукі, у сваю хату, дзе ўсё знаёмае, блізкае, дарагое, дзе пануюць лагоднасць і цішыня.

Божа, куды і чаго я надумала зрывацца з наседжанага месца, уцякаць ад дабра — каб напаткаць калатнечу, чужое, незразумелае жыццё нейкі іншы яго ўклад, да якога яна наўрад ужо ці прывыкне.

— Дык ты, мама, мусіць, не так сабе прыязджала? — перапыніў яе журботныя думкі Міхась.

Яна нават здрыганулася, хоць і чакала гэтага пытання яшчэ ў першы вечар, калі сядзелі з Міхасём без святла, пры тым, што адсвечваў горад. Не мог жа Міхась не здагадацца, што абы-чаго не кідаюць на чужых людзей гаспадарку, едуць за няблізкі свет. Але тады Міхась чамусьці не спытаўся, чаму яна прыехала. Можа, і цяпер не спытаўся б, ды падбіла Люба? Жанчыны заўсёды больш здагадлівыя, як мужчыны...

— Цябе сёлета не бачыла, дык засумавала, захацелася паглядзець, як жывяце. А тут нагода надарылася. Дзяўчаткі-студэнткі, што на бульбу прыехалі, у мяне кватаруюць. Кажуць: едзь, цётачка, мы за гаспадаркай прыгледзім...

Міхась, здаецца, паверыў у гэтую, падобную на праўду, хлусню, а Люба засумнявалася. Яна зірнула на Хрысціну палахлівым позіркам неспакойных вачэй і, як бы засаромеўшыся свякрусінай бяскрыўднай хлусні, адвяла вочы ўбок.

«Так і ёсць,— падумала Хрысціна,— Люба падбіла Міхася спытаць, чаго я прыехала. Сам ён не здагадаўся».

Ёй стала крыўдна, што сын аказаўся няўважлівым. Яна і не заўважыла, калі ён стаў такі. Маці на старасці пяклуецца адна ў вёсцы. Іншы сказаў бы: чаго табе там карпець, пераязджай да мяне. Я і сама не пераехала б, але ж як прыемна пачуць, што сын кліча цябе да сябе! Старому чалавеку і слова пяшчотнае дарага...

— Вы ўжо даруйце, мама,— праз сілу сказала Люба.— Мне так сорамна перад вамі. Прыехалі, а я, як тая свіння, напілася... Я разумею, вам адной і цяжка, і сумна...

«Ну во, Любка і прызналася! Здагадалася, што яна, Хрысціна, прыехала, каб прымерацца да іхняга жытла, а потым сесці на іхні карак. Здагадалася, але ж не сказала: заставайся ў нас! Ну, дык яна — нявестка, ды і п'е, а таму не хоча, каб была яшчэ сведка яе запояў».

— Лячыцца табе, Люба, трэба,— сказала Хрысціна з рашучасцю чалавека, якому ўсё роўна, як паглядзяць на ягоную параду.

— Трэба,— пагадзілася Люба.— Але ж так не хочацца, каб вы толькі ведалі. Мяне на работу ў палатку ад магазіна ўзялі. У панядзелак на працу выходзіць трэба...

Люба з надзеяй паглядзела на Хрысціну, нібы свякруха павінна была вырашаць, што ёй рабіць: ісці лячыцца ці станавіцца ў тую палатку, каб гандляваць гароднінай. Хрысціну нібы скалоў гэты няўмольны позірк.

«Чакай, так я табе і паспагадаю. Ты толькі і чакаеш, каб нехта патураў табе»,— падумала яна і з нечуванай жорсткасцю сказала:

— Ты вось што, Люба, не давай сябе паблажкі. Работа не ўцячэ, а ты, глядзі, каб не дакацілася да белай гарачкі...

Міхась напяўся ўвесь, гатовы абараняць жонку.

— Згадзілася яна на лячэнне... Пойдзе,— таропка паведаміў ён, як бы запрашаючы не прадаўжаць непрыемную яму размову.

Люба чамусьці здрыганулася, па яе спіне прабеглі дробныя дрыжыкі.

— Мамачка,— з нейкай адчайнасцю ў голасе крыкнула яна,— каб вы ведалі, як я баюся ўколаў! Яны заб'юць мяне, я не вытрымаю...

Хрысціне падумалася, што Люба зараз залямантуе, выкіне нейкую шаляніну, але тая раптам абмякла, толькі вочы яшчэ крыху памітусіліся, але і яны застылі, пабляк-

лі. Здавалася, Люба канчае рахункі з жыццём, якое яе зусім не хвалюе,— такой спустошанасцю і бязвольнасцю павеяла ад яе прыгнечанай і нейкай бязважкай постаці.

Хрысціне захацелася махнуць на ўсё рукой: рабіце як знаеце! Але нешта і супраціўлялася ў ёй, падштурхоўвала не апускаць рукі.

— Пра што ты кажаш, Люба,— горача, каб заглушыць у сабе слабасць, загаварыла Хрысціна.— Падумаеш, уколы!.. Мяне вунь колькі калолі, як на запаленне лёгкіх хварэла. Трэба пацярпець, не маленькая. Што ж рабіць, калі не можаш сама сябе перамагчы. Во паснедаем ды і пойдзем у дыспансер...

Яна і сама здзівілася, чаму так лёгка ўзваліла на свае плечы гэты клопат. Ёй жа да Антаніны трэба, а яна ляпнула, як чорт за язык пацягнуў.

— Ой, як добра, мама, што вы з ёй пойдзеце! — узрадаваўся Міхась.

«Глянь ты на яго — рады спіхнуць на мяне жонку»,— падумала Хрысціна.

— Усе трое пойдзем,— удакладніла яна.

Да дыспансера яны даехалі на аўтобусе хвілін за дзесяць. Хрысціна заходзіла ў дыспансер, як да сябе ў хату. А зайшоўшы, разгубілася: ёй хацелася трапіць да таго маладога доктара з рэдзенькай бародкай, які ўчора раіў ёй прывесці нявестку на лячэнне. З тым доктарам хоць можна пагаварыць па-чалавечы.

Але дзе яго шукаць? Каб хоць ведала прозвішча ці імя... Бянтэжыла і другое: сёння на калідоры нікога не было, у кабінетах таксама глуха. А што, калі сёння дыспансер не працуе? Лічы, што ўсё дарэмна — і размовы, і ўгаворы, і дарога сюды.

Люба з Міхасём, як зайшлі ў калідор, як сталі ў парозе, так і не зрушылі з месца. Разгублена і нават спалохана азіраліся. «Як дзеці, што нашкодзілі,— падумала Хрысціна.— Без мяне яны і да дыспансера не дайшлі б, вярнуліся б з дарогі».

— Пачакайце мяне тут,— загадала яна ім, дзівячыся з іхняй нясмеласці.— Садзіцеся і чакайце. На тое і крэслы пастаўлены, каб на іх сядзець...

Міхась з Любай паслухаліся, селі. Хрысціна падышла да тых дзвярэй, дзе ўчора засядалі ўсе трое дактароў. Яны былі замкнуты. Тады Хрысціна скіравала да другіх. Адчыніла іх, і... во дзіва — за сталом сядзеў патрэбны ёй малады доктар.

— Добры дзень,— узрадаваная, што ўсё так проста атрымалася, павіталася Хрысціна.

— Вы да мяне? — спытаў доктар, яўна не пазнаючы Хрысціну.

— Ага, да вас,— сказала Хрысціна, ідучы да стала.— Учора я ў вас была, і вы мне яшчэ параілі прывесці сюды нявестку...

Цяпер доктар пазнаў яе.

— Ну, як жа, як жа... Прывялі?..

— На калідоры чакае... І муж яе там... Сын мой...

— Хай заходзяць,— дазволіў доктар.

Не чуючы пад сабой ног ад радасці, што так ёй пашанцавала, Хрысціна выбегла на калідор, глянула на крэслы і ледзь не самлела — крэслы пуставалі.

Няўжо збеглі? Толькі ж на хвілінку пакінула. Ну і народ! Хай Люба, яе можна зразумець. А Міхась?.. Што яны, здзекуюцца?.. Але ўцячы далёка не маглі...

Хрысціна кінулася на вуліцу. Не, дзякуй богу, не ўцяклі! Міхась, прысланіўшыся да слупа, курыў, а Люба, панура апусціўшы галаву, сядзела на бар'ерчыку ганка.

— На дачакаўся,— накінулася Хрысціна на сына.— Проста гора з табой. Чалавек вас чакаць павінен...

Міхась ніяк не хацеў расстацца з цыгарэтай. Зацягнуўся раз, другі, трэці на ўсю магутнасць, кінуў недакурак за ганак, пайшоў у памяшканне. Хрысціна ўзяла Любу пад руку, нібы цяжкахворую, павяла да доктара.

— Сядайце,— сказаў доктар Любе, дужа ўважліва прыглядаючыся да яе.— Даўно ў вас?..

— Даўно,— ціха адказала Люба і раптам горача, узбуджана стала прасіць доктара: — Доктар, я дужа баюся ўколаў. Калі ласка, не трэба. Я і не п'ю шмат. Усё з-за дочак. Раджала, расціла, гадавала, а яны замест дзякуй дулю паказалі... Таму і вып'ю часам. Але я не алкагалічка...

Хрысціна разгублена пазірала то на Любу, то на доктара. А той маўкліва сядзеў, і па ягоным твары нельга было пабачыць, што ён думае.

— А ніхто не кажа, што вы алкагалічка,— перапыніў доктар Любу.— Выпіваеце зрэдку з гора?..

— Ну, во, вы ўсё разумееце, доктар,— узрадавалася Люба.

— Разумею,— пагадзіўся доктар.— А цяпер адкажыце мне на некалькі пытанняў. Толькі кажыце праўду. Дамовіліся? Ну і добра... Ці бывае вам страшна, калі выпіваеце?.. Можа, каго баіцёся?.. Можа, хто сочыць за вамі?

Люба апусціла галаву. Ёю зноў авалодала бязвольнасць.

— Бывае,— прызналася яна.— Нейкі рагаты чалавек, увесь чорны, маленькі, назаляе. Стаіць пад акном і выскаляе зубы. А вочы ў яго як у шалёнага сабакі, чырвоныя...

— Так,— сказаў доктар.— А яшчэ хто паяўляўся?.. А праз колькі дзён, пасля таго як вы пачынаеце піць, паяўляецца пад акном гэты рагаты чалавек?..

Люба крыху падумала.

— Раней рэдка паяўляўся, цяпер часцей...

— Зразумела,— сказаў доктар.— Трэба вас класці ў стацыянар...

— Доктар, я сама не буду піць... Яй-богу, не буду!..

— Вось і добра! — пахваліў яе доктар.— Вы нам паможаце, мы вам — і пераможам вашу хваробу.

Яшчэ прадаўжаючы гаварыць доктар стаў набіраць нейкі нумар тэлефона. Нехта, мабыць, адазваўся, бо ён сказаў у трубку:

— Гэта нарколаг Штылікаў... Мне трэба адно жаночае месца, і вельмі тэрмінова, з цяжкім выпадкам... А мо пашукаеце?.. Што ж мне рабіць?.. Дзякуй за параду, буду званіць,— паклаўшы трубку, ён сказаў ні да кога не звяртаючыся: — Бачыце, як усё не проста. У адной бальніцы месц няма. Будзем шукаць шчасця ў другой...

Ён пагаварыў яшчэ з адной бальніцай. І там месц не было. Хрысціне нават падумалася, што там, бадай, і не дужа патурбаваліся, каб узяць чалавека на лячэнне. Ведама, каму хочацца мець справу з п'яніцай, ды яшчэ жанчынай.

Доктар абзваніў усе бальніцы, дзе лячылі ад п'янства. Месц нідзе не было.

— Што ж рабіць, доктар? — спалохана спытала Хрысціна.— Вы ж самі казалі, каб прыводзіла яе. Во, прывяла.

Доктар троху вінавата паглядзеў на яе.

— У нас наогул жаночых месц не шмат, а тут міліцыя ў прымусовым парадку прывяла на лячэнне многіх алкаголікаў. Таму і месцы аказаліся занятыя...

— Доктар, нам жа ад гэтага не лягчэй,— узмалілася Хрысціна.— Дапамажыце, родненькі...

— Нічога не магу зараз зрабіць. Паспрабуем лячыць амбулаторна,— і, звярнуўшыся ўжо да Любы, сказаў: — Ну што ж, паколемся, падвітамінімся. А вы нам памагайце. Будзьце настойлівыя...

Доктар падняўся з-за стала, загадаў Любе ісці за ім. Хрысціна з Міхасём выйшлі на калідор, сталі чакаць Любу.

— Што ж гэта дзеецца? — спыталася Хрысціна, калі доктар з Любай зайшлі ў нейкі пакой на другім канцы калідора.

Міхась сцепануў плячамі. Гаварыць больш не было пра што ды і не хацелася.

Тым часам Любе зрабілі ўколы. Доктар растлумачыў, у якія дні і гадзіны ёй трэба прыходзіць сюды на лячэнне. З Хрысцінай ён развітаўся за руку, быццам хацеў гэтым загладзіць сваю віну, што не змог пакласці нявестку ў бальніцу. Хрысціна на яго не пакрыўдзілася. Дзякуй, што і так прыняў па-чалавечы.

Няйначай, Любе ўвялі нейкае на сон лякарства. Яна яшчэ ў аўтобусе пачала пазяхаць, а як толькі прыйшлі, легла і заснула.

— Цяпер да вечара не прачнецца,— сказаў Міхась.

— Сынок, а ці праўда, што яна ўладзілася на працу? — спыталася Хрысціна, бо не паверыла тады Любе.

— А яе і не звальнялі. Толькі перавялі з магазіна ў палатку,— адказаў Міхась і з гордасцю дадаў: — Любу ў магазіне паважаюць і цэняць...

— Як жа яны яе трымаюць, калі яна п'е і на працу не ходзіць? — здзівілася Хрысціна.— У горадзе ж з прагуламі строга.

— Ёй многае даруюць,— адказаў Міхась.— Цяпер дык вымушаны былі перавесці ў палатку, бо Люба не выходзіла на работу ледзь не два тыдні.

— А ў палатцы той хіба не трэба прадаваць? — нічога не магла зразумець Хрысціна.

— Дык палатка яшчэ толькі будуецца...

У думках Хрысціна прыкінула: за якія ж заслугі такая павага Любе? Харошага, сумленнага чалавека і то, бывае, так збэсцяць, што і ў газеце пішуць, каб вярнуць яму былую павагу. А тут з п'яніцай абыходзяцца нібы з заслужаным чалавекам. Мусіць, не так сабе? Маюць нейкую выгаду ад Любы. Чаго добрага, выкарыстоўваюць у сваіх махінацыях. Потым на дурную ўскладуць сваю віну. І паверац: ад п'яніцы ўсяго можна чакаць...

Трэба было б падзяліцца сваімі думкамі з Міхасём, каб не вельмі радаваўся, што яго Любу цэняць у тым магазіне, але нешта стрымала яе. Сын, бадай, і не зразумее яе, як і яна не разумее сына. Скажы ты, сталі як чужыя.

А некалі ж разумелі. А можа, і тады толькі прытвараліся, што разумеюць адно аднаго?..

Хрысціна аж сумелася ад нечаканай гэтай думкі. Над ёй трэба было добра памазгаваць. Чаго толькі не здасца маці, калі ў сына нядобра ў сям'і?..

— Паеду я, сынок, да Антаніны. Загасцявалася ў цябе. А раз ужо гасціла ў цябе, дык трэба хоць на адну ночку заглянуць да яе. Пакрыўдзіцца, калі пачуе, што ў цябе была, а да яе не заглянула...

Па шчырасці дык ёй вельмі хацелася, каб Міхась стаў яе ўгаворваць пабыць яшчэ ў яго. Не для таго, каб угаварыць і яна засталася б. Не, яна не засталася б, у яе сапраўды няма часу, і ёй сапраўды трэба завітаць да Антаніны. Як жа, не пабыўшы ў дачкі, ехаць дамоў. І недарэчна, і грэшна. Проста Хрысціне было б прыемна пачуць, як сын просіць яе застацца; значыць, патрэбна і яму, і нявестцы, і ўнукам. Ды і паложана так спрадвеку, каб госця прасілі яшчэ пагасціць. Каб ён дабіраўся дамоў, атулены ласкай.

— Як ведаеш, мама,— зусім абыякава сказаў Міхась.— Ты сумкі пакінь у нас. Ты ж з чыгуначнага вакзала паедзеш. Ці, можа, аўтобусам?

«Дзякуй табе, сыночак, пашкадаваў маці»,— горка падумалася Хрысціне.

— Вас можа і дома не быць,— разважліва сказала яна, не паказваючы выгляду, што сынава прапанова ўразіла яе.— Ды яшчэ і не вырашыла, можа, і на аўтобусе паеду...

— Тады што ж,— пагадзіўся Міхась.

І ўсё!.. Хрысціне аж не верылася, што гэта сын гаварыў з такой чужой халоднасцю. Ніякіх пытанняў да маці, ніякіх прывітанняў родным і знаёмым. Нават незнаёмыя людзі, што выпадкова сустрэліся, але правялі пад адным дахам двое сутак, і тыя развітваюцца з большай цеплынёй, як яны: сын і маці.

Хрысціну агарнула пякучая крыўда. Так і рупіла сказаць сыну нешта злоснае. Але яна ўмела цярпець. Навучылася за свой век, што была замужам за Яўхімам. У Міхася, праўда, не Яўхімаў характар. Той быў крэмень, а не чалавек. Хоць і яго аб'ездзіла жыццё. Таму і вытвараў пад старасць чортведама што. У Міхася характар больш на яе, Хрысцінін, падобны. А вось гэтая халоднасць, бадай, Яўхімава...

Хрысціна пачала ладкаваць сумкі. Яны сталі лёгкімі, непрыстойна пустымі і дужа непатрэбнымі. З імі было сорамна заяўляцца да Антаніны.

Нядоўгія зборы, аднак, развеялі крыўду. Ды і якая маці доўга трымае яе па ўласнае дзіця?..

На здзіўленне, і сама Хрысціна заўважыла ў сабе перамену. Ад сынавай марознасці нешта як бы сканала ў яе душы. Яна глядзела на Міхася і чамусьці не адчувала ранейшай пяшчотнай любові да свайго першынца, на якога ўскладаліся некалі і першыя сонечныя надзеі, з якім у яе жыццё прыйшлі і першыя клопаты, і першыя радасці. Толькі мацяркам вядома гэтая незвычайная любоў да сваіх першынцаў. Для староніх яна схавана за сямю замкамі. Ды і самі мацяркі найчасцей не прызнаюцца, што першынцы для іх заўсёды нечым даражэйшыя, ці што? І другіх дзяцей не абдзяляюць яны любоўю, але ўсё ж тая любоў прывычная, зведаная ўжо, абцяжараная гадамі. Першая мацярынская любоў застаецца надоўга, калі не назаўсёды непаўторнай і свежай.

І вось нешта здарылася з гэтай пяшчотнай любоўю. Нібы прайшла па ёй трэшчына, як, бывае, праходзіць яна па збане з вадой, якую прыхапіў мароз.

— Дык я пайду, сынок,— сказала яна, разгубленая і сваімі думкамі і нялюдскім гэтым развітаннем з сынам. Ці думала яна калі, што прыйдзе час і яны будуць стаяць вось так адно перад адным і горкая крыўда будзе грызці яе.— Ты ўжо, сынок, прасачы, каб Люба далячылася,— не магла яна не абысціся без заўсёдных парад, хоць і адчувала, што яны сыну не патрэбны.— Падыдзі і раз, і другі, і трэці да гэтага барадаценькага доктара. Ён чалавек уважлівы, можа, прыстроіць Любу ў бальніцу. Дужа баюся, што яна не вытрымае, сарвецца... Шкада, што Люду не бачыла. Не падабаецца мне, што яна з разваднём сышлася. Няма ў мяне даверу да гэтых разводных, няважна, ці яны жонак кідаюць, ці жонкі іх. Перадай ёй прывітанне ад мяне, скажы, што я недавольная ёю... Нэлку добра глядзі. Многа ў яе злосці. А дзеўцы нягожа з такой злосцю жыць. Хай бы калі да мяне прыехала. Ёй бы ў цішыні пажыць... Пра Віцьку нічога не магу сказаць — не бачыла. А Юрка ў цябе — слаўны хлопец. Баюся за яго. Не па-дзіцячы ён дарасла разважае...

Міхась слухаў маці з сыноўняй уважлівасцю, але абыякава, па абавязку, і Хрысціна, пачуўшы гэтую абыякавасць, змоўкла.

«Разышлася,— падумала сама сабе.— Яму мае парады — як надакучлівая песня, ніяк не дачакацца, калі перастануць спяваць. Во, кажуць, што дачка, выйшаўшы за-

муж,— адрэзаная скіба. Сын горш: і адрэзаная і чужымі з'едзеная...»

Яна не стала прасіць сына, каб прыязджаў, дапамагаў і сена касіць, і агарод абрабляць. «Захоча ды зможа — прыедзе, а не захоча ды не зможа — наракаць не стану, неяк абыдуся».

Патупаўшы па кухні, яна выйшла на калідор, убачыла Юрку, які стаяў на парозе свайго пакойчыка і па-дарослаому спачувальна глядзеў на яе.

— Пабыла б яшчэ,— сказаў ён з сарамлівай няёмкасцю.— Я даляпіў бы кампазіцыю і цябе вылепіў бы. У цябе дужа твар фактурны... Застанься, праўда, яшчэ дзянькі на два...

Хрысціна адчула, як затуманіліся вочы, а Юркаў твар чамусьці стаў відаць, нібы праз запацелае шкло, невыразна. Яна правяла па вачах далоняй, сцерла з іх слязлівую макрэдзь.

— Унучак мой, ласкавенькі, дзякуй табе,— яна абхапіла Юрку, пацалавала ў адну шчаку, у другую, і ён няўмела тыцнуўся мяккімі, пульхнымі вуснамі ў яе шчаку. У Хрысціны яшчэ больш шчодра закапалі слёзы.

«Усё яму, Юрачку, апішу,— удзячна падумала яна.— І хату, і гаспадарку, і грошы. Усё!..»

Юрка вызваліўся з яе абдымкаў.

— Ну, што ты, не расстрайвайся,— супакоіў яе.— Не навек жа расстаёмся. Яшчэ прыедзеш... А то пераязджай назусім да нас. Што табе адной у той вёсцы рабіць?.. У горадзе весялей...

Унук проста дастаў яе сэрца, саграваў сваім дыханнем. Дзеля гэтага варта было жыць, пакутаваць, цярпець зло. І ўсё, што было з ёю ў гэтыя два дні, забылася. Унукава ласка асвяціла, як сонейкам, гэтую няўтульную кватэру, увесь свет.

Хрысціне захацелася распрануцца, паставіць сумкі, застацца яшчэ хоць дзянькі на два. І ні да каго з дзяцей больш не заязджаць, адагрэцца каля ўнукавага цяпла. Ды сталая разважлівасць перамагла. Не трэба спакушаць шчасце. Яно дужа няпэўнае...

— А то твая праўда,— сказала яна.— Яшчэ пабачымся, і не раз. І ты прыязджай да мяне. На Кастрычніцкія святы. Добра?.. А што ўжо наступным летам, то абавязкова...

Яна яшчэ — на гэты раз, як і належыць пры развітан-

ні — са сталай грунтоўнасцю абняла ўнука, тройчы пацалавала. Папрасіла:

— Ты ўжо, Юрачка, напішы мне. На бацьку спадзявання няма, спрадвеку не любіў пісаць пісьмы...

— Напішу,— паабяцаў Юрка.

Хрысціна пацалавала і сына. Не ўтрымалася, пагразіла пальцам:

— Глядзі ў мяне... Апусціўся ты...

Міхась вінавата прамаўчаў.

## 9

Хрысціна выйшла на прывакзальную плошчу, аглухла ад грукату, лязгання машын, рокату матораў, людской гаманы. Пачынаўся той час, калі на гарадскія вуліцы з устаноў і прадпрыемстваў хлынулі людскія плыні. Усе спяшаліся, беглі як на пажар.

Хрысціне падумалася, што яна прыедзе да Антаніны ў час: і дачка, і зяць якраз вернуцца з работы і не паспеюць куды збегчы, калі надумалі. Добра будзе пасядзець у іхняй вялікай кватэры, застаўленай прыгожай мэбляй, з мноствам дываноў на сценах і падлозе, з карцінамі ў залачоных рамках.

Дом, дзе жыла Антаніна, стаяў у баку ад шумных вуліц, у канцы кароценькага завулка, што ўпіраўся ў агароджу сквера і па якім дазвалялася ездзіць толькі легкавушкам. Як для Хрысціны, дык у гэтым была свая нязручнасць: ад чыгуначнага вакзала туды трэба было дабірацца з перасадкай: спачатку тралейбусам, потым аўтобусам, а затым яшчэ ісці кварталы тры пеша.

Тады, як Хрысціна першы раз прыязджала ў госці на новую даччыну кватэру, яна нават падзівілася, каму ўзбрыло ў галаву ставіць такі важнецкі дом у далечыні ад гарадскога транспарту? Вельмі ж нязручна для жыхароў. Сват, Кліменцій Усеваладавіч, з якім яна падзялілася сваімі меркаваннямі, у сваю чаргу здзівіўся з яе наіўнасці:

— А навошта тут гарадскі транспарт?.. Ад яго і грукат, і курадым. Мы і планавалі гэты эксперыментальны дом у баку ад транспартных артэрый... Ды і ў кожнага ж ёсць машына...

Што праўда, легкавых машын за дзень каля дома круцілася шмат. Раніцай шафёры прыязджалі, каб адвезці служылы люд на працу. Крыху пазней яны вярталіся па жонак, дзяцей і іншых членаў сям'і, якія таксама кудысьці спяшаліся, няйначай, па вельмі неадкладных справах.

Затым машыны паяўляліся ў часе абеду. І, само сабой, прыязджалі яшчэ ў канцы рабочага дня.

Сват і зяць жылі ў адным доме, у адным пад'ездзе, на адной лесвічнай пляцоўцы. Кліменцій Усеваладавіч меў трохпакаёвую кватэру, зяць — чатырохпакаёвую. Кватэры размяшчаліся побач. Ад агульнага вялізнага калідора іх адгароджвалі цяжкія дзверы, за якімі знаходзілася адна на абедзве кватэры прыхожая.

У доме, як і належыць, меўся ліфт. Хрысціна вельмі баялася яго: дзверы самі зачыняюцца, і ліха іх ведае ці адчыняцца потым. Ды і скрыня магла абарвацца. Грукнешся з вышыні — касцей не збяруць. Антаніна, на шчасце, жыла на чацвёртым паверсе, і Хрысціна, як бывала раней, пайшла па адхоннай, вельмі зручнай лесвіцы на той чацвёрты паверх.

Яшчэ на лесвічнай пляцоўцы чацвёртага паверха Хрысціна пачула нянаскую музыку і крыклівыя, з буслiным клекатаннем у горле, чужыя галасы. Яна спынілася, каб перадыхнуць, бо нешта сціснула грудзі і даводзілася дыхаць шырока раскрытым ротам. Музыка, не было сумнення, даносілася з кватэры, дзе жыла Антаніна.

«Божачка, няўжо госці?» — чамусьці спалохалася Хрысціна.

Яна наогул не любіла шумных зборышч, ды і не было калі хадзіць на іх. Праца на ферме адбірала самы прыдатны для гасцявання час. Зрэшты, званыя госці ўвайшлі ў моду толькі апошнім часам, калі калгаснікі займелі капейку. Да вайны і пасля яе нават вяселлі ладзілі сціплыя, без той гаманы на ўсю акругу, якая надоўга западала ў памяць. Апошні раз Хрысціна звала гасцей, калі жаніўся Антон. Даўно. І народу на ягоным вяселлі было не шмат.

Антаніміна вяселле спраўлялася ў рэстаране, і яны з Яўхімам сядзелі на ім, як чужыя. Яўхіму, праўда, мала абыходзіла, што навокал адны вучоныя — словам перакінуцца няма з кім. Ён мог абы-што плявузгаць, робячы выгляд, што разумее больш за акадэмікаў. А Хрысціна адчувала сябе кепска, дужа ніякавата. Баялася, каб не сказаць абы-чаго, каб людзі не падумалі: во якая ў Антаніны маці. Ад таго вяселля ў Хрысціны і па сённяшні дзень засталася засцярога не трапляць да дачкі, калі там збіраюцца госці. Антаніна крыўдавала, злавала на маці за гэту яе сарамлівасць, але нічога не магла парабіць. Колькі яе ні запрашалі на розныя там урачыстасці, Хрысціна знаходзіла прычыны, каб не прыязджаць. І за сябе, і за яе гасця-

ваў Яўхім. Во каму падабалася бываць у дачкі, дзе збіраліся славутыя вучоныя!

Стоячы за дзвярамі, Хрысціна разгублена думала, што ёй зараз рабіць? Вяртацца да Міхася не было як. І заходзіць да дачкі, калі ў яе сабраліся важныя людзі — а другіх тут не бывала,— не хацелася. Каб яна ды прыйшла да таго як сабраліся людзі, яшчэ нішто. А то, мабыць, сядзяць за сталом або скачуць пад гэтую нянаскую музыку, а яна хоп-цоп на парог. Прыперлася ў паношаным плашчыку, у кофце і спадніцы, якія пасаромелася б надзець у вёсцы на якую ўрачыстасць. Ды каб не было чаго надзець, а то поўная шафа строяў. Людзям жа не дакажаш, што там у цябе ёсць. Яны скажуць: дачка вучоная, грошай колькі зарабляе, а маці — нібы старчоўка. Жакет з прарэхай пад левай пахай.

Трэба было неадкладна ўцякаць адсюль, каб не зганьбіць дачку. Ды і сябе няма чаго выстаўляць на пасмешышча...

Аднак зрабіць рашучы крок Хрысціне было яшчэ цяжэй. Ехала, хацела пабачыць дачку — і з парога павярнула.

На шчасце, музыка за дзвярамі раптам абарвалася. Стала ціха-ціха. Хрысціна аж засмяялася са сваіх страхаў: пужаная варона і куста баіцца. Гэта ж зяць Ігар, калі нешта робіць, дык уключае музыку. Якія госці ў будні дзень?..

Яна націснула белы гузік званка. Па той бок цяжкой дзверыны забулькатаў, зазвінеў жаўрук. Дзверы адчыніліся, Хрысціна разгублена глядзела на маладую дзяўчыну з фартушком на грудзях, са стужкай на валасах. Як па строях, дык афіцыянтка, але адкуль яна тут? Было ад чаго разгубіцца...

— Табе чаго? — злосна зыркнуўшы на Хрысціну, спытала дзяўчына.

— Антаніна мне патрэбна,— усё яшчэ нічога не разумеючы, адказала Хрысціна.— Маці я іхняя...

Было відаць, што дзяўчына разгубілася, спалохалася.

— Даруйце,— адразу памяняўшы абразлівы тон на прыветлівы, сказала яна.— Заходзьце, я зараз паклічу Антаніну Яўхімаўну...

Дзяўчына крутнулася, абдаўшы Хрысціну водарам парфумы, пабегла на палавіну зяця.

«Так і ёсць,— пашкадавала Хрысціна,— у Ігара з Антанінай госці».

Былі б госці ў свата, Хрысціна яшчэ перaседзела б у дачкі. А цяпер?..

У прыхожую выбегла дашчэнту ўстрывожаная Антаніна. На ёй было вішнёвага колеру плацце. Пэўна, таму яе твар здаўся Хрысціне дужа бледным.

— Што здарылася, мама? — дрыготкім голасам спытала Антаніна.

— Нічога... Нічога... Во ўзяла ды і прыехала... Здароў, дачушка...

Хрысціна абняла Антаніну, пацалавала ў адну шчаку, у другую.

— А ў нас госці,— як здалося Хрысціне, упалым голасам паведаміла Антаніна.

— Не ў пару я,— пагадзілася Хрысціна.— Каб ведала, да заўтра пагасцявала б у Міхася. Хоць і часу няма. Ледзьве вырвалася. Захацелася ўсіх вас пабачыць...

— Не выдумляй, мама. Ты заўсёды ў пару,— неўзлюбіла Антаніна і адчыніла дзверы на свёкраву палавіну.— Стаў свае сумкі вось сюды,— яна адчыніла цёмную кладовачку з паліцамі да самай столі, папракнула маці: — Зноў ты гэтым недарэкам цягнула на сабе гасцінцы.

— Як жа без гасцінцаў? — памяркоўна адказала Хрысціна, хоць ёй так і хацелася цыкнуць на Антаніну, што абазвала Міхася недарэкам.— Дзецям радасць. А твой жа Севачка дзе? Я яму арэшкаў прывезла. Сёлета арэхі добра ўрадзілі.

— Яго няма... У санаторыі ён,— адказала Антаніна.

— Божачка, ці не захварэў? — спалохалася Хрысціна.

— Чаму ты так думаеш? — спытала Антаніна.— Дужа ён дрэнна есць. Кіслотнасць малая... А расце хутка.

— Перарос бы,— сказала Хрысціна.— І ты такая няешчая была: хоць з рэмнем над табой стой... А як жа з вучобай?

— А ён у санаторыі і вучыцца будзе,— заспакоіла Антаніна.

Хрысціне было радасна, што ўнук змалку можа лячыцца ў санаторыі, але адвечная сялянская практычнасць і ашчаднасць не хацелі пагадзіцца з дачкой.

— Якая там вучоба,— сказала яна.— Дужа тым санаторскім настаўнікам трэба, каб дзеці як след вучыліся. Адстане, потым нагнаць цяжка...

— Ай, што ты, мама, кажаш,— як бы пакрыўдзілася Антаніна.— Ты ўсё сваімі меркамі мераеш...

— А чымі ж мне меркамі мерадь? — спытала Хрысціна і тут жа спахапілася, што сунецца не ў сваю справу.

Тут адно дзіця чацвёра чалавек глядзяць, ды яшчэ вунь якіх граматных. Не раўня ёй. Колькі разоў давала зарок, не пнуцца, куды не просяць, а вось жа дурны характар — палезла.

— Ну, гэта я так, да слова прыйшлося,— міралюбна сказала яна.— Табе ж да гасцей трэба...

Мусіць, Антаніна лішне затрымалася, бо ў калідор, дзе яны стаялі, зайшла сваццfamiliar, Ангеліна Сцяпанаўна.

— Які сюрпрыз! — прыязна ўсміхаючыся, сказала яна і абняла Хрысціну з такой асцярожнасцю, нібы дакраналася да нечага крохкага і кволага.— Вельмі міла!.. Як кажуць, з карабля на баль...

Хрысціна расчулілася. Пацалавала сваццю тройчы.

— Не ў пару я прыехала, нарабіла клопатаў,— сказала і свацці тое ж, што і дачцэ.

— І што вы толькі кажаце, Хрысціна Максімаўна,— паўшчувала яе сваццця.— Здымайце плашч ды за стол...

— Дык жа я зусім не па-святочнаму адзета,— разгубілася ад сваццінай рашучасці Хрысціна.— Не думала не гадала... А ў вас такія госці... Можа, я перасяджу тут, пакуль вы там пагасцюеце?..

Ангеліна Сцяпанаўна запярэчыла.

— Вы і так, Хрысціна Максімаўна, у нас ніколі не бывалі,— нагадала яна Хрысціне.— Я і гасцям сказала, што вы прыехалі. Усе вас чакаюць. А наконт адзежы — дык мы ў адзін міг нешта прыдумаем...

Ангеліна Сцяпанаўна на колькі хвілін знікла ў пакоях. Вярнулася адтуль з шарсцяной спадніцай, кофтай і прыгожым жакетам. Хрысціна пераапранулася. Паглядзелася ў люстэрка: усё да твару, адно што твар ужо не возьмеш у каго. Ён быў буры, як перапечанае яблыка, і такі ж зморшчаны.

Адчуваючы няёмкасць, у суправаджэнні дачкі і сваццці, яна пайшла на палавіну зяця, дзе стаяў стол.

— Прашу любіць ды мілаваць,— сказала сваццця, узяўшы Хрысціну пад руку.— Мама нашай Тонечкі...

Як сквозь сіта, Хрысціна бачыла твары, вочы, якія глядзелі на яе. А можа, гэта толькі здавалася ёй. Яна падумала, што, мабыць, нешта трэба сказаць, хаця б павітацца, але ў яе грудзях так трымцела, а ў роце было так суха, што Хрысціна зразумела, цяпер яна не звяжа і двух слоў — мову адняло.

Яна села ў крэсла на краёчку стала, каля мажнай жанчыны, якая адразу стала яе частаваць з такой гасціннасцю, што Хрысціна разгубілася.

— Вып'ем за маці нашай імянінніцы,— з другога канца стала падняўся нейкі мужчына і пайшоў сюды, дзе сядзела Хрысціна.

Яна спачатку і не ўцяміла, чаго ён ідзе сюды; ёй было сорамна, брыдка, што забылася пра гэты дзень Антанінінага нараджэння. Як ветрам з галавы выдзьмула. Людзі помняць, а маці забылася. Ганьба! Канечне, завядзёнка адзначаць дні нараджэння не вясковая, гарадская. І ўсё ж было няёмка, асабліва перад зяцем і сватамі. Мужчына падышоў да Хрысціны, наліў віна:

— Дарагая Хрысціна Максімаўна, я бясконца шчаслівы, што маю гонар пазнаёміцца з вамі, маці нашай слаўнай Антаніны Яўхімаўны. Добрага вам здароўя, многіх год жыцця.

Ён выпіў чарку і пацалаваў руку Хрысціне. Для Хрысціны гэта было так нечакана, што яна зусім разгубілася. Але ніхто яе разгубленасці, бадай, і не заўважыў. Госці дружна запляскалі ў далоні, пацягнуліся да яе з чаркамі, каб чокнуцца. Яна выпіла, закусіла, а закусіўшы, з цікавасцю вясковай цёткі стала прыглядацца да застолліцы.

Зрэшты, нічога адметнага, такога, што само кідалася б у вочы, у гасцей не было. Людзі як людзі. Цяпер іншы калгаснік дык больш падобны на вучонага. Асабліва маладзіцы. Як адзенуць свае строі, дык здаецца, не падступіся да іх.

І ўсё ж нешта было і адметнае ў іхніх паводзінах. Можа, размовы.

Хрысціна з хвалюючай радасцю думала, як пашанцавала яе Антаніне. Ці думалася, ці гадалася калі, што з цыбатай, вечна прастуджанай у маленстве нягеглііцы выладнее такая спраўная маладзіца? І прыгожая, нічога благога не скажаш, і разумная, і вучоная. Ды каб некалі такі Антанінін лёс вываражыла цыганка, Хрысціна плюнула б той у вочы: брашы, ды ведай меру...

«Хоць чаму не думалася? — запратэставала Хрысціна.— Думалася, і яшчэ як!»

Хто-хто, а яна, Хрысціна, спадзявалася, што дачка праб'ецца ў людзі. Канечне, што сігане ў такія вышыні, пра такое і сасніцца не магло. Але пра лепшую, чым у яе, Хрысціны, долю думалася не раз і з упэўненасцю.

Хрысціна не сляпая, бачыла, што ў Антаніны з узростам праразаецца бацькаў упарты, апантаны, няўрымслівы характар. З такім характарам можна ўсяго дамагчыся. Яўхім, праўда, нічога не дамогся. Дык ён і не стараўся, не хацеў. Ён усё жыццё лунаў у высях, як жаўрук у паднябессі. «Не пра тое нада думаць, як над другімі ўзняцца, а як нараўне з усімі быць,— бывала, казаў ён Хрысціне.— Пры камунізме ўсе роўныя будуць, і тым, хто прывык камандаваць, дужа цяжка будзе прывыкаць да новых парадкаў».

У Яўхіма начыста адсутнічалі карыслівыя меркаванні. Ён усё жыццё пражыў бессярэбранікам, такім і памёр. Каб у Хрысціны не вадзілася капейка, дык па-людску не пахавалі б.

З маладых год Яўхім убіў у галаву і свята верыў, што пройдзе пяць — дзесяць год і настане бяскласавае грамадства, дзе ўсяго будзе хапаць, дзе не будзе прыватнай уласнасці і грошай — працуй сабе ад душы і, што душа пажадае, бяры на свае патрэбы. Таму і ваяваў супраць усялякай уласнасці, набліжаў жаданы час, калі ўсё стане агульным, калі чалавек пазбавіцца нікчэмных клопатаў, а ўсе сілы будзе аддаваць любімай справе.

Міналі гады, усё навокал мянялася, не мяняўся толькі Яўхім. Хрысціне чамусьці выразна прыгадаўся той апошні дзень Яўхімавага жыцця на гэтым свеце, калі яна прыйшла наведаць яго ў сельскую бальнічку. Яўхім быў ужо вельмі слабы, але ўсё адно трымаўся бадзёра, мабыць, не верачы ў свой блізкі канец.

Хрысціна знала. Сказаў урач. Паклікаў яе ў кабінет — маленькую баковачку ў прыбудоўцы,— пасадзіў у мяккае крэсла, а сам застаўся стаяць. Так яму, відаць, было зручней гаварыць пра недалёкую Яўхімаву смерць. Але і стоячы ён не мог адважыцца сказаць Хрысціне праўду. Мяўся, пакашліваў. Яна сама пайшла насустрач яму.

— З ім дужа дрэнна? — спыталася Хрысціна.— Тады я да вечара пачакаю.

Яе спакойнае стаўленне да мужавай смерці, здаецца, уразіла доктара. Што ён ведаў пра іх жыццё?

— Бачыце,— загаварыў ён з няпэўнасцю ў голасе і сеў за стол,— ваш муж сапраўды знаходзіцца ў крытычным стане, але гэта зусім не азначае, што ён можа памерці сёння. Гэта можа здарыцца заўтра, паслязаўтра, праз тыдзень або нават праз два... Я кажу дзеля таго, каб вы ні-

куды далёка не адлучаліся з дому, бо ў нас няма дзе трымаць нябожчыкаў...

Доктар як бы засаромеўся таго, пра што гаварыў, а Хрысціна ўспрыняла яго параду як належнае. Сапраўды, апрача яе, Яўхіма з бальніцы няма каму забраць, і калі яна куды з'едзе, што рабіць доктару?..

— Не, я буду дома,— паабяцала яна.— Можна было б дзяцей выклікаць, але, калі вы кажаце, што ён пражыве яшчэ і два тыдні, дык, бадай, ранавата. У іх жа работа, сем'і. Калі што, дык я пасяджу пры ім...

Хрысціна ведала, што сядзець пры хворым няма калі: будуць дзяліць атаву. Праседзіш у бальніцы — выдзеляць самую горшую дзялянку. Застанецца кароўка з цялушкай без сена. Смерць Яўхіма была зусім недарэчы. Вясковаму чалавеку самае найлепшае паміраць позна ўвосень ды зімой, калі ўсе работы перароблены.

Яўхім у палаце ляжаў адзін — ягоны сусед недзе гуляў на двары, а можа, нават пайшоў дамоў, балазе дом блізка, метраў трыста. Хрысціна прысела на краёчак ложка, у нагах, спыталася, як Яўхім сябе пачувае — можа, лепей?

— Думаю тыдні праз два выпісацца,— адказаў ён, і Хрысціна аж здрыганулася, бо Яўхім назваў той жа тэрмін сваёй выпіскі, што доктар наканаваў яму жыць на гэтым свеце.

Як згаварыліся. Толькі пра рознае. Хрысціне стала шкада Яўхіма, які не ведае пра свой блізкі канец. На яе вачах накружыліся слёзы. Яна неўпрыкметку выцерла іх далоняй, пракаўтнула даўкі камяк у горле, загаварыла пра свае адвечныя клопаты, якія, добра ведала, Яўхіма зусім не цікавілі.

— Атава сёлета ўрадзіла,— пахвалілася яна, і неяк стала лягчэй на сэрцы.— Старшыня абяцаў скасіць поплаў касілкамі. Так што хутчэй, як летась, укінем пад страху. У каго мужчыны, дык тым і касой не страшна памахаць, а такім, як я, лепей калі касілкі памогуць. Плата невялікая. Мне ўжо два вазы з лясніцтва прывезлі. Харошае сена, як чай. Антаніна грошы дала. Антон на квіток расстараўся. Там і накасілі, і высушылі, і прывезлі. Нашы, што праўда, пра гэта не ведаюць, а то паразяўлялі б раты, што мне можна атавы і не выдзяляць. Ноччу сена прывезлі і на вышкі паўскідалі. Дасць бог, бульба ўродзіць, дык да двух кабанчыкаў яшчэ свіначку куплю.

Парасяты дарагія, а так свае, купляць не трэба, ды яшчэ і прадасі. Усё жывая капейка...

Хрысціна гаварыла пра тое адвечнае, што турбавала, што было явай яе жыцця, звычайным і паўсядзённым клопатам, без якога не было б сэнсу тырчаць у старой вёсцы.

Расказваючы пра свае хатнія турботы, Хрысціна захапілася. Ды і ці магла не захапіцца, не парадавацца? Цяпер яна вунь якая гаспадыня! У маладосці таго не мела, што мае зараз. Жыві ды радуйся! Шкада толькі, лепшыя гады прайшлі.

Яна ні разу нават не паглядзела на Яўхіма, як той ставіцца да яе гамонкі. Таму трохі зніякавела, калі ён перапыніў яе.

— Абрастаем цвілым мохам уласнасці,— сказаў ён тым, даўнім, з'едлівым і жорсткім голасам, які, бывала, не абяцаў нічога добрага.— На якога чорта табе двое парсюкоў ды яшчэ свінка? Колькі табе таго сала трэба? А цялушка навошта?.. Ды і карова... Адно ведаеце, грэбціся на сваіх сотках, за сваёй жывёлінай хадзіць, а рабочы клас калгасную бульбу выбірае. Вы ж потым з гэтага рабочага класа за свінінку ды малачко скуру гатовы здзерці.

Хрысціна аж забылася, што Яўхім хворы. Яе ахапіла злосць. Ляжыць тут, а яна пяклуйся на гаспадарцы, як пеклавалася ўсё жыццё. Яму мала абыходзіць, ці ёсць што на стале, у хаце, у хляве. Яго хлебам не кармі, а дай пра палітыку пагаварыць. Палітык знайшоўся!

— А жыць як? — крыкнула яна ад балючай крыўды.

— А так,— са знаёмай упартасцю адказаў Яўхім,— каб твая свінка не замінала табе глядзець у камунізм, які мы ўсё роўна пабудуем на злосць імперыялістам і перажыткам мінулага ў свядомасці вось такіх уласнікаў, як ты...

Хрысціне ўсё гэта было вядома даўно. Наслухалася. А ён як сляпы, як глухі. Быццам не бачыў, не чуў, што прыйшоў канец тым ягоным заскокам, калі ён пазбавіў барсукоўцаў не толькі каровак, але свіней, курэй і сотак каля хаты. Наразаў соткі за блізкім светам дзеля таго, каб і ад іх адмовіліся людзі. А чаго дамогся? Знялі з работы ды яшчэ вымову ўшпілілі. Калгаснікам жа зноў дазволілі мець і карову, і свінчо, і соткі каля хаты. Новыя старшыні нават памагалі людзям, каб сенца карове накасіць, каб бульбачкі кабанчыку навыбіраць. Мог бы зразумець нешта, дык жа не хоча...

Апошнія год дзесяць Хрысціна мала звяртала ўвагі на Яўхімавы выбрыкі, а калі што, дык закідала злосцю часцей чым трэба — давала здачы. І цяпер яна не стрымалася.

— Памаўчаў бы,— крыкнула на яго.— Каб такіх, як ты, слухаліся, даўно торбы пабралі б ды ў старцы падаліся. Дык жа і дарыць не было б каму. Разумнік знайшоўся! Яму нічога непатрэбна...

Хрысціна яшчэ не ўсё сказала, што хацела сказаць, як пабачыла, што Яўхімаў твар пабялеў, губы затрэсліся, а ў патухлых вачах бліснула лютая ярасць. Звычайна ў такія мінуты Яўхім яшчэ моцна сціскаў пальцы ў кулакі, аж бялелі костачкі. Цяпер пальцы таксама былі сціснуты, але не ставала сіл, каб сціснуць іх да пабялення.

Яўхім глядзеў на жонку, як на самага лютага ворага, і Хрысціна спалохалася ягонага гневу. Хоць што ён мог зрабіць? Пальцы і то не сцісне ў кулакі. Хворы, можна сказаць, нябожчык, а яна ўсчала гаворку. Хрысціне стала сорамна і брыдка. Доктар яшчэ папярэджваў яе, каб не дужа хвалявала мужа. І Яўхім неяк хутка астыў, мажа, зразумеў, што Хрысціну ўжо не перайначыш — пагрузла ў багне ўласнасці. Але і прамаўчаць ён не мог. Прытрымліваўся правіла: у бітве калі і гінеш, дык падай галавой наперад...

— Тэ-эк,— сказаў ён, як і некалі, калі быў у сіле, калі сустракаўся з нейкай з'явай, на якую павінен быў даць дакладны і зразумелы адказ.— Думаеш, камунізму ніколі не будзе? А ці думала ты, чаму мы дасюль яго не пабудавалі? Не, не падумала, бо далей свайго гародчыка нічога не бачыш. А я табе во што скажу. Мы даўно яго прычакалі б, каб не праклятьы фашызм. Колькі жыццяў вайна адабрала, колькі заводаў, фабрык, гарадоў і сёл трэба было занава адбудаваць. А пасля пачалі нам атамнай бомбай пагражаць. Не маглі ж мы сядзець склаўшы рукі, пакуль акулы імперыялізму нас не сажралі б. А кожная такая бомба грошай каштуе. І не малых грошай. Скажаш, дык жа і ў Амерыцы тыя бомбы не задарам робяць. Праўда, недарма. Але ім, капіталістам, пляваць, што працоўны чалавек недаядае, што ў яго кватэры няма. Ім галоўнае, каб зброі больш нарабіць ды нас у бараноў рог скруціць. Вось і мусім мы працоўную нашу капейку на выраб зброі аддаваць. Крыўдна, а што паробіш? Цяпер глядзі, колькі людзей пад стрэльбай трымаем. Ім бы зямлю араць, станкі вырабляць. А нельга. Нада гатовым да ўсякіх варожых прошукаў быць. А цяпер прыкінь, колькі б мы ўсяго набу-

давалі, навыраблялі, каб не трэба было пра сваю абарону думаць. Во якія дзялы на сённяшні момант. А ты чорт ведае што плявузгаеш. Аж сорамна слухаць. Дзіву даюся, як мы, такія розныя, пражылі з табой усё жыццё?

Яўхім замоўк і ўжо не злосна, а са шкадаваннем паглядзеў на жонку. Маўляў, якая ж ты цёмная і дурная, калі такіх простых рэчаў не магла дасюль зразумець. Потым ён нацягнуў коўдру на галаву, павярнуўся тварам да сцяны.

— Дык я пайду, Яўхім,— крыху счакаўшы, сказала яна.

— Ідзі,— адказаў ён з-пад коўдры.

Потым Хрысціна не магла сабе дараваць, што не пасядзела каля яго астатнія хвіліны жыцця. Нічога з гаспадаркай не сталася б. Хросная і сама здагадалася, што, мусіць, з Яўхімам дрэнна, падаіла карову і кабанчыкаў накарміла.

Яўхім, казалі, памёр, да апошняга імгнення не страціўшы прытомнасці; размаўляў з суседам па палаце, раптам ікнуў і замоўк. Сусед паляжаў яшчэ колькі часу — Яўхім голасу не падаваў. Тады сусед прыўзняўся на ложку, глянуў на Яўхіма — той ляжаў, выцягнуўшы рукі і ногі, здалося, спаў. Сусед дакрануўся да яго — а Яўхім пахаладаў ужо.

— Пра што ён хоць гаварыў? — спытала Хрысціна ў таго Яўхімавага суседа.— Можа, быў недавольны, што я не засталася?..

— Не, пра цябе нічога не казаў. Не скардзіўся. Ён больш пра класавыя баі гаварыў...

— Пра што?.. Пра што?..

— Пра класавыя баі,— пацвердзіў сусед.

Хрысціна пакрыўдзілася. Пра яе Яўхім так і не ўспомніў. Быццам яе і не было, адны класавыя баі.

Усё прыгадалася так выразна, нібы адбывалася ўчора. І зноў, як тады, калі сусед гаварыў ёй пра сваю гамонку з Яўхімам, Хрысціне стала балюча і крыўдна.

«Дзякуй богу,— падумала яна,— дзеці пайшлі не па ім. Во і Антаніна, у адрозненне ад бацькі, не лунала ў высях. Хоць часам і лунала. Але была ў яе развага і мэта. Змалку навучылася ашчаджаць капейку, берагчы набытак. Таму і выбралася ў людзі. Іначай і нельга. Іначай і людзі не шанавалі б...»

Нехта з гасцей, мусіць, важны вучоны, бо ў акулярах і з лысінай на ўсю макушку, гаварыў прамову.

— Што мы асабліва цэнім у вас, дарагая Антаніна Яўхімаўна, дык гэта бескарыслівае, адданае служэнне навуцы, адсутнасць разліку. Вы ўсё падпарадкоўваеце нашай агульнай справе. Дзеля яе вы гатовы ахвяраваць уласным дабрабытам. Грамадскае ў вас стаіць вышэй асабістага. Дык вось, прапаную выпіць за гэтую рысу нашай дарагой імянінніцы...

Хрысціна не стрымалася, разам з усімі запляскала ў далоні. А потым неяк нечакана падумала, што вучоны гэты чалавек якраз хваліў у дачцэ тое, што было ў яе бацькі. І Хрысціна нават спалохалася.

Зрэшты, самае галоўнае заключалася не ў тым, што кажуць госці, хоць яны і вучоныя. Хрысціна ганарылася сабой, што не Яўхім, а яна глядзела наперад, калі чортам паўстала перад дачкой і бацькам, якія задумалі ўгаварыць увесь выпуск дзесяцігодкі застацца ў калгасе на ферме. Божа, божа, колькі тады Хрысціна паваявала з Яўхімам!.. Антаніна, што праўда, толькі пры бацьку тапырылася, паказвала свой нораў. Хрысціна не дурная, бачыла, што і ёй не хочацца заставацца на гэтай ферме. Але ж яна была камсоргам, значыць, павінна была паказваць прыклад. Таму і тапырылася.

— Ладна,— пагадзілася Хрысціна,— парабі год. Няхай будзе стаж. Налета сама пабяжыш. Гэта табе не прамовы казаць. На ферме рабіць трэба, ды так, каб жылы ад натугі ў вузлы вязаліся.

Антаніна сапраўды прарабіла адзін год. Яўхіма якраз тады паперлі са старшынь. Ну, дзяўчаты і разбегліся. Не ўсе. Тры засталіся. І цяпер даяркамі робяць. Жывуць... Але ж ці так, як Антаніна?.. Дзе там!.. Раненька ўстань, у любое надвор'е бяжы на тую ферму. Пальцы вунь у кожнай параспухлі. Зарабляюць, канечне, цяпер нішто, нават добра. Але згары ён, той заробак. Вечна ў гразі, вечна без выхадных і святочных дзён.

Хрысціну так і падштурхоўвала падняцца і расказаць усё, як было, як яна дамаглася, каб Антаніна пайшла вучыцца. Як ледзь не звёў яе Макарышын Шурка, які вярнуўся з арміі і стаў працаваць у калгасе трактарыстам.

Колькі тады Хрысціна паваявала. Выклікала Міхася. Удваіх яны ўламалі Антаніну паехаць у горад.

Прыгадваючы былое, Хрысціна ўсё прыглядалася да Антаніны, быццам хацела разгледзець, а ці памятае яна тое, што было, і ці ўдзячна ёй, сваёй маці?

Госці нібы спаборнічалі, хто лепей і прыгажэй скажа

пра імянінніцу. Антаніна слухала тосты з урачыстым, але як бы і насмешлівым выразам на твары, працягвала для пацалунка руку з тоўстым заручальным пярсцёнкам або падстаўляла шчаку найбольш знакамітым гасцям. Хрысціне прыемна было слухаць, як добра і прыгожа гавораць пра яе дачку, і яна пакуль яшчэ не зусім акрэслена, а толькі прымерваючыся, падумала, што калі ўжо давядзецца, як хроснай, пакідаць вёску, дык перабярэцца да Антаніны.

Што ні кажы, а дачка бліжэй да маці, як нявестка да свякрухі. Няхай нявестка і залатая, а дачка даражэй. З дачкой хоць і пасварышся, дык ненадоўга, а нявестка калі ўжо затоіць крыўду, дык на ўсё жыццё, ды і сына яшчэ падбухторыць.

Зяця, Антанінінага мужа Ігара, Хрысціна не тое каб дужа любіла, але шанавала, нават шкадавала, бо Антаніна круціла ім як хацела. Ігар быў лішне мяккі, уступчывы і як бы абыякавы да ўсяго. Так, прынамсі, здавалася Хрысціне.

Калі Антаніна сабралася выходзіць замуж, яны з Ігарам прыехалі ў Барсукі. Прыватныя машыны тады ўжо не былі вялікім дзівам нават у такой глухой вёсцы, як Барсукі, але Ігар прыехаў на нейкай замежнай машыне, дужа бліскучай, непрывычнай па форме, а таму да іхняй хаты збеглася палова вёскі, каб паглядзець і замежную тую машыну, і за каго пойдзе замуж старэйшая Яўхімава дачка.

Хрысціна рабіла ў полі, калі ёй сказалі, што прыехала дачка, прывезла жаніха ды на такой машыне, якую, можа, ніхто дасюль па ўсёй Беларусі і ў вочы не бачыў.

Хрысціна пабегла нацянькі і толькі перад вёскай запаволіла бег — няма чаго паказваць сваю вясковую прыніжанасць. Хай зяць пачакае цешчу, больш даражыць будзе.

Нянаская машына стаяла ў двары. Яна была падобна на шчупака, нават колер такі ж, драпежны. На плоце, нібы вераб'і пасля дажджу, сядзелі вясковыя хлапчукі, любаваліся прыгожай заморскай цацкай. Дарослыя стаялі па той бок вуліцы, каб лішне не кідацца ў вочы. Хрысціна хлапчукоў прагнала. Няма чаго назаляць людзям. Дарослыя самі пайшлі, зразумелі, што тут не «ціятры».

Зайшоўшы ў двор, Хрысціна кінула пільны, хоць і быстры позірк на машыну. Што ні кажы, важнецкая!

Затое кінуўшы вокам на зяця, Хрысціна зляканулася.

«Божачка літасцівы,— падумала яна,— дзеўка як макаў цвет, не дурная, вучоная, а жаніха нібы на сметніку падабрала. Мізэрны, з тварыкам дуляй, на якім яшчэ расплюскаўся шырокі нос. Валасы рудыя, шчокі рабыя, ды яшчэ, як на грэх, казлінай бародка. Што ёй, хлопцаў не дасталося ці за бліскучай цацкай пагналася?.. А людзям як у вочы глядзець? Абгавораць, абсмяюць...»

Потым ужо Хрысціна неяк прывыкла да зяця, можа, таму, што не часта бачыла яго. Антаніна не любіла ездзіць у Барсукі. Клічаш не даклічашся. Ігар хутчэй адгукаўся на просьбы прыехаць. Хрысціну ён паважаў і, здаецца, без таго прытворства, якое бывае ў зяцёў: за вочы пасміхаюцца, а ў вочы хваляць.

Калі памёр Яўхім, Ігар першы загаварыў пра тое, што Хрысціне няма чаго заставацца ў вёсцы. У іх жа дача пабольш цешчынай сядзібы з прысядзібным участкам — гектар васемнаццаць сотак. Васемнаццаць — агароду, астатняе — сасновы лес з бярозавым падлескам. Так што цешча і не заўважыць, што памяняла вясковы быт на гарадскі. А калі не захоча жыць на дачы, дык і ў гарадской кватэры месца хопіць...

Хрысціна тады падумала: «А ражна табе, зяцёк! Хочаш, каб цешча была за бясплатную парабчанку. Ды яшчэ вартавала тую дачу сярод лесу. Не дачакаешся».

Тады думалася так, цяпер думаецца гэтак. Куды ні кінь, а падкрадваецца старасць, і, хочаш ці не хочаш, давядзецца пераходзіць на іншую пасаду: з гаспадыні на прыжывалку. Аднаму ды старому чалавеку ў вёсцы жыць і цяжка, і адзінока.

Старасць — паршывая штука. Пакуль робіш — ты патрэбны, пра цябе помняць. А перастаў працаваць, перайшоў на пенсію — і цябе абыходзяць, як той корч пры дарозе. Бывала, брыгадзір кожную раніцу заглядаў у хату, а цяпер, убачыўшы, за вярсту аббягае, баіцца, ці не папросіш каня дроў прывезці, ці не паскардзішся, што абяцаны за цяля камбікорм дасюль не выдалі. Старшыню калгаса — дык таго, як самаго госпада бога, нельга ў твар убачыць. Калгасная кантора за пяць кіламетраў. А пенсіянеру, бывае, і два цяжка прайсці. Ну, ды гэта не старшынёў клопат. І цягнецца пенсіянер у кантору. А ў старшыні нарада, а ён заняты і не прымае. Патаўчэшся ў прыёмнай і тупаеш дамоў. Тры разы дарэмна сходзіш — чацвёрты не пойдзеш. Але што там старшыня калгаса. Доктар і той

морщчыцца, калі яго пенсіянер выклікае. Навошта яго патурбавалі? Ён жа маладосць табе не верне...

Хрысціна пра старасць думала без вялікага страху. Яна, дзякуй богу, не адзінокая, дзеці яе не забываюць. Так што да брыгадзіра ёй няма чаго хадзіць. Адно, калі атаву дзеляць.

«Гадкі са два яшчэ пажыву, памадзею ў вёсцы,— вырашыла яна,— а тады ўжо скажу Антаніне з Ігарам: забірайце. Што ж, і на дачы пажыву. Мне не прывыкаць. Дача ў іх цёплая, і ад электрычкі недалёка...»

Госці, як па камандзе, падхапіліся з крэслаў. Ігар адразу ж уключыў магнітафон. Праз дзве чорныя скрыначкі-тумбы з яго выплеснулася гучная, з бляшаным ляскатам музыка і песня на чужой, незразумелай мове.

Маладзейшыя пайшлі ў скокі: затупалі на месцы, выгінаючыся ўсім целам. Цяперашнія гэтыя заморскія скокі дайшлі ўжо і да іхняй глухой вёскі. Праўда, іх часцей скачуць улетку, калі на адпачынак прыязджае моладзь, што яшчэ не зусім адарвалася ад бацькоўскіх хат, але паспела ўжо набрацца гарадскога духу.

Вясковыя больш скачуць полькі ды вальсы, факстроты і тангі, розныя там кракавякі, каробачкі, падэспані і кадрылі на восем каленаў, як бывала, да вайны, у гады Хрысцінінай маладосці. Але і яны часам любяць пакуражыцца, паказаць, што не лыкам шытыя. Тады ўжо так выдыгаюць нагамі, так выцінаюцца і выкручваюцца, аж брыдка бывае глядзець.

Хрысціна цяперашніх танцаў не любіла. Некалі яна была першай танцоркай у калгасе. Бывала, як пойдзе танцаваць польку са Стахванішыным Цімкам, дык ужо ніхто на круг не пасмее вылазіць — толькі глядзяць ды любуюцца.

Божа, як яна любіла польку! Здаецца, і ног не чуеш. Ляціш у паветры, а ўсе навокал мільгае, кружыцца. Хараство, якое не выкажаш. Яго толькі адчуць можна.

Антаніна танцавала з мужчынам, які першы ўзняў тост за яе, Хрысцініна, здароўе. Той ленавата пераступаў з нагі на нагу, пагойдваўся ў такт музыкі, а ягоныя рукі, здавалася, клікалі Антаніну ў абдымкі. Яна ж ганарліва паходжвала, то наступаючы на мужчыну высокімі, дзёрзка ўзнятымі грудзямі, то сарамліва адступала, дражніла яго ўсмешкай. Хрысціне, можа, найбольш за ўсё і не падабалася тое, як танцуе Антаніна, вось гэтае зазыўнае паддражніванне. Скача, як дзеўка, што надумала залы-

гаць хлопца. Хіба ж дзеля гэтага ідуць у скокі? Скачуць дзеля таго, каб адчуць асалоду, задавальненне ад свайго спрыту. Танец таму і бывае прыгожы, што ні пра што дурное не думаецца. Там, дзе прыгажосць, хараство, дурных думак не бывае.

Хрысціна адвяла вочы ад Антаніны, прыглядзелася, як танцуюць другія. І яны танцавалі гэтак жа, як і Антаніна: рукамі, позіркамі, усмешкамі, гуллівымі позамі. Хрысціна папракнула сябе, што дарэмна прыдзіраецца да дачкі. Мусіць, цяпер такая мода. Некалі, як на вёску прыйшлі факстроты ды танга, старыя пляваліся на маладых. Пэўна, і яна састарылася, нічога не разумее ў цяперашніх танцах.

Хрысціна так засяродзілася, што не пачула, як да яе падышла сваццця, прысела поруч, спытала, ці не сумна ёй, прапанавала пайсці ў кабінет да Кліменція Усеваладавіча. Там сабраліся людзі ў гадах.

Кліменцій Усеваладавіч сядзеў у мяккім крэсле з люлькай у руцэ. Убачыўшы Хрысціну, падхапіўся, узяў яе пад локаць, пасадзіў на мяккую канапу.

— Дык пра што я хацеў сказаць? — спытаўся ён, сеўшы ў крэсла.— Ага, пра сучасную архітэктуру нашых мікрараёнаў. Дык вось, у Токіа, недзе ў раёне вуліцы Гінза, мы сядзелі за традыцыйным кубкам чаю з Дзюндзей Сакакурам, тым самым Сакакурам, што разам з Маэкавай Іісімурай спраектавалі Інтэрнацыянальны Дом культуры, і ён сказаў мне: «Кожная рэч праз сто гадоў становіцца гісторыяй, калі яна існуе ў дзесяці экземплярах; кожная рэч, тыражыраваная нават у тысячах экземплярах, становіцца гісторыяй праз тысячу год».

Кліменцій Усеваладавіч гаварыў з той плаўнасцю ў голасе, якая закалыхвае, і Хрысціна раптам спалохалася, што вось-вось клюне носам, пакрыўдзіць тым самым гаспадара. Усё ж глядзець, як танцуе моладзь, было куды весялей.

Ідучы на даччыну палавіну, Хрысціна зазірнула на кухню. Там завіхаліся дзве жанчыны: тая маладая, што адчыняла ёй дзверы, Ларыса, і нашмат за яе старэйшая, з хваравітым тварам Лізавета. Гэтая Лізавета без усякай прыязнасці глянула на Хрысціну, быццам хацела сказаць: «А цябе, старая качарга, чаго сюды занесла?» Ларыса заўважыла непрыязны позірк Лізаветы, растлумачыла, што Хрысціна маці гаспадыні.

— Дык вы не турбуйцеся,— не памякчэла, а нават па-

суравела Лізавета.— Усё будзе зроблена як трэба, і няма чаго нас кантраляваць.

Хрысціна не пакрыўдзілася.

— Я падумала, можа, мая помач патрэбна,— сказала яна.— Не люблю без работы сядзець.

— Што вы, што вы,— запярэчыла Ларыса.— Не трэба. Мы самі.

Яна ўзяла сподкі, паставіла на паднос, панесла к сталу.

Лізавета глянула ёй услед, сказала Хрысціне:

— На маю нявестку падобная. Такая ж выдра...

— Навошта вы так,— папракнула яе Хрысціна.— Добрая дзяўчына, ветлівая.

— Ветлівасць іхняя... Я адну такую ветлівую на кватэру ўзяла. Дык яна к сыну падкацілася. Нарадзіла. Я яе ледзьве з кватэры выгнала. Дык думаеце, што яна зрабіла. Сына на той сібірскі БАМ звезла, і цяпер ад яго ні слыху ні дыху...

Хрысціна хацела спытаць, ці ёсць у Лізаветы яшчэ хто з дзяцей, але ў кухню зайшла Антаніна.

— Мама, ну што вы ад гасцей схаваліся?.. Чай будзем піць...

## 10

Госці разышліся гадзіне а дзесятай. Упакаваўшы рэстаранны посуд у скрыні, пайшлі абедзве жанчыны. У кватэры стала непрывычна ціха і пуста. Чамусьці цьмяна гарэлі люстры, і ад таго цішыня і пустата прыгняталі асабліва моцна.

Пакуль Ангеліна Сцяпанаўна слала Хрысціне пасцель, Клімянцій Усеваладавіч змяніў парадны гарнітур на шырокі і доўгі халат.

— Аднак жа замарыўся,— прызнаўся ён, зайшоўшы на сынаву палавіну.

— Ды ўжо ж,— падтрымала яго Хрысціна.— Гады, сваток, гады...

Цяпер, калі сват быў у халаце, тапачках, шапачцы са смешным пампончыкам на макушцы, ён выглядаў даступным і такім жа, як Хрысціна, смяротным чалавекам, сапраўды дужа змораным. Ён увесь неяк абмяк, абвіс, пад вачамі залегла густая чарната, а цяжкія павекі набрынялі сіняватай прыпухласцю. Дыхаў ён цяжка, са свістам у грудзях, як заядлы курэц з прадымленымі лёгкімі. Яго-ныя рукі, пасечаныя зморшчынамі, пераплеценыя сеткай

набухлых жыл, цяжка і нерухома ляжалі на каленях. Ён сядзеў прыгорбіўшыся, нібы трымаў на карку нейкі цяжар.

Хрысціне было шкада яго. Яна адчувала ягоную стомленасць. Не тую, што бывае пасля цяжкой працы. А вось такую, што ахоплівае пасля непатрэбнай мітусні, напружання, ад непатрэбных, пустых размоў, якія, аднак, трэба весці з усёй адказнасцю.

«Наліха Антаніне было спраўляць гэтыя імяніны? — падумала Хрысціна.— Колькі турбот людзям. Ды і выдаткі вялікія. Якая неашчаднасць! Каб жыла тут, сама ўсё зрабіла б. Не прывыкаць!.. З Антаніны невялікая помач старым. Ды яно і праўда, Антаніна да іх у домработніцы не нанімалася. Во пераеду, я ім усё жыццё перайначу...»

Ангеліна Сцяпанаўна паслала пасцель, пайшла да сябе, пакінуўшы свата са сваццяй. Пасля доўгага маўчання Кліменцій Усеваладавіч адказаў Хрысціне:

— Так, так, гады... Сапраўды гады...

— Адпачываць вам час,— нагадала Хрысціна.

— Дык і вам таксама,— усміхнуўся сват.

— Я прывычная,— адказала Хрысціна.— Ды і дзецям хочацца дапамагчы...

— Ну так, дзеці,— разважаючы, пагадзіўся сват.— Бацька мой у свой час быў дужа славуты медык. Доктар навук, прафесар, загадчык кафедры, кіраўнік клінікі. Па тым часе жылі мы багата. А калі я скончыў школу і паступіў у інстытут, ён сказаў мне: «Сын, ты ўжо дарослы, сам выбраў сабе дарогу, дык вучыся спадзявацца на сябе і толькі на сябе». А гады маёй вучобы ў інстытуце былі нялёгкімі. Галоднымі гадамі. Але я і не падумаў прасіць у бацькі дапамогі.

— Дык жа для дзяцей і жывём,— не пагадзілася з ім Хрысціна.

Кліменцій Усеваладавіч цяжкавата прыўзняўся з крэсла.

— Спакойнай вам ночы, Хрысціна Максімаўна,— сказаў ён і пайшоў, шоргаючы па лакіраваным паркеце мяккімі тапкамі.

Хрысціна троху пасядзела ў самотнай задуме. Хацела класціся, ды ўспомніла, што яе спадніца і кофта засталіся ў шафе на палавіне свата. Трэба было пайсці па іх, пакуль сваты не леглі.

Яна заглянула ў калідор, Кліменцій Усеваладавіч

стаяў, абапершыся аб сцяну, Ангеліна Сцяпанаўна падтрымлівала яго пад пахі.

«Божачка, яму дрэнна,— спалохалася Хрысціна.— А Ігара з Антанінай няма».

— Можа, доктара трэба выклікаць? —падала яна голас.

Ангеліна Сцяпанаўна азірнулася.

— Не, не... Зараз пройдзе... А вы па адзежу прыйшлі? Даруйце, не здагадалася.

Яна пакінула Кліменція Усеваладавіча, падала Хрысціціну спадніцу, кофту...

— Добрай вам ночы...

Хрысціна патушыла святло. Лягла на канапу. Але заснуць не магла. Вялікі цагляны дом, з панадворка такі маўклівы, а цяпер яшчэ і сонны, знутры быў напоўнены незразумелымі гукамі. Яны раздражнялі Хрысціну, асабліва нейкі капеж. Кроплі вады ці яшчэ чаго важка падалі, выклікаючы чыгунны звон. Было такое ўражанне, што кроплі падаюць тут, у гасцінай.

Хрысціна села, каб лепей пачуць, дзе падаюць кроплі. Капеж адразу спыніўся. Хрысціна паслухала-паслухала ды і лягла на падушку. Капеж аднавіўся. Цяпер, здалося, ён даносіўся з кватэры над гасцінай. Адразу ж нешта зазудзела. Быццам хто няўмела граў на дудцы. Хрысціна паклала падушку на галаву і неяк адразу заснула.

Прачнулася яна ад дурнога, недарэчнага, але і страшнага сну. Прыснілася, нібы яна з Цімкам скакалі польку за ровам, на выспе, дзе звычайна барсукоўскія мальцы спраўлялі маёўкі. Раптам з аўражка вылез мядзведзь, стаў на заднія лапы і пайшоў на іх з Цімкам. Хрысціна добра бачыла мядзведзя, а Цімка, здаецца, нічога не бачыў — так быў захоплены полькай. Яна неяк вырвалася з Цімкавых абдымкаў. Пабегла, а мядзведзь дагнаў яе, закружыў, аж заняло дых, і ўсё нешта бубнеў, як бы ўгаворваў не баяцца.

Хрысціна і прачнулася ад гэтага бубнення. Здалося, што яна ўсё яшчэ прадаўжае сніць, бо ўжо і наяве нехта бубнеў, як над вухам. Хрысціна прыўзняла галаву, каб лепей прыслухацца да таго бубнення. Убачыла стужку святла з-пад дзвярэй і пачула далёкія галасы.

«Ігар з Антанінай вярнуліся,— здагадалася яна.— Яны і бубняць, бадзягі начныя».

Можна было б спакойна заснуць, ды нешта занепакоіла, пагнала благія думкі наўскач. І адразу прапаў сон,

хоць бярыся за якую работу. Пасля Яўхімавай смерці такое здаралася часцяком. Звечара зморыць сон, а ноччу прадзярэш вочы, адразу ж нахлынуць думкі, і праляжыш да раніцы. У такую пакутлівую бяссонніцу Хрысціна звычайна запальвала святло, бралася за недаробленую ўвечары працу. Яна памагала, неўзабаве ўкладвала ў ложак.

У даччынай спальні галасы то заціхалі, то гучалі мацней. Хрысціна як ні прыслухоўвалася, разабраць, пра што гавораць дачка з зяцем, не магла. Раптам галасы сціхлі, нешта моцна ляснула, нібы пранікам па бялізне. І адразу пачуўся злосны голас Антаніны:

— Перастань вар'яцець!..

«Ці не сварацца? — падумала Хрысціна.— І чаго, каб хто спытаў?»

Падумалася Хрысціне з дакорам, хоць яна і разумела, што ў жонкі з мужам заўсёды знойдзецца прычына, каб адно аднаго ўпікнуць. Не так глянуў, не на таго глянуў, не тое сказаў, не з тым сеў, не з тым танцаваў. У такіх спрэчках няма ніякага сэнсу, але і бяды таксама. Муж з жонкай сварацца — аж іскры сыплюцца, а лягуць у ложак і паміpацца. Ды яшчэ як мілавацца будуць. Ложак ды цёмная ночка спрадвеку мужыка з бабай мірацъ.

Галасы ў спальні тым часам не заціхалі.

«Як ім не сорамна? Ноч. Людзі спяць. Знайшлі час сварыцца. Сваты, мабыць, чуюць. Хоць не, сваты спяць далёка. Суседзі наверсе, тыя пэўна чуюць».

Хрысціна не ўлежала. Накінула спадніцу, надзела кофту. Ступаючы босымі нагамі па мяккім дыване, дайшла да дзвярэй, асцярожна прыадчыніла іх.

На калідоры гарэла святло, а са спальні і цяпер вельмі выразна даносіліся ўзбуджаныя галасы. Найбольш Ігараў.

— Ах ты, дрэнь! — раптам крыкнула Антаніна, і зноў нешта ляснула, аж, здаецца, пайшоў пошчак.

«Божачка, гэта ж ён б'е Тоньку»,— спалохалася Хрысціна і рынулася на абарону дачкі.

Дзверы спальні былі прыадчынены. Хрысціна забегла ў спальню і спынілася. Там панаваў змрок. Толькі на тумбачцы, каля ложка, гарэла невялічкая лямпачка-смаркачка. Пры яе святле Хрысціна ўбачыла Ігара, які выкручваў рукі Антаніне. Не памятаючы сябе, Хрысціна схапіла яго за каўнер (дзе толькі ўзяліся сілы!), адкінула да дзвярэй.

— Я табе пакажу, зладзюга! — крыкнула яна чужым, віскlівым голасам.

Ігар не ўстаяў на нагах, паваліўся на падлогу, на тоўсты мяккі дыван. Хрысціна чакала, што зяць, можа, ускочыць, каб даць здачы. Яна гатова была абараняць і сябе, і Антаніну. Але ён сеў, абапёрся спіной аб сцяну, абхапіў вострыя калені рукамі і зарагатаў, як ненармальны.

— Мама, што з табой? — спыталася Антаніна, нібы маці знаходзілася ў непрытомнасці і чортведама што рабіла.

У Антаніны быў дужа спакойны голас. Можа, гэта найбольш за ўсё і ўразіла Хрысціну. Яна павярнулася тварам да дачкі і толькі цяпер заўважыла, што на Антаніне, апрача вельмі тонкай і празрыстай сарочкі, нічога няма. Каб не мноства карункаў і складак, дык Хрысціна, бадай, падумала б, што Антаніна наогул стаіць галышом.

«Ну і дурная я,— засварылася на сябе Хрысціна.— Кінулася, стары атопак, а не падумала, што тут можа быць. Відаць, Тонька раздражніла мужыка, потым закапрызіла, ну і палучыла па сцягнах».

Ёй стала смешна. Во ўліпла дык уліпла! Але ж і выгляду не трэба падаваць. Няхай думаюць, што ні пра што не здагадалася.

— А хай не распускае рук,— сказала яна і паглядзела на Ігара з дакорам і асуджэннем.

— Я?.. Біў яе?..— здзівіўся Ігар.— Ну, цешча!.. Гэта мяне б'юць і плакаць не даюць...

Ён ускочыў з падлогі, уключыў люстру. Спальню заліло мяккае святло.

— Дзе ў яе сінякі? Гузакі?.. Няма?.. Тады зірніце сюды,— ён павярнуўся да Хрысціны бокам, тыцнуў пальцам у шчаку.— Бачыце...

Шчака была пунцовая. Ну і Антаніна! Хрысціна хацела, хоць бы дзеля прыліку, пасварыцца на яе, але ўбачыла на падлозе асколкі нейкай вазы. «Мала таго што сварацца, дык дабро нішчаць. Ваза, мусіць, дарагая, а яе бац і пабілі»,— абурылася Хрысціна.

— Ну, і што вы не падзялілі? — спытала яна абаіх: дачку і зяця.

Антаніна дастала з шафы халат, стала надзяваць. А зяць паспрабаваў аджартавацца:

— Радасць быцця не падзялілі...

— Пасаромеліся б... Радасць не падзялілі, а вэрхал узнялі. Каб у нас здарылася, палова вёскі прыбегла б...

— Святая праўда, дарагая цешча. Мудрая вы жанчына,— як бы і сур'ёзна, але нібы і жартам сказаў Ігар.—

Нашы паводзіны не вызначаюцца інтэлігентнасцю. Але дзе яна? І што паробіш, калі не схіле дваццатага стагоддзя мы трымаемся голага рацыяналізму і паскуднага прагматызму. Такая селяві, цешча...

Хрысціна пакрыўдзілася, падумаўшы, што зяць знарок гаворыць па-вучонаму, каб падкалоць яе.

— Памаўчаў бы, інцілегент! Лёг бы спаць лепей...

— Лёг бы,— пагадзіўся Ігар,— але ж вы задумалі нас перавыхоўваць. Наогул справа гэтая бесперспектыўная, а ў такую пару сутак дык зусім непатрэбная. Тым не менш я буду рады вас паслухаць, але спачатку мушу на хвілінку адлучыцца. А вы тым часам можаце ўзяць інтэрв'ю ў вашай знакамітай дачкі, Антаніны Яўхімаўны...

— Скамарох,— сказала Антаніна.

— Шчыра ўдзячны,— насмешліва пакланіўся Ігар і знік за дзвярамі.

Хрысціна села на ложак.

— Што ў вас тут было? — спыталася ў дачкі.

— Нічога. Абсалютна нічога,— таропка адказала Антаніна.

— І асколкі гэтыя — нічога? — паказала на разбітую вазу.

— І яны,— абыякава адказала Антаніна.— Ідзі, мама, спаць. Позна ўжо...

— Які ж цяпер сон, дачушка,— сказала Хрысціна, збітая з панталыку даччыным адказам.— Ты мне ніколі пра сваё жыццё не расказвала. Я думала, ты жывеш як у бога за пазухай. А тут... Дом, мусіць, разбудзілі. Дзіўлюся, як сваты не прыбеглі.

— Яны на дачы,— адказала Антаніна.

— Не выдумляй, Ангеліна Сцяпанаўна пасцель мне слала. А ў свата сардэчны прыступ быў. Як жа яны маглі паехаць?

— Сабраліся і паехалі,— стаяла на сваім Антаніна.

— Ты мне галаву не дуры, расказвай, чаму сварыцеся?.. Чаму сваты праз ноч паехалі на дачу?..

— Мама, ідзі спаць,— настойліва запатрабавала Антаніна.

— Не скажаш сама, Ігар раскажа,— пастрашыла дачку Хрысціна.

— Хай расказвае...

— Ты як гэта з маці размаўляеш? — пакрыўдзілася Хрысціна.

— Адчапіцеся вы ўсе ад маёй галавы,— аж злосна крыкнула Антаніна і выбегла са спальні.

Адтуль, з калідора, тут жа зайшоў у спальню з бутэлькай віна і трыма бакаламі Ігар.

— Пані Малінец збегла,— сказаў ён і тут жа спытаў: — Вы, мабыць, здзіўлены? А здзіўляцца, шаноўная Хрысціна Максімаўна, не варта. Усё прадвызначана, абумоўлена, мае свой пачатак і сваё лагічнае завяршэнне. Мы ўпэўнены, што самі ствараем сваё жыццё, і не здагадваемся, што гэта яно стварае нас, робіць героямі і баязліўцамі, прыстасаванцамі і рвачамі, бессярэбранікамі і кар'ерыстамі, сумленнымі і подлымі. Мы толькі прыкідваемся, выдаём сябе за кагосьці, зусім непадобнага на нас. Каб чалавек мог зірнуць на сябе збоку, дык, запэўніваю вас, жахнуўся б, а каб адважыўся выказаць свае патаемныя думкі, дык з яго жахнуўся б белы свет. На жаль, ні тое, ні другое не дадзена чалавеку, і ён, як мурашка ў мурашніку, падпарадкаваны яго закону і не можа выйсці за межы дадзенага прыродай. Вось так, Хрысціна Максімаўна. Давайце ўсё ж вып'ем. Я дужа цвярозы і баюся, што гавару з прэтэнзіяй на філасофскае асэнсаванне нечага, што называецца жыццём.

— Ігарок, сыночак,— звярнулася да яго Хрысціна, усёй душой адчуўшы нейкую бяду,— скажы мне, дурной вясковай бабе, што ў вас? Толькі без выкрутасаў скажы, каб я зразумела...

— Разыходзімся мы,— сказаў ён, як бы з выклікам ці на злосць ёй, а крыху памаўчаўшы, дадаў з непрыхаванай тугой: — Яна кідае мяне.

Разводаў цяпер хапала ўсюды, не тое што некалі. Бывала, калі хто разводзіўся, дык за дзесяць вёрст ведалі і з год пра гэта толькі і гаварылі. Цяпер разводзяцца часта, нават у вёсцы. Але ўсе тыя разводы, пра якія чула і ведала Хрысціна, можна было зразумець, растлумачыць. Тое, што Ігар разводзіцца з Антанінай, не паддавалася разуменню.

Жонак мужыкі кідаюць, хоць заявы на развод падаюць не яны, а жанчыны. А што ім рабіць, калі мужык п'яніца, алкаголік, які ўсё прапівае ды яшчэ кідаецца з кулакамі і на жонку, і на дзяцей. Вясковая жанчына і алкаголіка трымаецца. Разумее, што кінуць мужчыну проста, а дзе другога знойдзеш? Другі пад плотам не валяецца, а калі і валяецца, дык не твой, а нечы, заняты. Ці мала паразводзілася і барсукоўскіх дзевак, што павыходзілі замуж у

горадзе. Але не яны кідалі мужыкоў. Якой маладзіцы хочацца адной век мадзець? Няхай мужык і заняпалы, так, адна бачнасць, а ўсё ж такі мужык і дзецям бацька. Канечне, і жанкі, бывае, вінаватыя. Ды і не баяцца цяпер мужыка кінуць. Цяперашняя жанчына прывыкла, каб мужык яе ўлагоджваў, толькі з ласкай падыходзіў, іначай зад аб зад і гаршкі ўрозь. Свет пайшоў нетрывалы. Людзі кідкія на даступнае і нецярпімыя да чужых грахоў. Свае ж і за грахі не лічаць.

Дык чаго ж Антаніна кідае Ігара? Ці, можа, зяць знарок гаворыць, каб пазлаваць Хрысціну? Можа, вінаваты перад ёю, а віну на жонку хоча перакласці?

Хрысціна пачула, як сціснула галаву жалезным абручом, аж забалелі вочы.

— Ігарок, дзетка мая, можа, абыдзецца неяк? Можа, табе здалося нешта, а на самой справе нічога няма? Бывае, што пасварышся да нялюбасці, а пасля адумаешся, і ўсё праясніцца. У маладосці ўсе гарачыя, няўступчывыя. А па жыцці ісці — саступаць адно аднаму нада. Без гэтага не пражывеш. Жыццё трымаецца на згодзе, а не на варожасці.

Ігар слухаў моўчкі. У яго быў прыгнечаны выгляд.

— Не, Хрысціна Максімаўна,— з нечуванай пераконанасцю загаварыў ён,— тут, як кажуць, прысуд канчатковы і абскарджанню не падлягае...

— Але чаго? — не адставала ад яго Хрысціна.— Як жа так? Жылі-былі, і вось табе маеш: разыходзіцеся. Калі ты вінаваты, скажы. Я з Антанінай пагавару. Заступлюся за цябе, каб толькі сям'ю захаваць. Калі яна, дык не сумнявайся, я з ёй так пагавару, што дзесятаму закажа.

Яна гаварыла, а сама глядзела на Ігара, спрабуючы па яго твары ўгадаць, вялікая бяда прыйшла ці малая. Ігар усміхнуўся, нібы слухаў не старую жанчыну, цешчу, а някемлівую дзяўчынку.

— Зайздрошчу я вам, Хрысціна Максімаўна. Вы як заснулі гадоў трыццаць назад, дык і спіцё. А свет перамяніўся, і слова ваша так, пусты гук.

— Чаму ж пусты,— пакрыўджана спытала Хрысціна.— Дачка яна мне. Я яе раджала і гадавала...

— Ну і што?.. А яна не вас, не яшчэ каго, а сябе паслухае ды яшчэ Мікалая Мікалаевіча Рагажынскага...

— Якога Мікалая Мікалаевіча?..

— А таго, што танцаваў з Антанінай увесь вечар,— сказаў Ігар.

У Хрысціны аж адлегла ад сэрца. Дык вось яно што? Рэўнасць! Рэўнасць, і нічога больш! З-за яе не дужа каб разводзіліся. Тыя, што раўнуюць, усё жыццё жывуць, і чорт іх не разлучыць. Пасварацца, гузакоў насадзяць, а пасля паміраццa, ды яшчэ мацней адно аднаго любіць стануць. Але ж і Антаніна! Дзіва што Ігар зараўнаваў. Ёй і самой не па душы прыйшліся Антаніціны танцы з тым сіваватым чалавекам. Рагажынскі яго прозвішча. Мікалай Мікалаевіч... Ну, ён дык зразумела, чаго выдыгаў перад ёю. Стары бабёр!.. Мікалай Мікалаевіч той гадоў на дваццаць старэйшы. А яна чаго выдыгалася перад ім? Каб на якога барсукоўскага мужыка, дык даў бы пад зад, каб не круціла ім перад кожным. А Ігар раскіс. Жонку, ці бачыце, у яго забіраюць. Глядзі, забяруць! Нікуды яна не дзенецца. Ну, я ёй і задам перцу. Нахабніца: пры мужыку такое сабе дазваляе.

— А мой ты Ігарочак, на рознае глупства зважаеш,— загаварыла яна паблажліва, троху нават насмешліва.— Ты ж сам сябе перад ім прыніжаеш. Знайшоў, да каго раўнаваць. Ён хіба мне ў жаніхі годны. А Тоньцы наліха ён...

Хрысціна бачыла, што Ігар задумаўся. Выходзіць, уцэліла яна ў самы раз. Як добра, што прыехала. Хоць памірыць дачку з зяцем. Скажы, хіба сэрца маці не вяшчун? Падказала, калі трэба ехаць.

— Нічога вы, Хрысціна Максімаўна, не разумееце,— сказаў ён.— Не рэўнасць тут. Рэўнасць — нешта ўсё ж высокае, пачуццёвае, а дачку вашу ніякія пачуцці не кранаюць. Ды я і не раўнівы, цешча. Не, не раўнівы.

Хрысціна разгубілася. «Ці я зусім здурнела, ці яны дужа разумныя сталі,— падумала яна.— Нічогачкі не зразумець. Гавораць, як ходзяць па крузе, а чаго, самі не ведаюць. У вучоных гэтых вечна не па-людску, вечна з вывертам...»

— Ну, і не разумею,— злуючы, сказала яна.— Дык і сказаў бы толкам, а то пятляеш, як заяц...

— А навошта вам? — гледзячы на яе спадылба, спытаў Ігар.

— Як навошта?..

— Бо вы нічога не пераменіце,— адказаў Ігар.

— Дужа ты ўсё знаеш... Каб маці ды не перамяніла... Тады наліха было жыць...

— Плюньце на ўсё, Хрысціна Максімаўна,— параіў Ігар.— Мне і самому не ўсё зразумела.

— Дык давай разам і разбярэмся,— падказала Хры-

сціна.— Я на паўдарозе не прывыкла спыняцца. Мне ўсё трэба ведаць...

— А знаеце, цешча, мы з вамі першы раз вось так шчыра размаўляем,— сказаў Ігар і прысеў на ложак, што стаяў насупраць Хрысціны.— Што я магу вам сказаць? Нічога. Яна ж толькі сёння, як пайшлі гасцей праводзіць, сказала, што кідае мяне.

— А дасюль як у вас было? — пацікавілася Хрысціна, уражаная тым, што пачула.

— У норме,— адказаў Ігар.

— Ну во,— узрадавалася Хрысціна, нібы зяць адкрыў ёй бог ведае якую тайну.— Не сварыліся, не біліся, і — развод... Хіба ж так бывае?..

Ігар пакрыўдзіўся, зазлаваў. У злосці ён быў не страшны, а смешны. Хрысціне падумалася, што Антаніна таму і ўзяла ўладу над мужыком, што анічуць не баіцца яго. А калі жонка і не баіцца, і не паважае мужыка, дык ладу ў сям'і ніколі не будзе.

— Дык, можа, я сп'яна прыдумаў, як ваша дачка ўзяла Мікалая Мікалаевіча пад руку, прытулілася да ягонага пляча і сказала мне такім абыякавым голасам, нібы гаворка ішла не пра нас з ёю, а пра кагосьці чужога: «Кідаю я цябе, Ігар. І, калі ласка, без лішніх сцэн». А Мікалай Мікалаевіч нахабна ўсміхнуўся і яшчэ больш нахабна дадаў: «Яна вас, Ігар Кліменцевіч, ніколі не любіла, так што вы, лічыце, нічога не страцілі, бо нічога не мелі». Як вам гэта падабаецца? Ці, можа, вы і цяпер скажаце, што я на п'яныя вочы ўсё гэта прыдумаў?

Ігар гаварыў з іроніяй, як бы пасміхаўся з сябе, а таму словы ягоныя здаліся Хрысціне фальшывымі і бязважкімі. Яны не пераканалі Хрысціну, наадварот, яшчэ больш пасеялі сумненне. «Дурыць ён мне галаву,— падумала яна пра зяця.— Але ж і Антаніна добрая. Здзекуецца з яго, знарок падбухторвае на рэўнасць. А навошта ёй?»

— Ігарок, дзетка мая,— загаварыла яна прачула, шкадуючы зяця,— паслухай, што я табе скажу. Яна цябе знарок разыграла. Каб мне з гэтага месца не ўстаць, калі хлушу. Бабе вечна хочацца чуць, што мужык шануе і кахае яе. А калі мужык нездагадлівы, дык яна падбухторыць яго на рэўнасць. Мужык раўнуе, значыць, кахае. А ты ўсё пасур'ёз прыняў. Сам падумай, спраўляеце жончыны імяніны, гасцей поўная хата, усё чын чынам. І раптам яна кажа, што кідае цябе. Ды яшчэ пры палюбоўніку.

Не звар'яцела ж яна?.. Не, Ігарок, такое і ў кіно не паказваюць...

Пакуль Хрысціна гаварыла, зяць кпліва ўсміхаўся. Хрысціна бачыла, што Ігар ставіцца да яе слоў паблажліва, з недаверам. Маўляў, а што табе, цешча, гаварыць? Антаніна — твая дачка, дык і будзеш абараняць яе, нават тады, калі яна сама прызнаецца, што кідае мужа.

— Жыццё, Хрысціна Максімаўна, багацей за кіно, бо кіно робяць дужа правільныя людзі, а ў жыцці хапае месца і правільным, і няправільным. У жыцці чалавек, бывае, такое адчубучыць, што за галаву схопішся.

Хрысціна хацела запярэчыць, але памяць падсунула ёй даўнішні выпадак — собрынскае вяселле.

Гады за чатыры да вайны собрынскі трактарыст Ахрэм Мялешка жаніўся з Марусяй Казачковай з іхніх Барсукоў. Былі сваты, агледзіны, заручыны,— усё як мае быць, па старых звычаях. З Собрына па маладую прыехалі жаніх з дружынаю. Усю ноч, як і заведзена, гулялі ў нявесты, а назаўтра Марусю павезлі ў Собрына, да жаніха.

У Собрыне вяселле гулялі ў клубе, бо гасцей набралася шмат і ні адна вясковая хата не ўмясціла б іх.

За сталом заседзеліся да позняга вечара. Вядома, дзе ж пагуляць, як не на вяселлі. Калі госці кінуліся ў скокі, да нявесты падкраўся хлапчук і нешта шапнуў ёй на вуха. Яна пасядзела хвіліну-дзве за сталом ды і выбегла ўслед за тым хлапчуком. Жаніху сказала, што зараз прыйдзе. Мінула, можа, больш як паўгадзіны, а нявесты ўсё няма. Жаніх устрывожыўся. Выбег на двор. Папытаў у людзей, што прыйшлі паглядзець, якую кралю прывёз Мялешка з няблізкага свету. І пакацілася па Собрыне чутка, што нявеста прапала. А яе сапраўды нідзе знайсці не могуць. І тут да жаніха падышоў хлапчук. Кажа: «Дарэмна вы сваю нявесту шукаеце. Яе дзядзька лётчык у горад павёз».

Тут толькі госці з нявесцінага боку дацямілі, што лётчык той, няйначай, загаранскі малец Пракоп Лабуська, які заляцаўся да Марусі. За год да вяселля яны нечага пасварыліся. А як толькі Маруся сабралася замуж, Пракоп і аб'явіўся.

Прыгадаўшы гэты даўні бязглузды выпадак, Хрысціна адчула, як парвалася апошняя нітачка яе ўпэўненасці і спадзявання. Хоць зяць і п'яны, лыка не вяжа, але ён, бадай, бліжэй да ісціны. Нешта такі Антаніна вытварыла, не без таго. Дыму без агню не бывае.

Ёй не хацелася верыць, што дачка кідае мужа — было гэта зусім неверагодна, бо што яшчэ можна шукаць у жыцці, калі ў доме багацце, калі такія паважаныя свёкар і свякруха. Ды і зяць! Ну і што, калі не вельмі паглядны. Затое вучоны, жонку слухае. Якога ж ёй ражна трэба? Па ўсім выходзіла, не павінна Антаніна кідаць мужа. Але Хрысціну ўжо настойліва тачыла страшная думка: а калі праўда?

Зяць памалу кляваў носам. Але трымаўся. Не хацеў паказаць цешчы, што сон яму даражэй за жонку. Хрысціне раптам усё абрыдла.

«Ну, кідае дык і кідае,— наперакор сабе пагадзілася Хрысціна.— Не маленькая, павінна разумець, на які крок рашылася. Сабе мужа знойдзе, а бацькі сыну ўжо не будзе».

Нагадак пра ўнука, Севачку, балюча драпануў сэрца. Кажуць, бабулі любяць толькі тых унукаў, што пры іх гадаваліся. Во ўжо няпраўда дык няпраўда! Севачку Хрысціна бачыла, можа, разоў пяць і то ненадоўга. Аднаго разу, праўда, Антаніна прывезла яго ў Барсукі на цэлых восем дзён. Ці не тады і прыкіпела да яго сэрца.

Севачка ўдаўся не па зяцевай радні. З твару — выліты дзед Яўхім. Ды і хада Яўхімава. Не ідзе, а маршыруе. Але ў характары праявілася нешта ад другога дзеда, Кліменція Усеваладавіча. Хоць часам прарываўся круты малінцоўскі характар: і сілай не прымусіш, і дабром не ўгаворыш. Як Севачка сустрэне новага бацьку, вотчыма, чужога чалавека?! Ці падумала пра гэта Антаніна? Дужа падумала! Сына ў санаторый адправіла, а сама замуж сабралася. Пры жывым мужыку! Ганьба якая!..

І зноў Хрысціну ахапіла злосць на дачку. Здаецца, каб магла, адлупцавала б як сідараву казу. Ды не адлупцуеш. Цяпер і ў пятнаццаць бацькоў не дужа слухаюцца. Але пагаварыць трэба. Няўжо не абразуміцца, няўжо не паслухае маці? Павінна паслухацца. Можа, яна і сама ўжо раскайваецца...

— Ты, Ігарок, пасядзі, а я з Тонькай пагавару,— папрасіла яна зяця.— І яшчэ, дай слова, што не станеш яе папракаць, як вернецца. Трэба дараваць адно аднаму. Жанчына дужа любіць, калі ёй даруюць.

Ігар толькі кіўнуў галавой, як той конь у хамуце, якому надакучыла стаяць, прывязаным да плота. Хрысціна рашуча выйшла на калідор, адразу скіравала ў гасцінную. Дзе ж яшчэ будзе сядзець дачка.

У гасцінай Антаніны не было. Хрысціна пайшла ў кабінет, у Севачкаў пакой, у кухню — і там Антаніны не было. Няйначай, схавалася на свёкравай палавіне, каб не чуць, пра што гаворыць маці з зяцем.

Сватава кватэра патанала ў прыцемках. Хрысціна прайшлася па ўсіх пакоях, усюды запальваючы святло. Антаніны і тут не было. Дзе ж яна? Хрысціна яшчэ раз абышла ўсе пакоі, заглянула нават у кладоўкі, у шафы. Нідзе Антаніны не было.

«Здурэла я зусім,— падумала Хрысціна.— Яна ж у сваёй спальні. Пакуль я шукала яе, дык яна ў спальню зайшла. Дзе ж яшчэ яна можа быць?»

Хрысціна спынілася пасярод калідора. У спальні, здалося, бубнелі, як тады, калі яна прачнулася. Хрысціна ўзрадавалася. Дзякуй богу...

Пацяшаючыся наперад, як насварыцца на дачку, пайшла ў спальню. Зяць ляжаў, скруціўшыся абаранкам, папярак ложка, спаў.

Хрысціна пачула, як падкасіліся ногі, а цела аслабла. Яна ледзьве дацягнулася да гасцінай, села на канапу, абхапіла галаву рукамі і заплакала шчодрымі горкімі слязамі. Ніхто не перашкаджаў ёй плакаць, ніхто не суцяшаў. Плач колькі захочацца.

## 11

Хрысціна так і не заснула. Праседзела да раніцы, раздаўленая даччыным учынкам і глухой пустатой чужой кватэры. Яна, можа, сабралася б і пайшла на вакзал або да Міхася, але ўтрымлівалі яе кволенькая надзея, што Антаніна вернецца, і сорам перад сватамі: збеглі абедзве, як паганыя сучкі, і дачка, і маці.

У цішы, на адзіноце, Хрысціна вырашыла абавязкова знайсці таго Мікалая Мікалаевіча, што задурыў галаву Антаніне, насварыцца на яго, упрасіць, каб адступіўся ад дачкі.

Спачатку думка гэта здалася неверагоднай, нават дзікай, але паступова Хрысціна звыклася з ёю, і ўсё астатняе адступіла на задні план.

Хрысціна дачакалася, калі прачнуўся Ігар, распытала ў яго, дзе жыве той Мікалай Мікалаевіч Рагажынскі, пра якога ён гаварыў ноччу.

У Ігара балела галава. Ды і ўвесь ён быў пакамечаны, ускудлачаны, бледны, аж балюча на яго глядзець. Ігар не хадзіў, а тыцкаўся з кута ў кут, як тое сляпое

кацяня. Хрысціна шкадавала яго і асуджала. Мужык! Ах, каб цябе! Жонку з-пад носа зводзяць, а ён не чухаецца. Цешча павінна знайсці яе, забрытаць і прывесці да яго. Во свет настаў. Сорам! Ганьба!..

Спярша Ігар ніяк не мог зразумець, навошта цешчы Рагажынскі? А калі нарэшце да яго дайшло, неяк зморана, з неахвотай сказаў:

— Дарэмна вы, Хрысціна Максімаўна. Што з воза ўпала, тое прапала.

— Як гэта дарэмна? — узлавалася Хрысціна.— Ты мне шчыра скажы, што зробіш, калі Антаніна вернецца? Можа, толькі бурбалкі пускаеш, а сам узрадаваўся, што жонка кідае. Мне тваё слова патрэбна, што станеце жыць у міры ды згодзе.

Ігар аж разгубіўся ад такой цешчынай непасрэднасці. І пакрыўдзіўся.

— Як вы маглі такое сказаць? — папракнуў ён Хрысціну.— Няўжо вы не разумееце, што я кахаю Тоню? Жыць без яе не магу. Але як рэаліст я вымушаны канстатаваць...

Хрысціна рашуча перапыніла яго:

— Калі кахаеш, дык і памажы мне знайсці яе і таго сівога злыдня.

— Але ж яны могуць падумаць, што гэта я падаслаў вас,— запярэчыў было Ігар.

— Табе жонка патрэбна ці нейчыя думкі? — спытала Хрысціна з насмешлівасцю, якая адразу зрабіла Ігара згаворлівым.

Аказалася, Мікалай Мікалаевіч нетутэйшні і спыніўся ў гасцініцы «Мінск». Ігар дакладна ведаў і нумар таго пакоя, у якім пасяліўся Мікалай Мікалаевіч.

Па лесвіцы Хрысціна паднялася на чацвёрты паверх. Каля стала дзяжурнай тоўпіліся людзі — жыльцы і супрацоўнікі гасцініцы,— так што на Хрысціну ніхто не звярнуў увагі. Яна пайшла па вузкім калідоры, аж ледзь не ў канец яго, дзе стаяў яшчэ адзін стол дзяжурнай. Крокаў праз дваццаць за ім Хрысціна ўбачыла патрэбны ёй нумар, спынілася ад таго, што моцна, да болю, кальнула ў сэрца. Яе раптам ахапіў страх, быццам яна зараз павінна зрабіць нешта вельмі благое. Хоць паварочвайся і бяжы адсюль. Хрысціна азірнулася. Нідзе нікога на ўсім калідоры не было. Тады яна таропка перахрысцілася. Адразу неяк палягчэла і нават дадалося ўпэўненасці. «Як з бядой сустрэнешся, дык і пра бога ўспомніш»,— падумала яна з вясёлай зухаватасцю і рашуча пастукала ў дзверы.

На здзіўленне, ёй адчынілі адразу, нібы чакалі, што яна прыйдзе.

— Што вам трэба? — спытаўся Мікалай Мікалаевіч, не пазнаўшы яе, але тут жа, мабыць , пазнаў, бо разгубіўся, адступіў крокі на два і, ужо справіўшыся з разгубленасцю, запрасіў Хрысціну ў пакой.— Тоня, да нас госця. Твая маці,— гучна сказаў ён.

З другога пакоя са спалатнелым тварам выскачыла Антаніна.

— Божачка,— вырачыўшы і без таго вялікія вочы, задыхана крыкнула яна,— навошта ты?..

Едучы ў гасцініцу, Хрысціна старалася не думаць, што Антаніна можа быць у Мікалая Мікалаевіча. Баялася сустрэцца з ёю, а таму не хацела, каб дачка была ў яго. Самому Мікалаю Мікалаевічу Хрысціна назапасіла безліч кранальных і вельмі пераканаўчых слоў. Калі ў таго не касматае сэрца, дык павінен адступіцца, не псаваць жыццё Антаніне, не сіраціць яе сына.

Убачыўшы дачку, Хрысціна разгубілася. Ненадоўга. Напалоханы, збянтэжаны выгляд Антаніны надаў Хрысціне ўпэўненасці, настроіў на ваяўнічы лад. Усё, што назбіралася ў ёй за доўгую пакутлівую ноч, што нясцерпна пякло, калола, тузала яе душу, цяпер ужо нельга было стрымаць у сабе.

— А-а-а, мошачка,— не чуючы свайго голасу, закрычала яна, абзываючы дачку «мошачкай», як, бывала, абзывала дачок Хрысцініна маці і што тады здавалася Хрысціне вельмі абразлівым,— па чужых пасцелях валяешся! З хаты, ад мужа, ад роднага сына ўцякаеш, як сучка, як прыблуда. Марш дамоў, бессаромныя твае вочы, пакуль я цябе хварасцінай не папёрла...

Яна пазнарок крычала на ўвесь голас. Ёй важна было пагнаць Антаніну адсюль, а там яна яшчэ прыструніць яе, каб трымалася сваёй сям'і, свайго дома. Але як толькі выкрычалася, як толькі прапаў запас сварлівых слоў, яна адчула ўсю бязважкасць свайго абурэння.

— Па-першае, добрай раніцы, Хрысціна Максімаўна,— як бы пасмешліва, а можа, і з дакорам сказаў Мікалай Мікалаевіч.— Так, здаецца, прынята ў культурных людзей? А па-другое, прашу садзіцца, бо крычаць, калі ўжо вельмі захочацца, можна і седзячы.

Хрысціну аж кінула ў пот. Божачка, гэта ж яе адчытваюць, як вучаніцу, што не вывучыла ўрок, ды яшчэ дрэнна сябе паводзіла! Яна хацела адказаць на прывітанне,

але спахапілася, ці варта, бо, можа, гэты Мікалай Мікалаевіч здзекуецца з яе. Яна, як зацкаваная, азірнулася, нібы шукаючы падтрымкі, старонняй дапамогі. Антаніна стаяла, скрыжаваўшы на грудзях рукі. Яе вочы загадвалі маўчаць, не пярэчыць.

Хрысціна абвяла вачамі пакой. Пакой быў вялікі, светлы, з балконам, з тэлевізарам, пісьмовым сталом, мяккімі крэсламі, з тэлефонам і халадзільнікам. З карціны на сцяне на Хрысціну строга пазіраў нейкі барадаты чалавек з люлькай у зубах.

Баязліва ступаючы па мяккім дыване, Хрысціна дайшла да крэсла, села, добра разумеючы, што, сеўшы ў крэсла, яна прайграе бітву за дачку.

— Дык што вы хацелі сказаць? — спытаўся Мікалай Мікалаевіч.

Хрысціна пачула, як яе вочы заслала шэрая смуга, нібы перад імі пайшоў золкі, густы восеньскі дождж. Але слёз не было, ды Хрысціна і не хацела іх. Слёзы — гэта ўжо канчатковы яе пройгрыш, канчатковае паражэнне. А пераможанай яна не магла пайсці адсюль.

Мікалай Мікалаевіч адышоўся ад вузенькага акенца збоч дзвярэй на балкон, дастаў цыгарэту, закурыў. Антаніна прадаўжала стаяць на парозе спальні. За ёй Хрысціна бачыла два ложкі, ссунутыя разам, з незасланымі пасцелямі. Пасцелі гэтыя нагадвалі Хрысціне пра тое, што тут было, і яна, дасюль збянтэжаная, баязлівая, зноў адчула ўпэўненасць у сабе, у сваім праве абараняць дачку ад чалавека, які ўварваўся ў яе жыццё.

— Што я хацела сказаць? — спытала яна голасам, які не абяцаў нічога добрага, і Антаніна аж памкнулася наперад.

— Мама! — крыкнула яна з безнадзейнасцю ў голасе.— Не трэба, мама!

— Не табе «здароў» даюць, не за тваё здароўе п'юць,— адчуваючы дзіўную спакойнасць, сказала дачцэ Хрысціна.— З табой я пасля пагавару.

— Тоня, не перашкаджай нам,— папрасіў Антаніну Мікалай Мікалаевіч.— Я слухаю вас, Хрысціна Максімаўна...

— А і паслухай,— з выклікам адказала Хрысціна.— Ты чаго ў чужую сям'ю лезеш? Мабыць жа, дзеці табе ўнукаў ужо гадуюць? На сябе паглядзі: ссівеў. Які ты ёй муж? У яе і муж ёсць, і дзіця. Можа, ты таму дзіцяці

бацьку заменіш? Можа, ён цябе татам павінен будзе зваць?

— Мама! — аж раз'юшана закрычала Антаніна.— Зараз жа спыніся, іначай...

— Што іначай? Выганіш? Гані маці, якая цябе нарадзіла, выгадавала, у людзі выправіла, каб чалавекам стала. Гані яе...

Антаніна заплакала, і Хрысціна аж зларадна падумала: во-во, паплач, як я ўсю ноч праплакала.

Мікалай Мікалаевіч падышоў да Антаніны, абняў за плечы.

— Культурныя людзі, між іншым,— спакойна сказаў ён,— не абражаюць адно аднаго.

— Ну, а я некультурная... Дзе ж мне, вясковай бабе, культурнай быць? Во і ведай, якая ў цябе цешча будзе. Ні самому паглядзець, ні знаёмым паказаць. Ці, можа, ты спадзяешся неяк ад цешчы пазбавіцца? Дык ад мяне, галубок, не схаваешся. Я цябе ўсюды знайду і ўсюды табе праўду ў твае бессаромныя вочы казаць буду. Мяне п'яны поп хрысціў, дык я шалёнай бываю і тады ўжо за сябе не ручаюся. Таму вельмі прашу, пакінь Антаніну ў спакоі...

Сказаўшы ўсё, што хацелася, што ляжала на душы, як абрыдлы цяжар, Хрысціна адчула палёгку, як бывае, калі добра выплачашся. Яна лёгка паднялася з крэсла, каб ведалі, што далей гаварыць няма чаго. Усё сказана, засталося толькі пайсці адсюль, і не адной, а з Антанінай, якая ўсё яшчэ плакала, уткнуўшыся тварам у грудзі Мікалая Мікалаевіча.

— Пачакайце, Хрысціна Максімаўна,— як бы ўгадаўшы яе намер, папрасіў Мікалай Мікалаевіч і асцярожна, з непрывычным Хрысціне далікацтвам адхіліў ад сябе Антаніну, падвёў да кушэткі. Яны абое селі поплеч, нечым нагадваючы дзяцей, якія правініліся.

Ягоны вінаваты голас і гэтая пакорлівасць адгукнуліся ў Хрысцінінай душы ціхай радасцю — усё ж яна перамагла! — і няёмкай вінаватасцю — раскрычалася, як сварлівая баба, нагаварыла чалавеку мо і лішняе, а ён, відаць, не такі ўжо і благі. Вядома, мужчына! Які з іх устаіць, калі маладзіца спраўная і не супраць... Сама прыбегла... Каб які злыдзень, дык схапіў бы мяне за шкірку і выкінуў бы з пакоя. А гэты культурны, абыходлівы...

Хрысцініна ваяўнічасць, як тая вада, выпушчаная з запруды, схлынула, агаліўшы спрадвечную сялянскую ніякаватасць пасля сваркі. Хрысціна яшчэ хацела сказаць,

што чакаць ёй, маўляў, няма розніку, але насуперак гэтаму кволаму жаданню прамаўчала і нават вярнулася да крэсла, села.

Мікалай Мікалаевіч выцягнуў насоўку, выцер Антаніне мокрыя вочы, абняў, прытуліў да сябе, упрошваючы, каб не плакала. І гэта зноў узварухнула Хрысціціну душу. Яна такіх пяшчот не ведала і ў маладосці. Ды хто пра іх ведаў на вёсцы. Калі мужык не б'е, дык і ласкавы, і маліся богу за яго здароўе. Яўхіма дык яна наогул баялася. Бывала, дзеўкі скажуць: «Малінец ідзе», дык сэрца так і абарвецца. Гатова дзесяць вёрст бегчы не азіраючыся. Ды не ўцякла. Яму дасталася. А тады ўжо, як троху прывыкла да яго, неяк паскардзілася: не ласкавы ты, Яўхімка. Ды ён паглядзеў на яе, як на здзічэлую. Сказаў, нібы сякерай адсек: «Ты, Хрысціна, пра буржуазныя выбрыкі забудзь. Нам нечага лізацца, бо мы з табой роўныя ў правах і абавязках. Гэта ў буржуяў ды інтэлігентаў жанчына існуе дзеля забаў, як рэч, а не чалавек, таму і ліжуцца, і прытвараюцца, што ласкавыя ды пяшчотныя».

«Цяпер усё не так,— падумала Хрысціна.— Ды і раней не так было, як у іх з Яўхімам. Жанчына, як васковая свечка. Тая ад цяпла растайвае, а жанчына ад ласкі. Во і Мікалай Мікалаевіч зачараваў Антаніну пяшчотным абыходжаннем. Не тое што Ігар. Вазу б'е, каб на сваім настаяць. Ты хоць галаву разбі, а калі другі мужчына спрытней заляцаецца, дык нічога ўжо не зробіш».

Хрысціна і сама здзівілася, што пра Ігара падумалася непахвальна, з асуджэннем, быццам ён адзін быў вінаваты. Што ні кажы, а калі зяць ці нявестка не спадабаюцца з першага позірку, дык ужо не прымусіш сябе любіць іх.

— Я разумею вас,— усё з той жа пакорлівасцю сказаў Мікалай Мікалаевіч.— Кожная маці жадае свайму дзіцяці дабра і шчасця. Чаму вы павінны быць выключэннем? Але ж навошта гарачыцца, гаварыць адно аднаму прыкрае, абразлівае? Ды і ці ўпэўнены вы, што робіце сваёй дачцэ дабро, а не зло? Што вы ведаеце пра яе жыццё? Баюся, што дужа мала.

— Гэта ён, ён падштурхнуў яе,— са злосцю ў голасе крыкнула Антаніна, але тут жа нібы забылася на Ігара, пачала ўпікаць маці: — Ты чаго яго абараняеш? Пажыла б з ім. Для цябе адна мерка — ёсць што есці, ёсць у што апрануцца, дзе жыць, значыць, і наракаць няма чаго. А ты спытала калі ў мяне, як я жыву? Ці жыву я наогул?..

Антаніна кідала крыўдныя, абразлівыя словы, якія ін-

шым разам Хрысціна не стала б слухаць. Цяпер слухала, бо ў даччыных папроках была нейкая хоць і крыўдная, але ж праўда.

«А сапраўды,— думала яна,— што я ведаю пра яе жыццё? Нічога. Хацелася верыць, што ў яе ўсё добра, і верыла. Магла б, вядома, і яна сама падзяліцца са мной сваім горам. Дык яна маўчала. І тады, калі я пыталася, як яна жыве. Кожны раз пыталася, як да мяне прыязджала. У чым вінавата дык вінавата, толькі не ў гэтым. Хоць чаго там. Дрэнна пыталася, як жыве дачка. Усё на бягу, на хаду. Бо клопаты адолелі. Вясной думаеш, як агарод засеяць. Улетку — як сена накасіць. Увосень — як бульбу выкапаць, як дроў назапасіць. Пра дзяцей і праўда думала рэдка. Калі думала, дык з крыўдай, што не едуць, не памагаюць, што забыліся на мяне. Хочацца ж кожны дзень дзіця сваё бачыць. А яны месяцамі вачэй не паказвалі».

Хрысціна сядзела прыгорбленая ад таго, што пачула сябе вінаватай за ўсё, што здарылася і з Антанінай, і з Міхасём. «Пайшла па шэрсць, а вярнулася стрыжанай»,— падумала яна без насмешкі над сабой, хутчэй з горыччу.

— Ды я не таму,— паспрабавала яна апраўдацца перад дачкой.— Ваша дзела, як жыць. Але ж і мяне кідаць у чужым доме... Цяпер во трэба вяртацца туды па сумку. У ёй хоць і нічога няма, але ж і без яе — як без рук.

— Сапраўды, выйшла нядобра,— сказаў Мікалай Мікалаевіч, не даўшы Антаніне запярэчыць.— Але ж і ўзяць вас з сабой Тоня не магла. Хоць неяк уладзілі б і вас.— Ён ускочыў з канапы, нібы пачуўшы, што бяда для яго мінавала, сказаў з радасцю.— Вы пасядзіце, а я схаджу, закажу сняданне. Есці, што ні кажыце, трэба. А мы, здаецца, усе трое не снедалі.

Яму ніхто не запярэчыў, і ён выйшаў з пакоя з радасцю, што можна не ўдзельнічаць у непрыемнай гаворцы. Можа, і не па сняданне. Проста знайшоў прыдатную прычыну.

Яны — дачка і маці — засталіся адны. Хрысціна падумала, што вось так удзвюх яны не сядзелі даўно, гадоў дзесяць. Можа, і потым калі сядзелі разам, але тое не запомнілася. А даўняе стаіць перад вачамі вельмі выразна, быццам гэта было не дзесяць гадоў назад, а ўчора.

Яўхіма тады якраз выправілі на пенсію, хоць па тым часе ўжо не вельмі настойвалі, каб чалавек ішоў на заслужаны адпачынак, калі яму хочацца працаваць.

Канечне, бяды ў тым, што чалавека адправілі на пенсію, ніякай няма. Але ж таго, хто ўсім дагаджае, не пап-

руць на пенсію. Яшчэ папросяць, каб застаўся, бо чорт яго ведае, хто на ягонае месца прыйдзе. А вось такіх непаслухмяных, як Яўхім, трымаць не стануць. Кожнаму жыць спакойна хочацца, а праўдалюбцы гэтыя не даюць, хоць плач. Усё ім не так, усюды яны бачаць парушэнні. Паспрабуй павядзі сучасны калгас без парушэнняў. За год яго ўгробіш, бо кожная гайка дастаецца па знаёмству ды блату, кожную запчастку трэба выбіваць і не кулаком, а бутэлькай...

Хрысціна добра ведала крыўдлівы, няўседлівы Яўхімаў характар. Яна і сама лічыла, што з ім абышліся жорстка — не за сваё ж ён сварыўся з людзьмі — але ва ўсім вінавaціла толькі яго. Не сунься, куды не просяць, не будзь святцей самага бога.

Тое, чаго так баялася Хрысціна, адбылося. Яўхім, як сам казаў, зламаўся.

Піў ён страшна. Так, як некалі ягоны камбрыг, такі ж, як і Яўхім, законнік, якога былі так прыпёрлі, што з партызанскіх камандзіраў ледзь не начальнікам паліцыі зрабілі. Праўда, вядома, перамагла. Камбрыга аднавілі ва ўсіх яго правах. Але да нармальнага жыцця ён так і не вярнуўся, а ягоным супрацоўнікам толькі гэта і патрэбна — ты сабе пі, абы нам не перашкаджаў спакойна жыць.

Хрысціна як уявіла сабе, што будзе з Яўхімам, хоць і сварылася на яго, а ў бядзе не магла пакінуць. Дала тэлеграму Антаніне. Не Міхасю, не Антону, а ёй, Антаніне, бо яна была і заставалася любімай дачкой Яўхіма.

Антаніна прыехала назаўтра пад вечар. Заскочыла ў хату, не павітаўшыся з маці, спалохана спытала:

— Што з ім?..

— П'е,— адказала Хрысціна.

— Божа, а я думала, што ён памірае,— аж узрадавалася Антаніна.

— Горш, чым памірае,— адказала Хрысціна.— З раніцы пайшоў, і няма. Усё чакаю, што прынясуць забітага ці скалечанага.

Яны сядзелі тады, не запальваючы святла, чакалі Яўхіма. Спачатку ў адно, потым у другое акно свяціла поўня праз аголенае восенню голле. Яўхіма ўсё не было.

Антаніна нізавошта не хацела легчы спаць, хоць Хрысціна ўгаворвала яе. І яна такі дачакалася бацьку.

Калі ён загрукаў у сенцах, Антаніна ўся наструнілася. Яўхім адкрыў дзверы, закрычаў, як бывала апошнім часам, каб Хрысціна, гэтая прыроджаная рабская душа, зня-

ла боты. Ён усё яшчэ хадзіў у ботах, галіфэ і фрэнчы зелянковага колеру.

— Садзіся, тата, я зніму,— паднялася насустрач яму Антаніна.

Яўхіму як бы хто заткнуў рот. Стаяў, абапершыся аб вушак, мусіць, ніяк не мог зразумець, адкуль і чаму ў хаце паявілася Антаніна. Хрысціна запаліла святло. Ноччу яно было дужа яркае, аж рэзала ў вачах. Яўхім закрыўся рукой, хутчэй ад сораму, чым ад святла. Колькі б ён ні піў, але развагі яшчэ не губляў ніколі. Хоць якая там у п'янага развага, адзін яе прывід.

Антаніна падышла да бацькі, узяла пад руку, пасадзіла на лаўку.

— А я думала, што ты моцны,— папракнула яго.— Паддаўся... Тыя ж, хто тапіў цябе, над табой жа і пацяшаюцца цяпер...

— Скажы ёй, каб ішла спаць,— папрасіў дачку Яўхім.— Мне з табой пагаварыць трэба. На сэрцы мутарна. А з ёй не пагаворыш...

— Мама, і праўда, кладзіцеся спаць,— рашуча загадала Антаніна, нібы малой дзяўчынцы.— Мы з татам пагаворым.

Хрысціна доўга, аж пакуль не змарыў сон, чула, як шэпчуцца бацька з дачкою. Крыўдавала. З ёю Антаніна прамаўчала паўночы. Дачка, называецца. Як чужая.

Начная крыўда на Антаніну неўзабаве прайшла, бо Яўхім перастаў піць, а галоўнае, шпыняць яе, і гэтую ў ім перамену Хрысціна паставіла ў заслугу Антаніне.

Успомнены даўні выпадак падштурхнуў Хрысціну да думкі, якая раней ніколі не прыходзіла ў галаву: яна ніколі не разумела дачку.

«А можа, я і астатніх дзяцей не разумею? — спыталася яна ў сябе.— А, бадай, і не разумею... Тады на што спадзявацца і дзеля чаго жыць? Я ім чужая, абрыдлая, непатрэбная... Дажылася... Усё жыццё ім аддала, тое толькі і рабіла, каб вывесці дзяцей у людзі, каб ім было добра, няклопатна. Сабе ва ўсім адмаўляла, на працы прэглася, жылы з сябе цягнула, а выходзіць, бацька ім даражэй... Каб цяпер на маім месцы сядзеў Яўхім, дык і Антаніна не дзьмула б губы. А то вунь якая незадаволеная. Нібы я ёй вораг.— Хрысціне раптам падумалася: — А што на маім месцы сказаў бы Яўхім?»

Яна ніяк не магла даўмецца, што сказаў бы на яе месцы Яўхім. Чула ягоны голас, бачыла ягоныя каршуно-

выя вочы, але не магла прыдумаць тых слоў, якія сказаў бы дачцэ Яўхім.

«А ўсё таму, што прывыкла бачыць дзяцей малымі,— знайшла Хрысціна адказ на сваё ж балючае пытанне.— Не заўважыла, як яны выраслі. За клопатамі не заўважыла. Трэба ж было чацвярых накарміць, апрануць, у школу выправіць. Хіба гэтага мала? Я за свой век нагаладалася, намерзлася, нацярпелася гора, таму і сохла сэрцам па дзецях, па іхнім шчасці. І есці яны не ў бацькі, а ў мяне прасілі. Ён іх байкамі карміў...»

Думкі ўвесь час сягалі да Яўхіма, быццам і пасля смерці Хрысціна зайздросціла яму. Глупства нейкае, не было чаму зайздросціць, ды Яўхіма даўно няма, і не варта трывожыць яго вечны спакой пад крыжам на гаравацкіх могілках. Але ж і нельга сядзець моўчкі, чакаць, калі Антаніна загаворыць сама. Ад яе не дачакаешся. Такі ж зацяты характар, як і ў бацькі.

І зноў думка вільнула ўбок, да Яўхіма, даруй божа яму цяжкія грахі. Хрысціна паварушылася ў крэсле, каб хоць звярнуць на сябе ўвагу Антаніны. Тая сядзела, утаропіўшы вочы на наскі модных туфляў, гневалася.

— Дачушка, дык што ж далей будзе? — парушаючы зацятае маўчанне, спыталася Хрысціна.— Можа, я што не разумею, дык ты мне растлумач, не муч маё сэрца.

Антаніна, здаецца, толькі і чакала зачэпкі, каб выказацца без аніякіх хітрыкаў, нібы той барсукоўскі ўчастковы, пра якога казалі, што ён спачатку нешта ляпне, а калі начальства загадае, дык ужо тады падумае: а што я ляпнуў?

— Гэта я ў цябе, мамачка, павінна спытаць, што далей будзе? — з зацятай з'едлівасцю спытала яна.— Ты ўрываешся ў нумар шаноўнага чалавека, ды яшчэ аблайваеш яго самымі брыдкімі словамі, як апошняга валацугу і нягодніка, і яшчэ пытаешся, а што далей будзе? А Мікалай Мікалаевіч, да твайго ведама, не толькі славуты вучоны, акадэмік, а яшчэ і навуковы кіраўнік тваёй жа дачкі. Ты яму ў ножкі павінна была б пакланіцца, што ён памагае мне зрабіць дысертацыю. Твае ж любімыя зяць са сватам і пальцам не паварушылі, каб я абаранілася. Ім хатняя работніца патрэбна, таму яны і чынілі мне розныя перашкоды. Цяпер скажы, як мне далей глядзець у вочы Мікалаю Мікалаевічу? Ты сапсавала мне жыццё, кар'еру і робіш выгляд, што нічога не адбылося. Уяўляеш, што ты нарабіла, ці, можа, і цяпер лічыш сябе святою?

— Ты ўжо даруй, дачушка,— пакаялася Хрысціна.— Каб жа я ведала, хто ён такі, гэты Мікалай Мікалаевіч. На лбе ў яго не напісана. Ігар як сказаў мне, што вы разводзіцеся і ты да гэтага Мікалая Мікалаевіча ўначы пабегла, дык у мяне ў вачах пацямнела. Дай, думаю, пагавару з чалавекам. Узрост у яго не хлапчукоўскі, павінен мяне зразумець. А тут цябе ўбачыла... І гэтыя два ложкі разасланыя. Ніводная маці не стрымалася б. Думаю, палюбоўніцай ты ягонай стала, абдурыў цябе. Нацешыцца ды і кіне.

— А ўжо лепей быць палюбоўніцай мілага, чым жонкай абрыдлага,— прызналася Антаніна і нават з нейкай зухаватасцю.

— Дык жа я цябе з Ігарам не зводзіла,— нагадала Хрысціна.

— Мая памылка. Я сама яе зрабіла, сама і выпраўлю. Я павінна стаць доктарам, акадэмікам і стану, каб мной так не папіхалі, як татам. Мы з ім гордыя...

Хрысціна толькі падзівілася: што за напасць такая, і яна, і дачка падумалі ў адзін і той жа час пра Яўхіма, нібы ён адтуль, з таго свету, хоча нешта параіць. Але што?

— Дык я хіба супраць, каб ты вучылася, дамаглася таго, што задумала? — загарачылася Хрысціна.— Можа, скажаш, не я настаяла, каб ты не заставалася ў калгасе? І цяпер парадуюся тваім поспехам. Але ж, дачушка, у нашым родзе распуства не было.

— Дужа ты выйграла? — усміхнулася Антаніна, і гэтая яе пачварная ўсмешка збянтэжыла Хрысціну.

«Божа, што яна кажа? Як гуляшчая якая. Аж брыдка. Ратуй і памілуй, божа...»

— Ты хоць пра дзіця падумала? — сярдзіта спытала Хрысціна, спадзеючыся хоць гэтым абразуміць дачку.— Як хлопчыку без бацькі расці?..

— А ён пры бацьку і застанецца,— як пра нешта даўно вырашанае, сказала Антаніна.— Старыя ў ім душы не чуюць, было б жорстка забіраць ад іх Севу. Ды і да Ігара ён больш прывязаны. А вырасце, разбярэцца, што да чаго...

У Хрысціны як адняло мову. Яна ніяк не магла паверыць, што такое гаворыць яе дачка, маці свайго дзіцяці. Зязюля! Як ёсць зязюля, без душы і сэрца. І маці ёй не патрэбна. Дарэмна спадзявалася. Дачка!.. Якая дачка?..

Яна ледзьве стрымалася, каб не накрычаць на дачку, не плюнуць у яе бессаромныя вочы.

— Бачу, табе ўжо ніхто непатрэбы,— глухім, як асіп-

лым голасам сказала яна.— А толькі не будзе табе шчасця. Паплацішся за гэта. Бог усё бачыць...

А чым яна магла папужаць дачку, калі не богам? Ведала, хто не баіцца сораму, той не пабаіцца і бога.

Хрысціна паднялася, паціху, ледзь валочачы ногі, паплялася да дзвярэй, усё яшчэ спадзеючыся, што Антаніна спахопіцца, пакліча яе. Павінна ж клікнуць... Хрысціна баялася азірнуцца, паглядзець на Антаніну, бо загалосіць тады, як па нябожчыку. Антаніна не азывалася.

Не памятаючы як, Хрысціна прайшла даўжэзны калідор, сышла ў вестыбюль, выбралася на вуліцу, перагароджаную плотам. За ім будавалі метро. Паўз плот, як мурашы ў мурашніку, некуды беглі людзі з заклапочанымі тварамі. Хрысціна пастаяла крыху, каб супакоіцца, каб ачомацца ад пражытага. У галаве чамусьці гуло і калола ў патыліцу. Мусіць, таму не было яснасці, куды зараз ісці.

— Вам дрэнна? — спыталася нейкая жанчына, спыняючыся каля Хрысціны.

— Не, не, я так... задумалася...— адказала Хрысціна.

Жанчына пабегла далей, а Хрысціна падзівілася: «Няўжо відаць, што мне дрэнна? Не дай бог яшчэ павалюся. Ні дакументаў пры сабе, нічогачка, што магло б сведчыць, хто я і адкуль. І ніхто не хопіцца. Завязуць на могілкі, кінуць у якую яму, і памяці не застанецца. Трэба хутчэй дамоў. Там жа людзі, не дадуць прапасці без весткі...»

Адсюль да вакзала — рукой падаць. Хрысціна падумала, што, можа, не варта вяртацца па тую пустую сумку. Але ж і было шкада яе. Такая зручная сумка. Улляна падарыла. «Не забяру сумку ў сватоў, прыедзе Вуля, спытае: «А дзе мая сумка, што табе падарыла?» Будзеш вачамі лыпаць». Ды і рана было ісці на вакзал. Цягнік толькі позна ўвечары.

Выходзіла, што дзявяцца няма куды. Трэба ісці да сватоў. «Як на Галгофу»,— падумала Хрысціна і пайшла на прыпынак.

Дзверы ёй адчыніла Ангеліна Сцяпанаўна. За гэтыя паўсутак, што Хрысціна на бачыла яе, Ангеліна Сцяпанаўна нібы паліняла. Са шчок прапаў румянец, а пад вачамі залегла густая сетачка зморшчын, якіх учора, здаецца, не было. Патухлі і вочы. Яны асабліва ўразілі Хрысціну. Зморыныя, напалоханыя нечым вочы немаладой жанчыны. Учора яны блішчалі, нават тады, калі ў Клеменція Усеваладавіча здарыўся сардэчны прыступ.

— Праходзьце, праходзьце, Хрысціна Максімаўна,—

запрасіла яна Хрысціну, захінаючыся каўнерыкам халата, нібы ёй было зябка.— А мы, ведаеце, ноччу раптам сабраліся і паехалі на дачу. Нашым прыяцелям узбрыло ў галаву пераначаваць там, у цішы, пасля туташняй гаманы. Пад'ехалі на машыне і ўгаварылі Кліменція Усеваладавіча...

Ангеліна Сцяпанаўна як бы прасіла прабачэння, і гэтая далікатнасць свацці бянтэжыла Хрысціну.

«Можа, яны са сватам нічога яшчэ не ведаюць,— думала яна.— А такі і не ведаюць, бо паехалі на дачу раней, як прыйшлі Антаніна з Ігарам. Хоць не, нешта канцы з канцамі не сыходзяцца, бо адкуль тады Антаніна магла ведаць, што сваты паехалі на дачу? А яна ж мне сказала пра гэта».

— Вы і ці снедалі, Хрысціна Максімаўна? —запыталася Ангеліна Сцяпанаўна.— Пасля ўчарашняй пірушкі маладым нашым было не да снядання...

Хрысціна ў думках перахрысцілася: дзякуй богу, сваццця нічога не ведае пра ўчарашні начны тлум. І хоць гэта не дадало радасці, але троху аблегчыла Хрысцініны пакуты. Хрысціна вельмі баялася, што сваццця загаворыць пра развод ды яшчэ пачне папракаць яе. А такая размова для Хрысціны горш за пакаранне. Ды і снеданне таксама. Хіба палезе што ў горла, калі ведаеш тое, пра што сваты не здагадваюцца?

Ангеліна Сцяпанаўна, аднак, не адступіла, пасадзіла снедаць. Да іх далучыўся і Кліменцій Усеваладавіч. Той, наадварот, выглядаў даволі бадзёра, хоць пад яго вачамі залеглі злавесныя кругі. Кліменцій Усеваладавіч адразу ж закідаў Хрысціну пытаннямі пра цяперашняе калгаснае жыццё, адказваючы на якія яна міжволі разгаварылася, а разгаварыўшыся, прызналася, што хацела з'ездзіць да Антона, а цяпер, бадай, не здолее, бо аўтобус пойдзе толькі заўтра, а ёй трэба хутчэй дамоў. І так яна загасцявалася.

— Дык я вас падкіну, Хрысціна Максімаўна,— прапанаваў Кліменцій Усеваладавіч.— Для мяне гэта як размінка...

Хрысціна, не вельмі, праўда, энергічна, паспрабавала адмовіцца ад сватавай ласкі, але ёй і самой вельмі хацелася за адным ужо заходам пабываць у сына, ды і сват настойваў даволі рашуча, так што нарэшце яна згадзілася.

— Во і дамовіліся,— аж весела сказаў сват.— Я вельмі люблю гэтую дарогу. Адпачываю, едучы па ёй...

## 12

Шаша то ўзбіралася на лабастыя пагоркі — тады вачам адкрываліся прасторныя далягляды з ланцугом ахутаных барвамі восені ўзвышшаў, беражком далёкага хваёвага лесу, пры якім утульна хаваліся ў прысадах прыгожыя на адлегласці невялічкія вёсачкі; то крута абрывалася ў нізіну з рэчкай-пятлянкай, якую можна было заўважыць хіба па лазняку, што рассыпаўся на поплаве, як жураўліны клін, што згубіў важака; то нырала пад шаты вечнага бору, які толькі людзі прымусілі адступіць ад дарогі і які, мусіць, таму ківаў дакорліва вершалінамі соснаў і елак; то прашывала непаглядныя зблізку пасляваеннай забудовы вёскі з абы-як, у раскідку пастаўленымі хатамі, са стажкамі сена на агародах, з пачарнелым бульбоўнікам пад стрэхамі на жэрдках, са статкамі калгасніцкіх кароў на ўзлеску, якіх сцераглі або баба з хлапчуком, абое ў балонневых куртках, або дзед з доўгаю пугай і гаспадарлівым сабакам, што пільна сачыў за парадкам у каровіным статку.

Хрысціна ці не трэці раз ехала гэтай дарогай — тыя разы ў аўтобусе. Тады было не да краявідаў. У аўтобусе заўсёды знойдзецца гаваркі сусед ці суседка, і тут ужо не да прыроды за акном.

Цяпер яны абое маўчалі. Кліменцій Усеваладавіч — засяроджана, Хрысціна — напружана. Яна ўсё ніяк не магла вырашыць, трэба ці не трэба расказаць свату пра развод яе дачкі і ягонага сына. Па-добраму, па-чалавечы, дык, безумоўна, трэба. Але як сказаць, як адважыцца агарошыць чалавека такой неймаверна дрэннай навіной?

Хрысціна таму і глядзела па баках, каб, крый божа, не сустрэцца позіркам са сватам — баялася, што вочы выдадуць яе. Краявіды непрыкметна развейвалі яе настрой, да Хрысціны спакваля прыходзіла спакойная разважлівасць, і ўжо нейк сама сабой выспявала ўпэўненасць, што сам бог паспрыяў, каб Хрысціна падзялілася тайнай са сватам, а не са сваццяй. Мужчына да ўсяго ставіцца больш спакойна і разважліва. Ангеліна Сцяпанаўна заўсёды здавалася Хрысціне непадступнай, ганарлівай, чужой, а Кліменцій Усеваладавіч, хоць і вялікай вучонасці чалавек, не выклікаў баязлівага шанавання. Хрысціна лічыла яго простым і чулым чалавекам. І ўсё адно яна ніяк не адважвалася загаварыць са сватам — было дужа няёмка, сорамна, брыдка.

Ужо за Бягомлем Клімянцій Усеваладавіч раптам парушыў маўчанне, папрасіў у Хрысціны дазволу крыху адпачыць, размяць старыя косці, якія занылі ад напружанага сядзення за рулём. Ён звярнуў з шашы ў лясок. За ім аказаўся лужок з насоўку, з адзінокім пасярод дубам і неглыбокай рачулкай, якая выгіналася тут дугою. Клімянцій Усеваладавіч паставіў машыну пад дубам, вылез з яе, памахаў рукамі, папрысядаў, дастаў з багажніка бутэльку нарзану і дзве шклянкі.

— Вып'ем, Хрысціна Максімаўна,— з незразумелай журбой у голасе прапанаваў ён.

Хрысціну мучыла смага, і яна залпам выпіла шыпучую ваду, трымала ў руцэ шклянку, не ведаючы, куды яе паставіць. Клімянцій Усеваладавіч піў ваду маленькімі глыткамі, чамусьці не спускаў вачэй з Хрысціны, але не заўважаў, што той нязручна трымаць шклянку.

— Што вы так гледзіце на мяне? — збянтэжылася яна.

— Бо маю вам нешта сказаць і не адважваюся,— адказаў Клімянцій Усеваладавіч, і Хрысціна аж здрыганулася.

«Дык ён жа ведае пра развод, таму так і настойваў везці мяне, бо не хацеў гаварыць пры жонцы. Але няўжо ён не сказаў Ангеліне Сцяпанаўне? Мабыць, не сказаў».

Яна прамаўчала, не знайшлася, што сказаць. Клімянцій Усеваладавіч дапіў нарзан, схаваў абедзве шклянкі ў машыну.

— Ігар запэўніў, што вы ведаеце пра абстаноўку, якая склалася ў ягонай сям'і,— няёмка пераступаючы з нагі на нагу, сухавата загаварыў ён.— Я не адабраю ягоную адкрытасць і мушу папрасіць за яго прабачэння.

Во, чаго ўжо не чакала Хрысціна, дык гэтага прабачэння. За што? Ігар, бадай, і не расказаў бы ёй, каб яна сама не пачула і не пабачыла, як валтузіліся зяць з дачкою ўначы.

— Што вы!.. Гэта я павінна прасіць прабачэння... Хоць яна і дачка мне, а хваліць ці абараняць яе не стану...

Клімянцій Усеваладавіч пакланіўся.

— Дзякуй... Мы з вамі аднолькава ставімся да таго, што адбылося. Я спадзяюся, што між намі не ўзнікне непаразуменняў, а тым больш узаемных папрокаў.

— Ні вы, ні я гэтага не хацелі...

— От іменна... Зрэшты, я не асуджаю Антаніну. Яна — дзіця свайго часу, а мы старамодныя, са старымі прынцы-

намі, якія цяпер не ў модзе, таму і канфлікты, і непаразуменні.

— Мне дужа шкада ўнучка,— у голасе Хрысціны было шчырае засмучэнне.— Беднае дзіця...

— Ну, чаму беднае,— запярэчыў Кліменцій Усеваладавіч.— У нас яму будзе добра.

«Дык во што,— падумала Хрысціна.— У іх гэта не сёння і не ўчора пачалося, і з унукам даўно ўсё вырашылі. Прытвараліся толькі. Навошта?»

Для Хрысціны падзеі мінулай ночы і дасюль былі таямніцай, загадкай, а цяпер і зусім усё зацямнілася. Працей простага было спытаць у Кліменція Усеваладавіча, што хавалася за гэтым спектаклем, але яна разумела ўжо, што той нічога не скажа, а сябе выставіш па-вясковаму дурнаватай цёткай.

— Божачка, божачка, і чаго ім не хапала? — прытрымліваючыся толькі сваіх бязладных мітуслівых думак, спыталася яна не так у свата, як у сябе, бо не магла зразумець ні дачку, ні зяця.— У хаце дастатак, і вы, сваток, такія далікатныя, культурныя. Ім бы жыць ды радавацца...

Яна і сама троху прытваралася, паддобрываючыся да свата. А што рабіць, калі з табой хітрацъ? І ты не паддавайся...

Кліменцій Усеваладавіч прайшоўся па лужку да рэчкі, пастаяў над ёю ў задуменнасці, быццам яго збянтэжыла Хрысцініна пытанне і ён абдумваў на яго адказ.

— Тут, дарагая Хрысціна Максімаўна, усё вельмі складана,— вярнуўшыся ад ракі, сказаў ён.— Можа, і я крыху вінаваты. Хоць, скажу вам шчыра, рана ці позна, а гэта здарылася б...

— Але чаму? — нецярпліва спытала Хрысціна, уражаная такой упэўненасцю свата.

— Чаму? Чаму? Па-першае, Антаніна ніколі не кахала Ігара. Вам можа здацца, што такое сцверджанне абсурднае. На жаль, гэта ісціна.

Сватава прызнанне не было для Хрысціны вялікім адкрыццём. Яна і сама бачыла — Антаніна не кахае мужа. Але ж думалася: ці так гэта важна? Ці мала людзей ажаніўшыся без кахання, шчасліва пражылі ўсё жыццё. Кліменцій Усеваладавіч неяк па-асабліваму падкрэсліў, што Антаніна не кахала Ігара, быццам абвінавачваў у гэтым і Хрысціну. Яна не магла змоўчаць.

— Ні вы, ні я не прымушалі іх жыць разам,— сказала яна.— Нешта ж іх звязвала?

— Во, во, вы зазірнулі ў самы корань,— нечага ўзрадаваўся Кліменцій Усеваладавіч.— Што іх звязвала? Пытанне варта ўвагі не толькі нашай з вамі, але і сацыёлагаў.— Сват нечым нагадваў даўняга Хрысцінінага настаўніка: тая ж пастава, тыя ж жэсты і, здаецца, той жа голас, аж Хрысціна сумелася, нават спалохалася, як, бывала, пужалася таго настаўніка, калі ён выклікаў яе да дошкі і, незадаволены яе адказам, пачынаў гаварыць дужа незразумела.— Выпадак гэты не выключэнне ў сённяшнім жыцці. На жаль, не выключэнне.— Кліменцій Усеваладавіч правай рукой рассек перад сабой паветра крыж-накрыж.— Коратка адказ можна сфармуляваць так: іх звязваў рацыяналізм. Халодны, бязлітасны разлік. Адсюль самаўпэўненасць, самаўлюбёнасць, карыслівасць, фанабэрыя, эгаізм, узведзеныя ў прынцып жыцця і свайго існавання на зямлі. Цяперашняе пакаленне дужа разважлівае, практычнае, меркантыльнае і не абцяжарана забабонамі людзей нашага часу — перш для людзей, потым для сябе. У іх — толькі для сябе, толькі аб сабе. Эгацэнтрызм у крыві, у сутнасці, ва ўчынках і спосабе мыслення.

Хрысціна разумела, што сват абвінавачвае яе дачку ў нейкіх грахах, але не магла дапяць розумам, што хаваецца за ягонымі вучонымі словамі. Так бывала ці раз. Кліменцій Усеваладавіч, як у насмешку, гаварыў з ёю незразумела, а яна мусіла слухаць яго з пашанай. Сёння Хрысціна пакрыўдзілася. І за самае зразумелае ёй слова — разлік. Калі сват і разлік ставіць Антаніне ў віну, дык, можа, і праўда, што ёй не соладка жылося ў гэтым доме, поўным багацця.

— У добрага гаспадара ўсё загадзя разлічана,— рашуча запярэчыла яна,— і калі яравыя пасеяць, і калі бульбу пасадзіць, і сена накасіць... Без разліку жыць нямогна. Яго толькі ў гультаёў няма. Увечары спаць кладзешся, а назаўтра ўсё разлічыш. І вы дарэмна за гэта папракаеце Антаніну. Я яе не хвалю. Але каб за гэта папракаць. Выбачайце, сватох...

— Дык я не пра бытавы практыцызм,— незадаволена сказаў сват.— Я пра той разлік, які абражае чалавечую існасць, разбурае асобу.

Кліменцій Усеваладавіч спахапіўся, што гаворыць лішне складана, што перад ім не Ангеліна Сцяпанаўна, нават не студэнтка, якая трэці раз прыходзіць пераздаваць экзамен, а сваццця, звычайная калгасніца.

— Я вам на прыкладзе пакажу, што такое разлік у псі-

халагічным і, калі хочаце, сацыяльным плане,— сказаў ён.— Павучальная гісторыйка. І звязаная нейкім чынам з гэтай самай лугавінай, на якой мы зараз знаходзімся.

Кліменцій Усеваладавіч сеў пад дуб, відаць, сабраўшыся расказваць сваю гісторыйку не адну хвіліну. Хрысціна прымасцілася на сухім карчы. Ёй зусім не хацелася слухаць сватавы гісторыйкі, але ж нічога не паробіш. Чужога каня не падгоніш, калі лейцы ў гаспадара.

— Сярод аспірантаў майго інстытута быў нехта Пальчык... Валянцін Сямёнавіч Пальчык. Найцішэйшы і найдабрэйшы чалавек. Не сказаць каб вельмі таленавіты, але і не бездар. Затое сціплы, дагодлівы і не з тых маладых людзей, каму падавай усё і адразу. Мілай, прыемнай была і ягоная жонка Зоечка — мініяцюрная асоба, якая, здаецца, і была створана дзеля таго, каб прыносіць людзям дабро і радасць. Скажу шчыра, я любіў Пальчыка і памагаў яму. Мне падабалася, што Пальчык задавальняецца тым маленькім «крыху», якое дае яму магчымасць сур'ёзна займацца навукай. У нас цяпер навуковыя працы ў выглядзе дысертацый пішуцца не дзеля адкрыцця ў навуцы, а дзеля дабрабыту. Вядома, выключэнні бываюць, іначай навука завязла б на месцы, але дысертантаў, кандыдатаў і дактароў нашмат больш, чым навуковых праблем. Гэта між іншым. А тым часам Пальчык абараніў спачатку кандыдацкую, а потым і доктарскую дысертацыі. Натуральна, быў банкет, пасля якога мы апынуліся вось тут, на гэтай лугавінцы.

Расчулены Пальчык усё дзякаваў мне за клопат аб ім. Кляўся, што праз усё жыццё пранясе ўдзячнасць да мяне. Я таксама быў расчулены. Я заклікаў яго не кідаць навукі дзеля нейкіх выгадных пасад. Яны, гэтыя пасады, некалі самі прыйдуць да яго. А цяпер трэба замацаваць дасягнутае новымі даследаваннямі і распрацоўкамі. Ён згаджаўся са мной. І гэта цешыла мяне.

Кліменцій Усеваладавіч замоўк. Ён нібы апынуўся ў нейкім далёкім і непрыемным яму часе. Хрысціна таксама не падавала голасу. Ёй хацелася, каб Кліменцій Усеваладавіч хутчэй скончыў расказваць ды павёз яе да Антона. Навошта ёй гэтая гісторыйка з нейкім Пальчыкам? У яе сваіх гісторый колькі хочаш. Толькі прыгадай іх.

— Дык вось, прайшло месяцаў шэсць,— перапыніў маўчанне Кліменцій Усеваладавіч.— Доктарскую дысертацыю зацвердзілі ў Маскве. І тут у мяне адбылася размова з Зоечкай. Яна пазваніла мне ўвечары. І без аніякіх

прадмоў спыталася, калі я, стары атопак, вызвалю месца дырэктара інстытута для яе Пальчыка. Ведаеце, Хрысціна Максімаўна, я разгубіўся. Назаўтра я паклікаў да сябе Пальчыка. Спадзяваўся, што ён да гэтага званка не мае ніякіх адносін. А ён, гледзячы мне ў вочы, сказаў, што і кандыдацкая і доктарская дысертацыі, і пасада дырэктара ў іх з Зоечкай былі даўно запланаваны, што без разліку цяпер нельга жыць, што з мяне хопіць і славы, а яму яшчэ патрэбны і грошы. Што ён нездарма прыніжаўся ўсе гэтыя гады, пакуль абараняў дысертацыі. Цяпер і пажыць трэба. А мне лепей аддаць пасаду без лішняй валакіты, бо на ягоным баку... Ён назваў мне колькі прозвішчаў. І я сапраўды зразумеў, што змагацца не варта. Ды я і не прывык хадзіць па інстанцыях, скардзіцца, прасіць дапамогі, уздзеяння. На каго? На свайго ж вучня? Дык мне могуць сказаць: што пасеяў, тое і жні.

Яго сапраўды паставілі дырэктарам інстытута. Можна было толькі падзівіцца, адкуль у гэтага сціплага чалавечка раптам паявіўся метал у голасе, адкуль узяліся гэтая пыха і незгаворлівасць.

Я аднойчы спытаўся ў яго пра нечаканыя перамены. Ён рассмяяўся. Як бы жартам, але і сур'ёзна сказаў, што я застаўся ў палоне старых, яшчэ даваенных поглядаў на жыццё. Што нармальныя людзі дбаюць пра сябе, пра свой дабрабыт, а не пра нейкія там ілюзорныя прынцыпы. Уяўляеце?.. Нармальныя людзі!.. Мы — ненармальныя... Мы, бачыце, дыназаўры, якія павінны вымерці, бо ў першую чаргу дбалі пра іншых, потым ужо пра сябе.

Кліменцій Усеваладавіч, здалося Хрысціне, загаварыў, як і яе Яўхім. Ну, гэта ягоная справа. Хай гаворыць. Нешта іншае, больш крыўднае злавіла Хрысціна ў гэтай гісторыйцы пра Пальчыка: дужа зразумелы намёк на яе Антаніну.

— Дык а што тут кепскага? — з упартай нязгодай спыталася яна ў свата.— Чалавек, і праўда, найперш пра сябе думае. А пра каго ж яшчэ? Гэта ж толькі мой мужык не хацеў пра сям'ю клапаціцца. Усім на свеце спачуваў, апрача дзяцей і жонкі. А яму за гэта крыж сагнулі. Я па-свойму, па-бабску, мяркую: калі чалавек пнецца пра ўсіх клапаціцца, дык помачы ад яго, як ад дзіравага вядра карысці. Дрэва без карэння жыць не можа, а чалавек — без сям'і. У сям'і і ад усялякіх бед ратуецца. Пра іншых лёгка клапаціцца. Захацеў — паклапаціўся, не захацеў — і не клапаціся. А сям'я — гэта ж вечны клопат. Бацькі аб дзе-

цях, дзеці аб бацьках. Так павінна быць. Вы ўжо не зважайце на вясковую бабу, але ўсё хачу ў вас запытацца: ці праўда, што вы не хацелі, каб Тонечка стала вучонай?..

Хрысціна ўбачыла, што сват разгубіўся, падумала: «Так яно і ёсць, не хацеў сват Тонечку ў навуку пускаць. Нібы яна ім не раўня...»

— Чакайце, чакайце, хто вам сказаў пра гэта?..

— Тонечка і сказала, калі я сёння ў яе была,— прызналася Хрысціна.

— Та-ак!.. Значыць, скардзілася?.. А пра тое прамоўчала, што яна і кандыдацкую ледзьве напісала? — Клімент Усеваладавіч спахапіўся, што сказаў лішняе, паправіўся: — Я нічога благога не хачу сказаць пра Антаніну. Як выканаўца яна добрасумленная, акуратная, нават педантычная. Але навука!.. Гэта — храм, і ўваходзіць у яго трэба зняўшы шапку.

— Але ж, Мікалай Мікалаевіч...— заікнулася было Хрысціна.

— Не кажыце мне пра яго,— узлаваўся Клімент Усеваладавіч.— Ён з тых, каго і блізка нельга падпускаць да навукі...

Клімент Усеваладавіч сеў у машыну, запрасіў Хрысціну. У яго быў суровы непадступны твар, і Хрысціна падумала: «Таму і злуецца, што не па-ягонаму выйшла. Ён бы ў гэты храм нікога не пускаў. Сын жа стаў доктарам, а хіба ён лепшы за Тонечку? Размазня! Дык яму храм адчынены. А Тонечцы заходзіць у яго забараніў...»

Хрысціна думала пра Антаніну ўжо са шкадаваннем. Дакарала сябе, што пагарачылася і, можа, дарэмна пакрыўдзіла дачку. Састарылася, сварлівай стала. А сварлівасць ніколі не памагала людзям.

Клімент Усеваладавіч таксама быў незадаволены сабой. Наліха пагадзіўся з жонкай, што трэба пагаварыць са сваццяй. Інтэлігенцкая педантычнасць! Як жа, маўляў, не пагаварыць з ёю. У сваццi яшчэ застанецца крыўда. Во і пагаварыў. Не толькі не развеяў непаразуменні, а і расплодзіў іх.

«Якая наіўнасць валодае намі,— думаў ён, прыгадваючы дзедава разважанне наконт пераплаўкі псіхалогіі агромністай масы сялянства. У дзеда — спрадвечнага гараджаніна, інтэлігента, нарадавольца і сацыял-дэмакрата — выходзіла гэта надзіва прыгожа і хутка, як навучанне дзяцей грамаце.— Ну, хай сабе так думаў дзед, яго паплечнікі, што жылі ў ружовым самападмане рамантыкі.

А мы, мы? Хіба не бачылі гэтай агромністай хвалі, што хлынула з вёскі ў горад? Бачылі! Хіба не ведалі, якую яна нясе з сабой псіхалогію, нораўы, звычкі, традыцыі, адносіны да жыцця? Ведалі! Дык на што спадзяваліся? Што пралетарскі кацёл пераплавіць свядомасць сялянскай псіхалогіі? І ніхто не мог заікнуцца, што не горад паўздзейнічае на вясковую масу, а яна на горад. Ды і якія былі нашы гарады? Астраўкі ў сялянскім моры! І іх не проста засяліў вясковы люд, ён падмяў, падпарадкаваў, перайначыў іх на свой лад, прынёс свае традыцыі, звычаі, псіхалогію, і прытым не лепшую, а горшую, ды яшчэ сам нахапаўся той пены, што вечна трымалася на паверхні гарадскога жыцця. Во дзе пачатак і крыніца такіх сумных з'яў у цяперашнім жыцці, як назапашванне, сквапнасць, скупасць, імкненне зашыцца ў сваім куце, адасобіцца на сваёй дзялянцы, рвануць, раздабыць, абхітрыць, адпіхнуць і далёкага і бліжняга, гэтае вымярэнне ўсяго на свеце рублём, набыткам, гэтая раз'яднанасць на хутарах-кватэрах. А імкненне ў навуку дзеля выгод, прэстыжу і не цяжкай працы! Во глеба, на якой выраслі пальчыкі і Антаніна Яўхімаўна...»

Засяродзіўшыся, Кліменцій Усеваладавіч праскочыў паваротку на запаведнік. Давялося вяртацца назад.

— Хрысціна Максімаўна, вы не пакрыўдзіліся на мяне? — спытаўся ён, бо ў галаву раптам прыйшла надзіва бязглуздая думка, быццам сваццця чула ягоныя патаемныя думкі.

— Чаго ж крыўдаваць,— азвалася Хрысціна.— Ды і не ўсё я зразумела, а што зразумела, дык, можа, не так як трэба...

Шаша крута сіганула налева. Удалечыні паказаўся сярод лесу пасёлак. Канец падарожжа і іхняе расставанне, можа, назаўсёды.

## 13

Хрысцінін прыезд да сына нарабіў перапалоху. Ні Антона, ні ягонай жонкі дома не было. Ды і наогул пасёлак чамусьці пуставаў. Добра яшчэ, што на месцы аказаліся загадчык музея Кацярына Віктараўна ды даглядчык вальераў, у якіх жылі паднявольна звяры тутэйшых мясцін. Кацярына Віктараўна, пачуўшы, што прыехала маці самога дырэктара запаведніка, тут жа распарадзілася, каб даглядчык запрог каня і ехаў па Ніну Раманаўну, а ягоны сын на матацыкле — па Антона Яўхімавіча.

Толькі тады, як абодва ганцы адправіліся ў дарогу, Хрысціна спахапілася, што не наказала ім супакоіць і нявестку, і сына: нічога, маўляў, благога не здарылася, прыехала ў госці, і толькі.

«Як жа я гэтак схібіла? — папракнула сябе Хрысціна.— Перахвалююцца абое».

Яны і сапраўды, пакуль прыехалі, пахваляваліся, бо ніяк не чакалі яе ў госці, але затое і ўзрадаваліся, калі даведаліся, што маці прывяла да іх не бяда, а жаданне пабачыцца, пагаварыць па-сваяцку.

Ніна тут жа збегала ў садзік, прывяла абаіх унукаў: шасцігадовую Марынку і чатырохгадовага Раманчыка. Хрысціна дастала з сумкі тыя арэшкі, што вязла Севачку, пачаставала Марынку з Раманчыкам. І хоць у туташнім лясным краі арэхаў хапала, дзеці абрадаваліся бабульчынаму падарунку.

З першай хвіліны, як уся Антонава сям'я сабралася разам, Хрысціна пачула сябе вельмі ўтульна, так, як бывае, калі вяртаешся з турботлівага і няўдзячнага падарожжа ў сваю хату — якая дабрыня!

Антон жыў не ў стандартным, на гарадскі манер, доме, а ў хаце-катэджы пры лесе, ля якой меліся і кветнік, і маленькі агародзік. Хрысціна яшчэ тады, як чакала сына з нявесткай, адзначыла, што ў кветніку і агародзе чуецца руплівая жаночая рука — усё прыпарадкавана, дагледжана, падварушана, падвязана. Ні каліва пустазелля, ні следу неабробленай зямлі, ніводнага апалага лісточка.

«Ніна — акуратыстка,— пахваліла нявестку Хрысціна.— Во ўжо каму пашанцавала, дык гэта Антону».

Парадак, чысціня былі і ў доме, аж люба паглядзець. Жыві і радуйся!..

— А я сабраўся да вас ехаць,— сказаў Антон, калі вычарпаўся запас першых бязладных роспытаў.— Трэба ж дроў прывезці. Леташнія, мусіць, канчаюцца?

— Да каляд яшчэ хопіць, а калі зіма будзе мяккая, дык і да грамніц дацягну,— адказала Хрысціна.

— Усё адно дровы за мной,— як аб прыемным абавязку сказаў Антон,— і ты не эканом. Тыдні праз два прыскочым. Я ў леспрамгас званіў ужо. Дроў нарыхтавалі, але ўсё не выходзіла. У мяне тут спачатку камісія з Масквы прыехала, потым — госці з Канады. Сена хоць накасілі?

Хрысціна махнула рукой.

— Сёлетнюю зіму кароўку яшчэ пратрымаю, а на на-

ступную прадам. Міхась здолеў прыехаць толькі на два дні. Дзялянку скасіў, а сушыць ды дамоў вазіць усё самой трэба было. Праўда, Антаніна троху грошай прыслала, але паспрабуй наймі каго, калі цяпер усе багатыя.

— А з лясніцтва хіба не прывозілі? — спытаўся Антон.

— Дзякуй табе, два вазы прывезлі. І сена дабрэннае.

— А я думаў — падвялі.

— Хросная мая з тыдзень назад у горад да сыноў паехала,— сказала Хрысціна, не без далёкага прыцэлу.— Я з могілак вярталася, гляджу, а на яе двары машыны і хлопцы яе скарб грузяць...

— Дык ёй ужо гадоў пад дзевяноста,— сказаў Антон.

Хрысціна чакала ад сына не гэтых слоў. Думалася, што сын скажа: «Кідай і ты, мама, вёску, ды пераязджай да мяне. Будзеш унукаў глядзець, Ніне памагаць». А што! Перавезла б сюды кароўку. Дзецям малачко сваё. Сырадой. Траву па тутэйшым лесе толькі не лянуйся, касі. А кароўка яшчэ нікому не замінала. Ды і прадаваць яе шкада. Маладая яшчэ, сваёй гадоўлі. Але Антон пра яе пераезд не сказаў ні слова. Не зразумеў яе намёку? Яна не стала ўдакладняць. Не гарыць, можна пачакаць з пераездам.

— Я, сынок, прыехала да цябе з горада,— прызналася яна.— Пабывала і ў Міхася, і ў Антаніны.

— Не лепшае там у Міхася? — спытаўся Антон, і Хрысціну аж працяла крыўда: выходзіць, ён ведаў пра Міхасёву бяду, а маўчаў.

— Горш ужо і ці можа быць...

— Я яму казаў: кідай яе да д'ябла — не хоча. Яго справа, вядома. Прапанаваў засадзіць яе на два гады ў лагер — пакрыўдзіўся...

— Шкадуе ён яе...

— Гэтая ягоная жаласць горш за злачынства.

— Узяў бы ты яго да сябе на працу. У горадзе Любка прападзе. Там у яе кампанія — не давядзі бог прысніць такую. А тут пасаромелася б піць. І кампаніі не будзе...

Антон адказаў рашуча:

— Не прасі, не вазьму. Я ад сваіх двух алкашоў ледзьве пазбавіўся. У мяне вучоныя з усяго свету, а тут п'яная баба.

— Што ж яму рабіць, Міхаську?..

— Я яму даўно казаў, што дабром гэта не кончыцца. Яшчэ як студэнтам у іх кватараваў. Бывала, адробіць змену, прыбяжыць дамоў, перахопіць чаго на скорую руку і

да позняй ночы на заработкі. Машыны па прыватных гаражах рамантаваў, дачы будаваў. Не паспеюць новы дом здаць, а ён ужо там. Замкі ўразае, дзверы падганяе. Ні выхадных, ні святочных. А жонка вылежыцца, выспіцца ды яшчэ мужам незадаволена. Калі грошы ёсць, дык хочацца і пагуляць. Во і дагулялася...

Хрысціна была нямала здзіўлена сынавым прызнаннем. Яна думала, што бяда ў сынаву хату прыйшла нядаўна, а яна вунь калі пасялілася ў ёй. А маці ніхто нічога не гаварыў. Мабыць жа, і Антаніна ведала, і Улляна. А можа, і Яўхім. Хоць не, Яўхім таксама не ведаў. Жылі абое, як сляпыя. Спадзяваліся! Верылі! А дзеці па-свойму жылі. Во калі яно, рэха тых спадзяванняў, адазвалася.

— Міхаську не трэба вінаваціць,— сказала яна.— Ён жа хацеў, каб сям'я і накормлена была, і адзета. І вам з Антанінай трэба было памагаць. Ты хоць стыпендыю палучаў. А Тонька на ягоных харчах жыла, ды яшчэ і апранаху якую ёй праўляў. Во Міхаська і круціўся як вавёрка ў коле...

Антону матчына шчырасць прыйшлася не па сэрцы. Па ягоным твары прабегла шэрая хмарка, наморшчыла высокі лоб.

— Я Міхася не вінавачу,— сказаў ён.— Ты — спытала, я — адказаў.

— Дык жа і ў Антаніны не ўсё добра,— выпаліла Хрысціна, хоць не збіралася вось так адразу расказваць пра даччын развод.

— А ў яе што? — без асаблівай цікавасці спытаў Антон.

— Разводзіцца яна з Ігарам.

— Ну?!

Хрысціна чакала ад Антона нейкіх іншых адносін да разводу сястры, а не гэтага невыразнага «ну». Але Антон тут жа і праявіў гэтыя свае адносіны.

— Яна што, шалее з раскошы ці Ігару нарэшце абрыдлі яе выбрыкі? — спытаўся ён, і Хрысціна зноў падумала, што толькі яна адна нічога не ведала пра Антаніну.

Стараючыся нічога не забыць, Хрысціна расказала ўсё па парадку, што бачыла, што чула. Антон сурова маўчаў. А калі Хрысціна замоўкла, параіў:

— Не тлумі ты, мама, сваёй галавы, не псуй здароўя. Яны — дарослыя, разбяруцца. Як кажуць, абое рабое. Сватоў шкада. Мабыць, сынка свайго, Севачку, на іх пакінулі?

— Божа, як ты здагадаўся? — падзівілася Хрысціна.

— А тут і здагадвацца не трэба. Усё на галу ляжыць,— адказаў Антон з той упэўненасцю, якая прымушае верыць і тады, калі не хацеў бы.— Тонька свайго не выпусціць. У яе хватка мёртвая.

У ягоных словах чулася не проста асуджэнне Антаніны, а грэблівая пагарда. Вось гэта і закранула Хрысціну. Не затым яна ўсчала гаворку і пра Міхася, і пра Антаніну, каб абгаворваць іх. Помачы чакала ад Антона. Ёй хацелася пачуць тую адзіную разумную параду, якая памагла б развязаць абодва блытаныя-пераблытаныя вузельчыкі, што завязаліся ў сем'ях яе дзяцей. Антон як бы перакрэсліў яе надзеі, што ўсё абыдзецца, пакоціцца гладкай каляінай, як сані па выслізганым палазамі снезе.

Збалелай душой Хрысціна адчувала, што і Міхась, і асабліва Антаніна зажылі сваім, незразумелым, чужым, не па душы ёй жыццём. Што ж, дзеці не заўсёды выбіраюць тую дарогу, якая падабаецца бацькам. Але ад гэтага не сціхаў боль, што засеў пад сэрцам, і душу не пакідала пякучая жальба.

Хрысціне шкада было Міхася. Але ён — мужчына, мужчыну як бы на вяку наканавана самому змагацца з нягодамі. Затое Антаніну яна шкадавала, як малое неразумнае дзіця, якое ўсё робіць сабе на згубу і не разумее, што стаіць на краі бездані. Чамусьці верылася, што Антаніна прападзе з тым Мікалаем Мікалаевічам. А як адгаварыць яе ад яго? Здаецца, каб трэба, каб памагло, лягла б поперак дарогі, па якой ён павязе неразумную ў нязнаны свет.

— Я, сынок, не хвалю Антаніну,— баючыся нейкім неабдуманым словам пакрыўдзіць яшчэ і Антона,— але ж каб ты ведаў, як шкада мне яе. Душа набрыняла жальбой, а як памагчы — не ведаю. Я аднаго хацела на гэтым свеце — дабра вам, для аднаго жыла. Недасыпала, недаядала, каб толькі вам было добра, каб вы не паспыталі таго, што давялося паспытаць мне. Пра цябе не кажу. Ты змалку вызначаўся грунтоўнасцю. Міша таксама, але яму не пашанцавала на жонку. Антаніна і Вуля — мой боль.

— Ах, мама, мама,— Антон абняў маці за плечы,— ну што ты, далібог. У Антаніны, можа, каханне. Можа, яна тады зрабіла памылку, як за Ігара пайшла замуж, за славутасцю і багаццем пагналася.

— Можа, яно ўсё і не так, як ты кажаш,— нечага разгубілася Хрысціна.— Я ўсё пра Севачку думаю...

— Можа, і не так,— пагадзіўся Антон і паклікаў жон-

ку, якая і выйшла дзеля таго, каб сын мог пагаварыць з маці без лішніх сведкаў.— Ніна, як там лазенька?..

— А прыбягалі ўжо сказаць, што гатова,— азвалася Ніна з другога пакоя.

— Ну, во, мама, ідзіце ў лазеньку, а пасля пасядзім, павячэраем ды і пагаворым яшчэ...

Лазенька была сапраўдным палацам. Драўляныя сцены жаўцелі лакам, нібы нацёрлі іх найлепшым воскам. На сценах віселі ўпрыгожанні: у драўляных рамках чаканка. Столь у прылазніку і тая была распісана дзіўнымі малюнкамі. Пасярод прылазніка стаялі стол і крэслы, мабыць, замежныя, якіх няма і ў раённым рэстаране. На стале — збанок з квасам. Паўсюды панавала чысціня і відната, аж сорамна хадзіць голай. У парылцы таксама ніякага смуроду — чысты бярозавы дух. А там, дзе мыліся, стаялі лаўкі, а па баках два душы: хочаш, мыйся з таза, хочаш — пад дождж ыкам.

Хрысціна нават пашкадавала, што ў такой вялікай лазні іх мылася чатыры жанчыны. Бярозавага духу і гарачай вады хапіла б на палову пасёлка.

Гадзіны праз дзве, распараная, разамлелая пасля лазні, Хрысціна сядзела за сталом з багатай закускай, не крамнай, а свойскай, з дзічыны, вельмі смачна згатаванай. За сталом яшчэ былі тыя дзве жанчыны, што мыліся разам у лазні. Не адны, а з мужыкамі, тутэйшымі навукоўцамі і памочнікамі Антона.

І хоць дзве пары гэтыя былі вельмі прыемнымі людзьмі, гаварыць пра сямейныя справы было няёмка. Хрысціна пасадзіла на калені Раманчыка, ціхенька, напаўголасу расказвала яму казку. Ён так і заснуў у яе на руках. Ніна забрала яго, аднесла на ложак.

— Ніначка, вы пасядзіце, а мяне таксама сон морыць,— сказала Хрысціна.— Лягу і я, бо мінулую ноч дрэнна спала...

Нявестка паслала пасцелю на крэсле-ложку. Хрысціна як лягла, так і заснула, як правалілася ў туманную бездань.

Прачнулася яна ад нейкага рыпення, быццам хто асцярожна хадзіў па рассохлай падлозе.

«Заспала, старая,— падумала Хрысціна, чуючы ў целе крамяную бадзёрасць.— Дык і не дзіва. Учарашняя ночка была вераб'іная».

Хрысціна адзелася, заглянула ў адзін пакой, у другі, трэці, у кухню. Там, на стале, накрытае сурвэткай, стаяла

сняданне, а збоку ляжала запіска для яе: «Мама, не хацелі вас будзіць. Снедайце, адпачывайце, а мы будзем у абед».

Пісала Ніна. У Антона почырк курыны, а гэты — літара да літаркі. Люба паглядзець! І Хрысціна яшчэ раз і ўжо ўголас пахваліла нявестку: «Акуратыстка!»

Пасля моцнага сну і апетыт быў добры. Хрысціна ці не першы раз пасля смерці Яўхіма нікуды не спяшалася, сядзела сабе, як пані, за сталом, нетаропка ела, піла чай са сподачка, ласавалася варэннем, печанымі яблыкамі і рассыпістым пячэннем.

«Жыві, баба, не памірай,— падумалася Хрысціне, і адразу ж ударыла ў пот.— А як там дома? Дзеўкі, мабыць, чакаюць не дачакаюцца. Дзе старая прапала?»

Думка пра дом аж сапсавала настрой. Такога ніколі яшчэ не было. Звычайна ўспамін пра дом напаўняў Хрысцініну душу радасцю. А тут...

Хрысціна прыкончыла яблык, прыбрала са стала, памыла талеркі і сподачкі. Самы раз было паразважаць цяпер, як лепей дабірацца дамоў.

Можна было выходзіць на шашу, дзе хадзіў аўтобус да іхняга райцэнтра. Адтуль таксама аўтобусам да Барсукоў. Але аўтобус праходзіць тут гадзіне а другой дня. Сын жа з нявесткай раней дзвюх не вернуцца. Значыць, аўтобус адпадае. Можна вярнуцца ў Мінск. Бадай, гэта самае лепшае, бо да Мінска аўтобусаў хапае. Найлепш, вядома, каб Антон даў машыну — і прамым ходам да самай хаты...

Хрысціне ўжо не сядзелася. Хутчэй бы прыходзіў Антон.

Накінуўшы плашчык, Хрысціна выйшла на двор. Шкляная веранда была чыста вымыта. На сходках ганка стаяла вядро, а ля яго ляжала мокрая ануча, і нейкая жанчына корпалася ў агародзе.

— Добрай раніцы,— павіталася Хрысціна, зусім не разумеючы, хто гэтая жанчына і што яна робіць у агародзе.

Жанчына выпрасталася, адказала на прывітанне:

— Добрага вам здароўечка... Выспаліся? А я ўжо і не ведала, што рабіць. Антон Яўхімавіч наказаў, каб я вас не турбавала. Дык я ўжо і не палезла ў пакоі прыбіраць. Але ж і дамоў трэба...

— Такой і бяды,— адчуваючы сваю віну перад жанчынай, сказала Хрысціна.— Я і сама ўсё прыбрала б. Рукі не адсохнуць.

— Вы — госць. Вам — не паложана. А мне за гэта грошы плоцяць,— жанчына ўзяла вядро, наліла вады.

— Дык гэта вы Ніначцы памагаеце? — спытала Хрысціна, думаючы над тым, што нявестцы і сапраўды даводзіцца нялёгка, вось і нанялі цётку, каб трымала хату ў чысціні і парадку.

— Прыбіральшчыца я туташняя,— растлумачыла жанчына.— Кантору прыбіраю. У канторы дзел тых — кот наплакаў, а па штату я на поўнай зарплаце. Бухгалтарша і прывязалася. Кажа, што я да стаўкі недапрацоўваю. Таму і дагрузілі катэдж прыбіраць, агародчык даглядаць. Раз недапрацоўваю да стаўкі, дык нідзе не дзенешся. Супраць закону не папрэш.

— Дык вы ад канторы прыбіраеце? — нарэшце дапяла да сэнсу Хрысціна, і яе аж скаланула, бо прыгадалася даўняя, яшчэ даваенная, гісторыя.

Тады ёй толькі пайшоў семнаццаты год. Можна сказаць — горкае дзіцё. Пасля заканчэння Завольшанскай сямігодкі яна надумала паступаць у педтэхнікум. Дужа ёй падабалася праца ў школе, асабліва таямнічасць настаўніцкай, куды вучням доступ быў строга абмежаваны. Ужо адно: некалі пасядзець там сярод настаўнікаў здавалася агромністым шчасцем. Вядома, маладосць!

Паступіць у тэхнікум ёй так і не давялося. У сельсавеце не далі даведку.

Хрысціна дзве ночы праплакала, развітваючыся са сваёй марай. Відаць, самім лёсам наканавана ёй не быць настаўніцай, не сядзець разам з настаўнікамі. Але ў школу яе цягнула, як, бывае, цягне ў свае чорныя нетры рачны вір. А тут раптоўна памерла школьная прыбіральшчыца і заўхоз па сумяшчальніцтве. Пачула Хрысціна, што дырэктар шукае новую прыбіральшчыцу, і пабегла да яго.

Той спачатку і слухаць не хацеў, каб узяць яе на працу, ды яшчэ прыбіральшчыцай — з сямігадовай адукацыяй тады былі ў пашане. Але, калі Даніла Іванавіч пачуў, што Хрысціне не далі даведку, а яна жадае працаваць настаўніцай, перамяніў сваё рашэнне.

— Добра, Хрысціна, хай будзе па-твойму. Можа, ты і правільна робіш. Папрацуеш у нас гадкі два, і пашлём цябе на педрабфак ці ў педвучылішча.

Божа, як яна тады радавалася! Рабіць ёй не прывыкаць. Падлогі ў класах фарбаваныя. Шараваць не трэба. Прайшоўся мокрай анучай — і чыста. А ўвесь дзень і доўгі асенні вечар — вольнасць! У хаце-чытальні якраз уста-

навілі радыёпрыёмнік на трое навушнікаў. Шэсць чалавек маглі адразу Маскву слухаць. Ёй як актывістцы навушнік давалі без чаргі, у адным заходзе з дырэктарам школы, старшынёй сельсавета і іншым знатным людам.

Актывісткай яна стала таму, што вока на яе паклаў Яўхім Малінец, гаспадар той самай хаты-чытальні, дзе стаяў радыёпрыёмнік і па вечарах было тлумна ад людской гаманы.

Яна тады пра ўхажорства не думала. Яўхім ёй, шчыра кажучы, не падабаўся, але ж цешыла самалюбства тое, што яна не абы-хто, а чалавек, які можа сядзець побач са старшынёй сельсавета, і што да яе заляцаецца «ізбач», якога ўсе пабойваліся.

Хрысціна была задаволена сваім лёсам. А наперадзе бачылася і зусім прыгожае жыццё. І раптам усё паляцела кувырком.

Жонцы дырэктара школы зрабілі аперацыю. Даніла Іванавіч ірваў сябе на часткі між бальніцай і школай. Аднаго разу ён і папрасіў Хрысціну прыбраць ягоную кватэру. Кватэра была тут жа, у школе, за настаўніцкай. У яе можна было трапіць і з чорнага ганка, і з настаўніцкай праз невялічкі калідор. Хрысціна аж засаромелася, што сама не здагадалася памагчы Данілу Іванавічу. Ці доўга ёй прыбраць два дырэктарскія пакойчыкі!

Даніла Іванавіч аддаў ёй ключы, а сам пабег у горад, за няблізкі свет, каб адведаць жонку. Хрысціна найперш прыбрала школьныя класы, як рабіла гэта заўсёды, вымыла калідор і толькі збіралася пачынаць мыць настаўніцкую, як з хаты-чытальні прыбегла дзяўчынка-пасыльная па яе: збіраецца нейкая камісія і яна, Хрысціна, павінна неадкладна прыйсці ў хату-чытальню.

Разы два Хрысціна ўжо засядала ў той камісіі, але так і не разабралася, чаго яны збіраліся і што абмяркоўвалі. Гаварыў найбольш Малінец, а ён калі пачынаў гаварыць, дык за адным заходам паспяваў разграміць і польскіх магнатаў, і англійскіх кансерватараў, і рэлігію з забабонамі, і бездарожжа. Камісія, здаецца, і павінна была дапамагаць будаўніцтву і паляпшэнню дарог.

Сёння Хрысціне ісці на тую камісію ніяк не выпадала. Трэба яшчэ памыць падлогу ў настаўніцкай, прыбраць дырэктарскія пакоі, напаліць печку, каб Даніла Іванавіч, вярнуўшыся з далёкай дарогі, мог пагрэцца ў чыстых пакоях. «Нічога, абыдуцца»,— падумала Хрысціна і папрасіла дзяўчынку сказаць, што яна не прыйдзе.

Назаўтра, праз тую ж дзяўчынку-пасыльную, Хрысціну выклікаў сам Малінец. Ён сядзеў за сталом у рудой вышмальцаванай скуранцы і такой жа кепцы, непадступны і злосны. Хрысціна глянула на яго, і ў яе зайшлося ад страху сэрца.

— Выклікалі? — спытала яна і сама пачула, што голас яе дрыжыць.

Малінец глядзеў на яе не мігаючы. Потым рашуча паклаў кулакі на стол, аж белыя ад таго, што ён іх моцна сціскаў.

— Анархію разводзіш? — спытаўся ён.

Хрысціна маўчала. Не пачуўшы адказу, Малінец зрабіў яшчэ больш грозны выгляд, хоць здавалася, што больш грозна наогул нельга глядзець на чалавека.

— Ты разумееш, якую дапусціла памылку? — Ён грукнуў абодвума кулакамі аб стол.— Ворагі савецкай улады, сусветная контррэвалюцыя толькі і памышляюць, каб зліквідаваць заваёвы Кастрычніка, а ты дапускаеш абуральную недысцыплінаванасць. А ўсё таму, што сядзіць у табе дробнабуржуазная псіхалогія, якую мы выпалім гарачым жалезам.

Хрысціна паспрабавала давесці, што яна не магла кінуць-рынуць работу і пабегчы на камісію, але гэта яшчэ больш узлавала Малінца. Для яго нічога на свеце важней гэтай камісіі не было. Хрысціну ахапіла роспач. Яшчэ прагоняць са школы! І тады яна надумала схавацца за дырэктарскую спіну, вырашыўшы, што такога заслужанага чалавека Малінец не кране і словам.

— Даніла Іванавіч загадаў мне прыбраць ягоныя пакоі, напаліць грубку, пакуль ён вернецца з горада. Таму я і не магла прыйсці на пасяджэнне камісіі.

Яна пераможна глянула на гэтага крыклівага Малінца. Той і сапраўды нібы папярхнуўся, глядзеў на яе вырачанымі вачамі і нават прыбраў са стала кулакі.

— І часта ён так загадвае? — спытаўся Малінец, як здалося Хрысціне, перапалоханым голасам.

— Колькі трэба, столькі і загадвае,— каб засцерагчы сябе і на будучае, адказала Хрысціна.

Малінец нечага прайшоўся па пакоі. Спыніўся перад ёю, павагаўся на насках хромавых ботаў.

— А ты не брэшаш? — спытаўся ён.

— Што я, сучка, каб брахаць? — раззлавалася і Хрысціна.

Яна бачыла, што Малінец нечым заклапочаны, можа,

баіцца, каб Хрысціна не расказала дырэктару, а той умеў прабіраць і не такіх, як Малінец.

— А я не веру, што ты прыбірала дырэктарскія пакоі,— сказаў Малінец.

— Можаце не верыць...

Малінец сеў за стол, дастаў з шуфляды вучнёўскі сшытак, вырваў з яго аркуш.

— Каб паверыў, напішы пра тое, што расказала мне,— загадаў ён.

— Навошта мне пісаць? — паспрабавала адбіцца ад ягонай настырнасці Хрысціна.

Ён узяў ручку, стаў шпарка нешта пісаць.

— А цяпер уважліва паслухай, ці так я запісаў тое, што ты сказала апраўдваючы сваю недысцыплінаванасць? — Ён ледзь не па складах прачытаў напісанае.

Хрысціна была засумнявалася: навошта Малінцу яе пісьмовыя паказанні? Але і нічога благога не пабачыла ў іх. А галоўнае, яна сябе апраўдала. Малінец на яе не крычаў, не абвінавачваў.

— Распішыся,— Малінец сунуў ёй ручку, а калі яна распісалася загадаў: — Пра нашу размову ні слова. Зразумела?..

Яна, вядома, нічога не зразумела. Падумаеш, тайна! А недзе праз тыдзень у Завольшу наляцела камісія, і ўся вёска раптам ускалыхнулася ад самых неверагодных чутак. Казалі, нібы дырэктар школы эксплуатуе школьную прыбіральшчыцу, не дазваляе ёй займацца грамадскай дзейнасцю. Былі і горшыя чуткі. Тыя перадаваліся шэптам, але пра іх ведалі ў кожнай хаце. Казалі, што дырэктар спрабаваў атруціць жонку, каб ажаніцца з прыбіральшчыцай. Знаходзіліся і такія, што чулі, як Хрысціна крычала позна ўвечары, прасіла ўратаваць яе ад дамаганняў дырэктара.

Камісія з раёна тройчы выклікала Хрысціну. Зрабіла ёй і вочную стаўку з Малінцом. І цяпер тая паперына, якую яна падпісала, стала цяжкім прысудам Данілу Іванавічу. Яго вызвалілі ад працы, перавялі кудысьці ў другі раён.

Хрысціна таксама пакінула школу. Не магла рабіць у ёй. Было сорамна перад настаўнікамі ды і ўсімі сумленнымі людзьмі.

Пачуўшы цяпер ад прыбіральшчыцы, што тая за казённы кошт прыбірае дырэктарскія пакоі і даглядае дырэктарскі агародзік, Хрысціна спалохалася. Не дай божа

возьме хто і напіша, што Антон эксплуатуе прыбіральшчыцу. Што тады будзе?

— Анягож, ад канторы прыбіраю,— пацвердзіла Хрысціну здагадку прыбіральшчыца.— Антон Яўхімавіч, дай бог яму здароўя, мяне не крыўдзіць. Ніна Раманаўна, бывае і пакрычыць, а Антон Яўхімавіч слова крыўднага не скажа...

Тое, што прыбіральшчыца пахваліла сына, узрушыла і як бы супакоіла Хрысціну.

— Ён з малых год спачувальны да людзей,— пахвалілася яна.— Хаты за чатыры ад нас удава жыла. Чацвёра дзетак, а заробак тады ў калгасе жабрачы быў. Дык Антон, бывала, накроіць хлеба і да іх. Дужа шкадаваў сірот.

— Што праўда, тое праўда,— падхапіла прыбіральшчыца,— сынок ваш вельмі спачувальны. Ніколі без прэміі не пакіне. Хоць пяць, дзесяць рублёў, а выпіша. А бывае, і дваццаць пяць дасць, і машыну, дзякуй яму, выдзеліць, каб дроў прывезці. Ніна Раманаўна — тая строгая. Сёлета ж дажджы не пераставалі. Трава ў агародзе так і прэ. Спасу няма. У самой грады пазарасталі. А Ніна Раманаўна ўбачыць пустазелле — сварыцца. Антон Яўхімавіч падміргвае мне, каб не зважала. А я і не зважаю. Я сваю справу раблю. Вы ўжо звіняйце, загаварылася з вамі, пайду пакоі прыбіраць...

— Дык я памагу вам,— падахвоцілася Хрысціна.

Прыбіральшчыца спачатку разгубілася, мабыць, не ведала, ці варта дырэктарскую маці дапускаць, каб прыбірала. Але, паразважаўшы, сцяміла — хай памагае.

Пакуль прыбіральшчыца мыла падлогу, Хрысціна выцірала пыл, хоць яго, па праўдзе кажучы, і не было. Але калі загадана выціраць, дык трэба.

Удзвюх яны хутка скончылі работу. І нагаварыліся ўдосталь. Удава ўдаву заўсёды разумее.

Муж прыбіральшчыцы памёр даўно: загінуў страшнай смерцю. Нехта паставіў пастку, і якраз на сцежцы, па якой той абыходзіў участак. А быў люты мароз. Ён замёрз, не маючы магчымасці выбавіцца з пасткі. Знайшлі ўжо скарчанелага. Кожнаму было зразумела, што пастку не на воўка ці яшчэ якога звера ставілі, а на абходчыка. Але следства так нічога і не даказала. Двое дзяцей прыбіральшчыцы — сын і дачка — як з'ехалі некалі з дому, так ні слыху ні дыху. Нібы ў ваду канулі.

Хрысціна пабедавала разам з прыбіральшчыцай, і абедзве адчулі свойскасць душ. Рассталіся яны, як даўнія

знаёмыя, сардэчна, з жаночай душэўнасцю. Прыбіральшчыца пайшла дамоў, а Хрысціна надумала прайсціся па пасёлку.

Час блізіўся к абеду, а ні сына, ні нявесткі не было. Хрысціна пачала нават непакоіцца. Незадоўга да абеду прыскакала вярхом на кані Ніна. Яна лёгка саскочыла з сядла, нецярпліва азірнулася. І тут жа, як з-пад зямлі, узнік учарашні даглядчык. Ніна кінула яму повад, за штосьці адчытала, бо даглядчык толькі ківаў галавой у знак згоды.

Хрысціна назірала за нявесткай з хаты. «Строгая»,— думала яна словамі прыбіральшчыцы і не магла зразумець, ганіць гэтым Ніну ці хваліць.

На Ніне была блакітная куртка, перахопленая поясам, адмыслова скроеныя штаны, запраўленыя ў прыгожыя боцікі на высокім абцасе. Яна выглядала зусім дзяўчынкай. І прыгажуня!

Хрысціна адразу заўважыла, што Ніна не ў настроі, хоць яна і ўсміхнулася свякрусе, нават папрасіла прабачэння, што пакінула адну. Твар Ніны ўсміхаўся, а вочы глядзелі сярдзіта.

— Ці не здарылася што? — асцярожна спытала Хрысціна.— Антон яшчэ не прыязджаў...

— А ён на абед і не прыедзе,— адказала Ніна, і ў Хрысціны здрыганулася сэрца: нешта такі здарылася.

— Божачка, чаму не прыедзе? Мне ж дамоў трэба...

— Ды нічога не здарылася. Проста застаўся на развітальны абед з немцамі...

Сказана гэта было крыху са злосцю. Хрысціна здагадалася, што Ніна, няйначай, пасварылася з Антонам, а таму не стала лезці з роспытамі — нявестцы цяпер не да яе. Але ж адольваў і клопат. Калі Антон не прыедзе, дык давядзецца гасцяваць яшчэ адны суткі. Як ты ўседзіш, калі хата кінута на чужых людзей.

— Сама вінаватая,— сказала яна, бядуючы, але так, каб пачула Ніна і здагадалася пра свякрушын клопат.— Праўду кажуць, што адклад не ідзе на лад. Хацела ж учора пагаварыць з Антонам, каб сёння адвёз мяне на станцыю, і не пагаварыла.

Ніна адразу здагадалася, чаго хоча свякруха.

— Дык яшчэ не позна, можна сказаць. Я зараз пазваню яму па тэлефоне,— супакоіла яна Хрысціну.

Тая ўзрадавалася, як малое дзіця, якому надакучыла ў чужых людзей.

— Ой, дачушка, пазвані ты яму, пазвані,— папрасіла Хрысціна.

Ніна набрала нумар. Хрысціна стаяла поруч, чула, як назойліва, з перапынкамі гудзе ў трубцы. Па той бок ніхто не адгукаўся. Ніна націснула пальцам на рычажок і зноў набрала нумар. Пасля трэцяга разу ў трубцы пачуўся дужа выразна голас — нібы чалавек стаяў у суседнім пакоі.

— Слухаю...

Хрысціна пабачыла, як у Ніны аж затрапяталі ноздры, а прыжмураныя вочы сталі бязлітасна жорсткімі. Хрысціна адышлася, адчуўшы няёмкасць.

— Сімакоў? — спыталася Ніна дужа нядобрым голасам.— Вы дзе прападаеце?..

Мусіць, Сімакоў той пачаў апраўдвацца, бо Ніна нецярпліва перапыніла яго:

— А мяне гэта не цікавіць. Паклічце Антона Яўхімавіча... І зараз жа... А тады можам прадоўжыць нашу прыемную размову.

Хрысціне спадабалася нявестчына строгасць.

«А і добра,— падумала яна.— У Антона вельмі ўжо мяккі характар».

Антон нечага не спяшаўся. Ніна стаяла каля тэлефона да немагчымасці напружаная. Хрысціна адчувала яе ціхую, ярасную лютасць. Здавалася, як толькі Антон адзавецца, Ніна накінецца на яго з такой нястрымнай лаянкай, пасля якой здарыцца нешта страшнае, непапраўнае, і Хрысціна раскайвалася ўжо, што падбухторыла Ніну званіць.

Нарэшце Антон адказаў. Хрысціна бачыла, як у Ніны перасмыкнуўся твар. «Зараз пачнецца»,— падумала Хрысціна.

— Антоша, мілы, даруй, я не патурбавала б цябе, але мама ледзь не плача. Ёй ехаць трэба, а я не ведаю, што рабіць. Пагавары з ёю сам...

Хрысціна не верыла сваім вушам: ніякай лаянкі, наадварот, самая далікатная размова. Не, ёй ніколі не зразумець малодшую нявестку. Ніколі!

Яна ўзяла трубку з Ніненых рук. Яшчэ не данёсшы да вуха, залямантавала на ўвесь голас:

— Сынок!.. Сыночак!.. Што ж ты?.. Мне ж заўтра дома трэба быць... Хоць памры, трэба!..

Антон пачаў быў угаворваць, каб яна пагасцявала хоць бы яшчэ адзін дзень, бо яны так і не пагаварылі па-люд-

ску, але Хрысціна нібы і не чула і ўсё прасіла, каб ён знайшоў час і падвёз яе да станцыі.

Антон нарэшце здаўся. «Чакай, зараз буду»,— сказаў ён, і ў трубцы запіпікала з агіднай настойлівасцю.

Хрысціна кінулася збірацца ў дарогу. Якія не зборы, а трэба быць напагатове. Ніна ёй не перашкаджала. Яна нешта рабіла ў зале.

Хрысціна, адзін бог ведае чаму, надумала зазірнуць у гасцінУю. Тое, што яна ўбачыла, ашаломіла яе. Ніна выцірала анучкай тую мэблю, якую так старанна выцерла яна, Хрысціна. Ёй зарупіла сказаць, што мэбля выцерта, ды нешта стрымала яе. І вельмі ў час.

Ніна пабачыла свякруху, спытала:

— А прыбіральшчыца прыходзіла?

— Як жа!.. Прыходзіла,— разгублена адказала Хрысціна, пакрыўджаная тым, што нявестка перарабляе яе працу.— Прыбірала і ганак, і веранду, і пакоі.

— Вочы мае не глядзелі б на такое прыбіранне,— паскардзілася Ніна.— Даўно прашу Антона, вазьмі другую... Якая з яе прыбіральшчыца. Мурза неахайная. Больш наслядзіць, як прыбярэ. Вечна ўсё перарабляць трэба. Дык не, трымае, бо мужа яе некалі браканьеры забілі.

Хрысціна слухала нявестку, як праз чорную муць. Ёй хацелася сказаць, што прыбіральшчыца тут не вінаватая, бо пыл з мэблі выцірала не яна. Але было страшна разявіць рот. І гэта дадавала душэўных пакут. «Трэба ж было сунуцца памагаць жанчыне. Толькі бяды нарабіла,— думала яна.— Я, дурная, яшчэ абнадзеіла сябе, што тут асяду... Дзе ж я дагаджу нявестцы?.. Ніколі...»

Перацёршы мэблю ў гасцінай, Ніна пайшла шураваць і па другіх пакоях. Каб не перашкаджаць ёй, не бачыць, як яна перарабляе зробленую працу, Хрысціна адступіла на кухню. Села там на адмысловай разьбы лаўцы. Хутчэй бы дамоў! Сядзі, старая, у сваіх Барсуках і не рыпайся. Такі ўжо свет пайшоў: жыць сталі заможна, а прытулку нідзе няма.

Думалася нявесела. Чамусьці толькі цяпер прыгадалася, што Ніна за ўвесь час, што замужам, гасціла ў Барсуках адзін раз. Раней гэтаму Хрысціна не прыдавала значэння, а цяпер задумалася. Канешне ж, невыпадкова не прыязджала...

Антон па яе прыехаў сам. Хрысціна пачула, калі ён загаварыў ужо з Нінай. Нешта такое было ў голасе сына,

што Хрысціна не кінулася да яго, а асцярожненька выглянула з кухні.

Абое — Антон і Ніна — стаялі да яе бокам. Антон з бесклапотнай весялосцю нешта гаварыў жонцы, а тая слухала, угнуўшы галаву, ці то не згаджалася з ім, ці то выказвала незадавальненне мужам. У голасе Антона — выразнае паддобрыванне да жонкі. Разы два ён нясмела крануўся Ніпінага пляча, як бы шукаў прымірэння. Ніна нават вельмі выразна сцепанула плечуком, паказваючы гэтым, што мірыцца не хоча.

«Ну і характар,— падзівілася Хрысціна.— Сібірскі! У такой муж будзе хадзіць па адной маснічыне, ды яшчэ дзякаваць богу за жончыну дабрату».

Каб не выдаць сябе, Хрысціна вярнулася ў кухню і адтуль на ўвесь голас спытала ў нявесткі:

— Што ж гэта Антона ўсё няма?..

— Я тут, мама,— адразу азваўся Антон і паявіўся на парозе кухні.— Чаго табе ўзгарэлася дамоў ехаць? Заўтра пасадзіў бы ў машыну — і пад вечар была б у сваіх Барсуках...

— Дык і я тое ж казала: застаньцеся, мама,— падтрымала яго Ніна.

Хрысціна паспрабавала ўспомніць, калі нявестка казала, каб яна засталася. Не ўспомніла.

— Чаго ўжо цяпер... Дзякуй за частаванне. Шкада, што ўнучкаў не пабачыла перад ад'ездам. Неяк усё так паспешліва выйшла...

— Табе, мама, дзякуй, што наведала нас,— першы азваўся Антон.

— Не забывайце нас,— папрасіла і Ніна.

Яна абняла Хрысціну, тройчы пацалавала, прыкладаючыся мяккімі цёплымі вуснамі да шчок свякрухі.

У Хрысціны аж выбліснулі слёзы, а ўсё, што нядаўна грызла сэрца, забылася.

На двары іх чакала куртатая «Ніва». Антон адчыніў дзверцы, дапамог маці забрацца на сядзенне. Абышоў машыну, сеў за руль.

— Дык ты што?.. Да самага Мінска мяне сам павязеш? — занепакоілася Хрысціна.

— Не спяшайся, мама,— супакоіў яе Антон.— Да твайго цягніка — цэлая вечнасць. Пасядзіш за сталом. Мы сёння вучоных з Федэратыўнай Германіі праводзім. З гэтай прычыны і абед. Гадзіне а шостай мы іх у Мінск павязём. І цябе заадно з імі...

— А божа ж мой,— спалохалася Хрысціна.— Ці папатраплю ж я за тым сталом? У іх жа ўсё не па-нашаму. Скажуць, дырэктар нейкую вясковую панчоху ім падсунуў...

Антон зарагатаў тым даўнім задзірыстым маладым смехам, які так падабаўся Хрысціне. Ёй стала і лёгка, і весела.

— Не бойся, мама,— зухавата сказаў ён.— Яны такія ж звычайныя людзі, як і мы. Пабачыш...

— Я ў вайну іх наглядзелася, немцаў гэтых,— сказала Хрысціна.

— Дык то ў вайну,— адказаў Антон.— Вайна людзей гне, скручвае, ламае... Вайна, мама, шаленства, хоць і тады чалавек чалавекам хацеў быць.

Што Антон ведае пра тую вайну? А, бачыш, гаворыць пра яе ўпэўнена, быццам сам перажыў тыя жахі, пабачыў на свае вочы і чалавечую жорсткасць і спагаду. Але цану ім ён так і не зазнае. Адкуль яму ведаць тую цану? Яму не баліць так, як ёй...

Яўхім яшчэ ў сорак другім годзе разам з такімі ж, як ён, актывістамі пайшоў у партызаны. Доўга аб ім не было чутак. Хрысціна думала ўжо, што загінуў. А ён аб'явіўся ў сорак трэцім; доўгую адсутнасць сваю растлумачыў тым, што не хацеў, каб ведалі, што знаходзіцца ў партызанах. Наведваўся ён у Барсукі яшчэ разы два, пакуль не легла апошняя перад вызваленнем зіма.

Пачалася яна з блакады абедзвюх партызанскіх зон. З месяц над зонамі ноччу калыхалася злавеснае зарава, а ўдзень клубіліся хмары чорнага дыму. Потым усё заціхла. Немцы хваліліся, што разграмілі партызан: каго перабілі, а каго захапілі ў палон. Але ў Прыкардонні ніхто гэтаму не верыў. Пра разгром партызан немцы аб'яўлялі ці не чацвёрты раз за вайну.

І сапраўды, неўзабаве ў партызанскіх зонах пачаліся баі, а ў Барсуках неяк паявіліся партызаны, перадалі прывітанне ад Яўхіма.

Барсукоўцы чакалі блізкага вызвалення, бо ўжо былі ачышчаны ад немцаў некалькі раёнаў Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцей. Вясной трэба было чакаць новага наступлення Чырвонай Арміі, а з ім і канца ўсіх пакут. Гэта і радавала, і непакоіла. Хадзілі чуткі, што немцы перад адступленнем або пастраляюць людзей, або пагоняць з сабой у Германію.

Вось у гэты самы час, вясной сорак чацвёртага, у Бар-

суках і паявіўся Яўхім з групай разведчыкаў, загадаў зараз жа збірацца ў партызанскую зону, пад надзейную ахову партызан. Хрысціна ўзрадавалася. А бацька заўпарціўся. Даказваў, што партызанам няма чаго абзаводзіцца сем'ямі. Якія з іх ваякі, калі ў кожнага жонка і дзеці.

Яўхім настойваў, спасылаўся на дырэктыву, у якой прадпісвалася ратаваць насельніцтва ад знішчэння фашыстамі, але і ён адступіў перад цесцем. Забраў з сабой толькі Хрысціну з сынам Міхаськам, якому ішоў тады пяты гадок. Так Хрысціна на пачатку мая трапіла ў партызанскую зону.

Яўхім спадзяваўся пакінуць Хрысціну пры сваім атрадзе, але, пакуль ён ездзіў па жонку, камбрыг выдаў загад, у якім забаранялася трымаць сем'і ў атрадах. Яўхім адвёз Хрысціну ў сямейны лагер, што існаваў пры іх брыгадзе «Навальніца» з восені сорак другога.

Размяшчаўся лагер сярод балот, на грудку сухадолу, густа пораслым ельнікам. У ім сабралася, можа, тысяча сем'яў — суцэльны чалавечы мурашнік.

Лагер перажыў ужо леташнюю блакаду, калі на партызанскую зону рушыла больш за трыццаць тысяч карнікаў. Можа, і ўцалеў ён толькі таму, што была снежная, мяккая, без вялікіх маразоў зіма. Балота не замерзла, прыкрылася толькі кволай скарынкай лёду. Карнікі так і не адважыліся сунуцца на яго. Яны абстралялі лагер з гармат, а два нямецкія самалёты скінулі на лагер з сотню бомбаў.

Старажылы спадзяваліся і цяпер адседзецца тут. Гаварылі пра гэта ўпэўнена.

Вакол балота стаяла аж чатыры партызанскія брыгады: «Навальніца», дзе партызаніў і Яўхім, Чарняеўская, прышлая з панізоўскіх балот, Сталінская, якая адступіла сюды пасля леташняй блакады, і Маладзёжная, створаная месяцы тры назад. З такой сілай, здавалася, можна абараніць не толькі сямейны лагер, але і ўсю партызанскую зону.

Блакада пачалася неяк неспадзявана. Ранічкай спачатку далёка, а потым і бліжэй усчалася страляніна. Над зонай надоўга звіслі нямецкія «рамы». І адразу па лагеры загулялі чуткі. Хрысціна так і не зразумела, адкуль сямейнікі — так называлі людзей, што атабарыліся ў сямейным лагеры,— чэрпалі звесткі. Але яны ведалі ўсё ці амаль усё. І якія вёскі занялі карнікі, і дзе засталіся шчарбінкі ў шчыльных варожых заслонах, і дзе немцы робяць

засады. Хрысціна нічога не ведала, бо і мясцовасць гэтая была ёй невядомая, чужая.

Баі анічуць не памянялі выгнанніцкае жыццё ў сямейным лагеры. Яно ўрасло ў туташнюю глебу, як куст лазы: неглыбока, але захваціста. Толькі такія, як Хрысціна, нядаўна перасаджаныя з утульных хат у буданы, падселеныя ў чужыя зямлянкі, адчувалі сябе няўпэўнена, няўтульна, сумавалі па родных хатах і недзе ў глыбінях душы шкадавалі, што зрабілі гэты крок. Хто ўгадае, дзе знойдзеш, а дзе згубіш? Лёс чалавека ў вайну не паддаецца разлікам. Ім кіруе выпадак.

Недзе праз тыдзень у сямейным лагеры спачатку ціха, з вуха на вуха, загаварылі пра небяспеку, а потым і ўголас, не баючыся, што могуць абвінаваціць у панікаванні.

Пра тыя, мінулыя блакады расказвалі жахі. Цяпер немцы зусім азвярэлі. Па лагеры шасталі жахлівыя чуткі пра зверствы карнікаў, наганяючы на людзей страх і роспач.

Ноччу наўкруг палала зарава пажару. Што ўжо можна было толькі паліць пасля стольківх блакад партызанскай зоны? Але нешта гарэла, можа, сама шматпакутная зямелька.

Неяк пад вечар у сямейным лагеры паявіўся Яўхім. Хрысціна ледзьве пазнала яго: абраслы, чорны, схуднелы, з вачамі, глыбока схаванымі пад навіссю калматых броваў. Ён, здавалася, смярдзеў вайной — задушлівым дымам і кіслым потам.

— Во што,— сказаў ён Хрысціне, чамусьці азіраючыся,— мы заблакіраваны так, што камар не праляціць. Уліплі, як апошнія дурні. Хоць і не ў гэтым справа. Пакуль камбрыгі спрачаліся між сабой, немцы перакрылі апошнюю магчымасць вырвацца на прастор з пасткі. Маглі б вырвацца, прайсціся рэйдам па тылах карнікаў. А цяпер трэба думаць, як ратавацца, а не як немцаў біць. Стратэгія, ядрона маць!

— Што ж будзе? — занепакоілася Хрысціна, усёй скурай адчуўшы страшэнную небяспеку, што навісла над ёю і Міхаськам, Яўхімам, сямейным лагерам і ўсімі партызанамі.

— Амба ўсім, во што будзе,— з нечуванай для яго асуджанасцю адказаў Яўхім і яшчэ больш напалохаў Хрысціну.

— Паспяшаўся, прыцягнуў сюды, на чужую старонку,— папракнула яго Хрысціна.— Усягды ты так. Сядзе-

ла б дома і не шманала, а калі ўжо і давялося б загінуць, дык разам са сваімі.

Яна і яшчэ гатова была піліць Яўхіма ў сваёй бездапаможнасці, але ён так гыркнуў на яе, аж заселі словы ў горле.

— Памаўчы! Завыла!.. Яна не шманала б... А што над тысячамі людзей смерць закружыла, ёй і клопату мала...

То была страшэнная несправядлівасць, і Хрысціна заплакала.

— Табе твой сын, як шчанюк... Па тваёй віне смерць прыме...

Яўхім разгубіўся.

— Ладна табе,— сказаў ён прымірэнча.— Думаеш, мне лёгка?..

— Чаго ж раней не прыехаў? Можа, вырвалася б неяк з гэтага чортавага кола. Паехала б дамоў. Можа, не кранулі б. Людзі ў нас, сам ведаеш, не выдадуць. Перажыла б неяк навалу...

Яўхім маўчаў, пакуль яна не выгаварылася.

— Цяпер позна,— сказаў ён.— У нас адно выйсце: пайсці на прарыў. Будзе крыві... Не без таго. Але блакаду мы прарвём. І людзей выведзем. Не кінем паміраць гвалтоўнай смерцю. Я цябе зараз жа забраў бы, але не хачу наракanняў. Ёсць строгі загад, нікому з камандавання не браць з сямейнага лагера ні жонак, ні якую яшчэ радню. І правільна!.. Абчэпішся бежанцамі, не да баёў. Ды вазьмі я цябе, дык астатнія запанікуюць. Малінец жонку забраў, значыць, справа кепская — і рынуцца ў атрады. Уяўляеш, што будзе?.. Тады ўсе загінем...

Цяпер у Яўхіма зноў забруіла колішняя ўпэўненасць. На ўгаворы ён заўсёды быў майстра. Але на Хрысціну ягоная ўпэўненасць не дзейнічала.

— Гаварыць ты ўмееш,— сказала яна,— але мне што рабіць, ты так і не сказаў...

— З табой мы так дамовімся,— адказаў Яўхім пасля нядоўгага роздуму.— Як толькі будзе дадзена каманда ісці на прарыў, я прышлю па цябе свайго ардынарца Кольку. Ён цябе і прывядзе ў атрад. А там будзеш прарывацца разам з усімі...

Хрысціна мелася распытаць больш падрабязна пра тое, як ардынарац выведзе яе з гэтага вострава сярод балот, але Яўхім не даў ёй гаварыць. Ён, можа, упершыню за іхняе сумеснае жыццё нязграбна абняў Хрысціну,

цмокнуў у шчаку і, не азірнуўшыся, пайшоў да каня, ускінуў у сядло па-кацінаму гнуткае цела.

— Дык так і дамовіліся,— крыкнуў ён і пагнаў каня.

Яшчэ адны суткі прамінулі ў трывожным чаканні. На зыходзе тых сутак па сямейным лагеры пракацілася чутка, што ноччу Чарняеўская брыгада пойдзе на прарыў блакады. Сямейны лагер загуў, заварушыўся як растрывожаны вулей.

Хрысціна чакала: вось-вось у лагеры паявіцца Яўхімаў ардынарац, каб забраць яе з сынам. Але яго ўсё не было, а там, дзе знаходзілася Яўхімава брыгада «Навальніца», з самай раніцы ішлі лютыя баі. Апоўначы пранеслася і яшчэ адна чутка: нібы астатнія тры партызанскія брыгады таксама пойдуць ноччу на прарыў, але не на поўнач, а на поўдзень. Чутка, нібы той віхор, сарвала тысячы людзей з сямейнага лагера, пагнала іх у размяшчэнне Чарняеўскай брыгады.

Магутная чалавечая плынь падхапіла і Хрысціну. У яе не было ніякіх пажыткаў, адно, што несла за плячыма па-цыганску прывязанага хусткай да спіны Міхаську. Ды па балоце і гэтая ноша была не па сіле.

Гадзіны праз паўтары Хрысціна зусім выбілася з сіл і ўжо не думала аб тым, каб бегчы наперад; ёй хацелася легчы дзе-небудзь на сухую зямлю, сцішыцца, а можа, і заснуць навекі.

Тым часам наперадзе пачуліся крыкі, а неўзабаве тыя, хто бег наперадзе астатніх, крута павярнулі назад, у сямейны лагер. Страх падхапіў Хрысціну, і яна таксама кінулася за імі, не ведаючы, чаму людзі не пайшлі на прарыў.

А там, дзе знаходзілася Чарняеўская брыгада, ішоў люты бой. Ён цягнуўся нядоўга. І гэтак жа нечакана заціх, як і ўсчаўся.

У сямейны лагер Хрысціна вярнулася на ўсходзе сонца. Да яе прыбілася нейкая жанчына з чатырма дзецьмі. Яна і расказала, што чарняеўцы паклалі на прарыве два атрады, але прарвалася палова брыгады. Другая — не паспела і разам з сямейнікамі адступіла на балота.

— Дык што ж цяпер будзе? — спыталася Хрысціна, быццам тая жанчына магла ведаць, што будзе з сямейным лагерам.— Можа, з другіх брыгад прышлюць па нас?..

— Пра што ты кажаш, маладзічка,— падзівілася жанчына.— Ім сюды праз балоты не прабіцца. Ды і чаго ім

сюды прабівацца? У іх свой пуць з акружэння. Цяпер толькі на сябе спадзяванне.

— Якое ж на сябе спадзяванне? — спытала Хрысціна, адчуваючы непазбежнасць нечага страшнага, жудаснага.

Жанчына тая — Аўдакія — аказалася дзейнай, прадбачлівай. Пакінуўшы чацвёра сваіх дзяцей на Хрысціну, яна пахадзіла па лагеры, вярнулася гадзіны праз дзве, адразу закамандавала Хрысціне брацца за справу.

На грудку абжытай бежанцамі зямлі яна знайшла выварацень з падгнілым ужо ствалом. Пад ім знаходзілася логава, зарослае травой, вакол якога вырас ледзь не ў рост чалавека ельнік. Аўдакія загадала паглыбіць тое логава, каб усім хапіла месца. Дзеці награбалі зямлю ў мяшэчкі, а яны з Аўдакіяй адносілі яе крокаў за паўсотню і выкідалі ў чорную прорву балота. Высыпаная з мяшэчка зямля танула ў прорве з агідным булькатаннем і мармытаннем, быццам яе пажыраў ненасытны звяруга.

Напачатку Хрысціна ўздрыгвала, калі чула гэтае ненавіснае бульканне. Потым прызвычаілася. Ды і не было калі слухаць галодную песню балота. Трэба было думаць пра тое, каб да раніцы закончыць работу, каб не пратаптаць да вываратня сцежку, не прымяць травы вакол ямы, захаваць усё ў спрадвечнай некранутасці. Гэта стамляла больш, як бесперапыннае снаванне між вываратнем і балотам.

За ўсю ноч яны з Аўдакіяй не перамовіліся і дзесяткам слоў. Ды і ўвесь сямейны лагер заціх, стаіўся; на ім запанавала глухая сцішанасць, як бывае перад навальніцай у духатлівы летні дзень. Кожны імкнуўся за кароткую ноч зашыцца ў якое сховішча, перачакаць навалу, абхітрыць смерць, і не тую, у выглядзе кашчавай старой з касой на плячы, а ў чалавечай плоці, адзетай у вайсковую форму нямецкай арміі. Гэтая смерць была больш бязлітасная за тую, кашчавую, бо мела загад і выконвала яго з нямецкай акуратнасцю.

На світанні Аўдакія абышла вакол вываратня, папрыглядалася, ці не наслядзілі дзе. Не, абышлося. Прыцягнула аднекуль сухое ламачча.

Хрысціна дзівілася з яе прадбачлівасці. Што б яна рабіла без Аўдакіі?.. Склала рукі і чакала б смерці.

З логава Аўдакія дастала бітончык літры на чатыры, падала Хрысціне.

— Прынясі, Хрысцінка, вады,— папрасіла яна.

Хрысціна прынесла балотнай вады. Падала дзецям,

якім Аўдакія так і не дазволіла вылазіць з-пад вываратня.

— Цяпер залазь сама,— загадала Аўдакія.— Я яшчэ ламачча накідаю.

Праз густыя зараслі быльнягу Хрысціна бачыла Аўдакію, як праз сіта. Раскідаўшы ламачча, тая стаяла ў нейкай малітоўнай паставе, быццам назаўсёды развітвалася з белым светам. У Хрысціны аж зайшлося сэрца ад прадчування блізкай ужо бяды. Яна пачула, як пакаціліся слёзы, выпальваючы на шчоках дзве балючыя баразёнкі, што знікалі недзе ў цясніне грудзей. Ёй хацелася плакаць паўзрыд. Жаданне было такое моцнае, што Хрысціна спалохалася: закрычыць — і прыгнулася тварам да каленяў, стала кусаць іх, не адчуваючы болю.

Ачомалася яна толькі тады, калі недзе, здалося, зусім блізка, прагучаў адзінокі стрэл з нямецкай вінтоўкі — пік-пак...

Хрысціна здрыганулася ўсім целам. Брыдкі і востры, як лязо, халадок жыгануў па жываце знізу, успароў грудзі, засеў у горле пякучым джалам.

— Здаецца, пачалося,— прашаптала Аўдакія.

Яе твар, дасюль спакойны, скамянеў, зрабіўся шэры, як неадбеленае палатно. Яна, мабыць, моцна сціснула зубы, бо пасінелі вусны, выцягнуліся ў дзве тонкія нітачкі.

Лес раптам аглухнуў ад страляніны і выбухаў. Па шырокім раздоллі неабсяжнага балота пакаціўся пошчак, патройваючы і без таго моцную страляніну. Яна не проста наганяла страх, але і ўшчэнт адбірала волю. У Хрысціны адняліся не толькі рукі і ногі, усё цела стала нібы чужое і халоднае. Адно вушы лавілі кожны гук. Ён балюча ўпіваўся ў скроні, павялічваючы пакуты. Скроні ламіла. У вачах было цёмна, але ўсё бачылася выразна, як у сне.

Час цягнуўся бясконца доўга. Хрысціна нечага чакала, можа, хуткай смерці, каб не адчуваць страху, болю, бездапаможнасці, якая была асабліва цяжкой. Недзе непадалёку, бо было выразна чутно кожнае слова, праз страляніну пачуўся жаночы лямант і плач дзяцей:

— Паночкі, злітуйцеся... Паночкі... А-а-а-о-а-а!..

Блізкая аўтаматная чарга спачатку абарвала дзіцячы плач, потым гэтаксама і жудасны крык жанчыны.

Адразу ж пачулася чужая, незразумелая, варожая мова і свая, зразумелая, але тым больш страшная...

Хрысціна павярнула галаву, каб упэўніцца, што яна не адна, убачыла Аўдакію з усімі чатырма дзецьмі, якія невядома як умясціліся на яе каленях.

«А дзе ж Міхаська?» — спахапілася Хрысціна, спалохаўшыся, што яе могуць забіць, а Міхаська застанецца адзін і памрэ галоднай смерцю.

Міхаська спаў на голай зямлі, паклаўшы кулачок пад шчаку. Яна хацела ўзяць яго на рукі, як зрабіла гэта Аўдакія, ды якраз у гэты час побач з вываратнем нехта сказаў спакойным, сіпатым голасам:

— Пыльчанка, кінь гранату пад гэты выварацень...

У адказ пачулася злоснае гергетанне нейкага немца. Што хацеў немец, Хрысціна не зразумела.

— Яволь, пан гаўптман,— адказаў той жа сіпаты голас, які раіў Пыльчанку кінуць гранату.

«Няўжо немец забараніў кідаць гранату? — падумала Хрысціна.— Можа, пранесла?..»

Цяпер самы раз было парадавацца. Ды дзе там!.. Нехта лез у яму, ламаючы ботамі сухое голле, раскіданае Аўдакіяй. Краем вока Хрысціна бачыла, як Аўдакііны рукі яшчэ мацней прыціснулі да грудзей малых. У яе вачах стаяў нечалавечы страх за дзяцей. З пракушанай губы цёк па падбародку тоненькі струменьчык крыві.

Спачатку Хрысціна падумала, што ў яе паплыло перад вачамі, але не, сапраўды быльнёг скалыхнуўся, а чорная руля пісталета, апісаўшы дугу, спынілася на ўзроўні яе твару.

Хрысціна з жахам глядзела на кругленькую дзірачку ў рулі пісталета, і тая, нібы засаромеўшыся, адплыла ўбок. Хрысціна ўзняла вочы — перад логавам стаяў чалавек з потным тварам, у афіцэрскай форме. Ён быў немалады. З-пад шапкі з высокім верхам выбівалася пасма сівых валасоў. Афіцэр глядзеў на Аўдакію троху здзіўлена і разгублена.

Недзе наверсе не сціхаючы ішла страляніна, а тут, ля гнілога вываратня, стаяла пругкая цішыня. Мабыць, нехта з Аўдакііных дзяцей паварушыўся, бо афіцэр прыклаў палец да губ, загадваючы тым самым маўчаць. Але ў логаве маўчалі і без ягонага загаду.

— Вы должен сідзець здесь дзень, ноч, яшчэ дзень... Потом мы уйдем... Хорошо?..

Ён гаварыў шэптам, з цяжкасцю падбіраючы словы. Быльнёг, як нечакана рассунуўся, гэтак жа нечакана самкнуўся сцяною. Неўзабаве заціхлі і афіцэрскія крокі. А яны ўсё сядзелі, не шавяльнуўшыся, не верачы ў сваё збаўленне. Потым, калі стрэлы заціхлі ўдалечыні і ў лесе стала ціха, яны як здурэлі ад радасці. Ім хацелася гава-

рыць, крычаць, смяяцца, плакаць, але яны вымушаны былі маўчаць, і гэтае маўчанне даводзіла да роспачы.

Так яны праседзелі да ночы. Аўдакія не дазволіла ім вылазіць і ўночы. Сама ж выпаўзла. Сказала, што вернецца не хутка.

Яна прынесла паўбуханкі хлеба, квашаных буракоў, ірваную коўдру і бярозавага соку ў глечыку.

— Божачка, што там дзеецца,— сказала яна і няўмела перажагнулася.— Не давядзі бог убачыць такое...

Хрысціна хацела спытаць, дзе Аўдакія разжылася на харчы і коўдру, але падумала, што не трэба. Аўдакіі і без таго цяжка.

Пасля перажытага дзеці спалі моцна. Давялося сонных перакладаць на коўдру, каб хоць троху паспалі палюдску. Яны і самі прыляглі. Але не маглі заснуць. Аўдакію біла ліхаманка. Хрысціна чула, як трымціць Аўдакііна цела, а ёй самой распірае ад бездапаможнасці грудзі. Яны так і праляжалі, не звёўшы вачэй да раніцы.

А раніцай па сямейным лагеры і балоце зноў прайшліся карнікі. Гэтыя не кідалі гранат. Ішлі рэдзенькім — мяркуючы па стрэлах — ланцужком, стралялі наўгад з аўтаматаў. Адна такая чарга прайшлася па быльнягу, што прыкрываў логава пад вываратнем. Разрыўныя кулі, крануўшыся галінак быльнягу, ірваліся як пераспелыя гарохавыя стручкі. Каля ног Хрысціны ўпала абалонка такой разрыўной кулі. Хрысціна хацела ўзяць яе, апякла пальцы і доўга дзьмухала на іх.

Карнікі прайшлі, і ў лесе настала цішыня. Але Аўдакія не дазволіла вылазіць са схованкі — ці мала трэба, каб насцігла бяда.

Там, у разгромленым, палітым чалавечай крывёю сямейным лагеры, Хрысціна з Аўдакіяй праседзелі яшчэ шэсць дзён. З логава пад вываратнем іх выгнаў не голад, а прытарны саладкаваты смурод, ад якога выварачвала ўсё нутро.

— Я болей не магу,— на сёмы дзень сказала Аўдакія і стала сабірацца ў дарогу.— Лепей памерці...

Быў самы разгар лета, калі наліваецца зернем жыта, зялёнай шчоткай тапырыцца ячмень, а прысадзісты авёс выпраствае з трубкі далікатную мяцёлку. Перамагаючы пах тлену, не азіраючыся па баках, каб не бачыць разбухлых ад спёкі нябожчыкаў, яны выбраліся з балота на прастор палёў, якія з пазамінулага яшчэ года ляжалі дзікай аблогай. Ні табе засеянай дзялянкі, ні ўскапанай

грады — запусценне! Пожні пазарасталі асіннікам і бярэзнікам, а ворная зямля — асотам і жоўтай сурэпкай. Ні людзей, ні жывёлы, ні звера. Нават дарогі захоўвалі першабытную некранутасць.

На скрыжаванні дзвюх такіх дарог, парослых травой, Хрысціна развіталася з Аўдакіяй. Яны паплакалі, угаворваючы адна адну спадзявацца на лепшае — дзякуй богу, выбавіліся з такога пекла, перажыўшы такое страхоцце. Аўдакія на развітанне параіла Хрысціне не трымацца дарог, бо яны могуць быць замініраваны. Хрысціна пацалавала Аўдакію, яе чацвёра дзяцей і пайшла па полі ў бок свайго Прыкардоння.

Так называўся ўзгаркаваты, густазаселены край з вёскамі ў зялёных прысадах, з невялічкімі лясамі абапал глыбокіх яраў, які пачынаўся ад бальшака перад Завольшай і цягнуўся кіламетраў на дзесяць да кацярынінскага шляху за мястэчкам Тадуліна. Тут у незапамятныя часы знаходзілася застава — кардон,— праз якую маскавіты ездзілі ў ляхі, а ляхі — у Масковію.

Партызаны абыходзілі Прыкардонне. Але і немцы не трымалі тут свае гарнізоны. Нямецкія гарнізоны размяшчаліся ўздоўж бальшака і кацярынінскага шляху, з поўначы і поўдня прыкрываючы партызанам дарогу ў Прыкардонне. Хрысціна была ўпэўнена, што Прыкардонне ацалела, і гэтая ўпэўненасць прыдавала ёй сілы.

Бальшак перад Завольшай быў здратаваны гусеніцамі танкаў, coламі аўтамашын і звычайных калёс. З яго была добра відаць і вёска Завольша. Хрысціна скіравала туды, падбадзёрваючы Міхаську абяцаннем адпачыць, напіцца калодзежнай вады, а можа, дасць бог, і паабедаць...

Хрысціна толькі гаварыла: дасць бог. З таго імгнення, калі яна ўбачыла вёску, яе запаланіла адна-аднюсенькая думка пра гарачае варыва, якім абавязкова накормяць іх з Міхаськам завольшанцы. Яна не заўважыла, калі патрухала подбегам, зусім выразна чуючы пах булёну, запраўленага смажаным салам з цыбуляй. Гэты пах раздражняў яе, выклікаючы галодную ікаўку. Ёй здавалася, што яна бяжыць вельмі хутка, але вёска, як на злосць, набліжаецца, а як бы дражніцца, уцякаючы ад яе.

Яна чула, што за ёй бяжыць і Міхаська, таксама разпораз ікаючы і зморана хаўкаючы ротам. Яна хацела спыніцца, узяць Міхаську за руку, каб бегчы разам, але не спынялася, баючыся, што як толькі спыніцца, дык вёска знікне з яе вачэй.

Так, абое ікаючы, яны дабеглі да вуліцы, якая прашывала Завольшу з поўдня на поўнач. Вуліца чамусьці свяцілася наскрозь, быццам на ёй не стаялі хаты. Хрысціна спынілася, няўцямна пазіраючы на гэтую дзіўную, як бы празрыстую вуліцу. Яна пачула, што да яе нагі моцна прыціскаецца Міхаська. Ягонае гарачае цела спалохана трапеча.

— Мамка, мамка! — нема закрычаў ён.— Я баюся!..

Ягоны крык вярнуў яе да явы. Яна і сама скаланулася ад жаху: вёскі, якую яна ўвесь час бачыла, пакуль бегла сюды, не было — чарнелі адны пажарышчы.

«Можа, я звар'яцела,— падумала Хрысціна.— Толькі калі? Тады, як убачыла вёску, ці цяпер, калі бачу пажарышчы?»

Яна пачула востры боль у скронях. Ёй захацелася крычаць, выць, галасіць, але яна маўчала, моцна сцяўшы зубы, і ўсё больш напружвала зрок, спрабуючы ўбачыць хаты. Пажарышчы раптам расплываліся шэрай плямай — тады на іх месцы ўзнікалі хаты,— а потым зноў бачыліся з такой выразнасцю, аж балелі вочы. Не прападаў толькі пах булёну. Ён быў дужа востры. Аж пачынала нудзіць, як на балоце.

— Сыночак, ці бачыш ты хаты? — спытала яна ў Міхаські.

— Не, мама, не бачу. Адны печы стаяць...

Хрысціна яшчэ раз абвяла вачамі агромністае пажарышча і цяпер ужо разважліва падумала, што гэта голад так варожа і злосна панасміхаўся з яе, выклікаўшы падман зроку. Яна пагладзіла Міхаську па галаве.

— Не бойся, сынок,— супакоіла яна Міхаську.— Дасць бог, наша вёсачка ўцалела. Зараз нап'ёмся вадзіцы і пойдзем дамоў. Тут ужо недалёка. Наша вёсачка ў баку ад дарог. Пэўна што ўцалела. Дзед недзе ўсе вочы прагледзеў, чакаючы нас...

На тым канцы вуліцы Хрысціна ўбачыла журавель з высока ўзнятым у неба вядром. Спачатку яна падумала, што і журавель усяго толькі прывід. Але Міхаська пацвердзіў, што там сапраўды журавель, такі, як над Тукалішыным калодзежам.

Хрысціна схапіла Міхаську за руку, пацягнула да калодзежа, усё яшчэ баючыся, што гэта толькі прывід. Не, журавель не знікаў. Вецер памалу гайдаў вядро. Хрысціна чамусьці не чула ветру. Ёй здавалася, што гэта хістае ад стомленасці яе.

Дабегшы да калодзежа, Хрысціна дацягнулася да вяроўчыны, за якую падцягвалі вядро, пацягнула на сябе. Журавель неахвотна паддаваўся аслаблай жанчыне. Вядро, хоць і паволі, апускалася ў зруб. Памалу перабіраючы рукамі ланцуг, на якім вісела вядро, Хрысціна нарэшце заглянула ў калодзеж. Пакуль у яе свядомасці адбілася тое, што ўбачылі вочы, рукі кінулі ланцуг. Журавель падкінуў вядро ў неба. Моцна грукнуў гружаным канцом аб сухую зямлю.

Ад жаху Хрысціна закрыла твар рукамі, але і тады з вачэй не знік убачаны ёю жудасны малюнак. Хрысціна падумала — гэта ўжо на ўсё астатняе жыццё.

— Мамка, там жа людзі,— пачула яна нібы здаля Міхаськаў голас, і яе аж скаланула.

Божа літасцівы, там, у партызанскай зоне, яна неяк уберагла Міхаську ад відовішча гвалтоўнай смерці. А яно нагнала яго па дарозе дамоў. Яна схапіла сына за руку, пацягнула ў поле. Астатнюю дарогу Хрысціна прайшла ў чорным тумане, з якога раптам вынікалі скручаныя чалавечыя целы ў вузкім зрубе калодзежа.

Апамяталася яна толькі каля гаравацкіх могілак. Чаму тут, а не дзе-небудзь яшчэ? Што прывяло яе сюды? Прадчуванне яшчэ нейкай бяды? Хрысціна азіралася па баках, спрабуючы знайсці прычыну свайго паяўлення тут, на гаравацкіх могілках, дзе спрадвеку хавалі нябожчыкаў з іхняга роду.

Раптам яе працяла страшэнная думка: няйначай, памёр яе бацька і ногі самі прынеслі яе сюды, каб яна зірнула на ягонае апошняе прыстанішча.

Могілкі размяшчаліся на высокім пагорку. Хрысціна неяк узабралася на яго. Так і ёсць! Побач з магіламі дзеда і бабулі жаўцела чацвёра курганкоў.

Каторы з іх бацькаў? Яна стаяла і, не заўважаючы слёз, ціха плакала. Адкуль толькі ўзяліся слёзы?..

Наплакаўшыся ўволю, яна прыгадала, што з гаравацкіх могілак добра відаць іхняя вёска. Хрысціна павярнулася ў бок вёскі... Але яе на прывычным месцы не было. Яна знікла, як і Завольша.

Вось і прыйшла дамоў! Ці варта было столькі адпакутаваць, каб прыйсці на папялішча, дзе нікога з родных не засталося?

— Мама, пойдзем ужо,— заплакаў Міхаська.

Яна пайшла з могілак памалу, быццам вярталася не дамоў, а ў пастылую чужыну. Яна абыякава глядзела на

ўробленыя палі абапал той, даўняй, можа, яшчэ дарэвалюцыйнай дарогі, што вяла з Барсукоў у Гараватку. Навошта гэтыя лапікі жыта, ячменю, аўса, калі згарэла вёска, а людзі загінулі той жа страшнай смерцю, што і ў Завольшы? Яе агарнула цяжкая душэўная зморанасць, і толькі неабходнасць ісці яшчэ падтрымлівала яе сілы.

Перад самымі Барсукамі Хрысціна ўбачыла каня. Ён скуб траву па раўчуку, што падступаў к самай сялібе яе хроснай. Хрысціну ахапіла замілаванасць да гэтага каня. Яна пайшла да яго, як да самай дарагой істоты.

— Косенька, косенька,— паманіла яна каня, працягваючы да яго руку, каб пагладзіць.

Конь насцярожана натапырыў вушы, узняў галаву. Хрысціна глянула на ягоныя вочы, і сэрца яе зайшлося ад жалю. Конь быў сляпы.

— І цябе, косенька, не мінула вайна, будзь яна праклятая, а разам з ёю і тыя, хто падганяў гэтую крывавую бязлітасную бойню.

Ёй хацелася нагаварыцца з канём, але нечакана да яе слыху данеслася звонкае шорханне пілы аб сухое дрэва. Такі знаёмы гук гэты спачатку напалохаў Хрысціну — ці не фашысты праклятыя?

Яна пайшла па раўчуку. Перад сядзібай хроснай, нейкім цудам уцалелай ад пажару, асцярожна выбралася наверх. Спынілася ў зарасніках малінніку.

На пагарэлішчы двое мужчын клалі зруб. Трэці стаяў, засунуўшы рукі ў кішэні, курыў. Хрысціна бачыла над ягонай галавой сіні дымок. Чалавек стаяў да яе спіной. На ім была выгаралая гімнасцёрка, падпяразаная папругай з партупеяй цераз плячо. Ён павярнуўся. Хрысціна не паверыла сваім вачам — Яўхім!

Але перш чым яна ўсвядоміла, што гэта Яўхім, Міхаська пазнаў яго і з крыкам: «Татка, татка»,— кінуўся да пажарышча. Ён падбег да бацькі, абхапіў яго за ногі так моцна, што Яўхім ледзь устаяў на нагах.

— Дзе гэта ты прападала? — па-чужому холадна спытаўся ён, гледзячы на Хрысціну спадылба.— Мне на фронт трэба ісці. Далі два тыдні адтэрміноўкі...

— Не на пасядзелках,— можа, упершыню рашуча і злосна адказала яна Яўхіму, раптам адчуўшы, што даўні страх перад ім ужо не скоўвае яе.— Кінуў з дзіцем на волю лёсу ды яшчэ пытаецца, дзе была. А ты пабітых людзей лічыў на балоце? Сваю шкуру ратаваў. Дык ужо хоць памаўчаў бы...

Яўхім і сам спахапіўся, што распачаў гаворку з жонкай не з таго канца. Такі ўжо зроду ў яго быў характар — сябе не шкадаваў і другіх таксама.

— Ці елі вы што сёння? — спытаўся ён, як бы саромеючыся сваёй мяккасці.

Хрысціна з дакорам паківала галавой. А Міхаська, які не разбіраўся ў адносінах між дарослымі, сказаў з надзеяй у голасе:

— Татка, нам бы хлеба... Мы трое сутак не елі...

— Дык што ж ты маўчыш? — Яўхім сярдзіта глянуў на Хрысціну, абвінаваціўшы яе і за сваю нездагадлівасць.— Мы там з бацькам тваім зямлянку агоралі. Пайшлі...

Бацька якраз ляпіў печ, калі Хрысціна паявілася перад зямлянкай. У яго па локаць былі запэцканы рукі ў гліне. Але ён забыўся на гэта. Абняў Хрысціну. Гладзіў яе па спіне, як малое дзяўчо, і плакаў, нібы той бабёр. І Хрысціна плакала.

— Хопіць вам,— прыкрыкнуў на цесця і жонку Яўхім.— Дзіця галоднае. Трое сутак не ела... Цягні на стол хлеб і тушонку. Хай ядуць.

Цесць глянуў на яго, як на дурнога.

— Не ўказвай, указчык,— абарваў ён Яўхіма, і той замоўк.

Хрысціна нават падзівілася. Раней Яўхім не даваў цесцю і рота разявіць. Вайна, здаецца, перайначыла Яўхіма.

Бацька зрабіў адвару з нейкіх траў. Напаіў ім дачку і ўнука. Толькі пасля гэтага даў выпіць па сырым яйку. Хрысціна яшчэ здзівілася, як бацька збярог гэтую курыцу? А назаўтра бацька зарэзаў тую курыцу, наварыў булёну. Хрысціна есці той булён не магла — смярдзела ад яго тленам. А Міхаська еў. Вядома, малы!..

Успамін гэты не ўзрушыў Хрысціну, як было некалі. Усё, аказваецца, перагарае на попел, і вецер развейвае яго.

— Немцам таксама хапіла,— прадаўжаў гаварыць Антон, і Хрысціна аж пакрыўдзілася: чаму ён гаворыць пра немцаў? Няўжо сыну няма пра што пагаварыць з маці? — Эрыху было, бадай, столькі гадоў, колькі ў вайну Міхасю, але ён помніць бамбёжкі іхняга горада англічанамі. Гэта штосьці жахлівае, мама! Уяві сабе, на працягу двух сутак англійскія і амерыканскія самалёты ішлі хваля за хваляй і кідалі бомбы абы-куды, без прыцэлу. Не, ты ўяўляеш? У горадзе ніводнага ваеннага аб'екта, а яны

кідаюць і кідаюць бомбы на безабаронных жанчын і дзяцей. Якое варварства! А потым, як кончылася вайна... Голад, разруха і гэтая прыніжанасць пераможаных. Нам было лягчэй. Мы перамаглі і таму не так цяжка пераносілі пасляваенную няўладжанасць. А ім? Во ўжо сапраўды, гора пераможаным... А хіба народ вінаваты, што нейкаму вар'яту ўзбрыла ў галаву ідэя заваяваць увесь свет?.. Што народ можа зрабіць, каб не дапусціць вар'яцтва? Нічога. Яго скруцяць у бараноў рог і прымусяць рабіць тое, што хочацца вар'яту. Дык чаму тады народ павінен расплачвацца за ўчынкі вар'ятаў?..

Хрысціна насцярожана слухала сына. Кожнае ягонае слова выклікала ў яе глухую крыўду і нязгоду. Ёй хацелася пярэчыць Антону. Але не знаходзілася патрэбных слоў.

«Сынок, сыночак, што ты пра тое ведаеш, пра што так упэўнена гаворыш? — думала яна, чамусьці баючыся паглядзець на Антона.— Чужых шкадаваць дужа лёгка. А навучыся сваіх шкадаваць».

— А хто ён, гэты Эрых? — спыталася яна, хоць яе не вельмі і цікавіў той немец, пра якога Антон гаварыў узахлёб.

— Гэта, мама, славуты на ўвесь свет арнітолаг...

— Доктар, ці што?..

— Ён, мама, спецыяліст па птушках...

Хрысціна прамаўчала. Антон хацеў растлумачыць, што і як вывучае Эрых, але Хрысціна нямала падзівіла яго, раптам звярнуўшыся з незразумелай просьбай:

— Сынок, во каб не забыць... Папрашу цябе... Як вернешся дамоў, скажы Ніне, што пыл з мэблі ў гасцінай і наогул усюды выцірала не прыбіральшчыца, а я. Так і скажы... Ды глядзі, сынок, не забудзься...

Антон разгублена глядзеў на яе, касячы вока і сочачы за дарогай. Ён разумеў, што нешта там, дома, адбылося, і не ведаў што. А маці ў такіх выпадках распытваць няма чаго — не скажа...

**14**

Антон раздабыў білет у купэйны вагон, на ніжнюю паліцу. Ён стаяў перад маці, як хлапчук, усхваляваны і ўзрадаваны, што «выбіў» у начальніка вакзала адзіны гэты білет у купэйны вагон.

— Навошта было раскідаць грошы,— паўшчувала яго Хрысціна.— Невялікая пані, даехала б і ў агульным...

Сын рашуча запярэчыў:

— Ты, мама, заслужыла, каб цябе не тое што ў купэйным вагоне вазіць, а ў персанальнай машыне,— сказаў ён.

— На машыне дзе сядзеш, там і злезеш,— пажартавала Хрысціна.— Дай бог на сваіх нагах век адхадзіць...

Яны стаялі на апошняй, дальняй платформе, якая адусюль прадзімалася ветрам. Да пасадкі ў цягнік заставалася мінут пятнаццаць, і з тунеля на перон пад халодныя парывы ветру ўсё выходзілі і выходзілі пасажыры.

Яны стаялі і маўчалі ў людской кругаверці. Па грузавой ветцы, моцна ляскаючы коламі, грукочучы ўсім доўгім сваім целам, праносіўся таварны састаў. Ён грукатаў так моцна, што туташнія гукі зніклі, як бы растварыліся ў тых моцных і аглушальных. На пероне стала глуха і ціха.

У гэтай цішы Хрысціну раптам працяла страшнае сваёй нечаканасцю адкрыццё: развітанне з Антонам — трэцяе за гэты тыдзень развітанне з дзецьмі — падобна на тыя два сваёй узаемнай незадаволенасцю, недагаворанасцю, а яшчэ тым, нібы дзеці з ёю развітваліся назаўсёды, хоць і рабілі выгляд, што ўсё яшчэ патрэбны адно аднаму. Дык што ж гэта такое? І хто вінаваты ў такой душэўнай глухаце? Няўжо яна сама? Але чаму?

А што, калі так было адвеку? Дзеці ў сваёй неагляднай упэўненасці не хочуць чуць парад бацькоў, а бацькі ў сваёй самаўпэўненай мудрасці баяцца за кожны крок дзяцей. Адсюль і непаразуменні. Усе разам і кожны паасобку застаюцца незразумелымі, пакрыўджанымі і... страшэнна адзінокімі.

З-за семафора — ярка зялёнага вочка ў прывіднай далечыні станцыйных спляценняў жалезных апор, густой сеткі дроту, рэек, шпал і будынкаў, падобных на асветленыя скрыні,— памалу поўз да платформы цягнік, злёгку пагрукваючы коламі на стыках рэек, парыпваючы старымі, расхістанымі вагонамі. Натоўп адразу ж скалыхнуўся, падступіў да краю платформы, нібы баяўся, што не паспее ўварвацца ў вагоны.

Хрысціна з сынам засталіся ў баку ад людской мітусні. Антон утрымаў яе, сказаўшы, што яе месца застанецца за ёю. Яна рынулася б за ўсімі.

— Сынок,— нечакана і для самой сказала Хрысціна і зазірнула сыну ў твар,— я прасіла цябе сказаць Ніне, што пыл з мэблі выцірала не прыбіральшчыца, а я сама. Не гавары Ніне пра гэта, сынок. Не трэба... А яшчэ прашу ця-

бе, не крыўдзі тую жанчыну, прыбіральшчыцу. Папомні, сынок, калі пакрыўдзіш яе, дык і мяне пакрыўдзіш. Бог ведае калі цяпер пабачымся...

Яна расчулілася, аж па шчоках пакаціліся няпрошаныя слёзы.

— Ну, што ты, мама! — Антон парывіста абняў маці, тройчы пацалаваў і, дастаўшы насоўку, выцер ёй слёзы.— Я да цябе заўсёды прыязджаць буду. Ты толькі адпішы мне ці тэлеграму адбі — так, маўляў, і так, хачу бачыць, і я тут як тут буду...

Ён быў як апантаны. Гаварыў, смяяўся і як бы вініўся перад маці. Хрысціна чамусьці шкадавала яго, як малое дзіця.

— Засцеражы цябе бог,— сказала яна і тут жа ўспомніла, што так любіла гаварыць яе нябожчыца маці. Словы здаліся Хрысціне прарочымі.— А цяпер ідзі. Вяртайся дамоў. Позна ўжо. А пакуль даедзеш... Ніна перахвалюецца. Дзеткі ў вас харошыя. Жывіце дружна. І для мяне будзе радасць. А больш мне нічогачка непатрэбна...

Антон яшчэ раз абняў яе на развітанне, на гэты раз паважна, з мужчынскай самавітасцю, вінавата шапнуў:

— Даруй, мама, калі што...

— Ладна, ладна, ідзі ўжо,— яна падштурхнула яго ў спіну.

Антон дайшоў да сходак у падземны пераход, павярнуўся тварам да яе, памахаў рукой і знік.

Хрысціна знайшла свой вагон. Паказала білет правадніцы. Пайшла ў сваё купэ. Вагон быў напалову пусты. Хрысціна ўсміхнулася: Антон ваяваў, каб далі сюды білет, а паглядзеў бы, што ў вагоне дзеецца. І на чыгунцы стала, як у сельпоўскай краме: на паліцах нічога, усё з-пад прылаўка, калі ёсць доступ або можаш выбіць...

У яе купэ сядзела цэлая сям'я: муж з жонкай, чыясьці з іх маці і хлопчык гадоў шасці. Хрысціна выйшла ў калідор — няхай ладкуюцца. Яна стаяла пры акне, глядзела на чалавечую мітусню за ім, і чула, як ные сэрца. Яна ведала, што сардэчны боль гэты ад таго, што зусім побач жыве Міхась з яго няўдалай сям'ёю. Хрысціна хацела ўявіць, што зараз робіцца ў сынавай кватэры, і не магла. Яе думка раптам віхлянула ў раскошную кватэру Антаніны. Хрысціна ўбачыла ўсе сем пакояў, незаселеныя, пустыя, быццам усе насельнікі іх даўно памерлі. Хрысціну аж скаланула ад гэтага відовішча.

За ўсе дні гасцявання Хрысціну ніштo так не ўразіла,

як Антанінін развод. Было ў ім нешта ганебнае, пра што не хацелася думаць, але што яно, тое ганебнае, Хрысціна не магла растлумачыць сабе. Было адчуванне, якое розум адмаўляўся асэнсаваць. І гэта бянтэжыла Хрысціну.

Задумаўшыся, яна не заўважыла, як з купэ выйшлі муж з жонкай — у ім засталася бабуля з унукам.

— Заходзь, заходзь, сястрычка мая,— запрасіла Хрысціну бабуля.— Я дужа рада, што не маладыя і не якія-небудзь п'янчугі трапіліся ў суседзі, а такая ж, як і я, калхозніца. Хоць пагаварыць будзе з кім...

Хрысціна села на лаўку, прыглядаючыся да сваёй спадарожніцы. Тая была маладзей за Хрысціну — на твары ніводнай зморшчынкі, але рукі яе нагадвалі граблі — таўставатыя пальцы не разгіналіся ў суставах. Хрысціна падумала, што жанчына, няйначай, рабіла даяркай з самых маладых год.

Пасадзіўшы хлапчука на калені, бабуля пераапранала таго на ноч у піжаму і нешта шаптала яму дужа ласкавае, ад чаго хлапчук заплюшчваў вочы, як кацяня, якое пагладжваюць па спінцы.

— А якую ты мне казку збаіш, мама? — спытаўся хлапчук, і Хрысціна аж сумелася: магла, і вельмі проста, трапіць у непрыемнае становішча, назваўшы жанчыну бабуляй.

— Абавязкова збаю,— адказала жанчына.— Вось зараз цягнік пойдзе, праваднiца пасцельку прынясе і Міколка спаць ляжа, а я яму казку раскажу...

Цягнік нячутна скрануў вагоны. Яны пакаціліся спачатку мякка, нячутна, а потым загаманілі ў лад, зацокалі на стрэлках, і адразу ў вагоне загарэліся лямпачкі, зрабілася светла, аж неяк папрастарнела.

Праваднiца сабрала білеты, другая стала разносіць пасцельную бялізну. Хрысціна намервалася не браць пасцелі — было шкада рубля, але не захацелася выглядаць скупярдзяйкай перад гэтай немаладой жанчынай з дзіцем.

Спадарожніца паклала малога спаць, прысела поруч з ім.

— Мама, мамачка, збай казку,— зноў стаў прасіць яе хлапчук.— Ну што табе, цяжка?..

Жанчына нагнулася над ім, стала расказваць казку пра Сідорку непераможную галоўку, якую Хрысціна ніколі не чула, а таму слухала з увагай і цікавасцю.

Не даслухаўшы і паловы казкі, хлапчук засоп носам, заснуў, і жанчына ўсміхнулася Хрысціне.

— Так і не будзе ведаць канца казкі,— сказала яна.— А я і сама канца не ведаю. Як і ён, засынала на гэтым самым месцы...

— Позненькі ў вас сыночак,— сказала Хрысціна.

— Сястрычка мая,— загаварыла жанчына з даверам, нібы Хрысціна і сапраўды была ёй сястрою,— ён жа не сын, а ўнук мой. Сынок дачкі, якая мяне праводзіла з мужам. Во, нічога не можам зрабіць. Прывык да мяне. Іначай і не заве: мама ды мама. А родную маці — цёткай. Цётка Надзя, і хоць плач, матку прызнаваць не хоча. Мая мама, кажа, не Надзька Самсонава, а Марфа Галубовіч. Я, значыцца. Во і гавары з ім. Ды і не дзіва. Ён жа з васьмі месяцаў у мяне. Я яго казіным малачком выпаіла, на ногі паставіла.

— Нядобра ж неяк,— паспачувала Хрысціна.— Як жа далей будзе?

— Вядома, нядобра,— пагадзілася Марфа.— Але ж нічога і не паробіш... Вырасце — тады разбярэцца. А пакуль во налета ў школу нада аддаваць. Давядзецца ў сваю, вясковую. Не хоча ў горадзе жыць. Завезла да бацькоў, дык ён такі гвалт справіў, што кінула-рынула ўсё і па яго ў горад. У горадзе яму і раздолля няма, і крыўдзяць яго.

— А дачка што ж?.. Як яна?.. Перажывае, мабыць?..

Марфа падцяла вусны.

— Цяперашнія дзеткі, мая ты сястрычка, самі не ведаюць, чаго хочуць, на што спадзяюцца. Ім абы асфальт. А як жыць на тым асфальце, хай бацькі думаюць. Дай жа рады, сястрычка мая, хіба маёй дачцэ трэба было ў горад перціся? Пасля школы паставілі яе на ферму, даяркай. Работа ж цяпер не тое, што некалі. І чыста, і цёпла, і заробак дай божа. У першы год па сто сорак — сто семдзесят рублёў зарабляла. Ды ў канцы года яшчэ прэмія. Дык не!.. Хочу ў горад, і ўсё... Цяпер па восемдзесят палучае, а працуе з васьмі да пяці кожны божы дзень. Дык дзе ж той толк? А мне клопат. Дзіця гадую, ды яшчэ ім трэба памагаць. І грашамі, і прадуктамі.

— Свае ж дзеці, не чужыя — будзеш памагаць,— сказала Хрысціна.

— Яно так,— пагадзілася Марфа.— Толькі ж куды мы прыйдзем, сястрэчка мая любая? Усе ў горад пруцца, ніхто на зямлі не хоча рабіць. Зямелька ж асірацела. Дзе ж гэта бачна, з ранняй вясны да позняй восені на полі шэфы робяць? Чужымі ды халоднымі рукамі зямлю не ўробіш. Ад вёскі адно званне засталося. Качарэжнік, а не вёс-

ка. Старыя ды розныя пяўдаліцы засталіся. Ці, можа, у вас не так?

— І ў нас студэнты бульбу капаюць...

— Во, во,— падхапіла Марфа, быццам узрадаваная тым, што не ў адным іхнім калгасе такія парадкі.— Вясковыя ў горад бягуць, абы-што робяць, а гарадскія едуць за сотню кіламетраў, каб на полі працаваць. Хіба ж такое было калі? Іншы раз пакладу ўнука, сама лягу, а не спіцца. Ганяю думкі па крузе, а вырвацца з яго не магу. Што людзям у тым горадзе трэба? І заробкі там не большыя, і смуроду — не прадыхнуць, і ўсё з базару, а яны не танныя. Не, не хочуць людзі ў вёсцы жыць. Давай ім горад.

— Маладыя,— сказала Хрысціна.— У маладосці не сядзіцца на адным месцы.

— Але ж некалі сядзелі,— запярэчыла Марфа.— Зубамі за зямельку трымаліся.

— Калі тое было,— азвалася Хрысціна.— Тады і свет увесь у сваім акне быў...

— Але ж я во не збегла,— заспрачалася Марфа.— Пасля вайны хіба па мабілізацыі ехалі, Данбас там аднаўляць ці Сталінград, ну яшчэ трактарны з аўтамабільным будаваць ехалі. Дык колькі, бывала, слёз і тыя, хто едзе ў свет, і тыя, хто праводзіць пральюць. А пасля як сарваліся з селішч, дык хоць на ланцуг прывязвай. Рабіў у нас старшынёй калгаса Яршонак. Галавасты мужчына. Калі пачалося гэтае бегства з калгаса, сабраў ён нас, актывістаў, і кажа: «Таму моладзь з калгаса бяжыць, што няма дзе культурна час праводзіць. Будзем будавацца». Набудаваў ён палацаў, якіх і ў горадзе пашукаць трэба. А толку ніякага. Няма каму ў тыя палацы хадзіць. Яшчэ ўлетку дык і кіно, бывае, пакажуць, і канцэрт які, а зімой — на замку. Выходзіць, дзела не ў культуры. Думаеш, тыя, хто ў горад збег, той культурай аб'еліся. Сядзяць каля тэлевізара, і ўсё тут. Дык яго і ў вёсцы можна глядзець. Нешта тут не тое, сястрычка мая.

Марфа гаварыла з гарачнасцю і гэтым нагадвала Яўхіма. Той таксама калі пра што пачынаў меркаваць, дык з запалам. Не хочучы таго — быццам ад іх гаворкі нешта памяняецца,— Хрысціна ўсё больш устравала ў гаворку.

— У горадзе больш сталай грунтоўнасці,— як бы разважаючы ўголас, сказала яна.— Без гэтага чалавеку цяжка. Калі сёння адно, а заўтра — другое, дык і рабіць не хочацца, рукі самі апускаюцца. У нас жа ў калгасе, каму што ўздумаецца, той гэтак і загадвае.

— Але ж, сястрычка мая,— запярэчыла Марфа,— мы ж самі сабе сук падсякаем, на якім сядзім. Баюся я, што набудуем у вёсцы гарадскіх кватэр з гарачай вадой і газам, а жыць у іх не будзе каму.

— Усё можа быць,— пагадзілася Хрысціна.— Не нам пра тое думаць. Мы сваё адрабілі...

— Яно так, ды нечага страшна... Спачатку зямелькі цураюцца, потым дзетак... Як жа далей жыць?..

Яны так і не прылеглі. Гаворка незаўважна перайшла на мінулае. На вайну, на даваеннае жыццё, маладосць. Гаварылі і з самотай, і з усмешкай. Пра што не пагавараць дзве жанчыны, выпадкова сабраўшыся разам.

Цягнік на станцыю Сачкі прыйшоў, калі добра ўжо развіднела. Хрысціна вылезла з вагона і адразу ўбачыла Цімку.

— Глядзі ты, Максімаўна,— узрадаваўся ён, пабачыўшы яе.— А я нібы адчуваў, што ты сёння прыедзеш...

Хрысціна паморшчылася ад ягоных слоў. Знайшоўся ўхажор!..

— Аўтобус калі будзе? — спыталася яна.

— Праз гадзіну,— адказаў Цімка, глянуўшы на гадзіннік-рэпу.— Я табе падзякаваць хачу, Максімаўна. Пасля, як ты паехала, прыйшоў я дамоў і не пазнаў сваёй бярлогі. Паверыш, Максімаўна, сеў і заплакаў.

— Чаго? — збянтэжылася Хрысціна.

— А таго,— адказаў Цімка і замоўк, нібы раздумваў, варта гаварыць ёй ці не варта.— А таго, што пракляты лёс панасміхаўся і паназдзекаваўся з мяне.

Хрысціна толькі цяпер заўважыла, што Цімка чыста паголены, на ім сіняя балонневая куртка, чорныя, са стрэлкай штаны і новыя гамашы. Пад курткай бялеў каўнерык кашулі. Ён выглядаў асабліва белым на загарэлай да чарнаты тонкай Цімкавай шыі. Маленькі вузялок гальштука давяршаў Цімкаў святочны ўбор.

«А ён і праўда чакаў мяне»,— блазнавата падумала Хрысціна і нечага аж спалохалася ад сваёй гэтай здагадкі.

— Няма чаго цяпер на былое азірацца,— сказала яна з няўмольнай жорсткасцю.

— Не хацеў бы, але тое, што было, не адкінеш, не забудзеш. Тым цяпер і жывеш на старасці...

То была праўда. Сама Хрысціна не-не ды і вярталася ў даўняе, быццам яго можна было перайначыць. Ведала — нельга, а вярталася, сварылася на сябе: эх, каб яшчэ раз прайсці той сцежкай, не спатыкнулася б...

Яна прамаўчала. Баялася, што выдасць сваю збянтэжанасць, а Цімка заўважыць яе. Ён сапраўды, мабыць, зразумеў яе стан, перавёў гаворку на другое, цяперашняе і больш бяспечнае.

— Ну, як з'ездзіла, Максімаўна? — спытаўся ён з зацікаўленасцю, ніколі не чутай ад Яўхіма.— Як дзеткі твае?..

Цімка, сам таго не ведаючы, зачапіў балючую жылку. Хрысціне было непрыемна чуць гэтае пытанне, а яшчэ больш непрыемна адказваць на яго.

— Добра з'ездзіла,— адказала яна.— І дзеці, дзякуй богу, жывуць.

— Я чуў пра тваіх дзетак. Як жа, чуў,— з ціхай зайздрасцю сказаў Цімка.— Я ўсягды радаваўся, калі чуў, што ты жывеш добра і ў матэрыяльнасці, і ў душэўнасці.

І зноў Цімка звярнуў на сцежку прызнання сваёй аддANACЦі ёй, але цяпер гэта не выклікала ў Хрысціны ранейшага пярэчання. Тое, былое, даўняе, прыглушанае часам, клопатамі і трывогамі, цяпер высвечвалася, як лік святога на закуранай іконе, якую працёрлі цыбульным сокам. Хрысціна хацела падзякаваць Цімку за добрую памяць — як належыць па хрысціянскай ды і чалавечай звычцы, але не падзякавала, а паўшчувала:

— Авой, Стахванавіч, быццам табе не было што лепшае ўспамінаць?

Выйшла гэта ў яе троху зухавата, нібы яна падзадорвала Цімку гаварыць ёй прыемнае.

— Дык чаго ж мы стаім на ветры? Зойдзем да мяне, Максімаўна. Я табе палічку зрабіў,— запрасіў яе Цімка.

— Нашто мне тая палічка? — паспрабавала адмахнуцца Хрысціна ад ягонага запрашэння, але Цімка з нечаканай настойлівасцю не адступіў, і яна, злуючы на сябе, пагадзілася зайсці.

У Цімкавай каморцы было чыста. Мусіць, Цімка прыбіраў яе кожны дзень. І гэта невядома чаму кранула яе. Яна села пры стале, пахваліла:

— Ну во, цяпер гэта жыллё, а не катух...

— Ты мяне, Хрысцінка, да жыцця вярнула,— з нечаканай узрушанасцю прызнаўся Цімка, аж Хрысціне стала няёмка.

Ён разгарнуў чыгуначны свой шынель, у ім быў захутаны чайнік. Цімка паставіў чайнік на распіснае днушка. Пайшоў у парог па кубкі.

«Ачмурэў ён, ці што? — падзівілася Хрысціна.— Нібы сватацца сабраўся...»

Ёй было смешна з Цімкавай увагі да яе. Але і прыемна. Сядзіць, як пані, а мужчына на стол збірае.

— Не, Стахванавіч,— сказала яна са знарочыстай строгасцю,— няма калі чаі распіваць. Давай, калі што, абяцаную палічку, ды пайду я...

Цімка на хвіліну разгубіўся, але тут жа наліў чаю, заваранага на нейкіх травах. Чай сапраўды быў духмяны, як поплаў у самую пару цвіцення. Хрысціна піла яго, як некалі, з цукрам упрыкуску. І гэта надавала чаяванню асаблівы смак.

У Хрысціціну маладосць чай на вёсцы пілі хіба тады, калі прыхоплівала прастуда. Ад чаю сыты не будзеш, таму яго і лічылі балаўством, панскай забаўкай. Але ў Стахваніхі любілі чаяваць. У іх нават быў самавар, вялізны, на вядро, і фарфоравы чайнік, у якім заварвалі чай — розныя травы: чабор, ліпавы цвет, сунічнік, брусьнічнік, мяту, малліннік. Часцей — усе травы разам. Водар тады стаяў у хаце, аж, здавалася, не надыхаешся. Чай заўсёды пілі са сподачкаў і ўпрыкуску. Хрысціна не раз трапляла на тыя чаяванні. Таму і цяпер дыхнула на яе той даўняй завядзёнкай, аж, здалося, гадамі памаладзела.

Выпіўшы кубак, Цімка адкашляўся, ямчэй усеўся на табурэце.

— Ты толькі, Максімаўна, не перабівай, дай выказацца да канца, бо іначай я і пасля смерці сабе не дарую, што не сказаў таго, чаго хацеў,— загаварыў ён вінаватым, але і рашучым голасам.— Усе гэтыя дні я многа думаў. Чаму ў мяне не задалося жыццё? І так і гэтак прымяраўся. Па ўсім выходзіць, што сам вінаваты. Ды цяпер таго не вернеш, як ні круці. Але ж хоць на старасці хочацца пажыць па-чалавечы. Каб душа радавалася, пажыць. Таму і адважыўся з табой пагаварыць... Давай, Максімаўна, аб'яднаемся... Табе таксама цяпер нялёгка. Нават пры добрых дзецях, бо яны самі па сабе жывуць. Я цябе і шанаваў бы, і глядзеў, і рабіў бы ўсё, што загадаеш, ды яшчэ ўдзячны быў бы, што ёсць для каго старацца. Толькі ты, Максімаўна, не спяшайся з адказам. Паспешлівасць у сур'ёзнай справе не памочніца.

Хрысціну як абдало варам. Яна пачула, як пот залівае твар, як ахоплівае яе жар збянтэжанасці. Здаецца, адразу здагадалася, пра што скажа Цімка, а выйшла ўсё нечакана.

«Як ёсць ачмурэў,— падумала Хрысціна без злосці.— Паўвека маўчаў і раптам загаварыў».

Яна паглядзела на Цімку — у таго стаяў у вачах сум і чаканне нейкага збавення ад яго. Па-жаночы Хрысціна адчула, што трэба перавесці гаворку на жарт: дужа цяжка абаім было б гаварыць сур'ёзна. Ёй было шкада Цімку і сябе, не цяперашнюю, а тую, зусім яшчэ маладую, калі яе спадзяванне, гэты самы Стахванішын Цімка, выкінуў нейкую шаляніну: спачатку, нічога не сказаўшы ёй, пайшоў працаваць на цагельню, а потым на торфазавод у другі нават раён. Вярнуўся дамоў толькі тады, як яна выйшла замуж за Малінца.

— Што ж ты, Стахванавіч, так запазніўся сватацца? — папракнула яна Цімку, лагодна яму ўсміхнуўшыся.— Магла і не дачакацца цябе...

Заняты нейкімі сваімі думкамі, Цімка Хрысцінінай насмешкі не зразумеў.

— Я перад табой, Максімаўна, кругом вінаваты,— сказаў ён з панурай сур'ёзнасцю.— Калі можаш, даруй, а толькі прызнаюся табе шчыра: спалохаўся я тады. Любіў цябе, жыць не мог, а спалохаўся і выракся...

Хрысціна нічога не разумела.

— Каго спалохаўся?..

— Малінца твайго...

— Яўхіма?.. Чаго спалохаўся?..

— Было дзела... Як кажуць, за даўнасцю год можна прызнацца... Помніш, як я нечакана для ўсіх кінуў хату, маці і падаўся на цагельню? Адтуль паехаў на торфазавод. Усе тады казалі, што Цімка па доўгі рубель пагнаўся. Не, Хрысцінка, ад цябе я тады ўцякаў...

— Ад мяне?.. Ты так гаворыш, нібы я цябе жаніць на сябе хацела...

— Не ў тым дзела... Дабром усё роўна гэта не кончылася б...

— Вярзеш ты нешта,— узлавалася Хрысціна.— Столькі гадоў маўчаў.

— Бо падпіску даў,— сказаў Цімка.

— Якую падпіску?.. Каму?..

— Малінцу, вядома.

— Яго спалохаўся? — спытала Хрысціна, добра ўявіўшыся, як Яўхім, няйначай, паабяцаў расквасіць Цімку нос, а той і спасаваў.

— Спалохаўся,— прызнаўся Цімка.— А як не спалохаешся. Ты, Максімаўна, не ўяўляеш, якога я тады страху

пацярпеўся. Аднаго разу заявіўся Малінец да нас дамоў. Загадаў, каб маці выйшла, бо яму са мной гаварыць трэба па важнай дзяржаўнай справе. Выйшла маці. Малінец пасадзіў мяне насупраць сябе і кажа: «Тое, пра што я гаварыць буду, не павінна ні адна жывая душа ведаць. Таму дасі мне на гэта падпіску. А калі каму скажаш, лепей сам з сабой канчай». Во так...

— Ну, і што ён табе такое сказаў, што ты на паўвека замоўк? — спыталася Хрысціна.

Цімка памаўчаў, нібы разважаў, ці можна цяпер гаварыць пра тую іх з Малінцом размову, ці ўсё яшчэ нельга.

— Папярэдзіў мяне, каб з табой не сустракаўся...

— А ты і паслухаў?..

— Паслухаеш... Пра ворагаў народа і пісалі, і гаварылі. Пра пільнасць таксама.

— Дык а я тут пры чым?..

— А пры тым, што былога дырэктара школы якраз тады забралі. А ты пры ім у школе рабіла. Малінец сказаў, што ты з ім звязана была. У арганізацыі, значыць, супраць савецкай улады, і што цябе хутка пасадзяць...

Хрысціна паглядзела на Цімку. Звар'яцеў ён, ці што?

— Божачка, які ж ты дурны,— сказала яна.— Ды разыграў Яўхім цябе.

Цімка маўкліва паківаў галавой.

— Максімаўна, не разыграў... Ён мне такія паперы на цябе паказваў, што я нібы ненармальны стаў. І цябе было шкада. І сябе...

Хрысціна глядзела ў стол. У яе было пагана на душы. На якога чорта Цімка ўздумаў варушыць такое далёкае.

— Дык як, Максімаўна? — спытаўся ён.

Хрысціна ўзняла вочы. І аж спалохалася: перад ёю сядзеў нямоглы, з маршчыністым тварам дзядок, падобны на падгнілы смаржок.

— Дзякуй за чай,— стараючыся гаварыць спакойна, сказала яна.

Ледзьве цягнучы неяк адразу аслаблыя ногі, Хрысціна дайшла да дзвярэй. Павярнулася, каб яшчэ раз пабачыць Цімку. Ёй здалося, што нічога не было — паскудны, кашмарны сон, і толькі.

— Палічку вазьмі, Максімаўна,— сказаў Цімка.

Хрысціна не азвалася, не азірнулася. Ёй хацелася як найхутчэй выбрацца з гэтай станцыі Сачкі, прыбіцца да сваёй хаты, якая была самым надзейным сховішчам ад трывог, перажыванняў і сустрэч з мінулым.

## 15

Стары, разбіты на вясковых дарогах аўтобус памалу кавыляў, пакрэктваючы, стогнучы на ўхабах і выбоінах. Народу ў ім ехала не шмат. Месц хапала, але Хрысціне чорт собіў сесці на лаўку над заднім колам, і яе трэсла так, што нельга адкрыць рот — таго і глядзі, адкусіш язык. Але было ў гэтай трасучцы і нешта карыснае. За дарогу з галавы вытрасла благія думкі пра Цімку, хоць і засталося адчуванне, што яе некалі абакралі і толькі на прыканцы веку прызналіся ў злачынстве.

Аўтобус не заходзіў у Барсукі, спыняўся на бальшаку кіламетры за паўтара ад вёскі. Хрысціна выйшла адна. Аўтобус, чмыхнуўшы чорным смярдзючым дымам, пакуляўся далей. Хрысціна пастаяла на ўзбочыне, любуючыся знаёмымі з дзяцінства краявідамі, нібы пахарашэлымі за гэтыя дні яе падарожжа.

Сёлета, нягледзячы на ранні прымаразак, усё яшчэ зелянела трава, і нават падлесак, барвовы ў гэты час, стаяў зялёны і пышны, быццам і не чакаў зімы. На Селівонаўцы студэнткі выбіралі бульбу, задраўшы зады, абцягнутыя трыкатажам штаноў. Збоч бульбянога поля стаяла грузавая машына. Непадалёк ад яе гарэў касцёр, вакол якога тоўпіліся мужчыны — знаёмы Хрысціне малюнак: жанчыны робяць, а мужчыны чэшуць языкамі.

У Новых Барсуках гаспадыні парадкавалі на зіму агароды. Іхняй дбайнасці можна было пазайздросціць: кожны кавалачак зямлі перакапаны, кожны камячок перацёрты. Здавалася, вясною пасадзіш палку і яна зацвіце буйной садовай квеценню.

Варушыліся на сваіх гародчыках і старабарсукоўцы. У гэтых парадку на сотках не пазайздросціш. Ім не хапала ні сіл, ні здароўя. Але і яны цягнуліся за новабарсукоўцамі.

Хрысціне здавалася, што яна дужа доўга не была дома, але тут надзіва нічога не змянілася. Гэтае ціхае пастаянства Барсукоў з іх знаёмым побытам лашчыла Хрысціну душу. Яна нават упікнула сябе, што надумала кідаць наседжанае месца, перабірацца невядома за якімі радасцямі да дзяцей. Пакуль ногі ходзяць, а рукі робяць, няма чаго сіраціць хату, пастаўленую некалі з такой цяжкасцю. Чужая хата, можа, і цяплейшая, і святлейшая, але не свая, і хадзіць па ёй трэба з асцярогай.

Да хаты заставалася метраў сто, калі Хрысцінін слых

разанулі рыпучыя, як зубное скрыгатанне, гукі. Нібы хто ламаў плот, аддзіраў ад рэек моцныя яшчэ дошкі. Прыслухаўшыся, Хрысціна зразумела, што гукі даносяцца з двара хроснай. Нехта, мабыць, зусім страціўшы сумленне, патрашыў чужую сядзібу.

Хрысціна пабегла трушком, каб насварыцца на бессаромную нахабу, не дазволіць расцягваць працай нажытае дабро.

На двары стаяў чырвоны «Масквіч» з непафарбаванымі дзверцамі, а яго гаспадар, малодшы сын хроснай, Мікіта, аддзіраў сякерай дошкі, якімі былі забіты вокны. Хрысціна падумала, што сыны хроснай знайшлі пакупнікоў. Таму і аддзіраюць дошкі, каб можна было лепей разгледзець хату. Яна павіталася з Мікітам. Той адказаў стрымана.

— Ці не пакупнікоў знайшлі? — спыталася яна.

— Якіх пакупнікоў? — адказаў Мікіта.— На трэці дзень па сваіх Барсуках завыла. Во і прывёз... Што яна будзе тут рабіць на зіму гледзячы?.. Толькі нам клопат...

Хрысціна азірнулася.

— А дзе ж хросная?..

— У хаце...

Яна пайшла ў хату. Там яшчэ панаваў паўзмрок. Хросная стаяла сярод хаты, скрыжаваўшы на грудзях рукі. Па яе твары блукала загадкавая ўсмешка, як у дзіцяці.

— Але... Вярнулася,— сказала хросная.— Грукатліва там дужа, не памрэш спакойна...

— Навошта ж было з месца скранацца? — папракнула яе Хрысціна.— Ні спаць цяпер на чым, ні сесці. Усё забралі... Хіба прывязуць?

— Нашто яно мне,— з асуджанай пакорнасцю сказала хросная.— На печы перасплю... Я ім і так клопату нарабіла. Прасіла, каб бульбачкі прывезлі. Без бульбачкі і варыць няма чаго. Можа, прывязуць...

— Не прывязуць, дык я прынясу. Бульбы ўсім хопіць. З дрывамі як? Зіма на носе. Хай бы дроў прывезлі...

— Як-небудзь будзе... Мне ўжо нядоўга... Зажылася...

Мікіта ададраў апошнія дошкі. У хаце адразу пасвятлела, і яшчэ болей агаліўся разгром, што ўчынілі тады сыны, як забіралі маці. Хрысціна падумала, што трэба пагаварыць з Мікітам, каб не забывалі маці. Хоць разумела, што размова тая больш дзеля ачышчэння сумлення.

Мабыць, прачуўшы, што хросная вярнулася з горада, старыя яе таварышкі не прымусілі сябе доўга чакаць, на-

явіліся ў хату з кветкамі ў гаршчэчках, якія пакідала ім хросная на памяць.

Яны найперш ставілі гаршчэчкі на падаконнік, потым падыходзілі да хроснай, цалаваліся, не выказваючы ні бурнай радасці, ні асуджэння. Яны як бы і не жылі туташнім жыццём, а нейкім іншым, дзе няма ніякіх узрушэнняў.

Старая Тукаліха падышла да Хрысціны, загаварыла чамусьці шэптам:

— Хрысцінка, ты і дома ці была?.. Дачка ж твая прыехала... Вуля...

У Хрысціны так і здрыганулася сэрца. Вуля па-добраму, з радасцю не прыязджала. Толькі з бядою, толькі з горам...

З чым жа яна прыехала зараз?..

— Хросная, я потым зайду. Памагу прыбраць хату. Іконку тваю прынясу...

Хрысціна неяк і не заўважыла, як дабегла да хаты. Спынілася на двары, каб перавесці дыханне.

Пачуўшы яе, з будкі вылез сабака, завіляў хвастом, пазіраў на яе аддана і як бы з папрокам: маўляў, дзе ты так доўга прападала?

— Што, сумаваў, Шарык? — спыталася ў яго Хрысціна, і той, нібы зразумеўшы, пра што яна спыталася, самотна віскнуў, як шчаня, якое згубіла маці.

У хляве дружна зарохкалі парсюкі, таксама ўзрадаваныя, што вярнулася гаспадыня. На яе голас з-пад паветкі выбег певень. Спыніўся воддаль, круціў пярэстай галавой з вялізным, пахіленым набок грэбнем, выглядаў, ці сапраўды гаспадыня вярнулася. А пазнаўшы яе, расправіў крылы, закукарэкаў на ўсю вёску звонкім, маладым голасам, даючы знаць курам, што ўсё зараз будзе добра. Нават сям'я вераб'ёў, што вывелася пад страхою сенцаў, і тая, весела ціўкаючы, высеялася ёй пад ногі, спадзеючыся на пачастунак.

Хрысціна аж расчулілася. Божа праведны, радавацца б!.. Ды прыгнятала цішыня ў хаце. Нядобрая такая цішыня, якая была знаёма Хрысціне. Не магла ж Улляна не бачыць, што вярнулася маці. Вядома, бачыла. А не выбегла насустрач. Затаілася. Дык і гадаць няма чаго — нешта здарылася.

У сенцах Хрысціна яшчэ раз прыслухалася. Ціха. Можа, пайшла куды? Не, каб пайшла, не пакінула б дзверы ў сенцах наросхліст. Значыць, дома. Хрысціна пацягнула

звычайна лёгкія пад рукой дзверы ў хату. Яны сёння надзіва былі цяжкія.

У хаце клубілася пара. У сутонні прыхожай нейкая жанчына стаяла, прыгнуўшыся над балеяй, у якой сядзела двое дзяцей па году, не больш. У аднаго з іх бялела на галаве мыльная шапка пены. Другі, мусіць, абмыты ўжо, шлёпаў па вадзе ручкамі і весела смяяўся. Побач з імі чарнявенькая дзяўчынка год пяці мыла ў начовачках ляльку-галыша.

Убачыўшы Хрысціну, дзяўчынка ўтаропілася ў яе вялікімі, не па-дзіцячы сур'ёзнымі вачамі.

«Божачка літасцівы, хто гэта? Адкуль? Чаму?» — збянтэжылася Хрысціна, таксама не спускаючы вачэй з дзяўчынкі.

Тая зрабіла два крокі да жанчыны, прытулілася да яе нагі, нешта сказала, і жанчына крута павярнулася тварам да парога, апусціла рукі ўздоўж доўгага цела, нібы яе засталі на месцы злачынства. У Хрысціны як заслона звалілася з вачэй: божа, дык гэта ж і ёсць Вуля, яе малодшая дачка, пра якую гаварыла старая Тукаліха.

Хрысціна глядзела на Вулю і не магла даўмецца, чые гэта дзеці? Што Вуля мела да іх нейкае дачыненне, гадаць не даводзілася: дзяўчынка ціснулася да Вулі, як да надзейнай абароны. І ўсё ж нейкая загадка стаяла за гэтым прыездам у Барсукі з трыма дзецьмі на руках. Зноў Вуля выкінула нейкую шаляніну. Можа, самую горшую за ўсё яе жыццё.

— Чые гэтыя дзеці? — спыталася Хрысціна, ледзьве стрымліваючы сябе.

— Мае...

— Нешта дужа хутка ты іх нараджала,— з'яхіднічала Хрысціна.

Звычайна на такія калючкі Вуля адказвала не менш калюча. Зараз яна змоўчала, і гэта неяк абяззброіла Хрысціну, хоць і маўчаць яна не магла. Улляне варта толькі папусціцца.

— А бацька хоць у іх ёсць? — спытала Хрысціна.

— Ёсць...

— І адрас ягоны маеш? — дапытвалася Хрысціна.

— Маю...

— То бяры гэтых дзетак і вязі да яго,— рашуча сказала Хрысціна.

Улляна па-ранейшаму стаяла апусціўшы рукі. Затое дзяўчынка падала голас.

— Не сварыцеся на маю мамку,— сказала яна і растапырыла ручкі, як бы абараняючы Ульяну ад чужой і сварлівай цёткі.— Мамка харошая.

— Іш ты яе! — здзівілася такому заступніцтву Хрысціна.

Яна хацела і яшчэ сказаць, што малая ад гаршка тры вяршкі, а, бач ты яе, гаваркая, але малое з намыленай галавой раптам зараўло. Мусіць, мыла забралася ў вочы, пачало шчыпаць. Ягоны лямант падхапіла другое дзіця. Галасы ў абаіх былі пранізлівыя, хоць затыкай вушы.

— Ну, што ты стаіш,— крыкнула на Ульяну Хрысціна.— Не бачыш, мыла шчыпле...

Ульяна стаяла, нібы нічога не чула. У яе быў пакутніцкі выраз твару.

Хрысціна кінула сумку на лаўку. Закасала рукавы плашча, пачала абмываць малое.

Ні слова не сказаўшы, яны памылі дзяцей, паклалі на ложак. Толькі цяпер глянулі ў вочы адна адной і абедзве заплакалі.

Наплакаўшыся ўволю, яны зноў глянулі адна адной у прамытыя слязамі вочы.

— Дачушка, што ж ты нарабіла? — спытала Хрысціна Ульяну.— Як жа ты адважылася на такое?

— А хто б іх пашкадаваў? — адказала Вуля тым няхітрым пытаннем, якое, аднак, абяззбройвае.

«І праўда, хто б пашкадаваў?» — падумала Хрысціна, чамусьці прыгадваючы Аўдакію і яе чацвёра дзяцей.

Дзе яна? Ці жывая? Дзеці павырасталі, сем'ямі, мабыць, абзавяліся. А магло ж тады быць іначай. І ўжо ніхто не ўспомніў бы ні іх імёнаў, ні тое, што яны некалі жылі на свеце. Як лёгка чалавеку знікнуць з твару зямлі. Як цяжка яму выжыць, знайсці шчасце на ёй.

Пра Аўдакію Хрысціна пачула толькі аднойчы, гады праз тры пасля вайны. У іх начаваў нейкі ўпаўнаважаны з раёна, якіх тады хадзіла па калгасах безліч, нейкі партызан са Сталінскай брыгады. За вячэрай Хрысціна пачала расказваць пра свае прыгоды ў блакаду, пра Аўдакію.

— Чарнявенькая такая? — спытаўся ўпаўнаважаны.— Дык гэта ж партызанская жонка нашага начштаба атрада...

У ягоным голасе чулася захапленне.

— Дык і вы яе ведалі? — узрадавалася Хрысціна.

— Дусю ўсе ведалі,— сказаў упаўнаважаны.

— Дзе ж яна, як жыве хоць? — спыталася Хрысціна.

— Цяпер не ведаю... У яе пасля вайны муж аб'явіўся. А яна пятым дзіцем ад начштаба цяжарная хадзіла. Во сітуацыя!.. Муж прыехаў забіраць. Кажа: дзе чатыры, там і пяты пракорміцца. А начштаба не хоча адпускаць. Ледзь не перастраляліся. Як там было і чым кончылася, не ведаю, а толькі з'ехалі яны ўсе: і муж, і начштаба, і яна з дзецьмі...

Успамін гэты як бы прымірыў Хрысціну з трыма даччынымі дзецьмі, астудзіў разгарачаную нечаканасцю Хрысцініну душу. Можа, такі ўжо Уллянін лёс? Кідаў яе, як вада ў разводдзе крыгу, пакуль не выкінуў на бераг.

— Хоць чалавек добры? — спыталася яна ў дачкі пра таго, хто непазбежна ўжо стане яе зяцем.

— Які яшчэ добры,— паспешліва адгукнулася Улляна.— Яго кожнае дзіця пакрыўдзіць можа...

— Як гэта? — не зразумела Хрысціна.

Ёй хацелася, каб Вуля пра свайго мужа расказала з жаночай грунтоўнасцю, а яна бог ведае што плявузгае, чым хваліцца.

— А дзе ж ён робіць? — дапытвалася Хрысціна.— Заробак хоць ніштаваты?..

Матчына пытанне чамусьці збянтэжыла Улляну. Яна завіляла з адказам, і Хрысціну зноў ахапіла трывога: не, нездарма Вуля прыехала да яе. Нездарма. Ад бяды ўцякала.

— Ты мне, дачушка, папраўдзе ўсё раскажы,— папрасіла яна.— Калі ўжо адважылася на траіх дзяцей, дык адважся і расказаць.

Улляна задумалася.

— Што табе хочацца ведаць? — спыталася яна.

— А ўсё. Не чужая ж я табе... Ты раскажаш. Мы разам падумаем, як далей жыць...

— У цябе будзем жыць,— сказала Улляна.— У Грышы зарплата маленькая. На яе ў горадзе не пражывеш...

— А тут што ён рабіць будзе?

— Ён жа механік, мама...

— Тады другая стацця,— пагадзілася Хрысціна.— Для механіка работа знойдзецца... Мне во што незразумела, як ён цябе адну адпусціў? Жартачкі, трое дзяцей малых на руках...

І зноў Улляна нечага збянтэжылася. Але хутка справілася з сабой.

— Ён цябе баіцца.

Хрысціна нават пакрыўдзілася:

— А я хіба звер які?..

— Ён сказаў, калі ты згодзішся ўзяць мяне, дык каб я дала яму тэлеграму, і ён адразу прыедзе...

Хрысціна бачыла, што Ульяна нешта недагаворвае. Таму перастала дапытвацца. Па вопыце ведала — гэта бескарысна. Ульяна толькі пачне хлусіць, нахабна і бессаромна, як бывала раней.

— Як тут дзеўкі студэнткі спраўляліся без мяне? — пацікавілася яна, каб спыніць непрыемную размову.

— А яны не кватаруюць,— адказала Ульяна.— Наташа засталася, каб памагаць мне. Адна я закапалася.

«А казалі, што будуць памагаць Наташы»,— чамусьці пакрыўдзілася Хрысціна.

Час набліжаўся к вечару, і Хрысціна, па адвечнай звычцы, занялася хатнімі справамі. Яны абедзве старанна абыходзілі Ульяніна становішча, адчуваючы, што сёння гаварыць пра яго небяспечна.

Нацямку ўжо прыйшла Наташа.

— А мы заўтра вяртаемся ў горад,— аб'явіла яна.

Хрысціна адразу ж заўважыла, што за гэтыя дні Наташа здружылася з Ульянай. Яны шапталіся, перагаворваліся намёкамі, нечаму смяяліся, аж Хрысціне было прыкра: чужы чалавек ведае больш за яе, маці.

Яна ўзяла даёнку, пайшла даіць карову. Следам за ёю прыйшла ў хлеў і Наташа. Стаяла, абапёршыся на шула, на шэрым квадраце дзвярэй.

— Наташачка,— падаіўшы карову, звярнулася да яе Хрысціна,— можа, з табой Вуля больш адкрытая. Я нічогачкі не разумею, а яна не хоча гаварыць. Што ў яе здарылася?..

Наташа збянтэжылася. Значыць, нешта ведала. Хрысціна не стала падганяць яе. Захоча — скажа.

— Вы ўжо, цётачка, не сварыцеся на Вулю,— сказала яна.— Я дужа добра яе разумею...

— Наташачка, не рві душу, скажы, што за чалавек, чаму адзін з трыма дзецьмі застаўся?.. Усё, што ведаеш, кажы...

— Цётачка, дык я нічога не ведаю. Каб мне з гэтага месца не сысці, калі хлушу...

— Але ж нешта ведаеш,— не адставала Хрысціна.

Яна бачыла, што Наташа вагаецца, і гэта яшчэ больш падахвочвала Хрысціну, чаго б там ні каштавала, дазнацца ўсю праўду.

— Цётачка, вы толькі не выдавайце мяне і Вулю не прымушайце гаварыць, калі не хоча,— папрасіла літасці Наташа, не маючы сіл адмовіць Хрысціне ў просьбе.— Старэйшая дзяўчынка — Грышава, а блізняты — Вуліны.

— Вярзеш ты нешта, Наташанька,— запярэчыла Хрысціна.— Вуля зімой прыязджала да мяне. Каб былі дзеці, дык на каго б яна іх пакінула?

Доказ гэты здаваўся Хрысціне дужа важкім. Не падкапаешся. Але Наташа ўраз разбурыла яго.

— Дык яна тады і прыязджала, каб расказаць вам пра сваю бяду, а вы на яе насварыліся.

Перад вачамі Хрысціны ярка выбліснула бліскавіца, асляпіўшы яе да непрагляднай чарнаты. З глыбіні таго чорнага прадоння вынікла марозная раніца. Скупое сонечнае святло песцілася на абрусе, засланым з выпадку каляд. Хрысціна якраз збіралася снедаць, калі на двары цяўкнуў сабака і замоўк. Хрысціна яшчэ падумала: нехта свой. А тым часам у хату ўжо ўваходзіла Вуля.

— Божа, адкуль ты? Чаго? Ці што здарылася? — закрычала яна, убачыўшы дачку.

Ні прывітання, ні ласкавага слова. Чамусьці спалохалася, што ў Вулі нешта здарылася. Таму і закрычала, як па вінаватую.

— Нічога не здарылася,— адказала Вуля.— Проста нашы ехалі ў камандзіроўку, дык я папрасілася, каб узялі. Ноччу і назад. Мяне на адзін дзень адпусцілі.

Хрысціна паверыла. Дужа Вуля шчыра адказала. Хоць недзе і тачыла сумненне. Ужо калі сядзелі за сталом, Хрысціна спыталася:

— Ці не захварэла ты? Нешта дужа бледная...

— Не, я здаровая,— адказала Вуля.— На дыеце сяджу...

Хрысціна яшчэ пасварылася на дачку за тое галадапне. Паашалелі людзі. Таліі ім у кілішак патрэбны. Не здароўе, а таліі...

Цяпер Хрысціне аж млосна стала за сваю тую нездагадлівасць. Яна тады ўсё сварылася на Вулю, ставіла ёй у прыклад і Антаніну, і Антона, і Міхася...

Было, было за што тады сварыцца на Вулю, а як на цяперашнюю развагу, дык сварыцца трэба было на сябе. Не пачула даччынога болю. Чула толькі свой. Ачарсцвела, ці што? Жыццё, каб на яго! Мяла, цёрла, пакуль не атупела жывое пачуццё. Дастатку старэйшых дзяцей радавалася... Во і нарадавалася...

Наташа стаяла, прыхінуўшыся да вушака, нібы хацела пачуць ад Хрысціны нешта важнае, пра што прасіла вызнаць Вуля.

— А я думала, што ўсе трое дзяцей ягоныя,— разгублена сказала Хрысціна і зусім не тое, што мелася сказаць.

— Не, не ягоныя,— азвалася Наташа.

— А дзе ж той... муж Вулін... бацька двайнятак?

— Цётачка, чаго не ведаю, таго не ведаю, але і вы не пытайцеся пра яго ў Вулі. Яна толькі плача. Не хоча гаварыць пра яго.

Хрысціна прамаўчала.

Калі яны вярнуліся ў хату, блізняты ўжо спалі, а Вуля расказвала дзяўчынцы казку. Хрысціна працадзіла малако. Наліла ў кубак, падала дзяўчынцы.

Пасля вячэры яна палезла на печ. Хацелася ў цішыні яшчэ раз падумаць над усім, што адбылося.

З печы Хрысціна чула, як размаўлялі Наташа з Вуляй. Потым Наташа заснула, а Вуля доўга яшчэ не спала. Здаецца, плакала, ціха, каб не патрывожыць маці. У Хрысціны аж заходзілася ад жалю сэрца. Хацелася падняцца, узяць, як бывала, Вулю на рукі, зацалаваць, закалыхаць, суцешыць ласкавымі словамі. Ды яна разумела, што словы тут не памогуць. Толькі час. Час вялікі лекар. Трэба толькі ўмець чакаць. Самае галоўнае — гэта ўмець чакаць, не даваць волі адчаю, расчараванню, нявер'ю, злосці, інача жыцця не будзе. Адны пакуты.

Ад думак Хрысціна паднялася з болем галавы, які скаваў яе, як абручом. Але звычайны, штодзённы занятак неяк заглушыў боль. Хрысціна прывычна тупала па хаце, прыслухоўвалася, як, ціха пасопваючы, спяць дзеці. Яна даўно ўжо адвыкла ад дзіцячага пасопвання. Яно лашчыла душу, аж самой Хрысціне было гэта дзівам.

Дзеці прачыналіся без плачу, весела, і гэта зноў здзівіла Хрысціну. Яе дзеці любілі пакапрызіць, паплакаць, асабліва Антаніна. А гэтыя, як раннія птушкі, што прачынаюцца з песнямі.

— Ну, дык што, дачка,— сказала за сняданнем Хрысціна,— адбівай свайму тэлеграму. Хай едзе. З такой сямейкай без мужыка цяжка...

Наташа кінула на Вулю быстры позірк: маўляў, я ж табе казала. А Вуля чамусьці не магла ўзняць вачэй. І маўчала. Толькі дробненька дрыжала рука з кавалкам хлеба...

# ЗМЕСТ

**Асіпенка А.**

А90 Збор твораў. У 3 т. Т. 3. Святыя грэшнікі: Раман. Рэха даўніх надзей: Аповесць.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 479 с, [4] л. іл.

ISBN 5-340-00511-9.

Осипенко А. Х. Собрание сочинений. Том. 3. Святые грешники: Роман. Эхо давних надежд: Повесть.

У цэнтры рамана драматычны лёс паэта, драматурга і кінарэжысёра Лазара Богшы. Твор напісаны ў двух пластах: сучасным і гістарычным.

Гераіня аповесці Хрысціна Малінец едзе з вёскі ў горад да дзяцей, спадзеючыся знайсці ў іх прытулак. Абвостраным зрокам яна ўбачыла тое, чаго не заўважаюць у сабе дзеці.

А $\frac{4702120201-068}{М\ 302(03)-89}$ 106—90 **ББК 84Бел7**

Литературно-художественное издание

ОСИПЕНКО

Александр Харитонович

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ

В ТРЕХ ТОМАХ

**Том 3**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

АСІПЕНКА

Аляксандр Харытонавіч

ЗБОР ТВОРАЎ

У ТРОХ ТАМАХ

**Том 3**

Рэдактар Г. В. Роліч. Мастак Н. У. Сустава. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 3305

Здадзена ў набор 22.05.89. Падп. да друку 22.01.90. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 25,20+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 26,04. Ул.-выд. арк. 28,16. Тыраж 5600 экз. Зак. 2542. Цана 2 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.